НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ
ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ
ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ»



# МАГІЛЁЎСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

## кніга III






Мінск
«Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі»
2009

УДК 94(476.7)
ББК 63.3(4 Беи)
Г20



Пад навуковай рэдакцыяй члена-карэспандэнта
Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі А.І.Лакоткі

Выпуск выдання ажыццёўлены па заказу і пры фінансавай падтрымцы
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Г20 **Гарады і вёскі Беларусі** : Энцыклапедыя. Т. 7. Кн. 3. Магілёўская вобласць / рэдкал. : Т.У.Бялова (дырэктар) [і інш.]. — Мінск : Беларус. Энцыкл. імя П.Броўкі, 2009. — 544 с. : іл.

ISBN 978-985-11-0452-5.

Шматтомнае энцыклапедычнае выданне, у якім на падставе навейшых архіўных і іншых крыніц адлюстраваны гісторыя і сучасны эканамічны і культурны стан усіх адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак Беларусі — 6 абласцей, 118 раёнаў, а таксама ўсіх населеных пунктаў кожнага раёна, уключаючы і тыя, якія зараз перасталі існаваць. Сёмы том выдання прысвечаны населеным пунктам 6 раёнаў Магілёўскай вобласці.

**УДК 94(476.7)**
**ББК 63.3(4Беи)**

**ISBN 978-985-11-0452-5 (т. 7, кн. 3)**
**ISBN 978-985-11-0302-3**
**ISBN 985-11-0302-0**


МСЦІСЛАЎ
ГОРАЦКІ РАЁН
РАСІЯ
КРЫЧАЎСКІ РАЁН
ЧАВУСКІ РАЁН
ДРЫБІНСКІ РАЁН
ЧЭРЫКАЎСКІ Р-Н
Рубанаўка
Беразетня
Сакалова
Шамава
Крутая
Несцерава
Лужкі
Селішчы
Горкі
Вышова
Бель
Буліна
Глінне
Асінаўка
Раздзел
Мілейкава
Дубасна
Залессе
Каменка
Курманава
Свярдлова
Багацькаўка
Рассвет
Баньказўшчына
Пуцяты
ур. Цёмны Лес
Цёмны Лес
Орша
Спаўнае
Старына
Падсолтава
Іваны
Заньказўшчына
Казлоўка
Дзеснакіта
Кандратаўск
Гімбатаўка
Красны Бераг
Даніпаўск
Ірцішчава
Рэместава
Пацкава
Чарнілава
Стар. Сяло
Красн. Паляна
Картыжы
Чарнавусы
Белы Мох
Судоўшчына
Будагошч
Пячонкі
Лютня
Будзёнаўка
Ракшына
Асмолавічы
Бязгачава
Шамаўшчына
Заполле
Краснаручча
Касмынічы
Рудодзіма
Басценавічы
Быстрыца
Шыркі
Кокатава
Башары
Кош
Капачы
Гутараўшчына
Быковічы
Рожава
Сутокі
Мішні
Цярэні
Залессе
Ксёндзаўшчына
Куркаўшчына
Калінаўка
Святазер'е
Андраны
Пячкавічы
Шэйкі
Бязводзічы
Клін
Зарэчча
Мазалава
Пячкавіцкі ільнозавод
Перамога
Тышча
Пячкавічы
Ясьманава
Нов. Сяло
Майскае
Мышкіна
Лар'янава
Галкавічы
Малькаўка
Доўгавічы
Кісялёўка
Бескакова
Дубейкава
Ходасы
Прагова
Дудчыцы
Залачэва
Колтава
Слёзкі
Жыгалава
Старынка
Усполле
Вяркееўшчына
Мушына
Цяляткава
Пятрыгі
Краснае
Бялынец
Валоўнікі
Лапаціна
Барысаўка
Васількова
Вароўскага
Беразукі
Карпісонаўка
Забалацце
Сычоўка
Валоўнікі
Добрае
Бескаўка
Юшкавічы
Сычоўка
Чорная Натапа
Дуброўка
Ластрыгіна
Чавусы
Забалацце
Міхайлава
Лыкінка
Ракітанка
Ваўкаўцы
Прыбярэжжа
Чорная Сасна
Паўн. Бяліцкана
Пауд. Бяліцкана
Брагі
Аслянка
Рыкі
Каськова
Янаўка
Пастарнакі
Сапрынавічы
Разанцы
Пячкоўка
Нов.-Віхраны
Стар.-
Каробчына
Мал. Лешчанка
Парадзіна
Шумянічы
Вял. Лешчанка
Забожжа
Кудрычы
Красн. Горка
Каўшова
Вял.-
Мал.-Зяціца
Калатовіна
Падлужжа
Міцькаўшчына
Каленькава
Людагошча
Сялец
Крычаў
Віхра
Сож
Вехра
Аслянка
Серабранка
Вел. Натапа
Гарадня
31°15'
31°30'
31°45'
54°10'
54°00'
53°50'
Маштаб 1:275 000



# МСЦІСЛАЎСКІ РАЁН

Размешчаны на У Магілёўскай вобл. Утвораны 17.7.1924 г. ў Калінінскай акрузе. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў складзе Аршанскай акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. Пл. раёна 1,3 тыс. км$^2$. Насельніцтва 27,6 тыс. чал. (2008), гарадскога 42%. Сярэдняя шчыльнасць 22 чал. на 1 км$^2$. Асн. насельніцтва беларусы (87,6%), таксама жывуць рускія (11,4%), украінцы (0,9%) і інш. (1%). Цэнтр — г. Мсціслаў. У раён уваходзяць 162 населеныя пункты. Адміністрацыйна падзяляецца на 13 сельсаветаў: Доўгавіцкі, Забалацкі, Капачоўскі, Краснагорскі, Лютненскі, Мазалаўскі, Мушынскі, Падсолтаўскі, Раздзельскі, Ракшынскі, Сапрынавіцкі, Сялецкі, Ходасаўскі. Праз тэр. раёна праходзяць чыгунка Орша—Крычаў, аўтадарогі на Магілёў, Горкі, Крычаў, Чавусы, Хіславічы (Расія). Аўтадарожны пункт праз дзярж. мяжу Рэспублікі Беларусь—Каськова.

Тэрыторыя раёна ляжыць на Горацка-Мсціслаўскай узвышанай раўніне. Паверхня пласкахвалістая, ускладненая суфазійнымі западзінамі і ярамі. Пераважаюць вышыні 180—220 м. Найвышэйшы пункт (239 м) раёна і вобласці знаходзіцца каля в. Раздзел. З карысных выкапняў ёсць торф, сапрапель, фасфарыты, мел, цагельныя гліны і суглінкі, пясчана-жвіровы матэрыял, будаўнічыя пяскі. Сярэднія тэмпературы студз. -8,1 °C, ліп. 18 °C. Ападкаў 640 мм у год. Вегетацыйны перыяд 184 сут. З рэк, што працякаюць па тэр. раёна, найбольшая Сож з прытокамі Віхра, Малатоўка, Чорная Натапа (з Белай Натапай), Волчас, па зах. частцы —



*Свята 9 Мая ў Мсціславе.*



*Адкрыццё свята Дня горада ў Мсціславе.*



*Сучасны герб г. Мсціслаў.*

рэкі Кашанка і Рамясцвянка. Пад лясамі 15,8% пл., пераважаюць хваёвыя, яловыя, бярозавыя, пад балотамі 7,3 тыс. га. Ахоўваюцца тарфянікі Валоўнікі і Бель.

Пл. сельгасугоддзяў (2006) складае 70% тэр. Сельская гаспадарка спецыялізуецца на малочна-мясной жывёлагадоўлі (СВК «Кастрычнік»), свінагадоўлі (СВК «Мазалаўскі», РУСП «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Віхра»), конегадоўлі (РУСП «Мсціслаўскі конны завод № 120»). Вырошчваюцца збожжавыя і кармавыя культуры, бульба. Працуюць прадпрыемствы харч. (кандытарскі цэх у пас. Кірава), камбікормавай (ААТ «Ходасаўскі камбікормавы завод») і будаўнічых матэрыялаў прам-сці. Дзейнічае ААТ «Мсціслаўскі райаграпрамтэхзаб» і унітарнае даччынае прадпрыемства «Мсціслаўскі паліўзбыт» у в. Ходасы. Праз тэр. раёна праходзіць нафтаправод Унеча (Расія)—Полацк.

У сістэме адукацыі працуюць будаўнічы каледж, прафес. ліцэй, 6 сярэдніх, 3 базавыя і 2 пач. школы, 11 комплексаў школа-сад, 10 дашкольных устаноў, дзіцячая школа мастацтваў, спарт., школа-інтэрнат для глухіх дзяцей. Ёсць Дом дзіцячай творчасці, сац. прытулак, цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі. Дзейнічаюць 22 клубныя ўстановы, 14 кінаўстановак, 22 б-кі, музей. Працуюць Дом ветэранаў, 4 бальніцы, урачэбная амбулаторыя, 20 фельч.-акушэрскіх пунктаў. У в. Багацькаўка працуе Музей-сядзіба М.Гарэцкага. Выдаецца газ. «Святло кастрычніка». Зона адпачынку — Чырвоны Бераг. Дзейнічаюць 8 рэліг. абшчын, у т.л. 5 праваслаўных, 1 рымска-каталіцкая. Помнікі археалогіі: гарадзішча (вёскі Асмолавічы, Добрае, Каробчына, Мазалава, Міцькаўшчына, Усполле, Ходасы), селішча (в. Разанцы), курганны могільнік (в. Дубейкава). Захоўваюцца помнікі архітэктуры: Пустынскі Успенскі манастыр (1380, адноўлены ў 17—19 ст.) у в. Пустынкі, Ільінская царква (1675) у в. Слаўнае, Вазнясенская царква (1799) у в. Мазалава, Ануфрыеўская царква (1890) у в. Сялец, Пакроўская царква (1904) у в. Басценавічы.

**МСЦІСЛАЎ** — горад, цэнтр Мсціслаўскага р-на Магілёўскай вобл., на правым беразе р. Віхра (прыток Сажа), у паўд. адгор'ях Смаленска-Маскоўскага ўзвышша. За 18 км ад чыг. ст. Ходасы (на лініі Орша—Крычаў), 95 км ад Магілёва. Вузел аўтамабільных дарог на Магілёў, Горкі, Крычаў, Чавусы, Хіславічы (РСФСР). 11,6 тыс. жыхароў (2008).

Гарадзішча Дзявочая Гара на тэр. горада сведчыць аб дзейнасці чалавека ў гэтых мясцінах з перыяду жал. веку. Мсціслаў упершыню згадваецца ў грамаце кн. Расціслава Смаленскага пад 1136—50 гг. У Іпацьеўскім летапісе названы пад 1156 г. як горад Смаленскай зямлі. Заснавальнікам Мсціслава лічаць кн. Давыда Расціславіча. З 1180 г. цэнтр удзельнага Мсціслаўскага княства. Узнік на Замкавай гары, складаўся з замка, умацаванага равамі і валамі, і навакольнага горада. У 13 — 1-й пал. 14 ст. Мсціслаў у Смаленскім княстве. У 1359 г. вял. князь літоўскі. Альгерд пасадзіў у Мсціслаўлі свайго намесніка, а пазней перадаў горад

*Адкрыццё свята Дня горада ў Мсціславе.*





свайму сыну Сямёну Лугвену, заснавальніку дынастыі князёў Мсціслаўскіх. Полк пад яго кіраўніцтвам вызначыўся ў Грунвальдскай бітве 1410 г. У 14—15 ст. Мсціслаў — гандл.-рамесны цэнтр, эканамічна цесна звязаны з Магілёвам, Вільняй, Кракавам, Ноўгарадам, Разанню і інш. У горадзе былі свае меры збожжавых («мсціслаўская бочка»), даўжыні («мсціслаўскі локаць і сажань») і вагі («мсціслаўскі пуд і фунт»). Пасля смерці апошняга мсціслаўскага кн. Івана горад аддадзены ў 1499 г. кн. Жаслаўскаму, жанатаму на яго дачцэ, які стаў кн. Мсціслаўскім. У час вайны Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ у 1500—03 гг. у 1502 г. заняты рас. войскамі. У 1505 г. цар Іван III завяшчаў Мсціслаў свайму сыну Васілю. Спусташальныя паходы да горада былі паўтораны ў 1506, 1508 і 1514 гг. У 1535 г. рас. войскі на чале з Васілём Шуйскім зноў падышлі да яго, аднак узяць не змаглі. З 1528 г. Мсціслаў ва ўладанні Жыгімонта II Аўгуста, каралеўская воласць, цэнтр староства Віленскага ваяв. Пасля адм.-тэр. рэформы 1565—66 гг. з 1569 г. цэнтр Мсціслаўскага ваяв. У 1616 г. па дазволу польскага караля Жыгімонта III пабудаваны касцёл і засн. езуіцкі калегіум. У 1634 г. горад атрымаў магдэбургскае права, пячатку з гербам (у блакітным полі шчыт і рука з мячом). У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. у 1654—61 гг. заняты рас. войскамі, у Маскву былі вывезены гар. майстры, у т.л. знакаміты цаніннік С.Палубес. Мсціслаў да 1661 г. належаў цару Аляксею Міхайлавічу, затым зноў адышоў да Рэчы Паспалітай. У 1661 г. сейм Рэчы Паспалітай вызваліў Мсціслаў ад падаткаў на 4 гады. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у 1772—76 гг. цэнтр Мсціслаўскай правінцыі. З 1777 г. пав. горад Магілёўскай губ., атрымаў новы герб (у сярэбраным полі чырвоны ліс); 2 разы ў год праводзіліся кірмашы. З 1796 г. ў Бел., з 1802 г. зноў у Магілёўскай губ. У адпаведнасці з праектам рэгулярнай





*Касцяныя грабеньчык 14—15 ст. (уверсе) і накладка 14—16 ст. з Мсціслава.*



*Гарадзішча Дзявочая гара ў Мсціславе.*

планіроўкі 1778 г. поўнасцю змянілася першапачатковая схема горада: Мсціслаў атрымаў прамавугольную сістэму вуліц і плошчаў. Меліся драўляныя храмы, у т.л. Тупічэўскі Святадухаўскі манастыр (пабудаваны ў 1641 г., у сярэдзіне 17 ст. зроблены роспіс), царква (пабудавана ў 1641—65). У 17—18 ст. узведзены мураваныя кармеліцкі манастыр (упрыгожаны ў сярэдзіне 18 ст. фрэскамі ў стылі барока), езуіцкі кляштар (перароблены ў праваслаўны Мікалаеўскі сабор), бернардзінскі касцёл (пабудаваны на месцы Афанасьеўскай царквы ў 1772), францысканскі касцёл. Гар. забудова ў 1783 г. прасціралася на 104 дзес. зямлі. Гораду належалі 628 дзес. раллі, 207 дзес. сенакосу, 1792 дзес. лесу. У 1785 г. ў Мсціслаўлі 2,8 тыс. жыхароў, 502 двары. Гадавы гандл. абарот горада ў 1785 г. склаў 40 тыс. рублёў. Да праезду Кацярыны II у Крым у 1787 г. пабудаваны драўляны дварэц (згарэў у 1858). У свой княжацкі тытул яна ўключыла Мсціслаў. У 1791 г. адкрыліся аднакласнае, у 1810 г. духоўнае вучылішчы. У 1802 г. больш за 3 тыс. жыхароў, у т.л. 305 рамеснікаў і 108 гандляроў. У пач. 19 ст. пабудавана Троіцкая царква, у 1863 г. на цэнтр. плошчы разбіты сквер, у 1871 г. пабудавана мураваная Крыжаўзвіжанская царква Аляксандра Неўскага. У 1861 г. ў горадзе 6250 жыхароў. Працавалі вапнавы з-д (з 1830), 2 плісавыя мануфактуры, ф-ка баваўняных тканін (з 1833), крупадзёрка, гарбарня (з 1865) і цагельны з-д (з 1867), маслабойня (з 1874). Дзейнічала паштовая станцыя на тракце Орша—Клімавічы—Касцюковічы, якая ў 1880 г. мела 10 коней. У 1883 г. адкрыта тэлегр. станцыя, налічвалася 136 гандл. кропак; 4 разы ў год праводзіліся кірмашы. Паводле перапісу 1897 г. ў Мсціслаўлі 8514 жыхароў (пісьменных 38%), гар., духоўнае і прыходскае вучылішчы, 17 дробных прадпрыемстваў, 3 бальніцы. На пач. 20 ст. ў горадзе 1048 жылых будынкаў, у т.л. 25 мураваных. Працавалі жаночая 8-класная і мужчынская гімназіі, прыходскае, духоўнае і пав. вучылішчы, царк.-прыходская школа. У 1900 г. адкрыта аддзяленне пед. т-ва, дзейнічалі 2 б-кі, друкарня, магазін і 4 кніжныя крамы, 3 крамы з вырабам фатаграфій. У 1899—1900 гг. выходзіла штотыднёвая газ. «Белорусский Комиссионер», якая друкавала аб'явы і паведамленні, у 1902 г. выдавалася газ. «Белорусский корреспондент». У Мсціслаўлі былі 3 манастыры, 3 царквы, 3 капліцы, касцёл, сінагога, 10 малітоўных дамоў, бальніца і аптэка. У 1912 г. 16 371 жыхар, з якіх 80% складалі мяшчане і рамеснікі, 8% — сяляне, 12% — дваране, духавенства і гандляры. Напярэдадні 1-й сусветнай вайны ў навуч. установах горада было 1,5 тыс. навучэнцаў. З 1903 г. тут дзейнічала група РСДРП. У вер. 1903 г. адбылася эканам. стачка краўцоў, у маі 1905 г. — забастоўка і дэманстрацыя (каля 200 рабочых), у ліп. — эканам. стачка ў рамесных майстэрнях. Першамайскае свята 1906 г. адзначана дэманстрацыяй рабочых, рамеснікаў, інтэлігенцыі і гімназістаў. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. выходзіла газ. «Мстиславльский голос». 15.5.1917 г. створаны першы прафсаюз рабочых і служачых горада. У снеж. 1917 г. аформілася бальшавіцкая арг-цыя. 10.1.1918 г. створаны Часовы рэв. орган Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў. 24.1.1918 г. 1-ы пав. з'езд Саветаў рабочых, сял. і салдацкіх дэпутатаў абвясціў

*Гарадзішча Замкавая гара ў Мсціславе.*





сав. ўладу на Мсціслаўшчыне. У 1918 г. пачала выходзіць газ. «Известия Мстиславского уездного исполнительного Комитета Совета рабочих, крестьянских и красноармейских депутатов». У вер. 1918 г. арг-цыя Рас. кампартыі налічвала каля 100 членаў. З студз. 1919 г. працаваў пав. камісарыят па ваен. справах. У перыяд акупацыі часткі Магілёўскай губ. герм., а затым польскімі войскамі ген. Доўбар-Мусніцкага ў Мсціслаўлі часова дзейнічаў Магілёўскі губ. Савет рабочых, сял. і салдацкіх дэпутатаў. 18.6.1918 г. адбыўся з'езд прадстаўнікоў пав. саветаў Магілёўскай губ., які разгледзеў пытанні аб арг-цыі камбедаў і выкананні Дэкрэта аб хлебнай манаполіі, аб увядзенні часовага падаходна-прагрэсіўнага налога, фарміраванні часцей Чырвонай арміі і партыз. атрадаў і інш. пытанні. У жн. 1918 г. адбылася Магілёўская губ. канферэнцыя РКП(б). 10.10.1918 г. адбыўся 1-ы пав. з'езд прадстаўнікоў с.-г. і прац. арцеляў, у якім удзельнічалі прадстаўнікі 19 арцеляў і камун. У 1919—24 гг. Мсціслаў у складзе Смаленскай губ. РСФСР, цэнтр павета. У 1919 г. працавалі педкурсы (з 1921 г. педтэхнікум). Выходзілі пав. газеты «Думы бедняка», павятова-гар. к-та камсамола «Юная рать» і Мсціслаўскага пав. аддзялення РОСТа. Пры гар. друкарні дзейнічалі курсы па падрыхтоўцы работнікаў паліграфічнай прам-сці. У 1924 г. створана с.-г. крэдытнае т-ва, у 1925 г. — пункт па пракаце с.-г. машын.

З 17.7.1924 г. ў БССР, цэнтр раёна ў Калінінскай, у 1927—30 гг. Аршанскай акругах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. Працавалі прамкамбінат, ільнозавод (пабудаваны ў 1932), малочна-сыраварны і спіртавы з-ды, шэраг арцеляў, утворана крэдытнае т-ва, працавалі бальніца, дзіцячы дом і яслі. У 1927 г. ў горадзе 8,1 тыс. жыхароў, дзейнічала ветраная электрастанцыя, у 1928 г. пабудавана электрастанцыя пры млыне магутнасцю 60 кВт·ч. У сак. 1931 г. арганізаваны калгас імя Варашылава, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 249 гаспадарак, меў 240 га ворыва. У 1931 г. створана Мсціслаўская МТС імя Кірава, якая мела 40, а ў 1936 г. 54 трактары і іншую тэхніку. У 1933 г. пачала дзейнічаць электраўстаноўка МТС, палітаддзел якой у 1934 г. выпускаў шматтыражку





*Касцёл кармелітаў (17 ст.) у Мсціславе.*

*Царква Аляксандра Неўскага (19 ст.) у Мсціславе.*




«Шлях Леніна». 10.3.1933 г. адбыўся 1-ы раённы злёт калгаснікаў-ударнікаў. Запрацаваў радыёвузел: у 1933 г. налічвалася 59, а ў 1938 г. — 575 радыёкропак. Дзейнічалі пед. (адкрыты ў 1925) і фінансавы тэхнікумы, 4 сярэднія школы і школа-сямігодка, рэсп. школа слыху і мовы, школа рабочай моладзі, двухгадовая сярэдняга медперсаналу, школа брыгадзіраў трактарных брыгад, раённая жывёлаводаў, б-ка імя Н.К.Крупскай (з 1920), 3 дзіцячыя дамы і сад. Працавалі Дом культуры, клубы прамкааперацыі, гіст. і пед. музеі. Выходзілі газ. «Бальшавік Мсціслаўшчыны» (1931—38), «Калгасная газета» (1938—41). Меліся бальніца, амбулаторыя, аптэка, дзіцяча-жаночая кансультацыя, станцыі санэпідэмічная і хуткай мед. дапамогі, ветэрынарная лячэбніца. У пач. Вял. Айч. вайны ў ліп. 1941 г. каля Мсціслаўля разгарнуліся баі часцей 4-га паветр.-дэсантнага корпуса і 6-й Арлоўскай Чырванасцяжнай стралк. дывізіі Чырвонай Арміі супраць 10-й танкавай дывізіі Г.Гудэрыяна і эсэсаўскай дывізіі «Рэйх». 14.7.1941 г. захоплены ням.-фаш. войскамі. На тэр. горада створана лагер смерці, у якім закатавана 900 чал. Акупанты спалілі і разбурылі 481 будынак, узарвалі ўсе прадпрыемствы, культурныя і лячэбныя ўстановы. У акупіраваным горадзе дзейнічалі падп. групы настаўнікаў і ўрачоў, якія накіравалі вял. колькасць чырвонаармейцаў са шпіталю ў партыз. атрад «Бясстрашны». На базе Цемналескага партыз. атрада № 19 размяшчаўся Мсціслаўскі падп. райком ЛКСМБ. Мсціслаў вызвалены 28.9.1943 г. часцямі 49-й арміі Зах. фронту ў час Смаленскай аперацыі. У 1959 г. — 8,1 тыс. жыхароў.

У горадзе размешчаны прадпрыемствы харч. (ААТ «Мсціслаўскі масласыраробны завод», хлебазавод), паліграфічнай (друкарня) і лёгкай («Мсціслаўлён») прам-сці. Працуюць райаграсервіс, райплемстанцыя, дарожныя, будаўнічыя, рамонтныя, транспартныя і гандл. арг-цыі. У сістэме адукацыі дзейнічаюць прафес.-тэхн. будаўнічы каледж, прафес. ліцэй, 2 сярэднія і дзіцяча-юнацкая спарт. школы, школа мастацтваў, 4 дзіцячыя дашкольныя ўстановы, школа-інтэрнат для глухіх дзяцей і дзяцей з аслабленым слыхам, школа-інтэрнат для дзяцей-сірот і дзяцей,



*Каланча — помнік архітэктуры 19 ст. ў Мсціславе.*



*Помнік першадрукару Пятру Мсціслаўцу ў г. Мсціслаў.*



што засталіся без апекі бацькоў, дзіцячы сац. прытулак, цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі. Ёсць раённы цэнтр культуры і нар. творчасці, Дом дзіцячай творчасці, гісторыка-археал. музей, 2 б-кі, спарт. клубы і школы ДТСААФ, стадыён і спарт. пляцоўкі; кінатэатр, гасцініца, рэстаран, кафэ, гандл. дом, пункт калект. карыстання, цырульня, 2 аддз. сувязі. Працуюць бальніца, паліклініка, аптэка, раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі, раённы тэр. цэнтр сац. абслугоўвання насельніцтва, раённая ветэрынарная станцыя, філіял РУСП па племянной справе «Магілёўскае дзяржплемпрадпрыемства» па Мсціслаўскім р-не, ААТ «Мсціслаўскі райаграпрамтэхзаб», раённая дзярж. інспекцыя па насенняводстве, каранціне і ахове раслін.

У Мсціслаўлі захавалася рэгулярная плaніроўка, якая склалася гістарычна з прамавугольнай сеткай вуліц з невялікімі кварталамі. Ген. план забудовы і развіцця горада, кампазіцыя якога разгортваецца з ПнЗ на ПнУ, распрацаваны ў 1975 г. Мінскім філіялам Н.-д. ін-та праектавання горадабудаўніцтва. Развіццё Мсціслаўля праходзіць уздоўж ракі з Пд на Пн. Грамадская забудова займае цэнтр. частку горада: плошчу, частку вуліц Калініна, Савецкай, Варашылаўскай, Пралетарскай. Вуліцы Урыцкага, Калініна, Першамайская і Леніна абмяжоўваюць тэр. былых гандл. радоў, у будынках якіх размешчаны прадуктовыя і прамтаварныя магазіны. Ахоўная гісторыка-культурная зона ўключае Замкавую гару, цягнецца ўздоўж вуліц Юрчанкі, Вялікай Пралетарскай, Ленінскай і Кірава. Адна частка ўключае гістарычна каштоўны ландшафт і раён цэнтр. плошчы з адрэзкамі прымыкаючых да яе вуліц. Другая частка складаецца з плошчы са скверам і вуліц Кірава, Савецкай, Вялікай Пралетарскай, Юрчанкі, Першамайскай і Ленінскай. У арх.-планіровачную кампазіцыю ўваходзяць помнікі архітэктуры 17—19 ст.: цэрквы Аляксандра Неўскага і Спаса-Праабражэнская, будынкі былой земскай управы, мужчынскай гімназіі, а таксама Траецкая, Замкавая і Дзявочая горы. Жылы фонд прадстаўлены пераважна індывідуальнымі драўлянымі аднапавярховымі дамамі сядзібнага тыпу. Мураваная двухпавярховая забудова ў асн. у цэнтр. частцы, у раёне вуліц Кірава, Варашылава, Пралетарскай. Да цэнтр. раёна далучаецца забудова, размешчаная на былых свабодных тэрыторыях. Уздоўж шашы пабудаваны школа, інтэрнат, дзіцячы сад, 70-кватэрны 5-павярховы жылы дом, 8—12-кватэрныя двухпавярховыя дамы. У зах. частцы вядзецца забудова катэджнага тыпу.



*М.А.Ткачоў.*

У Мсціслаўлі нарадзіліся кнігадрукар Пётр Мсціславец (16 ст.), цаніннік, майстар паліхромных маёлікавых рэльефаў С.Палубес (2-я пал. 17 ст.), рэвалюцыянерка-народніца А.Д.Балоціна (1865—?), бел. гісторык і мастацтвазнавец А.В.Прахаў (1846—1916), бел. пісьменнік Ю.Таўбін (1911—37), ген.-лейт. У.С.Галушкевіч (1898—1964), бел. археолагі, грамадска-палітычныя дзеячы, гісторык-медыявіст М.А.Ткачоў (1942—92) і гісторык архітэктуры А.А.Трусаў (нар. ў 1954). Тут жыў і працаваў бел. мовазнавец, фалькларыст і этнограф І.І.Насовіч (1788—1877).



*А.А.Трусаў.*

**АНДРАНЫ** — вёска ў Доўгавіцкім с/с, за 33 км на З ад Мсціслава, 82 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Праз вёску цячэ р. Кашанка (прыток



*Алея Герояў у г. Мсціслаў.*

р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Доўгавічы, Старынка, Краснае і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў. 226 гаспадарак, 562 жыхары (2007).

У 1858 г. ў вёсцы 15 двароў, 87 жыхароў, уласнасць памешчыка, які меў тут у 1861 г. 230 дзес. зямлі і вадзяны млын. У 1880 г. 22 двары, 95 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася бандарным промыслам. У 1889 г. адкрыта царк.-прыходская школа. Паводле перапісу 1897 г. ў Доўгавіцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 29 двароў, 203 жыхары, карчма. У 1909 г. 38 двароў, 240 жыхароў. Побач быў фальварак, 3 двары, 40 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якой у 1918 г. быў перададзены нацыяналізаваны будынак, у 1925 г. было 58 вучняў. З 17.7.1924 г. ў БССР. У 1926 г. 54 двары, 328 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Трактар», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 43 гаспадаркі, меў 368 га ворыва, абслугоўваўся Ходасаўскай МТС імя Э.Тэльмана. У 1933 г. пабудавана кузня. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. далучана в. Ганчароўка. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 2 воіны 95-й стралк. дывізіі 49-й арміі 2-га Бел. фронту, якія загінулі ў баях супраць гітлераўцаў. На ўшанаванне памяці 77 землякоў, загінуўшых на фронце і ў партыз. барацьбе, у 1966 г. ў цэнтры вёскі пастаўлена стэла. У 1976 г. далучаны вёскі Валымер, Янава. У 1990 г. 79 гаспадарак, 196 жыхароў, у складзе калгаса «Ударнік» (цэнтр — в. Доўгавічы). Працавалі пач. школа, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. У 2007 г. ў складзе СВК «Усход», сярэдняя агульнаадукац. школа, дзіцячы сад, сельскі клуб, б-ка, аддз. сувязі, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва Мсціслаўскага унітарнага камунальнага прадпрыемства «Бытпаслугі». Планіровачна складаецца з 4 вуліц. Гал. вуліца працяглая, дугападобная, шыротнай арыентацыі з завулкамі. На Пн ад яе праходзіць прамалінейная кароткая вуліца з завулкам, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ. На Пд яшчэ 2 кароткія прамалінейныя вуліцы, арыентаваныя з ПдУ на ПнЗ. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны на гал. вуліцы, сярод жылой забудовы. Вытв. сектар — на Пд і ПдУ.

**АСІНАЎКА** — вёска ў Раздзельскім с/с, за 28 км на З ад Мсціслава, 123 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам, на ПнУ цячэ р. Рамясцвянка (прыток р. Быстрая). Транспартныя



*Фрагмент панарамы аграгарадка Андраны.*



*Будынак школы ў аграгарадку Андраны.*



сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Курманава, Багацькаўка і далей па шашы Мсціслаў—Горкі. 14 гаспадарак, 20 жыхароў (2007).

У 1811 г. в. Сінаўка, у Мсціслаўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1852 г. ў Мсціслаўскім павеце, 20 двароў, 109 жыхароў, у складзе маёнтка Хіславічы. У 1880 г. 13 двароў, 89 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася шавецкім промыслам, вырабам посуду і іншых быт. рэчаў з дрэва. Паводле перапісу 1897 г. ў Шамаўскай вол., 12 двароў, 94 жыхары, вадзяны млын. У 1909 г. 13 двароў, 115 жыхароў, мелася школа граматы. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная іскра», які абслугоўвала Курманаўская МТС. У хуткім часе калгас стаў перадавым у раёне. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 29.9.1943 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 23 гаспадаркі, 40 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Курманава). У 2007 г. ў СВК «Курманава». Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АСЛЯНКА** — вёска ў Сапрынавіцкім с/с, за 10 км на ПнУ ад Мсціслава, 105 км ад Магілёва, 28 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Праз вёску цячэ р. Аслянка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Хіславічы. 36 гаспадарак, 78 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1654 г. с. Асланца аддадзена Мсціслаўскаму кармеліцкаму кляштару. У 1667 г. пабудаваны вадзяны млын, у 1737 г. — царква. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Мсціслаўскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 31 двор, 150 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1867 г. засн. сукнавальня, у 1910 г. адкрыта вінная крама. У 1885 г. цэнтр воласці ў Мсціслаўскім павеце. Зямля належала Пустынскаму манастыру. Мелася школа (нар. вучылішча), адкрытая не пазней 1884 г. У канцы 18 ст. ў цэнтры вёскі пабудавана драўляная царква, якая з'яўляецца помнікам нар. дойлідства. Паводле перапісу 1897 г. 29 двароў, 185 жыхароў. Побач былі царк. сядзіба (2 двары, 14 жыхароў) і сяліба (1 двор, 10 жыхароў). У 1909 г. 39 двароў, 232 жыхары. З 1918 г. да 1964 г. ў Смаленскай вобл. РСФСР. Апрача школы ў 1924 г. працавалі б-ка, хата-чытальня, пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1930 г. арганізаваны калгас, які з 1932 г. абслугоўвала Хіславіцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На ўшанаванне памяці 48 землякоў, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у 1969 г. на зах. ускраіне вёскі пастаўлены абеліск. У 1976 г. далучана в. Шматаўка. У 1990 г. 77 гаспадарак, 169 жыхароў, у складзе калгаса «Савецкая Расія» (цэнтр — в. Сапрынавічы). Працавалі 8-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, магазін. У 2007 г. далучана да СВК «Кастрычнік». Дзейнічае магазін, водаправод. Планіроўка прамавугольная. Дзве працяглыя прамалінейныя вуліцы арыентаваны з ПдУ на ПнЗ і перакрыжаваны перпендыкулярна 4 кароткімі прамалінейнымі вуліцамі. На ПнУ за ракой праходзіць кароткая прамалінейная вуліца з завулкам (былая в. Шматаўка). Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны ў цэнтры вёскі, сярод жылой забудовы. На ПнЗ і ПдЗ — гасп. сектар.

**АСМОЛАВІЧЫ** — вёска ў Капачоўскім с/с, за 20 км на З ад Мсціслава, 81 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пд праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Белая Натапа (прыток р. Чорная Натапа). Транспарт-

ныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Быстрыца і далей па шашы Мсціслаў—Расна—Магілёў. 26 гаспадарак, 33 жыхары (2007).

За 0,1 км на Пд ад вёскі, на левым беразе забалочанага ручая, размешчана гарадзішча ранняга жал. веку, на паўн.-ўсх. ускраіне, каля старых могілак — курган. Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядомы з 1612 г. як сяло ў Мсціслаўскім павеце. У 1659 г. шляхецкая ўласнасць. У 1723 г. замест старой праваслаўнай царквы была пабудавана уніяцкая. У 1768 г. побач існаваў маёнтак. Памешчык меў тут у 1877 г. 598 дзес. зямлі. У 1886 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. Паводле перапісу 1897 г. ў Старасельскай вол. Мсціслаўскага павета, 61 двор, 405 жыхароў, кузня, школа граматы. Побач былі 2 аднайменныя фальваркі (разам 3 двары, 20 жыхароў). У 1909 г. ў сяле 71 двор, 431 жыхар, у фальварках Асмолавічы 1 і Асмолавічы 2 — 5 двароў, 32 жыхары. З 17.7.1924 г. ў БССР. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 38, а ў 1926 г. — 60 вучняў. У 1925 г. створана с.-г. т-ва. У ліст. 1930 г. арганізаваны калгас «Пяцігодку за чатыры гады», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 84 гаспадаркі, меў 596 га ворыва, абслугоўваўся Ходасаўскай МТС. Меліся кузня і ваўначоска. У 1931 г. калгасу былі перададзены ўрочышчы Хаданава, Ямнік, Плоскае. У 1936 г. адкрыты калгасны клуб. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 53 гаспадаркі, 112 жыхароў, у складзе племсаўгаса «Пісараўшчына» (цэнтр — в. Капачы). Працавалі пач. школа, магазін. У 2007 г. далучана да РУСП «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Віхра». Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных, працяглых, паралельных паміж сабой вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, забудаваных пераважна двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БАГАЦЬКАЎКА** — вёска ў Раздзельскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Мсціслава, 104 км ад Магілёва, 27 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Рамясцвянка). На ПдУ каля вёскі пачынаецца р. Белая Натапа (прыток р. Чорная Натапа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Горкі. 31 гаспадарка, 46 жыхароў (2007).

У 1834 г. ў Мсціслаўскім павеце, 28 двароў, 116 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 20 двароў, 161 жыхар. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся шавецкім і кравецкім промысламі. Паводле перапісу 1897 г. ў Шамаўскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ., в. Вялікая Багацькаўка (36 двароў, 210 жыхароў) пры дарозе Мсціслаў—Шамава. Побач была в. Малая Багацькаўка (20 двароў, 134 жыхары). У 1909 г. ў в. Вялікая Багацькаўка 30 двароў, 172 жыхары, школа граматы, у в. Малая Багацькаўка 21 двор, 160 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. было 42 вучні. У 1930 г. ў в. Вялікая Багацькаўка арганізаваны калгас «Рассвет», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 38 гаспадарак, меў 296 га ворыва, у в. Малая Багацькаўка — калгас імя Чырвонай Арміі, які аб'ядноўваў у 1932 г. 15 гаспадарак, меў 133 га ворыва. У калгасе «Рассвет» дзейнічала парт. ячэйка; працавала кузня. Абслугоўваліся калгасы Курманаўскай МТС. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1976 г. вёскі Вялікая Багацькаўка і Малая Багацькаўка былі аб'яднаны ў адну з назвай Багацькаўка. У 1990 г. 66 гаспадарак, 147 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Курманава). Працавалі пач. школа, магазін, музей пісьменніка М.Гарэцкага. У 2007 г. ў СВК «Курманава». Дзейнічае музей М.Гарэцкага — філіял рэсп. Літ. музея. Планіровачна складаецца з паўд.-зах. (прамалінейная вуліца з завулкам, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, былая в. Вялікая Багацькаўка) і паўн.-ўсх. (крывалі-



нейная кароткая вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі з 2 завулкамі, былая в. Малая Багацькаўка). Забудавана пераважна аднабакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на Пн.

Радзіма бел. песенніцы А.М. Гарэцкай (1864—1935), бел. пісьменніка, празаіка, перакладчыка, фалькларыста, лексікографа М.І.Гарэцкага (1893—1938), вучоных у галіне геалогіі акадэмікаў АН БССР Г.І.Гарэцкага (1900—88) і Р.Г.Гарэцкага (нар. ў 1928).

**БАНЬКАЎШЧЫНА** — вёска ў Лютненскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Мсціслава, 107 км ад Магілёва, 30 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Чорная (прыток р. Віхра). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Кандратаўск, Лютня і далей па шашы Магілёў—Горкі. 10 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

За 1 км на З ад вёскі і на мысе правага берага р. Чорная захавалася гарадзішча, што сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1747 г. вёска (6 двароў) у Крычаўскім старостве, дзярж. ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1834 г. ў Мсціслаўскім павеце, 9 двароў, 42 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1850 г. 30 жыхароў мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г. ў Старасельскай вол. Мсціслаўскага павета, 19 двароў, 138 жыхароў. У 1909 г. 25 двароў, 161 жыхар. У 1921 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў нацыяналізаваным памешчыцкім будынку. У ёй у 1925 г. было 35 вучняў. З 17.7.1924 г. ў БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 30 гаспадарак, меў 172 га ворыва, абслугоўваўся Мсціслаўскай МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 24 гаспадаркі, 45 жыхароў, у складзе Мсціслаўскага коннага з-да № 120 (цэнтр — в. Лютня). Працаваў магазін. У 2007 г. далучана да РУСП «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Віхра». Планіроўка Г-падобная. Больш працяглая вуліца прамалінейная, арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Ад яе на ПнУ адыходзіць кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, няшчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БАРЫСАЎКА** — вёска ў Мушынскім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Мсціслава, 110 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На З цячэ р. Радуга (прыток р. Белая Натапа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Мушына, Пірагова і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў. 42 гаспадаркі, 83 жыхары (2007).

У 1909 г. вёска, у Хатовіжскай вол. Клімавіцкага павета, 34 двары, 253 жыхары. З 17.7.1924 г. ў БССР. У 1931 г. ўвайшла ў склад саўгаса «Перамога». З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. далучана в. Данілаўка. У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да 3.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 44 гаспадаркі, 109 жыхароў, у складзе саўгаса «Перамога» (цэнтр — в. Мушына). З 2007 г. ў СВК «Мушына». Ёсць магазін. Планіровачна складаецца з 5 вуліц. Ад гал., дугападобнай, мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы адыходзяць на ПдЗ 2 кароткія крывалінейныя (былая в. Барысаўка) і на ПнЗ — яшчэ 2 такія ж вуліцы (былая в. Данілаўка). Забудавана пераважна, двухбакова, няшчыльна традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на ПдЗ і ПдУ. На Пн — сад.

**БАСЦЕНАВІЧЫ** — вёска ў Капачоўскім с/с, за 22 км на З ад Мсціслава, 77 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ПдУ цячэ р. Кашанка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Расна—Магілёў. 123 гаспадаркі, 294 жыхары (2007).



*М.І.Гарэцкі.*

Па пісьмовых крыніцах вядомы з пач. 18 ст. У 1777 г. сяло ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1816 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 33 двары, 166 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 46 двароў, 252 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. ў Доўгавіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 57 двароў, 408 жыхароў, працавалі школа граматы і карчма, штогод (20 ліп., 15 жн.) праводзіліся кірмашы. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся сталярным і бандарным промысламі. Дзейнічала драўляная царква (адкрыта не пазней 1880), якая з'яўляецца помнікам драўлянага дойлідства з элементамі класіцызму. У пач. 20 ст. пачала дзейнічаць школа, у якой у 1905 г. навучаліся 45 хлопчыкаў і 10 дзяўчынак, у 1907 г. — 50 хлопчыкаў і 15 дзяўчынак. У 1909 г. 66 двароў, 347 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў БССР. У 1926 г. 97 двароў, 626 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «1 Мая», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 38 гаспадарак, меў 257 га ворыва, дзейнічала кузня, абслугоўваўся Хлышчоўскай МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай і адзіночнай магілах, што на могілках, пахаваны 4 сав. воіны, якія загінулі ў 1943 г. пры вызваленні раёна. На ўшанаванне памяці 96 землякоў, загінуўшых на фронце і ў партыз. барацьбе, у 1965 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. У 1990 г. 132 гаспадаркі, 315 жыхароў, цэнтр калгаса імя Энгельса. У вёсцы працавалі дзіцячы сад-яслі, б-ка, сельскі клуб, сталовая, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, гандл. цэнтр, аддзяленні ашчаднага банка і сувязі. У 2007 г. цэнтр СВК імя Энгельса, школа, б-ка, клуб, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Ген. план забудовы распрацаваны ін-там «Белкалгаспраект» у 1981 г. Планіроўка квартальная. Дарога Курманава—Ходасы падзяляе вёску на паўн.-ўсх. (3 прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з ПдУ на ПнЗ, перакрыжаваны перпендыкулярна 3 прамалінейнымі вуліцамі) і паўд.-зах. (3 прамалінейныя вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі перакрыжаваны 2 прамалінейнымі вуліцамі шыротнай арыентацыі) часткі. Забудавана двухбакова, няшчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Пабудаваны аднапавярховыя адна- і двухкватэрныя мураваныя дамы, мураваная забудова ў асн. у цэнтры вёскі. Гасп. сектар — на ПдУ і ў цэнтры.

*Жніво.*



**БАШАРЫ** — вёска ў Ракшынскім с/с, за 30 км на З ад Мсціслава, 65 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Праз вёску цячэ р. Баброўка (прыток р. Вербаўка). Транспартныя сувязі па шашы Мсціслаў—Расна—Магілёў, якая праходзіць праз вёску. 14 гаспадарак, 20 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 18 ст. У 1742 г. дзярж. маёнтак у Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, перададзены ў прыватнае ўладанне. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1798 г. ў Чавускім павеце, вёска і фальварак (5 двароў, 27 жыхароў), дзейнічала вінакурня. У 1860 г. 24 двары, 174 жыхары, уласнасць памешчыка, які меў тут у 1867 г. 270 дзес. зямлі. У 1880 г. 10 двароў, 63 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася калёсным промыслам, вырабам розных быт. такарных рэчаў з дрэва. Паводле перапісу 1897 г. ў Расненскай вол.



Чавускага пав. Магілёўскай губ., 12 двароў, 67 жыхароў. Непадалёку былі аднайменныя пасёлак (2 двары, 5 жыхароў) і фальварак (1 двор, 3 жыхары). У 1909 г. ў вёсцы 17 двароў, 93 жыхары, у аднайменным выселку, што знаходзіўся побач, 3 двары, 21 жыхар, у фальварку — 1 двор, 7 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў БССР. У 1926 г. хутары, 27 двароў, 146 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Сцяг працы», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 27 гаспадарак, меў 300 га ворыва, кузню. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 11.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле ў цэнтры вёскі пахаваны 22 сав. воіны, сярод якіх байцы 277-й стралк. дывізіі, што загінулі ў 1943 г. пры вызваленні раёна. На могілках пахаваны Герой Сав. Саюза І.А.Мельнічэнка, які вызначыўся пры фарсіраванні рэк Проня, Бася, Дняпро і памёр ад ран 4.7.1944 г. У 1967 г. далучана в. Шчапілы. У 1990 г. 21 гаспадарка, 49 жыхароў, у складзе калгаса імя Свярдлова (цэнтр — в. Ракшыно). У 2007 г. далучана да СВК «Сцяг працы». Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай арыентацыі вуліцы (адрэзак шашы) з 2 завулкамі. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БЕЛЫ МОХ** — вёска ў Падсолтаўскім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Мсціслава, 117 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. Праз вёску праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Белая Натапа (прыток р. Чорная Натапа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Данілаўск, Ірцішчава і далей па шашы Мсціслаў—Горкі. 39 гаспадарак, 95 жыхароў (2007).

У 1897 г. вёска ў Старасельскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ., 45 двароў, 332 жыхары. У 1909 г. 54 двары, 344 жыхары. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. 1.10.1925 г. адкрыта школа, у якой у 1926 г. было 44 вучні. У сак. 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны барацьбіт», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 90 гаспадарак, меў 493 га ворыва, абслугоўваўся Курманаўскай МТС. Дзейнічала кузня. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 71 гаспадарка, 162 жыхары, у складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Падсолтава). У 2007 г. ў СВК «Савецкая Беларусь». Ёсць магазін. Планіровачна складаецца з 3 вуліц, больш працяглая з якіх (галоўная) прамалінейная, з завулкам, арыентавана з ПнУ на ПдЗ. Дзве другія вуліцы прамалінейныя кароткія, размешчаны на Пн, маюць мерыдыянальную арыентацыю. Забудавана двухбакова, няшчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на З.

Радзіма бел. мастака М.Я.Лісоўскага (1931—70).

**БЕЛЬ** — вёска ў Раздзельскім с/с, за 28 км на ПнЗ ад Мсціслава, 123 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На ПнУ цячэ р. Рухва (прыток р. Лядня). Транспартныя сувязі па шашы Горкі—Мсціслаў, якая праходзіць праз вёску. 41 гаспадарка, 64 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1622 г. як сяло ў складзе маёнтка Вялікія Горы Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1638 г. ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, у складзе маёнтка Беразетня, 29 гаспадарак. У 1701 г. дзяржава Бель у Мсціслаўскім ваяв., казённая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1816 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 22 двары, 77 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 41 двор, 241 жыхар. Частка вяскоўцаў займалася шавецкім, кравецкім і іншымі промысламі. 25.7.1881 г. жыхары аказалі супраціўленне ўладам пры правядзенні размежавання вясковай зямлі на карысць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. 53 двары, 372 жыхары, ветраны млын. У 1909 г. 60 двароў, 404 жыхары. З 1921 г. да 1959 г. ў Курманаўскім с/с. З 17.7.1924 г. ў БССР.

1.10.1926 г. адкрыта школа, у якой у той час было 46 вучняў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя М.Горкага, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 11 гаспадарак, меў 40 га ворыва, абслугоўваўся Курманаўскай МТС. У 1935 г. для школы пабудавана новае памяшканне. У 1936 г. запрацаваў калгасны клуб. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 62 гаспадаркі, 151 жыхар, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Курманава). Працавалі пач. школа, магазін. У 2007 г. ў СВК «Курманава». Ёсць магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай, амаль мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы з завулкамі, перакрыжаванай у паўн. частцы шашой. Забудавана двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на ПнЗ.

**БЕРАЗЕТНЯ** — вёска ў Раздзельскім с/с, за 38 км на ПнЗ ад Мсціслава, 133 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ПдУ цячэ р. Лядня (прыток р. Рамясцвянка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Шамава і далей па шашы Мсціслаў—Горкі. 20 гаспадарак, 33 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1560 г. як цэнтр маёнтка ў Аршанскім павеце. Упамінаецца ў сувязі з размежаваннем маёнткаў. У 1638 г. с. Беразетня (яно ж Несцерава) у Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1798—99 гг. вяскоўцы некалькі разоў выступалі супраць свавольства памешчыка і паліцыі. У 1818 г. засн. суканавальня. У 1858 г. сяло (59 рэвізскіх душ), млын, карчма. Памешчык у 1878 г. меў тут 1479 дзес. зямлі, млын і сукнавальню. У 1880 г. 22 двары, 182 жыхары. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся кушнерскім промыслам, дзейнічалі ветраны млын, школа граматы, паштовая станцыя на тракце Орша—Клімавічы—Касцюковічы (у 1880 г. 8 коней). Паводле перапісу 1897 г. ў Шамаўскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ., 37 двароў, 238 жыхароў. Непадалёку быў пас. Беразетня (ён жа Цантроўка), 14 двароў, 100 жыхароў, вадзяны млын, сукнавальня. У 1909 г. ў вёсцы 37 двароў, 232 жыхары, у фальварку 13 двароў, 125 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перамога», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 67 гаспадарак, меў 523 га ворыва, абслугоўваўся Курманаўскай МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На могілках у брацкай магіле пахаваны 21 сав. воін, якія загінулі ў баях за вызваленне вёскі. У 1990 г. 35 гаспадарак, 83 жыхары, у складзе калгаса «Камуніст» (цэнтр — в. Несцерава). Працавалі пач. школа, магазін. У 2007 г. далучана да СВК «Курманава». Планіроўка прамавугольная. Дзве кароткія прамалінейныя вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ, перпендыкулярна перакрыжаваны 2 кароткімі вуліцамі. Адасоблена на ПдЗ праходзіць кароткая прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БЕРАЗУЙКІ** — вёска ў Сялецкім с/с, за 18 км на Пд ад Мсціслава, 113 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пд цячэ р. Чорная Натапа (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Крычаў. 35 гаспадарак, 57 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 16 ст. У 1582 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. в. Парзункі ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1834 г. 16 двароў, 87 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 141 рэвізская душа. У 1880 г. 38 двароў, 277 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася сталярным промыслам. Паводле перапі-



су 1897 г. ў Маляціцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 64 двары, 501 жыхар. У пач. 20 ст. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1907 г. навучаліся 51 хлопчык і 6 дзяўчынак. У 1909 г. 90 двароў, 708 жыхароў, вадзяны млын. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1926 г. 124 двары, 706 жыхароў, у вясковай школе было 77 вучняў. У сак. 1931 г. арганізаваны калгас, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 91 гаспадарку, меў 573 га ворыва. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 17.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На могілках пахаваны сав. воін, які загінуў у 1941 г. ў баі супраць гітлераўцаў. У 1990 г. 58 гаспадарак, 125 жыхароў, у складзе калгаса імя Чапаева (цэнтр — в. Сялец). Працавалі б-ка, магазін. У 2007 г. ў СВК імя Чапаева. Планіровачна складаецца з 2 вуліц, адна з якіх прамалінейная, арыентавана з ПдЗ на ПнУ, дзе ад яе адыходзіць дугападобная працяглая вуліца шыротнай арыентацыі. Забудавана пераважна аднабакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на З.

Радзіма засл. настаўніка БССР, выдатніка нар. асветы БССР С.І.Карпечкіна (1931—86).

**БЕСКАКОВА** — вёска ў Мазалаўскім с/с, за 14 км на ПдЗ ад Мсціслава, 89 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На З цячэ р. Белая Натапа (прыток р. Чорная Натапа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Мсціслаў. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1690 г., калі была куплена Мсціслаўскім кармеліцкім кляштарам. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1798 г. вёска і аднайменны фальварак налічвалі 32 жыхары мужчынскага полу. У 1828 г. с. Бясканаў, 9 двароў. У 1880 г. 14 двароў, 76 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася бандарным промыслам. Паводле перапісу 1897 г. ў Казіміраваслабодскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ., 21 двор, 149 жыхароў. Непадалёку знаходзілася аднайменная сядзіба (1 двор, 7 жыхароў). У 1909 г. ў сяле 25 двароў, 188 жыхароў, у фальварку 1 двор, 6 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў БССР. У 1925 г. адкрыта школа, у якой у 1927 г. было 40 вучняў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Свабода», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 14 гаспадарак, меў 77 га ворыва, абслугоўваўся Мсціслаўскай МТС імя Кірава. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 33 двары, 172 жыхары, да вёскі далучана в. Кучкаўшчына. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 28 двароў. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 18 гаспадарак, 45 жыхароў, у складзе калгаса «60 гадоў БССР» (цэнтр — в. Мазалава). У 2007 г. ў СВК «Мазалаўскі». Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай амаль мерыдыянальна, уздоўж ракі. Забудавана пераважна аднабакова, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.


*С.І.Карпечкін.*

**БЕСКАЎКА** — вёска ў Забалацкім с/с, за 32 км на ПдЗ ад Мсціслава, 64 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Кляпацінка (прыток р. Волчас). Транспартныя сувязі па шашы Мсціслаў—Магілёў, якая праходзіць побач з вёскай. 13 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1777 г. сяло ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1811 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 12 двароў, 36 жыхароў мужчынскага полу, дзярж. ўласнасць. У 1858 г. ўласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Беліцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 8 двароў, 41 жыхар. У 1909 г. 16 двароў, 34 жыхары. З 17.7.1924 г. у складзе БССР. У студз. 1925 г. ў вёску пераведзена школа з в. Лыкінка, у якой у гэты час было 36 вучняў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны колас», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 34 гаспадаркі, меў 274 га ворыва і кузню. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай

вобл. У Вял. Айч. вайну з 20.7.1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На могілках у брацкай магіле пахаваны 3 сав. воіны, якія загінулі ў 1943 г. У 1990 г. 43 гаспадаркі, 86 жыхароў, у складзе саўгаса «Забалацце» (цэнтр в. Забалацце). Працаваў магазін. У 2007 г. ва УКСП «Саўгас «Забалацце». Ёсць магазін. Планіровачна складаецца з 3 вуліц. Больш працяглая з іх прамалінейная, амаль мерыдыянальнай арыентацыі. Ад яе цэнтра на У, абапал ракі, адыходзяць 2 прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на ПдЗ.

**БРАГІ** — вёска ў Сапрынавіцкім с/с, за 13 км на ПнУ ад Мсціслава, 108 км ад Магілёва, 31 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф узгорысты. На ПдЗ цячэ р. Аслянка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Хіславічы. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 18 ст. У 1742 г. вёска ў Кажуховіцкім старостве Мсціслаўскага ваяв. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1850 г. 11 двароў, 57 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. ў Аслянскай вол. Мсціслаўскага павета, 18 двароў, 147 жыхароў. У 1909 г. 22 двары, 173 жыхары. З 1918 г. да 1964 г. ў Хіславіцкім р-не Смаленскай вобл. РСФСР. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1976 г. далучана в. Канюхова. У 1990 г. 15 гаспадарак, 23 жыхары, у складзе калгаса «Савецкая Расія» (цэнтр — в. Сапрынавічы). У 2007 г. далучана да СВК «Кастрычнік». Планіровачна складаецца з 2 размежаваных вуліц, адна з іх арыентавана мерыдыянальна, другая — з ПдУ на ПнЗ. Забудавана пераважна аднабакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БУДАГОШЧ** — вёска ў Лютненскім с/с, за 5 км на ПнЗ ад Мсціслава, 100 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пд цячэ р. Суточка (прыток р. Віхра). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Горкі. 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 19 ст. Памешчык меў тут у 1865 г. 248 дзес. зямлі і млын. У 1908 г. ў Старасельскай вол. Мсціслаўскага павета, 52 двары, 401 жыхар. У 1914 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якой у 1923 г. перададзены нацыяналізаваны будынак. З 17.7.1924 г. ў БССР. У 1925 г. ў школе было 45 вучняў. У 1931 г. арганізаваны калгас «1 Мая», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 25 гаспадарак, меў 96 га ворыва, абслугоўваўся Мсціслаўскай МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. да вёскі далучаны хутар Літвінка. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 22 гаспадаркі, 40 жыхароў, у складзе Мсціслаўскага коннага з-да № 120 (цэнтр — в. Лютня). У 2007 г. далучана да РУСП «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Віхра». Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы шыротнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, няшчыльна індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БУДЗЁНАЎКА** (да 1941 г. Умыркі) — вёска ў Ракшынскім с/с, за 40 км на З ад Мсціслава, 69 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны, на Пд і Пн мяжуе з лесам. На ПдУ цячэ ручай Горлаўскі (прыток р. Вербаўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Заполле, Расна і далей па шашы Мсціслаў—Расна—Магілёў. 1 гаспадарка, 3 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1777 г. в. Умыркі ў Чавускай акрузе Магілёўскай губ. У 1857 г. аколіца ў Чавускім павеце. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Ак-



тывіст», які абслугоўвала Курманаўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 11.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 9 гаспадарак, 3 жыхары, у складзе калгаса імя Свярдлова (цэнтр — в. Ракшыно). У 2007 г. далучана да СВК «Сцяг працы». Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БУЛІНА** — вёска ў Падсолтаўскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Мсціслава, 120 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны, на З і ПдЗ праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Рухва (прыток р. Лядня). На У цячэ р. Смародзіна (прыток р. Мёртва). Транспартныя сувязі па шашы Мсціслаў—Горкі, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 19 гаспадарак, 36 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1638 г. с. Бяртраў Мох (яно ж Буйліна) у складзе маёнтка Беразетня Мсціслаўскага ваяв. ВКЛ, 18 гаспадарак, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1857 г. сяло Булін у Мсціслаўскім павеце, 69 рэвізскіх душ, уласнасць памешчыка, які меў тут у 1862 г. 160 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў Шамаўскай вол. Мсціслаўскага павета, 38 двароў, 251 жыхар. У 1907 г. адкрыта земская школа. У 1909 г. 43 двары, 287 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. быў 41 вучань. У крас. 1931 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 69 гаспадарак, меў 441 га ворыва, дзейнічала кузня, абслугоўваўся Курманаўскай МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 38 гаспадарак, 102 жыхары, у складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Мілейкава). Працавалі пач. школа, магазін. У 2007 г. ў СВК «Мілейкава». Планіровачна складаецца з 2 вуліц, больш працяглая з якіх дугападобная, арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Ад яе на ПдУ адыходзіць кароткая крывалінейная вуліца. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БЫКОВІЧЫ** — вёска ў Мазалаўскім с/с, за 9 км на ПдЗ ад Мсціслава, 92 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПнЗ і ПдУ мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Чорная Натапа). Транспартныя сувязі па шашы Мсціслаў—Расна—Магілёў, якая праходзіць побач з вёскай. 11 гаспадарак, 19 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 16 ст. У 1589 г. сяло ў Мсціслаўскай вол. аднайменнага павета, дзярж. ўласнасць. У час рус.-польскай вайны 1654—67 гг. спустошана. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1834 г. ў Мсціслаўскім павеце, 13 двароў, 47 жыхароў, уласнасць памешчыка, які меў тут у 1879 г. 120 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў Старасельскай вол. Мсціслаўскага павета, 11 двароў, 77 жыхароў. Непадалёку быў аднайменны фальварак (1 двор, 6 жыхароў). У 1909 г. ў сяле 13 двароў, 96 жыхароў, у фальварку 1 двор, 4 жыхары. У 1920 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў былым памешчыцкім будынку. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1925 г. ў школе навучаліся 42 вучні, дзейнічалі драматычны і с.-г. гурткі. У 1931 г. арганізаваны калгас «Вольны шлях», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 22 гаспадаркі, меў 136 га ворыва, абслугоўваўся Мсціслаўскай МТС. У 1931 г. калгасу было перададзена ўрочышча Галыншчына. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У пач. 1941 г. ў вёску пераселены жыхары в. Базылёўка. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 30 гаспадарак, 61 жыхар, у складзе калгаса «60 гадоў БССР» (цэнтр — в. Мазалава), працаваў

магазін. У 2007 г. ў СВК «Мазалаўскі». Планіровачна складаецца з 5 размежаваных вуліц, 4 з якіх мерыдыянальнай, 5-я — шыротнай арыентацыі. Забудавана пераважна аднабакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма аднаго з арганізатараў партыз. руху на тэр. Столінскага р-на ў Вял. Айч. вайну В.Я.Ключанкова (1899—жн. 1941).

**БЫСТРЫЦА** — вёска ў Капачоўскім с/с, за 18 км на З ад Мсціслава, 80 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны, на Пн і ПдУ праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Белая Натапа (прыток р. Чорная Натапа). Транспартныя сувязі па шашы Мсціслаў—Расна—Магілёў, якая праходзіць побач з вёскай. 26 гаспадарак, 44 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1816 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 4 двары, 21 жыхар, уласнасць памешчыка, які меў тут у 1864 г. 573 дзес. зямлі і карчму. У 1909 г. ў Старасельскай вол. Мсціслаўскага павета, 12 двароў, 87 жыхароў. У 1921 г. створана меліярацыйнае т-ва. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 38 гаспадарак, меў 275 га ворыва і кузню па рамонце с.-г. інвентару, абслугоўваўся Хлышчоўскай МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. да вёскі далучаны пас. Гарадок. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 51 гаспадарка, 93 жыхары, у складзе племсаўгаса «Пісараўшчына» (цэнтр — в. Капачы). У 2007 г. далучана да РУСП «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Віхра». Планіровачна складаецца з 3 вуліц. Да гал. прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, далучаюцца на Пн 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

За 0,2 км на З ад вёскі размешчана радовішча супескаў, суглінкаў і глін (разведаныя запасы 13,9 млн. $м^3$, перспектыўныя 15 млн. $м^3$).

**БЯЗВОДЗІЧЫ** — вёска ў Ходасаўскім с/с, за 24 км на ПдЗ ад Мсціслава, 82 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Альхоўка (прыток р. Белая Натапа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Залессе і далей па шашы Мсціслаў—Расна—Магілёў. 6 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 17 ст. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. спустошана. У 1737 г. сяло ў Мсціслаўскай правінцыі, дзейнічала драўляная царква. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1781 г. маёнтак у Чэрыкаўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1812 г. пабудавана новая драўляная царква. У 1834 г. 55 жыхароў, царк. ўласнасць. У 1848 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 32 двары. У 1889 г. адкрыта царк.-прыходская школа. Паводле перапісу 1897 г. 37 двароў, 205 жыхароў, 2 разы ў год (29 чэрв., 14 вер.) праводзіліся кірмашы. У 1909 г. Доўгавіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 95 двароў, 502 жыхары. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. было 76 вучняў. У 1926 г. 50 двароў, 286 жыхароў. У лютым 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны дзень», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 85 гаспадарак, меў 1098 га ворыва. У 1932 г. абсталявана кінаўстаноўка. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 21 гаспадарка, 97 жыхароў, у складзе племсаўгаса імя Тэльмана (цэнтр — в. Ходасы), працаваў магазін. У 2007 г. далучана да ААТ «Мсціслаўскі райаграпрамтэхзаб». Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БЯЗГАЧАВА** — вёска ў Капачоўскім с/с, за 14 км на З ад Мсціслава, 88 км ад



Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Чорная). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Расна—Магілёў. 14 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1768 г. маёнтак у Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1850 г. вёска, 9 двароў, 61 жыхар, дзярж. ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. ў Старасельскай вол. Мсціслаўскага павета, 16 двароў, 97 жыхароў. Побач былі 2 фальваркі (разам 7 жыхароў). У 1909 г. ў вёсцы 19 двароў, 123 жыхары, у фальварку 1 двор, 5 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 2 жыхары. Дзейнічаў ветраны млын. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Адказ інтэрвентам» (потым імя Варашылава), які ў 1932 г. аб'ядноўваў 86 гаспадарак з вёсак Бязгачава, Кляшчы, Кулікова, Макараўка, меў 604 га ворыва, абслугоўваўся Хлышчоўскай МТС, дзейнічала кузня. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1976 г. далучана в. Ваўкаўцы. У 1990 г. 22 гаспадаркі, 37 жыхароў, у складзе племсаўгаса «Пісараўшчына» (цэнтр — в. Капачы), працаваў магазін. У 2007 г. вёска далучана да РУСП «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Віхра». Планіровачна складаецца з 2 вуліц, адна з якіх крывалінейная, шыротнай арыентацыі. Ад яе на Пд адыходзіць кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БЯЛЫНЕЦ** — вёска ў Ходасаўскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Мсціслава, 72 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф узгорысты. На ПдЗ цячэ р. Чорная Натапа (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Мсціслаў—Магілёў, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 37 гаспадарак, 72 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1858 г. в. Бялінец, 118 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. ў Доўгавіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 24 двары, 113 жыхароў. У 1909 г. 26 двароў, 101 жыхар. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны будаўнік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 22 гаспадаркі, меў 137 га ворыва, абслугоўваўся Ходасаўскай МТС імя Тэльмана. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1976 г. далучаны вёскі Ходасы 2, Гарадок. У 1990 г. 83 гаспадаркі, 160 жыхароў, у складзе саўгаса імя Тэльмана (цэнтр — в. Ходасы). Працавалі пач. школа, магазін. У 2007 г. вёска далучана да ААТ «Мсціслаўскі райаграпрамтэхзаб». Планіровачна складаецца з 3 размежаваных частак: паўн.-зах. (3 узаемна перпендыкулярныя вуліцы, гал. з якіх прамалінейная, арыентавана з ПдЗ на ПнУ, былая в. Бялынец), цэнтр. (крывалінейная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ, былая в. Гарадок), паўд.-ўсх. (працяглая крывалінейная вуліца з завулкам у цэнтры, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ). Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На З — гасп. сектар.

**ВАЛОЎНІКІ** — вёска ў Мушынскім с/с, за 24 км на ПдЗ ад Мсціслава, 83 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф узгорысты. На У цячэ ручай Чарнатопка (прыток р. Чорная Натапа). Праз вёску з ПнЗ на ПдУ праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў. 43 гаспадаркі, 69 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 19 ст. Памешчык меў тут у 1840 г. 310 дзес. зямлі і вадзяны млын. У 1847 г. ў Чэрыкаўскім павеце, вёска (7 двароў, 54 жыхары) і фальварак (2 двары, 9 жыхароў), уласнасць памешчыка. У 1858 г. 23 двары, 182 жыхары. Паводле перапісу 1897 г.




вёскі Валовікі 1 (48 двароў, 362 жыхары) і Валовікі 2 (8 двароў, 43 жыхары). Побач быў аднайменны фальварак (2 двары, 9 жыхароў). У 1900 г. адкрыта царк.-прыходская школа. У 1909 г. ў Маляціцкай вол. Чэрыкаўскага павета, у в. Валоўнікі 1—56 двароў, 365 жыхароў, школа граматы, у в. Валоўнікі 2 — 35 двароў, 204 жыхары. Побач былі 2 фальваркі (2 двары, 21 жыхар). З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. былі 82 вучні. У 1931 г. арганізаваны калгас «Ударнік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 99 гаспадарак, меў 485 га ворыва, абслугоўваўся Ходасаўскай МТС імя Тэльмана, мелася кузня. У 1930-я г. вёскі Валоўнікі 1 і Валоўнікі 2 былі аб'яднаны ў адну в. Валоўнікі. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 115 двароў, 436 жыхароў, да вёскі далучаны пас. Калбаскі, вёскі Круча, Kyлікоўская, Чвёрткі, Сасноўка. У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да 3.10.1943 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў жн.—вер. 1943 г. спалілі 80 двароў. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 78 гаспадарак, 185 жыхароў, у складзе саўгаса «Перамога» (цэнтр — в. Мушына). Працавалі пач. школа, фельч.-акушэрскі пункт. У 2007 г. ў СВК «Мушына». Ёсць магазін. Планіровачна складаецца з 6 частак: цэнтр. (крывалінейная працяглая вуліца мерыдыянальнай арыентацыі, былая в. Валоўнікі), паўн. (кароткая прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, былая в. Кулікоўская), паўн.-ўсх. (кароткая крывалінейная вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі, былы пас. Калбаскі), паўд. (кароткая крывалінейная вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі, былая в. Круча), паўд.-зах. (кароткая прамалінейная вуліца з завулкам амаль мерыдыянальнай арыентацыі, былая в. Чвёрткі) і паўд.-ўсх. (крывалінейная кароткая вуліца мерыдыянальнай арыентацыі, былая в. Сасноўка). Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пн цэнтр. часткі — гасп. сектар.

*Юныя памочнікі.*



**ВАРОЎСКАГА** — вёска ў Сялецкім с/с, за 20 км на Пд ад Мсціслава, 115 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На З цячэ ручай (прыток р. Чорная Натапа), на ПнУ ёсць сажалка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Беразуйкі і далей па шашы Мсціслаў—Крычаў. 14 гаспадарак, 21 жыхар (2007).

Засн. ў 1927 г. як пасёлак імя Віроўскага. У 1931 г. арганізаваны калгас «1 Мая», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 36 гаспадарак, меў 249 га зямлі, абслугоўваўся Мсціслаўскай МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. вёска, 40 двароў, 194 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 17.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. спалілі 38 двароў. Пасля вызвалення адбудавана. У 1976 г. да вёскі далучана в. Слабада. У 1990 г. 27 гаспадарак, 64 жыхары, у складзе калгаса імя Чапаева (цэнтр — в. Сялец). У 2007 г. ў СВК імя Чапаева. Планіровачна складаецца з Г-падобнай вуліцы. Больш доўгая частка якой мае шыротную арыентацыю. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВАСІЛЬКОВА** — вёска ў Забалацкім с/с, за 32 км на ПдЗ ад Мсціслава, 70 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Горкі—Сураж. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Волчас (прыток р.



Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Пятрыгі, Бескаўка і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1834 г. 48 жыхароў, уласнасць памешчыка, які меў тут у 1857 г. 110 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў Беліцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 43 двары, 153 жыхары. У 1909 г. ў Расненскай вол., 162 жыхары. У 1910 г. адкрыта царк.-прыходская школа. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Шлях Леніна», які абслугоўвала Ходасаўская МТС імя Тэльмана. У 1932 г. калгас аб'ядноўваў 28 гаспадарак, меў 332 га ворыва. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 20.7.1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 16 гаспадарак, 35 жыхароў, у складзе саўгаса «Забалацце» (цэнтр — в. Забалацце). У 2007 г. ва УКСП «Саўгас «Забалацце». Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, абапал ракі. Забудавана пераважна аднабакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВАЎКАЎЦЫ** — вёска ў Забалацкім с/с, за 35 км на ПдЗ ад Мсціслава, 70 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны, праз вёску праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Сарачынка (прыток р. Мяртвіца) і з р. Мяртвіца (прыток р. Чорная Натапа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Забалацце і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 1683 г. як в. Ваўкалакі ў складзе маёнтка Горы Віцебскага ваяв. ВКЛ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1784 г. ў Чавускім павеце, 4 двары, 39 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 12 двароў. Паводле перапісу 1897 г. ў Беліцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 35 двароў, 234 жыхары. У 1909 г. 57 двароў, 198 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Молатава, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 35 гаспадарак, меў 196 га ворыва, абслугоўваўся Ходасаўскай МТС імя Тэльмана. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 20.7.1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў, у складзе саўгаса «Забалацце» (цэнтр — в. Забалацце). У 2007 г. ва УКСП «Саўгас «Забалацце». Традыц. драўляная сял. сядзіба з гасп. пабудовамі пастаўлена ўздоўж кароткай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі.

Радзіма бел. літаратуразнаўца і фалькларыста, чл.-кар. АН БССР І.В.Гутарава (1906—67).



*І.В.Гутараў.*

**ВІСКЛІНА** — вёска ў Ракшынскім с/с, за 30 км на З ад Мсціслава, 65 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Сураж. Рэльеф узгорысты. На ПдЗ цячэ р. Баброўка (прыток р. Вербаўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Расна—Магілёў. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1777 г. в. Піскляны ў Чавускай акрузе Магілёўскай губ. У 1858 г. 16 рэвізскіх душ. Памешчыкі Місевічы мелі тут у 1873 г. 160 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. в. Вісклін у Расненскай вол. Чавускага павета, 10 двароў, 75 жыхароў. Непадалёку былі 2 аднайменныя фальваркі: у адным — 2 двары, 8 жыхароў, у другім — 3 двары, 7 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 9 двароў, 50 жыхароў, у адным фальварку 1 двор, 5 жыхароў, у другім — 1 двор, 15 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1926 г. 12 двароў, 94 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Сцяг працы», які абслугоўвала Курманаўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 11.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 7 гаспадарак, 11 жыхароў, у складзе калгаса імя Свярдлова

(цэнтр — в. Ракшыно). У 2007 г. вёска далучана да СВК «Сцяг працы». Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, уздоўж ракі, і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЫШОВА** — вёска ў Раздзельскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Мсціслава, 125 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На ПдЗ цячэ р. Рамясцвянка (прыток р. Быстрая). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Горкі. 14 гаспадарак, 27 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. Памешчык меў тут у 1867 г. 659 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў Шамаўскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ., 19 двароў, 162 жыхары. Непадалёку існаваў выселак Вышова (ён жа Цянгелеўка), 2 двары, 14 жыхароў. У 1909 г. 18 двароў, 156 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1924 г. створана с.-г. т-ва. У 1926 г. хутары, 38 гаспадарак. У сярэдзіне 1920-х г. працавала закупачна-збытавое т-ва. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Дзяржынскага, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 41 гаспадарку, меў 454 га ворыва. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 26 гаспадарак, 68 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Курманава), працаваў магазін. У 2007 г. ў СВК «Курманава». Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЯЛІКАЯ ЗЯЦІЦА** — вёска ў Сялецкім с/с, за 8 км на ПдУ ад Мсціслава, 103 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пд цячэ р. Малатоўня (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Крычаў. 15 гаспадарак, 27 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. У 1850 г. ў вёсцы засн. сукнавальня. У 1858 г. ў Мсціслаўскім павеце Магілёўскай губ., 68 рэвізскіх душ. Памешчык меў тут у 1867 г. 684 дзес. зямлі, карчму, млын, сукнавальню. Паводле перапісу 1897 г. ў Казіміраваслабодскай вол. Мсціслаўскага павета, 21 двор, 171 жыхар. Побач існаваў аднайменны фальварак — 1 двор, 29 жыхароў, вадзяны млын. У 1909 г. ў вёсцы 25 двароў, 189 жыхароў, у фальварку — 1 двор, 18 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў БССР. У 1926 г. 39 двароў, 245 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Прамень рэвалюцыі», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 32 гаспадаркі, меў 211 га зямлі. Абслугоўвала калгас Мсціслаўская МТС. З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 42 двары, 171 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 17.7.1941 г. да 28.9.1943 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 19 гаспадарак, 54 жыхары, у складзе калгаса імя Кірава (цэнтр — в. Лар'янава). У 2007 г. вёска далучана да СВК «Мазалаўскі». Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЯЛІКАЯ ЛЕШЧАНКА** — вёска ў Краснагорскім с/с, за 4 км на ПдУ ад Мсціслава, 99 км ад Магілёва, 23 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф узгорысты. На Пн цячэ р. Серабранка (прыток р. Віхра). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Шумянічы і далей па шашы Мсціслаў—Крычаў. 20 гаспадарак, 30 жыхароў (2007).

У 1858 г. вёска ў Мсціслаўскім павеце Магілёўскай губ., 31 рэвізская душа. Паводле перапісу 1897 г. ў Казіміраслабодскай вол. Мсціслаўскага павета, 28 двароў, 207 жыхароў. У 1909 г. 30 двароў, 262 жыхары. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Будзённага, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 38 гаспадарак, меў 188 га ворыва, абслугоўваўся



Мсціслаўскай МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 30 двароў. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1990 г. 33 гаспадаркі, 69 жыхароў, у складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Каробчына), У 2007 г. вёска далучана да СВК «Сож-Агра». Планіроўка прамавугольная. Тры кароткія прамалінейныя вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ, перакрыжаваны перпендыкулярна 2 кароткімі прамалінейнымі вуліцамі. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЯРКЕЕЎШЧЫНА** — вёска ў Мушынскім с/с, за 19 км на ПдЗ ад Мсціслава, 88 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ р. Белая Натапа (прыток р. Чорная Натапа), а на Пд — ручай, яе прыток. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Новае Сяло і далей па шашы Мушына—Мсціслаў. 8 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 20 ст. У 1909 г. вёска ў Казіміраваслабодскай вол. Мсціслаўскага павета, 8 двароў, 58 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1926 г. 9 двароў, 65 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Ходасаўская МТС імя Тэльмана. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да 3.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 14 гаспадарак, 37 жыхароў, у складзе саўгаса «Перамога» (цэнтр — в. Мушына). У 2007 г. ў СВК «Мушына». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГАЛКАВІЧЫ** — вёска ў Сялецкім с/с, за 7 км на Пд ад Мсціслава, 102 км ад Магілёва, 26 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ ручай Галкоўскі (прыток р. Малатоўня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Лар'янава і далей па шашы Мсціслаў—Крычаў. 16 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 19 ст. У 1825 г. 16 двароў, уласнасць царквы. У 1834 г. аколіца ў Мсціслаўскім павеце, уласнасць памешчыка, які меў тут у 1870 г. 380 дзес. зямлі. У 1909 г. ў Казіміраваслабодскай вол. Мсціслаўскага павета, у вёсцы 6 двароў, 41 жыхар, у акалотку 20 двароў, 123 жыхары, у фальварку 1 двор, 5 жыхароў, на хутары 1 двор, 4 жыхары. У 1919 г. адкрыта школа, якой у 1925 г. быў перададзены памешчыцкі будынак у б. фальварку Галковічы. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1925 г. ў школе было 38, а ў 1926 г. — 72 вучні. У 1926 г. в. Галкавічы (яна ж Галкаўшчына), 56 двароў, 299 жыхароў. У 1928 г. пачаў працаваць торфазавод, а ў 1931 г. арганізаваны калгас «13 гадоў Кастрычніцкай рэвалюцыі», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 52 гаспадаркі, меў 463 га ворыва, абслугоўваўся Мсціслаўскай МТС. У 1931 г. калгасу былі перададзены ўрочышчы Лібелы і Чарненшчына. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 17.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 26 гаспадарак, 49 жыхароў, у складзе калгаса імя Кірава (цэнтр — в. Лар'янава). У 2007 г. вёска далучана да СВК «Мазалаўскі». Планіроўка прамавугольная. Тры кароткія прамалінейныя вуліцы шыротнай арыентацыі перакрыжаваны 2 кароткімі прамалінейнымі вуліцамі. Забудавана двухбакова, няшчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГІМБАТАЎКА** — вёска ў Лютненскім с/с, за 9 км на Пн ад Мсціслава, 114 км ад Магілёва, 114 км ад Магілёва, 28 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны, на ПдУ мяжуе з лесам, цячэ р. Радабуж (прыток р. Віхра). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Чырвоны Бераг, Зарэчча і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў. 8 гаспадарак, 20 жыхароў (2007).


А.Дз.Лебедзеў.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. Памешчык меў тут у 1854 г. 218 дзес. зямлі. У 1857 г. вёска ў Мсціслаўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1875 г. адкрыта школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1900 г. будынак згарэў, і школа размясцілася ў наёмным памяшканні. Паводле перапісу 1897 г. ў Аслянскай вол. Мсціслаўскага павета, 20 двароў, 72 жыхары. Непадалёку быў аднайменны фальварак, 1 двор, 8 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 24 двары, 119 жыхароў, у фальварку 1 двор, 6 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 33, а ў 1926 — 52 вучні. У 1926 г. 35 двароў, 210 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Вольная праца», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 59 гаспадарак, меў 388 га ворыва, абслугоўваўся Мсціслаўскай МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 17 гаспадарак, 33 жыхары, у складзе саўгаса «Мсціслаўскі» (цэнтр – г. Мсціслаў). Працавалі магазін, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. У 2007 г. вёска далучана да СВК «Мазалаўскі». Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай пераважна аднабакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма чл.-кар. АН БССР В.І.Семянкова (нар. ў 1925), бел. гісторыка, кандыдата гіст. навук А.Дз.Лебедзева (нар. ў 1936).

**ГЛІННЕ** – вёска ў Раздзельскім с/с, за 32 км на ПнЗ ад Мсціслава, 127 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша–Сураж. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. На ПнУ цячэ р. Рамясцвянка (прыток р. Быстрая), на З і У – ручаі, яе прытокі. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Раздзел і далей па шашы Мсціслаў–Горкі. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. У 1816 г. вёска ў Чэрыкаўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 15 двароў, 111 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. в. Глінна, 19 двароў, 116 жыхароў. Побач былі аднайменны фальварак, 1 двор, 3 жыхары, частка жыхароў займалася валяльным, шавецкім і кравецкім промысламі. У 1909 г. вёска (19 двароў, 159 жыхароў) і фальварак (1 двор, 4 жыхары) у Шамаўскай вол. Мсціслаўскага павета. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны бранявік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 43 гаспадаркі, меў 250 га ворыва, абслугоўваўся Курманаўскай МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 23 гаспадаркі, 47 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Курманава), працаваў магазін. У 2007 г. ў СВК «Курманава». Дзейнічае магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай працяглай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай пераважна аднабакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГУТАРАЎШЧЫНА** – вёска ў Капачоўскім с/с, за 11 км на З ад Мсціслава, 87 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша–Сураж. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. На У цячэ ручай (прыток р. Чорная Натапа), на ПдУ – возера. Транспартныя сувязі па шашы Мсціслаў–Расна–Магілёў. 13 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).

Паводле перапісу 1897 г. в. Гутараўшчына (яна ж Сахано) у Старасельскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ., 7 двароў, 46 жыхароў. У 1909 г. 6 двароў, 25 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Мсціслаўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1976 г. далучана в. Глазаўшчына. У 1990 г. 30 гаспадарак, 59 жыхароў, у складзе саўгаса «Пісараўшчына» (цэнтр — в. Капа-



чы), працаваў магазін. У 2007 г. вёска далучана да РУСП «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Віхра». Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных кароткіх вуліц амаль мерыдыянальнай арыентацыі, якія на Пд падыходзяць пад вострым вуглом адна да другой. Забудавана аднабакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДАНІЛАЎСК** — вёска ў Падсолтаўскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Мсціслава, 115 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На ПнУ і У цячэ р. Белая Натапа (прыток р. Чорная Натапа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Падсолтава і далей па шашы Мсціслаў—Горкі. 11 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

У 1834 г. вёска ў Мсціслаўскім павеце, 7 двароў, 30 жыхароў, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Старасельскай вол. Мсціслаўскага павета, 33 двары, 225 жыхароў. Непадалёку была аднайменная сядзіба, 1 двор, 7 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 38 двароў, 249 жыхароў, у сядзібе — 1 двор, 4 жыхары. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 48 гаспадарак, меў 276 га ворыва, абслугоўваўся Курманаўскай МТС; дзейнічала кузня. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На могілках у брацкай магіле пахаваны 4сав. воіны, сярод якіх байцы 36-й стралк. дывізіі, што загінулі ў вер. 1943 г. У 1990 г. 28 гаспадарак, 60 жыхароў, у складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Падсолтава). У 2007 г. ў СВК «Савецкая Беларусь». Планіровачна складаецца з 3 (адна працяглая, 2 другія — кароткія) крывалінейных, амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і забудаваных пераважна аднабакова традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДЗЕСНАКІТА** — вёска ў Лютненскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Мсціслава, 107 км ад Магілёва, 31 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Праз вёску цячэ р. Чорная (прыток р. Віхра). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Лютня і далей па шашы Мсціслаў—Горкі. 22 гаспадаркі, 33 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 18 ст. У 1716 г. вёска ў валоданні езуіцкага калегіума. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1797 г. фальваркі Дзеснакіта і Гразь. У 1834 г. вёска ў Мсціслаўскім павеце, уласнасць памешчыка, які меў тут у 1850 г. 164 дзес. зямлі і карчму. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Старасельскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ., пры паштовай дарозе Мсціслаў—Шамава—Горкі, 28 двароў, 261 жыхар, вадзяны млын, крупадзёрка. Побач былі аднайменныя карчма (1 двор, 6 жыхароў), сядзіба (1 двор, 11 жыхароў, вадзяны млын), фальварак (1 двор, 9 жыхароў, ветраны млын) і аколіца (4 двары, 17 жыхароў). У 1905 г. адкрыта вінная крама, у 1906 г. — земская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1909 г. вёска (43 двары, 267 жыхароў), сядзіба (1 двор, 4 жыхары) і фальварак (1 двор, 5 жыхароў). На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якой у 1918 г. перададзены былы памешчыцкі будынак. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1925 г. ў школе было 48 вучняў. У кастр. 1930 г. арганізаваны калгас «1 Мая», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 76 гаспадарак, меў 494 га ворыва, абслугоўваўся Мсціслаўскай МТС; дзейнічала кузня. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 34 гаспадаркі, 83 жыхары, у складзе Мсціслаўскага коннага з-да № 120 (цэнтр — г. Мсціслаў). У 2007 г. вёска далучана да РУСП «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Віхра». Ёсць магазін. Рака падзяляе вёску на зах. (3 кароткія прамалінейныя вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ) і ўсх. (Г-падобная вуліца, больш працяглая з якіх арыентавана з ПдЗ

на ПнУ, уздоўж ракі) часткі. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДЗЕТКАВІЧЫ** — былая вёска ў Мазалаўскім с/с, за 8 км на ПнЗ ад Мсціслава, 90 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На Пн бярэ пачатак р. Суточка (прыток р. Віхра). Транспартныя сувязі па шашы Мсціслаў—Магілёў, якая праходзіць непадалёку ад вёскі.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. У 1825 г. вёска (1 двор), уласнасць царквы. У 1834 г. ў Мсціслаўскім павеце, 6 двароў, 41 жыхар, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 20 рэвізскіх душ. Паводле перапісу 1897 г. ў Казіміраваслабодскай вол. Мсціслаўскага павета, 17 двароў, 145 жыхароў. Побач быў аднайменны фальварак, 1 двор, 1 жыхар. У 1909 г. вёска (16 двароў, 145 жыхароў) і аднайменны фальварак (3 двары, 15 жыхароў). З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1926 г. адкрыта школа, у якой было 40 вучняў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 20 гаспадарак, меў 183 га ворыва, абслугоўваўся Мсціслаўскай МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 20 двароў, 55 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 4 гаспадаркі, 9 жыхароў, у складзе саўгаса «Мсціслаўскі» (цэнтр — г. Мсціслаў). У 2007 г. вёска была далучана да СВК «Мазалаўскі». Традыц. драўляныя сял. сядзібы былі пастаўлены каля прасёлачнай дарогі, уздоўж ракі.

**ДОБРАЕ** — вёска ў Мушынскім с/с, за 22 км на ПдЗ ад Мсціслава, 97 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф узгорысты. На ПнУ цячэ р. Белая Натапа (прыток р. Чорная Натапа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Мушына і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў. 40 гаспадарак, 61 жыхар (2007).

За 2 км на Пд ад вёскі захавалася гарадзішча эпохі Кіеўскай Русі, якое сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Першае пісьмовае ўпамінанне аб вёсцы адносіцца да 1499 г., калі тут быў гаспадарскі двор — уладанне кн. Жаслаўскага. У 1560 г. сяло ў Мсціслаўскай вол., дзярж. ўласнасць. У 1604 г. сяло ў Пуцькаўскім войтаўстве Магілёўскага староства, 30 валок зямлі, дзярж. ўласнасць. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. спустошана ў выніку ваен. дзеянняў. У 1763 г. ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, у складзе маёнтка Лапацін, уласнасць памешчыка. Каля вёскі адбылася бітва рус. і шведскіх войскаў у час Паўн. вайны 1700—21. На досвітку 30.8. 1708 г. на р. Чорная Натапа частка рус. арміі на чале з ген. Галіцыным раптоўна атакавала шведскае войска. Тры шведскія палкі былі поўнасцю разбіты (3 тыс. салдат забіты і 3 тыс. паранены). Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1848 г. памешчык меў у вёсцы 130 дзес. зямлі і вадзяны млын. У 1880 г. 107 двароў, 68 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася сталярным, шавецкім і кравецкім промысламі. Дзейнічала царква, а ў 1895 г. адкрыта царк.-прыходская школа. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 127 двароў, 825 жыхароў. У 1909 г. 120 двароў, 655 жыхароў, працавалі


*За ракой — пасевы рапсу.*



вінная крама і вадзяны млын. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. было 112 вучняў. У 1926 г. 219 двароў, 1137 жыхароў. У крас. 1930 г. арганізаваны калгас «12 гадоў Кастрычніцкай рэвалюцыі», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 73 гаспадаркі, меў 619 га ворыва, абслугоўваўся Ходасаўскай МТС імя Тэльмана. Дзейнічалі кузня і ваўначоска. У 1935 г. адкрыты клуб. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да 3.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 53 гаспадаркі, 114 жыхароў, у складзе саўгаса «Перамога» (цэнтр — в. Мушына). Працавалі пач. школа, б-ка, клуб, магазін. У 2007 г. ў СВК «Мушына». Дзейнічае магазін. Планіровачна складаецца з 3 вуліц, гал. з якіх працяглая крывалінейная, з завулкамі, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ уздоўж ракі, 2-я — кароткая прамалінейная, праходзіць амаль паралельна да галоўнай, 3-я — на Пн, за ракой, крывалінейная кароткая, амаль мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — у цэнтры вёскі.

**ДОЎГАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Доўгавіцкага с/с, за 33 км на ПдЗ ад Мсціслава, 78 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Кашанка (прыток р. Проня), на ПнУ пачынаецца р. Волчас (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Старынка, Краснае і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў. 144 гаспадаркі, 338 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 17 ст. У 1635 г. с. ў Пуцькаўскім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета, дзярж. ўласнасць. Дзейнічалі млын і карчма. У 1742 г. сяло Доўгавічы (яно ж Парапшы) у Пуцькаўскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, 45 двароў, царква, млын, карчма, дзярж. ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. сяло ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1816 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 86 двароў, 466 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1848 г. 93 двары, дзейнічала драўляная царква. У 1870 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1889 г. навучаліся 41 хлопчык і 3 дзяўчынкі. У 1886 г. цэнтр воласці Чэрыкаўскага павета, 73 двары, 487 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся сталярным промыслам. Паводле перапісу 1897 г. 113 двароў, 722 жыхары, школа, хлебазапасны магазін, карчма, багадзельня, 2 вадзяныя млыны, царква; 2 разы ў год праводзіліся кірмашы. У 1909 г. 135 двароў, 727 жыхароў, пабудавана памяшканне для школы. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 87 вучняў. З 20.8.1924 г. ў Расненскім р-не Калінінскай акругі, цэнтр Доўгавіцкага с/с. У 1924 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, пачалі дзейнічаць хата-чытальня, б-ка, пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. 156 двароў, 882 жыхары. З 9.6.1927 г. ў складзе Аршанскай акругі, з



*Помнік землякам, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, у в. Доўгавічы.*

26.7.1930 г. ў Расненскім, з 25.7.1931 г. ў Мсціслаўскім р-нах. У 1930 г. арганізавана камуна, а ў 1931 г. — калгас «Ударнік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 75 гаспадарак, меў 391 га ворыва, абслугоўваўся Ходасаўскай МТС імя Тэльмана. У 1937 г. пабудавана новае памяшканне для 7-гадовай школы. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 1939 г. працаваў клуб. У Вял. Айч. вайну з 10.7.1941 г. да 29.9.1943 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На ўшанаванне памяці 178 землякоў, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у 1965 г. ў цэнтры вёскі пастаўлена стэла. У 1990 г. 201 гаспадарка, 466 жыхароў, цэнтр калгаса «Ударнік». Працавалі сярэдняя школа (16 настаўнікаў), б-ка, бальніца, аптэка, дзіцячы сад-яслі, аддз. сувязі, гандл. цэнтр, аўтаматычная тэлеф. станцыя, швейная майстэрня, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, спажывецкае т-ва. У 2007 г. цэнтр СВК «Усход», школа, магазін, аддз. сувязі. Ген. план забудовы вёскі распрацаваны ў 1974 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Планіроўка прамавугольная. Чатыры прамалінейныя вуліцы, арыентаваныя з ПдУ на ПнЗ, перакрыжаваны перпендыкулярна 6 прамалінейнымі вуліцамі. На ПнЗ адасоблена праходзіць новая вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаваная мураванымі аднакватэрнымі дамамі. Астатняя жылая забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на ПнЗ і Пд.


*Ф.М.Малашанка.*

Радзіма Героя Сав. Саюза Я.І.Качанава (1915—45), які вызначыўся ў баях супраць ням.-фаш. захопнікаў на р. Одэр; пражэктарыста яфрэйтара Ф.М.Малашанкі (1967—87), які загінуў у Афганістане пры выкананні службовых абавязкаў.

У склад Доўгавіцкага с/с уваходзяць 4 вёскі.

**ДУБАСНА** — вёска ў Лютненскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Мсціслава, 113 км ад Магілёва, 37 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Свердзел (прыток р. Чорная). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Дзеснакіта, Лютня і далей па шашы Мсціслаў—Горкі. 25 гаспадарак, 43 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1768 г. маёнтак у Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шлях. уласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Памешчык меў тут у 1862 г. 681 дзес. зямлі. У 1882 г. засн. вінакурны з-д. У 1909 г. фальварак і хутар у Бохацкай вол. Мсціслаўскага павета. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Мсціслаўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1968 г. далучана в. Леснікі. У 1900 г. 50 гаспадарак, 128 жыхароў, у складзе Мсціслаўскага коннага з-да № 120 (цэнтр — в. Лютня). Працавалі магазін, фельч.-акушэрскі пункт. У 2007 г. вёска далучана да РУСП «Селекцыйнагібрыдны цэнтр «Віхра». Дзейнічае магазін. Планіровачна складаецца з 3 крывалінейных вуліц, якія ад невялікай плошчы адыходзяць на ПнУ, ПдУ і ПдЗ. Адасоблена на ПдЗ праходзіць кароткая крывалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ (былая в. Леснікі). Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Былая в. Леснікі — радзіма доктара медыцынскіх навук, праф. А.В.Маслакова (нар. ў 1927).

**ДУБЕЙКАВА** — вёска ў Мушынскім с/с, за 10 км на ПдЗ ад Мсціслава, 96 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пд цячэ р. Малатоўня (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Галкавічы і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў. 18 гаспадарак, 37 жыхароў (2007).

У цэнтры вёскі знаходзіцца курганны могільнік эпохі Кіеўскай Русі, які свед-



чыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вёска вядома з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. аколіца ў Казіміраваслабодскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ., 11 двароў, 98 жыхароў. У 1909 г. 11 двароў, 57 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў БССР. У 1926 г. 12 двароў, 77 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны саўгас «Перамога». З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 18 двароў, 54 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да 3.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. спалілі 16 двароў. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 20 гаспадарак, 56 жыхароў, у складзе саўгаса «Перамога» (цэнтр — в. Мушына). У 2007 г. ў СВК «Мушына». Планіровачна складаецца з 3 вуліц. Ад гал. крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, адыходзяць амаль перпендыкулярна на ПнЗ 2 кароткія вуліцы. Забудавана пераважна двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма бел. архітэктара, будаўніка, паэта і фалькларыста Л.І.Вітан-Дубейкаўскага (Дубяйкоўскага; 1869 ці 1867—1940).

**ДУБРОЎКА** — былая вёска ў Мушынскім с/с, за 25 км на Пд ад Мсціслава, 100 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф узгорысты. На ПнУ цячэ р. Белая Натапа (прыток р. Чорная Натапа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Добрае, Мушына і далей па шашы Магілёў—Мсціслаў.

У 1834 г. вёска ў Мсціслаўскім павеце, 3 двары, 10 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1852 г. ў складзе маёнтка Значова. Памешчык меў тут у 1873 г. 515 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў Казіміраваслабодскай вол. Мсціслаўскага павета, 4 двары, 28 жыхароў. У 1910 г. адкрыта царк.-прыходская школа. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1926 г. вёскі Дуброўка (10 двароў, 51 жыхар), Дуброўка 1 (7 двароў, 47 жыхароў) і Дуброўка 2 (8 двароў, 49 жыхароў). У 1931 г. арганізаваны калгас «1 Мая», які абслугоўвала Мсціслаўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 17 двароў, 41 жыхар, да вёскі далучаны пас. Зялёны Дуб. У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да 3.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. спалілі 15 двароў, загубілі 4 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары, у складзе саўгаса «Перамога» (цэнтр — в. Мушына). Традыц. драўляныя сял. сядзібы былі пастаўлены ўздоўж кароткай крывалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі.

**ДУДЧЫЦЫ** — вёска ў Сялецкім с/с, за 13 км на Пд ад Мсціслава, 108 км ад Магілёва, 25 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Сураж. Рэльеф узгорысты. На Пн цячэ р. Малатоўня (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Крычаў. 19 гаспадарак, 24 жыхары (2007).

У 1846 г. вёска (10 зямельных участкаў) у складзе казённага маёнтка Шараева—Лар'янаўскае Мсціслаўскага павета. Паводле перапісу 1897 г. ў Казіміраваслабодскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ., 17 двароў, 122 жыхары. У 1909 г. 20 двароў, 151 жыхар. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. Адкрылася прац. школа 1-й ступені. З 20.8.1924 г. да 26.9.1963 г. цэнтр сельсавета. У 1926 г. 37 двароў, 232 жыхары. У 1929 г. арганізаваны калгас «Новы рассвет», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 35 гаспадарак, меў 272 га раллі, абслугоўваўся Мсціслаўскай МТС. Дзейнічала кузня. З 20.2.938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 40 двароў, 215 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 17.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. спалілі 39 двароў. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 27 гаспадарак, 56 жыхароў, у складзе калгаса імя Чапаева (цэнтр — в. Сялец), дзейнічала стайня. З 2007 г. ў СВК імя Чапаева. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.



*Л.І.Вітан-Дубейкаўскі.*

**ЖЫГАЛАВА** — вёска ў Сялецкім с/с, за 12 км на Пд ад Мсціслава, 107 км ад Магілёва, 28 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Праз вёску цячэ р. Малатоўня (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вялікая Зяціца і далей па шашы Мсціслаў—Крычаў. 11 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

У 1834 г. вёска (10 двароў, 55 жыхароў) і фальварак (4 двары) у Мсціслаўскім павеце, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Казіміраваслабодскай вол. Мсціслаўскага павета, 16 двароў, 107 жыхароў. У 1909 г. 16 двароў, 115 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1926 г. 153 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Прасвет краіны», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 20 гаспадарак, меў 181 га ворыва, абслугоўваўся Мсціслаўскай МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 17.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 24 гаспадаркі, 56 жыхароў, у складзе калгаса імя Кірава (цэнтр — в. Лар'янава). У 2007 г. вёска далучана да СВК «Мазалаўскі». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі з завулкам уздоўж ракі. На Пн, за ракой, адасоблена праходзіць кароткая крывалінейная вуліца (былая в. Пяцідворка). Забудавана двухбакова, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАБАЛАЦЦЕ** — вёска, цэнтр Забалацкага с/с, за 30 км на ПдЗ ад Мсціслава, 67 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны, на ПнУ мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Мяртвіца (прыток р. Чорная Натапа). Транспартныя сувязі па шашы Мсціслаў—Магілёў, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 157 гаспадарак, 396 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1777 г. сяло ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1858 г. 163 рэвізскія душы. Паводле перапісу 1897 г. ў Беліцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 104 двары, 642 жыхары, піцейны дом. У пач. 20 ст. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1905 г. навучалася 60 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі. У 1909 г. ў Беліцкай вол., 2 вёскі Забалацце: у адной — 146 двароў, 645 жыхароў, у другой — 11 двароў, 35 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. быў 71 вучань. З 1924 г. цэнтр сельсавета Расненскага р-на Калінінскай акругі. У 1925 г. адкрыта хата-чытальня. У 1931 г. ў в. Забалацце 1 арганізаваны калгас «Чырвоны усход» (у 1932 г. 37 гаспадарак, 218 га ворыва), у в. Забалацце 2 — калгас «Чырвоная рунь» (у 1932 г. 40 гаспадарак, 301 га ворыва, конная крупадзёрка). Абслугоўваліся калгасы Ходасаўскай МТС імя Тэльмана. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. да вёскі далучаны пасёлкі Жолаб, Малькоўка, хутары Мохава, Рошча, Украіна. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паблізу дзейнічаў партыз. атрад «Чапай» 13-й партыз. брыгады. На ўшанаванне памяці 216 землякоў — сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць гітлераўцаў, у 1968 г. ў цэнтры вёскі пастаўлена стэла. У 1990 г. 152 гаспадаркі, 401 жыхар, цэнтр саўгаса «Забалацце» (створаны ў 1963). У вёсцы працавалі дзіцячы сад-яслі, 8-гадовая школа, б-ка, клуб, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, грамадская лазня, сталовая, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 2007 г. цэнтр УКСП «Саўгас «Забалацце», дзіцячы сад-яслі, школа, б-ка, клуб, Мсціслаўскі УКП «Бытпаслугі», магазін, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Ген. план забудовы вёскі распрацаваны ін-там «Магілёўграмадзянпраект» у 1984 г. Планіровачна складаецца з 3 частак: цэнтр. (2 крывалінейныя вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, былая в. Забалацце), паўн. (прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, былая в. Забалацце 2) і паўд.-зах. (2 кароткія размежаваныя вуліцы,



арыентаваныя з ПдУ на ПнЗ, б. вёскі Рошча і Барсукі). Адм.-грамадскі цэнтр размешчаны вакол плошчы, утворанай пашырэннем зах. вуліцы цэнтр. часткі. Забудавана двухбакова, няшчыльна, пераважна традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры, на ПдЗ і Пд мураваныя аднакватэрныя дамы.

У склад Забалоцкага с/с уваходзяць 12 вёсак.

**ЗАЛАЧЭВА** — вёска ў Мушынскім с/с, за 19 км на ПдЗ ад Мсціслава, 92 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На З цячэ р. Белая Натапа (прыток р. Чорная Натапа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Мушына і далей па шашы Магілёў—Мсціслаў. 12 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).

За 1,5 км на Пн ад вёскі, на высокім левым беразе р. Белая Натапа захавалася гарадзішча, якое сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Першае ўпамінанне аб вёсцы ў пісьмовых крыніцах адносіцца да 1507 г. У 1690 г. с. Залачоў, меўся млын, уласнасць памешчыка. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. с. Злочаў у Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1817 г. засн. сукнавальня. У 1852 г. ў Мсціслаўскім павеце, побач быў фальварак (2 двары), уласнасць памешчыка. Дзейнічалі з-д буйной рагатай жывёлы, цагельня, кузня, вадзяны млын. Памешчык меў тут у 1855 г. 943 дзес. зямлі, вадзяны млын і сукнавальню. У 1858 г. засн. вінакурны з-д (у 1881 г. 10 рабочых). Паводле перапісу 1897 г. ў Маляціцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 25 двароў, 188 жыхароў. Непадалёку існавалі 2 аднайменныя фальваркі (6 двароў, 31 жыхар, вадзяны млын). У 1909 г. ў сяле 35 двароў, 193 жыхары, у фальварку 1 двор, 6 жыхароў, у маёнтку — 22 жыхары. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1926 г. 81 двор, 386 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Парыжскай Камуны, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 46 гаспадарак, меў 189 га ворыва, абслугоўваўся Ходасаўскай МТС імя Тэльмана. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 15.7. 1941 г. да 3.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1956 г. далучана в. Свабода. У 1990 г. 17 гаспадарак, 41 жыхар, у складзе саўгаса «Перамога» (цэнтр — в. Мушына). У 2007 г. ў СВК «Мушына». Планіроўка Т-падобная. Да больш працяглай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі далучаецца на Пн прамалінейная вуліца шыротнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАЛЕССЕ** — вёска ў Капачоўскім с/с, за 23 км на З ад Мсціслава, 85 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны, на ПнЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Капачы і далей па шашы Мсціслаў—Расна—Магілёў. 19 гаспадарак, 26 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. У 1850 г. ў Мсціслаўскім павеце, вёска і фальварак, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Доўгавіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 19 двароў, 141 жыхар. У 1909 г. 22 двары, 96 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1926 г. хутары, 28 двароў, 238 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Сталіна, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 61 гаспадарку з вёсак Залессе і Лукінічы, меў 491 га ворыва, абслугоўваўся Хлышчоўскай МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 32 гаспадаркі, 71 жыхар, у складзе саўгаса «Пісараўшчына» (цэнтр — в. Капачы). У 2007 г. вёска далучана да РУСП «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Віхра». Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, злучаных мясц. дарогай і арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудавана пераважна двухбакова, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.


*А.І.Падлужны.*

**ЗАЛЕССЕ** — вёска ў Падсолтаўскім с/с, за 21 км на ПнЗ ад Мсціслава, 116 км ад Магілёва, 28 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Горкі. 15 гаспадарак, 27 жыхароў (2007).

У 1834 г. вёска ў Мсціслаўскім павеце, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Старасельскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ., 33 двары, 216 жыхароў, школа граматы. Побач была аднайменная аколіца, 5 двароў, 24 жыхары. У 1909 г. 38 двароў, 238 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1925 г. адкрыта школа, у якой у 1926 г. было 35 вучняў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны прасвет», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 43 гаспадаркі, меў 331 га ворыва, абслугоўваўся Курманаўскай МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 18 гаспадарак, 53 жыхары, у складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Мілейкава). Працавала пач. школа. У 2007 г. ў складзе СВК «Мілейкава». Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма бел. мовазнаўца, доктара філалагічных навук, праф., акадэміка НАН Беларусі А.І.Падлужнага (1935—2005).

**ЗАНЬКАЎШЧЫНА** — вёска ў Падсолтаўскім с/с, за 17 км на ПнЗ ад Мсціслава, 112 км ад Магілёва, 26 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Гаранка (прыток р. Чорная). Транспартныя сувязі па шашы Мсціслаў—Горкі, якая праходзіць побач з вёскай. 25 гаспадарак, 74 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. спустошана ў выніку ваен. дзеянняў. У 1713 г. с. Зянькаўшчына ў Аршанскім павеце. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1834 г. ў Мсціслаўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1857 г. в. Вялікая Занькаўшчына і фальварак Меншая Занькаўшчына, уласнасць памешчыка. У 1909 г. побач з вёскай былі 2 фальваркі: у фальварку Занькаўшчына 1 — 1 двор, 7 жыхароў, у фальварку Занькаўшчына 2 — 4 двары, 26 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У маі 1931 г. арганізаваны калгас «Серп і молат», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 71 гаспадарку, меў 445 га ворыва і кузню, абслугоўваўся Курманаўскай МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 23 гаспадаркі, 86 жыхароў, у складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Падсолтава). Ёсць магазін. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх прамалінейных, размежаваных паміж сабой вуліц, адна арыентавана мерыдыянальна, другая — з ПдЗ на ПнУ. Забудавана аднабакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд ад вёскі размешчаны гасп. сектар.

**ЗАПОЛЛЕ** — вёска ў Ракшынскім с/с, за 42 км на З ад Мсціслава, 75 км ад Магілёва, 40 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ПнЗ цячэ ручай (прыток р. Вербаўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Будзёнаўка, Ракшыно і далей па шашы Мсціслаў—Расна—Магілёў. 12 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска Заполле ў Чавускай акрузе Магілёўскай губ. У 1858 г. 41 рэвізская душа, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Расненскай вол. Чавускага павета, 19 двароў, 154 жыхары. У 1909 г. 24 двары, 167 жыхароў. Побач былі аднайменныя аколіца (6 двароў, 38 жыхароў) і выселак (1 двор, 7 жыхароў). З 17.7.1924 г. ў БССР. У 1925 г. адкрыта школа, у якой у 1927 г. было 45 вучняў. Працаваў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1931 г. арганізаваны калгас «Актывіст», які аб-



слугоўваўся Курманаўскай МТС. З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 11.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 30 гаспадарак, 58 жыхароў, у складзе калгаса імя Свярдлова (цэнтр — в. Ракшына). У 2007 г. вёска далучана да СВК «Сцяг працы». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАСОЖЖА** (да 1940 г. Парадзінскі хутар) — вёска ў Краснагорскім с/с, за 10 км на ПдУ ад Мсціслава, 105 км ад Магілёва, 29 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Парадзіна, Каробчына і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1929 г. арганізаваны калгас «1 Мая», які ў 1930-я г. абслугоўвала Мсціслаўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 21 гаспадарка, 57 жыхароў, у складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Каробчына). У 2007 г. вёска далучана да СВК «Сож-Агра». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ІВОНЫ** — вёска ў Падсолтаўскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Мсціслава, 97 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ПдЗ цячэ р. Рамясцвянка (прыток р. Быстрая). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Падсолтава і далей па шашы Мсціслаў—Горкі. 16 гаспадарак, 19 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 19 ст. Памешчык меў тут у 1841 г. 185 дзес. зямлі. У 1857 г. вёска Іваны Мсціслаўскага павета. У 1909 г. ў Шамаўскай вол. Мсціслаўскага павета, 20 двароў, 132 жыхары; у аднайменным фальварку — 13 двароў, 67 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зара», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 30 гаспадарак, меў 155 га ворыва, абслугоўваўся Курманаўскай МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На вясковых могілках пахаваны воін 36-й стралк. дывізіі, які загінуў у баі супраць акупантаў. У 1990 г. 40 гаспадарак, 90 жыхароў, у складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Падсолтава). У 2007 г. ў СВК «Савецкая Беларусь». Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных, амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ, уздоўж ракі. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ІЛЬНОЗАВОД** — былы пасёлак у Доўгавіцкім с/с, за 27 км на З ад Мсціслава, 83 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф узгорысты. У цэнтры пасёлка невялікае возера. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Ясьманава, Кісялёўка і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў.

Засн. ў 1934 г. ў сувязі з будаўніцтвам Печкавіцкага лёназавода № 38. У 1932—35 гг. тут працавалі 108 рабочых, якія выраблялі лёнавалакно і кудзелю. З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1985 г. на лёназаводзе працавалі 43 рабочыя, якія выраблялі 416 т ільновалакна ў год. У 1990 г. 34 гаспадаркі, 55 жыхароў, працаваў магазін. Пасёлак планіровачна складаўся з 2 асн. крывалінейных вуліц з завулкамі, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудаваны пераважна двухбакова, няшчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ІРЦІШЧАВА** — вёска ў Падсолтаўскім с/с, за 17 км на ПнЗ ад Мсціслава, 112 км ад Магілёва, 23 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ р. Гаранка (прыток р. Чорная). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Горкі. 13 гаспадарак, 25 жыхароў (2007).

У 1834 г. вёска ў Мсціслаўскім павеце, 4 двары, 27 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 8 двароў, 59 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся кушнерскім промыслам. Паводле перапісу 1897 г. ў Старасельскай вол. Мсціслаўскага павета, 11 двароў, 71 жыхар. У 1909 г. 13 двароў, 78 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны араты», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 25 гаспадарак, меў 189 га ворыва, абслугоўваўся Курманаўскай МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1976 г. далучана в. Антонаўка. У 1990 г. 30 гаспадарак, 66 жыхароў, у складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Падсолтава). У 2007 г. вёска далучана да СВК «Савецкая Беларусь». Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай пераважна двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.


*М.А.Ганчароў.*

**КАЗЛОЎКА** — вёска ў Лютненскім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Мсціслава, 109 км ад Магілёва, 33 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На ПдЗ цячэ р. Гаранка (прыток р. Чорная). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Чарнілава і далей па шашы Мсціслаў—Горкі. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. спустошана ў выніку ваен. дзеянняў. У 1747 г. 23 двары, дзярж. уласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1798 г. вёска Казлы ў валоданні Мсціслаўскага карmeліцкага кляштара. У 1834 г. ў Чэрыкаўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1877 г. засн. цагельны з-д. У 1880 г. 7 двароў, 49 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся кушнерскім промыслам. Паводле перапісу 1897 г. ў Старасельскай вол. Мсціслаўскага павета, 13 двароў, 72 жыхары. У 1909 г. 13 двароў, 94 жыхары. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1926 г. 29 двароў, 159 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 13 гаспадарак, меў 138 га ворыва, абслугоўвала Мсціслаўская МТС. З 1935 г. ў складзе Мсціслаўскага коннага з-да № 120 (цэнтр — в. Лютня). З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 14 гаспадарак, 28 жыхароў, працаваў магазін. У 2007 г. вёска далучана да РУСП «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Віхра». Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ, у цэнтры якой утворана прамавугольная плошча. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Вёска Казлоўка (былая в. Заленкі) — радзіма Героя Сав. Саюза Я.І.Ганчарова (1914—82), лаўрэата Дзярж. прэміі Рэспублікі Беларусь М.А.Ганчарова (н. ў 1941).

**КАЛАТОВІНА** — вёска ў Краснагорскім с/с, за 11 км на ПдУ ад Мсціслава, 106 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Кудрычы і далей па шашы Мсціслаў—Крычаў. 22 гаспадаркі, 48 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1618 г. сяло ў Мсціслаўскім павеце, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1871 г. вёска і маёнтак у Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. З 17.7.1924 г. ў БССР. У 1934 г. вёска Калатова (22 жыхары), у складзе маёнтка Падлужжа Мсціслаўскага паве-



та, у 1847 г. — 2 двары, 16 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1848 г. ў складзе казённага маёнтка Галоўчыцы, 8 гаспадарак. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Казіміраваслабодскай вол. Мсціслаўскага павета, пры дарозе Мсціслаў—Клімавічы, 21 двор, 163 жыхары, піцейны дом. Непадалёку была аднайменная сядзіба. У 1905 г. адкрыта вінная крама. У 1909 г. 26 двароў, 185 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. 8 сял. сямей арганізавалі калгас «Чырвоная зара», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 23 гаспадаркі, меў 106 га ворыва, абслугоўваўся Мсціслаўскай МТС, дзейнічала кузня. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 30 двароў, 121 жыхар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 37 гаспадарак, 68 жыхароў, у складзе калгаса «XXI з'езд КПСС» (цэнтр — в. Падлужжа). У 2007 г. вёска далучана да СВК «Сож-Агра». Планіровачна складаецца з 3 вуліц, больш працяглая з якіх крывалінейная, мерыдыянальнай арыентацыі. На З і ПдЗ ад яе адыходзяць другарадныя, кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАЛЕНЬКАВА** — вёска ў Сялецкім с/с, за 19 км на Пд ад Мсціслава, 114 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Крычаў. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Х з'езд Саветаў». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 13 двароў, 67 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 17.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. спалілі 12 двароў. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 15 гаспадарак, 27 жыхароў, у складзе калгаса імя Чапаева (цэнтр — в. Сялец). У 2007 г. ў СВК імя Чапаева. Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай пераважна аднабакова, няшчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАЛІНАЎКА** — вёска ў Мазалаўскім с/с, за 3 км на ПдЗ ад Мсціслава, 95 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ ручай (прыток р. Суточка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Куркаўшчына і далей па шашы Магілёў—Мсціслаў. 8 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

У 1834 г. вёска ў Мсціслаўскім павеце, 5 двароў, 41 жыхар, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 23 рэвізскія душы. Паводле перапісу 1897 г. ў Казіміраваслабодскай вол. Мсціслаўскага павета, 10 двароў, 65 жыхароў. У 1903 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1909 г. 10 двароў, 79 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 25 вучняў. У пач. 1930-х г. арганізаваны калгас. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 42 двары, 198 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску, загубілі 1 жыхара. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 14 гаспадарак, 30 жыхароў, у складзе саўгаса «Мсціслаўскі» (цэнтр — г. Мсціслаў). У 2007 г. вёска далучана да СВК «Мазалаўскі». Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы з 2 завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай пераважна аднабакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАМЕНКА** — вёска ў Раздзельскім с/с, за 29 км на ПнЗ ад Мсціслава, 124 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны, на Пн і З мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ

ручай (прыток р. Рамясцвянка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Курманава і далей па шашы Мсціслаў—Горкі. 26 гаспадарак, 39 жыхароў (2007).

У 1857 г. вёска ў Мсціслаўскім павеце. Паводле перапісу 1897 г. ў Шамаўскай вол. Мсціслаўскага павета, 23 двары, 138 жыхароў. У 1909 г. 25 двароў, 133 жыхары. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Леніна, які абслугоўвала Курманаўская МТС. З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 5 двароў, 21 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. На могілках у брацкай магіле пахаваны 5 воінаў, сярод якіх байцы 70-й стралк. дывізіі, што загінулі ў баях за вызваленне вёскі. У 1990 г. 49 гаспадарак, 105 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Курманава), працаваў магазін. У 2007 г. ў СВК «Курманава». Ручай падзяляе вёску на паўн. (працяглая крывалінейная вуліца шыротнай арыентацыі) і паўднёвую (да больш працяглай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, далучаецца амаль перпендыкулярна другая кароткая прамалінейная вуліца) часткі. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

За 0,3 км на ПдУ ад вёскі размешчана радовішча суглінкаў (разведаныя запасы 165 тыс. м³).

**КАНДРАТАЎСК** — вёска ў Лютненскім с/с, за 8 км на ПнЗ ад Мсціслава, 103 км ад Магілёва, 27 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф узгорысты. На У цячэ р. Віхра (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Лютня і далей па шашы Мсціслаў—Горкі. 29 гаспадарак, 43 жыхары (2007).

Каля вёскі, на правым беразе р. Віхра, захаваўся курганны могільнік (13 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вёска вядома з 18 ст. У 1768 г. маёнтак у Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1834 г. 2 двары, 16 жыхароў, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Старасельскай вол. Мсціслаўскага павета, 21 двор, 189 жыхароў. Побач былі 2 аднайменныя фальваркі: у адным — 1 двор, 7 жыхароў, у другім — 1 двор, 11 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 24 двары, 170 жыхароў, у фальварках Кандратаўск 1 — 1 двор, 9 жыхароў, Кандратаўск 2 — 1 двор, 7 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У пач. 1930-х г. арганізаваны калгас «Чырвоны араты», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 33 гаспадаркі, меў 318 га ворыва і кузню. Абслугоўвала калгас Мсціслаўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 44 гаспадаркі, 103 жыхары, у складзе Мсціслаўскага коннага з-да № 120 (цэнтр — в. Лютня). У 2007 г. вёска далучана да РУСП «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Віхра». Ёсць магазін. Планіровачна складаецца з 2 размежаваных паміж сабой вуліц (паўночная — кароткая, крывалінейная, арыентавана з ПдУ на ПнЗ, паўднёвая — прамалінейная, працяглая, арыентавана амаль мерыдыянальна, уздоўж ракі). Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАПАЧЫ** — вёска, цэнтр Капачоўскага с/с, за 16 км на З ад Мсціслава, 88 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф узгорысты. На У цячэ р. Белая Натапа (прыток р. Чорная Натапа), на ПнЗ праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Белая Натапа, на З — вадасховішчы. Транспартныя сувязі па шашы Мсціслаў—Расна-Магілёў, якая праходзіць побач з вёскай. 306 гаспадарак, 794 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 19 ст. Памешчык меў тут у 1855 г. 122 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў Стара-



сельскай вол. Мсціслаўскага павета, 10 двароў, 98 жыхароў. Непадалёку былі 2 аднайменныя фальваркі: у адным — 1 двор, 2 жыхары, у другім — 1 двор, 10 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 10 двароў, 89 жыхароў, у фальварках Капачы 1 — 1 двор, 7 жыхароў, Капачы 2 — 1 двор, 8 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 19 двароў, а непадалёку на Пд, на Казінскіх хутарах — яшчэ 10 двароў. Значная частка зямлі належала памешчыку, які жыў у г. Рыга. Вясной 1918 г. сяляне падзялілі памешчыцкую зямлю. У 1919 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў нацыяналізаваным будынку, у 1926 г. было 45 вучняў. 2.7.1921 г. створана меліярацыйнае т-ва. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1926 г. ў в. Старыя Капачы 22 двары, 133 жыхары, у в. Новыя Капачы 5 двароў, 45 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны саўгас «Чырвоны сцяг», які з 1932 г. называўся «Пісараўшчына», уваходзіў у Аршанскі свінагадоўчы трэст, меў у 1933 г. 9 трактароў і іншую тэхніку. У 1933 г. адкрыты дзіцячыя яслі. У 1934 г. саўгас атрымаў тэлеф. сувязь, у 1935 г. электрыфікаваны. Дзейнічалі школа, клуб, драматычны гурток, а таксама рамонтная майстэрня, кузня, магазін, сталовая, пякарня. Саўгас спецыялізаваўся на вырошчванні племяннай жывёлы. З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. далучаны пас. Казінскі; у вёсцы пабудаваны 13 саўгасных дамоў. У саўгасе ў 1940 г. было 450 кароў, 750 галоў маладняку буйной рагатай жывёлы, 87 коней, 2,5 тыс. свіней, 15 трактароў, 5 грузавых і легкавая аўтамашыны. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Калі пачалася вайна, большая частка жывёлы была перададзена саўгасу «Рассвет» Калужскага р-на РСФСР, а частка — рабочым саўгаса. Акупанты спалілі ўсе саўгасныя будынкі і дамы працоўных, разрабавалі маёмасць. На ўшанаванне памяці 271 земляка, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у цэнтры вёскі ў 1968 г. пастаўлена стэла. У 1944 г. саўгас атрымаў 170 галоў буйной рагатай жывёлы з Омскай вобл. і 69 галоў — з г. Барабінка Новасібірскай вобл. У 1990 г. 212 гаспадарак, 669 жыхароў, цэнтр племсаўгаса «Пісараўшчына».

У вёсцы працавалі дзіцячы сад-яслі, сярэдняя школа, б-ка, Дом культуры, бальніца, аптэка, швейная майстэрня, філіял камбіната быт. абслугоўвання насельніцтва, сталовая, 2 магазіны, гасцініца, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 2007 г. цэнтр РУСП «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Віхра», дзіцячы сад, сярэдняя школа, б-ка аграгарадка, Дом культуры, урачэбная амбулаторыя, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, Мсціслаўскае УКП «Бытпаслугі», магазін, аддз. сувязі. Ген. план забудовы вёскі распрацаваны ў 1984 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Пла-

*Сучасная сядзібная забудова аграгарадка Капачы.*





ніроўка прамавугольная. Дзве працяглыя прамалінейныя вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі перакрыжаваны 2 кароткімі прамалінейнымі вуліцамі. На Пн адасоблена праходзіць Г-падобная вуліца, больш працяглая частка якой арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры, на У і ПдЗ пабудаваны мураваныя двух- і аднапавярховыя адна-, двух- і васьмікватэрныя дамы. Гасп. сектар — на ПнЗ і непадалёку ад цэнтра.

У склад сельсавета ўваходзяць 13 вёсак.

**КАРОБЧЫНА** — вёска ў Краснагорскім с/с, за 3 км на ПдУ ад Мсціслава, 22 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На ПнУ цячэ р. Віхра (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў. 136 гаспадарак, 382 жыхары (2007).

За 1,5 км на У ад вёскі, на правым беразе р. Віхра знаходзіцца гарадзішча ранняга жал. веку, што сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вёска вядома з 17 ст. У 1641 г. ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, у валоданні Тупічэўскага манастыра. У 1684 г. шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ўласнасць памешчыка, 18 двароў, 130 жыхароў, млын. У 1834 г. ў Мсціслаўскім павеце, 22 двары, 122 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1874 г. засн. вінакурны з-д (у 1881 г. 9 рабочых). У 1990 г. адкрыта земская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. Паводле перапісу 1897 г . ў Казіміраваслабодскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ., 34 двары, 234 жыхары. Побач былі 2 сядзібы: у адной — 1 двор, 5 жыхароў, у другой — 1 двор, 17 жыхароў, вадзяны млын. У 1900 г. на мукамольным прадпрыемстве працавалі 9 рабочых, быў устаноўлены паравы рухавік. У 1909 г. 33 двары, 241 жыхар. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 30 вучняў, мелася б-ка. У 1926 г. каля вёскі на р. Віхра пабудавана першая ў Беларусі гідраэлектарстанцыя магутнасцю 75 кВт. У 1929 г. арганізаваны калгас імя М.Горкага, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 45 гаспадарак, меў 159 га ворыва, абслугоўваўся Мсціслаўскай МТС імя Кірава. У 1937 г. адкрыты дзіцячыя яслі, у 1938 г. пабудаваны млын. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 70 двароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1943 г. спалілі 40 двароў. На ўшанаванне памяці 152 землякоў, што загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, на паўн.-ўсходняй ускраіне ў 1970 г. пастаўлена стэла. У 1990 г. 123 гаспадаркі, 322 жыхары, цэнтр калгаса «1 Мая», які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі і птушкагадоўлі, меў 2794 га сельгасугоддзяў, у тым ліку 1937 га ворыва. У вёсцы працавалі дзіцячы сад-яслі, сярэдняя школа, Дом культуры, сталовая, 2 магазіны, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, аўтаматычная



*Нараджэнне новай сям'і.*



тэлеф. станцыя, птушкафабрыка. У 2007 г. далучана да СВК «Сож-Агра». Ёсць магазін, аддз. сувязі. Ген. план забудовы вёскі распрацаваны ў 1976 г. ў ін-це «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, ад якой пад прамым вуглом ад абодвух бакоў адыходзяць кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, пераважна няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Уздоўж асн. вуліцы забудова мураванымі жылымі дамамі. На Пд і Пн — гасп. сектар. На ПдУ — сад.

**КАРПІСОНАЎКА** — былая вёска ў Забалацкім с/с, за 27 км на ПдЗ ад Мсціслава, 68 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны, на ПнЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Мсціслаў—Магілёў, якая праходзіць побач з вёскай.

Засн. ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная рунь», які абслугоўвала Ходасаўская МТС імя Тэльмана. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 12 гаспадарак, 22 жыхары, у складзе саўгаса «Забалацце» (цэнтр — в. Забалацце). У 2007 г. ва УКСП «Саўгас «Забалацце». Планіровачна складалася з прамалінейнай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, уздоўж шашы. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У склад вёскі ўваходзілі таксама хутары Малінаўка, Жолаб, Украіна, якія размяшчаліся на адлегласці да 1 км адзін ад другога.

**КАРТЫЖЫ** — вёска ў Ракшынскім с/с, за 33 км на ПнЗ ад Мсціслава, 68 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны, на З і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Пячонкі, Ракшына, Башары і далей па шашы Мсціслаў—Расна—Магілёў. 26 гаспадарак, 51 жыхар (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 18 ст. У 1777 г. вёска Картыш у Чавускай акрузе Магілёўскай губ. Памешчык меў у 1877 г. ў вёсках Дрыбін і Картыжы 3225 дзес. зямлі, 2 вадзяныя млыны, піцейны дом, вінакурны з-д. У 1880 г. 21 двор, 93 жыхары; у 7 дварах займаліся валяльным, калёсным і кравецкім промысламі. У 1887 г. адкрыта школа, якую ўтрымлівалі за свой кошт сяляне, а з 1912 г. — земства. Паводле перапісу 1897 г. ў Дрыбінскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 36 двароў, 216 жыхароў. Побач былі аднайменныя заезны двор (1 двор, 5 жыхароў) і фальварак (3 двары, 17 жыхароў). У 1909 г. 43 двары, 266 жыхароў; у аднайменным пасёлку, што знаходзіўся побач, былі 3 двары, 15 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. На базе дарэвалюцыйнай адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1927 г. было 48 вучняў. У 1924 г. створана с.-г. т-ва. У 1926 г. 64 двары, 367 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Сацыялістычнае земляробства», які абслугоўвала Курманаўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 11.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 45 гаспадарак, 106 жыхароў, у складзе калгаса імя Свярдлова (цэнтр — в. Ракшына), працаваў магазін. У 2007 г. вёска далучана да СВК «Сцяг працы». Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой, прамалінейных (працяглай і кароткай) вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на Пн і ПдЗ.

**КАСМЫНІЧЫ** — вёска ў Капачоўскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Мсціслава, 85 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ мяжуе з лесам. На Пн цячэ р. Дамалка (прыток р. Белая Натапа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Расна—Магілёў. 56 гаспадарак, 112 жыхароў (2007).

Упершыню згадваецца ў фрагментах інвентару 1560, калі вёска была дзярж. уласнасцю і налічвала 5 дымоў. У 1604 г. сяло ў Гарбавіцкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. спустошана ў выніку ваен. дзеянняў. У 1768 г. тут быў маёнтак. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1850 г. ў Мсціслаўскім павеце, 9 двароў, 41 жыхар, уласнасць памешчыка. У 1881 г. памешчыкі Карачэўскія мелі ў вёсцы 192 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў Старасельскай вол. Мсціслаўскага павета, 21 двор, 140 жыхароў. Побач была аднайменная аколіца, 23 двары, 145 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 42 двары, 158 жыхароў, у аколіцы — 19 двароў, 70 жыхароў. У гэтым жа годзе была адкрыта земская школа, для якой пабудавана памяшканне. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 42, а ў 1926 г. — 65 вучняў. У 1926 г. ў вёсцы 69 двароў, 342 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Пралетарская перамога», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 60 гаспадарак, меў 322 га ворыва, абслугоўваўся Хлышчоўскай МТС. У 1935 г. пач. школа ператворана ў 7-гадовую. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 61 гаспадарка, 169 жыхароў, у складзе племсаўгаса «Пісараўшчына» (цэнтр — в. Капачы). Працавалі 8-гадовая школа, клуб, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. У 2007 г. вёска далучана да РУСП «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Віхра». Дзейнічаў магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, забудаваных двухбакова, шчыльна традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПнЗ — гасп. сектар.

**КАСЬКОВА** — вёска ў Сапрынавіцкім с/с, за 10 км на ПнУ ад Мсціслава, 105 км ад Магілёва, 29 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Аслянка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Мсціслаў—Хіславічы, якая праходзіць праз вёску. 35 гаспадарак, 61 жыхар (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1785 г. вёска ў Мсціслаўскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 36 двароў, 262 жыхары, уласнасць памешчыка. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі. У 1850 г. вёска Качуры (яна ж Каськова) у Мсціслаўскім павеце, дзярж. ўласнасць. У 1858 г. ў складзе маёнтка Рыкава Мсціслаўскага павета. Паводле перапісу 1897 г. ў Аслянскай вол. Мсціслаўскага павета, 48 двароў, 298 жыхароў, школа граматы. Непадалёку ад тракта Мсціслаў—Хіславічы была сядзіба — 1 двор, 1 жыхар, піцейны дом. У 1909 г. 51 двор, 359 жыхароў. З 1918 г. да 1964 г. ў Хіславіцкім р-не Смаленскай вобл. РСФСР. У 1923 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 63 гаспадаркі, 130 жыхароў, у складзе калгаса «Савецкая Расія» (цэнтр — в. Сапрынавічы). Працавалі пач. школа, магазін. У 2007 г. ў СВК «Кастрычнік». У вёсцы ёсць магазін. Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Рака падзяляе вуліцу на паўн. і паўднёвую часткі. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На З — гасп. сектар.

Радзіма поўнага кавалера ордэна Славы М.М.Мінчанкова (15.1.1913—11.10. 2003 г.), які вызначыўся ў Вял. Айч. вайну ў баях на тэр. Літвы і Усх. Прусіі.

**КАЎШОВА** — вёска ў Краснагорскім с/с, за 10 км на ПдУ ад Мсціслава, 105 км ад Магілёва, 105 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Чырвоная Горка, Кудрычы і далей па



шашы Мсціслаў—Крычаў. 42 гаспадаркі, 102 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1654 г. вёска ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1745 г. вёска Каўшоў, уласнасць памешчыка. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1781 г. меўся маёнтак. У 1834 г. 94 жыхары, у 1847 г. ў складзе маёнтка Падлужжа Мсціслаўскага павета, 13 двароў, 80 жыхароў, уласнасць памешчыка, які меў тут у 1857 г. 165 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 40 двароў, 307 жыхароў, у Казіміраваслабодскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ. Побач быў аднайменны фальварак, 1 двор, 5 жыхароў. У пач. 20 ст. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1907 г. навучаліся 37 хлопчыкаў і 3 дзяўчынкі. У 1909 г. ў вёсцы 38 двароў, 303 жыхары, у фальварку 1 двор, 4 жыхары. З 17.7.1924 г. ў БССР. У 1931 г. 9 сял. сямей арганізавалі калгас «Чырвоны араты», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 19 гаспадарак, меў 118 га ворыва, аблугоўваўся Мсціслаўскай МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 120 двароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1943 г. спалілі 30 двароў. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 66 гаспадарак, 169 жыхароў, у складзе калгаса «XXI з'езд КПСС» (цэнтр — в. Падлужжа). Працавалі сярэдняя школа, б-ка, магазін. У 2007 г. ў СВК «Сож-Агра». У вёсцы ёсць сярэдняя школа, дзіцячы сад, магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай працяглай шыротнай арыентацыі вуліцы, ад якой на ПнЗ і ПдЗ адыходзяць кароткія крывалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПнУ — гасп. сектар.

Радзіма бел. філосафа, доктара філасофскіх навук, праф. А.І.Галаўнёва (1925—2008).

**КІСЯЛЁЎКА** — вёска ў Ходасаўскім с/с, за 22 км на ПдЗ ад Мсціслава, 78 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Чорная Натапа (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў. 11 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1816 г. 17 двароў, 100 жыхароў, уласнасць памешчыка, які меў тут у 1865 г. 157 дзес. зямлі, вадзяны млын і карчму. Паводле перапісу ў Доўгавіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 23 двары, 159 жыхароў. У 1909 г. 36 двароў, 216 жыхароў. У 1910 г. адкрыта школа (нар. вучылішча). З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1926 г. 35 двароў, 248 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Шлях Ільіча», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 48 гаспадарак, меў 427 га ворыва. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 23 гаспадаркі, 44 жыхары, у складзе калгаса «XXVI з'езд КПСС» (цэнтр — в. Усполле). У 2007 г. вёска далучана да ААТ «Мсціслаўскі райаграпрамтэхзаб». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, ад якой на З адыходзяць 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.



*А.І.Галаўнёў.*

**КЛІН** — вёска ў Капачоўскім с/с, за 14 км на ПдЗ ад Мсціслава, 81 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ р. Белая Натапа (прыток р. Чорная Натапа). Непадалёку ад цэнтра знаходзіцца сажалка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў. 25 гаспадарак, 43 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1684 г. маёнтак у Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1834 г. вёска ў Мсціслаўскім павеце, 5 двароў, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Старасельскай вол. Мсціслаўскага павета, 15





двароў, 105 жыхароў. Побач існавалі аднайменная сядзіба (1 двор, 4 жыхары) і фальварак (1 двор, 4 жыхары), дзейнічаў вадзяны млын. У 1909 г. ў вёсцы было 16 двароў, 126 жыхароў, у сядзібе — 1 двор, 6 жыхароў, у фальварку — 1 двор, 3 жыхары. У 1921 г. створана меліярацыйнае т-ва. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1926 г. 27 двароў, 143 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Парыжскай Камуны, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 13 гаспадарак, меў 87 га ворыва, абслугоўваўся Ходасаўскай МТС імя Тэльмана. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 43 гаспадаркі, 84 жыхары, у складзе племсаўгаса «Пісараўшчына» (цэнтр — в. Капачы). У 2007 г. далучана да РУСП «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Віхра». У вёсцы ёсць магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай мерыдыянальна і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КНЯЗІШЧАВА** — былая вёска ў Падсолтаўскім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Мсціслава, 117 км ад Магілёва, 27 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Княгіня (прыток р. Віхра). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Мілейкава, Пуцяты і далей па шашы Мсціслаў—Горкі.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1732 г. маёнтак у Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, уласнасць памешчыка. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1834 г. 23 двары, 178 жыхароў. У ліп. 1881 г. сяляне правялі самавольную высечку лесу і аказалі супраціўленне мясц. уладам. Паводле перапісу 1897 г. ў Бохацкай вол. Мсціслаўскага павета, 26 двароў, 208 жыхароў. У 1909 г. 36 двароў, 204 жыхары. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «1 Мая», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 39 гаспадарак, меў 266 га ворыва, абслугоўваўся Курманаўскай МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары, у складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Мілейкава).

**КОКАТАВА** — былая вёска ў Капачоўскім с/с, за 15 км на З ад Мсціслава, 84 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Белая Натапа (прыток р. Чорная Натапа). Транспартныя сувязі па шашы Мсціслаў—Расна—Магілёў, якая праходзіць побач з вёскай.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1768 г. маёнтак у Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1774 г. цэнтр маёнтка. У 1834 г. сяльцо, у Мсціслаўскім павеце, 7 двароў, 41 жыхар, уласнасць памешчыка, які ў 1860 г. меў тут 168 дзес., у 1878 г. — 252 дзес. зямлі, млын і карчму. У 1908 г. адкрыта земская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 35 вучняў. У 1921 г. пачало дзейнічаць меліярацыйнае т-ва. У 1931 г. арганізаваны калгас «Трактар», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 23 гаспадаркі, меў 154 га зямлі, абслугоўваўся Хлышчоўскай МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 5 гаспадарак, 6 жыхароў, у складзе саўгаса «Пісараўшчына» (цэнтр — в. Капачы). Планіровачна складалася з кароткай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай няшчыльна, аднабакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КОЛТАВА** — вёска ў Сялецкім с/с, за 14 км на Пд ад Мсціслава, 109 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ р. Малатоўня (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз



вёскі Слёзкі, Лар'янава і далей па шашы Мсціслаў—Крычаў. 10 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1620 г. фальварак, уласнасць памешчыка. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1858 г. вёска ў Мсціслаўскім павеце, 99 рэвізскіх душ, мелася карчма. У 1885 г. сяло ў Казіміраваслабодскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ., 34 двары, 235 жыхароў. Дзейнічала царква (адкрыта не пазней 1880 г.), рэшткі якой захаваліся да нашых дзён. Паводле перапісу 1897 г. 55 двароў, 348 жыхароў, царк.-прыходская школа. У 1909 г. 380 жыхароў. Побач быў аднайменны фальварак, 11 двароў, 92 жыхары. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 103 вучні. Працаваў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1931 г. арганізаваны калгас «Зорка», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 61 гаспадарку, меў 340 га ворыва, абслугоўваўся Мсціслаўскай МТС. У 1931 г. яму было перададзена ўрочышча Слабодка. З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 38 двароў, 202 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 17.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску, загубілі 1 жыхара. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 26 гаспадарак, 50 жыхароў, у складзе калгаса імя Чапаева (цэнтр — в. Сялец). У 2007 г. ў СВК імя Чапаева. Планіроўка Т-падобная. Ад цэнтра больш працяглай крывалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі адыходзіць на Пд кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, няшчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КОШ** — вёска ў Ракшынскім с/с, за 23 км на З ад Мсціслава, 75 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На ПнЗ цячэ р. Кашанка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Мсціслаў—Расна—Магілёў, якая праходзіць побач з вёскай. 15 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1663 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ. У 1737 г. дзейнічала царква. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. сяло Коша ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1816 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 12 двароў, 71 жыхар, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 59 рэвізскіх душ, карчма, вадзяны млын. Паводле перапісу 1897 г. ў Доўгавіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 35 двароў, 251 жыхар. У 1909 г. 46 двароў, 264 жыхары. У 1910 г. адкрыта школа (нар. вучылішча). З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Парыжская Камуна», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 39 гаспадарак, меў 259 га ворыва, абслугоўваўся Хлышчоўскай МТС, дзейнічала кузня. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 27 гаспадарак, 54 жыхары, у складзе калгаса імя Энгельса (цэнтр — в. Басценавічы). У 2007 г. ў СВК імя Энгельса. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнУ на ПдЗ, уздоўж ракі. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРАСНАЕ** — вёска ў Ходасаўскім с/с, за 27 км на ПдЗ ад Мсціслава, 68 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ мяжуе з лесам. На ПнУ цячэ р. Чорная Натапа (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Мсціслаў—Магілёў, якая праходзіць побач з вёскай. 44 гаспадаркі, 92 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1499 г. як гаспадарскі двор кн. Жаслаўскага. У 16—17 ст. дзярж. ўласнасць. У 1523 г. сяло, дзейнічала царква. У 1573 г. 10 гаспадарак. У 1588 г. ў Мсціслаўскай вол. У час рус.-польскай вайны 1654—67 гг. спустошана ў выніку ваенных дзеянняў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. сяло

Краснаполь у Чэрыкаўскай акрузе. У 1816 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 6 двароў, 28 жыхароў, уласнасць памешчыка. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1926 г. 6 двароў, 35 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Новы шлях», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 36 гаспадарак з вёсак Краснае і Гарбатаўшчына, меў 329 га ворыва, абслугоўваўся Ходасаўскай МТС імя Тэльмана, дзейнічала кузня. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 69 гаспадарак, 157 жыхароў, у складзе калгаса «XXVI з'езд КПСС» (цэнтр — в. Усполле). У 2007 г. вёска далучана да ААТ «Мсціслаўскі райаграпрамтэхзаб». Ёсць магазін. Планіровачна складаецца з 2 вуліц. Ад гал. прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, адыходзіць на ПдЗ прамалінейная кароткая вуліца. На ПнЗ адасоблена праходзіць паралельная да галоўнай кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на ПнЗ, на тэр. былой сядзібы. Захаваліся рэшткі старога парку.

**КРАСНАРУЧЧА** — былая вёска ў Ракшынскім с/с, за 28 км на З ад Мсціслава, 80 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Рамясцвянка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Басценавічы і далей па шашы Мсціслаў—Расна—Магілёў.

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Шамаўскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ., 16 двароў, 129 жыхароў. У 1909 г. 21 двор, 155 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Прамень Кастрычніка», які з 1933 г. абслугоўвала Курманаўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 11.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 4 гаспадаркі, 10 жыхароў, у складзе калгаса імя Свярдлова (цэнтр — в. Ракшына). Планіровачна складалася з прамалінейнай кароткай вуліцы шыротнай арыентацыі, уздоўж якой былі пастаўлены традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. будынкамі.

**КРАСНАЯ ГОРКА** (да 20.4.1939 г. Рылаўшчына) — вёска ў Краснагорскім с/с, за 9 км на ПдУ ад Мсціслава, 104 км ад Магілёва, 26 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Кудрычы і далей па шашы Мсціслаў—Крычаў. 14 гаспадарак, 22 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1768 г. вёска Рылаўшчына ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. ў Казіміраваслабодскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ., 20 двароў, 172 жыхары. Побач былі фальваркі Рылаўшчына (1 двор, 4 жыхары) і Новая Рылаўшчына (1 двор, 6 жыхароў). У 1909 г. вёска (20 двароў, 163 жыхары) і 3 фальваркі (разам 3 двары, 18 жыхароў), якія потым зліліся з вёскай. З 1920 г. дзейнічаў Рылаўшчынскі с/с, цэнтр якога знаходзіўся ў в. Малая Зяціца. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. Адкрыта прац. школа 1-й ступені. У 1929 г. арганізаваны калгас «3-і рашаючы», які абслугоўвала Мсціслаўская МТС імя Кірава. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 60 двароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 22 двары. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 22 гаспадаркі, 56 жыхароў, у складзе калгаса «XXI з'езд КПСС» (цэнтр — в. Падлужжа). Працавалі сярэдняя школа, магазін. У 2007 г. ў СВК «Сож-Агра». Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі з завулкам, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРАСНАЯ ПАЛЯНА** (да 1950 г. Слюнькаўшчына) — вёска ў Лютненскім с/с, за 8 км на ПнЗ ад Мсціслава, 103 км



ад Магілёва, 27 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф узгорысты. На У цячэ ручай (прыток р. Суточка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Лютня і далей па шашы Мсціслаў—Горкі. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

У 1850 г. вёска ў Мсціслаўскім павеце, 48 жыхароў, дзярж. уласнасць. Паводле перапісу 1897 г. вёска Слюнькаўшчына ў Старасельскай вол. Мсціслаўскага павета, 13 двароў, 83 жыхары. Побач быў аднайменны фальварак, 1 двор, 9 жыхароў, дзейнічала гарбарнае прадпрыемства. У 1909 г. ў вёсцы 17 двароў, 102 жыхары, у фальварку 1 двор, 7 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Шлях селяніна», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 23 гаспадаркі, меў 220 га зямлі. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 6 гаспадарак, 13 жыхароў, у складзе Мсціслаўскага коннага з-да № 120 (цэнтр — в. Лютня). Забудова традыцыйная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КРАСНЫ БЕРАГ** (да 1950 г. Куравічы) — вёска ў Лютненскім с/с, за 8 км на Пн ад Мсціслава, 103 км ад Магілёва, 27 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПнУ і У мяжуе з лесам. На Пд цячэ р. Віхра (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Горкі. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. вёска спустошана ў выніку ваенных дзеянняў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Магілёўскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 9 двароў, 61 жыхар, уласнасць памешчыка. У 1858 г. ў Мсціслаўскім павеце. Паводле перапісу 1897 г. ў Аслянскай вол. Мсціслаўскага павета, 22 двары, 153 жыхары. Побач былі аднайменныя сядзіба (3 двары, 17 жыхароў) і фальварак (1 двор, 6 жыхароў). У 1909 г. ў вёсцы 25 двароў, 159 жыхароў, у аколіцы 7 двароў, 31 жыхар. У 1913 г. адкрыта царк.-прыходская школа. З 17.7. 1924 г. ў складзе БССР. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 25 вучняў, працавалі б-ка. У 1931 г. арганізаваны калгас «Ударнік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 36 гаспадарак, меў 181 га зямлі. Абслугоўвала яго Мсціслаўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1966 г. далучана в. Бялкова. У 1990 г. 12 гаспадарак, 19 жыхароў. У 2007 г. вёска ў СВК «Мазалаўскі». Планіровачна складаецца з 3 размежаваных вуліц: паўн.-зах. (крывалінейная, арыентавана з ПдЗ на ПнУ), паўд.-зах. (крывалінейная, арыентавана з ПдУ на ПнЗ) і ўсх. (кароткая крывалінейная, амаль мерыдыянальнай арыентацыі). Забудавана аднабакова, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРУТАЯ** — вёска ў Раздзельскім с/с, за 32 км на ПнЗ ад Мсціслава, 127 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Мёртвая (прыток р. Віхра), на ПдУ яе прыток — ручай. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Лужкі і далей па шашы Мсціслаў—Горкі. 15 гаспадарак, 21 жыхар (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1638 г. сяло (29 гаспадарак) у Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, у складзе маёнтка Беразетня, шляхецкая ўласнасць. У час рус.-польскай вайны 1654—67 гг. спустошана ў выніку ваенных дзеянняў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1834 г. ў Мсціслаўскім павеце, 8 двароў, 50 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 30 рэвізскіх душ, карчма. Памешчык меў тут у 1863 г. 131 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў Шамаўскай вол. Мсціслаўскага павета, 37 двароў, 236 жыхароў, ветраны млын. У 1909 г. 28 двароў, 216 жыхароў, школа граматы, пераўтвораная затым у земскую. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. На базе дарэвалюцыйнай створа-

на прац. школа 1-й ступені, якой быў перададзены нацыяналізаваны будынак і выдзелены 3 дзес. зямлі. У 1925 г. ў школе навучаліся 52 вучні. У 1931 г. 11 гаспадарак аб'ядналіся ў калгас «Пралетарка», які ў 1932 г. меў 21 гаспадарку, 313 га ворыва, абслугоўваўся Курманаўскай МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2 брацкіх магілах, што на могілках, пахаваны 12 воінаў-разведчыкаў 344-й стралк. дывізіі, якія загінулі 29.9.1943 г. і 10 воінаў 344-й стралк. дывізіі і 196-й танкавай брыгады, загінуўшых пры вызваленні раёна. У 1990 г. 24 гаспадаркі, 58 жыхароў, у складзе калгаса «Камуніст» (цэнтр — в. Несцерава). Працавалі пач. школа, магазін. У 2007 г. вёска далучана да СВК «Курманава». Планіровачна складаецца з крывалінейнай кароткай вуліцы шыротнай арыентацыі з завулкамі, ад якой на Пн адыходзіць таксама кароткая крывалінейная вуліца. Забудавана пераважна аднабакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КСЁНДЗАЎШЧЫНА** — вёска ў Капачоўскім с/с, за 19 км на З ад Мсціслава, 82 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На З і Пд цячэ р. Белая Натапа (прыток р. Чорная Натапа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Капачы і далей па шашы Мсціслаў—Расна—Магілёў. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

У 1850 г. сяло ў Мсціслаўскім павеце, 1 двор, 9 жыхароў, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. вёска Ксёндзаўшчына (яна ж Малахоўшчына) у Старасельскай вол. Мсціслаўскага павета, 13 двароў, 84 жыхары. Побач была аколіца Ксёндзаўшчына (2 двары, 9 жыхароў). У 1909 г. 16 двароў, 67 жыхароў. У 1921 г. створана меліярацыйнае т-ва. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1926 г. 24 двары, 142 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «1 Мая», які ў 1922 г. аб'ядноўваў 18 гаспадарак, меў 127 га ворыва, абслугоўваўся Хлышчоўскай МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 6 гаспадарак, 16 жыхароў, у складзе племсаўгаса «Пісараўшчына» (цэнтр — в. Капачы). Забудова традыцыйная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КУДРЫЧЫ** — вёска ў Краснагорскім с/с, за 5 км на ПдУ ад Мсціслава, 100 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На ПнЗ цячэ ручай (прыток р. Суточка). Транспартныя сувязі па шашы Мсціслаў—Крычаў, якая праходзіць побач з вёскай. 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 17 ст. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. вёска спустошана ў выніку ваенных дзеянняў. У 1737 г. дзейнічала драўляная царква. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Памешчык меў у 1876 г. ў вёсцы 265 дзес. зямлі. У 1885 г. ў Казіміраваслабодскай вол. Мсціслаўскага павета, 24 двары, 175 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. ў сяле 34 двары, 217 жыхароў, у аднайменным фальварку, што знаходзіўся паблізу — 1 двор, 7 жыхароў. У 1909 г. ў сяле 33 двары, 252 жыхары, у фальварку 2 двары, 13 жыхароў. Дзейнічала царк.-прыходская школа. У 1919 г. балтыйскі марак В.І.Вакулаў вярнуўся на радзіму і арганізаваў камуну, якая дзейнічала ў памешчыцкім маёнтку. З 17.7.1924 г. вёска ў складзе БССР, адкрыта школа, у якой у 1926 г. было 56 вучняў. У 1926 г. 56 двароў, 361 жыхар. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан», які ў 1932г. аб'ядноўваў 30 гаспадарак, меў 166 га ворыва, абслугоўваўся Мсціслаўскай МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 38 двароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. спалілі 36 двароў. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 18 гаспадарак, 36 жыхароў, у складзе калгаса «XXI з'езд КПСС» (цэнтр — в.



Падлужжа). У 2007 г. вёска ў СВК «Сож-Агра». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай традыц., драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма бел. мовазнаўца, пісьменніка, паэта-сатырыка, крытыка Г.Ф.Юрчанкі (н. ў 1928) і чл.-кар. АН СССР П.П.Кабекі (1897—1954).

**КУРКАЎШЧЫНА** — вёска ў Мазалаўскім с/с, за 4 км на ПдЗ ад Мсціслава, 92 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Суточка (прыток р. Віхра). Транспартныя сувязі па шашы Мсціслаў—Магілёў, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 22 гаспадаркі, 38 жыхароў (2007).

За 0,1 км на Пн ад вёскі захавалася гарадзішча ранняга жал. веку, якое сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вёска вядома з пач. 19 ст. У 1825 г. 7 двароў, уласнасць царквы. У 1858 г. вёска Кураўшчына ў Мсціслаўскім павеце, 18 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. У 1909 г. аколіца ў Казіміраваслабодскай вол. Мсціслаўскага павета, 10 двароў, 117 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1926 г. 15 двароў, 142 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Кірава, які з 1933 г. абслугоўвала Мсціслаўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 46 двароў, 149 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1956 г. далучана в. Татаршчына. У 1990 г. 32 гаспадаркі, 76 жыхароў, у складзе саўгаса «Мсціслаўскі» (цэнтр — г. Мсціслаў). У 2007 г. вёска далучана да СВК «Мазалаўскі». Планіровачна складаецца з 4 размежаваных вуліц, 2 з якіх крывалінейныя кароткія, арыентаваны з ПнЗ на ПдУ, 3-я — кароткая крывалінейная, шыротнай арыентацыі, 4-я — кароткая прамалінейная, арыентавана з ПдЗ на ПнУ (былая в. Татаршчына). Забудавана пераважна аднабакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма бел. празаіка, паэтэсы, перакладчыцы Г.І.Сапрыка (1911—62).

**КУРМАНАВА** — вёска ў Раздзельскім с/с, за 28 км на ПнЗ ад Мсціслава, 123 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны, на Пн і ПдУ мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Рамясцвянка (прыток р. Быстрая). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Багацькаўка і далей па шашы Мсціслаў—Горкі. 120 гаспадарак, 287 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як маёнтак Курманава. У 1825 г. тут заснаваны сукнавальня і вінакурная вытв-сць (у 1881 г. 9 рабочых). У 1857 г. вёска і фальварак у Мсціслаўскім павеце. У 1860 г. вёска, цэнтр аднайменнага маёнтка, уласнасць памешчыцы, якая мела тут у 1877 г. 6295 дзес. зямлі, вінакурны з-д, 2 млыны, сукнавальню і 2 карчмы. У 1880 г. ў Шамаўскай вол., 23 двары, 161 жыхар. Паводле перапісу 1897 г. 34 двары, 222 жыхары, у фальварку — 71 двор. Дзейнічалі млын, сукнавальня, піцейны дом. У снеж. 1905 г. прыбыўшы з Масквы на радзіму селянін М.Старчакоў вёў рэв. прапаганду, заклікаў да паўстання. У 1909 г. ў вёсцы 39 двароў, 254 жыхары, у фальварку — 29 жыхароў. У чэрв. 1917 г. сяляне, што выконвалі пастанову вал. к-та, забралі ў памешчыцы маёнтак, падзялілі зямлю, рэквізавалі 85 галоў жывёлы, высеклі вял. надзел лесу. У 1923 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. З 20.8.1924 г. да 20.2.1938 г. цэнтр сельсавета. У 1925 г. створана закупачна-збытавое с.-г. крэдытнае т-ва. У 1929 г. арганізаваны саўгас «Чырвоны сцяг», які ў 1933 г. меў 4 трактары і іншую с.-г. тэхніку. У вёсцы быў таксама калгас «VI з'езд Саветаў Мсціслаўшчыны», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 36 гаспадарак, меў 172 га ворыва. У 1937 г. на базе скасаванага саўгаса створана Курманаўская МТС (рэарганізавана 31.3. 1958 г.), адкрыты дзіцячыя яслі, дзейні-



*Г.Ф.Юрчанка.*



*Г.І.Сапрыка.*

воная зорка». 18.3.1927 г. на пасяджэнні Шамаўскага с/с старшыня калгаса Капулкін паведаміў, што акружны с.-г. банк даў гаспадарцы ў пазыку 1900 рублёў. У 1932—33 гг. калгас меў 27 коней, 45 плугоў, 25 галоў буйной рагатай жывёлы. Абслугоўвала яго Курманаўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 28 гаспадарак, 57 жыхароў, у складзе калгаса «Камуніст» (цэнтр — в. Несцерава). Працавалі клуб, магазін. У 2007 г. вёска далучана да СВК «Курманава». Планіровачна складаецца з 2 кароткіх крывалінейных вуліц, арыентаваных амаль мерыдыянальна, абапал ручая. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛЫКІНКА** — вёска ў Забалоцкім с/с, за 35 км на ПдЗ ад Мсціслава, 69 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны, на ПнЗ і З мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ ручай Язвітка (прыток р. Волчас). Транспартныя сувязі па шашы Мсціслаў—Магілёў, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 157 гаспадарак, 396 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1777 г. сяло ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. Памешчык меў тут у 1830 г. 250,5 дзес. зямлі. У 1834 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 110 жыхароў, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу ў Беліцкай вол. Мсціслаўскага павета, 38 двароў, 262 жыхары. У 1909 г. 58 двароў. Побач быў фальварак, 1 двор, 6 жыхароў. У 1910 г. адкрыта школа. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якая ў студз. 1925 г. пераведзена ў в. Бескаўка. У 1931 г. арганізаваны калгас «Шлях Леніна», у 1932 г. аб'ядноўваў 60 гаспадарак, меў 573 га ворыва, працавала кузня. Абслугоўвала яго Ходасаўская МТС імя Тэльмана. З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. да вёскі далучаны пас. Баравы. У Вял. Айч. вайну з 20.7.1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На могілках у брацкай магіле пахаваны 7 воінаў, у іх ліку байцы 32-й стралк. дывізіі, што загінулі ў 1943 г. У 1990 г. 35 гаспадарак, 70 жыхароў, у складзе саўгаса «Забалацце» (цэнтр — в. Забалацце). Працаваў магазін. У 2007 г. ва УКСП «Саўгас «Забалацце». Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ абапал ракі і злучаных па ПнУ. Забудавана пераважна аднабакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПдУ гасп. сектар.

**ЛЮДАГОШЧА** — вёска ў Краснагорскім с/с, за 16 км на ПдУ ад Мсціслава, 111 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Сураж. Рэльеф узгоркавы, на У цячэ р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Падлужжа, Калатовіна, Кудрычы і далей па шашы Мсціслаў—Крычаў. 41 гаспадарка, 65 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1499 г. як гаспадарскі двор кн. Жаслаўскага. У 1559 г. сяло ў Мсціслаўскай вол., дзярж. ўласнасць. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. спустошана ў выніку ваенных дзеянняў. У 1737 г. мелася царква. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1797 г. сядо Людагошча (40 двароў, 108 жыхароў) і аднайменны фальварак (9 жыхароў) належалі Маляціцкаму дамінікансаму кляштару, дзейнічала карчма. У 1848 г. ў складзе казённага маёнтка Галоўчыцы. Паводле перапісу 1897 г. ў Казіміраваслабодскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ., 53 двары, 441 жыхар. У 1906 г. адкрыта земская школа. У 1909 г. 58 двароў, 536 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. было 42 вучні. У 1930 г. вяскоўцы арганізавалі калгас «Рада», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 56 гаспадарак, меў 308 га ворыва, працавалі кузня і ваўначоска. У 1931 г. пачала дзейнічаць прам. арцель «Чырво-



ны рыбак». У 1933 г. калгас абслугоўвала Мсціслаўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 120 двароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 18 двароў. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 80 гаспадарак, 149 жыхароў, у складзе калгаса «XXI з'езд КПСС» (цэнтр — в. Падлужжа). У 2007 г. ў СВК «Сож-Агра». Дзейнічае магазін. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай працяглай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, уздоўж ракі і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі.

**ЛЮТНЯ** (да 6.5.1978 г. Рагайлаўшчына) — вёска, цэнтр Лютнянскага с/с, за 3 км на ПнЗ ад Мсціслава, 98 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На ПнУ цячэ р. Віхра (прыток р. Сож), на З яе прыток — р. Суточка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Горкі. 197 гаспадарак, 472 жыхары (2007).

Праз 0,3 км на З ад вёскі знаходзіцца гарадзішча, што сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вёска вядома з 19 ст. У 1834 г. сяло Рагайлаўшчына ў Мсціслаўскім павеце, 1 двор, 2 жыхары, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Старасельскай вол. Мсціслаўскага павета, 1 двор, 3 жыхары. У 1909 г. 7 жыхароў. У пач. 20 ст. фальваркі Лютня (1 двор, 7 жыхароў), Рагайлаўшчына (1 двор, 12 жыхароў) і Бобрык аб'ядналіся ў адну вёску, якая ўваходзіла ў Старасельскую вол. Мсціслаўскага павета. У 1919 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў былым памешчыцкім будынку (у 1925 г. 46 вучняў). З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. Арганізаваны саўгасы «Рагайлаўшчына» і «Бобрыкі», якія спецыялізаваліся на вырошчванні гародніны і садавіны. У 1935 г. на іх базе створаны Мсціслаўскі конны з-д № 120, адкрыты дзіцячыя яслі. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1967 г. ў цэнтры вёскі на ўшанаванне памяці 328 землякоў, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, пастаўлены абеліск. З 21.4.1978 г. цэнтр сельсавета. У 1990 г. 177 гаспадарак, 460 жыхароў,



*Купанне коней Мсціслаўскага коннага завода.*

цэнтр Мсціслаўскага коннага з-да № 120, які спецыялізаваўся на вырошчванні запражных коней сярэдняй і цяжкавагавай парод, на мясамалочнай жывёлагадоўлі, меў 6122 га сельгасугоддзяў. У вёсцы працавалі дзіцячы сад-яслі, пач. школа, б-ка, клуб, сталовая, 2 магазіны, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, а таксама млын, конна-таварная ферма з рабочым іпадромам. У 2007 г. цэнтр РУСП «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Віхра», дзіцячы сад, сярэдняя школа, б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі. Ген. план забудовы распрацаваны ін-там «Магілёўграмадзянпраект» у 1981 г. Ядром кампазіцыйнай структуры вёскі з'яўляецца паўкруглая плошча. Ад яе на ПнЗ адыходзіць прамалінейная гал. вуліца, перакрыжаваная пад прамым вуглом кароткімі прамалінейнымі вуліцамі. Паралельна да галоўнай на Пд і Пн праходзяць яшчэ 3 прамалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры і на паўд. ускраіне вёскі мураваныя двухпавярховыя чатырохкватэрныя і аднапавярховыя адна- і двухкватэрныя дамы. На Пн і ПдЗ гасп. сектар. Месцамі адпачынку з'яўляюцца парк каля р. Суточка і жывапіснае наваколле ўздоўж рэк Суточка і Віхра.

*На цэнтральнай плошчы аграгарадка Мазалава.*



У склад сельсавета ўваходзяць 14 вёсак.

**МАЗАЛАВА** — вёска, цэнтр Мазалаўскага с/с, за 10 км на ПдЗ ад Мсціслава, 85 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Белая Натапа (прыток р. Чорная Натапа). Транспартныя сувязі па шашы Мсціслаў—Магілёў, якая праходзіць праз вёску. 264 гаспадаркі, 682 жыхары (2007).

За 0,8 км на Пд ад вёскі, на высокім правым беразе р. Белая Натапа, захавалася гарадзішча (мясц. назва Тарэлка) мілаградскай і зарубінецкай культур і эпохі Кіеўскай Русі, датуецца 7 ст. да н.э. — 2 ст. н.э. і 12—13 ст. На паўд. баку ад гарадзішча знаходзіцца селішча. Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1615 г. вёска Мазалаўшчына ў Мсціслаўскім павеце, шляхецкая ўласнасць. У 1665 г. тут пабудаваны Спаса-Праабражэнскі праваслаўны жаночы манастыр, які ў 1743 г. стаў уніяцкім, а з 1778 г. адноўлены як праваслаўны (зараз з'яўляецца помнікам архітэктуры). Пры манастыры працавала школа. ВКЛ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У пач. 19 ст. на зах. ускраіне вёскі пабудавана з цэглы Ушэсцеўская царква, якая з'яўляецца помнікам архітэктуры пераходнага перыяду ад барока да класіцызму. У 1880 г. засн. крупадзёрка. У 1885 г. сяло, 18 двароў, 148 жыхароў, дзейнічалі 2 царквы, жаночы манастыр, вадзяны млын. Паводле перапісу 1897 г. сяло ў Старасельскай вол. Мсціслаўскага павета, каля гандл. тракта Мсціслаў—Чавусы, 27 двароў, 191 жыхар, 2 разы ў год праводзіліся кірмашы. У манастыры ў гэты час 10 двароў, 89 жыхароў, царк.-прыходская школа, на сядзібе — 1 двор, 7 жыхароў, вадзяны млын. У 1910 г. пры мужчынскім манастыры працавала амбулаторыя. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1924 г. засн. саўгас-камуна «Мазалава». У 1925 г. адкрыта шко-



ла, якая размяшчалася ў адным з манастырскіх будынкаў (у 1926 г. 45 вучняў). З 21.8.1925 г. цэнтр сельсавета. Дзейнічала хата-чытальня, фельч.-акушэрскі пункт. У 1926 г. 52 двары, 323 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Ягорава, які ў 1932 г. аб'яднoўваў 22 гаспадаркі, меў 270 га ворыва, абслугоўваўся Мсціслаўскай МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 87 двароў, 415 жыхароў, у вёску перавезены бліжэйшыя хутары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. спалілі 78 двароў. Пасля вайны адбудавана. У 1969 г. ў цэнтры вёскі, каля будынка сярэдняй школы, на ўшанаванне памяці 153 землякоў, што загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе, узведзены абеліск. У 1990 г. 211 гаспадарак, 651 жыхар, цэнтр калгаса «60 гадоў БССР», які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі і вырошчванні тэхн. культур, меў 4485 га с.-г. угоддзяў. У вёсцы працавалі дзіцячы сад, 8-гадовая школа, б-ка, Дом культуры, гандл. цэнтр, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, сталовая, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, фізкультурна-аздараўленчы комплекс, ветэрынарны ўчастак і аптэка. У 2007 г. цэнтр СВК «Мазалаўскі», сярэдняя агульнаадукац. школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, Мсціслаўскага УКП «Бытпаслугі», аддз. сувязі. Ген. план забудовы вёскі распрацаваны Магілёўскім філіялам Белкалгаспраекта ў 1984 г. Планіроўка прамавугольная. Гал. вуліца (адрэзак шашы) арыентавана з ПдЗ на ПнУ, на якой у цэнтры ўтворана невялікая плошча. Паралельна да галоўнай на Пд праходзіць другарадная вуліца, якая разам з галоўнай перпендыкулярна перакрыжавана 3 прамалінейнымі вуліцамі. Забудавана двухбакова, няшчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На У мураваныя двух- і трохпавярховыя дамы. На ПнУ гасп. сектар.

Радзіма бел. пісьменніка П.А.Левановіча (1914—43) і Героя Сав. Саюза І.К. Вальваценкі (1915—96), які вызначыўся ў баях супраць ням.-фаш. захопнікаў у 1943 г. пад Кіевам.

У склад Мазалаўскага с/с уваходзяць 11 вёсак.

**МАЙСКАЕ** (да 1941 г. Бізюкі) — вёска ў Мазалаўскім с/с, за 14 км на ПдЗ ад Мсціслава, 91 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ ручай (прыток р. Малатоўня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Мазалава і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

По пісьмовых крыніцах вядома з 1654 г. як с. Бізюкі, уласнасць Мсціслаўскага кармеліцкага кляштара. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Мсціслаўскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 4 двары, 29 жыхароў. У 1797 г. 26 жыхароў. У 1834 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 14 жыхароў, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Казіміраваслабодскай вол. Мсціслаўскага павета, 14 двароў, 112 жыхароў. Побач быў аднайменны фальварак, 1 двор, 7 жыхароў. У 1909 г. ў сяле 18 двароў, 118 жыхароў, у фальварку 1 двор, 5 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Сталінскі заклік», які абслугоўвала Мсціслаўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Ма-



*П.А.Левановіч.*

*Сядзібная забудова ў аграгарадку Мазалава.*



гілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 15 гаспадарак, 34 жыхары, у складзе калгаса «60 гадоў БССР» (цэнтр — в. Мазалава). У 2007 г. ў СВК «Мазалаўскі». Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай пераважна двухбакова, нярэгулярна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАЛАЯ ЗЯЦІЦА** — вёска ў Краснагорскім с/с, за 8 км на ПдУ ад Мсціслава, 103 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Сураж. Рэльеф узгорысты, на ПнУ мяжуе з лесам. На Пд цячэ р. Малатоўня (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Мсціслаў—Крычаў, якая праходзіць праз вёску. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. як уласнасць памешчыка. У 1852 г. ён меў тут 385 дзес. зямлі, вадзяны млын і карчму. У 1858 г. вёска, 39 рэвізскіх душ. Паводле перапісу ў Казіміраваслабодскай вол. Мсціслаўскага павета, 18 двароў, 124 жыхары. Побач быў фальварак, 1 двор, 13 жыхароў, дзейнічаў вадзяны млын. У 1909 г. 21 двор, 146 жыхароў, адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якой быў перададзены былы памешчыцкі будынак. У 1925 г. ў школе было 42, а ў 1926 г. — 52 вучні. У 1926 г. 32 двары, 181 жыхар. У 1931 г. 10 гаспадарак арганізавалі калгас «Сацыялістычная праца», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 20 двароў, меў 129 га ворыва, абслугоўваўся Мсціслаўскай МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 30 двароў, 171 жыхар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. спалілі вёску (27 двароў), загубілі 4 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. На вясковых могілках пахаваны сав. лётчык, які загінуў у 1941 г. ў паветр. баі. У 1990 г. 19 гаспадарак, 35 жыхароў, у складзе калгаса «XXI з'езд КПСС» (цэнтр — в. Падлужжа). У 2007 г. ў СВК «Сож-Агра». Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы (адрэзак шашы), арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАЛАЯ ЛЕШЧАНКА** — вёска ў Краснагорскім с/с, за 7 км на ПдУ ад Мсціслава, 102 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пн цячэ р. Віхра (прыток р. Сож), а на Пд яе прыток — р. Серабранка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Каробчына і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1679 г. вёска, уласнасць памешчыка. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1857 г. вёска Малая Ляшчынка ў Мсціслаўскім павеце. У 1858 г. 31 рэвізская душа. Паводле перапісу 1897 г. ў Казіміраваслабодскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ., 5 двароў, 111 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. вяскоўцы арганізавалі калгас «Сталінскі заклік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 33 гаспадаркі, меў 189 га ворыва, абслугоўваўся Мсціслаўскай МТС. У 1935 г. адкрыты клуб, у 1936 г. — дзіцячыя яслі. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 45 двароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі вёску (40 двароў). Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 6 гаспадарак, 7 жыхароў, у складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Каробчына). У 2007 г. вёска ў СВК «Сож-Агра». Традыцыйныя драўляныя сялянскія сядзібы з гасп. пабудовамі пастаўлены ўздоўж кароткай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі.

**МАЛЬКАЎКА** — вёска ў Доўгавіцкім с/с, за 37 км на ПнЗ ад Мсціслава, 70 км ад Магілёва, 19 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Доўгавічы і далей



па шашы Мсціслаў—Магілёў. 15 гаспадарак, 25 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1635 г. вёска Малькава ў Пуцькаўскім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета, дзярж. ўласнасць, мелася царква. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. ў Доўгавіцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 48 двароў, 276 жыхароў. У 1909 г. 60 двароў, 510 жыхароў. У 1910 г. адкрыта школа (нар. вучылішча). З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. быў 61 вучань. 14.1.1926 г. арганізавана закупачна-збытавое т-ва. У 1926 г. 75 двароў, 544 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны трактар», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 58 гаспадарак, меў 689 га зямлі. Абслугоўвала яго Ходасаўская МТС імя Тэльмана. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 29 гаспадарак, 73 жыхары, у складзе калгаса «Ударнік» (цэнтр — в. Доўгавічы), працаваў магазін. У 2007 г. вёска далучана да СВК «Усход». Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МІЛЕЙКАВА** — вёска ў Падсолтаўскім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Мсціслава, 117 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Праз вёску цячэ р. Княгіня (прыток р. Віхра). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Пуцяты і далей па шашы Мсціслаў—Горкі. 115 гаспадарак, 280 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1579 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У чэрв. 1881 г. сяляне захапілі памешчыцкую зямлю, правялі высечку лесу і аказалі супраціўленне ўладам пры размежаванні сваёй і памешчыцкай зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў Бахацкай вол. Мсціслаўскага павета, 48 двароў, 382 жыхары. У 1909 г. 61 двор, 380 жыхароў. У 1912 г. адкрыта земская школа. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. быў 41 вучань. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 49 гаспадарак, меў 499 га ворыва, абслугоўваўся Курманаўскай МТС. У 1931 г. калгасу перададзены ўрочышчы Беразняк і Шырокае. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў кастр. 1941 г. закатавалі 7 жыхароў. Вызвалена 29.9.1943 г. часцямі 277-й стралк. дывізіі. У брацкай магіле пахаваны 4 сав. воіны, што загінулі ў баях супраць акупантаў 20.7.1941 г. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 74 вяскоўцы. У памяць аб іх у 1982 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. У 1990 г. 97 гаспадарак, 288 жыхароў, цэнтр калгаса «Ленінскі шлях», які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі. Меў 3748 га сельгасугоддзяў, у тым ліку 2851 га ворыва, 56 трактароў, 15 збожжаўборачных камбайнаў, 49 грузавых аўтамашын і іншую тэхніку. У вёсцы працавалі пач. школа, дзіцячы сад-яслі, клуб, б-ка, Дом культуры, сталовая, гасцініца, гандл. цэнтр, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, аддз сувязі. У 2007 г. цэнтр СВК «Мілейкава», дзіцячы сад, сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Ген. план забудовы распрацаваны Магілёўскім філіялам Белкалгаспраекта ў 1980 г. Рака падзяле вёску на паўд.-зах. (3 кароткія прамалінейныя, узаемна перакрыжаваныя пад прамым вуглом вуліцы) і паўн.-ўсх. (крывалінейная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ, уздоўж ракі) часткі. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У заходняй частцы знаходзяцца адм.-грамадскі цэнтр і

парк са штучным вадаёмам, 50 аднапавярховых адна- і двухкватэрных мураваных дамоў. На ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**МІХАЙЛАВА** — вёска ў Забалацкім с/с, за 36 км на ПдЗ ад Мсціслава, 71 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам, на Пд праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Сарочынка (прыток р. Мяртвіца). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Забалацце і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў. 17 гаспадарак, 26 жыхароў (2007).

Вядома з 1714 г. ў Крычаўскім старостве Мсціслаўскага ваяв. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1727 г. 37 дымоў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. хутар Міхайлаў ў Беліцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 15 двароў, 107 жыхароў. У 1909 г. 37 двароў, 179 жыхароў. У 1910 г. адкрыта царк.-прыходская школа. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Перамога», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 52 гаспадаркі, меў 431 га ворыва і кузню. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. да вёскі далучаны хутар Калоша. У Вял. Айч. вайну з 20.7.1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 41 гаспадарка, 98 жыхароў, у складзе саўгаса «Забалацце» (цэнтр — в. Забалацце). Працавалі клуб, б-ка, магазін. У 2007 г. вёска ва УКСП «Саўгас «Забалацце». Планіровачна складаецца з паўночнай (4 кароткія прамалінейныя, узаемна перакрыжаваныя вуліцы мерыдыянальнай і шыротнай арыентацыі, былы хутар Калоша) і паўднёвай (кароткая прамалінейная вуліца з завулкам, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, былы хутар Міхайлава) частак. Забудавана пераважна аднабакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МІЦЬКАЎШЧЫНА** — вёска ў Краснагорскім с/с, за 12 км на ПдУ ад Мсціслава, 117 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ПнУ цячэ р. Малатоўня (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Мсціслаў—Крычаў, якая праходзіць побач з вёскай. 13 гаспадарак, 19 жыхароў (2007).

За 0,7—0,8 км на ПнУ ад вёскі, на правым беразе р. Малатоўня, на мысе высокага берага, размешчана гарадзішча ранняга жал. веку, што сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. У 1834 г. было 79 жыхароў. У 1847 г. ў складзе маёнтка Падлужжа, 13 двароў, 97 жыхароў, вадзяны млын, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Казіміраваслабодскай вол. Мсціслаўскага павета, 31 двор, 263 жыхары. Побач на аднайменнай сядзібе 1 двор, 3 жыхары, вадзяны млын. У 1909 г. 43 двары, 323 жыхары. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1926 г. ў вясковай школе было 59 вучняў. У крас. 1931 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 74 гаспадаркі, меў 516 га ворыва, кузню. З 1934 г. на палях запрацавалі першыя трактары Мсціслаўскай МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 57 двароў, 178 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. спалілі вёску (49 двароў), загубілі 2 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1976 г. далучана в. Астрэйкавічы. У 1990 г. 50 гаспадарак, 102 жыхары, у складзе калгаса «XXI з'езд КПСС» (цэнтр — в. Падлужжа), працаваў магазін. У 2007 г. вёска ў СВК «Сож-Агра». Планіровачна складаецца з паўд. (крывалінейная працяглая вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, ад цэнтра якой адыходзіць на З кароткая прамалінейная вуліца) і паўночнай (працяглая крывалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі ўздоўж ракі з завулкамі, былая в. Астрэйкавічы) частак. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МІШНІ** — вёска ў Ракшынскім с/с, за 27 км на З ад Мсціслава, 74 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—



Сураж. Рэльеф раўнінны. На ПдУ цячэ р. Кашанка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Мсціслаў—Расна—Магілёў, якая праходзіць побач з вёскай. 154 гаспадаркі, 433 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 18 ст. У 1777 г. вёска Мішна ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1825 г. 4 двары, уласнасць царквы. У 1858 г. 13 двароў, 104 жыхары, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу ў Доўгавіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 37 двароў, 305 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1926 г. 62 двары, 398 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Чарвякова, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 47 гаспадарак, меў 345 га ворыва, абслугоўвала яго Хлышчоўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. да вёскі далучаны хутар Красны. У Вял. Айч. Вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 80 вяскоўцаў. На ўшанаванне іх памяці ў 1966 г. ў цэнтры вёскі ўстаноўлены помнік. У 1990 г. 28 гаспадарак, 82 жыхары, у складзе калгаса імя Энгельса (цэнтр — в. Басценавічы). Працавалі пач. школа, сталовая, магазін. З 1990-х г. ў Ракшынскім с/с. У 2007 г. цэнтр СВК «Сцяг працы», дзіцячы сад, сярэдняя школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, філіял Мсціслаўскага УКП «Бытпаслугі», магазін, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных (2 паралельныя паміж сабой злучаны завулкам, 3-я — адасобленая) і арыентаваных з ПдУ на ПдЗ вуліц. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПнУ гасп. сектар.

**МУШЫНА** — вёска, цэнтр Мушынскага с/с, за 12 км на ПдЗ ад Мсціслава, 88 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, у цэнтры — вадасховішча, з якога цячэ р. Радуга (прыток р. Белая Натапа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Пірагова і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў. 204 гаспадаркі, 455 жыхароў (2007).



*Аграгарадок Мішні. Добраўпарадкаванне індывідуальнай забудовы.*

Засн. ў пач. 1930-х г. як цэнтр. сядзіба саўгаса «Перамога», які ўваходзіў у Аршанскі свінагадоўчы трэст, меў у 1935 г. 7 трактароў і іншую тэхніку. У 1933 г. адкрыты дзіцячыя яслі. У 1934 г. вёска атрымала тэлеф. сувязь, у 1935 г. — электрычнасць. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. працавалі клуб, бальніца, аптэка. З ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У пач. Вял. Айч. вайны ў ліп. 1941 г. з саўгаса была эвакуіравана ў Разанскую і Пензенскую вобласці буйная рагатая жывёла (301 галава), у Тамбоўскую вобл. — коні (23 галавы). У 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У цэнтры вёскі на ўшанаванне памяці 248 землякоў —



*У аграгарадку Мішні.*

воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік. У 1944 г. саўгас атрымаў з Омскай вобл. 110 галоў буйной рагатай жывёлы. З 18.11. 1966 г. цэнтр сельсавета. У 1990 г. 198 гаспадарак, 593 жыхары, цэнтр саўгаса «Перамога», які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі і насенняводстве. Меў 6344 га сельгасугоддзяў, у тым ліку 4496 га ворыва, 39 грузавых аўтамашын, 77 трактароў, 18 збожжаўборачных, 4 ільнаўборачных, 9 бульбаўборачных камбайнаў і іншую тэхніку. У вёсцы працавалі дзіцячы сад, сярэдняя школа, клуб, б-ка, бальніца, ветэрынарная аптэка, швейная і шавецкая майстэрні, 2 магазіны, сталовая, грамадская лазня, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. сувязі. У 2007 г. цэнтр СВК «Мушына», дзіцячы сад, сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, філіял Мсціслаўскага УКП «Бытпаслугі». Ген. план забудовы вёскі распрацаваны ў 1975 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Гал. працяглая крывалінейная вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ. У цэнтры яе ўтворана невялікая прамавугольная плошча, вакол якой сканцэнтраваны асн. грамадскія будынкі. Побач знаходзіцца парк. На Пн і Пд ад галоўнай праходзяць 4 крывалінейныя вуліцы з завулкамі. Ад паўд.-ўсходняй ускраіны гал. вуліцы адыходзіць на ПнУ, уздоўж вадасховішча, яшчэ адна крывалінейная працяглая вуліца з завулкамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры 10 мураваных адна- і двухкватэрных дамоў, на паўн.-заходняй ускраіне — 3 двухпавярховыя васьмікватэрныя, 4 аднапавярховыя двухкватэрныя і 7 аднапавярховых аднакватэрных дамоў. На паўн. ускраіне аднавярховыя двухкватэрныя мураваныя дамы, на зах. — гасп. сектар. Зоны адпачынку — парк, сады, жывапіснае наваколле ўздоўж ракі.

*Народны хор.*



У складзе Мушынскага с/с 10 вёсак.

**МЫШАНОЕ** — былая вёска ў Ходасаўскім с/с, за 24 км на ПдЗ ад Мсціслава, 82 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны, на ПнЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў.

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 20 ст. У 1909 г. маёнтак Мышаное (ён жа Старожня) у Доўгавіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 1 двор, 1 жыхар. У 1920-я г. тут, на былых памешчыцкіх землях, будаваліся перасяленцы з бліжэйшых вёсак. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1932 г. арганізаваны калгас «Ударнік», які абслугоўвала Ходасаўская МТС імя Тэльмана. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 2 гаспадаркі, 4 жыхары, у складзе саўгаса імя Тэльмана (цэнтр — в. Ходасы). Традыц. драўляныя сялянскія сядзібы з гаспадарчымі пабудовамі былі пастаўлены ўздоўж прасёлачнай дарогі.

**МЫШКІНА** — вёска ў Мазалаўскім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Мсціслава, 88 км



Сураж. Рэльеф раўнінны. На ПдУ цячэ р. Кашанка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Мсціслаў—Расна—Магілёў, якая праходзіць побач з вёскай. 154 гаспадаркі, 433 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 18 ст. У 1777 г. вёска Мішна ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1825 г. 4 двары, уласнасць царквы. У 1858 г. 13 двароў, 104 жыхары, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу ў Доўгавіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 37 двароў, 305 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1926 г. 62 двары, 398 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Чарвякова, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 47 гаспадарак, меў 345 га ворыва, абслугоўвала яго Хлышчоўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. да вёскі далучаны хутар Красны. У Вял. Айч. Вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 80 вяскоўцаў. На ўшанаванне іх памяці ў 1966 г. ў цэнтры вёскі ўстаноўлены помнік. У 1990 г. 28 гаспадарак, 82 жыхары, у складзе калгаса імя Энгельса (цэнтр — в. Басценавічы). Працавалі пач. школа, сталовая, магазін. З 1990-х г. ў Ракшынскім с/с. У 2007 г. цэнтр СВК «Сцяг працы», дзіцячы сад, сярэдняя школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, філіял Мсціслаўскага УКП «Бытпаслугі», магазін, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных (2 паралельныя паміж сабой злучаны завулкам, 3-я — адасобленая) і арыентаваных з ПдУ на ПдЗ вуліц. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПнУ гасп. сектар.

**МУШЫНА** — вёска, цэнтр Мушынскага с/с, за 12 км на ПдЗ ад Мсціслава, 88 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, у цэнтры — вадасховішча, з якога цячэ р. Радуга (прыток р. Белая Натапа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Пірагова і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў. 204 гаспадаркі, 455 жыхароў (2007).



*Аграгарадок Мішні. Добраўпарадкаванне індывідуальнай забудовы.*

Засн. ў пач. 1930-х г. як цэнтр. сядзіба саўгаса «Перамога», які ўваходзіў у Аршанскі свінагадоўчы трэст, меў у 1935 г. 7 трактароў і іншую тэхніку. У 1933 г. адкрыты дзіцячыя яслі. У 1934 г. вёска атрымала тэлеф. сувязь, у 1935 г. — электрычнасць. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. працавалі клуб, бальніца, аптэка. З ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У пач. Вял. Айч. вайны ў ліп. 1941 г. з саўгаса была эвакуіравана ў Разанскую і Пензенскую вобласці буйная рагатая жывёла (301 галава), у Тамбоўскую вобл. — коні (23 галавы). У 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У цэнтры вёскі на ўшанаванне памяці 248 землякоў —



*У аграгарадку Мішні.*

воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік. У 1944 г. саўгас атрымаў з Омскай вобл. 110 галоў буйной рагатай жывёлы. З 18.11. 1966 г. цэнтр сельсавета. У 1990 г. 198 гаспадарак, 593 жыхары, цэнтр саўгаса «Перамога», які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі і насенняводстве. Меў 6344 га сельгасугоддзяў, у тым ліку 4496 га ворыва, 39 грузавых аўтамашын, 77 трактароў, 18 збожжаўборачных, 4 ільнаўборачных, 9 бульбаўборачных камбайнаў і іншую тэхніку. У вёсцы працавалі дзіцячы сад, сярэдняя школа, клуб, б-ка, бальніца, ветэрынарная аптэка, швейная і шавецкая майстэрні, 2 магазіны, сталовая, грамадская лазня, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. сувязі. У 2007 г. цэнтр СВК «Мушына», дзіцячы сад, сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, філіял Мсціслаўскага УКП «Бытпаслугі». Ген. план забудовы вёскі распрацаваны ў 1975 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Гал. працяглая крывалінейная вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ. У цэнтры яе ўтворана невялікая прамавугольная плошча, вакол якой сканцэнтраваны асн. грамадскія будынкі. Побач знаходзіцца парк. На Пн і Пд ад галоўнай праходзяць 4 крывалінейныя вуліцы з завулкамі. Ад паўд.-ўсходняй ускраіны гал. вуліцы адыходзіць на ПнУ, уздоўж вадасховішча, яшчэ адна крывалінейная працяглая вуліца з завулкамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры 10 мураваных адна- і двухкватэрных дамоў, на паўн.-заходняй ускраіне — 3 двухпавярховыя васьмікватэрныя, 4 аднапавярховыя двухкватэрныя і 7 аднапавярховых аднакватэрных дамоў. На паўн. ускраіне аднавярховыя двухкватэрныя мураваныя дамы, на зах. — гасп. сектар. Зоны адпачынку — парк, сады, жывапіснае наваколле ўздоўж ракі.

У складзе Мушынскага с/с 10 вёсак.

**МЫШАНОЕ** — былая вёска ў Ходасаўскім с/с, за 24 км на ПдЗ ад Мсціслава, 82 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны, на ПнЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў.

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 20 ст. У 1909 г. маёнтак Мышаное (ён жа Старожня) у Доўгавіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 1 двор, 1 жыхар. У 1920-я г. тут, на былых памешчыцкіх землях, будаваліся перасяленцы з бліжэйшых вёсак. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1932 г. арганізаваны калгас «Ударнік», які абслугоўвала Ходасаўская МТС імя Тэльмана. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 2 гаспадаркі, 4 жыхары, у складзе саўгаса імя Тэльмана (цэнтр — в. Ходасы). Традыц. драўляныя сялянскія сядзібы з гаспадарчымі пабудовамі былі пастаўлены ўздоўж прасёлачнай дарогі.

**МЫШКІНА** — вёска ў Мазалаўскім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Мсціслава, 88 км

*Народны хор.*





ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На ПнЗ пачынаецца р. Малатоўня (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў. 23 гаспадаркі, 45 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1690 г. як вёска ў валоданні памешчыка. У 1708 г. ўласнасць Мсціслаўскага кармеліцкага кляштара. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Памешчык у 1833 г. меў у вёсцы 121 дзес., а ў 1875 г. — 381 дзес. зямлі. У 1858 г. ў Мсціслаўскім павеце, 60 рэвізскіх душ, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Казіміраваслабодскай вол. Мсціслаўскага павета, 21 двор, 158 жыхароў. Побач былі 3 аднайменныя фальваркі (па 1 двары) і 2 сядзібы (па 1 двары). У 1909 г. 23 двары, 184 жыхары. У 1918 г. адкрыта школа, якой быў перададзены былы памешчыцкі будынак. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1925 г. ў школе навучаліся 38 вучняў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 12 гаспадарак, меў 113 га зямлі. З 1933 г. яго абслугоўвала Мсціслаўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 40 двароў, 132 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. спалілі вёску (38 дамоў). Пасля вайны адбудавана. У 1976 г. далучана в. Жараціно. У 1990 г. 48 гаспадарак, 122 жыхары, у складзе калгаса «60 гадоў БССР» (цэнтр — в. Мазалава), працаваў магазін. У 2007 г. ў СВК «Мазалаўскі». Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных кароткіх вуліц, злучаных на Пн завулкам і арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудавана аднабакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НЕСЦЕРАВА** — вёска ў Раздзельскім с/с, за 28 км на ПнЗ ад Мсціслава, 123 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На Пд і З цячэ р. Рухва (прыток р. Лядня), на Пн праходзіць злучаны з ёй меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Горкі. 99 гаспадарак, 268 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1638 г. сяло ў складзе маёнтка Беразетня Мсціслаўскага ваяв. ВКЛ, 55 гаспадарак, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1834 г. ў Мсціслаўскім павеце, 16 двароў, 117 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1858 г. дзейнічала карчма, з 1870 г. працаваў цагельны з-д. Памешчык меў тут у 1879 г. 609 дзес. зямлі, вінакурны з-д, млын і краму. Паводле перапісу 1897 г. ў Шамаўскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ., 54 двары, 402 жыхары. Побач былі 2 аднайменныя фальваркі па 1 двары, у адным — 15, у другім — 20 жыхароў. У 1909 г. 71 двор, 482 жыхары і 2 фальваркі (3 двары, 38 жыхароў і 1 двор, 2 жыхары). У 1910 г. адкрыта школа граматы, ператвораная ў 1914 г. ў земскую. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. На базе дарэвалюцыйнай адкрыта прац. школа 1-й ступені, якой быў перададзены памешчыцкі будынак (у 1926 г. 55 вучняў). У ёй камсамольская ячэйка наладжвала спектаклі. Працаваў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У ліст. 1930 г. арганізаваны калгас «13-ы Кастрычнік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 84 гаспадаркі, меў 620 га ворыва, абслугоўваўся Курманаўскай МТС. У 1936 г. адкрыты калгасны клуб. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1939 г. ў вёску былі перавезены з хутароў 21, а ў 1940 г. — 10 двароў. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. загубілі 11 жыхароў. Вызвалена вёска 29.9.1943 г. часцямі 277-й стралк. дывізіі. У 1990 г. 85 гаспадарак, 218 жыхароў, цэнтр калгаса «Камуніст», які спецыялізаваўся на вытв-сці мяса і малака, вырошчванні збожжавых і лёну. Меў 5265 га сельгасугоддзяў, у тым ліку 3791 га ворыва, 53 трактары, 14 збожжаўборачных камбайнаў, 25 аўтамашын і іншую тэхніку. У вёсцы працавалі дзіцячы сад, інтэрнат, клуб, магазін, сталовая,

фельч.-акушэрскі пункт. У 2007 г. СВК «Курманава», дзіцячы сад, сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі. Ген. план забудовы вёскі распрацаваны ў 1980 г. Белкалгаспраектам. Планіровачна складаецца з 2 працяглых крывалінейных, паралельных паміж сабой і злучаных завулкамі вуліц, мерыдыянальнай арыентацыі. На Пд, за ракой, праходзіць яшчэ адна кароткая прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне ўзведзены мураваныя адна- і двухкватэрныя дамы. Гасп. сектар — на ПнЗ і Пн.

Радзіма аднаго з кіраўнікоў партыз. руху на тэр. Віцебскай вобл. ў Вял. Айч. вайну, камандзіра Багушэўскай партыз. брыгады і сакратара Багушэўскага падп. райкома КП(б)Б Я.М.Прахарэнкі (1902—64).

**НОВАЕ СЯЛО** — вёска ў Мазалаўскім с/с, за 13 км на ПдЗ ад Мсціслава, 84 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ р. Белая Натапа (прыток р. Чорная Натапа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў. 60 гаспадарак, 117 жыхароў (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 17 ст. У 1690 г. вёска, валоданне памешчыка. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1834 г. сяло ў Мсціслаўскім павеце, 63 двары, 364 жыхары. У 1852 г. ў складзе маёнтка Залачова Мсціслаўскага павета, мелася карчма. У 1885 г. ў Казіміраваслабодскай вол. Мсціслаўскага павета, 77 двароў, 501 жыхар, драўляная царква. Паводле перапісу 1897 г. 97 двароў, 807 жыхароў, хлебазапасны магазін. Побач была аднайменная царк. сядзіба (2 двары, 7 жыхароў). Дзейнічала царк.-прыходская школа. У 1909 г. 134 двары, 919 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У вясковай школе ў 1926 г. было 144 вучні. Працаваў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. 190 двароў, 1082 жыхары. У сак. 1931 г. арганізаваны калгас імя Гея, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 138 гаспадарак, меў 897 га ворыва, абслугоўваўся Ходасаўскай МТС імя Тэльмана; мелася кузня. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 112 гаспадарак, 269 жыхароў, у складзе калгаса «60 гадоў БССР» (цэнтр — в. Мазалава). Працавалі пач. школа, б-ка, клуб, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін. У 2007 г. вёска ў СВК «Мазалаўскі», магазін. Планіроўка прамавугольная. Тры працяглыя прамалінейныя вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі перпендыкулярна перакрыжаваны 5 кароткімі прамалінейнымі, сярэдняя з якіх — галоўная. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, традыц., у асн. індывідуальнымі, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры гал. вуліцы грамадскія будынкі і 5 аднапавярховых аднакватэрных мураваных жылых дамоў. На паўд.-зах. ускраіне — гасп. сектар.

**НОВЫЯ ВІХРАНЫ** — вёска ў Сапрынавіцкім с/с, за 8 км на У ад Мсціслава, 103 км ад Магілёва, 27 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З мяжуе з лесам. На Пд і У цячэ р. Віхра (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Разанцы і далей па шашы Мсціслаў—Хіславічы. 12 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

За 0,5 км на У ад вёскі, за р. Віхра, на яе нізкім правым беразе, знаходзіцца курганны могільнік (18 насыпаў), што сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. вёска (15 двароў, 105 жыхароў) і фальварак (1 двор, 7 жыхароў) у Аслянскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. ў вёсцы 17 двароў, 132 жыхары, у маёнтку 1 двор, 2 жыхары. У 1919 г. ство-



рана камуна, у якой было 111 дзес. зямлі. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1925 г. адкрыта школа, у якой у 1926 г. было 42 вучні. У 1931 г. арганізаваны калгас «Шлях селяніна», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 70 гаспадарак, меў 371 га зямлі. З 1933 г. яго абслугоўвала Мсціслаўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 26 гаспадарак, 62 жыхары, у складзе калгаса «Савецкая Расія» (цэнтр — в. Сапрынавічы). У 2007 г. вёска ў СВК «Кастрычнік». Ад цэнтра крывалінейная вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, адыходзіць на З кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана пераважна аднабакова, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

За 1,5 км на Пд ад вёскі размешчана Віхранскае радовішча мелу (разведаныя запасы 1,37 млн. т).

**ПАБЕДА** (да 1947 г. Сапалава) — вёска ў Ходасаўскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Мсціслава, 81 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ р. Альхоўка (прыток р. Белая Натапа), а на ПдУ з ёй злучаны меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў. 18 гаспадарак, 28 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1667 г. як с. Сапалава ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. спустошана ў выніку ваенных дзеянняў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1781 г. вёска і аднайменны маёнтак у Чэрыкаўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 30 двароў, 184 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася сталярным промыслам. Паводле перапісу 1897 г. ў Доўгавіцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 14 двароў, 74 жыхары. У 1909 г. ў сяле 14 двароў, 67 жыхароў, у аднайменным маёнтку, што знаходзіўся побач — 2 двары, 18 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны дзень», які абслугоўвала Ходасаўская МТС імя Тэльмана. Мелася ваўначоска. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. далучана в. Шапялі. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На могілках пахаваны сав. лётчык, які загінуў 13.7.1941 г. ў паветр. баі супраць 3 фаш. самалётаў. У 1990 г. 54 гаспадаркі, 94 жыхары, у складзе племсаўгаса імя Тэльмана (цэнтр — в. Ходасы). Працавалі клуб, бальніца, магазін. У 2007 г. вёска далучана да ААТ «Мсціслаўскі райаграпрамтэхзаб». Планіровачна складаецца з 2 вуліц з завулкамі амаль шыротнай арыентацыі, аддзеленых адна ад другой шырокай канавай. Забудавана пераважна двухбакова, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАДЛУЖЖА** — вёска, цэнтр Краснагорскага с/с, за 12 км на ПдУ ад Мсціслава, 107 км ад Магілёва, 25 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Сураж. Рэльеф узгорысты. На У цячэ р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Калатовіна, Кудрычы і далей па шашы Мсціслаў—Крычаў. 130 гаспадарак, 320 жыхароў (2007).

Вядома па археал. крыніцах з 12 ст. як паселішча ў Мсціслаўскім княстве. У 1643 г. цэнтр маёнтка, уласнасць памешчыка. У 1737 г. мелася драўляная царква. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай



*Цэнтральная плошча аграгарадка Падлужжа.*

(1772) у складзе Рас. імперыі. У 1834 г. сяло (92 жыхары) і фальварак (20 жыхароў). У 1847 г. ў Мсціслаўскім павеце, сяло, 13 двароў, 165 жыхароў, і фальварак — 4 сям'і дваровых, 12 чалавек, уласнасць памешчыка. Мелася карчма. У 1862 г. пачала працаваць вінакурня (у 1881 г. 11 рабочых), дзейнічалі 2 царквы. Памешчык меў тут у 1866 г. 540 дзес. зямлі, вінакурны з-д, млын, карчму і паром. У 1885 г. ў Казіміраваслабодскай вол. Мсціслаўскага павета, 20 двароў, 168 жыхароў; адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. Паводле перапісу 1897 г. ў сяле 30 двароў, 205 жыхароў, піцейны дом, на аднайменной сядзібе — 1 двор, 7 жыхароў, царква; у царк. сяленні — 2 двары, 6 жыхароў, царква, прыходская школа; у фальварку — 1 двор, 26 жыхароў, вінакурны з-д. У 1909 г. ў сяле 34 двары, 333 жыхары. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 52 вучні. У 1926 г. 62 двары, 369 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны шлях», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 32 гаспадаркі, меў 147 га зямлі. Старшынёй калгаса у 1931 г. быў абраны Ул.Т.Мікалаеў, які ў 1929 г. на радзіме (в. Міцькаўшчына) арганізаваў саўгас-камуну. З 1933 г. калгас абслугоўваўся Мсціслаўскай МТС імя Кірава. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 80 двароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 35 двароў. Вызвалена 29.9.1943 г. Пасля вайны адбудавана. У памяць аб 178 земляках, што загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе, у цэнтры вёскі ў 1969 г. пастаўлены абеліск. З 6.4.1973 г. цэнтр сельсавета. У 1977 г. ў вёсцы створаны музей прац. і баявой славы. У 1990 г. 155 гаспадарак, 456 жыхароў, цэнтр калгаса «XXI з'езд КПСС», які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі і насенняводстве. Меў 3385 га сельгасугоддзяў, у тым ліку 2383 га ворыва, 43 грузавыя аўтамашыны, 57 трактароў, 20 збожжаўборачных камбайнаў і іншую тэхніку. У 1990-я г. ў вёсцы працавалі дзіцячы сад, сярэдняя школа, б-ка, Дом культуры, гандл. цэнтр, сталовая, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 2007 г. цэнтр СВК «Сож-Агра», Дом культуры, б-ка аграгарадка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, філіял Мсціслаўскага УКП «Бытпаслугі», фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі. Ген. план забудовы вёскі распрацаваны ў 1980 г. Магілёўскім філіялам ін-та «Белдзяржпраект». Планіровачна складаецца з працяглай дугападобнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай мерыдыянальна, уздоўж ракі. У цэнтры вуліцы ўтворана невялікая прамавугольная плошча. На ПдЗ праходзіць прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова традыц. індывідуальнымі, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Частка вёскі забудавана мураванымі аднакватэрнымі дамамі. На паўн. ускраіне пабудаваны 3 трохпавярховыя мураваныя дамы. Гасп. сектар на З і ПдЗ. Зона адпачынку — жывапіснае наваколле і берагі р. Сож.

*Жылыя шматкватэрныя будынкі аграгарадка Падлужжа.*



У склад Краснагорскага с/с уваходзяць 15 вёсак.

**ПАДСОЛТАВА** — вёска, цэнтр Падсолтаўскага с/с, за 20 км на ПнЗ ад Мсціслава, 115 км ад Магілёва, 18 км ад



чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Белая Натапа (прыток р. Чорная Натапа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Занькаўшчына і далей па шашы Мсціслаў—Горкі. 106 гаспадарак, 260 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1781 г. сяло Поцалтава ў Мсціслаўскім павеце. Памешчык меў тут у 1858 г. 610 дзес. зямлі, млын і карчму. Паводле перапісу 1897 г. сяло Пацолтава ў Старасельскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ., 4 двары, 13 жыхароў, драўляная царква (адкрыта не пазней 1880 г.), царк.-прыходская школа, штогод (9 мая, 20 ліп.) праводзіліся кірмашы. Побач былі фальварак, 1 двор, 8 жыхароў, ветраны млын, кузня, і карчма — 1 двор, 9 жыхароў. У 1909 г. 20 двароў, 104 жыхары, вінная крама, нафтавы млын, кузня. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. было 124 вучні. У сярэдзіне 1920-х г. арганізавана крэдытнае, 21.9.1925 г. — меліярацыйнае, 29.12.1925 г. — Чырвонакастрычніцкае с.-г., 29.3.1926 г. — масларобнае т-вы. У 1930 г. арганізаваны калгас «Сталінскі прыліў», які ў 1932 г. аб'яднoўваў 34 гаспадаркі, меў 240 га ворыва, абслугоўваўся Курманаўскай МТС. У 1934 г. на льнозаводзе ўведзена ў строй устаноўка па выпрацоўцы электраэнергіі. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што на могілках, пахаваны 6 воінаў, у іх ліку байцы 36-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў 1943 г. ў баі за вызваленне вёскі. У цэнтры вёскі на ўшанаванне памяці 170 землякоў — воінаў і партызан, загінуўшых у барацьбе супраць фашызму, у 1971 г. пастаўлена стэла. У 1990 г. 112 гаспадарак, 311 жыхароў, цэнтр калгаса «Савецкая Беларусь», які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі і льнаводстве. Меў 3220 га сельгасугоддзяў. У вёсцы працавалі сярэдняя школа, дзіцячы сад, б-ка, фельч.-акушэрскі і ветэрынарны пункты, швейная майстэрня, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сталовая, 2 магазіны, аддз. сувязі. З 2007 г. цэнтр СВК «Савецкая Беларусь», сярэдняя агульнаадукац. школа, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, філіял Мсціслаўскага УКП «Бытпаслугі». Ген. план забудовы вёскі распрацаваны ў 1979 г. Белкалгаспраектам. Планіроўка прамавугольная. Дзве амаль прамалінейныя працяглыя вуліцы, арыентаваныя з ПдУ на ПнЗ, перпендыкулярна перакрыжаваны 3 кароткімі прамалінейнымі вуліцамі. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры гал. вуліцы пабудаваны 40 аднапавярховых аднакватэрных мураваных дамоў. На З — гасп. сектар. На Пд — сад.

У склад Падсолтаўскага с/с уваходзяць 11 вёсак.

**ПАРАДЗІНА** — вёска ў Краснагорскім с/с, за 8 км на ПдУ ад Мсціслава, 103 км ад Магілёва, 27 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ПнЗ цячэ р. Серабранка (прыток р. Віхра), а на У — р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Каробчына і далей па шашы Магілёў—Мсціслаў. 79 гаспадарак, 151 жыхар (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1499 г. як гаспадарскі дом Парадзіна, валоданне кн. Жаслаўскага. У 1764 г. цэнтр дзяржавы ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, казённая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1848 г. вёска (53 двары) у складзе маёнтка Галоўчыцы Мсціслаўскага павета. У 1883 г. сяло ў Казіміраваслабодскай вол. Мсціслаўскага павета, 69 двароў, 513 жыхароў, драўляная царква (адкрыта не пазней

1880 г.), царк.-прыходская школа (з 1893). Паводле перапісу 1897 г. 108 двароў, 744 жыхары, хлебазапасны магазін, піцейны дом. У 1909 г. 116 двароў, 856 жыхароў. У 1921 г. прац. школе 1-й ступені, якая дзейнічала ў вёсцы, быў перададзены былы памешчыцкі будынак. З 17.7.1924 г. вёска ў складзе БССР. У 1925 г. ў школе навучаліся 62, а ў 1926 г. — 87 вучняў, працавалі драматычны і харавы гурткі. У 1926 г. 180 двароў, 1111 жыхароў. У лютым 1929 г. арганізаваны калгас «1 Мая», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 167 гаспадарак, меў 659 га ворыва, кузню. Абслугоўвала яго Мсціслаўская МТС імя Кірава. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 250 двароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі вёску (50 дамоў). Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 150 гаспадарак, 335 жыхароў, у складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Каробчына). Працавалі 8-гадовая школа, б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. У 2007 г. вёска ў СВК «Сож-Агра». Дзейнічаюць фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, перакрыжаванай 6 кароткімі прамалінейнымі вуліцамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПнУ — гасп. сектар, побач — сад.

За 1,5 км на Пн ад вёскі знаходзіцца радовішча пяскоў (разведаныя запасы 707 м$^3$).

**ПАСТАРНАКІ** — вёска ў Сапрынавіцкім с/с, за 7 км на ПнУ ад Мсціслава, 102 км ад Магілёва, 26 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Хіславічы. 15 гаспадарак, 50 жыхароў (2007).

У 1825 г. вёска (7 двароў) у Мсціслаўскім павеце, уласнасць царквы. Паводле перапісу 1897 г. аколіца ў Аслянскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ. паблізу тракта Мсціслаў—Хіславічы, 11 двароў, 65 жыхароў. У 1909 г. 7 двароў, 50 жыхароў. У 1910 г. адкрыта школа граматы. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1926 г. 17 двароў, 97 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Полымя», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 63 гаспадаркі, меў 335 га ворыва, абслугоўваўся Мсціслаўскай МТС імя Кірава. У 1931 г. калгасу перададзены ўрочышчы Бачыншчына і Лісічын Роў. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. За 1 км ад вёскі, каля шашы Мсціслаў—Хіславічы, пахаваны сав. воін, які загінуў у 1943 г. пры вызваленні раёна ад гітлераўскіх захопнікаў. У 1990 г. 9 гаспадарак, 16 жыхароў, у складзе калгаса «Савецкая Расія» (цэнтр — в. Сапрынавічы). У 2007 г. вёска СВК «Кастрычнік». Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАЎДНЁВАЕ БЯЛІШЧАНА** — вёска ў Сапрынавіцкім с/с, за 11 км на ПнУ ад Мсціслава, 106 км ад Магілёва, 30 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПдЗ мяжуе з лесам. На ПнУ цячэ р. Аслянка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Аслянка і далей па шашы Мсціслаў—Хіславічы. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

Паводле перапісу 1897 г. вёска Бялішчына ў Аслянскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ., 28 двароў, 188 жыхароў. У 1909 г. 31 двор, 199 жыхароў. З 17.7.1924 г. вёска ў складзе БССР. У 1926 г. 49 двароў, 273 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная змена», які абслугоўвала Мсціслаўская МТС імя Кірава. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 18 гаспадарак, 31 жыхар, у складзе калгаса «Савецкая Расія» (цэнтр — в. Сапрынавічы). У 2007 г. ў СВК «Кастрычнік». Планіровачна складаецца з крывалінейнай кароткай вуліцы з завул-



камі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАЎНОЧНАЕ БЯЛІШЧАНА** — вёска ў Сапрынавіцкім с/с, за 10 км на ПнУ ад Мсціслава, 105 км ад Магілёва, 29 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ПдЗ цячэ р. Аслянка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Аслянка і далей па шашы Мсціслаў—Хіславічы. 10 гаспадарак, 14 жыхароў (2007).

Паводле перапісу 1897 г. вёска Бялішчына ў Аслянскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ., 28 двароў, 188 жыхароў. У 1909 г. 31 двор, 199 жыхароў. З 17.7.1924 г. вёска ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная змена», які абслугоўвала Хіславіцкая МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.9.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 20 гаспадарак, 31 жыхар, у складзе калгаса «Савецкая Расія» (цэнтр — в. Сапрынавічы). У 2007 г. вёска ў СВК «Кастрычнік». Планіровачна складаецца з крывалінейнай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ, уздоўж ракі, і забудаванай пераважна двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАЦКАВА** — вёска ў Радзельскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Мсціслава, 95 км ад Магілёва, 19 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Рамясцвянка (прыток р. Быстрая). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Белы Мох, Данілаўка, Ірцішчава і далей па шашы Мсціслаў—Горкі. 29 гаспадарак, 55 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1685 г. засн. дамініканскі кляштар, якому належалі сёлы Пацкаў і Млынцы. У 1737 г. мелася царква. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1784 г. ў валоданні памешчыка. У 1834 г. ў Мсціслаўскім павеце, 40 двароў, 284 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. вёскі Вялікае Пацкава (45 двароў, 252 жыхары, піцейны дом) і Малое Пацкава (25 двароў, 176 жыхароў) у Шамаўскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ. Побач быў фальварак — 1 двор, 29 жыхароў, вадзяны млын, сукнавальня (засн. ў 1780). Апрача земляробства вяскоўцы займаліся валеным, кравецкім, калёсным, сталярным, ганчарным і кавальскім промысламі. У 1909 г. ў в. Вялікае Пацкава 51 двор, 294 жыхары, у в. Малое Пацкава — 26 двароў, 163 жыхары, у фальварку — 1 двор, 20 жыхароў. У 1910 г. адкрыта земская школа. Вясковец А.Агееў быў арганізатарам вал. атрада Чырвонай гвардыі. З 17.7.1924 г. вёска ў складзе БССР. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. навучаліся 68 вучняў. У 1931 г. ў в. Вялікае Пацкава арганізаваны калгас «Савецкая Беларусь» (у 1932 г. аб'ядноўваў 34 гаспадаркі, меў 148 га ворыва), у в. Малое Пацкава — калгас «Бальшавік» (у 1932 г. 36 гаспадарак, 150 га ворыва). Гаспадаркі мелі свае кузні, абслугоўваліся Курманаўскай МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 29.9.1943 г. вёскі акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1976 г. Вялікае Пацкава і Малое Пацкава аб'яднаны ў адну в. Пацкава, якая з 1950-х г. у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Курманава). У 1990 г. 69 гаспадарак, 140 жыхароў. Працавалі б-ка, клуб, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін. У 2007 г. вёска ў СВК «Курманава». Дзейнічае магазін. Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ абапал ракі і забудаваных пераважна двухбакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на Пн.

**ПІРАГОВА** — вёска ў Мушынскім с/с, за 10 км на ПдЗ ад Мсціслава, 94 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пн цячэ р. Малатоўня (прыток р.

Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Галкавічы і далей па шашы Магілёў—Мсціслаў. 18 гаспадарак, 39 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1510 г. сяло ў Мсціслаўскім княстве, шляхецкая ўласнасць. У 1684 г. ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, уласнасць памешчыка. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1781 г. мелася царква. У 1825 г. ўласнасць царквы. У 1852 г. сяло ў складзе маёнтка Залачэва, уласнасць памешчыка, які меў тут у 1868 г. 101 дзес. зямлі. У 1885 г. ў Казіміраваслабодскай вол. Мсціслаўскага павета, 38 двароў, 216 жыхароў. У 1896 г. адкрыта земская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. Паводле перапісу 1897 г. 44 двары, 322 жыхары. Побач былі аднайменныя царк. сядзіба (2 двары, 10 жыхароў) і 2 фальваркі (2 двары, 2 жыхары). У 1909 г. сяло, 31 двор, 187 жыхароў, і 2 фальваркі — 2 двары, 7 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 40 вучняў, мелася б-ка. У 1926 г. вёска (85 двароў, 439 жыхароў) была падзелена на дзве. У 1931 г. ў в. Вялікае Пірагова арганізаваны калгас «Ударная праца», у 1932 г. аб'ядноўваў 45 гаспадарак, меў 374 га ворыва, абслугоўваўся Мсціслаўскай МТС імя Кірава. У в. Малое Пірагова быў створаны калгас імя Леніна, у 1932 г. 17 гаспадарак, 110 га зямлі, дзейнічала кузня. У канцы 1930-х г. Вялікае Пірагова і Малое Пірагова аб'ядналіся ў адну в. Пірагова. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 45 двароў, 141 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да 3.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. спалілі 39 дамоў. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 16 гаспадарак, 47 жыхароў, у складзе саўгаса «Перамога» (цэнтр — в. Мушына). У 2007 г. вёска ў СВК «Мушына». Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы з завулкамі амаль шыротнай арыентацыі. Забудавана няшчыльна традыц. індывідуальнымі жылымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПРЫБЯРЭЖЖА** — вёска ў Забалацкім с/с, за 41 км на ПдЗ ад Мсціслава, 74 км ад Магілёва, 21 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны, на Пн і У мяжуе з лесам. На Пд цячэ р. Волчас (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Чорная Сасна, Забалацце і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

Па рукапісных крыніцах вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1811 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 12 двароў, 37 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. У 1834 г. 83 жыхары. Памешчык меў тут у 1868 г. 190 дзес. зямлі і вадзяны млын. Паводле перапісу 1987 г. ў Беліцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 24 двары, 109 жыхароў. Побач быў аднайменны фальварак, 1 двор, 7 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 23 двары, 125 жыхароў, у фальварку 2 двары, 25 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Шлях сацыялізму», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 21 гаспадарку, меў 246 га ворыва. Абслугоўвала яго Ходасаўская МТС імя Тэльмана, мелася кузня. З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 20.7.1941 г. да 20.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 13 гаспадарак, 17 жыхароў, у складзе саўгаса «Забалацце» (цэнтр — в. Забалацце). У 2007 г. ва УКСП «Саўгас «Забалацце». Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі з завулкамі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПУСТЫНКІ** — былая вёска ў Ходасаўскім с/с, за 10 км на Пн ад Мсціслава, 105 км ад Магілёва, 29 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўніна-ўзгорысты. Праз вёску цячэ р. Аслянка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў.



Вёска ўзнікла ў сувязі з заснаваннем тут у 1380 г. Пустынскага Успенскага манастыра, які з'яўляецца помнікам архітэктуры. У 1500 г. сяло ў Мсціслаўскай вол., уласнасць манастыра. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Мсціслаўскім павеце, 12 двароў, 131 жыхар, млын. У 1850 г. ў Аслянскай вол. Мсціслаўскага павета, 20 двароў, 124 жыхары. У 18—19 ст. дзейнічала царква, у 1870 г. адкрыта царк.-прыходская школа. Паводле перапісу 1897 г. 36 двароў, 184 жыхары. У манастыры было 5 двароў, 64 жыхары, вадзяны млын, сукнавальня, царк.-прыходская школа, 3 мураваныя царквы, 2 капліцы. У 1909 г. 42 двары, 234 жыхары. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, размяшчалася ў былым манастыры (у 1926 г. 80 вучняў). У 1926 г. 8 двароў, 57 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Колас», які абслугоўвала Мсціслаўская МТС імя Кірава. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Тут пасля вызвалення некаторы час працаваў дзіцячы дом. У 1976 г. далучана в. Зялёны Лес. У 1990 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары, у складзе саўгаса «Мсціслаўскі» (цэнтр — г. Мсціслаў). Традыцыйныя драўляныя сялянскія сядзібы былі пастаўлены ўздоўж мясцовай дарогі.

**ПУЦЯТЫ** — вёска ў Падсолтаўскім с/с, за 17 км на ПнЗ ад Мсціслава, 112 км ад Магілёва, 25 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны, на З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Гаранка (прыток р. Чорная). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Горкі. 11 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

Па рукапісных крыніцах вядома з 18 ст. У 1768 г. маёнтак. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1857 г. вёска ў Мсціслаўскім павеце. Паводле перапісу 1897 г. ў Старасельскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ., 21 двор, 139 жыхароў. Побач існавала аколіца, 15 двароў, 84 жыхары. У 1909 г. ў вёсцы 33 двары, 101 жыхар, у аколіцы — 13 двароў, 51 жыхар. З 17.7. 1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 40 гаспадарак, меў 350 га ворыва, абслугоўваўся Курманаўскай МТС. Дзейнічаў ветраны млын. З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1976 г. да яе далучана в. Шумякіна. У 1990 г. 26 гаспадарак, 56 жыхароў, у складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Мілейкава). У 2007 г. вёска ў СВК «Мілейкава». Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, ад якой адыходзіць на Пд кароткая крывалінейная вуліца з завулкам. Трэцяя кароткая прамалінейная вуліца, паралельная да першай, праходзіць на ПнУ. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПЯТРЫГІ** — вёска ў Забалацкім с/с, за 35 км на ПнЗ ад Мсціслава, 70 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Волчас (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Бескаўка і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў. 33 гаспадаркі, 57 жыхароў (2007).

У 1858 г. вёска, 10 двароў, 26 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 23 двары, 68 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася бандарным промыслам. Паводле перапісу 1897 г. ў Беліцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 56 двароў, 266 жыхароў. У 1909 г. 2 вёскі: у адной — 17 двароў, 35 жыхароў, у другой — 52 двары, 273 жыхары. У 1920-х г. вёскі былі аб'яднаны. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР, створана с.-г. т-ва. У 1926 г. 60 двароў, 250 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 43 гаспадаркі, меў 501 га ворыва і кузню. Абслу-

гоўвала яго Ходасаўская МТС імя Тэльмана. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 20.7.1941 г. да 30.9.194 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 65 гаспадарак, 152 жыхары, у складзе саўгаса «Забалацце» (цэнтр — в. Забалацце). Працавалі пач. школа, б-ка, магазін. У 2007 г. вёска ва УКСП «Саўгас «Забалацце». Рака падзяляе вёску на паўд. (2 паралельныя паміж сабой прамалінейныя вуліцы арыентаваны з ПнУ на ПдЗ, дзе перпендыкулярна перакрыжаваны 3-й прамалінейнай вуліцай) і паўн. (прамалінейная вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ) часткі. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі — сярод жылой забудовы паўн. часткі. На З гасп. сектар.


*М.С.Мураўёў.*

Радзіма старшага гранатамётчыка М.С.Мураўёва (1963—84), які загінуў у Афганістане пры выкананні службовых абавязкаў.

**ПЯЧКАВІЦКІ ІЛЬНОЗАВОД** — пасёлак у Ходасаўскім с/с, за 2 км на У ад Мсціслава, 97 км ад Магілёва, 21 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны, на У і ПнУ мяжуе з лесам. На З цячэ р. Віхра (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Мсціслаў—Хіславічы, якая праходзіць праз вёску. 11 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

У цэнтры пасёлка, на краі старога пясчанага кар'ера знаходзіцца старaж. курган, які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядомы з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. фальварак у Аслянскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ., каля дарогі Мсціслаў—Хіславічы, 4 двары, 10 жыхароў. У 1909 г. аколіца, 5 двароў, 12 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. З 20.8.1924 г. да 24.9.1926 г. цэнтр сельсавета. У 1926 г. 15 двароў, 73 жыхары. У сярэдзіне 1920-х г. пачало дзейнічаць закупачна-збытавое т-ва. У 1929 г. арганізаваны калгас «20 гадоў Кастрычніка», які абслугоўвала Мсціслаўская МТС імя Кірава. У 1930 г. пабудавана кузня, у 1932 г. — ільнозавод. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 25 двароў, 114 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. спалілі 21 двор, разбурылі лёназавод, непадалёку ад пасёлка ў перыяд з восені 1941 г. да вер. 1943 г. расстралялі звыш 500 сав. грамадзян (пахаваны ў магіле ў цэнтры пасёлка). У пасляваенны час адбудаваны. У 1990 г. 157 гаспадарак, 417 жыхароў, у складзе калгаса «Савецкая Расія» (цэнтр — в. Сапрынавічы). Працавалі дзіцячы сад-яслі, пач. школа, б-ка, клуб, інтэрнат, сталовая, 2 магазіны, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, шавецкая майстэрня, аддз. сувязі, а таксама ветэрынарны ўчастак і лёназавод. У 2005 г. пасёлак у СВК «Кастрычнік». Ген. план забудовы распрацаваны ў 1976 г. Магілёўскім філіялам Белкалгаспраекта. Ад гал. прамалінейнай шыротнай арыентацыі вуліцы (адрэзак шашы) адыходзяць на Пн і Пд другарадныя, крывалінейныя кароткія вуліцы. На ПдУ крывалінейная вуліца з завулкам, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ. Забудавана пераважна двухбакова традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПдЗ працуе лёназавод.

Каля ўсх. ускраіны вёскі знаходзіцца радовішча пяскоў (разведаныя запасы 399 тыс. м$^3$).

**ПЯЧКАВІЧЫ** — вёска ў Ходасаўскім с/с, за 27 км на ПдЗ ад Мсціслава, 78 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўніны, на ПдЗ мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Лучкі (прыток р. Чорная Натапа), на паўн. ускраіне — сажалка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Усполле і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў. 41 гаспадарка, 68 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 1523 г. як сяло, уласнасць праваслаўнай царквы. У 1664 г. аддадзена Мсціслаўскаму кармеліцкаму кляштару. У 1768 г. ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Пас-



палітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1834 г. сяло (84 жыхары) у Чэрыкаўскім павеце, уласнасць царквы. У 1858 г. меліся піцейны дом, заезны двор. Памешчык тут меў у 1868 г. 125 дзес. зямлі. У 1878 г. адкрыта школа. Частка вяскоўцаў займалася бандарным промыслам. Паводле перапісу 1897 г. ў Доўгавіцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 30 двароў, 139 жыхароў. У 1909 г. 15 двароў, 119 жыхароў. Побач была аднайменная аколіца, 26 двароў, 198 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 66 вучняў. З 20.8.1924 г. да 20.2.1938 г. цэнтр сельсавета. У 1925 г. створана с.-г. т-ва. У 1926 г. 66 двароў, 416 жыхароў. У жн. 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны факел», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 75 гаспадарак, меў 569 га зямлі. Абслугоўвала калгас Ходасаўская МТС імя Тэльмана. У 1933 г. для школы пабудавана новае памяшканне, у 1938 г. пачаў дзейнічаць Дом культуры. З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 75 двароў, 322 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. спалілі 68 двароў, загубілі 2 жыхароў. У 1966 г. ў цэнтры вёскі на ўшанаванне памяці 101 земляка, што загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, пастаўлены абеліск. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1976 г. далучана в. Грозы. У 1990 г. 84 гаспадаркі, 195 жыхароў, у складзе калгаса «XXVI з'езд КПСС» (цэнтр — в. Усполле). Працавалі пач. школа, б-ка, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, магазін. У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Мсціслаўскі райаграпрамтэхзаб». Ёсць магазін. Рака падзяляе вёску на зах. (да крывалінейнай працяглай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі перпендыкулярна і пад вострым вуглом далучаюцца другарадныя вуліцы) і ўсх. (2 кароткія прамалінейныя, злучаныя паміж сабой вуліцы арыентаваны з ПдУ на ПнЗ, былая в. Грозы). Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц., пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры зах. часткі 5 мураваных аднакватэрных дамоў. На ПдЗ — гасп. сектар, на У — сад.

**ПЯЧОНКІ** — вёска ў Ракшынскім с/с, за 35 км на З ад Мсціслава, 74 км ад Магілёва, 25 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўніны, на ПдУ і ПнЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ракшыно і далей па шашы Мсціслаў—Расна—Магілёў. 14 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1777 г. як вёска ў Чавускай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. сяло ў складзе маёнтка Горкі Аршанскага павета Магілёўскага намесніцтва, 7 двароў, 59 жыхароў, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. сяло ў Расненскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ. Побач была аднайменная аколіца, 7 двароў, 62 жыхары. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. З 20.8.1924 г. да 20.2.1938 г. цэнтр сельсавета. У 1924 г. створана с.-г. т-ва. У 1930 г. арганізаваны калгас «Колас», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 40 гаспадарак з вёсак Пячонкі і Картыжы, меў 387 га ворыва, абслугоўваўся Курманаўскай МТС. З 20.2.1938 г. ў Ма-



*Помнік ахвярам фашызму ў в. Пячкавічы.*

гілёўскай вобл. У 1940 г. далучана в. Каленаўшчына. У Вял. Айч. вайну з 11.7. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 19 гаспадарак, 49 жыхароў, у складзе саўгаса імя Свярдлова (цэнтр — в. Ракшыно). У 2007 г. вёска ў СВК «Сцяг працы». Планіроўвачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РАЗАНЦЫ** — вёска ў Сапрынавіцкім с/с, за 8 км на У ад Мсціслава, 103 км ад Магілёва, 27 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З мяжуе з лесам. На Пд цячэ р. Віхра (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Сапрынавічы і далей па шашы Мсціслаў—Хіславічы. 211 гаспадарак, 623 жыхары (2007).

На левым беразе р. Віхра, пры ўездзе ў вёску з в. Новыя Віхраны, захавалася стараж. селішча, а на паўд.-усх. краі сада, на левым беразе р. Віхра, — курганны могільнік (5 насыпаў), якія сведчаць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вёска вядома з 16 ст. У 1583 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. ў Аслянскай вол. Мсціслаўскага павета, 12 двароў, 76 жыхароў. У 1909 г. 9 двароў, 60 жыхароў, адкрыта школа (нар. вучылішча). З 17.7. 1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Мсціслаўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 19 гаспадарак, 46 жыхароў, у складзе калгаса «Савецкая Расія» (цэнтр — в. Сапрынавічы). Працавалі 8-гадовая школа, магазін. Планіроўвачна складаецца з крывалінейнай вуліцы з завулкам амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РАЗДЗЕЛ** — вёска, цэнтр Раздзельскага с/с, за 28 км на ПдЗ ад Мсціслава, 101 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Рамясцвянка (прыток р. Быстрая), а праз вёску — ручай, яе прыток. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Бель і далей па шашы Мсціслаў—Горкі. 68 гаспадарак, 136 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 17 ст. У 1622 г. сяло Раздзелічы, 2 двары. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1848 г. сяло Раздзелы ў Мсціслаўскім павеце, 47 рэвізскіх душ. У 1880 г. 38 двароў, 274 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. вёскі Раздзел 1 (22 двары, 162 жыхары) і Раздзел 2 (28 двароў, 152 жыхары) у Ша-



*Забудова сядзібнага тыпу ў аграгарадку Разанцы.*



*Будынак школы ў аграгарадку Разанцы.*



маўскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ. У час рэвалюцыі 1905—07 гг. распаўсюджваліся рэв. пракламацыі. У 1909 г. ў в. Раздзел 1 — 26 двароў, 168 жыхароў, у в. Раздзел 2 — 26 двароў, 215 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся калёсным і сталярным промысламі. У 1913 г. адкрыта школа. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. было 82 вучні. У 1930-х г. арганізаваны калгас «Чырвоная іскра», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 14 гаспадарак, меў 75 га ворыва, абслугоўваўся Курманаўскай МТС. У 1937 г. адкрыты яслі. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Пасля вайны адбудавана. З 29.8.1959 г. цэнтр сельсавета. У 1990 г. 93 гаспадаркі, 210 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Курманава), працаваў магазін. У 2007 г. вёска ў СВК «Курманава». Дзейнічае магазін. Ручай падзяляе вёску на паўн.-зах. (крывалінейная працяглая вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ, ад яе перпендыкулярна на ПнЗ адыходзяць 2 кароткія прамалінейныя вуліцы, былая в. Раздзел 2) і паўд.-ўсх. (прамалінейная працяглая вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ, ад яе на ПдУ і У адыходзяць 2 кароткія вуліцы, былая в. Раздзел 1). Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПнЗ і Пд — гасп. сектар.

Раздзел (былая в. Раздзел 2) — радзіма бел. літаратуразнаўцы, кандыдата філалагічных навук, крытыка В.П.Жураўлёва (нар. ў 1931).

Каля паўд.-ўсх. ускраіны вёскі знаходзіцца Раздзельскае радовішча суглінкаў і супяскоў (разведаныя запасы 181 тыс. м³). У склад Раздзельскага с/с уваходзяць 19 вёсак.

**РАКІТАНКА** — вёска ў Забалацкім с/с, за 37 км на ПдЗ ад Мсціслава, 72 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. На Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Сарочынка (прыток р. Мяртвіца). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Міхайлава, Забалацце і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў. 15 гаспадарак, 21 жыхар (2007).

У 1897 г. вёска ў Беліцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 44 двары, 278 жыхароў. У 1909 г. 66 двароў, 275 жыхароў, школа граматы. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 33 гаспадаркі, меў 208 га ворыва, абслугоўваўся Ходасаўскай МТС імя Тэльмана. У 1940 г. 67 двароў, 197 жыхароў; далучана в. Папоўшчына. У Вял. Айч. вайну з 20.7.1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў кастр. 1942 г. і вер. 1943 г. спалілі 60 двароў, загубілі 32 жыхароў. На ўсх. ускраіне ў брацкай магіле пахаваны 2 воіны 139-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць акупантаў. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1990 г. 46 гаспадарак, 89 жыхароў, у складзе саўгаса «Забалацце» (цэнтр — в. Забалацце). Працавалі пач. школа, б-ка. У 2007 г. вёска ва УКСП «Саўгас «Забалацце». Плані-



*В.П.Жураўлёў.*



*Помнік на брацкай магіле ў в. Ракітанка.*

ровачна складаецца з прамалінейнай працяглай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, ад якой на Пд адыходзяць 3 кароткія прамалінейныя вуліцы. На У і Пд адасобленыя ўчасткі забудовы (былыя в. Парэмшчына і пас. Высокі). Жылыя дамы традыц., драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены двухбакова, шчыльна.

**РАКШЫНО** — вёска, цэнтр Ракшынскага с/с, за 31 км на З ад Мсціслава, 72 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам, на паўн. ускраіне — сажалка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Расна—Магілёў. 64 гаспадаркі, 154 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1654 г. вёска пажалавана царом Аляксеем Міхайлавічам Івану Сямашку, нашчадку мітрапаліта Іосіфа Сямашкі. У 1667 г. сяло Ракошын аддадзена Мсціслаўскаму кармеліцкаму кляштару. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. сяло ў Чавускай акрузе Магілёўскай губ. Памешчык меў тут у 1876 г. 100 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў Расненскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 8 двароў, 46 жыхароў. Побач былі 2 аднайменныя фальваркі: у адным — 1 двор, 10 жыхароў, у другім — 2 двары, 2 жыхары. У 1909 г. ў сяле 10 двароў, 57 жыхароў, у 2 фальварках — 2 двары, 9 жыхароў. З 17.7.1924 г. вёска ў складзе БССР. У 1930 г. арганізаваны калгас «Пераможац», які абслугоўвала Курманаўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 11.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што на могілках, пахаваны 27 воінаў 277-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў баях у 1943 г. У 1990 г. 68 гаспадарак, 146 жыхароў, цэнтр калгаса імя Свярдлова, які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі. Меў 3897 га с.-г. угоддзяў. У вёсцы працавалі сярэдняя школа, клуб, б-ка, аптэка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, сталовая, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. У 2007 г. вёска ў СВК «Сцяг працы». Дзейнічаюць Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі. Генплан забудовы распрацаваны ў 1976 г. Магілёўскім філіялам ін-та «Белдзяржпраект». Планіровачна складаецца з працяглай, крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ і ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры 10 аднапавярховых аднакватэрных мураваных дамоў. На ПнЗ — гасп. сектар.

У склад Ракшынскага с/с уваходзяць 13 вёсак.

**РАССВЕТ** (да 1947 г. Чартова) — вёска ў Лютненскім с/с, за 13 км на ПнЗ ад Мсціслава, 108 км ад Магілёва, 32 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Праз вёску цячэ р. Свердзел (прыток р. Чорная). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Дзеснакіта, Лютня і далей па шашы Мсціслаў—Горкі. 83 гаспадаркі, 137 жыхароў (2007).

У 1834 г. вёска Чартова ў Мсціслаўскім павеце, 5 двароў, 45 жыхароў, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. вёскі Чартова (5 двароў, 39 жыхароў) і Чартова 1 (17 двароў, 122 жыхары) у Старасельскай вол. Мсціслаўскага павета. У 1919 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. было 58 вучняў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Шлях селяніна», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 45 гаспадарак, меў 177 га зямлі, абслугоўваўся Мсціслаўскай МТС імя Кірава. Дзейнічала кузня. У 1931 г. калгасу было перададзена ўрочышча Папова Паляна. У 1930-х г. вёскі Чартова і Чартова 1 былі аб'яднаны ў адну в. Чартова. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1976 г. далучана в. Ржавец. У 1990 г. 112 гаспадарак, 310 жыхароў, у складзе Мсціслаўскага коннага завода № 120 (цэнтр — в. Лютня). У 2007 г. вёска ў



РУСП «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Віхра», магазін, фельч.-акушэрскі пункт. Мясц. дарога падзяляе вёску на 2 часткі: зах. (амаль прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ і перпендыкулярна перакрыжаваная 2 кароткімі прамалінейнымі вуліцамі, былая в. Рассвет) і ўсходнюю (2 амаль прамалінейныя вуліцы арыентаваны з ПдЗ на ПнУ, абапал ракі, былая в. Ржавец). Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, традыц. пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПдУ пабудаваны 6 двухпавярховых васьмікватэрных і 1 аднапавярховы аднакватэрны жылыя дамы.

**РОЖАВА** — вёска ў Мазалаўскім с/с, за 5 км на З ад Мсціслава, 90 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Мсціслаў—Магілёў, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 32 гаспадаркі, 67 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1667 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць, спустошана ў час рус.-польскай вайны 1654—67 гг. у выніку ваенных дзеянняў. У 1690 г. сяло Ражаева, уласнасць памешчыка. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1825 г. 15 двароў, уласнасць царквы. Памешчык меў тут у 1871 г. 283 дзес., у 1879 — 126 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. сяло ў Казіміраваслабодскай вол. Мсціслаўскага павета, пры тракце Мсціслаў—Магілёў, 25 двароў, 134 жыхары. Побач быў фальварак, 1 двор, 20 жыхароў. У 1909 г. існавалі аднайменныя аколіца (2 двары, 98 жыхароў), ферма (3 двары, 22 жыхары) і фальварак Рожава (ён жа Рошча), 6 двароў, 52 жыхары. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Лібкнехта, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 50 гаспадарак, меў 160 га ворыва, абслугоўваўся Мсціслаўскай МТС імя Кірава. Мелася кузня. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл.; у вёсцы пабудаваны млын. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У памяць аб 59 земляках, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у 1967 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. У 1990 г. 60 гаспадарак, 169 жыхароў, у складзе саўгаса «Мсціслаўскі» (цэнтр — в. Мсціслаў). У 2007 г. вёска ў СВК «Мазалаўскі». Планіровачна складаецца з 6 кароткіх прамалінейных, размежаваных вуліц амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаваных двухбакова, няшчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд — гасп. сектар.

**РУБАНАЎКА** — вёска ў Раздзельскім с/с, за 36 км на З ад Мсціслава, 131 км ад Магілёва, 35 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Лядня (прыток р. Рамясцвянка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Шамава і далей па шашы Мсціслаў—Горкі. 42 гаспадаркі, 81 жыхар (2007).

У 1834 г. вёскі Вялікая Рубанаўка (42 двары, 210 жыхароў) і Малая Рубанаўка (23 двары, 120 жыхароў) у Мсціслаўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1858 г. ў в. Вялікая Рубанаўка 103 рэвізскія душы, у в. Малая Рубанаўка — 52. Частка вяскоўцаў займалася калёсным промыслам. Паводле перапісу 1897 г. ў Шамаўскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ., у Вялікай Рубанаўцы 47 двароў, 356 жыхароў, у Малой Рубанаўцы — 26 двароў, 195 жыхароў. Непадалёку была лясная вартоўня (1 двор, 9 жыхароў). У 1909 г. ў Вялікай Рубанаўцы 59 двароў, 432 жыхары, у Малой Рубанаўцы — 26 двароў, 210 жыхароў, ветраны млын. У 1910 г. адкрыта земская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. З 17.7.1924 г. вёскі ў складзе БССР. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, якой быў перададзены нацыяналізаваны будынак. У 1925 г. навучалася 65, а ў 1926 г. — 86 вучняў. У 1930 г. ў в. Вялікая Рубанаўка арганізаваны калгас «Бальшавік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 57 гаспадарак, меў 505 га ворыва, у в. Малая Рубанаўка — калгас «Рассвет», у якім у

1932 г. адпаведна 44 гаспадаркі і 292 га ворыва. У 1931 г. калгасу «Рассвет» былі перададзены ўрочышчы Яўрэйскі Луг, Каршалішча, Кацубы. Абслугоўвала калгасы Курманаўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 29.9.1943 г. вёскі акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1976 г. Вялікая Рубанаўка і Малая Рубанаўка аб'яднаны ў адну в. Рубанаўка. У 1990 г. 76 двароў, 180 жыхароў, у складзе калгаса «Камуніст» (цэнтр — в. Несцерава). Працавалі пач. школа, б-ка, клуб, магазін. У 2007 г. вёска ў СВК «Курманава». Дзейнічае магазін. Рака падзяляе вёску на заходнюю (2 працяглыя прамалінейныя вуліцы арыентаваны з ПдЗ на ПнУ, уздоўж ракі, былая в. Вялікая Рубанаўка) і ўсходнюю (прамалінейная і крывалінейная вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі злучаны прасёлачнай дарогай, былая в. Малая Рубанаўка) часткі. Забудавана двухбакова, няшчыльна індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд — гасп. сектар.



*Л.А.Залатарэвіч.*

Вёска Рубанаўка (былая в. Малая Рубанаўка) — радзіма вучонага ў галіне інфарматыкі Л.А.Залатарэвіч (Ільянковай; нар. ў 1946).

**РУДОДЗІМА** — вёска ў Ракшынскім с/с, за 25 км на З ад Мсціслава, 77 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На З невялікае возера, на Пд і ПнУ цякуць ручаі (прытокі р. Кашанка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Расна—Магілёў. 8 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1777 г. сяло ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1858 г. фальварак, 4 двары, 10 жыхароў, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Доўгавіцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 26 двароў, 166 жыхароў. У 1909 г. 21 двор, 104 жыхары. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Беларусь», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 18 гаспадарак, меў 135 га ворыва, абслугоўвала яго Хлышчоўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. далучана в. Целяшова. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 19 гаспадарак, 38 жыхароў, у складзе калгаса імя Энгельса (цэнтр — в. Басценавічы). У 2007 г. вёска ў СВК імя Энгельса. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, якую ў цэнтры перакрыжоўвае другая прамалінейная кароткая вуліца. Забудавана пераважна аднабакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РЫКІ** — вёска ў Сапрынавіцкім с/с, за 8 км на ПнУ ад Мсціслава, 103 км ад Магілёва, 27 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На ПнУ цячэ р. Аслянка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Мсціслаў—Хіславічы, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 10 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. Памешчык меў тут у 1860 г. 840 дзес. зямлі, 2 млыны, сукнавальню і карчму. Паводле перапісу 1897 г. фальварак у Аслянскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ., каля дарогі Мсціслаў—Хіславічы, 4 двары, 15 жыхароў, 2 млыны. У 1909 г. побач быў маёнтак, 1 двор, 10 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «1 Мая», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 27 гаспадарак, меў 105 га ворыва, абслугоўваўся Мсціслаўскай МТС імя Кірава. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7. 1941 г. да 28.0.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 19 гаспадарак, 44 жыхары, у складзе калгаса «Савецкая Расія» (цэнтр — в. Сапрынавічы). Працаваў магазін. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, ад якой перпендыкулярна на ПнУ адыходзіць кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана пераважна аднабакова, шчыльна, тра-



дыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РЭМЕСТАВА** — вёска ў Ракшынскім с/с, за 33 км на ПнЗ ад Мсціслава, 90 км ад Магілёва, 23 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. На ПнУ бярэ пачатак р. Рамясцвянка (прыток р. Быстрая), якая цячэ праз вёску. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Чарнавусы, Басценавічы і далей па шашы Мсціслаў—Расна—Магілёў. 28 гаспадарак, 37 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1622 г. сяло ў складзе маёнтка Вялікія Горы Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1834 г. ў Мсціслаўскім павеце, 18 двароў, 124 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 26 двароў, 187 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. сяло ў Шамаўскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ., пры тракце Шамава—Расна, 37 двароў, 258 жыхароў. Апрача земляробства частка вяскоўцаў займалася валяльным і сталярным промысламі. У 1909 г. 35 двароў, 258 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. 1.11.1925 г. адкрыта школа, у якой у 1927 г. быў 51 вучань. У 1931 г. арганізаваны калгас «Пераможац», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 18 двароў, меў 103 га ворыва, абслугоўвала яго Курманаўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 11.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 60 гаспадарак, 121 жыхар, у складзе калгаса імя Свярдлова (цэнтр — в. Ракшыно). Працавалі пач. школа, магазін. У 2007 г. вёска ў СВК «Сцяг працы». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, ад якой на ПдЗ адыходзіць кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**САКАЛОВА** — вёска ў Раздзельскім с/с, за 35 км на ПнЗ ад Мсціслава, 130 км ад Магілёва, 23 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Рухва). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Шамава і далей па шашы Мсціслаў—Горкі. 24 гаспадаркі, 42 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1713 г. вёска ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Памешчык меў у 1834 г. ў вёсцы 488 дзес. зямлі, карчму і вадзяны млын. У 1860 г. цэнтр маёнтка Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ., уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Шамаўскай вол. Мсціслаўскага павета, 14 двароў, 92 жыхары. Побач быў аднайменны фальварак, 1 двор, 17 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 18 двароў, 97 жыхароў, у фальварку — 22 жыхары. У 1910 г. адкрыта школа граматы. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны дзень», які затым абслугоўвала Курманаўская МТС, дзейнічала кузня. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 28 гаспадарак, 78 жыхароў, у складзе калгаса «Камуніст» (цэнтр — в. Несцерава). У 2007 г. вёска ў СВК «Курманава». Ручай падзяляе вёску на паўн. (кароткая крывалінейная вуліца шыротнай арыентацыі, былая в. Сакалова) і паўд. (прамалінейная кароткая вуліца з завулкам, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ, былая в. Заходы) часткі. Забудавана пераважна аднабакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**САПРЫНАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Сапрынавіцкага с/с, за 4 км на У ад Мсціслава, 99 км ад Магілёва, 23 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Віхра). Транспартныя сувязі па шашы Мсціслаў—Хіславічы, якая праходзіць праз вёску. 121 гаспадарка, 305 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1583 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв.

ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. спустошана ў выніку ваенных дзеянняў. У 1737 г. мелася царква. У 1768 г. паблізу быў маёнтак, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Адзін памешчык меў у маёнтку ў 1860 г. 768 дзес. зямлі, млын і карчму, другі — у 1866 г., 140 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў Аслянскай вол. Мсціслаўскага павета, 67 двароў, 415 жыхароў, царк.-прыходская школа. Непадалёку былі аднайменныя фальварак (3 двары, 49 жыхароў), вартоўня (1 двор, 6 жыхароў), аколіца (3 двары, 17 жыхароў) і сядзіба (1 двор, 8 жыхароў). У 1909 г. ў сяле 69 двароў, 474 жыхары, у маёнтку 1 двор, 2 жыхары, у аколіцы 4 двары, 6 жыхароў. У 1909 г. ў маёнтку жыла адна з адукаваных жанчын Мсціслаўшчыны А.Стахоўская, якая вельмі высока цаніла неабходнасць адукацыі і ахвяравала 40 тыс. рублёў на будаўніцтва гімназіі (пабудавана ў Мсціславе ў 1908). З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. З 20.8.1924, цэнтр сельсавета. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у 1926 г. ў ёй было 77 вучняў. У сак. 1931 г. арганізаваны калгас, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 99 гаспадарак, меў 606 га ворыва, кузню (дзейнічала з 1930). Калгас абслугоўвала Мсціслаўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена ў вер. 1943 г. часцямі 344-й стралк. дывізіі. На ўшанаванне памяці 140 землякоў, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у 1970 г. ў цэнтры вёскі каля будынка клуба пастаўлена стэла. У 1990 г. 115 гаспадарак, 300 жыхароў, цэнтр калгаса «Савецкая Расія», які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі і вырошчванні лёну. У вёсцы працавалі дзіцячы сад, пач. школа, б-ка, Дом культуры, інтэрнат, клуб, 2 магазіны, сталовая, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 2007 г. цэнтр СВК «Кастрычнік», дзіцячы сад, сярэдняя школа, клуб, б-ка, магазін, фельч.-акушэрскі пункт. Ген. план забудовы вёскі распрацаваны ў 1984 г. Магілёўскім філіялам Белкалгаспраекта. Ручай падзяляе вёску на паўн.-ўсх. (ад прамалінейнай вуліцы — адрэзак шашы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, адыходзяць перпендыкулярна на ПдУ 2 прамалінейныя вуліцы) і паўд.-зах. (працяглая крывалінейная вуліца арыентавана шыротна, уздоўж ручая) часткі. На перакрыжаванні адной з вуліц з шашою ўтворана плошча. Адасоблена на У праходзіць крывалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПдУ і Пн, уздоўж шашы, пабудаваны мураваныя аднапавярховыя аднакватэрныя дамы. На ПдУ і ПдЗ гасп. сектар.

У склад Сапрынавіцкага с/с уваходзяць 12 вёсак.

**СВЯРДЛОВА** (да 1941 г. в. Мардалысава) — вёска ў Падсолтаўскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Мсціслава, 115 км ад Магілёва, 26 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Белая Натапа). Транспартныя сувязі па шашы Мсціслаў—Горкі, якая праходзіць праз вёску. 45 гаспадарак, 90 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1667 г. як с. Мардалысава ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. спустошана ў выніку ваенных дзеянняў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1834 г. 5 двароў, 44 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1857 г. сяло і аднайменны фальварак у Мсціслаўскім павеце. У 1909 г. ў Старасельскай вол. Мсціслаўскага павета, 17 двароў, 154 жыхары. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная ніва», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 30 гаспадарак, меў 222 га зямлі. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. далучана в. Майсееўка. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1976 г. далуча-



на в. Вялікая Слабодка. У 1990 г. 61 гаспадарка, 176 жыхароў, у складзе калгаса «Ленінскі Шлях» (цэнтр — в. Мілейкава), працаваў магазін. У 2007 г. вёска ў СВК «Мілейкава», магазін. Шаша падзяляе вёску на паўн.-ўсх. (крывалінейная вуліца з завулкам шыротнай арыентацыі) і паўд.-заходнюю (крывалінейная вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ) часткі. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У паўн.-ўсх. частцы ўздоўж шашы 20 аднапавярховых аднакватэрных мураваных дамоў. На ПнЗ — гасп. сектар.

**СВЯТАЗЕР'Е** — былая вёска ў Краснагорскім с/с, за 2 км на Пд ад Мсціслава, 97 км ад Магілёва, 21 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На ПнУ воз. Святое, на ПдЗ пачынаецца ручай Галкоўскі (прыток р. Малатоўня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў.

У 1857 г. в. Світазер'е ў Мсціслаўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1858 г. ў Мсціслаўскім павеце Магілёўскай губ., 27 рэвізскіх душ. Паводле перапісу 1897 г. ў Казіміраваслабодскай вол. Мсціслаўскага павета, 14 двароў, 111 жыхароў. Побач быў аднайменны фальварак, 1 двор, 6 жыхароў. У 1909 г. 20 двароў, 141 жыхар. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Пяцігодка», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 38 гаспадарак, меў 213 га ворыва, абслугоўваўся Мсціслаўскай МТС імя Кірава. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 45 двароў, 147 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску, загубілі 4 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 8 гаспадарак, 14 жыхароў, у складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Каробчына). Традыцыйныя драўляныя сял. сядзібы былі пастаўлены няшчыльна ўздоўж кароткай вуліцы.

**СЕЛІШЧЫ** — вёска ў Раздзельскім с/с, за 29 км на З ад Мсціслава, 124 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На З і У цякуць ручаі (прытокі р. Мёртва). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Буліна і далей па шашы Мсціслаў—Горкі. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 1499 г. як гаспадарскі двор, аддадзены кн. Жаслаўскаму. У 1638 г. сяло Селішча (яно ж Кацельнікі) у складзе маёнтка Беразетня Мсціслаўскага ваяв. ВКЛ, 9 гаспадарак, шляхецкая ўласнасць. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. спустошана ў выніку ваенных дзеянняў. Паводле перапісу 1897 г. ў Шамаўскай вол. Мсціслаўскага павета, 23 двары, 150 жыхароў. Побач быў фальварак, 1 двор, 6 жыхароў. У 1909 г. ў сяле 12 двароў, 64 жыхары, у фальварку — 7 двароў, 50 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1926 г. адкрыта школа, у якой было 34 вучні. У 1931 г. 18 гаспадарак аб'ядналіся ў калгас «Заранак новага жыцця», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 20 гаспадарак, меў 110 га ворыва. Абслугоўвала яго Курманаўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На могілках у брацкай магіле пахаваны 5 воінаў 344-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў баях у 1943 г. У 1990 г. 4 гаспадаркі, 10 жыхароў, у складзе калгаса «Камуніст» (цэнтр — в. Несцерава). У 2007 г. вёска ў СВК «Курманава». Традыц. індывідуальныя драўляныя сял. сядзібы пастаўлены няшчыльна, уздоўж кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ.

**СЛАЎНАЕ** — вёска ў Раздзельскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Мсціслава, 96 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На ПнЗ цячэ ручай (прыток р. Рамясцвянка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Курманава, Багацькаўка і далей па шашы Мсціслаў—Горкі. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1737 г. вёска ў Мсціслаўскім павеце, мелася драўляная царква. У 1-й пал. 19

ст. на паўн.-заходняй ускраіне з дрэва пабудавана новая царква, якая з'яўляецца помнікам архітэктуры класіцызму. У 1880 г. сяло ў Шамаўскай вол. Мсціслаўскага павета, 8 двароў, 54 жыхары. З 1877 г. дзейнічала царк.-прыходская школа. Паводле перапісу 1897 г. 17 двароў, 101 жыхар, вадзяны млын. У 1905 г. адкрыта вінная крама. У 1909 г. 14 двароў, 99 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. было 69 вучняў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Бязбожнік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 17 гаспадарак, меў 80 га ворыва. Калгас абслугоўвала Курманаўская МТС. У вёсцы працавала ваўначоска. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 24 гаспадаркі, 38 жыхароў, у складзе калгаса (цэнтр — в. Курманава). Працавалі пач. школа, магазін. У 2007 г. вёска ў СВК «Курманава». Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай пераважна аднабакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СЛЁЗКІ** — вёска ў Сялецкім с/с, за 15 км на Пн ад Мсціслава, 110 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пн цячэ р. Малатоўня (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Крычаў. 8 гаспадарак, 14 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 18 ст. У 1701 г. дзяржава Слёзкі Мсціслаўскага ваяв. ВКЛ. У 1846 г. вёска Слёзкі Рабскі ў складзе казённага маёнтка Шараева—Ларыёнаўскае Мсціслаўскага павета, 8 зямельных участкаў. Паводле перапісу 1897 г. вёска Рабскі-Слёзкі ў Казіміраваслабодскай вол. Мсціслаўскага павета, 13 двароў, 85 жыхароў. У 1909 г. 16 двароў, 105 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны баявік», які абслугоўвала Мсціслаўская МТС імя Кірава. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 21 двор, 117 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 17.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. спалілі вёску (18 двароў). Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 17 гаспадарак, 35 жыхароў, у складзе калгаса імя Чапаева (цэнтр — в. Сялец). Працавалі клуб, магазін. У 2007 г. вёска ў СВК імя Чапаева. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СТАРОЕ СЯЛО** — вёска ў Лютненскім с/с, за 9 км на ПдЗ ад Мсціслава, 104 км ад Магілёва, 28 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Праз вёску цячэ р. Чорная (прыток р. Віхра). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Горкі. 51 гаспадарка, 87 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1586 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1654 г. маёнтак Старое Сяло разам з вёскамі Бізюкі і Асланцы аддадзены Мсціслаўскаму кармеліцкаму кляштару. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1781 г. мелася драўляная царква, з 1830 г. дзейнічала сукнавальня. У 1834 г. с. Старое ў Мсціслаўскім павеце, 15 двароў, 70 жыхароў. У канцы 19 ст. цэнтр воласці Мсціслаўскага павета, 39 двароў, 320 жыхароў, млын, земская школа, для якой у 1914 г. пабудавана памяшканне. Паводле перапісу 1897 г. 60 двароў, 424 жыхары, сукнавальня, фельч. участак, 2 хлебазапасныя магазіны; штогод (9 мая) праводзіўся кірмаш. Побач былі 2 аднайменныя пасяленні (5 двароў, 18 жыхароў), карчма (1 двор, 4 жыхары) і фальварак (1 двор, 10 жыхароў). У 1909 г. ў сяле 81 двор, 446 жыхароў, у фальварку — 1 двор, 6 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г.



было 123 вучні, мела 4 дзес. зямлі. Працавалі хата-чытальня, б-ка, пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых і фельч.-акушэрскі пункт. З 20.8.1924 г. да 21.4.1978 г. цэнтр сельсавета. У 1928 г. арганізаваны калгас імя Чарвякова, які з 1933 г. абслугоўвала Мсціслаўская МТС імя Кірава. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія 28.9.1943 г. спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 78 гаспадарак, 230 жыхароў, у складзе калгаса «Праўда» (цэнтр — в. Шамаўшчына). Працавалі сярэдняя школа, клуб, б-ка, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. У 2007 г. вёска ў складзе РУСП «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Віхра». Дзейнічае магазін. Рака падзяляе вёску на зах. (працяглая крывалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі) і ўсх. (Г-падобная вуліца мерыдыянальнай і шыротнай арыентацыі) часткі. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на ПдУ.

Радзіма Героя Сав. Саюза І.М.Паўловіча (1896—44), які вызначыўся ў Вял. Айч. вайну ў баях за вызваленне Беларусі.

**СТАРЫНА** — вёска ў Раздзельскім с/с, за 32 км на ПнЗ ад Мсціслава, 96 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На ПдУ цячэ ручай (прыток р. Рамясцвянка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Слаўнае, Курманава, Багацькаўка і далей па шашы Мсціслаў—Горкі. 12 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

У 1834 г. вёска ў Мсціслаўскім павеце, 39 двароў, 234 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1880 г. ў Шамаўскай вол. Мсціслаўскага павета, 289 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім і бандарным промысламі. Паводле перапісу 1897 г. 55 двароў, 346 жыхароў, 2 ветраныя млыны. У 1909 г. 51 двор, 327 жыхароў, школа граматы. 23.9.1910 г. жыхары аказалі супраціўленне землямеру і паліцыі пры размежаванні зямель вяскоўцаў і памешчыка. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Сталіна, які абслугоўвала Курманаўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 55 гаспадарак, 85 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Курманава). Працавалі пач. школа, магазін. У 2007 г. вёска ў СВК «Курманава». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПнУ на ПдЗ уздоўж ракі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.



*І.М.Паўловіч.*

**СТАРЫНКА** — вёска ў Ходасаўскім с/с, за 29 км на ПдЗ ад Мсціслава, 77 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны, на ПнУ мяжуе з лесам. На З цячэ р. Волчас (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Краснае і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў. 36 гаспадарак, 56 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. У 1816 г. вёска ў Чэрыкаўскім павеце, 14 двароў, 101 жыхар, уласнасць памешчыка. У 1834 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 340 жыхароў, уласнасць памешчыка. Частка вяскоўцаў займалася сталярным промыслам. Паводле перапісу 1897 г. ў Доўгавіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 43 двары, 284 жыхары. У 1909 г. 47 двароў, 266 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1925 г. адкрыта школа, у якой у 1927 г. было 58 вучняў, працаваў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1931 г. арганізаваны калгас «Новая вёска», у 1932 г. аб'ядноўваў 65 гаспадарак, меў 523 га ворыва, абслугоўваўся Ходасаўскай МТС імя Тэльмана, дзейнічала кузня. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 51 гаспадарка, 122 жыха-

ры, у складзе калгаса «XXVI з'езд КПСС» (цэнтр — в. Усполле). Працавалі пач. школа, магазін. У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Мсціслаўскі райаграпрамтэхзаб». Дзейнічае магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай працяглай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, ад якой на ПнУ і У адыходзяць 2 крывалінейныя вуліцы з завулкамі. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПнУ — гасп. сектар.

**СТАРЫЯ ВІХРАНЫ** — былая вёска ў Сапрынавіцкім с/с, за 10 км на У ад Мсціслава, 105 км ад Магілёва, 28 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф узгорысты. На ПдУ цячэ р. Сож (прыток р. Дняпро), на ПдЗ — р. Віхра, на ПнУ — р. Аслянка (абедзве прытокі р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Разанцы і далей па шашы Мсціслаў—Хіславічы.

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 16 ст. У 1583 г. сяло Вахраны ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1586 г. сяло Старыя Віхраны. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1897 г. сяло (15 двароў, 105 жыхароў) і аднайменны фальварак (1 двор, 7 жыхароў) у Аслянскай вол. Мсціслаўскага павета. У 1909 г. ў сяле 17 двароў, 132 жыхары, у маёнтку 1 двор, 2 жыхары. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Пралетарый», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 12 гаспадарак, меў 199 га зямлі, абслугоўваўся Мсціслаўскай МТС імя Кірава. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары, у складзе калгаса «Савецкая Расія» (цэнтр — в. Сапрынавічы). Планіровачна складалася з кароткай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, уздоўж якой былі пастаўлены традыц. індывідуальныя драўляныя сял. сядзібы.

**СУДОЎШЧЫНА** — вёска ў Капачоўскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Мсціслава, 80 км ад Магілёва, 19 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Дамалка (прыток р. Белая Натапа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Бязгачава і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў. 7 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1768 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1834 г. 9 двароў, 92 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1909 г. ў Старасельскай вол. Мсціслаўскага павета, 20 двароў, 133 жыхары. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Энергія», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 34 гаспадаркі, меў 176 га ворыва, абслугоўваўся Хлышчоўскай МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 20 гаспадарак, 41 жыхар, у складзе племсаўгаса «Пісараўшчына» (цэнтр — в. Капачы). У 2007 г. вёска ў РУСП «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Віхра». Планіровачна складаецца з кароткай крывалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СУТОКІ** — вёска ў Мазалаўскім с/с, за 3 км на З ад Мсціслава, 92 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На У і ПдЗ цякуць 2 ручаі (прытокі р. Суточка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў. 14 гаспадарак, 31 жыхар (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 17 ст. У 1624 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1654 г. падаравана Мсціслаўскаму кармеліцкаму кляштару. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. сёлы Вялікія Сутокі (8 двароў, 49 жыхароў, млын) і Малыя Сутокі (2 двары, 37 жыхароў) у Мсціслаўскім павеце Магілёўскага намесніцтва, уласнасць памешчыка. Адзін памешчык меў тут у 1848 г. 153 дзес. зямлі і вадзяны млын, у 1872 г.



229 дзес. зямлі, другі меў у 1878 г. 440 дзес. зямлі і млын. Паводле перапісу 1897 г. фальваркі Вялікія Сутокі (1 двор, 11 жыхароў), Малыя Сутокі (1 двор, 2 жыхары) і Сутокі (1 двор, 28 жыхароў), сядзіба Сутокі (1 двор, 9 жыхароў. З 17.7. 1924 г. ў складзе БССР. У 1925 г. створана с.-г. арцель «Дружба». У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 24 гаспадаркі, меў 80 га ворыва, абслугоўваўся Мсціслаўскай МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 19 двароў, 109 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. спалілі 18 двароў, загубілі 10 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 17 гаспадарак, 41 жыхар, у складзе саўгаса «Мсціслаўскі» (цэнтр — в. Мсціслаў). У 2007 г. вёска ў СВК «Мазалаўскі». Планіроўка Т-падобная. Больш працяглая вуліца прамалінейная, арыентавана з ПдЗ на ПнУ, дзе да яе перпендыкулярна далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана пераважна аднабакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СЫЧОЎКА** — вёска ў Ходасаўскім с/с, за 24 км на ПдЗ ад Мсціслава, 81 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Праз вёску праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Чорная Натапа (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў. 40 гаспадарак, 60 жыхароў (2007).

У 1897 г. вёска ў Доўгавіцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 13 двароў, 71 жыхар. У 1909 г. 16 двароў, 106 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Варашылава, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 48 гаспадарак, меў 155 га ворыва, абслугоўваўся Ходасаўскай МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. далучана в. Старожня. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У пасляваенны час далучаны вёскі Ходасы 1, Ходасы 3. У 1990 г. 91 гаспадарка, 178 жыхароў, у складзе племсаўгаса імя Тэльмана (цэнтр — в. Ходасы), працавалі пач. школа, магазін, клуб, фельч.-акушэрскі пункт. У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Мсціслаўскі райаграпрамтэхзаб». Планіровачна складаецца з 4 адасобленых частак: паўн.-зах. (прамалінейная працяглая вуліца з завулкам, арыентавана з ПдУ на ПнЗ, былая в. Ходасы 3), паўн. (кароткая прамалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі, былая в. Ходасы 1), паўн.-ўсх. (працяглая дугападобная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ, былая в. Сычоўка) і паўд.-ўсх. (крывалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, былая в. Старожня). Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на ПнУ.

**СЯЛЕЦ** — вёска, цэнтр Сялецкага с/с, за 16 км на Пд ад Мсціслава, 111 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Чорная Натапа (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Мсціслаў—Крычаў, якая праходзіць праз вёску. 240 гаспадарак, 525 жыхароў (2007).

Непадалёку ад вёскі, на правым беразе р. Чорная Натапа, захаваўся стараж. курганны могільнік (2 насыпы), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах



*Цэнтральная плошча ў аграгарадку Сялец.*




вёска вядома з пач. 19 ст. У 1811 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 47 двароў, 108 жыхароў, царк. ўласнасць. У 2-й пал. 18 ст. в. Ануфрыева, дзе пабудавана царква, якая з'яўляецца помнікам архітэктуры пераходнага перыяду ад барока да класіцызму. У 1878 г. адкрыта школа. У 1885 г. ў Кашанскай вол. Чэрыкаўскага павета, 85 двароў, 738 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася сталярным і кравецкім промысламі. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Маляціцкай вол. Чэрыкаўскага павета, пры паштовым тракце Крычаў—Мсціслаў, 137 двароў, 967 жыхароў, кузня. У 1909 г. 190 двароў, 1187 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1925 г. створана с.-г. т-ва. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. было 90 вучняў. У 1929 г. арганізаваны калгасы «Чырвоны Сялец» і «Чырвоны кулямётчык», якія затым аб'ядналіся ў калгас імя Варашылава. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 17.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. На ўшанаванне памяці 331 земляка, што загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у 1975 г. пастаўлена стэла. З 16.9.1963 г. цэнтр сельсавета. У 1967 г. далучана в. Сялец-Галоўчыцы, у 1967 г. — в. Ануфрыева. У 1990 г. 282 гаспадаркі, 694 жыхары, цэнтр калгаса імя Чапаева, які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі і вырошчванні лёну. Меў 4483 га сельгасугоддзяў. У вёсцы працавалі дзіцячы сад-яслі, сярэдняя школа з вучэбна-вытв. камбінатам (25 настаўнікаў і выхаванцаў), б-ка, Дом культуры, гандл. цэнтр, сталовая, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аўтаматычная тэлеф. станцыя, ветэрынарны ўчастак. У 2007 г. цэнтр СВК імя Чапаева, дзіцячы сад, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, філіял Мсціслаўскага УКП «Бытпаслугі». Ген. план забудовы вёскі распрацаваны ў 1973 г. Магілёўскім філіялам ін-та «Белдзяржпраект». Планіровачна складаецца з 3 частак: паўн.-ўсх. (ад гал. прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнУ на ПдЗ, дзе ўтворана невялікая плошча, адыходзіць амаль на У крывалінейная працяглая вуліца з завулкамі), паўн.-зах. (працяглая дугападобная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ з завулкамі, ад якой на У у напрамку да плошчы адыходзіць кароткая прамалінейная вуліца з завулкамі мерыдыянальнай арыентацыі, былая в. Ануфрыева). Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. індывідуальнымі, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пн вёска забудавана мураванымі адна- і двухкватэрнымі дамамі. Гасп. сектар — на Пн, ПнУ і ПдЗ.

*Фельчарска-акушэрскі пункт у аграгарадку Сялец.*



У склад Сялецкага с/с уваходзяць 13 вёсак.

**ТЫШЧА** — вёска ў Доўгавіцкім с/с, за 38 км на ПнЗ ад Мсціслава, 94 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Кашанка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Доўгавічы і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў. 26 гаспадарак, 36 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1585 г. сяло ў Магілёўскай вол., дзярж. ўласнасць. У 1604 г. 66 гаспадарак у Пуцькаўскім войтаўстве Магілёўскага



старосва-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ. У 1742 г. вёска, 37 двароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1816 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 57 двароў, 267 жыхароў, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Доўгавіцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 107 двароў, 729 жыхароў. У 1909 г. 117 двароў, 793 жыхары. У 1910 г. адкрыта школа (нар. вучылішча). З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. На базе дарэвалюцыйнай адкрыта прац. школа 1-й ступені. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Варашылава, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 51 гаспадарку, меў 357 га ворыва, кузню, ваўначоску. Абслугоўвала яго Ходасаўская МТС імя Тэльмана. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле ў цэнтры вёскі пахаваны 10 сав. воінаў, якія загінулі ў баях за вызваленне вёскі. У 1990 г. 62 гаспадаркі, 126 жыхароў, у складзе калгаса «Ударнік» (цэнтр — в. Доўгавічы). Працаваў магазін. У 2007 г. вёска ў СВК «Усход». Планіровачна складаецца з 2 працяглых прамалінейных вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных у цэнтры 3 завулкамі. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**УСПОЛЛЕ** — вёска ў Ходасаўскім с/с, за 23 км на ПдЗ ад Мсціслава, 78 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Чорная Натапа (прыток р. Сож), а на ПдЗ у яе ўпадае р. Лучкі. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў. 121 гаспадарка, 306 жыхароў (2007).

Непадалёку ад вёскі захавалася гарадзішча днепра-дзвінскай і зарубінецкай культур, а таксама 2 стараж. курганныя могільнікі. Гэтыя помнікі археалогіі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вёска вядома з 1579 г. ў складзе Радамскага староства ВКЛ. У Літ. метрыцы ёсць звесткі аб ёй пад 1596 і 1635 гг. З 1659 г. належала памешчыку, які непадалёку меў маёнтак. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. спустошана ў выніку ваенных дзеянняў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. вёска Ушполы ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1816 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 18 двароў, 78 жыхароў, уласнасць памешчыка. Памешчык меў тут у 1868 г. 560 дзес. зямлі і вадзяны млын. У 1880 г. ў Мсціслаўскім, потым у Чэрыкаўскім паветах, 21 двор, 73 жыхары, вадзяны млын. У 1889 г. адкрыта земская школа. Паводле перапісу 1897 г. ў Доўгавіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 24 двары, 145 жыхароў. У аднайменнай аколіцы, што знаходзілася непадалёку, было 23 двары, 148 жыхароў. У 1905 г. ў школе навучалася 50 хлопчыкаў і 10 дзяўчынак. У 1909 г. ў вёсцы 60 двароў, 226 жыхароў, у аколіцы — 20 двароў, 205 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 82 вучні. 25.10.1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 72 гаспадаркі, меў 792 га ворыва. У 1936 г. адкрыты клуб. Абслугоўвала калгас Ходасаўская МТС імя Тэльмана. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 91 двор. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. Каля Дома культуры ў памяць аб 73 земляках, што загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у 1967 г. пастаўлена стэла. У 1990 г. 144 гаспадаркі, 392 жыхары, цэнтр калгаса «XXVI з'езд КПСС», які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі і вырошчванні лёну. Меў 3373 га с.-г. угоддзяў. У вёсцы працавалі дзіцячы сад, 8-гадовая школа, б-ка, Дом культуры, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сталовая, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, музей прац. славы. У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Мсціслаўскі райаграпрамтэхзаб». Дзей-





нічаюць сярэдняя школа, б-ка, клуб, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Ген. план забудовы распрацаваны ў 1973 г. Магілёўскім філіялам ін-та «Белдзяржпраект». Ад плошчы, утворанай у цэнтры крывалінейнай працяглай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, адыходзіць на ПдУ кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. індывідуальнымі, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПдУ і ў цэнтры жылыя адна- і двухкватэрныя мураваныя дамы.

**ХОДАСЫ** — вёска, цэнтр Ходасаўскага с/с, чыг. станцыя на лініі Орша—Сураж, за 19 км на ПдЗ ад Мсціслава, 76 км ад Магілёва. Рэльеф раўнінны, на ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Мсціслаў, якая праходзіць праз вёску. 847 гаспадарак, 1992 жыхары (2007).

На паўд. ускраіне вёскі захавалася гарадзішча ранняга жал. веку і эпохі феадалізму, якое сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вёска вядома з 1607 г. як цэнтр маёнтка ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ,



*Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў у в. Ходасы.*

47 двароў, шляхецкая ўласнасць. У 1663 г. аддадзена Мсціслаўскаму кармеліцкаму кляштару. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. сяло Ходасаў у Чэрыкаўскай акрузе. Памешчык меў тут у 1858 г. 1158 дзес. зямлі, вадзяны млын і сукнавальню. У 1885 г. сяло Ходасава (15 двароў, 94 жыхары) і аднайменная вёска (53 двары, 287 жыхароў) у Доўгавіцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ. Меліся вадзяны млын, драўляная царква (адкрыта не пазней 1880). Частка вяскоўцаў займалася сталярным і калёсным промысламі. Паводле перапісу 1897 г. 36 двароў, 249 жыхароў, працавала школа; штогод (9 мая) праводзіўся кірмаш. Непадалёку існавалі в. Ходасава 2 (38 двароў, 248 жыхароў) і пас. Ходасаў (11 двароў, 80 жыхароў). У 1909 г. ў сяле было 48 двароў, 234 жыхары, у в. Ходасаў 2 — 49 двароў, 265 жыхароў, у в. Ходасаў 3 — 12 двароў, 128 жыхароў, у маёнтку Ходасава — 1 двор, 5 жыхароў. У 1916 г. каля сяла прайшла чыгунка і на месцы рабочых пабудоў узнікла станцыя, але работы на чыгунцы Крычаў—Орша былі завершаны толькі ў 1921 г., пасажырскі рух адкрыты ў 1922 г. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. З 24.9.1926 г. цэнтр сельсавета. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. было 65 вучняў. У крас. 1931 г. арганізаваны калгас «МОПР», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 70 гаспадарак, меў 533 га ворыва. У 1933 г. створана Ходасаўская МТС імя Тэльмана (рэарганізавана 31.3.1958). У 1934 г. палітаддзел МТС выпускаў шматтыражку «Сцяг Леніна». У 1937 г. на ст. Ходасы адкрыты ўрачэбны пункт. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 76 двароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1941 дзейнічала камсамольская арг-цыя. Некалькі разоў партызаны рабілі налёты на станцыю. У 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску. Вызвалена 30.9.1943 г. 344-й стралк. дывізіяй пры падтрымцы 196-й танкавай брыгады 49-й арміі. Каля чыг. станцыі ў брацкай магіле



пахаваны 167 сав. воінаў, якія загінулі пры вызваленні станцыі і вёскі. У 1990 г. 959 гаспадарак, 2437 жыхароў, цэнтр саўгаса імя Тэльмана (створаны ў 1960), які спецыялізаваўся на вырошчванні племяннoй буйной рагатай жывёлы і свінагадоўлі. Меў 5113 га сельгасугоддзяў. У вёсцы працавалі дзіцячы сад-яслі, сярэдняя школа, інтэрнат, б-ка, Дом культуры, дзіцячая муз. школа, грамадская лазня, сталовая, 9 магазінаў, урачэбная амбулаторыя, аптэка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, ветэрынарны ўчастак. Дзейнічалі хлебакамбінат, камбікормавы з-д, вучэбна-вытв. камбінат прац. навучання і прафарыентацыі, гібрыдна-селекцыйны комплекс «Саюз», электрастанцыя на 10 тыс. кВт. У 2007 г. вёска — цэнтр ААТ «Мсціслаўскі райаграпрамтэхзаб», сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, філіял Мсціслаўскага УКП «Бытпаслугі», 3 магазіны, аддз. сувязі. Ген. план забудовы вёскі распрацаваны ў 1974 г. Магілёўскім філіялам ін-та «Белдзяржпраект». У 1979 г. БелНДІПгорадабудаўніцтва складзены праект дэталёвай планіроўкі цэнтра. Чыгунка, якая праходзіць з ПнЗ на ПдУ, падзяляе вёску на 2 часткі: паўд.-заходнюю з пераважна радыяльнай сістэмай планіроўкі, дзе размешчана вытв. зона і часткова жылыя будынкі, і паўн.-ўсходнюю з прамавугольнай сістэмай планіроўкі, дзе сканцэнтраваны жылая забудова індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу і адм.-грамадскія будынкі. Цэнтр. частка забудавана 2—5-павярховымі мураванымі дамамі. Павелічэнне вёскі адбылося за кошт далучэння бліжэйшых вёсак: Астроўцы (вуліцы Някрасава, Астроўскага, Рэвалюцыйная, Тэльмана, Навасёлаў, завулкамі Някрасава, Астроўскага), Стары Дуб (вуліцы Сялянская, Горкага, завулак Сялянскі), Зялёная Дубрава (вуліцы Зялёная, Кастрычніцкая), Суш (вуліца і завулак Калініна), Багданаўка.

У склад Ходасаўскага с/с уваходзяць 12 вёсак і 1 пасёлак.

Радзіма Героя Сац. Працы механізатара саўгаса «Перамога» Л.Я. Падлужнага (нар. ў 1928).

**ЦЯЛЯТКАВА** — вёска ў Сялецкім с/с, за 19 км на Пд ад Мсціслава, 114 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Каленькава і далей па шашы Мсціслаў—Крычаў. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска Цяляткаў у Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1858 г. 45 жыхароў мужчынскага полу. Памешчык меў тут у 1866 г. 178,5 дзес. зямлі. У 1880 г. 15 двароў, 81 жыхар. Частка вяскоўцаў займалася сталярным промыслам. Паводле перапісу 1897 г. вёска (28 двароў, 167 жыхароў) і аднайменны фальварак (2 двары, 9 жыхароў) у Маляціцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 35 двароў, 204 жыхары. Побач існаваў памешчыцкі маёнтак (1 двор, 9 жыхароў). З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 39 гаспадарак, меў 239 га ворыва, абслугоўваўся Мсціслаўскай МТС імя Кірава. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 17.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. спалілі вёску (20 двароў). Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 18 гаспадарак, 34 жыхары, у складзе калгаса імя Чапаева (цэнтр — в. Сялец). У 2007 г. ў СВК імя Чапаева. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай шыротна і забудаванай пераважна аднабакова традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма бел. паэта, перакладчыка, эсэіста Г.Ф.Бубнава (нар. ў 1948).

**ЦЯРЭНІ** — вёска ў Ракшынскім с/с, за 25 км на З ад Мсціслава, 67 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На ПдЗ цячэ р. Кашанка (прыток р. Проня), а на



*Л.Я.Падлужны.*



*Г.Ф.Бубнаў.*

Пн — ручай, яе прыток. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Кош і далей па шашы Мсціслаў—Расна—Магілёў. 10 гаспадарак, 26 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1858 г. 20 двароў, 107 жыхароў, уласнасць памешчыка, які меў тут у 1861 г. 573 дзес. зямлі і вадзяны млын. У 1880 г. 20 двароў, 137 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася сталярным і калёсным промысламі. Паводле перапісу 1897 г. ў Доўгавіцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 27 двароў, 186 жыхароў. У 1909 г. 39 двароў, 180 жыхароў, школа граматы, ператвораная затым у царк.-прыходскую. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Бальшавік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 22 гаспадаркі, меў 212 га ворыва. Абслугоўвала яго Хлышчоўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 11 гаспадарак, 35 жыхароў, у складзе калгаса імя Энгельса (цэнтр — в. Басценавічы). У 2007 г. вёска ў СВК імя Энгельса. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, злучаных прасёлачнай дарогай і забудаваных няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЧАПУРКІНА** — былая вёска ў Падсолтаўскім с/с, за 19 км на ПнЗ ад Мсціслава, 114 км ад Магілёва, 38 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Мсціслаў—Горкі, якая праходзіць побач з вёскай.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. Памешчык меў тут у 1838 г. 150 дзес. зямлі. У 1850 г. фальварак, 4 двары, 6 жыхароў. У 1909 г. ў Старасельскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ., 10 двароў, 66 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «1 Мая», які абслугоўвала Курманаўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 1 гаспадарка, 2 жыхары, у складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Мілейкава). Традыц. драўляная сялянская сядзіба з гасп. пабудовамі была пастаўлена побач з шашой.

**ЧАРНАВУСЫ** — вёска ў Ракшынскім с/с, за 28 км на ПнЗ ад Мсціслава, 80 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Рамясцвянка (прыток р. Быстрая). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Басценавічы і далей па шашы Мсціслаў—Расна—Магілёў. 27 гаспадарак, 37 жыхароў (2007).

У 1897 г. вёска ў Шамаўскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ., 19 двароў, 126 жыхароў. Побач былі аднайменныя фальварак (1 двор, 17 жыхароў) і хутар (1 двор, 4 жыхары). У 1909 г. ў вёсцы 20 двароў, 148 жыхароў, у фальварку 2 двары, 11 жыхароў. У 1910 г. адкрыта школа граматы. У 1921 г. адкрыта школа, у якой у 1927 г. было 76 вучняў, працаваў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1930 г. арганізаваны калгас «Прамень Кастрычніка», які абслугоўвала Курманаўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 11.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1976 г. далучаны вёскі Казіно, Цімошкава. У 1990 г. 77 гаспадарак, 150 жыхароў, у складзе калгаса імя Свярдлова (цэнтр — в. Ракшына). Працавалі клуб, б-ка, магазін. У 2007 г. вёска ў СВК «Сцяг працы». Планіровачна складаецца з 3 частак: цэнтр. (прамалінейная вуліца з завулкамі, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, былая в. Чарнавусы), паўн. (крывалінейная вуліца з завулкам мерыдыянальнай арыентацыі, былая в. Цімошкава) і паўд.-ўсходняя (2 крывалінейныя вуліцы, арыентаваныя з ПдУ на ПнЗ абапал ракі, былая в. Казіно). Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.



**ЧАРНІЛАВА** — вёска ў Лютненскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Мсціслава, 107 км ад Магілёва, 31 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На ПдЗ цячэ р. Чорная (прыток р. Віхра), а на ПнУ — р. Гаранка, яе прыток. Транспартныя сувязі па шашы Мсціслаў—Горкі, якая праходзіць побач з вёскай. 31 гаспадарка, 53 жыхары (2007).

За 2 км на З ад вёскі знаходзіцца старaж. курган, які сведчыць аб засяленні месц у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вёска вядома з 1660 г. ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. спустошана ў выніку ваенных дзеянняў. Памешчык меў тут у 1879 г. 198 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў Старасельскай вол. Мсціслаўскага павета, 16 двароў, 72 жыхары. Побач быў аднайменны фальварак, 1 двор, 3 жыхары. У 1909 г. ў сяле 19 двароў, 73 жыхары, у фальварку 1 двор, 7 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Будзённага, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 25 гаспадарак, меў 184 га ворыва, абслугоўваўся Мсціслаўскай МТС імя Кірава. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 57 гаспадарак, 136 жыхароў, у складзе Мсціслаўскага коннага з-да № 120 (цэнтр — в. Лютня). Працавалі клуб, магазін. У 2007 г. вёска ў РУСП «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Віхра». Дзейнічае магазін. Планіроўка прамавугольная. Тры кароткія прамалінейныя вуліцы, арыентаваныя з ПдУ на ПнЗ, перпендыкулярна перакрыжаваны 2 кароткімі прамалінейнымі вуліцамі. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПдЗ — гасп. сектар.

**ЧОРНАЯ САСНА** — вёска ў Забалацкім с/с, за 38 км на ПдЗ ад Мсціслава, 71 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ мяжуе з лесам. У цэнтры — невялікае возера. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Забалацце і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. У 1816 г. вёска ў Чэрыкаўскім павеце, 13 двароў, 87 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 16 двароў, 105 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася калёсным промыслам. Паводле перапісу 1897 г. ў Беліцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 24 двары, 153 жыхары. У 1909 г. 40 двароў, 166 жыхароў. У 1910 г. адкрыта школа (нар. вучылішча). З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 36 гаспадарак, меў 282 га ворыва, абслугоўваўся Ходасаўскай МТС імя Тэльмана. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 20.7.1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 11 гаспадарак, 18 жыхароў, у складзе саўгаса «Забалацце» (цэнтр — в. Забалацце), працаваў магазін. У 2007 г. вёска ў складзе УКСП «Саўгас «Забалацце». Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы з завулкам шыротнай арыентацыі ўздоўж берага возера. Забудавана двухбакова, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма Героя Сав. Саюза, ген.-маёра танкавых войск П.М.Рудкіна (1893—1954).



*П.М.Рудкін.*

**ШАМАВА** — вёска ў Раздзельскім с/с, за 35 км на ПнЗ ад Мсціслава, 130 км ад Магілёва, 19 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Рухва (прыток р. Лядня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Горкі. 50 гаспадарак, 106 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1737 г. вёска ў Мсціслаўскім павеце, мелася драўляная царква, уласнасць памешчыка. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. мястэчка, 2 разы ў год праводзіліся кірмашы. З 1784 г. цэнтр воласці Мсціслаўскага павета. У 1846 г. ў Магілёўскім павеце, 314 жыхароў. У 1848 г. 88 двароў.

У 1861 г. мястэчка пры паштовым тракце ў Мсціслаўскім павеце Магілёўскай губ., 105 двароў, 489 жыхароў, школа, царква, 2 разы ў год праводзіліся кірмашы. У 1879 г. засн. ваўначоска і крупадзёрка. У 1880 г. 91 двор, 741 жыхар, 30 крам, царква, лячэбніца (адкрыта не пазней 1880), аптэка, школа (нар. вучылішча, адкрыта ў 1865), у якой у 1889 г. навучаліся 63 хлопчыкі і 8 дзяўчынак. Быў пашыраны сталярны промысел. Паводле перапісу 1897 г. 107 двароў, 917 жыхароў, 2 крупадзёркі, вадзяны млын, паштовае аддз., хлебазапасны магазін, 32 крамы, 4 піцейныя дамы; раз у год праводзіліся 7-дзённы і 2-дзённы кірмашы. У 1905 г. адкрыта вінная крама. У 1909 г. ў мястэчку разам са Слабадой быў 161 двор, 962 жыхары. З 1918 г. дзейнічаў к-т беднаты. 7.3.1918 г. сход грамадзян воласці прыняў рашэнне аб фарміраванні атрада Чырвонай гвардыі ў колькасці 20 чал. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. На базе дарэв. створана прац. школа 2-й ступені, у якой у 1924 г. было 159 вучняў. З 20.8.1924 г. да 20.2.1938 г. цэнтр сельсавета. Працавалі б-ка, хатачытальня, урачэбны пункт, пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1925 г. створана т-ва па сумесным выкарыстанні с.-г. тэхнікі. У 1926 г. для школы пабудаваны дадаткова 2 памяшканні, а ў 1927 г. стала 7-гадовай. У 1929 г. пабудаваны торфазавод, дзейнічалі шавецкая майстэрня, кузня, нафтавы млын і сукнавальня; арганізаваны калгасы імя Варашылава (у 1932 г. 24 гаспадаркі, 98 га ворыва) і «Ударнік» (у 1932 г. 50 гаспадарак, 180 га ворыва). Адначасова ў 1930-х г. тут быў і саўгас «Чырвоны сцяг», які ўваходзіў у Аршанскі свінагадоўчы трэст. У 1935 г. пабудавана новае памяшканне для школы. У 1937 г. на млыне пачаў працаваць генератар па выпрацоўцы электраэнергіі (25 кВт). З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 228 двароў, 920 жыхароў, радзільны дом. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія тройчы (ліст. 1941 г., ліп. 1942 г., вер. 1943 г.) палілі вёску (спалены 208 дамоў), загубілі 500 жыхароў. На ПдУ ад вёскі ў брацкай магіле пахаваны 36 сав. воінаў, што загінулі ў баі за яе вызваленне. На ўсх. ускраіне магіла 437 ахвяр фашызму, расстраляных гітлераўцамі 2.2.1942 г. У цэнтры вёскі на ўшанаванне памяці 218 землякоў, загінуўшых на фронце і ў партыз. барацьбе, у 1975 г. узведзены абеліск. У 1990 г. 71 гаспадарка, 157 жыхароў, у складзе калгаса «Камуніст» (цэнтр — в. Несцерава). Працавалі сярэдняя школа, б-ка, Дом культуры, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, 2 магазіны, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. сувязі, ветэрынарны ўчастак. У 2007 г. вёска ў СВК «Курманава», Дом культуры, б-ка, магазін. Ген. план забудовы распрацаваны ў 1980 г. Белкагаспраектам. Рака падзяляе вёску на паўд. (3 прамалінейныя вуліцы, арыентаваныя з ПдУ на ПнЗ, перпендыкулярна перакрыжаваны 3 кароткімі прамалінейнымі вуліцамі) і паўн. (кароткая прамалінейная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ) часткі. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна традыц. індывідуаль-



*Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў у в. Шамава.*



ымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на ПнЗ.

Радзіма доктара медыцынскіх навук В.Р.Астапенкі (1924—89).

**ШАМАЎШЧЫНА** — вёска ў Лютненскім с/с, за 6 км на ПнЗ ад Мсціслава, 101 км ад Магілёва, 25 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны, у цэнтры і на ПдУ 6 сажалак. Транспартныя сувязі па шашы Мсціслаў—Горкі, якая праходзіць праз вёску. 194 гаспадаркі, 457 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. як сяло, спустошанае ў выніку ваенных дзеянняў у час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1825 г. 1 двор, уласнасць царквы. У 1834 г. сяло ў Мсціслаўскім павеце, уласнасць памешчыка, які меў тут у 1867 г. 804 дзес. зямлі, млын, сукнавальню і карчму. Паводле перапісу 1897 г. ў Старасельскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ., у фальварку, што існаваў побач з вёскай, 34 жыхары. Бальшавік І.А.Шалабода, які прыехаў у вёску з Петраграда, арганізаваў у 1918 г. к-т беднаты. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У крас. 1930 г. арганізаваны калгас імя Чарвякова, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 350 гаспадарак, меў 2321 га ворыва, абслугоўваўся Мсціслаўскай МТС імя Кірава. У 1931 г. выходзіла калгасная шматтыражка. У 1933 г. пабудавана невялікая электрастанцыя. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. ў вёску звезены 106 хутароў, далучаны вёскі Барадзічэўшчына, Нашкавічы. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліст.—снеж. 1942 г. загубілі 13 жыхароў, у вер. 1943 г. спалілі вёску. Вызвалена 29.9.1943 г. часцямі 344-й стралк. дывізіі. На ўшанаванне памяці 147 землякоў, што загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у 1967 г. ў цэнтры вёскі пастаўлена стэла. У 1990 г. 195 гаспадарак, 528 жыхароў, цэнтр калгаса «Праўда», які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі. Меў 3118 га с.-г. угоддзяў. У вёсцы працавалі дзіцячы сад-яслі, 8-гадовая школа, б-ка, Дом культуры, клуб, інтэрнат, грамадская лазня, сталовая, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. У 2007 г. вёска ў складзе РУСП «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Віхра», клуб, б-ка, магазін, фельч.-акушэрскі пункт. Ген. план забудовы распрацаваны ў 1976 г. Магілёўскім філіялам ін-та «Белдзяржпраект». Планіроўка прамавугольная. Дзве працяглыя прамалінейныя вуліцы (паўночная з'яўляецца адрэзкам шашы), арыентаваныя з ПдУ на ПнЗ, перакрыжаваны перпендыкулярна 4 кароткімі прамалінейнымі вуліцамі з завулкамі. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне, каля шашы, і на паралельнай да яе гал. вуліцы ўзведзены пераважна мураваныя аднапавярховыя, аднакватэрныя дамы. На ПдУ — гасп. сектар.

**ШУМЯНІЧЫ** — вёска ў Краснагорскім с/с, за 3 км на ПдУ ад Мсціслава, 98 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Серабранка). Транспартныя сувязі па шашы Мсціслаў—Крычаў, якая праходзіць побач з вёскай. 13 гаспадарак, 25 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 18 ст. У 1785 г. вёска ў Мсціслаўскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 8 двароў, 47 жыхароў, уласнасць памешчыка, які меў у вёсцы ў 1868 г. 110 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў Казіміраваслабодскай вол. Мсціслаўскага павета, 18 двароў, 139 жыхароў. Побач былі 2 фальваркі (разам 2 двары, 22 жыхары). У 1909 г. ў вёсцы 18 двароў, 136 жыхароў, у 2 фальварках — 2 двары, 15 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Шлях Леніна», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 29 гаспадарак, меў 226 га зямлі, абслугоўваўся Мсціслаўскай МТС імя Кірава. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 40 двароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1944 г. акупіравана ням.-фаш. за-

хопнікамі, якія ў 1943 г. поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 30 гаспадарак, 67 жыхароў, у складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Каробчына). У 2007 г. вёска ў СВК «Сож-Агра». Планіровачна складаецца з 2 кароткіх крывалінейных, амаль паралельных паміж сабой вуліц з завулкамі, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ абапал ручая. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ШЫРКІ** — вёска ў Капачоўскім с/с, за 21 км на З ад Мсціслава, 84 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На ПнЗ цячэ р. Кашанка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Мсціслаў—Расна—Магілёў, якая праходзіць побач з вёскай. 45 гаспадарак, 88 жыхароў (2007).

За 0,5 км на З ад вёскі захаваўся курган, які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вёска вядома з 1777 г. ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1811 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 40 двароў, 107 жыхароў, уласнасць памешчыка, які меў тут у 1845 г. 649 дзес. зямлі і вадзяны млын. У 1880 г. 25 двароў, 128 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася сталярным промыслам. Паводле перапісу 1897 г. ў Доўгавіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 35 двароў, 243 жыхары. 30.6.1906 г. 40 сялян арганізавалі ў маёнтку забастоўку, адказаліся ад палявых работ. У 1909 г. ў вёсцы 40 двароў, 279 жыхароў, у маёнтку 2 жыхары. У 1919 г. адкрыта школа, у якой у 1927 г. было 63 вучні. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. З 21.8.1925 г. да 20.2.1938 г. цэнтр сельсавета. У 1926 г. адкрыты фельч.-акушэрскі пункт. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная камуна», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 66 гаспадарак, меў 427 га ворыва, абслугоўваўся Хлышчоўскай МТС. У 1936 г. школьнае памяшканне пераабсталявана і пашырана з улікам патрэб 7-гадовай школы. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны воіны, што загінулі ў 1943 г. пры вызваленні раёна. У 1990 г. 74 гаспадаркі, 172 жыхары, у складзе калгаса імя Энгельса (цэнтр — в. Басценавічы). Працавалі 8-гадовая школа, магазін. У 2007 г. вёска ў СВК імя Энгельса. Дзейнічае магазін. Ад працяглай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ уздоўж ракі, адыходзіць на ПдУ кароткая прамалінейная вуліца. Паралельна да яе адасоблена на Пд праходзіць 3-я кароткая вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ШЭЙКІ** — вёска ў Ходасаўскім с/с, за 26 км на З ад Мсціслава, 83 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Альхоўка (прыток р. Белая Натапа). Транспартныя сувязі па шашы Мсціслаў—Расна—Магілёў. 12 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

У 1897 г. аколіца ў Доўгавіцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 9 двароў, 41 жыхар. У 1909 г. 9 двароў, 56 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Прагрэс», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 33 гаспадаркі, меў 403 га ворыва, абслугоўваўся Ходасаўскай МТС імя Тэльмана. У вёсцы дзейнічалі льнозавод, ваўначоска, кузня. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 22 гаспадаркі, 46 жыхароў, у складзе саўгаса імя Тэльмана (цэнтр — в. Ходасы). У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Мсціслаўскі райаграпрамтэхзаб». Ад крывалінейнай кароткай вуліцы шыротнай арыентацыі адыходзіць на Пд кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЮШКАВІЧЫ** — вёска ў Забалацкім с/с, за 31 км на ПнЗ ад Мсціслава, 76 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. На



Пн цячэ р. Чорная Натапа (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Забалацце і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 17 ст. У 1643 г. вёска, уласнасць памешчыка. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. сяло Юшкевічы ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. ў Мсціслаўскім павеце, 11 двароў, 132 жыхары. У 1834 г. 125 жыхароў. У 1858 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 60 рэвізскіх душ. Паводле перапісу 1897 г. ў Доўгавіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 34 двары, 222 жыхары, царква. У 1909 г. 43 двары, 220 жыхароў. У 1923 г. адкрыта школа, у якой у 1927 г. было 46 вучняў, у тым ліку 9 піянераў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Запаветы Леніна», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 13 гаспадарак, меў 220 га ворыва, абслугоўваўся Ходасаўскай МТС імя Тэльмана. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 20.7.1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 22 гаспадаркі, 44 жыхары, у складзе саўгаса «Забалацце» (цэнтр — в. Забалацце). Працавалі клуб, магазін. У 2007 г. вёска ва УКСП «Саўгас «Забалацце». Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЯНАЎКА** — вёска ў Сапрынавіцкім с/с, за 4 км на ПнУ ад Мсціслава, 99 км ад Магілёва, 23 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПнЗ і ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мсціслаў—Хіславічы. 22 гаспадаркі, 40 жыхароў (2007).

У пісьмовых крыніцах упершыню згадваецца пад 1690 г. ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ як уладанне памешчыка. У 1834 г. ў Мсціслаўскім павеце, 6 двароў, 16 жыхароў, уласнасць памешчыка, які меў тут у 1850 г. 254 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. вёска Янава Слабада ў Аслянскай вол. Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ., 16 двароў, 102 жыхары. У 1909 г. вёска Янаўка ў Соінскай вол. Мсціслаўскага павета, 20 двароў, 100 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. З 20.8.1924 г. да 20.2.1938 г. цэнтр сельсавета. У 1931 г. арганізаваны калгас «Маяк», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 32 гаспадаркі, меў 168 га ворыва, абслугоўваўся Мсціслаўскай МТС імя Кірава. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 34 гаспадаркі, 74 жыхары, у складзе калгаса «Савецкая Расія» (цэнтр — в. Сапрынавічы). У 2007 г. вёска ў СВК «Кастрычнік». Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і забудаваных пераважна аднабакова традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЯСЬМАНАВА** — вёска ў Ходасаўскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Мсціслава, 79 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша—Сураж. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Чорная Натапа (прыток р. Сож), якая пачынаецца на Пн. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Кісялёўка і далей па шашы Мсціслаў—Магілёў. 14 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1663 г. аддадзена Мсціслаўскаму кармеліцкаму кляштару. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. вёска Асманаў у Чэрыкаўскай акрузе. У 1834 г. 66 жыхароў, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Доўгавіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 19 двароў, 136 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 23 двары, 180 жыхароў, у аднайменным фальварку 2 двары, 12 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў складзе БССР. У 1929 г. арганізаваны калгас «Свабодная праца», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 54 гаспадаркі, меў 323 га зямлі, абслугоўваў-

ся Ходасаўскай МТС імя Тэльмана. Працавала пач. школа. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 20 гаспадарак, 38 жыхароў, у складзе калгаса «XXVI з'езд КПСС» (цэнтр — в. Усполле). Дзейнічалі комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін. У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Мсціслаўскі райаграпрамтэхзаб». Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных вуліц з завулкамі, арыентаваных з ПдЗ і ПнУ абапал ракі і забудаваных пераважна двухбакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 1, воп. 1, спр. 1; ф. 2, спр. 3420, 5372; ф. 4, воп. 28, спр. 22, 507, 524, 574; ф. 6, воп. 1, спр. 894, 896, 1019, 2095, 2508, 2509, 2585; ф. 30, воп. 2, спр. 6023; ф. 31, воп. 1, спр. 23/19, 59, 920; воп. 2, спр. 10; ф. 42, воп. 1, спр. 428, 1124; воп. 2, спр. 1831, 1838, 3131, 3421, 3423—3426, 3430—3435, 3437, 3439—3441, 3444—3446, 3450, 3451, 3455, 3456, 3462, 3465, 3468, 3471, 5372, 5377, 5397, 5672, 9430; ф. 46, воп. 1, спр. 542; ф. 48, воп. 1, спр. 1458, 2119, 2123, 2137, 2508, 2962, 4931; ф. 60, воп. 1, спр. 60; воп. 3, спр. 78, 87, 120; ф. 141, воп. 1, спр. 206, 252, 454; ф. 300, воп. 1, спр. 226; ф. 334, воп. 1, спр. 447, 470, 500, 621; воп. 2, спр. 37, 68; ф. 338, воп. 1, спр. 140, 221, 225, 246, 322; воп. 2, спр. 332; воп. 3, спр. 11; ф. 1024, воп. 1, спр. 715, 831.

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, КМФ-5, воп. 1, спр. 2505; ф. 694, воп. 2, спр. 3982а; ф. 1297, воп. 1, спр. 18448; ф. 1729, воп. 1, спр. 78; ф. 1772, воп. 1, спр. 32; воп. 3, спр. 1; ф. 1775, воп. 3, спр. 12; ф. 1781, воп. 26, спр. 1370, 1435; ф. 1928, воп. 1, спр. 68; ф. 2014, воп. 1, спр. 152, 200, 320, 577, 594, 600; ф. 2101, воп. 1, спр. 221; ф. 2120, воп. 1, спр. 13; ф. 2151, воп. 1, спр. 2—4, 29, 136, 178, 179, 182, 189, 190, 194, 198, 212; воп. 2, спр. 2—5, 17; ф. 2152, воп. 1, спр. 179; ф. 2189, воп. 1, спр. 233, 246; ф. 2221, воп. 1, спр. 5, 29, 32, 71; ф. 3314, воп. 1, спр. 2.

Беларускі дзяржаўны гістарычны архіў у Гродне, ф. 1143, воп. 1, спр. 372.

Дзяржаўны архіў Магілёўскай вобласці, ф. 464, воп. 1, спр. 4; ф. 6633, воп. 1, спр. 31.

Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі, ф. 102, воп. 226.

Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў, ф. 389, воп. 1, спр. 43, 73, 229, 244.

Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 577, воп. 11, спр. 1738; воп. 19, спр. 452, 454, 497, 500, 515, 519, 525, 532, 562, 565, 572, 585, 603, 624, 1483, 1523, 1591, 1602, 1609, 1613, 1698, 1706, 1732; ф. 822, воп. 11, спр. 871, 873, 873а, 875, 884а; воп. 12, спр. 2588, 2589; ф. 1290, воп. 11, спр. 175, 190, 1356, 1375; ф. 1291, воп. 59, спр. 1, 1881.

Расійскі дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва ў Маскве, ф. 1319, воп. 1, спр. 1170.

Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў у Санкт-Пецярбургу, ф. 1350, воп. 312, спр. 94, 95; ф. 1405, воп. 108, спр. 6959.

Архіў Расійскай акадэміі навук: Санкт-Пецярбургскае аддз., ф. 24, воп. 1, спр. 16; ф. 30, воп. 2, спр. 7, 30, 113; ф. 52, воп. 1, спр. 263; ф. 87, воп. 1, спр. 69; ф. 114, воп. 2, спр. 46.

Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы, ф. ДА, спр. 3722, 3806; КМФ-1, воп. 2, спр. 467; ф. 1135, воп. 4, спр. 509; воп. 17, спр. 148; ф. 1276, воп. 1, спр. 564, 584, 587; ф. 1282, воп. 1, спр. 4757; воп. 3, спр. 157, 181.

Дзяржаўны гістарычны архіў Украіны, ф. 317, воп. 1, спр. 3626.

Аддзел рукапісаў і рэдкіх кніг Расійскай Нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбургу, ф. IV, 768; ф. Эрм., спр. 235.

Аддзел рукапісаў бібліятэкі Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта, ф. 4, спр. 4914.

Аддзел рукапісаў Навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы, ф. 16, спр. 13, 127; ф. 18, спр. 143, В2—13.

Список церковно-приходских школ и школ грамоты в Могилевской епархии. СПб., [Б.г.].

О военных действиях 1812 г. в Могилевской губернии // Могилевские ведомости. 1841. № 35.

Могилевские губернские ведомости. 1848. № 46.



Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. 8, ч. 3. Могилевская губерния. СПб., 1848.
Приложения к Трудам редакционных комиссий для составления положений о крестьянах, выходящих из крепостной зависимости. Т. 6. Минская губерния. СПб., 1860.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1861 г. Могилев, 1861.
Памятная книжка Виленского учебного округа на 1874 г. Вильна, 1874.
Дембовецкий А.С. Опыт описания Могилевской губернии... Кн. 2–3. СПб., 1884.
Семенов-Тян-Шанский П.П. Географическо-статистический словарь Российской империи. Т. 5. СПб., 1885.
Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.
Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России. Т. 14. СПб., 1889.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1889–1890 учебный год. Могилев, 1889.
Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. [М., 1892].
Календарь для духовенства Могилевской епархии на 1899 г. Могилев, 1899.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1901 г. Могилев, 1901.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1902 г. Могилев, 1902.
Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси, издаваемый при Управлении Виленского учебного округа. Т. 13. Вильна, 1902.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1903–1904 учебный год. Могилев, 1903.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1905 г. Могилев, 1905.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1905–1906 учебный год. Могилев, 1905.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1906 г. Могилев, 1906.
Города России в 1904 г. СПб., 1906.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1907–1908 учебный год. Могилев, 1907.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1909 г. Могилев, 1908.
Акты, издаваемые Виленскою комиссией для разбора древних актов. Т. 34. Вильна, 1909; Т. 39. Вильна, 1915.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1910 г. Могилев, 1910.
Список населенных мест Могилевской губернии. Могилев, 1910.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1911 г. Могилев, 1911.
Краснянский В.Г. Город Мстиславль (Могилевской губернии). Вильна, 1912.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1914 г. Могилев, 1914.
Звезда. 1918. 18 окт.
1905 год у Беларусі: зб. арт., успамінаў і матэрыялаў. Мн., 1925.
Вся Белоруссия: справ. кн. на 1925 г. Мн., 1925.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 1–2. Мн., 1935.
Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. 1 (IX–XVIII ст.). Мн., 1936.
Документы и материалы по истории Белоруссии (1900–1917 гг.). Т. 3. Мн., 1953.
Памятники русского права. Вып. 2. М., 1953.
Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии: док. и материалы. Т. 2. Мн., 1957.
Белоруссия в эпоху феодализма: сб. док. и материалов. Т. 1. Мн., 1959.
Пашуто В., Ючас М. 550-летие Грюнвальдской битвы // Военно-ист. журн. 1960. № 7.
Крестьянское движение в России в 1881–1889 гг.: сб. док. М., 1960.
Перыядычны друк Беларускай ССР. Вып. 2. Газеты (1917–1959 гг.). Мн., 1960.
Полное собрание русских летописей. Т. 2. Ипатьевская летопись. М., 1962.
Корнейчик Е.И. Белорусский народ в Отечественной войне 1812 г. Мн., 1962.
Хроника важнейших событий истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1 (1883–1918 гг.). Мн., 1962.

Магілёўская праўда. 1963. 15 сак.
Зернова А.С. Первопечатник Петр Тимофеев Мстиславец // Книга: исслед. и материалы. М., 1964. Сб. 9.
Святло Кастрычніка. 1965. 22 крас.; 1966. 1 вер.; 1969. 27 вер.; 1983. 12 чэрв.
Большевики Смоленщины до Октября 1917 г. Смоленск, 1965.
Селиванов П.А. Военное строительство в Белоруссии в период разгрома походов Антанты. Мн., 1973.
Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Т. 10—11. Мн., 1974.
Поболь Л.Д. Славянские древности Белоруссии: (свод археол. памятников раннего этапа зарубинецкой культуры — с середины III в. до н.э. по нач. II в. н.э.). Мн., 1974.
Мелешко В.И. Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии (вторая половина XVII—XVIII в.). Мн., 1975.
Ясинский О.А., Гасенков В.Л. Мстиславль: историко-экон. очерк. Мн., 1975.
Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці. Мн., 1975.
Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944). Мн., 1975.
Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944). Мн., 1976.
Болбас М.Ф. Промышленность Белоруссии, 1860—1900. Мн., 1978.
Ордена Ленина колхоз «XXI съезд КПСС» Мстиславского района Могилевской области. Мн., 1978.
Алексеев Л.В. Раскопки в Мстиславле // Археологические открытия 1979 г. М., 1980.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—1944. Мн., 1984.
Асвета і педагагічная думка ў Беларусі: са старажыт. часоў да 1917 г. Мн., 1985.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Магілёўская вобл. Мн., 1986.
Этнаграфія Беларусі: энцыкл. Мн., 1989.
Археалогія і нумізматыка Беларусі: энцыкл. Мн., 1993.
Республиканская книга памяти воинов-интернационалистов. Мн., 1999.
Республика Беларусь: энцикл. Т. 5—6. Мн., 2007—08.

# СЛАЎГАРАДСКІ РАЁН

Размешчаны на Пд Магілёўскай вобл. Утвораны 17.7.1924 г. як Прапойскі р-н у складзе Магілёўскай акругі, у якой знаходзіўся да 26.7. 1930 г. 20.8.1924 г. падзелены на 12 сельсаветаў: Аляксандраўскі, Васькавіцкі, Віроўскі, Гайшынскі, Іванішчавіцкі, Кульшыцкі, Лапаціцкі, Прапойскі, Старынкаўскі, Урэцкі, Целяшоўскі, Чарнякоўскі; 8.7.1931 г. далучаны Рагоўскі с/с скасаванага Журавіцкага р-на. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На 1.1.1941 г. раён уключаў г.п. Прапойск, 106 вёсак і 15 сельсаветаў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў горадзе і раёне знішчылі 1535 чал., правялі карныя аперацыі № 2 (у некаторых дакументах № 9; ліп. 1942 г.), «Паездка на сёмуху» (чэрв. 1943), разам з жыхарамі спалілі вёскі Астраўчыцы, Коўцічы 2, Малімоны, з часткай жыхароў — вёскі Аляксандраўка 1 і 2, Бярозаўка, Кліны, Любаны, Лясная (усе адноўлены). Часткова знішчана 51 вёска і 2774 хаты. На тэр. раёна дзейнічалі Прапойскае патрыятычнае падполле, Прапойскія падп. райкомы КП(б)Б (12.8—1.10.1943) і ЛКСМБ (1.6—1.10.1943), партыз. брыгады 13-я Касцюковіцкая, 17-я, партыз. палкі «Трынаццаць», 15-ы, асобныя партыз. атрады 2-і, 12, 13, 15, 41, 42 і 43-і імя К.Я.Варашылава, 48-ы Прапойскі, 720-ы, «Другія», І.А.Сцефаненкі, Чэрыкаўскі. Выдавалася падп. газ. «За Советскую Родину». Раён вызвалены 25 ліст. 1943 г. войскамі 3-й арміі Бел. фронту ў ходзе Гомельска-Рэчыцкай наступальнай аперацыі сав. войск. 23.5.1945 г. перайменаваны ў Слаўгарадскі р-н. 16.7.1954 г. ліквідаваны Іванішчавіцкі, Рабавіцкі, Рагоўскі, Чарнякоўскі сельсаветы, утвораны Прудоцкі с/с; 11.6.1957 г. да раёна далучаны Ракцянскі с/с Рагачоўскага р-на Гомельскай вобл., 31.3.1958 г. — Баханскі і Вяліказімніцкі сельсаветы Быхаўскага р-на; 30.11.1961 г. ліквідаваны Вяліказімніцкі, Гайшынскі, Прудоцкі, Ракцянскі, Ржаўкаўскі, Целяшоўскі сельсаветы, утвораны Свенскі с/с. 25.12.1962 раён скасаваны, г. Слаўгарад, Баханскі, Васькавіцкі, Кульшыцкі і Свенскі сельсаветы перададзены Быхаўскаму р-ну,



*Рака Сож у Слаўгарадскім раёне.*



*Зімовы краявід Слаўгарадчыны.*



*Рака Сож каля г. Слаўгарад.*

Каменкаўскі і Старынкаўскі сельсаветы — Краснапольскаму р-ну, Гіжэнскі і Лапаціцкі сельсаветы — Чавускаму р-ну. 6.1.1965 г. раён адноўлены ў ранейшых межах. 15.1.1965 г. Целяшоўскі с/с перайменаваны ў Гіжэнскі. На 1.1.1981 г. раён уключаў г. Слаўгарад і 8 сельсаветаў: Баханскі, Васькавіцкі, Гіжэнскі, Каменкаўскі, Кульшыцкі, Лапаціцкі, Свенскі, Старынкаўскі. Раён моцна пацярпеў ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі ў 1986 г. Акрамя ўскраін паўн. і паўн.-зах. частак, амаль уся тэр. забруджана радыенуклідамі да 15 Кі/км$^2$. Масавае адсяленне жыхароў з раёна пачалося пасля кастр. 1989 г. Ліквідаваны 3 сельсаветы, 25 сельскіх населеных пунктаў у сувязі з адсяленнем, 14 з якіх пахавана. За 1985—95 гг. насельніцтва раёна ў выніку масавай міграцыі зменшылася на 7 тыс. чал. Ліквідаваны калгасы імя Суворава, Куйбышава, Рэвалюцыі, «Памяць Фрунзе». З 2000 г. ў раёне г. Слаўгарад і 6 сельсаветаў.

Пл. раёна 1,3 тыс. км$^2$. Насельніцтва (2007) 15,7 тыс. чал.; гар. 53%. Сярэдняя шчыльнасць 12 чал. на 1 км$^2$. Асн. насельніцтва — беларусы (93,4%), жывуць таксама рускія (4,8%), украінцы (1%) і інш. Цэнтр раёна — г. Слаўгарад. У раён уваходзяць 79 населеных пунктаў. Адміністрацыйна падзяляецца на 5 сельсаветаў: Васькавіцкі, Гіжэнскі, Кабінагорскі, Лапаціцкі, Свенскі. Па тэр. раёна праходзяць аўтадарогі Рагачоў—Слаўгарад—Чэрыкаў, Магілёў—Слаўгарад, Слаўгарад—Быхаў, Слаўгарад—Краснаполле і інш.

Тэр. раёна знаходзіцца ў межах Чачорскай і Аршанска-Магілёўскай раўнін. Амаль уся яна (85%) ляжыць на вышынях 140—170 м над узроўнем мора. Каля выселенай в. Кульшычы (2 км на ПдЗ) знаходзіцца найвышэйшы пункт раёна (189 м). З карысных выкапняў у раёне ёсць торф, даламіт, мел, пясчана-жвіровы матэрыял, будаўнічыя пяскі, гліны. Сярэдняя тэмпература студз. -7,6 °С, ліп. 18,2 °С. Ападкаў 645 мм за год, вегетацыйны перыяд 188 сутак. З рэк, што цякуць па тэр. раёна, найбольшыя Сож з прытокамі Проня (з Растой, Крупкай, Трослiўкай), Пясчанка, Касалянка (з Пацэяй), Ельня, Галуба, Каменка, Якушоўка. У зах. частцы раёна цячэ прыток Дняпра — р. Баброўка, у паўн. — р. Хоцінка (прыток Расты). 37% тэр. раёна знаходзіцца пад ле-



сам, найбольшыя лясныя масівы ў паўд.-ўсх. частцы. Пераважаюць лясы хваёвыя, асінавыя; трапляюцца шэра- і чорнаальховыя, дубовыя, ясянёвыя, таполевыя і інш. Штучныя насаджэнні — каля 22%, пераважна хваёвыя. Балотамі занята 3% пл. У раёне знаходзіцца ахоўны тарфянік Тупніцкае, гідралагічны помнік прыроды рэсп. значэння Блакітная крыніца (каля б. в. Кліны).

С.-г. ўгоддзі займаюць 55% тэр. раёна. Глебы с.-г. угоддзяў дзярнова-падзолістыя, дзярнова-падзолістыя забалочаныя, поймавыя (алювіяльныя), тарфяна-балотныя і інш. Сельская гаспадарка спецыялізуецца на малочна-мясной жывёлагадоўлі. Вырошчваюць збожжавыя і кармавыя культуры, бульбу. Працуюць 11 СВК, СВП па племяннай справе, ААТ «Слаўгарадрайаграпрамтэхніка», філіял ААТ «Магілёўхлебапрадукт», с.-г. вытв. комплекс «Агнёўскае», фермерскія гаспадаркі. У раёне 2 прадпрыемствы харч. прам-сці ААТ «Масларобна-сыраробны завод» і ААТ «Агароднінасушыльны завод», размешчаныя ў г. Слаўгарад. У раёне (на 1.1.2008) дзярж. прафес. ліцэй, 6 сярэдніх, 3 базавыя, 5 комплексаў дзіцячы сад-школа, дзіцячая школа мастацтваў і яе 4 філіялы на сяле, дзіцяча-юнацкая спарт. школа, 8 дзіцячых дашкольных устаноў, дом дзіцячай творчасці, цэнтры: сац.-пед., карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі. Функцыяніруюць раённы цэнтр культуры, 6 Дамоў культуры, 14 клубаў, раённы аўтаклуб, 14 кінавідэаўстановак, 2 б-кі-клубы. У 21 клубнай установе культуры раёна дзейнічаюць 40 аматарскіх аб'яднанняў і клубаў па інтарэсах, з іх 19 для дзяцей і падлеткаў, 6 сямейных клубаў, 2 клубы маладой сям'і, 4 клубы для сталых людзей, 9 клубаў эстэтычнага выхавання. 4 калектывы раёна маюць званне «народны». Ёсць 1 бальніца на 120 ложкаў, 3 урачэбных амбулаторыі, 16 фельч.-акушэрскіх пунктаў, 12 спарт. залаў, фізкультурна-аздараўленчы комплекс, стадыён, вучэбная база, мінібасейн, 20 памяшканняў для заняткаў фізкультурай, 58 спарт. пляцовак, 16 аддзяленняў сувязі, 67 установаў грамадскага харчавання, 48 магазінаў, 6 комплексных прыёмных пунктаў. Дзейнічаюць раённыя ветэрынарная станцыя, інспекцыя па насенняводстве, каранціне і абароне раслін. Зоны адпачынку мясц. значэння «Блакітная крыніца», паркавая зона ў г. Слаўгарад. Аграсядзіба «Міхайлова» (у в. Міхайлоў), Дом паляўнічага ў в. Улукі. У раёне 5 рэліг. абшчын, у тым ліку 3 праваслаўныя. Выдаецца газ. «Прысожскі край». Археал. помнікі: гарадзішчы ў г. Слаўгарад, каля вёсак Азарычы, Васькавічы, былой в. Чырвоная Слабада; курганныя могільнікі каля г. Слаўгарад, вёсак Васькавічы, Гайшын, Гіжэнка, Дубраўка; паселішчы каля вёсак Аляксандраўка 1, Дубна, Гайшын; стаянкі каля г. Слаўгарад, вёсак Гайшын, Кліны, Сіліна Поле, Старая Каменка. Захаваліся помнікі архітэктуры: Ляснянскі мемарыяльны комплекс у гонар перамогі рус. войск над шведскімі ў 1708 г. каля в. Лясная, парк у в. Свенск (пач. 20 ст.), царква Раства Прасвятой Багародзіцы, будынак былой паштовай станцыі (канец 18 ст.).

**СЛАЎГАРАД** (да 23.5.1945 г. Прапойск) — горад, цэнтр Слаўгарадскага раёна, гар. і сельскага Саветаў і СВК «Прысожжа», за 76 км на ПдУ ад г. Магілёў, 58 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы, на аўтадарозе Доўск—Чэрыкаў, на правым беразе р. Сож (пры-

*Пантонны мост цераз раку Сож.*



ток р. Дняпро) пры ўпадзенні ў яго р. Проня, прыстань на р. Сож. 8,3 тыс. чал. (2008). Назва ў гонар слаўных перамог Сав. Арміі ў Вял. Айч. вайне 1941—45 гг. Ранейшыя назвы — Прупой (1136), Прошкі (1387), Пропойск (1480), Пропорск (1489), Пропостько (1518), Пропоеск (1525), Пропосцеск (1526), Пропосцьск (1580) — маюць сувязь з назвай р. Проня (Пропасць), у вусці якой размешчаны горад. Існуе легенда, што Прапойск нібыта быў закладзены Слагорыдам, а галава горада Дзмітрый Яншын дужа піў і прапіў яго.

Сляды дзейнасці чалавека ў гэтай мясцовасці адносяцца да глыбокай старажытнасці. Каля вусця р. Проня, на правым беразе р. Сож, у гар. парку захавалася гарадзішча эпохі Кіеўскай Русі, вядомае пад назвай Замкавая гара, за 1—1,3 км на У ад горада — 5 стаянак эпохі неаліту і каменнага веку і 2 паселішчы эпохі Кіеўскай Русі. На Замкавай гары пры археал. раскопках выяўлены рэчы мілаградскай і штрыхаванай керамікі культур (VI—III ст.) і эпохі Кіеўскай Русі. У «Аповесці мінулых часоў» гаворыцца, што ў 984 г. ваявода кіеўскага кн. Уладзіміра Воўчы Хвост разбіў радзімічаў на р. Пішчань. Па некаторых меркаваннях, гэта бітва адбылася каля сучаснага Слаўгарада. У пісьмовых крыніцах Прапойск упершыню ўпамінаецца пад 1136 г. у складзе Смаленскага княства, калі ён быў невялікім гарадком з развітым гандлем. У пач. 13 ст. перайшоў да кіеўскіх князёў.





*Паштовая станцыя (2-я пал. 19 ст.; уверсе) і жылы дом (пач. 20 ст.) па вуліцы Ленінскай у г. Слаўгарад.*

З 14 ст. ў ВКЛ як дзярж. уладанне. У 1387 г. Прапошаск упамінаецца ў грамаце караля Уладзіслава кн. Скіргайлу. У 1406 г. згадваецца ў «Спісе гарадоў рускіх дальніх і блізкіх». У 1598 г. мястэчка, цэнтр староства Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. У 1607 г. мяст. Прапойск упамінаецца ў Баркулабаўскай хроніцы як дзярж. ўласнасць. У 1601—02 гг. вельмі пацярпеў ад голаду і эпідэмій. У 1648—67 гг. яго жыхары ўдзельнічалі ў антыфеадальнай барацьбе. З 1660-х г. цэнтр староства Мсціслаўскага ваяв. У 1681 г. 65 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1765 г. памеры мястэчка павялічыліся да 128 двароў, дзейнічала малітоўная школа, у 1769 г. 130 двароў, 2 млыны. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Мястэчка стала хутка развівацца і ператварылася ў значны цэнтр рамяства і гандлю. У 1774 г. Кацярына II даравала князю А.М.Галіцыну Прапойскае староства з насельніцтвам 2827 чал. У 1786 г. ў мястэчку 102 двары, 803 жыхары, 3 царквы, 5 лавак, штогод праводзіліся 2 кірмашы. Умацоўваліся сувязі з рознымі гарадамі Рас. імперыі, паляпшаліся дарогі. Прадукцыя Прапойскага бровара прадавалася ў 11 корчмах навакольных вёсак. У 1793 г. пабудавана новая царква. У 1799 г. 107 двароў, 845 жыхароў. У 1806 г. засн. па-



латняная мануфактура, якая дзейнічала да сярэдзіны 19 ст. Працавалі 2 канатныя ф-кі, прыстань. Прапойск быў месцам ажыўленага гандлю лесам, адсюль яго сплаўлялі ў розныя месцы. 14.7.1812 г. 2-я рус. армія пад камандаваннем П.І.Баграціёна адыходзіла праз Прапойск на Смаленск. У 1848 г. ў Быхаўскім павеце Магілёўскай губ., 166 двароў. У 1826 г. каля Прапойска быў адкрыты жаночы пансіён. Пасля пракладкі ў 1851 г. Маскоўска-Варшаўскай шашы тут размясцілася паштовая станцыя, якая мела 9 коней. У 1846 г. 687 жыхароў. З 1849 г. працаваў цагельны з-д. У пач. 19 ст. дзейнічалі палатняная мануфактура і дзягцярня (з 1857), з 1868 г. — канатна-вяровачнае прадпрыемства, маслабойні (адна з 1864 г., другая — з 1872), крупадзёркі (адна з 1871 г., другая — з 1878). Меліся аптэка, 40 крам, 2 праваслаўныя царквы. Буйнейшым з 25 рамесных прадпрыемстваў быў кафляны з-д Ганчарова (засн. ў 1845 г., у 1913 г. 30 рабочых), які штогод выробляў да 40 тыс. плітак. Яго прадукцыя выкарыстана і для абліцоўкі Гранавітай палаты Маскоўскага Крамля. У 1913 г. на канатным прадпрыемстве (засн. ў 1860) працавала 50 рабочых. З 1876 г. дзейнічала гарбарная майстэрня, адкрыта бальніца, дзейнічала тэлегр. станцыя. На прыстані штогод грузілася і разгружалася да 25 суднаў. У 1897 г. 618 двароў, 4351 жыхар. Меліся 3 канатныя з-ды, 10 кузняў, 4 млыны, 3 крупадзёркі, 10 маслабоень, параходная прыстань, паштова-тэлегр. станцыя, хлебазапасны магазін, 80 лавак, 3 карчмы, 3 заезныя дамы, 2 царквы. 2.10. 1864 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), будынак для якой пабудаваны на сродкі мясц. праваслаўнага брацтва. Пры школе мелася рамеснае аддз. Дзейнічалі таксама царк.-прыходская школа, гар. вучылішча (з 1909), пераўтворанае ў 1913 г. ў вышэйшае змешанае пач. вучылішча. У пач. 1904 г. адбыліся 2 стачкі рабочых-краўцоў, у 1905 г. — сход рабочых, а 1 мая — агульная забастоўка. У 1909 г. 554 двары, 2906 жыхароў.

Сав. ўлада ўстаноўлена ў ліст. 1917 г. Пачаў дзейнічаць мясц. Савет. Аднак у канцы студз. 1918 г. Быхаўскі павет, куды ўваходзіў і Прапойск, занялі войскі ген. Доўбар-Мусніцкага. У сак.—крас. 1918 г. мястэчка было вызвалена, але частка Быхаўскага павета ўсё яшчэ заставалася пад акупацыяй. Некаторы час у 1918 г. ў сувязі з акупацыяй Быхава войскамі кайзераўскай Германіі ў Прапойску размяшчаўся Быхаўскі рэўком. У кастр. 1919 г. створана парт. ячэйка, у якую ў той час уваходзілі 4 члены і 2 кандыдаты ў члены партыі. У 1919—20 гг. пакладзены канец дзейнасці розных банд. Ураджэнец Прапойска Р.І.Нікіцін быў актыўным удзельнікам барацьбы за ўстанаўленне Сав. улады ў Быхаўскім р-не.



*Сімвалічная крэпасць пры ўездзе ў г. Слаўгарад.*



*Горад Слаўгарад. Уваход на Замкавую гару.*



*Аўтастанцыя г. Слаўгарад.*



*Дом культуры г. Слаўгарад.*

Ён быў дэлегатам 5-га Усерас. з'езда Саветаў, на якім слухаў выступленне У.І.Леніна, удзельнічаў у разгроме мяцяжу левых эсэраў у Маскве.

З 1919 г. Прапойск у Гомельскай губ. РСФСР, цэнтр воласці. Меўся шэраг рамесных майстэрань, у т.л. арцель «Чырвоны дрэваапрацоўшчык», гарбарная арцель «Чырвоны інвалід», панчошная арцель, 2 камнедрабільні, 1 паравы і 3 ветраныя млыны. 23.6.1923 г. пачало дзейнічаць с.-г. крэдытнае т-ва (709 чл.), а 15.7.1923 г. арганізуецца Прапойскае с.-г. каап. т-ва (501 чал.). Школа ў 1918 г. пераўтворана ў вышэйшае пач. вучылішча, на аснове якога ў 1924 г. арганізаваны 7-гадовая, а ў 1937 — сярэдняя школы. 20.11.1919 г. адкрыты клуб з б-кай. 30.6.1923 г. створана вал. парт. ячэйка, у якую ўваходзілі 24 чл. партыі.

З 17.7.1924 г. Прапойск — цэнтр раёна Магілёўскай акругі. Паводле перапісу 1926 г. 4428 жыхароў. Асн. іх заняткам паранейшаму заставалася земляробства. У 1924 г. створана с.-г. арцель, 21.8.1925 г. — садова-агародніцкае т-ва «Ясная Паляна», у крас. 1928 г. — малочная арцель. У 1927 г. арганізаваны калгас «Перадавік», у 1928 г. — калгас «Вылучэнец». Пашырыла выпуск прадукцыі мясц. прам-сць, ствараліся новыя і абнаўляліся старыя прадпрыемствы. Паспяхова дзейнічаў смалакурны з-д імя К.Я.Варашылава (38 раб.), у 1928 г. створана швейная арцель «Кастрычнік», маслабойнае прадпрыемства, узведзены новы будынак для школы, дзейнічалі канатная ф-ка, кафляны з-д, прыстань, нар. дом. Разгортвалася мясц. тэлеф. сувязь, аднак да 1926 г. Прапойск не меў такой сувязі з Магілёвам. У 1927 г. пачалі дзейнічаць метэаралагічная станцыя, крэдытнае т-ва. У 1930 г. пабудаваны крамянёва-драбільны з-д «Мінерал», маслазавод і некалькі іншых невялікіх прадпрыемстваў. У 1932 г. пачала вы-



*Царква Раства Прасвятой Багародзіцы ў г. Слаўгарад.*



*Фрагмент забудовы вуліцы Кастрычніцкай ў г. Слаўгарад.*







*Фрагмент сучаснай забудовы ў г. Слаўгарад.*

*Забудова вуліцы ў г. Слаўгарад.*

ходзіць раённая газ. «Калгасны шлях» (з 1965 г. «Ленінскае слова», цяпер «Прысожскі край»). У гэтым жа годзе пачала дзейнічаць Прапойская МТС (рэарганізавана 31.3.1958), у якой у 1936 г. было 42 трактары і шмат іншай тэхнікі. Пры МТС мелася майстэрня па рамонце трактароў і іншай с.-г. тэхнікі, паслугамі якой карысталіся таксама Краснапольская, Чэрыкаўская і Кармянская МТС. У 1938 г. ў МТС ужо было 56 трактароў, 5 збожжаўборачных камбайнаў, 14 складаных малатарань, 4 грузавыя аўтамашыны. У 1935 г. пабудавана электрастанцыя магутнасцю 35 кВт, абсталяваны радыёвузел на 369 радыёкропак, а ў 1939 г. ўступіў у строй радыёвузел на 5 тыс. радыёкропак, што паскорыла радыёфікацыю райцэнтра і бліжэйшых вёсак. У 1939 г. пабудаваны раймаг, аптэка, радзільны дом, наладжана вулічнае электрычнае асвятленне. 27.9.1938 г. Прапойск атрымаў статус гар. пасёлка.

У першыя дні Вял. Айч. вайны з Прапойска пайшло на фронт каля 200 чал. 12.8.1941 г. гар. пасёлак акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Падп. райком КП(б)Б (12.8—1.10.1943 г., сакратар М.М.Нікіцін) і падп. райком ЛКСМБ (1.6—1.10.1943 г., сакратары В.П.Самусенка і П.Г.Кудраўцаў) базіраваліся ў партыз. атрадзе № 43 імя К.Я.Варашылава. Друкаваным органам была газ. «За Советскую Родину» (рэдактар В.Я.Гапееў). На паўд.-зах. ускраіне, каля аўтадарогі Слаўгарад—Рагачоў у брацкай магіле пахавана 49 сав. воінаў, якія загінулі ў жн. 1941 г. 25.11.1943 г. часці Верхнедняпроўскай ордэна Чырвонага Сцяга 324-й стралк. дывізіі сумесна з партызанамі вызвалілі гар. пасёлак. На ПнУ ад горада, а таксама на тэр. школы-інтэрната і на гар. могілках, у брацкіх магілах пахавана 895 сав. воінаў, якія загінулі ў баях за вызваленне Прапойска.

*Панарама г. Слаўгарад.*

*Забудова вуліцы ў г. Слаўгарад.*







*Свята, прысвечанае 870-годдзю г. Слаўгарад. 2006 г.*

Адразу пасля вызвалення была адноўлена тэлегр. і тэлеф. сувязь, якая з кожным годам пашыралася. Праз 35 дзён пасля вызвалення, дзякуючы вял. намаганням насельніцтва, пачаў працаваць райпрамкамбінат. Слаўгарадская МТС, якая да вайны мела 61 трактар, 8 збожжаўборачных камбайнаў, 15 складаных малатарняў і шмат іншай тэхнікі, пасля вызвалення раёна пачала працу з таго, что па частках было сабрана 5 трактароў, а ў 1945 г. яна ўжо была ў ліку першых па рэспубліцы па рамонце тэхнікі. З 23.5.1945 г. Прапойск стаў горадам. У 1946 г. адкрыты дзіцячы дом, у 1947 г. адноўлена электрастанцыя.

У 2007 г. ў горадзе размешчана цэнтр. сядзіба СВК «Прысожжа», які спецыялізуецца на мяса-малочнай жывёлагадоўлі. Планіровачная структура горада склалася пад уплывам прыродна-геагр. і сац.-гіст. умоў. Бераг р. Сож мае ў межах горада стромкія схілы з глыбокімі равамі. Перавышэнне верхняй броўкі рэльефу над уз-

*Дошка ў гонар 50-годдзя вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у г. Слаўгарад.*

*Памятны знак на беразе ракі Проня.*









*Свята, прысвечанае 870-годдзю г. Слаўгарад. 2006 г.*

роўнем ракі ў цэнтр. частцы горада складае звыш 30 м. Бераг жа р. Проня ў паўн. частцы горада паніжаны, забалочаны. Гіст. планіровачным ядром Слаўгарада з'яўляецца помнік археалогіі — старажытнае гарадзішча. У перыяд позняга феадалізму на адносна роўным рэльефе склаліся блізкая да сучаснай прамавугольная сетка вуліц і своеасаблівы цэнтр. У канцы 18 ст. на высокім беразе Сожа, парэзаным 3 равамі, быў закладзены пейзажны парк, у якім захаваліся рэшткі палаца кн. Галіцына і 2 высокія земляныя тэрасы. У 1791—93 гг. у цэнтры горада ўзведзена мураваная царква Раства Прасвятой Багародзіцы, якая зараз з'яўляецца помнікам архітэктуры класіцызму. Інтэр'ер цэнтрычнага крыжова-купальнага храма аздоблены вял. колькасцю фрэсак. Захаваліся таксама будынкі царк.-прыходскай школы і паштовай станцыі.

Першы ген. план планіроўкі і забудовы Слаўгарада распрацаваны ў 1971 г. Мінскім філіялам Цэнтр. н.-д. і праект-



*Свята, прысвечанае 870-годдзю г. Слаўгарад. 2006 г.*



*Фрагмент афармлення тэрыторыі цэнтра г. Слаўгарад.*



*Д.С.Варанцоў.*

нага ін-та горадабудаўніцтва. Там жа ў 1973 г. зроблены праект дэталёвай планіроўкі цэнтра. Сучаснае будаўніцтва вядзецца паводле ген. плана 2007 г. Захавалася гіст. планіроўка — прамавугольная сетка вуліц з невялікімі кварталамі. Архітэктурна-планіровачную структуру горада вызначаюць вуліцы Ленінская, Кастрычніцкая і Калініна. На Цэнтр. плошчы (прымыкае да вуліцы Кастрычніцкай) склаўся адм.-гасп. і культ. цэнтр, бульварам злучаны з паркам. Цэнтр. частка забудавана 2- і 5-павярховымі жылымі дамамі. У астатняй частцы пераважае аднапавярховая забудова сядзібнага тыпу. Зона адпачынку на берагах рэк Проня і Сож. У 2000-я г. пабудаваны лазнева-аздараўленчы комплекс, будынкі пенсіённага фонду і акцыянернага ашчаднага банка «Беларусбанк», 2 станцыі абезжалезвання вады, артэзіянская свідравіна з воданапорнай вежай, праведзена добраўпарадкаванне старажытнага парку. Вытв. зоны склаліся ў паўд.-зах. (па вуліцы Калініна — дарога ў Доўск) і ў паўд. (каля р. Сож) частках. Працуюць з-ды жалезабетонных вырабаў, агароднінасушыльны, цагельны, масласыраробны, хлебазавод, камбінаты прам. і быт. абслугоўвання насельніцтва, раённае аграпрам. аб'яднанне, раённыя ветэрынарная, СВП па племянной справе і санітарна-эпідэміялагічная станцыі, лясніцтва. Дзейнічаюць гасцініца «Сож», шэраг магазінаў, раённае аддз. сувязі, кінатэатр, Дом быту, прафес. ліцэй, 3 агульнаадукацыйныя, муз., дзіцяча-юнацкая спарт. школы, раённы Цэнтр культуры і нар. творчасці, цэнтр. раённая, дзіцячая і гар. б-кі, 3 дзіцячыя дашкольныя ўстановы, раённая бальніца, паліклініка, аптэка, раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі, тэр. цэнтр сац. абслугоўвання насельніцтва, аўтаклуб. Ёсць футбольныя палі, комплексныя спарт. пляцоўкі і трэнажорныя залы, раённая арг-цыя Бел. т-ва паляўнічых і рыбаловаў, райдзяржінспекцыя па насенняводстве, каранціне і абароне раслін. Брацкія магілы і могілкі сав. воінаў, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны, помнік адселеным вёскам (горад пацярпеў ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі). Захаваліся помнікі архітэктуры: царква Раства Прасвятой Багародзіцы, парк (18 ст.), будынак паштовай станцыі (19 ст.); помнік археалогіі — гарадзішча стараж. Слаўгарада.

Слаўгарад — радзіма ген.-лейт. авіяцыі, удзельніка нац.-рэв. вайны ў Іспаніі ў 1936—37 гг., баёў на р. Халхін-Гол у 1939 г., Вял. Айч. вайны і разгрому японскай Квантунскай арміі ў 1945 г. В.М.Бібікава (1910—92); бел. гісторыка, рэліг. дзеяча, краязнаўцы, археографа і мовазнаўцы І.І.Грыгаровіча (1792—1862); вядомага канявода, кавалера ордэна Леніна, дэп. Вярх. Савета СССР М.Е.Батоўкіна (1873—1947); электрафізіёлага, акадэмі-



*Фрагмент афармлення тэрыторыі раённай бальніцы г. Слаўгарад.*



*Алея памяці чарнобыльскай бяды. Закладзена ў 1996 г.*



ка АН Украіны Д.С.Варанцова (1886—1965); доктара тэхн. навук, праф. М.С. Моўніна; бел. пісьменніка, публіцыста Ф.У.Шкірманкова (н. ў 1926); бел. мастака Л.М.Гоманава (н. ў 1953).

За 1,2 км на ПнЗ ад горада размешчана радовішча даламіту (разведаныя запасы 277 тыс. т), якое распрацоўваецца мясц. будаўнічымі арг-цыямі.

У склад Кабінагорскага с/с, цэнтрам якога з'яўляецца г. Слаўгарад, уваходзяць горад і 15 вёсак.

**АГЕЕВА** — былы пасёлак у б. Старынкаўскім с/с, за 23 км на ПдУ ад Слаўгарада, 93 км ад Магілёва, 63 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на З і Пд межаваў з лесам. На У цячэ р. Галуба (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Старынка, Крамянка і далей па шашы Доўск—Чэрыкаў. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі.

Засн. ў 1920-я г. З 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. пасялкоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1962—65 гг. у Краснапольскім р-не. У 1990 г. было 6 гаспадарак, 11 жыхароў. У складзе саўгаса «Памяць Фрунзе» (цэнтр — былая в. Старынка). Планіровачна складаўся з кароткай прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай няшчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**АЗАРЫЧЫ** — вёска ў Лапаціцкім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Слаўгарада, 45 км ад Магілёва, 27 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Раста (прыток р. Проня), на У — яе прыток р. Рудня. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Пацяраеўка і далей па шашы Слаўгарад—Магілёў. 28 гаспадарак, 49 жыхароў (2007).

За 1,5 км на З ад вёскі, на левым беразе р. Раста, паміж 2 ярамі размешчана гарадзішча ранняга жал. веку, што сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Упершыню ў пісьмовых крыніцах вёска ўпамінаецца ў захаваўшыхся фрагментах інвентару за 1560 г. як сяло ў ВКЛ, якое налічвала 3 дымы, з'яўлялася дзярж. уласнасцю. У 1563 г. перададзена ў часовае валоданне шляхціцу, у 1580 г. ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., у валоданні памешчыка. У 1604 г. 4 двары, дзярж. ўласнасць. У 1635 г. ў Асавецкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета. У 1742 г. 20 гаспадарак, у Восаўскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі, меліся 2 млыны. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. На карце 1777 г. адзначаны Азарычы і вадзяны млын. У 1799 г. 27 двароў, 196 жыхароў. У 1874 г. адк-



*Ф.У.Шкірманкоў.*



*Л.М.Гоманаў.*



*Будынак філіяла Беларусбанка ў г. Слаўгарад.*



*Будынак філіяла Белдзяржстраха ў г. Слаўгарад.*

рыта школа (нар. вучылішча). У 1877 г. пабудавана мураваная Троіцкая царква. У 1897 г. ў Даўгамохскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 51 двор, 347 жыхароў. Меліся хлебазапасны магазін (адкрыты не пазней 1882), піцейны дом. У 1909 г. 60 двароў, 415 жыхароў. У 1910 г. належала Устаненскаму сельскаму т-ву, 38 двароў, 267 жыхароў. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі), у 1926 г. 420 жыхароў, 4-класная школа. З 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 66 вучняў, дзейнічаў драмгурток. У 1930 г. для школы пабудавана памяшканне. У 1931 г. пач. школа стала двухкамплектнай. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Чырвоная Зорка». У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле на вясковых могілках, што ў цэнтры вёскі, пахаваны каля 100 сав. воінаў, якія загінулі ў 1943 г. Пасля вайны пабудавана электрастанцыя для задавальнення калгасных патрэб. У 1950 г. ўведзены ў строй радыёвузел, вёска была радыёфікавана, а потым — электрыфікавана. У 1990 г. ў складзе племсаўгаса «Жалезінскі» (цэнтр — в. Лапацічы), 73 гаспадаркі, 139 жыхароў. Размешчаны вытв. аддзяленне і ферма буйной рагатай жывёлы, былі 8-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі, аддз. ашчаднага банка. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Праект планіроўкі і забудовы вёскі распрацаваны ў 1973 г. Магілёўскім філіялам ін-та «Белкалгаспраект». Аснову планіроўкі складаюць 2 крывалінейныя паралельныя вуліцы, арыентаваныя амаль мерыдыянальна ўздоўж р. Рудня, на Пд злучаныя кароткай прамалінейнай вуліцай. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц., пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. Вытв. сектар — на У, на левым беразе р. Рудня.

**АЛЯКСАНДРАЎКА 1** — вёска ў Гіжэнскім с/с, за 13 км на ПнУ ад Слаўгарада, 83 км ад Магілёва, 40 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, вакол лес. Транспартныя сувязі па шашы Слаўгарад—Чэрыкаў, якая праходзіць паблізу вёскі. 26 гаспадарак, 51 жыхар (2007).

За 1,5 км на ПдЗ ад вёскі на правым беразе р. Сож знаходзіцца стаянка каменнага веку і паселішча эпохі Кіеўскай Русі, што сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. У пісьмовых крыніцах вёска ўпершыню ўпамінаецца пад 1858 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 80 рэвізскіх душ, мелася карчма. У 1880 г. 52 двары, 223 жыхары. У 1884 г. 40 двароў, 189 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася сталярным і бандарным промысламі. У 1897 г. вёска і фальварак у Даўжанскай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. ў вёсцы 46 двароў, 333 жыхары, у фальварку 61 жыхар. У 1909 г. адкрыта царк.-прыходская школа, якая ў 1917 г. стала земскай, размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1910 г. ў Даўжанскай вол. Чэрыкаўскага павета, належала Аляксандраўскаму сельскаму т-ву, 46 двароў, 303 жыхары. Адносілася да Азёрскага праваслаўнага прыхода. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не, у 1926 г. ў вёсцы 427 жыхароў, 4-класная школа. У 1962—65 гг. у Краснапольскім р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 20.8. 1924 г. да 21.8.1925 г. цэнтр сельсавета. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 45 вучняў. У 1928 г. пач. школа стала двухкамплектнай, для яе пабудавана памяшканне. Тут вучыліся таксама дзеці з бліжэйшых хутароў і в. Ходараў 2. У 1923 г. арганізавана меліярацыйнае т-ва. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У 1940 г. 76 двароў, 281 жыхар. У Вял. Айч. вайну з



жн. 1941 г. да 3.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. За 2 км на Пд ад вёскі, каля шашы Чэрыкаў—Слаўгарад, на ўшанаванне загінуўшых у ліп. 1941 г. сав. воінаў 497-га гаўбічна-артыл. палка 137-й стралк. дывізіі 13-й арміі, якія вялі тут цяжкія баі ў акружэнні, пастаўлена стэла. У брацкай магіле, што за 1,5 км на ПдУ ад вёскі, пахавана 470 сав. воінаў, якія загінулі ў жн. 1941 г. У жн. 1943 г. гітлераўцы спалілі 68 двароў, загубілі 12 жыхароў. 78 вяскоўцаў загінулі на фронце. На ўшанаванне іх памяці ў цэнтры вёскі, у скверы, узведзена ў 1966 г. мемарыяльная сцяна. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. ў складзе калгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Ходараў), 52 гаспадаркі, 145 жыхароў. Была вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. У 2007 г. працаваў магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ паралельна да шашы і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПнЗ — гасп. сектар.

Радзіма празаіка У.Я.Рубанава (1952—94)

**АЛЯКСАНДРАЎКА 2** — вёска ў Гіжэнскім с/с, за 14 км на ПнУ ад Слаўгарада, 84 км ад Магілёва, 40 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на З, Пн і У мяжуе з лесам. На Пд цячэ р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слаўгарад—Чэрыкаў. 9 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

За 1,5 км на ПдЗ ад вёскі, на правым беразе р. Сож захавалася стаянка каменнага веку і паселішча эпохі Кіеўскай Русі, што сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. У пісьмовых крыніцах вёска ўпершыню ўпамінаецца пад 1870 г., калі тут, у маёнтку, быў засн. кафляны з-д. У 1897 г. вёска і фальварак у Даўжанскай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. ў вёсцы 18 двароў, 113 жыхароў, у аднайменным фальварку, які належаў памешчыцы Рамідаўскай, 1 двор, 9 жыхароў. Сав. ўлада ўстаноўлена ў ліст. 1917 г. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да 1.7.1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы 180 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 21 двор, 68 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 3.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1941 г. каля вёскі пры пераправе цераз Сож у час выхаду з акружэння загінуў ген.-маёр П.Н.Ахлюсцін, камандзір 13-га механізаванага корпуса, які свой першы бой прыняў 22 чэрв. ў першыя гадзіны вайны каля Бельска. У жн. 1943 г. акупанты спалілі 20 двароў, загубілі 6 жыхароў. У 1943 г. ў час наступлення Чырвонай Арміі партызаны ўтрымлівалі каля вёскі пераправу да падыходу сав. войск. Пасля вайны адбудавана. У 1962—65 гг. у Краснапольскім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Ходараў), 21 гаспадарка, 34 жыхары. Былі вытв. брыгада, магазін. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнУ на ПдЗ і забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.



*У.Я.Рубанаў.*

**АНЕЛІНА** — былы пасёлак у б. Баханскім с/с, за 34 км на ПдЗ ад Слаўгарада, 37 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны. На Пн і праз пасёлак праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Баброўка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вялікая Зімніца і далей па шашы Слаўгарад—Доўск. Пасёлак пацярпеў ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі.

У 1847 г. вёска, цэнтр маёнтка, уласнасць памешчыка. Гаспадар маёнтка валодаў у 1856 г. 3270 дзес. зямлі і карчмой. У 1857 г. хутар Анелін у Быхаўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1897 г. 4 двары, 32 жыхары. У 1909 г. 51 жыхар. Аднасіў-

ся да Журавіцкага рымска-каталіцкага прыхода. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Журавіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім, з 12.2.1935 г. ў Доўскім, з 5.4.1935 г. ў Журавіцкім, з 17.12.1956 г. ў Быхаўскім, з 31.3.1958 г. ў Слагарадскім, з 26.12.1962 г. ў Быхаўскім, з 6.1.1965 г. ў Слаўгарадскім р-нах Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Гомельскай, з 17.12.1956 г. ў Магілёўскай абласцях. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. ў складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Бахань), 50 гаспадарак, 158 жыхароў. Былі вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы, клуб, магазін. Меліярацыйным каналам пасёлак падзяляўся на зах. (крывалінейная вуліца, арыентаваная з ПнЗ на ПдУ) і ўсх. (2 кароткія прамалінейныя вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, злучаныя прамалінейнай вуліцай шыротнай арыентацыі) часткі. Быў забудаваны пераважна двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПнУ адасоблена размяшчаўся гасп. сектар.

**БАРСУКОЎКА** – былая вёска ў Васькавіцкім с/с, за 10 км на Пд ад Слаўгарада, 80 км ад Магілёва, 50 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слаўгарад—Доўск. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі.

У 1857 г. вёска ў Быхаўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 75 рэвізскіх душ, у 1897 г. ў Прапойскай вол. Быхаўскага павета, 25 двароў, 188 жыхароў. Меўся хлебазапасны магазін (адкрыты не пазней 1882). У 1909 г. 34 двары, 227 жыхароў, у 1910 г. ўваходзіла ў склад Барсукоўскага сельскага т-ва. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), у 1926 г. 294 жыхары. З 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. 10.6.1920 г. адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962—65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Гайшын), 19 гаспадарак, 30 жыхароў. Быў магазін. Планіровачна складалася з 2 прамалінейных кароткіх вуліц мерыдыянальнай і шыротнай арыентацыі, забудаваных традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

За 1 км на ПдУ ад б. вёскі знаходзіцца радовішча мелу (разведаныя запасы 3,3 млн. т).

**БАХАНЬ** – былая вёска, былы цэнтр сельсавета (з 20.8.1924) і калгаса імя А.В. Суворава, за 27 км на ПдЗ ад Слаўгарада, 97 км ад Магілёва, 42 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны, у цэнтры вадаём, на Пд, З ад вёскі і праз яе праходзілі меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Баброўка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз былую в. Вялікія Зімніцы, в. Малая Зімніца і далей па шашы Доўск—Слаўгарад. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, адселена.

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 1567 г. як сяло ў Рэчыцкім павеце ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1586 г. Бохань ў Рагачоўскай вол., дзярж. ўласнасць. У 1747 г. 66 двароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 58 двароў, 577 жыхароў. У 1841 г. пабудавана царква з дрэва. У 1858 г. ў Быхаўскім павеце, 46 рэвізскіх душ, уласнасць памешчыка. У 1864 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1889 г. навучалася 40 хлопчыкаў. Непадалёку быў аднайменны маёнтак, гаспадар якога меў у 1862 г. 1311 дзес. зямлі і карчму. У 1880 г. 86 двароў, 528 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся калёсным, кушнерскім, кавальскім, бандарным і кравецкім промысламі. У 1897 г. 134 два-



ры, 270 жыхароў. Меліся крама, 2 хлеба-запасныя магазіны (адкрыты не пазней 1882), фельч.-акушэрскі пункт, заезны дом. У 1909 г. ў в. Бахані 1 было 100 двароў, 798 жыхароў, у в. Бахні 2 — 43 двары, 300 жыхароў. Дзейнічалі казённая вінная крама і лячэбніца. У 1917 г. ў в. Бахань 1 — 104 двары, 760 жыхароў, у в. Бахань 2 — 333 жыхары. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Журавіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім, з 12.2.1935 г. ў Доўскім, з 5.4.1935 г. ў Журавіцкім, з 12.12.1956 г. ў Быхаўскім, з 31.3.1958 г. ў Слаўгарадскім, з 25.12.1962 г. ў Быхаўскім, з 6.1.1965 г. ў Слаўгарадскім р-нах Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), Гомельскай вобл. (15.1.1938—17.12.1956), з 17.12.1956 г. ў Магілёўскай вобл. 2.6.1919 г. адкрыта хата-чытальня. У 1924 г. арганізавана с.-г. т-ва, якое аб'ядноўвала 60 гаспадарак. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 97 сав. воінаў, якія загінулі ў 1943 г. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 227 жыхароў з вёсак Баханскага с/с. У памяць аб іх у 1967 г. ў цэнтры вёскі ўзведзена мемарыяльная сцяна, на якой 2 дошкі з імёнамі загінуўшых. У 1990 г. было 189 гаспадарак, 498 жыхароў. У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, жывёлагадоўчы комплекс, майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, лесапільня, устаноўка па прыгатаванні вітаміннай мукі, былі клуб, б-ка, 8-гадовая школа, інтэрнат, урачэбны ўчастак, аптэка, магазін, аддз. сувязі, аддз. ашчаднага банка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Праект планіроўкі і забудовы быў распрацаваны ў 1984 г. Магілёўскім філіялам ін-та «Белкалгаспраект». Планіровачна складалася з паўн., зах. і ўсх. частак, падзеленых паміж сабою меліярацыйным каналам і штучным вадаёмам. Кожная частка мела прамавугольную сетку вуліц, забудаваных двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Уздоўж вадаёма, паміж паўн. і ўсх. часткамі, размяшчаўся грамадскі цэнтр. Тут жа было пабудавана шмат мураваных адна- і двухпавярховых жылых дамоў. Вытв. сектар разгрупаваны ў розных частках вёскі, на Пд — калгасны сад.

У склад сельсавета ўваходзілі 4 вёскі і 9 пасёлкаў. Да 1977 г. ў склад сельсавета ўваходзіў таксама пас. Паленава, які перастаў існаваць.

**БЛАГАДАЦЬ** — вёска ў Кабінагорскім с/с, за 14 км на ПдУ ад Слаўгарада, 84 км ад Магілёва, 54 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, вакол лес. На Пд цячэ ручай (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз былую в. Кліны і далей па шашы Слаўгарад—Доўск. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 19 ст. Памешчык меў тут у 1873 г. 6586 дзес. зямлі, вадзяны і ветраны млыны, карчму. У 1897 г. фальварак (1 двор, 19 жыхароў) у Старынскай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ. Належаў княгіні М.А. Крапоткінай, адносіўся да Наваельненскага праваслаўнага прыхода. У 1913 г. пачаў дзейнічаць вінакурны з-д. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), у 1926 г. пасёлак у Каменкаўскім с/с. З 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1931 г. арганізаваны калгас, у 1939 г. адкрыты ўрачэбны ўчастак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 2.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што за 1,5 км на З ад вёскі, пахаваны 3 сав. воіны, якія загінулі ў 1943 г. ў баях за вызваленне раёна. З 1962—65 гг. у Краснапольскім р-не. У 1990 г. ў складзе саўгаса «Памяць Фрунзе» (цэнтр — в. Старынка), 18 гаспадарак, 42 жыхары. Дзейнічаў магазін. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Планіровачна

складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай няшчыльна, двухбакова традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БОРКІ** — былая вёска ў б. Баханскім с/с, за 30 км на З ад Слаўгарада, 100 км ад Магілёва, 36 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў—Жлобін, на левым беразе р. Ухлясць. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз былыя вёскі Хачынка, Кульшычы, Шаламы і далей па шашы Слаўгарад—Доўск. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі.

Вядома па пісьмовых крыніцах з 19 ст. З 1880 г. тут дзейнічала дзягцярня. У 1897 г. хутары Боркі 1 (1 двор, 6 жыхароў) і Боркі 2 (3 двары, 32 жыхары) у Баханскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. ў Борках 1 быў 1 двор, 8 жыхароў, у Борках 2 — 14 двароў, 32 жыхары. У 1917 г. ў двух вёсках налічваўся 51 жыхар. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Журавіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім, з 12.2.1935 г. ў Доўскім, з 5.4.1935 г. ў Журавіцкім, з 17.12.1956 г. ў Быхаўскім, з 31.3.1958 г. ў Слаўгарадскім, з 25.12.1962 г. ў Быхаўскім, з 6.1.1965 г. ў Слаўгарадскім р-нах Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Гомельскай, з 17.12.1956 г. ў Магілёўскай абласцях. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. ў складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Бахань), 16 гаспадарак, 34 жыхары. Былі свінагадоўчая ферма, магазін. Планіровачна складалася з кароткай прамалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПнУ на ПдЗ і забудаванай традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд быў гасп. сектар.

**БЯЗУЕВІЧЫ** — вёска ў Васькавіцкім с/с, за 16 км на ПдЗ ад Слаўгарада, 86 км ад Магілёва, 57 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Пацэя (прыток р. Касалянка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слаўгарад—Доўск. 41 гаспадарка, 73 жыхары (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1740 г. вёска (23 двары) у Быхаўскім графстве Рэчы Паспалітай, уласнасць памешчыка. У 1758 г. колькасць двароў павялічылася да 33, меліся царква і млын. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. вёска ў Старабыхаўскай акрузе Магілёўскай губ. Каля 1783 г. ў вёсцы 45 двароў, 277 жыхароў. У 1799 г. 37 двароў, 254 жыхары. У 1858 г. ў складзе маёнтка Стайкі Быхаўскага павета, 126 жыхароў мужчынскага полу. Мелася карчма. У 1880 г. 62 двары. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. ў Бычанскай вол. Быхаўскага павета, 78 двароў, 447 жыхароў, меліся 2 млыны, школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 71 двор, 513 жыхароў. У 1910 г. школа граматы ператворана ў земскую, размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1917 г. 89 двароў, 601 жыхар. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. былі 52 вучні, дзейнічаў драматычны гурток. У 1931 г. школа стала двухкамплектнай. У першыя гады сав. улады каля вёскі камбедаўцы зрабілі пасадку лесу, і гэта месца стала потым называцца «Урочышча Камітэт». У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2 брацкіх і адзіночнай магілах, што на вясковых могілках, пахаваны 157 сав. воінаў, якія загінулі ў баях супраць гітлераўцаў. У 1952 г. ўступіў у строй радыёвузел, вёска была радыёфікавана, а ў пач. 1960-х г. электрыфікавана. У 1962—65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Гайшын), 87 гаспадарак, 193 жыхары. Былі вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы, станцыя меліярацыі. Вёска па-



цярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. У 2007 г. працавалі клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, б-ка, сталовая, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, якую ў цэнтры перасякаюць рака і мясц. дарога. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. На Пн, адасоблена — гасп. сектар.

**БЯРОЗАЎКА** — вёска ў Гіжэнскім с/с, цэнтр СВК «Наша Радзіма», за 27 км на Пн ад Слаўгарада, 67 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам і цячэ ручай (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Целяшы, Гіжэнка, Ходарава і далей па шашы Слаўгарад—Чэрыкаў, 93 гаспадаркі, 221 жыхар (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 17 ст. У 1635 г. абруб Паўлава Бярозаўка ў Благавіцкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета Рэчы Паспалітай, дзярж. ўласнасць. У 1742 г. 13 гаспадарак. У 1765 г. вёска (5 двароў, у якіх ніхто не жыў), дзярж. ўласнасць у Прапойскім старостве. У 1769 г. 7 двароў, 9 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1786 г. ў Рагачоўскім павеце, 8 двароў, 60 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. У 1858 г. 61 двор, 297 жыхароў. Побач быў маёнтак, гаспадар якога ў 1878 г. валодаў 800 дзес. зямлі. У 1880 г. 70 двароў, 352 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася бандарным промыслам. У 1897 г. 105 двароў, 712 жыхароў, у Даўжанскай вол. Чэрыкаўскага павета. Меліся школа граматы і карчма. У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама. У 1907 г. школа граматы ператворана ў земскую, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1909 г. 112 двароў, 827 жыхароў. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. былі 52 вучні, дзейнічаў драматычны гурток. 1.6.1920 г. адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1931 г. арганізаваны калгас «9-ы з'езд ВЛКСМ». У 1940 г. 141 двор, 402 жыхары. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 3.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1943 г. ў вёсцы размяшчаліся партызаны палка Грышына. Некаторы час каля вёскі дыслацыраваліся партызаны 17-й брыгады, 41-га, 42 і 43-га асобных атрадаў. У жн. 1943 г. гітлераўцы спалілі 136 двароў, загубілі 12 жыхароў. На паўд. ускраіне ў брацкай магіле пахаваны 7, на вясковых могілках у брацкай і 7 адзіночных магілах — 11 сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць акупантаў. 134 вяскоўцы загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. У памяць аб іх у 1977 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. Пасля вайны адбудавана. У 1962—65 гг. у Чавускім р-не. У 1990 г. цэнтр калгаса «Радзіма», 116 гаспадарак, 283 жыхары. У вёсцы былі размешчаны вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, устаноўка па прыгатаванні вітамінкай мукі, зернедрабілка. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. У 2007 г. клуб, б-ка, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, аптэка, агульнаадукац. школа, пры якой у 1974 г. па ініцыятыве ветэранаў 324-й стралк. дывізіі і партызан палка «Трынаццаць» створаны музей баявой славы. Дзейнічаюць аддз. сувязі, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Праект планіроўкі і забудовы вёскі быў распрацаваны ў 1971 г. Магілёўскім філіялам ін-та «Белкалгаспраект». Планіровачна складаецца з 2 амаль прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, якія на З злучаны трэцяй прамалінейнай вуліцай. Забудавана пераважна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Уздоўж гал. вуліцы сярод жылой забудовы пастаўле-



*І.Ц.Балукоў.*



*В.Е.Лявончыкаў.*



*І.А.Прусаў.*

ны адм.-грамадскія будынкі і некалькі індывідуальных і шматкаватэрных мураваных жылых дамоў. На Пд размешчана новая вуліца, якая забудоўваецца мураванымі жылымі дамамі. На З — гасп. сектар.

Радзіма доктара эканам. навук, праф. І.Ц.Балукова (1922—91), доктара пед. навук, праф. В.Е.Лявончыкава (н. ў 1937), доктара фізіка-матэматычных і тэхн. навук, праф. І.А.Прусава (1919—94).

**ВАСЬКАВІЧЫ** — вёска ў Васькавіцкім с/с, за 8 км на ПдЗ ад Слаўгарада, 78 км ад Магілёва, 47 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на ПдУ — штучны вадаём. Транспартныя сувязі па шашы Слаўгарад—Доўск, якая праходзіць паблізу вёскі. 78 гаспадарак, 192 жыхары (2007).

На правым абрывістым беразе р. Пясчанка, каля вёскі, ва ўрочышчы «Гарадок» захаваліся стараж. гарадзішча і курганны могільнік (96 насыпаў). Бытуе легенда, што курганы ўзніклі ў сувязі з пахаваннем у 984 г. загінуўшых воінаў радзімічаў, якіх разбіў тут ваявода кіеўскага князя Уладзіміра Воўчы Хвост. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 1555 г. як сяло ў Прапойскай вол. ВКЛ, з'яўлялася дзярж. уласнасцю. У 1675 г. — 24 двары. У 1681 г. сяло Восневічы (9 двароў), дзярж. ўласнасць у Прапойскім старостве. У 1755 г. — 23, у 1769 г. — 20 двароў, 44 жыхары мужчынскага полу, мелася карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 40 двароў, 276 жыхароў, у 1858 г. 416 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1873 г. 449 рэвізскіх сялян. У 1880 г. 93 двары, 409 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася адыходным, бандарным і кравецкім промысламі. У 1897 г. ў Прапойскай вол. Быхаўскага павета, 123 двары, 876 жыхароў. Меліся хлебазапасны магазін (адкрыты не пазней 1882), заезны дом. У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама. У 1909 г. 143 двары, 1027 жыхароў, меўся млын, адкрыта царк.-прыходская школа, і ў гэтым жа годзе для яе пабудавана памяшканне. З 1918 г. ў вёсцы трохкласнае вучылішча. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 95 вучняў. У 1926 г. ў вёсцы трохкласнае вучылішча. У 1932 г. школа ўжо стала трохкамплектнай, а ў 1934 г. — чатырохкамплектнай. 20.7.1920 г. адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1920 г. пачала дзейнічаць майстэрня па рамонце с.-г. інвентару. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Васькавічы». У 1939 г. ўзведзены будынкі 7-гадовай школы і б-кі. Перад вайной у вёсцы была сярэдняя школа. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На вясковых могілках пахаваны сав. воін, які загінуў у 1943 г. У 1953 г. ўступіў у строй радыёвузел, вёска была радыёфікавана, а некалькі пазней — электрыфікавана. У 1962—65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса імя М.Горкага (цэнтр — в. Папоўка), 121 гаспадарка, 341 жыхар. Былі вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. У 2007 г. магазін, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, фельч.-акушэрскі пункт, ветэрынарны ўчастак. Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн.-ўсх. ускраіне сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі. Гасп. сектар — адасоблены, на Пн.

У склад сельсавета ўваходзяць 17 вёсак. У канцы 1930-х г. на тэр. сучаснага Васькавіцкага с/с былі пасёлкі Культура, Мір, Надзея, Зарэчча, Прасвет, Андрэеўка, Машчанка, Новы Гарадок, Лесвіца, Паласа, якія зараз не існуюць.



За 0,7 км на Пн ад вёскі размешчана радовішча даламітаў (разведаныя запасы 406 тыс. м$^3$).

**ВАСХОД** — былы пасёлак у Старынкаўскім с/с, за 19 км на ПдУ ад Слаўгарада, 96 км ад Магілёва, 59 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Галуба (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз былую в. Кліны і далей па шашы Слаўгарад—Доўск. Пасёлак пацярпеў ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі.

Засн. ў пач. 1920-х г. З 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1962—65 гг. у Краснапольскім р-не. У 1990 г. 1 гаспадарка, 3 жыхары, у складзе саўгаса «Памяць Фрунзе» (цэнтр — былая в. Старынка). Планіровачна складаўся з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Быў забудаваны двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВІШ** — пасёлак у Свенскім с/с, за 32 км на ПдЗ ад Слаўгарада, 102 км ад Магілёва, 40 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вялікая Зімніца і далей па шашы Слаўгарад—Доўск. 2 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Журавіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім, з 12.2.1935 г. ў Доўскім, з 5.4.1935 г. ў Журавіцкім, з 17.12.1956 г. ў Быхаўскім, з 31.3.1958 г. ў Слаўгарадскім р-нах Магілёўскай акругі (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Гомельскай, з 17.12.1956 г. ў Магілёўскай абласцях. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 29.11.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. ў складзе калгаса «Наперад» (цэнтр — в. Вял. Зімніца), 16 гаспадарак, 39 жыхароў. Пасёлак пацярпеў ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Прамалінейная вуліца, блізкая да шыротнай арыентацыі, забудавана пераважна з паўн. боку традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВЫШКАЎКА** — пасёлак у Свенскім с/с, за 28 км на ПдЗ ад Слаўгарада, 98 км ад Магілёва, 57 км ад чыг. ст. Рагачоў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны, на У — сажалка, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слаўгарад—Доўск. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Журавіцкім, з 8.7.1931 г. ў Прапойскім, з 12.2.1935 г. ў Доўскім, з 5.4.1935 г. ў Журавіцкім, з 17.12.1956 г. ў Рагачоўскім, з 11.6.1957 г. ў Слаўгарадскім р-нах Магілёўскай акругі (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Гомельскай, з 11.6.1957 г. ў Магілёўскай абласцях. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 29.11.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. ў складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Рэкта), 2 гаспадаркі, 3 жыхары. Пасёлак пацярпеў ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Сял. сядзібы традыц. драўляныя, з гасп. пабудовамі, пастаўленыя каля прасёлачнай дарогі.

**ВЯЛІКАЯ ЗІМНІЦА** — вёска ў Свенскім с/с, цэнтр б. калгаса «Наперад», цяпер СВК «Зімніца», за 31 км на ПдЗ ад Слаўгарада, 101 км ад Магілёва, 40 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Малая Зімніца і далей па шашы Слаўгарад—Доўск. 129 гаспадарак, 340 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 1598 г. як в. Зімніца ў складзе маёнтка Новы Быхаў Рэчыцкага павета Рэчы Паспалітай, шляхецкая ўласнасць. У 1600 г. сяло ў складзе маёнтка Тайманава. У 1635 г. с. Вялікая Зімніца (яно ж Сіціха) у складзе маёнтка Новы Быхаў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. с. Зімніца Зарэчча ў Старабыхаўскай акрузе Магі-

лёўскай губ. У 1799 г. 100 двароў, 654 жыхары. У 1848 г. мелася драўляная царква. У 1858 г. ў Быхаўскім павеце, 297 жыхароў мужчынскага полу. Меліся заезны дом і піцейны дом. У 1880 г. 122 двары, 767 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася адыходным і кавальскім промысламі. У 1884 г. хлебазапасны магазін. У 1897 г. дзейнічалі магазін (адкрыты не пазней 1882), крама, царк.-прыходская школа, карчма, царква. У 1909 г. 172 двары, 1200 жыхароў, 1917 г. 214 двароў, 1568 жыхароў. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Журавіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім, з 12.2.1935 г. ў Доўскім, з 5.4.1935 г. ў Журавіцкім, з 17.12.1956 г. ў Быхаўскім, з 31.3.1958 г. ў Слаўгарадскім р-нах Магілёўскай акругі (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Гомельскай, з 17.12.1956 г. ў Магілёўскай абласцях. У чэрв. 1920 г. адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1922 г. ў маёнтку Зімніца была створана с.-г. арцель, 2.2.1925 г. арганізавана садова-агародніцкае т-ва «Інтэрнацыянал». У 1925 г. 10 сямей арганізавалі т-ва па перасяленні ў Таўрыцкую вобл. У 1926 г. адкрыты нар. дом, у 1928 г. пабудавана памяшканне для школы. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле ў цэнтры вёскі і адзіночнай магіле на паўд. ускраіне пахаваны 98 сав. воінаў, якія загінулі ў 1943 г. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 218 вяскоўцаў. У 1967 г. на ўшанаванне іх памяці ў цэнтры вёскі ўзведзена мемарыяльная сцяна з імёнамі загінуўшых. У 1990 г. 202 гаспадаркі, 482 жыхары. У вёсцы былі размешчаны вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, лесапільня, устаноўка па прыгатаванні вітаміннай мукі, ветэрынарны ўчастак, зернедрабільня. У 2007 г. агульнаадукац. школа, дзіцячы сад-яслі, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, Дом механізатара, Дом жывёлавода, аддз. сувязі, аддз. ашчаднага банка. Праект планіроўкі і забудовы быў распрацаваны ў 1982 г. Магілёўскім філіялам ін-та «Белкалгаспраект». Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных вуліц амаль мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных у цэнтры прасёлачнай дарогай з мостам. Забудавана пераважна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Новае будаўніцтва вядзецца муравадымі індывідуальнымі шматкватэрнымі жылымі дамамі. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. Вытв. сектар — адасоблены на З.

**ГАЙШЫН** — вёска ў Васькавіцкім с/с, б. цэнтр калгаса імя У.І.Леніна, за 12 км на Пд ад Слаўгарада, 82 км ад Магілёва, 52 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд мяжуе з лесам. На ўсходзе цячэ р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Доўск—Слаўгарад. 46 гаспадарак, 106 жыхароў (2007).

За 0,5—2 км на Пд ад вёскі захаваліся 2 стараж. курганныя могільнікі (у адным 5, у другім 65 насыпаў), стаянка эпохі неаліту і паселішча эпохі Кіеўскай Русі, на паўд.-ўсх. ускраіне вёскі — стаянка каменнага веку і паселішча эпохі Кіеўскай Русі. Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вёска вядома з 1708 г. ў сувязі з падзеямі Паўн. вайны 1700—21 гг. У 1740 г. мяст. Гейшын у Быхаўскім графстве, 56 двароў, памешчыцкая ўласнасць. У 1758 г. колькасць двароў павялічылася да 71, насельніцтва — да 143 жыхароў мужчынскага полу. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізіі 1773 г. ў мястэчку 510 рэвізскіх і прышлых сялян. У 1777 г. мяст. Цейшын у Старабыхаўскай акрузе. У канцы 1830-х г. належаў Сапегам. У 1858 г. ў мяст. Гайшын 566 жыхароў. У 1861 г. 123 двары, 795 жыхароў. Меліся пабудаваныя з дрэва царква і сінагога. У 1862 г. адкрыта



школа (нар. вучылішча), у якой у 1889 г. навучалася 50 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі. Непадалёку быў маёнтак, гаспадар якога Смяроўскі ў 1879 г. меў 1272 дзес. зямлі, вадзяны млын і паром цераз р. Сож, дзейнічала крупадзёрка. Частка жыхароў займалася кравецкім і адыходным промысламі. У 1897 г. ў Прапойскай вол. Быхаўскага павета, 161 двор, 1060 жыхароў, 3 млыны, 2 кузні, 3 крупадзёркі, хлебазапасны магазін (адкрыты не пазней 1882), 12 лавак, карчма, царква, 2 малітоўныя дамы, 2 разы на год праводзіліся кірмашы. У 1905 г. адкрылася казённая вінная крама, у школе навучаліся 71 хлопчык і 14 дзяўчынак. У 1910 г. ў Прапойскай вол. Быхаўскага павета, 158 гаспадарак, 1142 жыхары. З 1912 г. існавала аднакласная царк.-прыходская школа. У 1917 г. 128 двароў, 956 жыхароў. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 20.8.1924 г. да 30.11.1961 г. цэнтр сельсавета. У 1925 г. дзейнічала перасяленчае т-ва «Факел» з 11 сямей, якія пераехалі на Далёкі Усход. У 1925 г. адкрыта хата-чытальня. У 1926 г. 1245 жыхароў. У 1929 г. пач. школа стала трохкамплектнай, а ў 1932 г. — чатырохкамплектнай. У студз. 1930 г. арганізаваны калгас «Ленінец». Яго старшынёй стаў 25-тысячнік, камуніст з Сормава М.І.Мухін. У сярэдзіне 1930-х г. пач. школа пераўтворана ў 7-гадовую. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія яе часткова спалілі. За 2,5 км на ПдУ ад вёскі, ва ўрочышчы Сямёнаўка, а таксама ў скверы каля школы ў брацкіх магілах пахаваны 728 сав. воінаў, якія загінулі пры вызваленні вёскі. 138 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. На ўшанаванне іх памяці каля будынка выканкома сельсавета ў 1983 г. пастаўлена стэла. У 1962—65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1970 г. 132 гаспадаркі, 337 жыхароў. У 1990 г. 144 гаспадаркі, 362 жыхары, у 1993 г. 63 гаспадаркі, 138 жыхароў, у 1996 г. адпаведна 44 і 96. У вёсцы былі размешчаны вытв. брыгада, рамонтна-механічныя майстэрні, ферма буйной рагатай жывёлы, лесапільня, устаноўка па прыгатаванні вітамінкай мукі. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. У 2007 г. ААТ «Слаўгарадрайаграпрамтэхніка», сярэдняя школа (17 настаўнікаў, у іх ліку засл. настаўнік БССР М.В.Маркусенка), дзіцячы сад-яслі, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. сувязі і ашчаднага банка. Праект планіроўкі і забудовы вёскі распрацаваны ў 1966 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Аснову планіроўкі складае крывалінейная вуліца, выцягнутая ўздоўж ракі, у блізкім да мерыдыянальнага напрамку. Да яе пад рознымі вугламі з абодвух бакоў падыходзяць другарадныя вуліцы. У цэнтры цячэ ручай. Жылая забудова двухбаковая, пераважна традыц., драўляная, сядзібнага тыпу. Новае жыллёвае будаўніцтва вядзецца пераважна мураванымі дамамі тыпу катэджаў. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. Вытв. сектар — на паўн. ускраіне.

Радзіма бел. паэта, засл. дзеяча культуры БССР, лаўрэата дзярж. прэміі БССР К.Ц.Кірэенкі (1918—88).



*К.Ц.Кірэенка.*

За 0,2 км на ПнУ ад вёскі размешчана радовішча мелу (разведаныя запасы 5,56 млн. т), якое распрацоўваецца Слаўгарадскім прамкамбінатам.

**ГАНЧАРОЎКА** — вёска ў Васькавіцкім с/с, за 10 км на ПдЗ ад Слаўгарада, 80 км ад Магілёва, 50 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. На Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Пясчанка (прыток р. Сож), на Пд — сажалка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Васькавічы і далей па шашы Слаўгарад—Доўск. 13 гаспадарак, 21 жыхар (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 19 ст. як урочышча. Гаспадар маёнтка меў тут у 1830 г. 115 дзес. зямлі. У 1897 г. хутар (3 двары, 26 жыхароў) у Прапойскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 4 двары, 26 жыхароў. Адносілася да Прапойскага праваслаўнага прыхода. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. 10.1.1925 г. арганізавана садова-агародніцкае т-ва «Дружба», у 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну са жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962—65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса імя М.Горкага (цэнтр — в. Папоўка), 34 гаспадаркі, 32 жыхары. Былі ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой далучаецца Г-падобная вуліца. Забудавана двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры — гасп. сектар.



*Р.Р.Аксёненка.*

Радзіма доктара медыцынскіх навук, праф. Р.Р.Аксёненкі (1930—91).

**ГІЖЭНКА** — вёска, цэнтр Гіжэнскага с/с (з 21.8.1925), за 18 км на ПнУ ад Слаўгарада, 88 км ад Магілёва, 26 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, вакол лес. Праз вёску цячэ р. Тросліўка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слаўгарад—Чэрыкаў. 106 гаспадарак, 295 жыхароў (2007).

*Жылыя дамы ў аграгарадку Гіжэнка.*



За 0,3 км на Пн ад вёскі, у лесе захаваўся курганны могільнік, што сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 1571 г. ў складзе Рэчы Паспалітай, калі прывілеем караля Сігізмунда Аўгуста яна была падаравана Чавускаму кармеліцкаму кляштару. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. ўваходзіла ў Чэрыкаўскую акругу Магілёўскай губ., 7 двароў, 43 жыхары, у 1783 г. 12 двароў, ставок, млын, сукнавальня, карчма, у 1783 г. і 1848 г. ўваходзіла ў склад маёнтка пана Гарадзецкага Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ. У 1805 г. вёска (31 жыхар мужчынскага полу) у складзе фальварка Дабромысль, уласнасць царквы. У 1811 г. вёска разам з фальваркам налічвала 10 двароў, 46 жыхароў мужчынскага полу. У 1834 г. 92 жыхары, дзярж. ўласнасць. У 1848 г. ў складзе маёнтка Гарадзец Чэрыкаўскага павета, 13 двароў, 104 жыхары, меўся млын. У 1880 г. 33 двары, 163 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася сталярным і бандарным промысламі. У 1897 г. ў Даўжанскай вол. Чэрыкаўскага павета, 51 двор, 287 жыхароў. Меўся піцейны дом. У 1909 г. ў вёсцы 48 двароў, 393 жыхары, у сядзібе, што была побач, — 1 двор, 2 жыхары. У гэтым жа годзе адкрыта земская школа, для якой у 1911 г. пабудавана памяшканне. Адносілася да Целяшоўскага праваслаўнага прыхода. У вёсцы былі ставок, вадзяны млын, крупадзёрка. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 87 вучняў, у ліку якіх 13 піянераў. У 1926 г. 377 жыхароў, чатырохкласная школа,



дзе вучыліся дзеці не толькі з в. Гіжэнка, але і з суседніх вёсак Усохі, Забалацце, у 1928 г. ператворана ў двухкамплектную. У 1928 г. пачала дзейнічаць смалакурня, у 1931 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн», які аб'яднoўваў 58 гаспадарак. У 1940 г. ў вёсцы 112 двароў, 319 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 3.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1943 г. гітлераўцы спалілі 102 двары. Пасля вайны адбудавана. У брацкай магіле на паўд.-зах. ускраіне пахаваны 1701 сав. воін, у брацкай магіле на могілках — 27 сав. воінаў, якія загінулі ў 1941—44 гг. Непадалёку ад вёскі, каля шашы Слаўгарад—Доўск, узведзены помнік Герою Сав. Саюза В.І.Чамадураву, які вызначыўся ў баях за вызваленне раёна. 138 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. На ўшанаванне іх памяці ў цэнтры вёскі ўзведзены ў 1964 г. Сцяна Памяці. У 1962—1965 гг. у Чавускім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса «40 гадоў Кастрычніка» (з 2003 г. СВК «Калгас 40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Гіжэнка), 84 гаспадаркі, 225 жыхароў, у 1996 г. 88 гаспадарак, 262 жыхары. Былі вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, устаноўка па вырабе вітамінная мукі, лясніцтва. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. У 2007 г. агульнаадукац. школа (13 настаўнікаў), Дом культуры, б-ка аграгарадка, стацыянарная кінаўстаноўка, фельч.-акушэрскі пункт і комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. ашчаднага банка. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1985 г. Магілёўскім філіялам ін-та «Белкалгаспраект». Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных, амаль паралельных паміж сабой вуліц шыротнай арыентацыі, якія праходзяць па абодва бакі ракі і злучаны мясц. дарогай з мостам. Забудавана двухбакова, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі. На Пн — адм.-грамадскі цэнтр і вядзецца забудова мураванымі жылымі дамамі тыпу катэджаў. На З і Пд — гасп. сектар.

У склад сельсавета ўваходзяць 15 вёсак. У канцы 1930-х г. на тэр. сучаснага Гіжэнскага с/с былі таксама пасёлкі Жалезінка, Навінка, Васход, Ленінскі, Палоева, Сядзіба, якія зараз не існуюць.

**ДАБРАНКА** — былая вёска ў б. Старынкаўскім с/с, за 14 км на У ад Слаўгарада, 84 км ад Магілёва, 54 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. На Пн цячэ р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз б. в. Старынка, в. Крамянка і далей па шашы Слаўгарад—Доўск. У 1990 г. было 80 гаспадарак, 178 жыхароў. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі і адселена.



*Адміністрацыйны будынак у аграгарадку Гіжэнка.*



*Дзіцячы сад у аграгарадку Гіжэнка.*

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 19 ст. пад назвамі ў розныя гады Хрыстафораўка, Добрае, Судзілаўка. У 1858 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 68 рэвізскіх душ. У 1897 г. 44 двары, 353 жыхары, у Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. Мелася школа граматы. Непадалёку знаходзіўся фальварак, 1 двор, 9 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 51 двор, 421 жыхар, у фальварку 1 двор, 3 жыхары. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. Магілёўскай вобл. Вясковая пач. школа стала ў 1931 г. двухкамплектнай. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну са жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962—65 гг. у Краснапольскім р-не. У 1990 г. ў складзе саўгаса «Памяць Фрунзе» (цэнтр — в. Старынка). Былі размешчаны вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, магазін. Планіровачна складалася з 2 крывалінейных вуліц, арыентаваных з ПнЗ на ПдУ, да якіх з У і З падыходзілі другарадныя вуліцы. Была забудавана двухбакова, шчыльна, традыц., драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне быў гасп. сектар.

За 1 км на ПдЗ ад былой вёскі знаходзіцца радовішча мелу (разведаныя запасы 8,1 млн. т).

**ДАЛЬНІ** (да 30.7.1964 г. пас. Брак) — пасёлак у Свенскім с/с, за 30 км на ПдЗ ад Слаўгарада, 100 км ад Магілёва, 49 км ад чыг. ст. Рагачоў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Бычанка (прыток р. Касалянка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Рэкта і далей па шашы Доўск—Слаўгарад. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х гг. З 20.8.1924 г. ў Журавіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім, з 12.2.1935 г. ў Доўскім, з 5.4.1935 г. ў Журавіцкім, з 17.12.1956 г. ў Быхаўскім, з 31.3.1958 г. ў Слаўгарадскім р-нах Магілёўскай акругі (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Гомельскай, з 17.12.1956 г. ў Магілёўскай абласцях. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. ў складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Рэкта), 3 гаспадаркі, 11 жыхароў. Пасёлак пацярпеў ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі пастаўлены ўздоўж колішняй больш працяглай вуліцы.

**ДАШКАЎКА** — былая вёска ў Гіжэнскім с/с, за 32 км на ПнУ ад Слаўгарада, 105 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Целяшы, Гіжэнка, Ходарава і далей па шашы Слаўгарад—Чэрыкаў. У 1990 г. 9 гаспадарак, 14 жыхароў. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі.

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. ў складзе Рэчы Паспалітай. У 1747 г. слабада Дашкова (15 двароў) у Крычаўскім старостве, пасэсія. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1783 г. ў засценку Дашкаўка налічвалася 10 шляхецкіх сем'яў. У 1880 г. 12 двароў, 72 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася бандарным промыслам. У 1897 г. ў Лабанаўскай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 25 двароў, 132 жыхары. Меўся хлебазапасны магазін. У 1909 г. 24 двары, 171 жыхар. Адносілася да Целяшоўскага праваслаўнага прыхода. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1931 г. арганізаваны калгас «Вольных шлях». У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962—65 гг. у Чавускім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса «Рассвет» (цэнтр — в. Целяшы). Была ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складалася з вуліцы амаль мерадыянальнай арыентацыі,



забудаванай няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДОБРЫ ДУБ** — былая вёска ў б. Баханскім с/с, за 26 км на ПдЗ ад Слаўгарада, 96 км ад Магілёва, 44 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны. На Пн праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Баброўка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Рагі, Прудок і далей па шашы Слаўгарад—Доўск. У 1990 г. 79 гаспадарак, 231 жыхар. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі.

Вядома па пісьмовых крыніцах з 1600 г. як сяло ў складзе маёнтка Тайманаў у Рэчы Паспалітай, шляхецкая ўласнасць. У 1742 г. 12 двароў, у Быхаўскім графстве, уласнасць памешчыка. У 1758 г. 22 двары, 64 жыхары мужчынскага полу, мелася карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1784 г. 31 двор, 210 жыхароў, дзейнічаў млын, у 1799 г. 32 двары, 191 жыхар. У 18 ст. ўладанне кн. Галіцына. У 1858 г. ў Быхаўскім павеце, 158 жыхароў мужчынскага полу. У 1880 г. 78 двароў, 451 жыхар. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім, адыходным, калёсным і кравецкім промысламі. У 1897 г. 99 двароў, 625 жыхароў, меўся хлебазапасны магазін (адкрыты не пазней 1882), дзейнічала школа граматы. У 1909 г. 109 двароў, 678 жыхароў. Вяскоўцы апрача земляробства займаліся калёсным, сталярным і іншымі промысламі. У 1910 г. ў Баханскай вол. Быхаўскага павета. Адносілася да Дабрадубскага сельскага т-ва. Уваходзіла ў Зімніцкі с/с. У 1917 г. 104 двары, 694 жыхары. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Журавіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім, з 12.2.1935 г. ў Доўскім, з 5.4.1935 г. ў Журавіцкім, з 17.12.1956 г. ў Быхаўскім, з 31.3.1958 г. ў Слаўгарадскім, з 25.12.1962 г. ў Быхаўскім, з 6.1.1965 г. ў Слаўгарадскім р-нах Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Гомельскай, з 17.12.1956 г. ў Магілёўскай абласцях. 27.6.1920 г. адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962—65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Бахань). Былі вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы, пач. школа, клуб, б-ка, магазін. Планіровачна складалася з крывалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд ад сялібнай зоны быў гасп. сектар.

**ДУБНА** — вёска ў Кабінагорскім с/с, за 14 км на Пд ад Слаўгарада, 84 км ад Магілёва, 54 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, вакол лес. На З цячэ р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз былую в. Кліны і далей па шашы Слаўгарад—Доўск. 11 гаспадарак, 27 жыхароў (2007).

На зах. ускраіне вёскі, на тэрасе левага берага р. Сож, а таксама на паўн. ускраіне і на З ад вёскі, на ўсх. беразе воз. Святое знаходзяцца паселішчы эпохі неаліту і бронзавага веку, што сведчыць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай старажытнасці. Паводле рукапісных крыніц вядома з 1555 г. як сяло ў Прапойскай вол. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1600 г. ў Прапойскім старостве Рэчыцкага павета. У 1681 г. 8 двароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1786 г. 50 жыхароў, уласнасць памешчыка. З 1835 г. ўладанне Бенкендорфа. У 1880 г. 25 двароў, 197 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. ў Старынкаўскай вол. Чэрыкаўскага павета, 51 двор, 336 жыхароў. Меліся школа граматы, заезны дом. У 1910 г. належала Дубнаўскаму сельскаму т-ву. Адносілася да Гайшынскага праваслаўнага прыхода. У 1915 г. школа граматы ператворана ў земскую, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай

губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе земскай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 36 вучняў, меўся харавы гурток. У 1932 г. пач. школа стала двухкамплектнай. Тут вучыліся таксама дзеці з в. Благадаць і былой в. Старынка. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 58 двароў, 266 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 2.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. акупанты спалілі 55 двароў. Пасля вайны адбудавана. У 1962—65 гг. у Краснапольскім р-не. У 1990 г. ў складзе саўгаса «Памяць Фрунзе» (цэнтр — былая в. Старынка), 50 гаспадарак, 101 жыхар, магазін. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Да асн. крывалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі з абодвух бакоў далучаюцца кароткія вуліцы. Забудавана двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДУБОВЫ ЛОГ** — пасёлак у Свенскім с/с, за 28 км на ПдЗ ад Слаўгарада, 98 км ад Магілёва, 53 км ад чыг. ст. Рагачоў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Перагонка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Рэкта і далей па шашы Слаўгарад—Доўск. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Журавіцкім, з 8.7.1931 г. ў Прапойскім, з 12.2.1935 г. ў Доўскім, з 5.4.1935 г. ў Журавіцкім, з 17.12.1956 г. ў Рагачоўскім, з 11.6.1957 г. ў Слаўгарадскім р-нах Магілёўскай акругі (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Гомельскай, з 11.6.1957 г. ў Магілёўскай абласцях. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. ў складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Рэкта), 11 гаспадарак, 28 жыхароў, магазін. Пасёлак пацярпеў ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. У 1964 г. да пасёлка далучана в. Бабы. Планіровачна ўяўляе традыц. драўляныя сял. сядзібы, пастаўленыя па абодва бакі ручая.

**ДУБРАЎКА** — былая вёска ў б. Кульшыцкім с/с, за 22 км на З ад Слаўгарада, 92 км ад Магілёва, 36 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны, на Пн і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз былыя вёскі Ржаўка 1, Ржаўка 2, Васькавічы і далей па шашы Слаўгарад—Доўск. У 1990 г. 36 гаспадарак, 88 жыхароў. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі і адселена.

За 2 км на ПнЗ ад былой вёскі, у лесе, захаваўся курганны могільнік (135 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 17 ст. ў складзе Рэчы Паспалітай. У 1675 г. ў Прапойскім старостве, 2 двары, дзярж. уласнасць. У 1681 г. 9, у 1765 г. 15 двароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1786 г. ўласнасць памешчыка ў Чэрыкаўскім павеце, 23 двары, 187 жыхароў. Побач быў маёнтак, гаспадар якога валодаў у 1868 г. 155 дзес. зямлі. Частка вяскоўцаў займалася адыходным промыслам. У 1897 г. хутар Дубраўка (ён жа Стругілёў, Боркі) налічваў 11 двароў, 84 жыхары, у 1909 г. 7 двароў, 59 жыхароў. Дзейнічала школа граматы. У 1910 г. ў Баханскай вол. Быхаўскага павета, належаў Дубраўскаму сельскаму т-ву. Адносілася да Кульшыцкага праваслаўнага прыхода. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1931 г. арганізаваны калгас «Смерць капіталістам». У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962—65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса імя В.У.Куйбышава (цэнтр — в. Кулікоўка 1). Былі вытв. брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, клуб, магазін. Планіровачна складалася з



2 паралельных вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, забудаваных двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На У ад сялібнай зоны быў гасп. сектар. За 2 км на ПнЗ ад былой вёскі размешчана радовішча пяску і пясчана-жвіровага матэрыялу (3,3 млн. м$^3$), якое распрацоўвалася Белміжкалгасбудам.

**ЖАЛЕЗІНКА** — вёска ў Лапаціцкім с/с, за 26 км на ПнЗ ад Слаўгарада, 57 км ад Магілёва, 39 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Лапацічы і далей па шашы Магілёў—Слаўгарад. 14 гаспадарак, 20 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1786 г. вёска Залезіна, 8 двароў, 59 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць, у Быхаўскім павеце. У 1909 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. Непадалёку ў 1909 г. хутар, 2 двары, 10 жыхароў. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе земскай адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 80 вучняў, дзейнічаў драматычны гурток. Вяскоўцы актыўна адгукнуліся на заклік дапамагчы ў асваенні новых зямель у другіх раёнах краіны. У 1926 г. было створана перасяленчае т-ва «Адраджэнне» з 21 сям'і, якія выехалі ва ўсх. раёны СССР. Пач. школа ў 1930 г. ператворана ў двухкамплектную, для якой у 1931 г. пабудавана памяшканне. У 1931 г. арганізаваны саўгас «Жалезінка», які хутка развіваўся і ў 1933 г. меў 5 трактароў і іншую тэхніку. У 1938 г. створана МТС, якая ў пач. 1941 г. мела 60 трактароў, камбайны, малатарні і іншую тэхніку (рэарганізавана 31.3.1958). Для саўгаса былі пабудаваны 13 жылых дамоў. Адначасова ў сак. 1931 г. арганізаваны калгас імя 8 Сакавіка, які ў год арганізацыі аб'ядноўваў 69 гаспадарак. У 1933 г. адкрыты клуб, дзіцячыя яслі. Непадалёку ад вёскі дзейнічаў смалакурны з-д. У 1939 г. ўзведзены новы будынак для школы. У 1940 г. 143 двары, 580 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. акупанты спалілі 133 двары, разрабавалі МТС, загубілі 96 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1962—65 гг. у Чавускім р-не. У 1990 г. ў складзе саўгаса «Лясная» (цэнтр — в. Лясная), 47 гаспадарак, 81 жыхар. Былі ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ, якую перасякаюць завулкі, і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд — гасп. сектар.

**ЖАРОЛЫ** — былая вёска ў б. Кульшыцкім с/с, за 24 км на ПдЗ ад Слаўгарада, 94 км ад Магілёва, 42 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны. На Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Баброўка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па мясц. дарозе праз былую в. Аржаўка 1, в. Васькавічы і далей па шашы Слаўгарад—Доўск. У 1990 г. 52 гаспадаркі, 149 жыхароў. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі і адселена.

Першае пісьмовае ўпамінанне адносіцца да 1675 г., калі ў вёсцы было 14 двароў, у 1681 г. —13, у 1750 г. — 11, з'яўлялася дзярж. уласнасцю ў Прапойскім старостве Рэчы Паспалітай. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1773 г. 197 жыхароў. У 1777 г. ў Старабыхаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. ў Быхаўскім павеце, 49 двароў, 215 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 50 двароў, 291 жыхар. Частка вяскоўцаў займалася калёсным промыслам. У 1897 г. в. Жарэлы (яна ж Чыст) налічвала 80 двароў, 477 жыхароў, мелііся хлебазапасны магазін (адкрыты не паз-

ней 1882), школа граматы, карчма. У 1907 г. ў школе (нар. вучылішча), адкрытай у вёсцы, навучалася 25 хлопчыкаў. У 1909 г. 90 двароў, меўся млын. У 1910 г. ў Баханскай вол. Быхаўскага павета, належала Жаральскаму сельскаму т-ву; 90 двароў, 549 жыхароў. Адносілася да Кулышыцкага праваслаўнага прыхода. У 1917 г. 115 двароў, 786 жыхароў. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені, для якой у 1918 г. пабудавана памяшканне. 27.6.1920 г. адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1925 г. ў школе было 67 вучняў. У 1926 г. 572 жыхары. У 1931 г. пач. школа стала двухкамплектнай. Тут вучыліся таксама дзеці з суседніх хутароў і пасёлкаў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Гігант». У 1938 г. ў вёску пераселена 12 хутарскіх гаспадарак. У Вял. Айч. вайну са жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што на вясковых могілках, пахаваны 2 сав. воіны, якія загінулі ў 1943 г. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск. У 1962—65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса імя В.У.Куйбышава (цэнтр — былая в. Кулікоўка 1). Былі вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы. Планіроўка была блізкай да прамавугольнай. Да крывалінейнай вуліцы (участак мясц. дарогі) з паўн. боку перпендыкулярна далучаліся 2 прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы, злучаныя на Пн кароткай вуліцай. Была забудавана двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар на Пн.

**ЗАБАЛАЦЦЕ** — вёска ў Гіжэнскім с/с, за 23 км на ПнУ ад Слаўгарада, 93 км ад Магілёва, 23 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Крупка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Гіжэнка, Ходарава і далей па шашы Слаўгарад—Чэрыкаў. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 19 ст. У 1834 г. вёска (23 жыхары) у Чэрыкаўскім павеце, царк. ўласнасць. У 1858 г. 58 рэвізскіх душ, у 1880 г. 27 двароў, 145 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася сталярным і бандарным промысламі. У 1897 г. в. Забалацце (яна ж Галузы) у Даўжанскай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 36 двароў, 258 жыхароў. Непадалёку быў фальварак (1 двор, 6 жыхароў). У 1909 г. 43 двары, 274 жыхары. Належала Забалацкаму сельскаму т-ву. Адносілася да Целяшоўскага праваслаўнага прыхода. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1931 г. арганізаваны калгас «1 Мая». У 1940 г. 31 двор, 114 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1943 г. гітлераўцы спалілі 26 двароў. Пасля вайны адбудавана. У 1962—65 гг. у Чавускім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Ходараў), 20 гаспадарак, 35 жыхароў. Былі вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Планіровачна складаецца з каротай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд.-зах. ускраіне — гасп. сектар.

**ЗАВАД-ВІРАВАЯ** — вёска ў Кабінагорскім с/с, за 4 км на Пн ад Слаўгарада, 74 км ад Магілёва, 36 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ р. Проня (прыток р. Сож), на Пд — ручай, яе прыток. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Слаўгарад, якая праходзіць праз вёску. 37 гаспадарак, 70 жыхароў (2007).



За 2 км на Пн ад вёскі, у лесе, каля абрыву правага берага р. Проня захаваўся курганны могільнік (10 насыпаў), што сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 19 ст. У 1858 г. былі вёскі Завад (110 жыхароў) і Віравая (134 жыхары) у Быхаўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1880 г. ў в. Віравая 57 двароў, 221 жыхар. Частка вяскоўцаў займалася адыходным і рамізніцкім промысламі. У 1897 г. в. Завад-Віравая (80 двароў, 553 жыхары) у Прапойскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. Меліся хлебазапасны магазін (адкрыты не пазней 1882) і заезны дом. У 1909 г. 95 двароў, 632 жыхары. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не БССР, з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. 15.6.1920 г. адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 20.8.1924 г. да 21.10.1924 г. цэнтр сельсавета. У 1925 г. дзейнічаў кааператыў (13 сямей) па перасяленні ў Прыморскі край. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны будзёнавец». У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962—65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — г. Слаўгарад), 125 гаспадарак, 305 жыхароў. Былі вытв. брыгада, фермы птушкагадоўчая і буйной рагатай жывёлы. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. У 2007 г. працаваў магазін. Аснову планіроўкі складае крывалінейная вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі, на У ад якой праходзяць кароткія прамалінейныя і дугападобныя вуліцы, злучаныя паміж сабой дарогай. Забудавана няшчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд.-зах. ускраіне — гасп. сектар.

**ЗАГЛІННАЕ** — вёска ў Гіжэнскім с/с, за 25 км на Пн ад Слаўгарада, 95 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. На У цячэ р. Крупка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Закрупец, Гіжэнка і далей па шашы Слаўгарад—Чэрыкаў. 9 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1777 г. в. Загалінка ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1834 г. 96 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 25 двароў, 110 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася сталярным і бандарным промысламі. У 1897 г. ў Даўжанскай вол. Чэрыкаўскага павета, 36 двароў, 241 жыхар. У 1909 г. 39 двароў, 274 жыхары. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 3.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Каля вёскі ў час акупацыі дыслацыраваліся 19-ы асобны, 48-ы Прапойскі, 2-і асобны партыз. атрады. На вясковых могілках у брацкай і 2 індывідуальных магілах пахаваны 17 сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў 1943 г. У 1984 г. на магілах пастаўлены абеліскі. У 1962—65 гг. у Чавускім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Бярозаўка), 28 гаспадарак, 46 жыхароў. Была ферма буйной рагатай жывёлы. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай традыц. драўлянымі сял. сядзібамі. На Пн — гасп. двор.

**ЗАКРУПЕЦ** — вёска ў Гіжэнскім с/с, за 23 км на Пн ад Слаўгарада, 93 км ад Магілёва, 23 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. На Пн цячэ р. Крупка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Гіжэнка, Ходарава і далей па шашы Слаўгарад—Чэрыкаў. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1783 г. 45 двароў, 262 жыхары. У 1834 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 185 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 44 двары, 216 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася сталярным і бандарным промысламі. У 1824 г. 52 двары, 350 жыхароў, у Даўжанскай вол. Чэрыкаўскага павета. У 1909 г. 59 двароў, 407 жыхароў. Належала Закрупецкаму сельскаму т-ву. Адносілася да Ляцягаўскага праваслаўнага прыхода. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1923 г. 15 вяскоўцаў аб'ядналіся ў меліярацыйнае т-ва. У 1930 г. пач. школа стала двухкамплектнай. У 1931 г. арганізаваны калгас «Спартак». У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 3.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1943 г. некаторы час у вёсцы размяшчаліся партызаны палка Грышына. Гітлераўцы спалілі вёску. За 1—1,5 км на З ад вёскі ў 2 брацкіх і індывідуальнай магілах, а таксама ў брацкай магіле, што на вясковых могілках, пахаваны 205 сав. воінаў і 1 партызанка, якія загінулі ў 1943 г. У 1962—65 гг. у Чавускім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Ходараў), 29 гаспадарак, 45 жыхароў. Былі вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. У 2007 г. працаваў магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, якая на У раздвойваецца. Забудавана двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд — гасп. сектар.


*М.В.Атрохаў.*

У вёсцы нарадзіўся Герой Сац. Працы М.В.Атрохаў (нар. ў 1928).

**ЗАПАЛЯННЕ** — былая вёска ў б. Кульшыцкім с/с, за 24 км на З ад Слаўгарада, 94 км ад Магілёва, 40 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Слаўгарад—Ніканавічы, якая праходзіць праз вёску. У 1990 г. 19 гаспадарак, 35 жыхароў. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі і адселена.

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 19 ст. У 1897 г. хутар Запалянь (ён жа Заполле) у Прапойскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 18 двароў, 134 жыхары. У 1909 г. 17 двароў, 153 жыхары, у 1917 г. 189 жыхароў. Адносілася да Кульшыцкага праваслаўнага прыхода. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. 25.11.1925 г. 7 вяскоўцаў аб'ядналіся ў меліярацыйнае т-ва. У 1926 г. 169 жыхароў, 4-класная школа. У 1931 г. арганізаваны калгас «Сталінскі заклік». Вясковая школа ў 1931 г. ператворана ў двухкамплектную. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На вясковых могілках пахаваны сав. воін, які загінуў у 1943 г. Ураджэнец вёскі капітан У.В.Шаблоўскі быў адным з кіраўнікоў абароны Брэсцкай крэпасці ў чэрв. 1941 г. У 1962—65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса імя А.А.Жданава (цэнтр — былая в. Кульшычы). Планіроўка Т-падобная. Да прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі (адрэзак шашы) далучаецца з Пд кароткая крывалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн.-зах. ускраіне быў гасп. сектар.

**ЗАЦІШША** — вёска ў Свенскім с/с, за 34 км на ПдЗ ад Слаўгарада, 104 км ад Магілёва, 37 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ ручай (прыток р. Бяброўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Вял. Зімніца, Малая Зімніца і далей па шашы Слаўгарад—Доўск. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў (2007).



Вядома па пісьмовых крыніцах з пач. 20 ст. У 1909 г. пасёлак (1 двор, 12 жыхароў) у Баханскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. Адносілася да Журавіцкага рымска-каталіцкага прыхода. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Журавіцкім р-не БССР, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім, з 12.2. 1935 г. ў Доўскім, з 5.4.1935 г. ў Журавіцкім, з 17.12.1956 г. ў Быхаўскім, з 31.3.1958 г. ў Слаўгарадскім р-нах Магілёўскай акругі (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Гомельскай, з 17.12.1956 г. ў Магілёўскай абласцях. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. ў складзе калгаса «Наперад» (цэнтр — в. Вялікая Зімніца), 19 гаспадарак, 47 жыхароў. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗЯЛЁНАЯ РОШЧА** — вёска ў Свенскім с/с, за 31 км на ПдЗ ад Слаўгарада, 101 км ад Магілёва, 38 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вял. Зімніца і далей па шашы Слаўгарад—Доўск. 10 гаспадарак, 19 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 1924 г. ў Журавіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім, з 12.2.1935 г. ў Доўскім, з 5.4.1935 г. ў Журавіцкім, з 17.12.1956 г. ў Быхаўскім, з 31.3.1958 г. ў Слаўгарадскім р-нах Магілёўскай акругі (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Гомельскай, з 17.12.1956 г. ў Магілёўскай абласцях. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. ў складзе калгаса «Наперад» (цэнтр — в. Вялікая Зімніца), 34 гаспадаркі, 101 жыхар. Былі ферма буйной рагатай жывёлы, пач. школа. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Планіровачна складаецца з 2 паралельных вуліц амаль шыротнай арыентацыі, злучаных завулкамі. Паўн. вуліца забудавана двухбакова, паўд. — аднабакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ІВАНІШЧАВІЧЫ** — вёска ў Лапаціцкім с/с, за 21 км на ПнЗ ад Слаўгарада, 50 км ад Магілёва, 41 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пн, У і Пд мяжуе з лесам. На У цячэ р. Хоцінка (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Слаўгарад. 23 гаспадаркі, 32 жыхары (2007).

На паўдн.-зах. ускраіне вёскі, на левым беразе р. Хоценка захаваўся курганны могільнік (8 насыпаў), за 0,5 км на ПнЗ ад вёскі, у лесе — стараж. курган. Гэтыя помнікі археалогіі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай старажытнасці. Паводле рукапісных крыніц вядома з 1555 г. як сяло ў Прапойскай вол. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1783 г. ўласнасць тытулярнага саветніка Г.С.Ляшнеўскага, 424 жыхары. У 1847 г. 22 двары, 124 жыхары, цэнтр маёнтка, уласнасць памешчыка, які ў 1853 г. меў 9806 дзес. зямлі, млын і карчму. У 1858 г. функцыяніраваў заезны дом на 2085 кв. сажняў. З 1865 г. дзейнічала гарбарня. У 1880 г. 53 двары, 322 жыхары, хлебазапасны магазін. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім промыслам. У 1897 г. ў Даўгамохскай вол. Быхаўскага павета, 77 двароў, 568 жыхароў, меліся школа граматы і хлебазапасны магазін. У фальварку былі 1 двор, 20 жыхароў, млын і лесапільня. У 1903 г. школа граматыператворана ў земскую школу (нар. вучылішча), для якой у 1914 г. пабудавана памяшканне. У 1909 г. 108 двароў, 660 жыхароў. Дзейнічала сукнавальня. Адносілася да Боўкаўскага праваслаўнага прыхода. У кастр. 1916 г. вяскоўцы разграмілі памешчыцкі маёнтак. З 1919 г. ў Быхаўскім

павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. На базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 94 вучні, дзейнічалі драматычны і харавы гурткі. У 1926 г. дзейнічала 4-класная школа; 2172 чал. У 1930 г. вясковая школа стала двухкамплектнай. У 1931 г. арганізаваны калгас «Маяк». У пач. 1930-х г. пач. школа ператворана ў 7-гадовую. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што на вясковых могілках, пахаваны 358 сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. У 1990 г. ў складзе племсаўгаса «Жалезінскі» (цэнтр — в. Лапацічы), 80 гаспадарак, 137 жыхароў. Былі вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, 8-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Аснову планіровачнай структуры складаюць 2 крывалінейныя вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі. Да іх пад рознымі вугламі з З і У падыходзяць другарадныя вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАБІНА ГАРА** — вёска ў Кабінагорскім с/с, за 4 км на ПнЗ ад Слаўгарада, 74 км ад Магілёва, 44 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Слаўгарад—Ніканавічы, якая праходзіць паблізу вёскі. 71 гаспадарка, 148 жыхароў (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 1897 г. як ферма (1 двор, 5 жыхароў) у Прапойскай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. Тут, на былых памешчыцкіх землях сяліліся выхадцы з суседніх вёсак. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962—65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — г. Слаўгарад), 156 гаспадарак, 478 жыхароў. Былі вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы, ёсць пач. школа, дзіцячы сад-яслі, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, б-ка, магазін. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Схема планіроўкі і забудовы распрацавана ў 1970 г. Магілёўскім філіялам ін-та «Белкалгаспраект». Планіровачная структура складаецца з 4 паралельных вуліц мерыдыянальнай арыентацыі і злучаных мясц. дарогай. Забудавана шчыльна, двухбакова, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры сярод жылой забудовы — грамадскія будынкі, на Пн — гасп. сектар.

Каля паўд. ускраіны вёскі размешчана радовішча даламіту (разведаныя запасы 494 тыс. т), якое распрацоўваецца мясц. будаўнічымі арг-цыямі.

**КАЗАКОЎКА** — вёска ў Кабінагорскім с/с, за 17 км на Пд ад Слаўгарада, 87 км ад Магілёва, 57 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Старая Каменка, Дубна, былую в. Кліны і далей па шашы Слаўгарад—Доўск. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2007).

У 1858 г. вёска ў Наваельненскай вол. Чэрыкаўкага павета Магілёўскай губ., 13 двароў, 98 жыхароў, уласнасць памешчыка. Меўся заезны дом. У 1897 г. 19 двароў, дзейнічала школа граматы. У 1909 г. 27 двароў, 257 жыхароў. Належала Крыўліцкаму сельскаму т-ву. Адносілася да Папараткаўскага праваслаўнага прыхода. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.



1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 2.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 6 сав. воінаў, якія загінулі ў 1941 г. У 1962—65 гг. у Краснапольскім р-не. У 1990 г. ў складзе саўгаса «Памяць Фрунзе» (цэнтр — былая в. Старынка), 28 гаспадарак, 72 жыхары. Былі ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАШАЛЁЎ** — былая вёска ў Лапаціцкім с/с, за 10 км на ПнЗ ад Слаўгарада, 65 км ад Магілёва, 37 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Лясная і далей па шашы Магілёў—Слаўгарад. У 1990 г. 21 гаспадарка, 37 жыхароў. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі і адселена.

Вядома з пач. 20 ст. У 1920 г. 29 гаспадарак, 158 жыхароў, 110 дзес. ворыўнай зямлі. З 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. 20.6.1920 г. адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1931 г. арганізаваны калгас імя В.І.Чапаева. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962—65 гг. у Чавускім р-не. У 1990 г. ў складзе саўгаса «Лясная» (цэнтр — в. Лясная). Планіровачна складалася з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КЛІНЫ** — былая вёска ў б. Каменкаўскім с/с, за 8 км на Пд ад Слаўгарада, 78 км ад Магілёва, 48 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пд і З мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Галуба), на З цячэ р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слаўгарад—Доўск. У 1990 г. 27 гаспадарак, 44 жыхары. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі і адселена.

Засн. ў сярэдзіне 18 ст. У 1765 г. 3 двары, у якіх у той час ніхто не жыў, была дзярж. уласнасцю. У 1769 г. ў Прапойскім старостве Рэчы Паспалітай, 7 двароў, 10 жыхароў, мелася карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1786 г. ў 6 дварах было 27 чал., з'яўлялася памешчыцкай уласнасцю, у Чэрыкаўскім павеце. У 1835 г. ў метрыцы Прапойскай царквы значыцца як уласнасць Бенкендорфа. У 1858 г. в. Слабада Сіняя (115 жыхароў) у Старынкаўскай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ. Меліся млын, карчма. Побач быў маёнтак, гаспадар якога ў 1871 г. меў 6136 дзес. зямлі і вадзяны млын. У 1880 г. 17 двароў, 184 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася бандарным і кравецкім промысламі. У 1884 г. 22 двары, 71 жыхар. У 1897 г. ў вёсцы 22 двары, 163 жыхары, раз у год праводзіўся кірмаш, у сядзібе 1 двор, 6 жыхароў, млын, сукнавальня. У 1909 г. колькасць жыхароў у вёсцы павялічылася да 195. Належала Клінаўскаму сельс-



*Гідралагічны помнік прыроды рэспубліканскага значэння Блакітная крыніца каля былой в. Кліны.*

каму т-ву. Адносілася да Прапойскага праваслаўнага прыхода. У 1918 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, для якой у 1919 г. пабудавана памяшканне. У 1925 г. ў школе было 40 вучняў, дзейнічалі харавы і драматычны гурткі. У 1932 г. пач. школа стала двухкамплектнай. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 47 двароў, 236 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 3.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1943 г. гітлераўцы спалілі 39 двароў, загубілі 4 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У брацкай магіле, што на вясковых могілках, пахаваны 7 сав. воінаў, якія загінулі ў 1941 г. У 1962—65 гг. у Краснапольскім р-не. У 1990 г. ў складзе саўгаса «Памяць Фрунзе» (цэнтр — былая в. Старынка). Былі ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. Планіровачна складалася з крывалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай з двух бакоў традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

*Былая в. Крамянка.*





**КРАМЯНКА** — вёска ў Кабінагорскім с/с, за 5 км на У ад Слаўгарада, 75 км ад Магілёва, 45 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, вакол лес. На паўн. ускраіне цячэ р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слаўгарад—Доўск. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 19 ст. У 1858 г. в. Сідараўка (208 жыхароў) у Старынкаўскай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., уласнасць памешчыка. Меўся заезны дом. У 1871 г. памешчык меў ва ўрочышчы Кліны (зараз Чэрыкаўскі р-н) і ў в. Крамянка 6136 дзес. зямлі і вадзяны млын, у 1879 г. ва ўрочышчы паблізу вёскі — 167 дзес. зямлі. У 1880 г. 40 двароў, 312 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася бандарным промыслам. У 1897 г. 75 двароў, 462 жыхары, дзейнічала школа граматы, якая ў 1910 г. ператворана ў земскую. У 1909 г. колькасць двароў павялічылася да 79, жыхароў — да 616. Належала Крамянскаму сельскаму т-ву. Адносілася да Прапойскага праваслаўнага прыхода. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. была створана прац. школа 1-й ступені, для якой сяляне пабудавалі ў 1919 г. памяшканне з былога памешчыцкага дома. Школа мела 3,5 дзес. зямлі, у ёй у 1925 г. было 60 вучняў, дзейнічаў літ.-драматычны гурток. У 1930 г. пач. школа стала двухкамплектнай. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн.



1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962—65 гг. у Краснапольскім р-не. У 1990 г. ў складзе саўгаса «Памяць Фрунзе» (цэнтр — былая в. Старынка), 102 гаспадаркі, 232 жыхары. Былі пач. школа, б-ка, магазін, клуб. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Планіровачна складаецца з блізкай да прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, да якой з У падыходзяць 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы.

Радзіма доктара біялагічных навук, праф. А.А.Сёмкіна (нар. ў 1929). На паўд.-ўсх. ускраіне размешчана радовішча будаўнічых пяскоў (разведаныя запасы 4,73 млн. м$^3$).

**КРАСНЫ АКЦЯБР** — вёска ў Гіжэнскім с/с, за 20 км на ПнУ ад Слаўгарада, 90 км ад Магілёва, 23 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ПдЗ цячэ р. Трослiўка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Гіжэнка, Ходараў і далей па шашы Слаўгарад—Чэрыкаў. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я гг. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 3.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. ў складзе калгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Ходараў), 23 гаспадаркі, 76 жыхароў. Размяшчалася вытв. паляводчая брыгада. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Планіроўка Г-падобная. Гал. вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. На Пн перпендыкулярна да яе падыходзіць кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КРАСНЫ ВАСХОД** (да 30.7.1964 г. Шаламы 1) — былая вёска ў Васькавіцкім с/с, цэнтр б. калгаса «XVII партз'езд», за 7 км на З ад Слаўгарада, 77 км ад Магілёва, 49 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны. На ПдУ цячэ ручай (прыток р. Пясчанка). Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па мясц. дарозе праз в. Шаламы і далей па шашы Слаўгарад—Ніканавічы. У 1990 г. 141 гаспадарка, 360 жыхароў. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі.

Засн. ў 1939 г., калі пераселеныя з навакольных хутароў сядзібы ўтварылі на Пн ад в. Шаламы новую вёску — Шаламы 1 (Новыя Шаламы). У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахавана 215 сав. воінаў, якія загінулі ў баях супраць гітлераўцаў. У памяць аб 164 земляках з вёсак калгаса «XVII партз'езд», якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у 1977 г. каля клуба пастаўлены абеліск.



*А.А.Сёмкін.*

У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, млын, лесапільня, цэх па прыгатаванні вітаміннай мукі, 8-гадовая школа, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі, аддз. ашчаднага банка. Аснову планіровачнай структуры складалі 2 паралельныя паміж сабой вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, злучаныя мясц. дарогай. На ПдУ ад іх, уздоўж ручая, ішла яшчэ адна вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц., пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размяшчаліся сярод жылой забудовы, на Пн знаходзіўся вытв. сектар.

**КУЛІКОЎКА 1** — былая вёска ў б. Кульшыцкім с/с, была цэнтрам калгаса імя В.У.Куйбышава, за 25 км на З ад Слаўгарада, 95 км ад Магілёва, 38 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны. На У праходзяць мелія-

рацыйныя каналы, злучаныя з р. Баброўка. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Баброўка), на якім утвораны штучны вадаём. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз былую в. Кулікоўка 2 і далей па шашы Слаўгарад—Ніканавічы. У 1990 г. 107 гаспадарак, 259 жыхароў. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі і адселена.

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1768 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв. Рэчы Паспалітай, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 33 двары, 341 жыхар. У 1858 г. ў Быхаўскім павеце Магілёўскай губ., уласнасць памешчыка. Непадалёку быў маёнтак. Частка вяскоўцаў займалася калёсным, кавальскім і кравецкім промысламі. У 1897 г. ў Баханскай вол. Быхаўскага павета, 38 двароў, 287 жыхароў. У 1909 г. 41 двор, 209 жыхароў. Меліся карчма, заезны дом, школа граматы, якая ў 1911 г. ператворана ў земскую, размяшчалася ў наёмным памяшканні. Належала Кулікоўскаму 1-му сельскаму т-ву. Адносілася да Баханскага праваслаўнага прыхода. У 1917 г. 373 жыхары. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 56 вучняў. У 1928 г. пач. школа стала двухкамплектнай, а ў 1934 г. трохкамплектнай. У 1930 г. арганізаваны калгас «Аграном». У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 26.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 20 сав. воінаў, якія загінулі ў 1943 г. 137 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. На ўшанаванне іх памяці ў 1976 г. ў цэнтры вёскі пастаўлена стэла. У 1962—65 гг. у Быхаўскім р-не. У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, лесапільня, 8-гадовая школа, дзіцячы сад-яслі, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. сувязі, аддз. ашчаднага банка. Праект планіроўкі і забудовы быў распрацаваны ў 1965 г. Бел. н.-д. і праектным ін-там па будаўніцтве ў вёсцы. Планіровачная структура прамавугольная. Аснову планіроўкі складалі 2 прамалінейныя вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, якія на Пн перакрыжоўваліся 2 прамалінейнымі вуліцамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На З была новая вуліца, якая забудоўвалася муraванымі жылымі двух- і чатырохкватэрнымі дамамі з кватэрамі ў 2 узроўнях. Каля вадаёму быў адм.-грамадскі цэнтр. Вытв. сектар знаходзіўся на паўд. і паўн. ускраінах.

**КУЛІКОЎКА 2** — былая вёска ў б. Кульшыцкім с/с, за 27 км на З ад Слаўгарада, 97 км ад Магілёва, 36 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны. На У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з ручаём (прыток р. Ухлясць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слаўгарад—Ніканавічы. У 1990 г. 87 гаспадарак, 221 жыхар. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі і адселена.

За 0,5 км на ПдЗ ад вёскі захаваўся курганны могільнік (20 насыпаў), што сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 19 ст. У 1873 г. 173 жыхары. У 1897 г. ў Баханскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 43 двары, 268 жыхароў. Меліся хлебазапасны магазін (адкрыты не пазней 1882), школа граматы, карчма. У 1909 г. 52 двары, 384 жыхары; належала Кулікоўскаму 2-му сельскаму т-ву. У 1917 г. 57 двароў, 390 жыхароў. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі)



р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1920 г. пачала дзейнічаць майстэрня па рамонце с.-г. інвентару. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што на могілках, пахаваны 11 сав. воінаў, якія загінулі ў 1943—44 гг., побач пастаўлена стэла на ўшанаванне памяці 178 землякоў, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. У 1962—65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса імя А.А.Жданава (цэнтр — в. Кульшычы). Былі вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, пач. школа, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, б-ка, магазін. Планіровачна складалася з 2 паралельных вуліц амаль мерыдыянальнай арыентацыі, да якіх на Пн далучалася прамалінейная вуліца шыротнай арыентацыі. Была забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры сярод жылой забудовы былі грамадскія будынкі. На ПдЗ знаходзіўся гасп. сектар.

**КУЛЬШЫЧЫ** — вёска ў Васькавіцкім с/с, былы цэнтр Кульшыцкага с/с (з 20.8.1924) і б. калгаса імя А.А.Жданава, за 18 км на З ад Слаўгарада, 88 км ад Магілёва, 43 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. За 2 км на ПдУ ад вёскі знаходзіцца найвышэйшы пункт раёна (189,7 м). Транспартныя сувязі па шашы Ніканавічы—Слаўгарад, якая праходзіць праз вёску. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 17 ст. У 1684 г. сяло Кульшыцы ў Прапойскай вол. Рэчыцкага павета Рэчы Паспалітай, дзярж. ўласнасць. У 1687 г. ўласнасць памешчыка. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. в. Кулшыцы ў Старабыхаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1799 г. 37 двароў, 303 жыхары. У 1858 г. сяло (116 жыхароў мужчынскага полу) у Прапойскай вол. Быхаўскага павета. У 1861 г. пабудавана драўляная царква Раства Багародзіцы. Побач быў маёнтак, гаспадары якога Ляснеўскія ў 1864 г. валодалі 851,5 дзес. зямлі. У 1880 г. 75 двароў, 300 жыхароў. Частка сяльчан займалася кавальскім, адыходным і іншымі промысламі. У 1884 г. адкрыта школа граматы, у 1886 г. 56 двароў, 409 жыхароў, ветраны млын. У 1897 г. 107 двароў, 734 жыхары, меліся 2 хлебазапасныя магазіны (адкрыты не пазней 1882), піцейны дом. У фальварку Кульшычы (ён жа Люцын) быў 1 двор, 12 жыхароў. У 1909 г. ў сяле 127 двароў, 874 жыхары, меліся школа (нар. вучылішча), млын, царква, у фальварку 1 двор, 7 жыхароў, у 1910 г. належала Кульшыцкаму с.-г. т-ву, было царк.-прыходскае вучылішча, з 1911 г. — чатырохкласнае. У 1917 г. ў сяле 111 двароў, 887 жыхароў. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, для якой быў выдзелены нацыяналізаваны будынак (у 1925 г. 87 вучняў). У 1932 г. пач. школа стала трохкамплектнай, а ў 1934 г. — чатырохкамплектнай. У 1924 г. 33 вяскоўцы аб'ядналіся ў меліярацыйнае т-ва. Вяскоўцы актыўна дапамагалі другім раёнам краіны ў асваенні новых зямель. У 1925 г. было створана перасяленчае с.-г. т-ва «Араты» з 6 сямей, якія выехалі ў Краснаярскі край. Другое т-ва з 16 сямей перасялілася ў Томскую вобл. У 1926 г. 675 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай і 2 індывідуальных магілах, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 282 сав. воіны, якія загінулі ў 1943—44 гг. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 178 вяскоўцаў, на ўшанаванне якіх у цэнтры вёскі ў 1968 г. ўзведзена Сцяна Памяці. У 1962—65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1990 г. 147 гаспадарак, 406 жыхароў. У вёсцы былі размешчаны вытв. брыгада і

ферма буйной рагатай жывёлы, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, лесапільня, устаноўка па вырабе вітамінная мукі, ветэрынарны ўчастак, зернедрабільня, сярэдняя школа, б-ка, дзіцячы сад-яслі, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, грамадская лазня, магазін, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. сувязі, ашчаднага банка. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Праект планіроўкі і забудовы быў распрацаваны ў 1983 г. Магілёўскім філіялам ін-та «Белкалгаспраект». Аснову планіровачнай структуры складалі 4 паралельныя вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі, узведзена некалькі адна- і двухкватэрных мураваных жылых дамоў.

Радзіма бел. этнографа І.А.Сербава (1871—1943) і аднаго з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. ў Вял. Айч. вайну Я.Н.Барускова (1904—71).

У склад сельсавета ўваходзілі 13 вёсак. У канцы 1930-х г. на тэр. Кульшыцкага с/с былі в. Урэчча і пасёлкі Крыніца, Ленінскі, Бароўка, Кузаў, Арэхаўка, Забалацце, якія зараз не існуюць.

**КУРГАНАЎКА** — вёска ў Кабінагорскім с/с, за 3 км на ПдЗ ад Слаўгарада, 73 км ад Магілёва, 43 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Слаўгарад—Доўск, якая праходзіць праз вёску. 51 гаспадарка, 124 жыхары (2007).

Засн. ў канцы 1920-х г. перасяленцамі з Прапойска. Уваходзіла ў Прапойскі (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-н Магілёўскай акругі (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 15 сав. воінаў, якія загінулі ў 1943 г. У 1962—65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Слаўгарад), 56 гаспадарак, 183 жыхары, магазін. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ перпендыкулярна да шашы. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КУРГАННЕ** — былая вёска ў б. Кульшыцкім с/с, за 12 км на З ад Слаўгарада, 82 км ад Магілёва, 48 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. На Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Пясчанка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Слаўгарад—Ніканавічы, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. У 1990 г. 15 гаспадарак, 24 жыхары. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі.

У 1897 г. хутар Курган (ён жа Крынічкі) у Прапойскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 5 двароў, 47 жыхароў. У 1909 г. 8 двароў, 36 жыхароў. Належала Курганскаму 7-дворнаму т-ву. Адносілася да Кульшыцкага праваслаўнага прыхода. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У ліст. 1929 г. арганізаваны калгас «Запаветы Ільіча». У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962—65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса імя А.А.Жданава (цэнтр — в. Кульшычы). Планіровачна складалася з крывалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЛАПАЦІЧЫ** — вёска, цэнтр Лапаціцкага с/с (з 20.8.1924), за 18 км на ПнЗ ад Слаўгарада, 52 км ад Магілёва, 32 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ПнЗ цячэ р. Раста



(прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Слаўгарад, якая праходзіць праз вёску. 173 гаспадаркі, 424 жыхары (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 18 ст. У 1777 г. вёска Лапаціна ў Старабыхаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1799 г. 29 двароў, 201 жыхар. Непадалёку быў маёнтак, гаспадар якога ў 1881 г. меў 377 дзес. зямлі, вадзяны млын і карчму. У 1858 г. сяло (105 жыхароў мужчынскага полу) у Быхаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1873 г. 219 жыхароў. У 1880 г. 35 двароў, 235 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася рамізніцкім, адыходным і кавальскім промысламі. У 1897 г. сяло, 53 двары, 345 жыхароў, хлебазапасны магазін, адкрыты не пазней 1882 г., школа граматы, аднайменныя фальварак (1 двор, 8 жыхароў) і сядзіба (1 двор, 6 жыхароў, заезны дом). Дзейнічала лесапільня. У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама. У 1907 г. школа граматы ператворана ў земскую, у якой навучаліся 53 хлопчыкі і 7 дзяўчынак. У 1909 г. ў сяле 58 двароў, 413 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 2 жыхары. У 1910 г. ў Даўгамохскай вол. Быхаўскага павета. Адносілася да Рабавіцкага праваслаўнага прыхода. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 60 вучняў. Апрача дзяцей з в. Лапацічы тут вучыліся дзеці з вёсак Узгорск, Казакова, Пацяраеўка. У 1931 г. пач. школа стала двухкамплектнай. У пач. 1930-х г. арганізаваны калгас, потым пабудавана электрастанцыя, якая дала электраэнергію 4 калгасам. У 1939 г. адкрыты бальніца, магазін. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 510 сав. воінаў. Побач у 1959 г. пастаўлены 2 стэлы з імёнамі 305 жыхароў вёсак Лапаціцкага с/с, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. У 1962—65 гг. у Чавускім р-не. У 1990 г. цэнтр племсаўгаса «Жалезінскі», 159 гаспадарак, 392 жыхары. У вёсцы была размешчана вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, лесапільня, устаноўка па вырабе вітаміннай мукі, ветэрынарны ўчастак. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. У 2007 г. агульнаадукац. школа (17 настаўнікаў), дзіцячы сад-яслі, Дом культуры, стацыянарная кінаўстаноўка, б-ка аграгарадка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, грамадская лазня, аддз. сувязі, лясніцтва, сталовая, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. ашчаднага банка. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1983 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Гал. вуліца (адрэзак шашы) арыентавана з ПнЗ на ПдУ. Ад яе на Пд адыходзяць 3 прама-



*Жылы дом у аграгарадку Лапацічы.*



*Дом культуры ў аграгарадку Лапацічы.*





лінейныя паралельныя вуліцы, на Пн — крывалінейная вуліца з завулкамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На гал. вуліцы, уздоўж шашы склаўся грамадскі цэнтр. Новая вуліца, якая арыентавана паралельна да шашы, забудоўваецца тыпавымі мураванымі жылымі дамамі. На Пн — гасп. сектар, на Пд — лесагадавальнік.



*А.П.Старавойтаў.*

У склад сельсавета ўваходзяць 14 вёсак. У канцы 1930-х г. на тэр. сучаснага Лапаціцкага с/с былі вёскі Зазоўшчына і Хоцішча, пасёлкі Забор'е, Халяўка, Шацкоўшчына, Масцішчаў, Клецішча, Крывулі, Клеткі, якія зараз не існуюць.

**ЛЕБЯДЗЁЎКА** — вёска ў Свенскім с/с, за 13 км на ПдЗ ад Слаўгарада, 83 км ад Магілёва, 53 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. На Пн цячэ р. Пацэя (прыток р. Касалянка). На ПнУ — штучны вадаём з рыбнай гаспадаркай. Транспартныя сувязі па шашы Слаўгарад—Доўск, якая праходзіць каля вёскі. 21 гаспадарка, 54 жыхары (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 1800 г. як в. Крывая Слабада. У 1858 г. 74 жыхары мужчынскага полу, у складзе маёнтка Свенцкполь Быхаўскага павета Магілёўскай губ. У 1880 г. 31 двор, 205 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. в. Лебядзёўка (яна ж Крывая, Крывая Слабада) налічвала 45 двароў, 301 жыхара. Меліся хлебазапасны магазін, школа граматы. У 1909 г. 37 двароў, 354 жыхары. Належала Лебядзёўскаму сельскаму т-ву. Адносілася да Гайшынскага праваслаўнага прыхода. У 1914 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1917 г. 396 жыхароў. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 60 вучняў, у іх ліку 12 піянераў. 20.6.1920 г. адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1920 г. 57 двароў, 384 жыхары. У 1931 г. школа стала двухкамплектнай. У 1931 г. арганізаваны калгас «Пралетарый». У 1939 г. ў выніку перасялення з хутароў 57 гаспадарак узніклі 2 новыя вуліцы. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што на паўд. ускраіне вёскі, пахаваны 13 сав. воінаў, якія загінулі ў 1943 г. У 1962—65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Свенск), 54 гаспадаркі, 123 жыхары. Была ферма буйной рагатай жывёлы, якую ўзначальваў кавалер ордэнаў Леніна і Прац. Чырвонага Сцяга У.Ф.Марушэнка. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. У 2007 г. магазін, грамадская лазня. Аснову планіроўкі складаюць 3 паралельныя паміж сабой прамалінейныя вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, злучаныя вуліцай, якая на ўсх. ускраіне паварочвае да шашы. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма Героя Сац. Працы, заслуж. будаўніка БССР, брыгадзіра комплекснай брыгады будтрэста № 12 у г. Магілёў А.П.Старавойтава (нар. ў 1939).

**ЛІПНІК** — былы пасёлак у Свенскім с/с, за 29 км на ПдЗ ад Слаўгарада, 99 км



*Будынак лясніцтва ў аграгарадку Лапацічы.*



ад Магілёва, 50 км ад чыг. ст. Рагачоў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Слаўгарад—Доўск, якая праходзіла паблізу вёскі. У 1990 г. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў. Пасёлак пацярпеў ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі і адселены.

Засн. ў пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Журавіцкім, з 8.7.1931 г. ў Прапойскім, з 12.2.1935 г. ў Доўскім, з 5.4.1935 г. ў Журавіцкім, з 17.12.1956 г. ў Рагачоўскім, з 11.6.1957 г. ў Слаўгарадскім р-нах Магілёўскай акругі (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Гомельскай, з 17.12.1956 г. ў Магілёўскай абласцях. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што ў цэнтры пасёлка, пахаваны 8 сав. воінаў, якія загінулі ў 1943 г. У 1990 г. ў складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Рэкта). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены ўздоўж кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ.

**ЛЮБАНЫ** — вёска ў Гіжэнскім с/с, за 28 км на ПнУ ад Слаўгарада, 98 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на З і У мяжуе з лесам. На Пд цячэ ручай (прыток р. Крупка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Целяшы, Гіжэнка, Ходараў і далей па шашы Слаўгарад—Чэрыкаў. 42 гаспадаркі, 83 жыхары (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 1555 г. як сяло Любанавічы ў Прапойскай вол. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1571 г. разам з сёламі Целяшы, Гіжэня і Трсліўка аддадзены Чавускаму кармеліцкаму кляштару. У 1604 г. ў Магілёўскім старостве, дзярж. ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1783 г. 33 двары. У 1797 г. 81 жыхар мужчынскага полу. У 1805 г. ў складзе маёнтка Гарадзец, 110 жыхароў мужчынскага полу. У 1811 г. 36 двароў, 129 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць царквы. У 1818 г. меліся карчма, вадзяны млын. У 1848 г. в. Любань, 34 двары, 255 жыхароў, у 1897 г. 90 двароў, 613 жыхароў, у 1909 г. 107 двароў, 726 жыхароў. У 1910 г. ў Лабанаўскай вобл. Чэрыкаўскага павета, належала Лабанаўскаму сельскаму т-ву. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1925 г. ў вясковай школе было 65 вучняў, дзейнічаў драматычны гурток. У 1930 г. для школы, якая стала двухкамплектнай, пабудавана новае памяшканне. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 114 двароў, 294 жыхары. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 3.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1943 г. акупанты спалілі 102 двары. Пасля вайны адбудавана. На могілках, што на паўд. і паўд.-ўсх. ускраіне, а таксама ў 7 індывідуальных магілах на вясковых могілках, пахаваны 333 сав. воіны, якія загінулі ў 1941 і 1943 гг. У 1962—65 гг. у Чавускім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса «Рассвет» (цэнтр — в. Целяшы), 69 жыхароў, 142 жыхары. Былі вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. У 2007 г. працаваў магазін. Аснову планіровачнай структуры складаюць 2 паралельныя мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы з завулкамі. Забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі. На Пн гасп. сектар, на У — калгасны сад.

**ЛЮДКОЎ** (да 1928 г. Перадзел) — былая вёска ў Васькавіцкім с/с, за 10 км на ПдЗ ад Слаўгарада, 80 км ад Магілёва, 50 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны, на Пд і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слаўгарад—Доўск. У 1990 г. 13 гаспадарак, 16 жыхароў. Вёска пацярпела ад катастрофы на

Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі і адселена.

Вядома з пач. 20 ст. У 1909 г. вёска (23 двары, 194 жыхары) у Прапойскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. Належала Людкоўскаму сельскаму т-ву. У 1917 г. 217 жыхароў. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1920 г. 40 двароў, 194 жыхары, 136,9 дзес. ворыўнай зямлі. 17.6.1920 г. адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1930 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава. У Вял. Айч. вайну са жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962—65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Гайшын). Была ферма па адкорме буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складалася з крывалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне знаходзіўся гасп. сектар.


*І.Я.Марчанка.*

Радзіма чл.-кар. НАН Беларусі, доктара гіст. навук праф. І.Я.Марчанкі (1923—97).

**ЛЯСНАЯ** — вёска ў Лапаціцкім с/с, цэнтр б. саўгаса «Лясная», за 19 км на ПнЗ ад Слаўгарада, 53 км ад Магілёва, 36 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пд і З мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Слаўгарад, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 133 гаспадаркі, 317 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з пач. 18 ст. У час Паўн. вайны 1700—21 рус. войскі 28.9(9.10).1708 г. разбілі пры Лясной корпус шведскага ген. А.Левенгаўпта. Гэту бітву Пётр І назваў «маці Палтаўскай баталіі». У гонар перамогі былі адчаканены вял. і малыя медалі, а на полі бою пабудавана царква, якая існавала да 1748 г. На вясковых могілках пахавана каля 1000 рус. воінаў, якія загінулі ў гэтай бітве. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. в. Лясное ў Старабыхаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1783 г. 30 двароў, 171 жыхар. У 1799 г. 36 двароў, 169 жыхароў, валоданне М.В.Галынскага. У 1858 г. ў Быхаўскім павеце, 84 жыхары мужчынскага полу, уласнасць памешчыка, меўся заезны дом. У 1880 г. 41 двор, 175 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася сталярным промыслам. У 1897 г. ў Прапойскай вол. Быхаўскага павета, 52 двары, 331 жыхар. Меўся хлебазапасны магазін (адкрыты не пазней 1882). У 1909 г. 61 двор, 403 жыхары, дзейнічалі царк.-прыходская школа (вучылішча), царква. У 1917 г. 78 двароў, 516 жыхароў. У 1918


*Пачатковая школа ў аграгарадку Лясная.*



г. працавала трохкласнае вучылішча. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. Дзейнічала пач. школа, якая ў 1930 г. стала двухкамплектнай. Тут навучаліся дзеці і з суседніх вёсак. 20.6.1920 г. адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1930 г. арганізаваны калгас «Клім Варашылаў». У 1940 г. 78 двароў, 326 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў кастр. 1943 г. спалілі 62 двары, загубілі 82 жыхары. Каля вёскі ў 1943 г. партызаны вялі цяжкія баі з рэгулярнымі часцямі 9-й ням. арміі. На вясковых могілках у брацкай магіле пахаваны 798 сав. воінаў, якія загінулі ў 1943 г. У 1962—65 гг. у Чавускім р-не. У 1990 г. 143 гаспадаркі, 369 жыхароў, цэнтр саўгаса «Лясная». У 1997 г. 143 гаспадаркі, 408 жыхароў, у 1999 г. 147 гаспадарак, 381





*Помнікі архітэктуры (пач. 20 ст.): мануменг з мемарыяльнай дошкай (1) і капліца (2) у гонар перамогі рускіх войск над шведскімі ў 1708 г. каля в. Лясная.*





1



2


*Прыпыначны пункт у аграгарадку Лясная.*

жыхар. З 2003 г. цэнтр СВК «Лясная». У вёсцы размяшчаліся майстэрня па рамонце с.-г. машын, ферма буйной рагатай жывёлы, лесапільня, зернедрабільня, устаноўка па прыгатаванні вітаміннай мукі, ветэрынарная лячэбніца. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. У 2007 г. пач. школа, дзіцячы сад-яслі, клуб, б-ка, музей, урачэбная амбулаторыя, аптэка, грамадская лазня, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. ашчаднага банка, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, сталовая, магазін. Першы праект планіроўкі і забудовы вёскі распрацаваны ў 1978 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». У 1984 г. Бел. н.-д. і праектны ін-т па будаўніцтве ў вёсцы распрацаваў новы генплан. Аснову планіроўкі складаюць 4 вуліцы з драўлянай забудовай сядзібнага тыпу, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ, па абодва бакі ручая і злучаныя дарогай. На З ад дарогі размешчана вял. плошча, у цэнтры якой у пач. 20 ст. ўзведзена мемарыяльная капліца (архітэктар А.Гаген) у гонар 200-годдзя перамогі рус. войск над шведамі ў бітве 28.9.1708 г. пад Лясной. Цяпер тут музей бітвы пад Лясной. Непадалёку ад капліцы пастаўлены помнік у гонар перамогі рус. войск у 1708 г. (скульптар А.Обер). Вакол плошчы размешчаны асн. адм.-грамадскія будынкі. На Пн вёскі 2 новыя вуліцы, забудаваныя мураванымі жылымі дамамі. Вытв. сектар — на ПдЗ.

**ЛЯЦЯГІ** — вёска ў Гіжэнскім с/с, за 22 км на Пн ад Слаўгарада, 92 км ад Магілёва, 25 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Гіжэнка, Ходараў і далей па шашы Слаўгарад—Чэрыкаў. 52 гаспадаркі, 97 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 17 ст. У 1684 г. вёска ў Прапойскай вол. Аршанскага павета Рэчы Паспалітай, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1783 г. пабудавана драўляная Пакроўская царква, 31 двор, 145 жыхароў. У 1858 г. 72 рэвізскія душы. Паблізу быў маёнтак, гаспадар якога ў 1867 г. меў 1600 дзес. зямлі, карчму і млын. У 1880 г. 33 двары, 233 жыхары.


*Фізкультурна-спартыўны зал у аграгарадку Лясная.*


*Жылы дом у аграгарадку Лясная.*



Частка вяскоўцаў займалася сталярным і бандарным промысламі. З 1882 г. уладанне С.Шклярэвіча, які валодаў 1600 дзес. зямлі, 2 вадзянымі млынамі. У 1886 г. 27 двароў, 206 жыхароў. У 1897 г. ў Даўжанскай вол. Чэрыкаўскага павета, 47 двароў, 330 жыхароў, мелія школа граматы, тракцір і пабудаваная з дрэва царква, 2 разы ў год праводзіліся кірмашы. У 1903 г. школа граматы ператворана ў земскую (нар. вучылішча), у якой у 1905 г. навучаліся 54 хлопчыкі. У 1909 г. ў вёсцы было 53 двары, 395 жыхароў. У 1910 г. належала Ляцягскаму сельскаму т-ву, 51 двор, 389 жыхароў. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскім) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якая ў 1931 г. стала двухкамплектнай. У пач. 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны ўдарнік». У 1938—39 гг. у вёску было пераселена 58 хутароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 3.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1943 г. ў вёсцы размяшчаліся партызаны палка Грышына. Некаторы час каля вёскі дыслацыраваліся партызаны 13-й Касцюковіцкай брыгады і 15-га палка. У 2 брацкіх і 6 адзіночных магілах пахаваны 221 сав. воін і партызан, якія загінулі ў 1941—43 гг. Каля 140 жыхароў з вёсак калгаса «Радзіма» не вярнуліся з фронту. У 1950 г. ўступіў у строй радыёвузел, вёска была радыёфікавана, крыху пазней — электрыфікавана. У 1962—65 гг. у Чавускім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Бярозаўка), 81 гаспадарка, 167 жыхароў. Размяшчаліся вытв. брыгада, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, ферма буйной рагатай жывёлы, ветэрынарны ўчастак, клуб, стацыянарная кінаўстаноўка, грамадская лазня, магазін. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных вуліц блізкай да шыротнай арыентацыі, якія на З і ў цэнтры перасякаюцца прамалінейнымі вуліцамі мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры сялібнай зоны размешчаны мураваныя грамадскія будынкі. На паўн.-ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

Радзіма доктара хімічных навук, праф. Н.П.Емяльянава (1898—70), Героя Сац. Працы Я.С.Зымалёва (1911—87).

**МАЛАЯ ЗІМНІЦА** — вёска ў Свенскім с/с, за 29 км на ПдЗ ад Слаўгарада, 99 км ад Магілёва, 42 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны. На З і Пн цячэ р. Касалянка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Рэкта і далей па шашы Слаўгарад—Доўск. 27 гаспадарак, 42 жыхары (2007).



*Н.П.Емяльянаў.*

Вядома па пісьмовых крыніцах з 1600 г. як сяло, у складзе маёнтка Тайманаў Рэчы Паспалітай, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. в. Зімніца Малая ў Старабыхаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1799 г. 47 двароў, 245 жыхароў. У 1858 г. 203 жыхары мужчынскага полу. У 1880 г. 85 двароў, 549 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася адыходным, кавальскім і кравецкім промысламі. У 1886 г. 77 двароў, 628 жыхароў, карчма. У 1897 г. 110 двароў, 769 жыхароў, хлебазапасны магазін, школа граматы, карчма. У 1909 г. 113 двароў, 850 жыхароў. Дзейнічаў млын. У 1910 належала Малазімніцкаму сельскаму т-ву. Адносілася да Зімніцкага праваслаўнага прыхода. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Журавіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім, з 12.2.1935 г. ў Доўскім, з 5.4.1935 г. ў Журавіцкім, з 17.12.1956 г. ў Быхаўскім, з 31.3.1958 г. ў Слаўгарадскім р-нах Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Гомельскай, з 17.12.1956 г. ў Магілёўскай абласцях. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, для якой у 1928 г. пабудавана памяшканне. 27.6.1920 г. адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. 28.11. 1922 г. створана с.-г. арцель, якая аб'ядноўвала 13 гаспа-



*Я.С.Зымалёў.*

дарак. У 1925 г. 10 сямей арганізавалі т-ва па перасяленні ў Томскую вобл. У 1925 г. адкрыта хата-чатальня. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 120 двароў, 420 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1941 г. спалілі 105 двароў. У 1990 г. ў складзе калгаса «Наперад» (цэнтр — в. Вялікая Зімніца), 78 гаспадарак, 173 жыхары. Размяшчаліся паляводчая брыгада, фермы свінагадоўчая і буйной рагатай жывёлы, зернедрабільня. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПнУ на ПдЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. Гасп. сектар — на ПдУ.

**МАШЭЦКАЯ СЛАБАДА** — вёска ў Лапаціцкім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Слаўгарада, 51 км ад Магілёва, 40 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам і цячэ р. Хоцінка (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слаўгарад—Магілёў. 1 гаспадарка, 12 жыхароў (2007).

У 1897 г. вёска (35 двароў, 265 жыхароў) у Даўгамохскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. Меліся школа граматы і хлебазапасны магазін. У 1909 г. 42 двары, 335 жыхароў. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У сак. 1931 г. вяскоўцы арганізавалі калгас імя Дз. Беднага, які ў год арганізацыі аб'ядноўваў 55 гаспадарак. Дзейнічала пач. школа. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 5.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На вясковых могілках пахаваны 15 сав. воінаў, якія загінулі ў баях супраць гітлераўцаў. У 1951 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1962—65 гг. у Чавускім р-не. У 1990 г. ў складзе племсаўгаса «Жалезінскі» (цэнтр — в. Лапацічы), 42 гаспадаркі, 65 жыхароў, магазін. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МІХАЙЛОЎ** — вёска ў Кабінагорскім с/с, за 4 км на ПдЗ ад Слаўгарада, 74 км ад Магілёва, 44 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Слаўгарад—Доўск, якая праходзіць паблізу вёскі. 22 гаспадаркі, 49 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1840 г. сядзіба, засн. вінакурны з-д, на якім у 1890 г. ўстаноўлена паравая машына. Памешчык у 1872 г. меў тут і ў в. Забалацце 1167,5 дзес. зямлі. У 1884 г. маёнтак Міхалова Прапойскае. У 1909 г. ў Прапойскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., фальварак Міхайлаў (ён жа Прапойск), 4 двары, 28 жыхароў. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. 29.11.1924 г. створана с.-г. арцель. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962—65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — г. Слаўгарад). 27 гаспадарак, 63 жыхары. Былі ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На У — гасп. сектар.

**НОВАЯ КАМЕНКА** — вёска ў Кабінагорскім с/с, за 16 км на ПдУ ад Слаўгарада, 86 км ад Магілёва, 56 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, вакол лес. На Пн і У цячэ



р. Каменка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Дубна, былую в. Кліны і далей па шашы Слаўгарад—Доўск. 10 гаспадарак, 14 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1858 г. вёска (33 жыхары мужчынскага полу) у Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1892 г. належала Навакаменскаму сельскаму т-ву; 19 двароў, 207 жыхароў. Адносілася да Папараткаўскага праваслаўнага прыхода. У 1897 г. ў Старынкаўскай вол. Чэрыкаўскага павета, 19 двароў, 170 жыхароў. У 1909 г. 207 жыхароў. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 2.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962—65 гг. у Краснапольскім р-не. У 1990 г. ў складзе саўгаса «Памяць Фрунзе» (цэнтр — б.в. Старынка), 21 гаспадарка, 58 жыхароў. Размяшчалася вытв. аддз. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НОВАЯ СЛАБАДА** — вёска ў Кабінагорскім с/с, за 3 км на Пн ад Слаўгарада, 67 км ад Магілёва, 37 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Проня (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Слаўгарад, якая праходзіць праз вёску. 119 гаспадарак, 319 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1858 г. вёска (56 жыхароў мужчынскага полу) у Прапойскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. У 1873 г. 52 рэвізскія душы і 74 прыпшлыя. У 1880 г. 27 двароў, 108 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася рамізніцкім промыслам. У 1897 г. 40 двароў, 311 жыхароў, меўся хлебазапасны магазін. У 1909 г. ў в. Новая Слабада (яна ж Бярозаўка), 51 двор, 364 жыхары, належала Новаслабодскаму сельскаму т-ву. У 1917 г. 69 двароў, 493 жыхары. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1930 г. вясковая пач. школа стала двухкамплектнай. У студз. 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны будзёнавец» (у 1931 г. аб'ядноўваў 84 гаспадаркі) і ў 1930 г. — калгас імя К.Я.Варашылава. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што на вясковых могілках, пахаваны 750 сав. воінаў, якія загінулі ў 1943 г. У 1962—65 гг. ў Быхаўскім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — г. Слаўгарад), 136 гаспадарак, 453 жыхары. Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. У 2007 г. клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, б-ка, магазін. Схема планіроўкі і забудовы распрацавана ў 1970 г. Магілёўскім філіялам ін-та «Белкалгаспраект». Аснову планіроўкі складае вуліца мерыдыянальнай арыентацыі (адрэзак шашы). На У да яе далучаецца крывалінейная вуліца з завулкамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На З — гасп. сектар.



*Экспазіцыя этнаграфічнага музея сярэдняй школы ў в. Новая Слабада.*

**ПАПОЎКА** — вёска, цэнтр Васькавіцкага с/с, за 7 км на ПдЗ ад Слаўгарада, 75 км ад Магілёва, 48 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. На У цячэ р. Пясчанка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Слаўгарад—Доўск, якая праходзіць праз вёску. 79 гаспадарак, 211 жыхароў (2007).

У 1858 г. 112 жыхароў, уласнасць царквы. У 1873 г. 53 рэвізскія і 68 прышлых душ. У 1880 г. 26 двароў, 106 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася адыходным і кравецкім промыслам, вырабам посуду і іншых быт. рэчаў з дрэва. У 1897 г. ў Прапойскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 28 двароў, 214 жыхароў. У 1910 г. належала Папоўскаму сельскаму т-ву, 27 двароў, 209 жыхароў. Адносілася да Прапойскага праваслаўнага прыхода.

З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. 8.6.1920 г. адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1931 г. арганізаваны калгасы «Прамы шлях» і «Непераможны». У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На ўшанаванне памяці 176 жыхароў вёсак калгаса імя М.Горкага, якія загінулі на фронце, у 1974 г. на паўд.-зах. ускраіне вёскі пастаўлена стэла.

У 1951 г. радыёфікавана, некалькі пазней — электрыфікавана. У 1962—65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1990 г. цэнтр калгаса імя М.Горкага, 81 гаспадарка, 195 жыхароў. У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, лесапільня, буйны жывёлагадоўчы комплекс, б-ка, магазін, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. сувязі, аддз. ашчаднага банка, агульнаадукац. школа са спарт. комплексам. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1984 г. Магілёўскім філіялам ін-та «Белкалгаспраект». Аснову планіроўкі складае прамалінейная вуліца (адрэзак шашы), арыентаваная з ПнУ на ПдЗ, уздоўж якой размешчаны грамадскія будынкі. Да гэтай вуліцы перпендыкулярна падыходзіць з ПдУ кароткая прамалінейная вуліца, на У ад якой склаліся 2 новыя вуліцы, забудаваныя сучаснымі мураванымі жылымі дамамі. Астатняя жылая забудова драўляная, сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на Пд.

**ПАЦЯРАЕЎКА** — вёска ў Лапаціцкім с/с, за 21 км на ПнЗ ад Слаўгарада, 49 км ад Магілёва, 34 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ р. Раста (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Слаўгарад, якая праходзіць праз вёску. 44 гаспадаркі, 76 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1742 г. сяло Пацяраеўка (яно ж Лапаціна) у Асавецкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета Рэчы Паспалітай, 19 гаспадарак, дзярж. уласнасць, мелася карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. вёска ў Старабыхаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1858 г. 99 жыхароў мужчынскага полу, у Быхаўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1873 г. 98 рэвізскіх і 117 прышлых душ. У 1877 пабудавана мураваная Троіцкая царква. У 1880 г. 50 двароў, частка вяскоўцаў займалася рамізніцкім промыслам. У 1897 г. ў Даўгамохскай вол. Быхаўскага павета, 55 двароў, 413 жыхароў, меліся школа граматы, хлебазапасны магазін, піцейны дом. У 1909 г. 64 двары, 483 жыхары. Адносілася да Даўгамохскага праваслаўнага прыхода.

З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкіх магілах (за 1,7 км на З ад вёскі і на вяско-



вых могілках) пахавана каля 130 сав. воінаў, якія загінулі ў 1941—44 гг. У 1962—65 гг. у Чавускім р-не. У 1990 г. ў складзе саўгаса «Жалезінскі» (цэнтр — в. Лапацічы). 86 гаспадарак, 188 жыхароў. Размяшчаліся гасп. двор, стайня, цялятнік, магазін. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных паралельных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, якія на Пн злучаны кароткай прамалінейнай вуліцай (адрэзак шашы). Забудавана пераважна двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд — гасп. сектар.

**ПЕРАГОН** — былая вёска ў Васькавіцкім с/с, за 15 км на Пд ад Слаўгарада, 85 км ад Магілёва, 55 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Гайшын, Рудня і далей па шашы Слаўгарад—Доўск. У 1990 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар.

У 1897 г. хутар у Прапойскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 3 двары, 23 жыхары. У 1909 г. 11 двароў, 58 жыхароў. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. 7.7.1920 г. акдрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. 7.4.1922 г. створана малочная арцель (28 гаспадарак). У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962—65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1990 г. была ў складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Гайшын). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Драўляная сял. сядзіба з гасп. пабудовамі была пастаўлена каля прасёлачнай дарогі.

**ПЕРАГОН** — вёска ў Свенскім с/с, за 29 км на ПдЗ ад Слаўгарада, 99 км ад Магілёва, 58 км ад чыг. ст. Рагачоў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ р. Касалянка. Транспартныя сувязі па шашы Слаўгарад—Доўск, якая праходзіць паблізу вёскі. 26 гаспадарак, 38 жыхароў (2007).

Час заснавання вёскі адносіцца да 16 ст. У 1600 г. сяло ў Рэчы Паспалітай, шляхецкая ўласнасць. У 1740 г. 29 двароў, уласнасць памешчыка ў Быхаўскім графстве. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1784 г. 92 двары, 448 жыхароў. У 1777 г. ў Старабыхаўскай акрузе Магілёўскай губ. Апрача земляробства сяльчане займаліся кушнерскім промыслам. У 1884 г. 70 двароў, 546 жыхароў. Заезны дом. У 1897 г. ў Бычанскай вол. Быхаўскага павета. 112 двароў, 721 жыхар. Дзейнічалі 2 млыны, крупадзёрка, хлебазапасны магазін, школа граматы. У 1906 г. ўваходзіла ў Слаўненскае т-ва сялян — уладанне пана Лаўрыненкі. У 1909 г. 113 двароў, 792 жыхары. Адносілася да Ракцянскага праваслаўнага прыхода. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Журавіцкім р-не БССР, з 8.7.1931 г. ў Прапойскім, з 12.2.1935 г. ў Доўскім, з 5.4.1935 г. ў Журавіцкім, з 17.12.1956 г. ў Рагачоўскім, з 11.6.1957 г. ў Слаўгарадскім р-нах Магілёўскай акругі (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Гомельскай, з 11.6.1957 г. ў Магілёўскай вобл. 10.7.1920 г. адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. ў складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Рэкта). 97 гаспадарак, 211 жыхароў. Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. У 2007 г. працаваў магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, да якой з Пд далучаюцца 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі.

**ПРУДОК** — вёска ў Свенскім с/с, за 21 км на ПдЗ ад Слаўгарада, 91 км ад


*І.В.Ісаенка.*


*В.Ц.Марушэнка.*

Магілёва, 63 км ад чыг. ст. Рагачоў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Пацэя (прыток р. Касалянка). Транспартныя сувязі па шашы Доўск—Слаўгарад, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 92 гаспадаркі, 214 жыхароў (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 18 ст. У 1777 г. в. Прудок Рагоўскі, у Старабыхаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1858 г. сяло Рогаўскі Прудок (178 рэвізскіх душ) у Быхаўскім павеце. Побач быў маёнтак, гаспадар якога ў 1862 г. меў 1191 дзес. зямлі, 2 млыны. У 1880 г. 71 двор, 462 жыхары, у Баханскай вол. Быхаўскага павета. Частка сяльчан займалася калёсным, адыходным і кравецкім промысламі. З 1881 г. працаваў цагельны з-д. У 1897 г. сяло Прудок (яно ж Рогаўскі Прудок) налічвала 95 двароў, 666 жыхароў. Меліся хлебазапасны магазін, школа граматы, карчма. У снеж. 1905 г. адбываліся хваляванні, вяскоўцы вывезлі з маёнтка Свенсполле дровы, якія належалі памешчыку. У 1909 г. 115 двароў, 956 жыхароў, дзейнічаў млын. У 1910 г. належала Прудоцкаму сельскаму т-ву. Адносілася да Ракцянскага праваслаўнага прыхода.

З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Журавіцкім, з 8.7.1931 г. ў Прапойскім, з 12.2.1935 г. ў Доўскім, з 12.3.1935 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-нах Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 16.7.1954 г. да 16.11.1961 г. цэнтр сельсавета. 27.6.1920 г. адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. Дзейнічала пач. школа, для якой у 1931 г. ўзведзены новы будынак. У 1920 г. пачала працаваць майстэрня па рамонце с.-г. інвентару. Вяскоўцы ў 1930-я г. ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962—65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Свенск), 132 гаспадаркі, 345 жыхароў. Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, зернедрабільня. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. У 2007 г. Дом культуры, б-ка, стацыянарная кінаўстаноўка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Аснову планіроўкі складае працяглая прамалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі, паралельна да якой з кожнага боку ідуць па 2 кароткія прамалінейныя вуліцы, злучаныя прасёлачнай дарогай. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Новая вуліца, размешчаная на З, забудавана сучаснымі мураванымі жылымі дамамі. У цэнтры, сярод жылой забудовы, размешчаны грамадскія будынкі. На Пд — гасп. сектар.

Радзіма Герояў Сац. Працы І.В.Ісаенкі (нар. ў 1922), В.Ц.Марушэнкі (нар. ў 1926).

**ПРЫВОЛЛЕ** — вёска ў Васькавіцкім с/с, за 16 км на на ПдЗ ад Слаўгарада, 93 км ад Магілёва, 48 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. На Пн цячэ ручай Штанкі (прыток р. Пацэя). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз былую в. Лебядзёўка і далей па шашы Слаўгарад—Доўск. 12 гаспадарак, 24 жыхары (2007).

Вядома з 1855 г. У 1858 г. вёска (160 жыхароў) у Быхаўскім павеце, уласнасць памешчыка. Побач быў маёнтак, гаспадар якога ў 1881 г. меў 1135 дзес. зямлі. У 1897 г. ў Прапойскай вол. Быхаўскага павета, 29 двароў, 209 жыхароў. Меўся хлебазапасны магазін. У 1909 г. 35 двароў, 218 жыхароў, дзейнічала школа граматы. Належала Прывольскаму сельскаму т-ву. Адносілася да Кульшыцкага праваслаўнага прыхода. У 1917 г. 249 жыхароў.

З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. 5.1.1928 г. 25 вяскоўцаў аб'ядналіся ў меліярацыйнае т-ва. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1961—65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Ржаўка), 25 гаспада-



рак, 66 жыхароў. Размяшчаліся вытв. брыгада, свінагадоўчая ферма, магазін. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных паралельных вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных на Пн крывалінейнай вуліцай. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПЧЭЛЬНЯ** — былая вёска ў б. Кульшыцкім с/с, за 17 км на З да Слаўгарада, 87 км ад Магілёва, 40 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны, вакол лес. На У — невял. сажалка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Ніканавічы—Слаўгарад. У 1990 г. 19 гаспадарак, 51 жыхар. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, адселена.

У 1897 г. хутар Пчэльня (ён жа Аляксееўшчына, Завадзь), 9 двароў, 60 жыхароў, у Прапойскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 10 двароў, 50 жыхароў, у 1917 г. 83 жыхары.

З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. 22.5.1932 г. арганізаваны калгас, які першапачаткова аб'ядноўваў 12 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962—65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса імя А.А.Жданава (цэнтр — былая в. Кульшычы). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. Планіроўка У-падобная. Да крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ далучалася кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РАБАВІЧЫ** — вёска ў Лапаціцкім с/с, за 15 км на Пн ад Слаўгарада, 58 км ад Магілёва, 26 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пн і З мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Чыстая Лужа (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Слаўгарад, якая праходзіць побач з вёскай. 85 гаспадарак, 210 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 16 ст. У 1560 г. сяло ў Прапойскай вол. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1684 г. сяло ў Прапойскім старостве. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 76 двароў, 290 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1831 г. пабудавана драўляная Пакроўская царква. У 1858 г. меліся млын і заезны дом. У 1873 г. 115 рэвізскіх і 139 прышлых людзей. У 1880 г. 75 двароў. Частка вяскоўцаў займалася слясарным, адыходным і кравецкім промысламі. У 1886 г. ў Прапойскай вол., 44 двары, 264 жыхары. У 1894 г. адкрыта школа, для якой у 1901 г. пабудавана памяшканне. У 1897 г. ў Прапойскай вол. Быхаўскага павета, 64 двары, 475 жыхароў, дзейнічалі хлебазапасны магазін, піцейны дом, царква. Раз у год праводзіўся кірмаш. У 1909 г. 76 двароў, 542 жыхары, б-ка для пазашкольнага чытання ў царк.-прыходскай школе. У 1917 г. 108 двароў, 777 жыхароў.

З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1943 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 21.8. 1925 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 74 вучні, мелася б-ка. 6.6.1920 г. адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1925 г. адкрыта хата-чытальня. У 1926 г. 794 жыхары, 4-класная школа. У 1931 г. вясковая школа стала двухкамплектнай, арганізаваны калгас імя газ. «Беларуская вёска». У 1940 г. 120 двароў, 480 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1943 г. партызаны разграмілі ням. гарнізон, які размяшчаўся ў вёсцы. У кастр. 1943 г. гітлераўцы спалілі 112 двароў, загубілі 10 жыхароў. У час вызвалення раёна ў 1943 г. войскі Чырвонай Арміі вялі тут цяжкія баі супраць

гітлераўцаў. Вызначыўся ў гэтых баях наводчык гарматы радавы П.Ц.Панамароў, які да апошняга снарада і патрона адбіваў варожыя атакі. 15.10.1944 г. ён пасмяротна ўдастоены звання Героя Сав. Саюза. На вясковых могілках пахаваны 179 сав. воінаў, якія загінулі ў 1943 г. У іх ліку Герой Сав. Саюза П.Ц.Панамароў. У 1951 г. радыёфікавана, некалькі пазней — электрыфікавана. У 1962—65 гг. у Чавускім р-не. У 1990 г. вёска ў складзе саўгаса «Лясная» (цэнтр — в. Лясная), 114 гаспадарак, 238 жыхароў. Размяшчаліся вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы, б-ка-клуб, магазін. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Схема планіроўкі і забудовы распрацавана ў 1984 г. Бел. н.-д. і праектным ін-там па будаўніцтве ў вёсцы. Аснову планіровачнай структуры складае крывалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі, паралельна да якой на У праходзяць яшчэ 2 крывалінейныя вуліцы. На З, за ракой, размешчана яшчэ адна крывалінейная вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі, паралельна да ракі. Забудавана пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Дзве новыя вуліцы, якія на Пд і Пн злучаюць першыя 3 вуліцы, забудаваны мураванымі жылымі дамамі тыпу катэджаў. Грамадскія будынкі размешчаны на гал. вуліцы сярод жылой забудовы. Гасп. сектар — на У. На паўн.-ўсх. ускраіне, на месцы былога пясчанага кар'ера — штучны вадаём.


*П.В.Вераб'ёў.*

Радзіма паэта П.В.Вераб'ёва (нар. ў 1958).

**РАБІНАЎКА** — былая вёска ў б. Кульшыцкім с/с, за 13 км на З ад Слаўгарада, 83 км ад Магілёва, 47 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У і праз вёску праходзіла сістэма меліярацыйных каналаў, злучаная з р. Пясчанка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Слаўгарад—Ніканавічы, якая праходзіла праз вёску. У 1990 г. 121 двор, 274 жыхары. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі.

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1765 г. ў Прапойскім старостве Рэчы Паспалітай, слабада, 8 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1769 г. — вёска, 11 двароў, 27 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 16 двароў, 101 жыхар, уласнасць памешчыка, у 1858 г. 160 жыхароў. У 1873 г. ў Прапойскай вол. Быхаўскага павета, 73 рэвізскія і 102 прышлыя селяніны. У 1880 г. 42 двары, 146 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася адыходным промыслам. Меліся хлебазапасны магазін, піцейны дом. У 1905 г. каля вёскі быў маёнтак пана А.М.Каморскага. У 1909 г. 73 двары, 516 жыхароў, дзейнічала школа граматы, пераўтвораная потым у земскую, для якой у 1911 г. пабудавана памяшканне. У 1917 г. 68 двароў, 592 жыхары.

У 1918 г. існавала трохкласнае вучылішча. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 80 вучняў, дзейнічаў літ.-драматычны гурток. У 1926 г. 748 жыхароў, 4-класная школа. У 1928 г. школа стала двухкамплектнай, у 1934 г. — трохкамплектнай. 10.6.1920 г. адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У ліст. 1929 г. арганізаваны калгас «Запаветы Ільіча» (у 1931 г. аб'ядноўваў 87 гаспадарак), потым — калгас імя А.Р.Чарвякова. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што на ўсх. ускраіне вёскі, пахаваны 53 сав. воіны, якія загінулі ў баях супраць гітлераўцаў у 1943 г. У 1962—65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1990-я г. ў складзе калгаса імя А.А.Жданава (цэнтр — в. Кульшычы). Размяшчаліся вытв. брыгада, устаноўка па прыгатаванні вітаміннай мукі, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, пач. школа, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслу-



гоўвання насельніцтва, магазін. Шырокі выган з сістэмай меліярацыйных каналаў падзяляў вёску на паўн. (3 кароткія вуліцы блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, злучаныя мясц. дарогай) і паўд. (паралельна і перпендыкулярна да шашы праходзілі кароткія вуліцы, якія ўтваралі сетку кварталаў адвольнай формы) часткі. Забудавана двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размяшчаліся ўздоўж шашы, сярод жылой забудовы. На З быў гасп. сектар.

**РАГІ** — вёска ў Свенскім с/с, за 26 км на ПдЗ ад Слаўгарада, 96 км ад Магілёва, 67 км ад чыг. ст. Рагачоў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны. Меліярацыйны канал, які праходзіць праз вёску, злучаны з р. Касалянка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Прудок і далей па шашы Слаўгарад—Доўск. 65 гаспадарак, 142 жыхары (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 16 ст. У 1600 г. сяло, шляхецкая ўласнасць. У 1742 г. 34 двары, уласнасць памешчыка, у Быхаўскім графстве Рэчы Паспалітай. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. ў Старабыхаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1783 г. вёска належала кн. Галіцыну. У 1784 г. 85 двароў, 524 жыхары, уласнасць памешчыка, меўся млын. У 1858 г. 249 рэвізскіх душ, мелася карчма. У 1880 г. 103 двары, 590 жыхароў. Частка вяскоўцаў займаліся адыходным, кавальскім і кравецкім промысламі. У 1897 г. ў Баханскай вол. Быхаўскага павета, 131 двор, 889 жыхароў. Меліся хлебазапасны магазін, школа граматы, карчма. У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама. У 1909 г. 140 двароў, 789 жыхароў. У 1910 г. належала Рагоўскаму сельскаму т-ву, адносілася да Баханскага праваслаўнага прыхода. У 1912 г. аднакласная школа. У 1917 г. 171 двор, 1223 жыхары.

З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Журавіцкім, з 8.7.1931 г. ў Прапойскім, з 12.2.1935 г. ў Доўскім, з 12.3.1935 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-нах Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. У 1920 г. пачала дзейнічаць майстэрня па рамонце с.-г. інвентару, а ў 1931 г. арганізаваны калгас. У 1933 г. ў Прудоцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што на вясковых могілках, пахаваны сав. воіны, якія загінулі восенню 1943 г. На фронце загінулі 94 вяскоўцы. На іх ўшанаванне ў 1980 г. каля будынка клуба пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і жанчына, дошкі з імёнамі загінуўшых. У 1990 г. ў складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Свенск), 176 гаспадарак, 389 жыхароў. Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. У 2007 г. працаваў магазін. Аснову планіровачнай структуры складае працяглая крывалінейная вуліца амаль шыротнай арыентацыі, перпендыкулярна і паралельна да якой праходзяць другарадныя вуліцы, якія ўтвараюць сетку прамавугольных кварталаў. Забудавана пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Адна з вуліц на Пд забудавана двухкватэрнымі муранымі жылымі дамамі. На У — гасп. сектар.

**РЖАЎКА 1** — вёска ў Васькавіцкім с/с, за 14 км на ПдЗ ад Слаўгарада, 84 км

*Жылыя дамы ў аграгарадку Ржаўка.*



ад Магілёва, 47 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў–Жлобін. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ ручай Штанкі (прыток р. Пацэя), на З — яе прыток р. Салошанка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Васькавічы і далей па шашы Слаўгарад–Доўск. 126 гаспадарак, 381 жыхар (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1765 г. 12 двароў, дзярж. уласнасць у Прапойскім старостве Рэчы Паспалітай. У 1769 г. 18 двароў, 51 жыхар. Мелася карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1774 г. уласнасць кн. Галіцына, 160 жыхароў. У 1777 г. в. Ржаўка, у Старабыхаўскай акрузе. У 1783 г. 53 двары, 185 жыхароў. У 1786 г. ў Быхаўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 268 жыхароў, у 1862 г. 130 жыхароў мужчынскага полу. У 1873 г. 139 рэвізскіх і 163 прышлыя селяніны. У 1884 г. ў Прапойскай вол. Быхаўскага павета, 64 двары, 280 жыхароў. Непадалёку была сядзіба (у 1897 г. 1 двор, 7 жыхароў). Частка вяскоўцаў займалася кравецкім і адыходным промысламі. У 1909 г. 121 двор, 770 жыхароў, належала Ржаўскаму сельскаму т-ву, адносілася да Кульшыцкага праваслаўнага прыхода. Мелася школа (нар. вучылішча), млын, карчма. У час нар. выступленняў 1905 г. вяскоўцы 18.9.1906 г. адмовіліся плаціць нядоімкі. У 1907 г. школа ператворана ў земскую, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні.



Школа ў аграгарадку Ржаўка.



Дом культуры ў аграгарадку Ржаўка.

У 1918 г. ў вёсцы трохкласнае вучылішча. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 21.10. 1924 г. да 30.11.1961 г. цэнтр сельсавета. На базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 100 вучняў. У 1930 г. школа стала трохкамплектнай, а ў 1932 г. — чатырохкамплектнай. Да 1930-х г. былі вёскі Ржаўка Старая і Ржаўка Новая. Потым яны сталі называцца Ржаўка-1 і Ржаўка-2. У 1930-я г. арганізаваны калгасы «XVI партз'езд» і імя В.М.Молатава. У сярэдзіне 1930-х г. пабудаваны клуб, 7-гадовая школа, медпункт. У 1938 г. ў вёску перавезена 11 хутарскіх двароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 115 жыхароў з вёсак калгаса «Савецкая Беларусь» загінулі на фронце. На ўшанаванне іх памяці ў цэнтры вёскі ў 1977 г. пастаўлена стэла.

У 1955 г. ўведзены ў строй радыёвузел, вёска была радыёфікавана, а некалькі пазней — электрыфікавана. У 1962–65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1990 г. 122 гаспадаркі, 353 жыхары, цэнтр калгаса «Савецкая Беларусь». У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, леса-



пільня, зернедрабільня. З 2003 г. цэнтр СВК «Прывольны». Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. У 2007 г. агульнаадукац. школа, дзіцячы сад-яслі, Дом культуры, стацыянарная кінаўстаноўка, б-ка аграгарадка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. сувязі, аддз. ашчаднага банка. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1971 г. Магілёўскім філіялам ін-та «Белкалгаспраект». Аснову планіровачнай структуры складаюць 2 паралельныя вуліцы, арыентаваныя з ПнУ на ПдЗ. На У ад іх праходзяць 2 кароткія вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Адна вуліца на У і вуліца ўздоўж дарогі Бахань—Васькавічы забудоўваюцца сучаснымі мураванымі жылымі дамамі. У цэнтры, сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі. Вытв. сектар — на ПнЗ.

Радзіма сав. военачальніка, ген.-маёра авіяцыі, удзельніка грамадз. і Вял. Айч. войн Я.І.Драйчука (1901—78). Яго імя носіць вясковая б-ка.

**РЖАЎКА 2** — вёска ў Васькавіцкім с/с, за 17 км на ПдЗ ад Слаўгарада, 87 км ад Магілёва, 44 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слаўгарад—Ніканавічы. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Вядома з 1920-х г., калі новая забудова побач з в. Ржаўка атрымала назву Ржаўка Новая, а ў 1930-я г. — Ржаўка 2. З часу заснавання ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі). З 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. адкрыта пач. школа, вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962—65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Ржаўка 1), 38 гаспадарак, 79 жыхароў. Размяшчаліся вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Планіровачна складаецца з 2 крываліней-ных паралельных вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, забудаваных двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пн — гасп. сектар.

**РУДНЯ** — вёска ў Васькавіцкім с/с, за 6 км на Пд ад Слаўгарада, 76 км ад Магілёва, 46 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Пясчанка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Слаўгарад—Доўск, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 69 гаспадарак, 185 жыхароў (2007).

За 0,2 км на Пн, за 0,1 км на У і за 1,5—1,7 км на Пд ад вёскі размешчаны 4 стаянкі эпохі неаліту і каменнага веку, за 1,5—1,7 км на Пд ад вёскі — 2 паселішчы эпохі Кіеўскай Русі. Гэтыя помнікі археалогіі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай старажытнасці. Па рукапісных крыніцах вёска вядома з 18 ст. У 1750 г. 9 двароў. У 1765 г. в. Старая Рудня ў Прапойскім старостве, 11 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1769 г. 32 жыхары, былі карчма, млын, рудня на 3 колы. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Паводле рэвізіі 1772 г. 89 жыхароў (беглых 11 чал.). У 1777 г. вёска ў Старабыхаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1786 г. ў Быхаўскім павеце, колькасць двароў павялічылася да 19, насельніцтва — да 117 чал., з'яўлялася



*Я.І.Драйчук.*



*Адміністрацыйны будынак у аграгарадку Ржаўка.*

ўласнасцю памешчыка. У 1858 г. ў Прапойскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 248 жыхароў. У 1873 г. 130 рэвізскіх і 155 прышлых душ. У 1880 г. 65 двароў, 260 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася рамізніцкім, кавальскім і кравецкім промысламі. У 1897 г. 76 двароў, 484 жыхары, хлебазапасны магазін, заезны дом. Дзейнічала школа граматы, якая ў 1909 г. ператворана ў земскую. У 1909 г. 75 двароў, 582 жыхары. Адносілася да Прапойскага праваслаўнага прыхода.

З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені, якой у 1918 г. перададзена нацыяналізаванае памяшканне. У 1925 г. ў школе, якая насіла імя У.І.Леніна, было 58 вучняў, дзейнічаў літ.-драматычны гурток. У 1929 г. школа стала двухкамплектнай. 15.6.1920 г. адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1931 г. арганізаваны калгас «Інтэрнацыянал». У 1940 г. 21 двор, 96 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 12.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў жн. 1943 г. спалілі 20 двароў. У брацкай магіле, што на вясковых могілках, пахаваны 27 сав. воінаў, якія загінулі ў 1943 г. За 2 км на З ад вёскі, каля шашы Слаўгарад—Доўск пастаўлены помнік Герою Сав. Саюза В.І.Чамадураву, які вызначыўся ў баі за вызваленне вёскі. У 1962—65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса імя М.Горкага (цэнтр — в. Папоўка), 101 гаспадарка, 261 жыхар. Размяшчаліся вытв. брыгада і фермы буйной рагатай жывёлы, пач. школа, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, б-ка, магазін. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Аснову планіровачнай структуры складаюць 2 крывалінейныя вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, па абодва бакі ракі, злучаныя трэцяй крывалінейнай вуліцай (адрэзак дарогі ў в. Гайшын). Забудавана двухбакова, традыц., пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Каля дарогі пастаўлены грамадскія будынкі і некалькі тыпавых мураваных жылых дамоў. На паўд.-ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**РУДНЯ** — вёска ў Гіжэнскім с/с, за 24 км на ПнУ ад Слаўгарада, 78 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Крупка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Гіжэнка, Ходараў і далей па шашы Слаўгарад—Чэрыкаў. 8 гаспадарак, 14 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. З 1842 г. дзейнічала гарбарня, з 1855 г. — другая гарбарня. Побач быў маёнтак, гаспадар якога ў 1867 г. валодаў 822 дзес. зямлі. У 1909 г. ў Прапойскай вол. Быхаўскага павета, 61 двор, 386 жыхароў. У 1917 г. 72 двары, 445 жыхароў.

З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1931 г. арганізаваны калгас «Спартак». У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 3.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1943 г. тут размяшчаліся партызаны палка Грышына. Каля вёскі дыслацыраваліся партызаны 15-га і 48-га асобных атрадаў. За 1 км на ПнЗ і ў цэнтры вёскі пахаваны 2 сав. воіны, якія загінулі ў 1943 г. У 1962—65 гг. у Чавускім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Ходараў), 20 гаспадарак, 42 жыхары. Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. У 2007 г. клуб, магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, да якой на Пд з усх. боку далучаецца кароткая крывалінейная вуліца шы-



ротнай арыентацыі, па абодва бакі ракі. Забудавана двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РЭКТА** — вёска ў Свенскім с/с, за 25 км на З ад Слаўгарада, 95 км ад Магілёва, 55 км ад чыг. ст. Рагачоў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Касалянка). Транспартныя сувязі па шашы Слаўгарад—Доўск, якая праходзіць праз вёску. 148 гаспадарак, 351 жыхар (2007).

Час заснавання вёскі адносіцца прыкладна да 1600 г., калі яна была Слабадой у складзе Рэчы Паспалітай, шляхецкай уласнасцю. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. сяло ў Старабыхаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1862 г. ў вёсцы пабудавана драўляная царква Раства Багародзіцы. У 1873 г. 283 рэвізскія і 343 прышлыя селяніны. Побач быў маёнтак, гаспадар якога Мінюшскі ў 1874 г. валодаў 561 дзес. зямлі, 2 вадзянымі млынамі і карчмой. Потым паявіўся другі маёнтак (у 1878 г. 569 дзес. зямлі, вадзяны млын, сукнавальня). У 1880 г. 121 двор, 554 жыхары. Частка сяльчан займалася кравецкім промыслам. У 1884 г. ў Бычанскай вол. Быхаўскага павета, у 1886 г. 104 двары, 771 жыхар, 3 ветракі, малітоўны дом. У 1897 г. 125 двароў, 1002 жыхары. Меліся 3 млыны, хлебазапасны магазін, царк.-прыходская школа, карчма, драўляная царква, раз у год праводзіўся кірмаш. У 1909 г. 155 двароў, 1015 жыхароў, належала Ракцянскаму сельскаму т-ву. Дзейнічалі школа (нар. вучылішча), казённая вінная крама, адносілася да Ракцянскага праваслаўнага прыхода, царква. У 1912 г. існавала царк.-прыходскае вучылішча. У 1917 г. 181 двор, 1180 жыхароў.

З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Журавіцкім, з 8.1.1931 г. ў Прапойскім, з 12.2.1935 г. ў Доўскім, з 5.4.1935 г. ў Журавіцкім, з 17.12.1956 г. ў Рагачоўскім, з 11.6.1957 г. ў Слаўгарадскім р-нах Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Гомельскай, з 17.12.1956 г. ў Магілёўскай абласцях. З 20.8.1924 г. да 30.11.1961 г. цэнтр сельсавета. 10.7.1920 г. адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 85 сав. воінаў, якія загінулі ў 1941—43 гг. Побач пастаўлена стэла на ўшанаванне памяці 107 землякоў, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе.

У 1975 г. да в. Рэкта далучаны в. Старынка і пас. Вузскія. У 1990 г. 119 гаспадарак, 389 жыхароў, цэнтр калгаса імя Калініна. У вёсцы размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, лесапільня, млын. З 2003 г. цэнтр СВК «Ракцянскі». Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. У 2007 г. агульнаадукац. школа, дзіцячы сад-яслі, Дом культуры, стацыянарная кінаўстаноўка, фельч.-акушэрскі пункт, грамадская лазня, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. сувязі і «Беларусбанка». Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1970 г. Магілёўскім філіялам ін-та Белкалгаспраект». Гал. прамалінейная вуліца (адрэзак шашы) арыентавана з ПнУ на ПдЗ. На Пд ад яе ў шыротным напрамку ідуць 2 крывалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПнУ размешчаны грамадскі цэнтр і адасоблена — гасп. сектар. Новыя вуліцы на Пн і ПнУ забудоўваюцца тыпавымі мураванымі жылымі дамамі.

Радзіма поўнага кавалера Ордэна Славы Р.Т.Кротава (нар. ў 1923), які вызначыўся ў Вял. Айч. вайну ў баях за вызваленне ад ням.-фаш. захопнікаў Украіны, Польшчы і Венгрыі.

**РЭКТА-МІХАЙЛАЎКА** — вёска ў Свенскім с/с, за 28 км на ПдЗ ад Слаўгарада, 98 км ад Магілёва, 56 км ад чыг. ст. Рагачоў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны. На ПнУ цячэ р. Касалянка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз

в Рэкта і далей па шашы Слаўгарад—Доўск. 14 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).

У 1897 г. пасёлак (15 двароў, 133 жыхары) у Бычанскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 20 двароў, 132 жыхары. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Журавіцкім, з 8.7.1931 г. ў Прапойскім, з 12.2.1935 г. ў Доўскім, з 5.4.1935 г. ў Журавіцкім, з 17.12.1956 г. ў Рагачоўскім, з 11.6.1957 г. ў Слаўгарадскім р-нах Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Гомельскай, з 11.1.1957 г. ў Магілёўскай абласцях. 11.7.1920 г. адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. ў складзе калгаса імя Калініна (цэнтр — в. Рэкта), 41 гаспадарка, 119 жыхароў. Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, пач. школа, магазін. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Аснову планіроўкі складае крывалінейная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ, паралельна і перпендыкулярна да якой ідуць 2 кароткія вуліцы з аднабаковай забудовай. Жылыя дамы традыц. драўляныя, сядзібнага тыпу.

**САСНОВІЦА** — пасёлак у Свенскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Слаўгарада, 90 км ад Магілёва, 61 км ад чыг. ст. Рагачоў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Пацэя (прыток р. Касалянка). Транспартныя сувязі па шашы Слаўгарад—Доўск, якая праходзіць паблізу вёскі. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Засн. ў 1920-я г. З 20.8.1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1962—65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1975 г. да пасёлка далучаны пас. Вялікі Лог. У 1990 г. ў складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Свенск), 7 гаспадарак, 14 жыхароў. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнУ на ПдЗ, паралельна да шашы і забудаванай пераважна з паўд. боку, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СВЕНСК** — вёска, цэнтр Свенскага с/с, за 18 км на ПдЗ ад Слаўгарада, 88 км ад Магілёва, 62 км ад чыг. ст. Рагачоў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Пацэя (прыток р. Касалянка). Транспартныя сувязі па шашы Слаўгарад—Доўск, якая праходзіць побач з вёскай. 202 гаспадаркі, 549 жыхароў (2007).

Пасля пракладкі ў 1851 г. Маскоўска-Варшаўскай шашы ў Свенскаполлі размясцілася паштовая станцыя, якая мела 9



*Брацкая магіла савецкіх воінаў, помнік землякам, якія загінулі пры вызваленні в. Свенск ў Вялікую Айчынную вайну.*



*Галоўная вуліца ў аграгарадку Свенск.*








*Магазін у аграгарадку Свенск.*

*Малочна-таварная ферма ў аграгарадку Свенск.*

коней. Побач быў маёнтак, гаспадар якога дваранін Я.Р.Корнрумпф у 1870 г. меў 1800 дзес. зямлі і карчму. У 1897 г. фальварак (3 двары, 15 жыхароў) у Бычанскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., на паштовай станцыі 4 двары, 19 жыхароў, у фальварку Нова-Свенск 1 двор, 2 жыхары. У 1909 г. ў маёнтку Свенскаполле 4 двары, 14 жыхароў, на хутары Свенскаполле (ён жа Перамежкі) — 1 двор, 5 жыхароў, на паштовай станцыі 1 двор, 8 жыхароў. Адносілася да Ракцянскага праваслаўнага прыхода. У 1905 г. адбылося выступленне сялян супраць памешчыка, якое было падаўлена ўладамі. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1931 г. арганізаваны калгас, у 1939 г. пабудаваны сельмаг. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахавана 26 сав. воінаў, якія загінулі ў ліст. 1943 г. Тут жа ўзведзены стэлы на ўшанаванне 176 землякоў, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. З 30.11.1961 г. цэнтр сельсавета.

У 1962—65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1990 г. цэнтр калгаса «Зара», 195 гаспадарак, 463 жыхары. Каля вёскі знаходзілася міжгасп. вытв. аб'яднанне па адкорме свіней на прам. аснове «Свенск» (засн. ў 1981). У вёсцы размяшчаліся майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, млын, лесапільня, вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы. З 2003 г. цэнтр СВК «Заранскі». Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. У 2007 г. філіял ААТ «Магілёўхлебапрадукт», сумеснае прадпрыемства «Агнёўскае», агульнаадукац. школа, Дом культуры, б-ка аграгарадка, 2 дзіцячыя ўстановы, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, урачэбная амбулаторыя, гандл. комплекс, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. сувязі, грамадская лазня. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1979 г. Бел. н.-д. і праектным ін-там па будаўніцтве ў вёсцы. Аснову планіровачнай структуры складае працяглая, крывалінейная вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі, на У ад якой праходзяць 3 паралельныя паміж сабой вуліцы, злучаныя дарогай. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны ўздоўж шашы. Па другі бок шашы — гасп. сектар.



*Фельчарска-акушэрскі пункт у аграгарадку Свенск.*

У склад сельсавета ўваходзяць 13 вёсак і 5 пасёлкаў. У канцы 1930-х г. на тэр. Свенскага с/с былі пасёлкі Вял. Лог, Граніца, Крыніца, Увалокі, Зарэчча, Бярозкі, Культура, Перамога, Рагознае, Станкі, якія зараз не існуюць. Яны аб'ядналіся з суседнімі вёскамі, або жыхары некаторых з іх перасяліліся ў іншыя месцы.

**СЕЛІШЧА** – былая вёска ў Васькавіцкім с/с, за 13 км на Пд ад Слаўгарада, 83 км ад Магілёва, 53 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў–Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ ручай (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Гайшын і далей па шашы Слаўгарад–Доўск. У 1990 г. 7 гаспадарак, 12 жыхароў. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Вёска адселена.

Вядома па рукапісных крыніцах з 19 ст. Гаспадар маёнтка, які размяшчаўся тут, меў у 1871 г. 104 дзес. зямлі. У 1897 г. хутар (3 двары, 27 жыхароў) у Прапойскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. Адносілася да Гайшынскага праваслаўнага прыхода. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962–65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр – в. Гайшын). Традыц., драўляныя сял. сядзібы пастаўлены з паўд. боку кароткай вуліцы шыротнай арыентацыі.

**СЕРКАЎКА** – былая вёска ў б. Кульшыцкім с/с, за 15 км на З ад Слаўгарада, 85 км ад Магілёва, 44 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў–Жлобін. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ ручай (прыток р. Пясчанка). Транспартныя сувязі па шашы Слаўгарад–Ніканавічы, якая праходзіла непадалёку ад вёскі. У 1990 г. 1 гаспадарка, 2 жыхары. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Вёска адселена.

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1746 г. ў Крычаўскім старостве Рэчы Паспалітай, дзярж. ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1834 г. вёска (33 двары, 230 жыхароў) у Клімавіцкім павеце, уласнасць памешчыка. Некаторы час была вядома пад назвай Серкава. Гаспадар маёнтка, які знаходзіўся побач, валодаў у 1876 г. 1195 дзес. зямлі. У 1897 г. ў Прапойскай вол. Быхаўскага павета, 5 двароў, 37 жыхароў. У 1909 г. 9 двароў, 58 жыхароў, адносілася да Кульшыцкага праваслаўнага прыхода. У 1917 г. 73 жыхары. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1931 г. арганізаваны калгас «6-ы з'езд Саветаў». У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962–65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса імя А.А.Жданава (цэнтр – в. Кульшычы). Традыц., драўляная сял. сядзіба была пастаўлена побач з мясц. дарогай.

**СІЛІНА ПОЛЕ** – пасёлак у Кабінагорскім с/с, за 6 км на ПнУ ад Слаўгарада, 76 км ад Магілёва, 46 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў–Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Слаўгарад–Чэрыкаў, якая праходзіць паблізу пасёлка. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў (2007).

За 1,5 км на У ад пасёлка ў пойме правага берага р. Сож знаходзяцца 2 стаянкі неалітычнай эпохі, што сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Пасёлак вядомы з 19 ст. Тут знаходзіўся маёнтак, гаспадары якога ў 1879 г. валодалі 168 дзес. зямлі. У 1897 г. хутар у Даўжанскай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., у 1909 г. 2 двары, 13 жыхароў. Адносіўся да Язёрскага праваслаўнага прыхода. З 1919 г. ў Быхаўскім



павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 3.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962—65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — г. Слаўгарад), 6 гаспадарак, 13 жыхароў. Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Пасёлак пацярпеў ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Традыц. драўляныя сял. сядзібы пастаўлены ўздоўж кароткай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ.

**СЛАЎНЯ** — вёска ў Свенскім с/с, за 22 км на ПдЗ ад Слаўгарада, 92 км ад Магілёва, 59 км ад чыг. ст. Рагачоў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Пацэя (прыток р. Касалянка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Свенск і далей па шашы Слаўгарад—Доўск. 74 гаспадаркі, 181 жыхар (2007).

За 1,5 км на ПнУ ад вёскі, на левым беразе р. Пацэя знаходзіцца курганны могільнік (10 насыпаў), што сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Па рукапісных крыніцах вёска вядома з 16 ст. У 1600 г. сяло ў Рэчыцкім павеце Рэчы Паспалітай, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. ў Старабыхаўскай акрузе Магілёўскай губ. У апошняй чвэрці 18 ст. належала кн. Галіцыну, 39 двароў, 222 жыхары. З 1821 г. дзейнічала гарбарня. У 1858 г. сяло Слаўні (281 жыхар мужчынскага полу) у Быхаўскім павеце. Мелася карчма. У 1873 г. 275 рэвізскіх і 311 прышлых сялян. У 1880 г. 107 двароў, 537 жыхароў. Частка сяльчан займалася кравецкім промыслам. У 1884 г. адкрыта царк.-прыходская школа, памяшканне для якой пабудавана ў 1912 г. У 1886 г. 103 двары, 686 жыхароў, вятрак, заезны дом. У 1897 г. ў Бычанскай вол. Быхаўскага павета, 140 двароў, 935 жыхароў. Меліся сукнавальня, 3 млыны, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 150 двароў, 1089 жыхароў, належала Слаўненскаму сельскаму т-ву. Адносілася да Ракцянскага праваслаўнага прыхода.

Сав. ўлада ўстаноўлена ў ліст. 1917 г. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 70 вучняў, дзейнічаў драматычны гурток. У 1932 г. школа стала трохкамплектнай. 12.7.1920 г. адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1931 г. арганізаваны калгас «Звязда». У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што на вясковых могілках, пахаваны 38 сав. воінаў, якія загінулі ў 1943 г. У 1962—65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Свенск), 115 гаспадарак, 302 жыхары. Размяшчаліся вытв. брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, лесапільня і зернедрабільня. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. У 2007 г. працаваў магазін. Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных, амаль мерыдыянальнай арыентацыі вуліц. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд — гасп. сектар.

За 0,5—4 км на З і Пн ад вёскі размешчана радовішча пяскоў (разведаныя запасы 13,2 млн. м$^3$).

**СМАЛІГАЎ** — былы пасёлак у б. Баханскім с/с, за 26 км на ПдЗ ад Слаўгарада, 96 км ад Магілёва, 49 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Касалянка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Малая Зімніца і далей па шашы Слаўгарад—Доўск. У 1990 г. 7 гаспадарак, 10 жыхароў. Пасёлак пацярпеў ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, адселены.

Вядома з 19 ст. У 1886 г. пабудавана мураваная Троіцкая царква. У 1897 г. вёска (15 двароў, 146 жыхароў) у Баханскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 19 двароў, 125 жыхароў, належыў Смальгаўскаму сельскаму т-ву. Адносіўся да Зімніцкага праваслаўнага прыхода. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Журавіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім, з 12.2.1935 г. ў Доўскім, з 5.4.1935 г. ў Журавіцкім, з 17.12.1956 г. ў Быхаўскім, з 31.3.1958 г. ў Слаўгарадскім р-нах Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Гомельскай, з 17.2.1956 г. Магілёўскай абласцях. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. ў складзе калгаса «Наперад» (цэнтр — в. Вял. Зімніца). Планіровачна складаўся з кароткай прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СТАНКІ** — былы пасёлак у б. Старынкаўскім с/с, за 22 км на ПдУ ад Слаўгарада, 92 км ад Магілёва, 62 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пн, З і Пд мяжуе з лесам. На У цячэ р. Галуба (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз былую в. Кліны і далей па шашы Слаўгарад—Доўск. У 1990 г. 12 гаспадарак, 26 жыхароў. Пасёлак пацярпеў ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, адселены.

Засн. ў пач. 1920-х г. З 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1962—65 гг. у Краснапольскім р-не. У 1990 г. ў складзе саўгаса «Памяць Фрунзе» (цэнтр — былая в. Старынка). Планіровачна складаўся з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудаваны двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СТАРАЯ КАМЕНКА** — вёска ў Кабінагорскім с/с, за 15 км на ПдУ ад Слаўгарада, 85 км ад Магілёва, 55 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на У, Пд і З мяжуе з лесам. На Пд цячэ р. Каменка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Дубна, былую в. Кліны і далей па шашы Слаўгарад—Доўск. 35 гаспадарак, 64 жыхары (2007).

Непадалёку на З, ПдЗ і ПнЗ ад вёскі размешчаны 4 стаянкі эпохі мезаліту, неаліту і бронзавага веку. Гэтыя помнікі археалогіі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1765 г. в. Каменка налічвала 10 двароў, з'яўлялася дзярж. уласнасцю ў Прапойскім старостве. У 1769 г. меліся карчма і млын. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1786 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 14 двароў, 110 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 111 жыхароў мужчынскага полу. У 1880 г. 46 двароў, 386 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім і бандарным промысламі. У 1897 г. ў Старынскай вол. Чэрыкаўскага павета, 51 двор, 443 жыхары. Меліся царк.-прыходская школа, млын, піцейны дом. У 1909 г. 57 двароў, 462 жыхары. Адносілася да Гайшынскага праваслаўнага прыхода. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1923 г. з в. Дубна была пераведзена сюды пач. школа, памяшканне для якой сяляне пабудавалі яшчэ ў 1918 г. У 1925 г. ў школе было 66 вучняў, дзейнічаў літ.-мастацкі гурток. У 1929 г. школа стала двухкамплектнай. У 1931 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У 1939 г. пабудаваны новы будынак для школы. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 2.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 23



сав. воіны, якія загінулі ў 1943 г. У 1962—65 гг. ў Краснапольскім р-не. У 1990 г. ў складзе саўгаса «Памяць Фрунзе» (цэнтр — былая в. Старынка), 73 гаспадаркі, 186 жыхароў. Размяшчаліся вытв. аддзяленне саўгаса і ферма буйной рагатай жывёлы. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. У 2007 г. клуб, стацыянарная кінаўстаноўка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі і «Беларусбанка». Аснову планіровачнай структуры складае працяглая крывалінейная вуліца, арыентаваная з ПнУ на ПдЗ, паралельна да якой на ПнЗ ідуць другарадныя вуліцы, злучаныя мясц. дарогай. Тут жа сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі. Жылая забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Гасп. сектар адасоблены на З, Пд і Пн.

**СТАРЫНКА** — былая вёска, цэнтр б. Старынкаўскага с/с, за 12 км на У ад Слаўгарада, 82 км ад Магілёва, 52 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, вакол лес. Праз вёску цякла р. Ельня (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Крамянка і далей па шашы Слаўгарад—Доўск. У 1990 г. 144 гаспадаркі, 368 жыхароў. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, адселена.

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 17 ст. У 1688 г. сяло, уласнасць памешчыка. У 1747 г. с. Старына, 14 двароў, дзярж. ўласнасць у Крычаўскім старостве. У 1765 г. ў Прапойскім старостве, 7 двароў. Мелася рудня на 3 колы. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. с. Рудня Старынка ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1805 г. пачала працаваць медзеплавільня, якая абслугоўвала гасп. патрэбы мясц. памешчыкаў. Да 1850-х гг. медзечыгунаплавільня вырасла ў жалезаробчы з-д (каля 900 рабочых, вырабляла за год 140 т чыгуну). Руда прывозілася з-пад Слаўгарада, дзе яна на лугавым участку левага берага Сажа мелася ў значнай колькасці. Завод рабіў чыгунныя адліўкі, паравыя катлы, якарныя ланцугі, металічныя восі для гармат, акоўкі для крапасных лафетаў і іншае абсталяванне. Ад завода да прыстані на р. Сож была пракладзена першая ў Беларусі чыгунка — вузкакалейка працягласцю каля 6 км. Пасля смерці ўладальніка завод стаў згортваць сваю дзейнасць. У 1867 г. было толькі 24 рабочыя, а ў пач. 1870-х г. зусім закрыты. Да 1826 г. існавала суконная ф-ка. Гаспадар маёнтка Бенкендорф, які жыў побач, меў у 1828 г. 5178 дзес. зямлі, 2 вадзяныя млыны, 2 карчмы. У 1844 г. пабудавана драўляная царква Аляксандра Неўскага. У 1858 г. вёска ў Чэрыкаўскім павеце, 93 жыхары мужчынскага полу. У 1864 г. сяляне адрамантавалі дом для школы і нанялі настаўніка, а ў 1889 г. ў школе ўжо навучаліся 43 хлопчыкі і 7 дзяўчынак. У 1897 г. 93 двары, 804 жыхары. Меліся крама, хлебазапасны магазін, піцейны дом, драўляная царква. У фальварку былі 1 двор, 11 жыхароў, млын і сукнавальня. У 1900 г. пачала дзейнічаць экіпажная ф-ка. У 1909 г. былі сяло, фальварак і вёска. У 1910 г. вёска належала Старынкаўскаму сельскаму т-ву, 49 двароў, 377 жыхароў. Адносілася да Старынкаўскага праваслаўнага прыхода. Актыўным удзельнікам барацьбы за ўстанаўленне сав. улады ў Быхаўскім р-не быў вясковец Г.Я.Дорахаў, які загінуў у 1921 г. пры ліквідацыі банды. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета. У 1924 г. адкрыты ўрачэбны ўчастак, у 1925 г. — хата-чытальня. У 1926 г. 525 жыхароў. У 1931 г. вясковая школа стала двухкамплектнай. У 1930-я г. арганізаваны калгас, пач. школа стала 7-гадовай, была пабудавана гідраэлектрастанцыя магутнасцю 110 кВт. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941




г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле ў цэнтры вёскі і ў індывідуальнай магіле, што за 1,5 км на У ад вёскі, пахаваны 68 сав. воінаў, якія загінулі ў 1943 г.

У 1962—65 гг. у Краснапольскім р-не. У 1990 г. цэнтр саўгаса «Памяць Фрунзе». У вёсцы былі размешчаны лясніцтва, вытв. брыгада, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, лесапільня, сталярна-цяслярскія майстэрні, зернедрабільня, ферма буйной рагатай жывёлы, ветэрынарны ўчастак, сярэдняя школа, дзіцячы сад-яслі, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, б-ка, бальніца, амбулаторыя. аддз. ашчаднага банка, аптэка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сталовая, магазін, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. сувязі, грамадская лазня. Праект планіроўкі і забудовы вёскі быў распрацаваны ў 1984 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Пларіровачна складалася з 3 крывалінейных і прамалінейнай вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і злучаных дарогай з мостам цераз раку. Забудавана была двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Новая вуліца, што праходзіла на Пд, была забудавана сучаснымі мураванымі дамамі катэджнага тыпу. У цэнтры, каля дарогі, размяшчаліся грамадскія будынкі, на У — гасп. сектар.


*М.Л.Стральцоў.*

У склад сельсавета ўваходзілі 4 вёскі і 4 пасёлкі. У канцы 1930-х г. на тэр. Старынкаўскага с/с меліся в. Старына-Дваравая і пасёлкі Красны і Чарнец, якія зараз не існуюць.

**СЫЧЫН** — вёска ў Кабінагорскім с/с, за 23 км на ПдУ ад Слаўгарада, 93 км ад Магілёва, 73 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. На Пд мяжуе з лесам, на З цячэ р. Галуба (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз былую в. Кліны і далей па шашы Слаўгарад—Доўск. 11 гаспадарак, 26 жыхароў (2007).

У 1857 г. в. Вялікая Шышкаўка (яна ж Сычын) у Быхаўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1897 г. в. Сычын (39 двароў, 324 жыхары) у Старынскай вол. Чэрыкаўскага павета. Меліся школа граматы, піцейны дом. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.6.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1922 г. адкрыта школа, у якой у 1925 г. было 58 вучняў. У 1926 г. 374 жыхары. У 1930-я г. для школы пабудавана памяшканне. У 1931 г. арганізаваны калгас «Молат». У 1932 г. пач. школа стала двухкамплектнай. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 2.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962—65 гг. у Краснапольскім р-не. У 1990 г. ў складзе саўгаса «Памяць Фрунзе» (цэнтр — в. Старынка), 74 гаспадаркі, 183 жыхары. Размяшчаліся вытв. брыгада і ферма па адкорме буйной рагатай жывёлы, 8-гадовая школа, б-ка, магазін. Аснову планіроўкі складае крывалінейная вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі, да якой перпендыкулярна далучаецца з З кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма бел. празаіка, паэта, перакладчыка, лаўрэата Дзярж. прэміі Беларусі (1988) М.Л.Стральцова (1937—87).

**СЯРГЕЕЎКА** — былы пасёлак у б. Старынкаўскім с/с, за 21 км на ПдУ ад Слаўгарада, 91 км ад Магілёва, 72 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. На З цякла р. Галуба (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз былую в. Кліны і далей па шашы Слаўгарад—Доўск. У 1990 г. 25 гаспадарак, 43 жыхары. Пасёлак пацярпеў ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, адселены.

Засн. ў пач. 1920-х гг. З 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У



1962—65 гг. у Краснапольскім р-не. У 1990 г. ў складзе саўгаса «Памяць Фрунзе» (цэнтр — былая в. Старынка). Быў клуб, магазін. Планіровачна складаўся з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай пераважна з паўн. боку традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ТРОСЛІЎКА** — былая вёска ў Гіжэнскім с/с, за 22 км на ПнУ ад Слаўгарада, 92 км ад Магілёва, 23 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Праз вёску працякала р. Тросліўка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Гіжэнка, Ходараў і далей па шашы Слаўгарад—Чэрыкаў. У 1990 г. 17 гаспадарак, 34 жыхары. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай электрастанцыі.

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 1571 г., у складзе Рэчы Паспалітай, калі прывілеем караля Жыгімонта Аўгуста была перададзена Чавускаму кармеліцкаму кляштару. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1783 г. 19 двароў. У 1797 г. 39 жыхароў мужчынскага полу. У 1805 г. 67 жыхароў мужчынскага полу, у складзе фальварка Дабрамысль, уласнасць царквы. У 1811 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 19 двароў, 69 жыхароў мужчынскага полу. У 1848 г. 20 двароў, 164 жыхары, у складзе казённага маёнтка Гарадзец Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ. З 1849 г. працавала сукнавальня. У 1873 г. 139 жыхароў. Гаспадар маёнтка, што жыў побач, меў у 1878 г. 1329 дзес. зямлі, вадзяны млын, карчму, крупадзёрку і маслабойню (з 1880). У 1880 г. 43 двары, 245 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася бандарным промыслам. У 1897 г. ў Даўжанскай вол. Чэрыкаўскага павета, 59 двароў, 429 жыхароў. У 1909 г. 61 двор, 449 жыхароў, належала Тросліўскаму сельскаму т-ву. Адносілася да Целяшоўскага праваслаўнага прыхода. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. 1.10.1924 г. адкрыта 4-гадовая школа, у якой у 1925 г. было 40 вучняў, меўся драматычны гурток. У 1926 г. ў Целяшоўскім с/с, 351 жыхар, 4-класная школа. У 1931 г. школа стала двухкамплектнай. У лютым 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны васход». У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962—65 гг. у Чавускім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Ходараў). Размяшчаліся ферма па адкорме буйной рагатай жывёлы, магазін. Планіровачна складалася з 2 паралельных вуліц (б. вёскі Навінка і Васход), арыентаваных з ПнУ на ПдЗ і забудаваных двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне знаходзіўся гасп. сектар.

**ТРУД** — былы пасёлак у б. Баханскім с/с, за 32 км на ПдЗ ад Слаўгарада, 102 км ад Магілёва, 40 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Вялікая Зімніца, Малая Зімніца і далей па шашы Доўск—Слаўгарад. У 1990 г. 1 гаспадарка, 8 жыхароў. Пасёлак пацярпеў ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі.

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З 20.8.1924 г. ў Журавіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім, з 12.2.1935 г. ў Доўскім, з 5.4.1935 г. ў Журавіцкім, з 17.12.1956 г. ў Быхаўскім, з 31.3.1958 г. ў Слаўгарадскім р-не Магілёўскай акругі (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Гомельскай, з 17.12.1956 г. ў Магілёўскай абласцях. У 1931 г. арганізаваны калгас «1 Мая». У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. ў складзе калгаса «Наперад» (цэнтр — в. Вял. Зімніца). Традыц. драўляная сял. сядзіба была пастаўлена каля прасёлачнай дарогі.

**УЗГОРСК** — вёска ў Лапаціцкім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Слаўгарада, 52 км ад Магілёва, 28 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На

З цячэ р. Раста (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Лапацічы і далей па шашы Магілёў—Слаўгарад. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 18 ст. У 1778 г. ўпамінаецца як в. Угорск. У 1783 г. 5 двароў, 19 жыхароў. У 1857 г. аколіца ў Быхаўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1873 г. 41 рэвізскіх і 43 прышлыя селяніны. У 1897 г. ў Даўгамохскай вол. Быхаўскага павета, 6 двароў, 38 жыхароў. У 1909 г. 22 двары, 106 жыхароў. Адносілася да Цяплянскага праваслаўнага прыхода.


*М.П.Бяганскі.*

З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 191 жыхар, у канцы 1920-х г. каля 40 двароў. У крас. 1930 г. арганізаваны калгас «Перамога». У 1940 г. 30 двароў, 90 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў кастр. 1943 г. спалілі 28 двароў, загубілі 15 жыхароў. У 1951 г. радыёфікавана, некалькі пазней — электрыфікавана. У 1962—65 гг. у Чавускім р-не. У 1990 г. ў складзе племсаўгаса «Жалезінскі» (цэнтр — в. Лапацічы), 9 гаспадарак, 24 жыхары. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы ўздоўж берага ракі і забудаванай няшчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.


*Помнік прыроды мясцовага значэння — лістоўніца (узрост каля 200 гадоў) непадалёку ад в. Улукі.*

Радзіма М.П.Бяганскага (нар. ў 1934), Героя Сац. Працы, звеннявога механізаванага звяна па вырошчванні бульбы былога калгаса імя Кірава.

**УЛУКІ** — вёска ў Лапаціцкім с/с, за 19 км на ПнЗ ад Слаўгарада, 61 км ад Магілёва, 29 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. На У цячэ р. Проня (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Рабавічы і далей па шашы Магілёў—Слаўгарад. 36 гаспадарак, 58 жыхароў (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 17 ст. У 1684 г. сяло ў Прапойскім старостве Аршанскага павета, дзярж. ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1773 г. вядома пад назвай Улоскі. У 1783 г. 58 двароў, 282 жыхары. У 1858 г. ў Быхаўскім павеце Магілёўскай губ., 89 жыхароў мужчынскага полу, у складзе аднайменнага маёнтка, уласнасць памешчыка. Побач быў маёнтак, гаспадар якога ў 1869 г. меў 3721 дзес. зямлі, 3 вадзяныя млыны, карчму. У 1880 г. 43 двары, 314 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася рамізніцкім і кравецкім промысламі. У 1897 г. ў Даўгамохскай вол. Быхаўскага павета, 65 двароў, 446 жыхароў. Дзейнічалі школа граматы, хлебазапасны магазін, піцейны дом. У 1907 г. школа граматы ператворана ў земскую, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1909 г. 70 двароў, 520 жыхароў. Належала Улуцкаму сельскаму т-ву. Адносілася да Рабавіцкага прыхода. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 69 вучняў, у ліку якіх 1 камсамолец. У 1926 г. 611 жыхароў. У 1929 г. пач. школа стала двухкамплектнай. У 1920-я г. дзейнічала садова-



агароднiцкая арцель, у 1929 г. арганізаваны калгас імя А.Р.Чарвякова. У 1940 г. 132 двары, 623 жыхары. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы спалілі 12 двароў, загубілі 16 жыхароў. Каля вёскі ў 1943 г. войскі Чырвонай Арміі вялі цяжкія баі супраць гітлераўцаў. У 1961 г. радыёфікавана, некалькі пазней — электрыфікавана. У 1962—65 гг. у Чавускім р-не. У 1990 г. ў складзе саўгаса «Лясная» (цэнтр — в. Лясная), 62 гаспадаркі, 111 жыхароў. Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. У 2007 г. працаваў магазін. Схема планіроўкі і забудовы распрацавана ў 1984 г. Бел. н.-д. і праектным ін-там па будаўніцтве ў вёсцы. Да гал. крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, далучаецца перпендыкулярна другая крывалінейная вуліца. Яшчэ адна, кароткая прамалінейная вуліца, арыентавана паралельна да гал. Забудова двухбаковая, традыц., драўляная, сядзібнага тыпу. На З — гасп. сектар.

Вёска — радзіма таджыкскага геолага, акадэміка АН Таджыкскай ССР А.П.Нядзвецкага (1902—92), бел. хіміка-арганіка, чл.-кар. НАН Беларусі, доктара хімічных навук, праф. І.Р.Цішчанкі (1912—87).

**УРЭЧЧА 1** — вёска ў Васькавіцкім с/с, за 9 км на З ад Слаўгарада, 79 км ад Магілёва, 49 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны. На Пн праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Пясчанка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Слаўгарад—Ніканавічы, якая праходзіць праз вёску. 55 гаспадарак, 128 жыхароў (2007).

Першае пісьмовае ўпамінанне пра вёску адносіцца да 1675 г. Тады яна налічвала 6 двароў, з'яўлялася дзярж. уласнасцю (пасэсія) у Прапойскім старостве. У 1765 г. 22 двары, у 1769 г. 60 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. в. Урэчча, у Старабыхаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1786 г. ў Быхаўскім павеце, 21 двор, 181 жыхар, уласнасць памешчыка. У 1799 г. 29 двароў, 192 жыхары. У 1880 г. 54 двары, 290 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася шавецкім, кравецкім, кавальскім і адыходным промысламі, вырабам посуду і іншых быт. рэчаў з дрэва. У 1897 г. 78 двароў, 570 жыхароў. Меўся хлебазапасны магазін. У 1909 г. 119 двароў, 680 жыхароў, дзейнічала школа граматы. Адносілася да Прапойскага праваслаўнага прыхода. З 1919 г. Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 20.8.1924 г. да 21.10.1924 г. цэнтр сельсавета. Пач. школа ў 1930 г. стала двухкамплектнай. У 1925 г. было створана перасяленчае т-ва «Новае жыццё» з 20 сямей, якія выехалі ў Крым на асваенне новых зямель. У 1931 г. арганізаваны калгас «Свабода». У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962—65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса «XVII партз'езд» (цэнтр — в. Шаламы), 64 гаспадаркі, 170 жыхароў. Размяшчаліся паляводчая брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, цэх па прыгатаванні вітаміннай мукі. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. У 2007 г. працаваў магазін. Аснову планіровачнай структуры складаюць 2 прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ і злучаныя шашой, уздоўж якой склалася вуліца шыротнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПнЗ — гасп. сектар.


*І.Р.Цішчанка.*

**УРЭЧЧА 2** — вёска ў Васькавіцкім с/с, за 12 км на З ад Слаўгарада, 82 км ад Магілёва, 50 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны. На ПдЗ цячэ р. Пясчанка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Урэчча 1 і далей па шашы Слаўгарад—Ніканавічы. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г., калі на былых памешчыцкіх землях пачалі будавацца перасяленцы з суседніх вёсак. З 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962—65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса «XVII партз'езд» (цэнтр — в. Шаламы), 26 гаспадарак, 48 жыхароў. Размяшчаліся гасп. двор, магазін. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі. На У ад яе ідзе кароткая, прамалінейная вуліца. Забудавана пераважна двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**УСОХІ** — вёска ў Гіжэнскім с/с, за 16 км на ПнУ ад Слаўгарада, 86 км ад Магілёва, 30 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Усошка (прыток р. Трослiўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ходараў і далей па шашы Слаўгарад—Чэрыкаў. 8 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 18 ст. У 1765 г. ў Прапойскім старостве, 15 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1785 г. ўласнасць памешчыка ў Чэрыкаўскім павеце. У 1799 г. 53 двары, 375 жыхароў. У 1873 г. 96 рэвізскіх і 123 прышлыя селяніны. У 1880 г. 63 двары, 303 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім, адыходным і бандарным промысламі. У 1897 г. мелася школа граматы. У 1909 г. ў Баханскай вол. Быхаўскага павета, 63 двары, 376 жыхароў, належала Усохскаму сельскаму т-ву. Адносілася да Даўжанскага праваслаўнага прыхода. У 1912 г. існавала аднакласная царк.-прыходская школа. У 1917 г. 401 жыхар. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1923 г. 10 вяскоўцаў аб'ядналіся ў меліярацыйнае т-ва. У 1926 г. 300 жыхароў. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 3.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што на вясковых могілках, пахаваны 85 сав. воінаў, якія загінулі ў 1943 г. У 1962—65 гг. у Краснапольскім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса «40 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Ходараў), 39 гаспадарак, 92 жыхары. Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы, пач. школа, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ, размешчаных па абодва бакі ракі і злучаных мясц. дарогай з мастом. Забудавана двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны на Пд, сярод жылой забудовы.

**УСТАННАЕ** — вёска ў Лапаціцкім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Слаўгарада, 53 км ад Магілёва, 25 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Раста (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Слаўгарад. 23 гаспадаркі, 28 жыхароў (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 17 ст. У 1675 г. в. Устанна, 8 двароў, дзярж. ўласнасць (пасэсія) у Прапойскім старостве. У 1765 г. 16 двароў, у 1769 г. мелася карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. в. Усціна-Чыкаўка ў Старабыхаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1772 г. 172 жыхары (беглых 4 чал.). У 1786 г. ў Быхаўскім павеце, 25 двароў, 190 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1799 г. 22 двары, 140 жыхароў, валоданне князя А.В.Галіцына. У 1858 г. ў Быхаўскім павеце Магілёўскай губ., 54 жыхары мужчынскага полу, у складзе маёнтка Улукі. У 1873 г. 54 рэвізскія і 69 прышлых сялян. У 1897 г. ў Даў-



гамохскай вол. Быхаўскага павета, 27 двароў, 199 жыхароў, меліся школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 38 двароў, 267 жыхароў. Адносілася да Цяплянскага праваслаўнага прыхода. У 1913 г. школа граматы ператворана ў земскую. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якой у 1918 г. перададзены нацыяналізаваны будынак. У 1925 г. ў школе было 42 вучні, дзейнічала б-ка. У 1926 г. 278 жыхароў. У 1931 г. пач. школа стала двухкамплектнай. У 1940 г. 52 двары, 310 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў жн. 1943 г. спалілі 47 двароў, загубілі 4 жыхары. Пасля вайны адбудавана. У 1951 г. радыёфікавана, некалькі пазней — электрыфікавана. У 1962—65 гг. у Чавускім р-не. У 1990 г. ў складзе племсаўгаса «Жалезінскі» (цэнтр — в. Лапацічы), 52 гаспадаркі, 101 жыхар. Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, уздоўж берага ракі і забудаванай пераважна двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

У вёсцы жыве Герой Сац. Працы, звеннявы механізаванага звяна па вырошчванні бульбы б. калгаса імя С.М.Кірава М.П.Бяганскі (нар. ў 1934), радзіма бел. празаіка, публіцыста У.І.Кузьмянкова (нар. ў 1936).

**ХАРАНЕЎ** — вёска ў Лапаціцкім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Слаўгарада, 54 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Раста (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Улукі і далей па шашы Магілёў—Слаўгарад. 25 гаспадарак, 37 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 1560 г. як урочышча Харанова Селішча. У 1690 г. ўласнасць памешчыка. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. в. Харанёва ў Старабыхаўскай акрузе Магілёўскай губ., вадзяны млын. У 1783 г. 26 двароў, 272 жыхары. У 1799 г. 25 двароў, 246 жыхароў. У 1841 г. дзейнічала гарбарня, у 1873 г. 114 рэвізскіх і 126 прышлых душ, у 1881 г. пачала працаваць сукнавальня. Непадалёку знаходзіўся маёнтак, гаспадар якога дваранін Русінаў у 1873 г. меў 237,5 дзес. зямлі і вадзяны млын. У 1880 г. 44 двары, 258 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася адыходным і кравецкім промысламі. У 1897 г. ў Даўгамохскай вол. Быхаўскага павета, 65 двароў, 400 жыхароў. Меліся школа граматы, хлебазапасны магазін, піцейны дом. У сядзібе былі 1 двор, 7 жыхароў, млын. У 1910 г. 72 двары, 460 жыхароў. У 1912 г. існавала аднакласная царк.-прыходская школа, дзейнічала 4-класная школа. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. Магілёўскай вобл. У кастр. 1924 г. адкрыта школа, якой быў перададзены нацыяналізаваны будынак, а ў 1925 г. ў школе было 62 вучні, дзейнічаў драматычны гурток. У 1930 г. пач. школа стала двухкамплектнай. У 1930 г. арганізаваны калгас «Пуцілавец», у 1938 г. пабудавана гідраэлектрастанцыя магутнасцю 45 кВт. Электраэнергію атрымалі калгас «Пуцілавец» і суседні калгас імя С.М.Кірава. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. ўступіў у строй радыёвузел і вёска была радыёфікавана, некалькі пазней — электрыфікавана. У 1962—65 гг. у Чавускім р-не. У 1990 г. ў складзе племсаўгаса «Жалезінскі» (цэнтр — в. Лапацічы), 65 гаспадарак, 119 жыхароў. Размяшчаліся вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Аснову планіро-



*У.І.Кузьмянкоў.*

вачнай структуры складае прамалінейная вуліца шыротнай арыентацыі з завулкамі. Праз гэту вуліцу перпендыкулярна праходзіць мясц. дарога з мостам цераз раку. На Пд ад ракі размешчаны адасоблены ўчастак забудовы. Жылыя дамы традыц., драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ХВАРАСЦЯНЫ** — вёска ў Лапаціцкім с/с, за 26 км на ПнЗ ад Слаўгарада, 56 км ад Магілёва, 26 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Рудня (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Пацяраеўка і далей па шашы Магілёў—Слаўгарад. 72 гаспадаркі, 174 жыхары (2007).


*М.Р.Ларчанка.*


*А.Г.Масарэнка.*

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 16 ст. У 1555 г. сяло ў Прапойскай вол. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1675 г. в. Фарасцяны налічвала 13 двароў. У 1750 г. 21 двор, у 1772 г. 275 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1786 г. ў Быхаўскім павеце, 30 двароў, 257 жыхароў, мелася карчма, з'яўлялася ўласнасцю памешчыка. У 1799 г. валоданне князя А.В.Галіцына. У 1897 г. ў Даўгамохскай вол. Быхаўскага павета, 26 двароў, 186 жыхароў. Меліся школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 38 двароў, 328 жыхароў, належала Хварасцянскаму сельскаму т-ву. Адносілася да Цяплянскага праваслаўнага прыхода. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 296 жыхароў. У 1928 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Зорка». У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1951 г. радыёфікавана, некалькі пазней электрыфікавана. У 1962—65 гг. у Чавускім р-не. У 1990 г. ў складзе племсаўгаса «Жалезінскі» (цэнтр — в. Лапацічы), 39 гаспадарак, 72 жыхары. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. У 2007 г. агульнаадукац. школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіроўка Т-падобная. Гал. прамалінейная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ, уздоўж ракі. Да яе на ПнЗ перпендыкулярна далучаецца другая вуліца. Забудавана двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры каля ракі — гасп. двор.

Радзіма бел. крытыка і літаратуразнаўцы, засл. дзеяча навукі Беларусі, доктара філалагічных навук, праф. М.Р.Ларчанкі (1907—81).

**ХОДАРАЎ** — вёска ў Гіжэнскім с/с, цэнтр б. калгаса «40 гадоў Кастрычніка», за 11 км на ПнУ ад Слаўгарада, 81 км ад Магілёва, 33 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пд і Пн мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Слаўгарад—Чэрыкаў, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 21 гаспадарка, 40 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 71 двор, 252 жыхары. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 3.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1943 г. гітлераўцы спалілі 69 двароў, загубілі 18 жыхароў. За 0,2 км на ПдЗ ад вёскі і на могілках у брацкіх і індывідуальных магілах пахаваны 214 сав. воінаў.

У 1962—65 гг. у Краснапольскім р-не. У 1990 г. 68 гаспадарак, 168 жыхароў. У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, ферма буйной рагатай жывёлы. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. У 2007 г. клуб, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аўтаматычная тэлеф. станцыя. Да крывалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі з У перпендыкулярна далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма бел. празаіка, перакладчыка А.Г.Масарэнкі (нар. ў 1938).



**ЦЕЛЯШЫ** — вёска ў Гіжэнскім с/с, за 25 км на ПнУ ад Слаўгарада, 95 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Крупка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Гіжэнка, Ходараў і далей па шашы Слаўгарад—Чэрыкаў. 100 гаспадарак, 259 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 16 ст. У 1571 г. падпісаны прывілей караля Жыгімонта Аўгуста на пажалаванне сяла Целяшы Чавускаму кармяліцкаму кляштару. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1797 г. 41 жыхар мужчынскага полу. У 1805 г. ў складзе маёнтка Дабрамысль. У 1811 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 20 двароў, 60 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць царквы. У 1834 г. 147 жыхароў, дзярж. ўласнасць. У 1848 г. ў складзе казённага маёнтка Гарадзея Чэрыкаўскага павета, 19 двароў, 181 жыхар. Меліся карчма, 2 млыны, драўляная царква. У 1872 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), якая ў 1902 г. ператворана ў царк.-прыходскую, у тым жа годзе для яе пабудавана памяшканне. У 1880 г. 50 двароў, 247 жыхароў, у 1886 г. 296 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася сталярным промыслам. У 1897 г. ў Даўжанскай вол. Чэрыкаўскага павета, 72 двары, 480 жыхароў. Меліся 2 крамы, карчма, царква. Раз у год праводзіўся кірмаш. У 1909 г. 91 двор, 583 жыхары. Дзейнічаў млын. Належала Целяшоўскаму сельскаму т-ву. Адносілася да Целяшоўскага праваслаўнага прыхода. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. Магілёўскай вобл. З 20.8.1924 г. да 30.11.1961 г. і з 22.11.1963 г. да 6.1.1965 г. цэнтр сельсавета. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 84 вучні, дзейнічаў драматычны гурток. У 1926 г. 528 жыхароў. У 1930 г. пач. школа стала двухкамплектнай. У маі 1930 г. арганізаваны калгас імя Сталіна, які ў 1931 г. аб'ядноўваў 73 гаспадаркі. У 1930-я гг. ўзведзены будынкі 7-гадовай школы, медпункта, пошты, праўлення калгаса, у 1939 г. — клуба, урачэбнага ўчастка, пачала дзейнічаць стацыянарная кінаўстаноўка. У 1940 г. 108 двароў, 278 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 3.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час акупацыі каля вёскі дыслацыраваліся партыз. полк «Трынаццаць» і 1-я Быхаўская партыз. брыгада. У жн. 1943 г. акупанты спалілі 82 двары, загубілі 14 жыхароў. У брацкіх магілах, што за 1,5 км на ПдЗ ад вёскі, і на мясц. могілках пахаваны 38 сав. воінаў, якія загінулі ў 1943 г. Каля будынка праўлення калгаса ў 1967 г. пастаўлены абеліск у памяць аб 104 зем-

*Жылыя дамы ў аграгарадку Целяшы.*







*Помнік землякам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у аграгарадку Целяшы.*



*Дом культуры ў аграгарадку Целяшы.*



*Фельчарска-акушэрскі пункт у аграгарадку Целяшы.*

ляках, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе.

У 1962—65 гг. у Чавускім р-не. У 1990 г. цэнтр калгаса «Рассвет», 96 гаспадарак, 220 жыхароў. У вёсцы размяшчаліся майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, устаноўка па прыгатаванні вітамiннай мукі, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, агульнаадукац. школа, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аптэка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. ашчаднага банка. З 2003 г. цэнтр СВК «Рассветаўскі Агра». У 2007 г. б-ка, школа, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, аптэка, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі і «Беларусбанка». Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Тры асн. крывалінейныя вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі злучаны завулкамі і ўтвараюць адвольную сетку кварталаў. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне склаўся адм.-грамадскі цэнтр. Апрача грамадскіх будынкаў тут узведзена шмат тыпавых мураваных жылых дамоў. На Пн — гасп. сектар.

Радзіма бел. паэта В.А.Ракава (1935—2000).

**ЦЕРАХОЎКА** — вёска ў Васькавіцкім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Слаўгарада, 89 км ад Магілёва, 58 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Пацэя (прыток р. Касалянка), якая бярэ пачатак на Пд ад вёскі. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Бязуевічы і далей па шашы Слаўгарад—Доўск. 61 гаспадарка, 124 жыхары (2007).

У 1858 г. вёска (134 жыхары мужчынскага полу) у складзе маёнтка Стайкі Быхаўскага павета Магілёўскай губ. Мелася карчма. У 1875 г. адкрыта школа (нар. вучылішча). У 1884 г. 65 двароў, 261 жыхар. У 1897 г. ў Бычанскай вол. Быхаўскага павета, 96 двароў, 633 жыхары. Дзейнічалі млын, хлебазапасны магазін.



У 1909 г. 95 двароў, 727 жыхароў, належала Церахаўскаму сельскаму т-ву. Адносілася да Гайшынскага праваслаўнага прыхода.

З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 16.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені імя С.М.Халтурына (у 1925 г. 84 вучні). У 1929 г. школа стала двухкамплектнай. 11.7.1920 г. адкрыта школа для ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. 825 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Церахоўка», а ў 1931 г. — калгас імя В.М.Молатава. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. ў складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Гайшын), 92 гаспадаркі, 221 жыхар. Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, ветэрынарны ўчастак. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. У 2007 г. працаваў магазін. Аснову планіровачнай структуры складае крывалінейная вуліца шыротнай арыентацыі з мостам цераз раку. Паралельна і перпендыкулярна да яе ідуць другарадныя вуліцы. Сярод традыц. драўлянай жылой забудовы сядзібнага тыпу размешчаны некалькі мураваных жылых дамоў і грамадскія будынкі. На ўсх. ускраіне — гасп. сектар, на Пд сад.

Радзіма доктара медыцынскіх навук, праф. І.М.Ламачэнкі (нар. ў 1932).

**ЦІШ** — былы пасёлак у б. Баханскім с/с, за 32 км на ПдЗ ад Слаўгарада, 102 км ад Магілёва, 42 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вялікая Зімніца і далей па шашы Слаўгарад—Доўск. У 1990 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары. Пасёлак пацярпеў ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі.

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З 1924 г. ў Журавіцкім, з 8.7.1931 г. ў Быхаўскім, з 12.2.1935 г. ў Доўскім, з 5.4.1935 г. ў Журавіцкім, з 17.12.1956 г. ў Быхаўскім, з 31.3.1958 г. ў Слаўгарадскім р-нах Магілёўскай акругі (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Гомельскай, з 17.12.1956 г. ў Магілёўскай абласцях. У 1930-я гг. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11. 1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. ў складзе калгаса «Наперад» (цэнтр — в. Вялікая Зімніца). Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.

**ЧАРНЯКОЎКА** — вёска ў Свенскім с/с, за 22 км на ПдЗ ад Слаўгарада, 92 км ад Магілёва, 61 км ад чыг. ст. Рагачоў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Пацэя). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Свенск і далей па шашы Слаўгарад—Доўск. 60 гаспадарак, 136 жыхароў (2007).

У 1857 г. вёска ў Быхаўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1873 г. 253 рэвізскія і 247 прышлых душ. У 1880 г. 74 двары, 502 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1886 г. ў Навабычанскай вол., 75 двароў, 549 жыхароў, вятрак, заезны дом. У 1897 г. ў Бычанскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 106 двароў, 663 жыхары. Меліся хлебазапасны магазін, млын, школа граматы. У 1907 г. ў школе (нар. вучылішча) навучаліся 45 хлопчыкаў і 3 дзяўчынкі. У 1909 г. 103 двары, 727 жыхароў. Належала Чарнякоўскаму сельскаму т-ву. Адносілася да Хляўнянскага праваслаўнага прыхода. У 1917 г. 112 двароў, 772 жыхары. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 20.8. 1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, для якой у 1924 г. пабудавана памяшканне (у 1925 г. 90 вучняў, дзейнічаў літ.-мастацкі гурток). У 1926 г. 644 жы-



*І.М.Ламачэнка.*





хары. У 1930 г. школа стала двухкамплектнай. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Фрунзе, пач. школа ператворана ў 7-гадовую. У 1934 г. адкрыты дзіцячыя яслі, у 1939 г. — урачэбны ўчастак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 143 сав. воіны, якія загінулі ў баях супраць гітлераўцаў. 126 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. На ўшанаванне іх памяці ў цэнтры вёскі ў 1977 г. пастаўлена стэла. У 1952 г. ўведзены ў строй радыёвузел, вёска радыёфікавана, а потым — электрыфікавана. У 1962—65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Свенск), 76 гаспадарак, 189 жыхароў. Размяшчаліся вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. У 2007 г. клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Аснову планіроўкі складаюць 2 паралельныя вуліцы, арыентаваныя з ПдУ на ПнЗ па баках ручая. Забудова пераважна драўляная, двухбаковая, сядзібнага тыпу. З Пд перпендыкулярна да гал. падыходзіць новая вуліца, забудаваная сучаснымі мураванымі жылымі дамамі. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. На Пн і Пд — гасп. сектар.

**ЧАЧОРАЎКА** — вёска ў Васькавіцкім с/с, за 5 км на З ад Слаўгарада, 75 км ад Магілёва, 45 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Пясчанка). Транспартныя сувязі па шашы Слаўгарад—Доўск, якая праходзіць паблізу вёскі. 19 гаспадарак, 39 жыхароў (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 19 ст. У 1897 г. фальварак Чачораўка (ён жа Аляксандраў) налічваў 1 двор, 24 жыхары, у Прапойскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. Адносіўся да Прапойскага праваслаўнага прыхода. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 55 жыхароў. У 1930-я гг. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962—65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса імя М.Горкага (цэнтр — в. Папоўка), 37 гаспадарак, 106 жыхароў. Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, кормапрадпрыемства «Кастрычнік». Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Аснову планіроўкі складае прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПнЗ на ПдУ. На Пд ад яе, па абодва бакі ручая, размешчаны адасобленыя ўчасткі забудовы. Жылыя дамы традыц., драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены пераважна двухбакова. На Пд — гасп. сектар.

**ЧЫКАЎКА** — вёска ў Лапаціцкім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Слаўгарада, 53 км ад Магілёва, 28 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. На паўн.-ўсх. ускраіне цячэ р. Раста (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Слаўгарад. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1772 г. 116 жыхароў. У 1777 г. вёска ў Старабыхаўскай акрузе Магілёўскай губ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 19 двароў, 138 жыхароў, уладанне кн. А.М.Галіцына, у 1835 г. — памешчыцы Цеханавецкай. У 1858 г. ў Быхаўскім павеце, 48 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. З 1866 г. працавала крупадзёрка, з 1879 г. — мукамольня. У 1880 г. 24 двары, 103 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася рамізніцкім і кавальскім промысламі. У 1897 г. ў Даўгамохскай вол. Быхаўскага павета, 217 жыхароў. Меліся школа граматы, хлебазапасны магазін. Непадалёку была сядзіба (1 двор, 11 жыхароў, млын). У 1909 г. 42 двары, 244 жыхары, належала Чыкаўскаму сельскаму т-ву. Адносілася да Даўгамох-



скага праваслаўнага прыхода. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 312 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Чыкаўка». У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1951 г. радыёфікавана, некалькі пазней электрыфікавана. У 1962—65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1990 г. ў складзе племсаўгаса «Жалезінскі» (цэнтр — в. Лапацічы), 30 гаспадарак, 52 жыхары. Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Планіровачна складаецца з падзеленай выганам прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, перпендыкулярна да ракі. Забудавана традыц. драўлянымі сял. сядзібамі. На У — гасп. сектар.

**ЧЫРВОНАЯ СЛАБАДА** — былая вёска ў Лапаціцкім с/с, за 10 км на Пн ад Слаўгарада, 60 км ад Магілёва, 30 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Проня (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па шашы Магілёў—Слаўгарад, якая праходзіла паблізу вёскі. У 1990 г. 69 гаспадарак, 167 жыхароў. Вёска пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі.

За 1—2 км на Пн і ПнЗ ад вёскі знаходзіцца гарадзішча мілаградскай культуры і 2 курганныя могільнікі эпохі Кіеўскай Русі (2 і 5 насыпаў), што сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Па рукапісных крыніцах вёска вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска Міхайлаўка ў Старабыхаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1880 г. 32 двары, 170 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся сталярным, кравецкім, бандарным і кушнерскім промысламі. У 1897 г. ў Прапойскай вол. Быхаўскага павета, 49 двароў, 348 жыхароў. Меўся хлебазапасны магазін (адкрыты не пазней 1882). У 1909 г. 59 двароў, 404 жыхары, дзейнічала школа граматы. Адносілася да Рабавіцкага праваслаўнага прыхода. У 1912 г. існавала аднакласная царк.-прыходская школа. У 1917 г. 71 двор, 521 жыхар. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. 10.11. 1924 г. адкрыта пач. школа, у якой у 1925 г. было 35 вучняў, дзейнічаў літ.-драматычны гурток. У 1930 г. школа стала двухкамплектнай. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Слабада». У 1940 г. 85 двароў, 520 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы ў кастр. 1943 г. спалілі 83 двары, загубілі 30 жыхароў. Войскі Чырвонай Арміі, якія ў 1943 г. вызвалялі раён, вялі тут цяжкія баі. На вясковых могілках у 2 брацкіх магілах пахаваны 1099 сав. воінаў, якія загінулі ў гэтых баях. Пасля вайны адбудавана. У 1951 г. была радыёфікавана, некалькі пазней электрыфікавана. У 1962—65 гг. у Чавускім р-не. У 1990 г. ў складзе саўгаса «Лясная» (цэнтр — в. Лясная). Размяшчаліся паляводчая брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы. У 2007 г. працуюць пач. школа, магазін. Схема планіроўкі і забудовы былі распрацаваны ў 1984 г. Бел. н.-д. і праектным ін-там па будаўніцтве ў вёсцы. Аснову планіровачнай структуры складала плаўна выгнутая вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі. Была забудавана традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На З ад гал., паралельна да яе, ішла другая вуліца, якая забудоўвалася пераважна сучаснымі муравымі жылымі дамамі. На У знаходзіўся гасп. сектар, на З — сад.

**ШАЛАМЫ** — вёска ў Васькавіцкім с/с, за 6 км ПнЗ ад Слаўгарада, 76 км ад Магілёва, 47 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Пясчанка (прыток р. Сож).

Транспартныя сувязі па шашы Слаўгарад—Ніканавічы, якая праходзіць праз вёску. 61 гаспадарка, 147 жыхароў (2007).

Упершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца ў 1675 г. ў спісе пазямельных падаткаў (чыншаў) з каралеўскай Прапойскай вол., налічвала 3 двары, у 1681 г. меўся вадзяны млын, у 1765 г. — 8 двароў. У 1769 г. дзейнічала карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1772 г. 102 жыхары, у 1786 г. ў Быхаўскім павеце, 18 двароў, 114 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1858 г. ў Быхаўскім павеце, 175 жыхароў, уласнасць памешчыка, у 1880 г. 77 двароў, 300 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася шавецкім, адыходным і кравецкім промысламі. Непадалёку быў маёнтак Міхалова Прапойскае. У 1889 г. адкрыта земская школа, у якой у 1907 г. навучаліся 153 хлопчыкі. У 1911 г. для школы была куплена сял. хата. У 1897 г. 58 двароў, 412 жыхароў, меўся піцейны дом. У 1907 г. 71 двор, 480 жыхароў, з 1908 г. дзейнічала 4-класнае вучылішча. У 1917 г. 102 двары, 662 жыхары. З 1919 г. ў Быхаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі БССР (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 50 вучняў. У 1926 г. 933 жыхары. У 1929 г. школа стала двухкамплектнай, а ў 1934 г. — трохкамплектнай. У 1930-я гг. былі вёскі Шаламы і Шаламы 1. У 1931 г. арганізаваны калгас «Барацьбіт». У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962—65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса «XVII партз'езд» (цэнтр — былая в. Чырвоны Усход), 107 гаспадарак, 282 жыхары. Размяшчаліся вытв. брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая. З 2003 г. цэнтр СВК «XVII партз'езд». У 2007 г. клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1969 г. Магілёўскімі праектнымі майстэрнямі ін-та «Белдзяржпраект». Аснову планіровачнай структуры складае крывалінейная вуліца шыротнай арыентацыі (адрэзак шашы), да якой пад рознымі вугламі падыходзяць з Пд і Пн кароткія другарадныя вуліцы. Забудавана традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На З, уздоўж гал. вуліцы і перпендыкулярна да яе складваюцца новыя вуліцы, забудаваныя мураванымі жылымі дамамі. На Пн і З — вытв. сектар.

**ЯСЯНОВІЦА** — вёска ў Васькавіцкім с/с, за 6 км на ПдЗ ад Слаўгарада, 76 км ад Магілёва, 46 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ПнЗ цячэ р. Пясчанка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Слаўгарад—Доўск, якая праходзіць паблізу вёскі. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 1924 г. ў Прапойскім (з 23.5.1945 г. Слаўгарадскі) р-не Магілёўскай акругі (да ліп. 1930), з 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962—65 гг. у Быхаўскім р-не. У 1990 г. ў складзе калгаса імя М.Горкага (цэнтр — в. Папоўка), 19 гаспадарак, 33 жыхары. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.



**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 3, воп. 1, спр. 3347; ф. 6, воп. 1, спр. 543, 2523, 2593; ф. 28, воп. 1, спр. 2962; ф. 30, воп. 1, спр. 1322, 2379, 3347; ф. 31, воп. 1, спр. 255, 977; воп. 3, спр. 10; ф. 42, воп. 1, спр. 942, 1127, 1756, 1778, 2127; воп. 2, спр. 4265—4268, 4270—4274, 4281, 4282, 4287, 4288, 4291, 4293, 4296, 4297, 4299; ф. 46, воп. 1, т. 2, спр. 519; ф. 48, воп. 1, спр. 1778, 2271, 2733, 2962, 2967, 4962, 5382; ф. 141, воп. 1, спр. 177, 252; воп. 21, спр. 144; ф. 251, воп. 1, спр. 264; ф. 300, воп. 1, спр. 226; ф. 334, воп. 1, спр. 37, 447, 470; воп. 2, спр. 37; ф. 338, воп. 1, спр. 140; ф. 1024, воп. 1, спр. 715, 831; ф. 2084, воп. 1, спр. 617.

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. КМФ-5, воп. 1, спр. 2505; ф. 142, воп. 1, спр. 178; ф. 284, воп. 1, спр. 617; ф. 694, воп. 1, спр. 1556; воп. 2, спр. 3981, 3982а; воп. 4, спр. 1556, т. 1; ф. 1297, воп. 1, спр. 18445; ф. 1729, воп. 1, спр. 78; ф. 1772, воп. 3, спр. 1; ф. 2001, воп. 1, спр. 868, 956; ф. 2014, воп. 1, спр. 5, 7, 96, 78, 250, 259, 422, 548; ф. 2084, воп. 1, спр. 110, т. 1, 608, 609, 617; ф. 2151, воп. 1, спр. 61, 81, 178, 198, 212; ф. 2152, воп. 1, спр. 212; ф. 2185, воп. 1, спр. 6; ф. 2189, воп. 1, спр. 309; ф. 2254, воп. 2, спр. 387.

Дзяржаўны архіў Магілёўскай вобласці, ф. 10, воп. 1а, спр. 1; ф. 6592, воп. 1, спр. 1, 46.

Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы, ф. ДА, спр. 32, 92, 138, 3802, 5349; ф. КМФ-1, воп. 2, спр. 467; ф. 459, воп. 1, спр. 2305; ф. 1282, воп. 1, спр. 5616.

Аддзел рукапісаў Навуковай бібліятэкі Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта, ф. 4, спр. 1226, 2015, 4914.

Аддзел рукапісаў і рэдкіх кніг Расійскай нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбургу, ф. IV, 768.

Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў, ф. 389, воп. 1, спр. 65, 73; ф. 1355, воп. 1, спр. 709.

Расійскі дзяржаўны ваенна-гістарычны архіў, ф. 1915, воп. 4, спр. 4.

Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 31, воп. 2, спр. 806; ф. 377, воп. 19, спр. 5; ф. 577, воп. 19, спр. 5, 20, 22, 36, 40, 41, 42, 43, 45, 57, 58, 64, 83, 1568, 1571, 1592, 1662, 1712; ф. 694, воп. 4, спр. 1556, т. 1; ф. 822, воп. 11, спр. 872, 872а, 872в, 873а; воп. 12, спр. 2589; ф. 1290, воп. 11, спр. 1341, 1375, 1391; ф. 1350, воп. 312, спр. 96.

Архіў Расійскай акадэміі навук: Пецярбургскае аддз., ф. 30, воп. 2, спр. 30, 113.

Бібліятэка Чартарыйскіх у Кракаве, рук. 4568.

Бутурмин Д.П. История нашествия императора Наполеона на Россию в 1812 г. Ч. 1. СПб., 1823.

Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. 8, ч. 3. Могилевская губерния. СПб., 1848.

Семенов-Тян-Шанский П.П. Географическо-статистический словарь Российской империи. Т. 1. СПб., 1863.

Памятная книжка Виленского учебного округа на 1874 г. Вильна, 1874.

Указатель фабрик и заводов Европейской России. СПб., 1881.

Дембовецкий А.С. Опыт описания Могилевской губернии... Кн. 2—3. Могилев, 1884.

Список населенных местностей и Краткий Статистический обзор Быховского уезда Могилевской губернии. Могилев, 1886.

Документы Московского архива Министерства юстиции. Т. 1. М., 1897.

Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1889—1890 учебный год. Могилев, 1889.

Календарь для духовенства Могилевской епархии на 1899 г. Могилев, 1899.

Памятная книжка Могилевской губернии на 1901 г. Могилев, 1901.

Археографический сборник документов... Т. 13. Вильна, 1902.

Список фабрик и заводов Европейской России. СПб., 1903.

Населенные места Российской империи... СПб., 1905.

Памятная книжка Могилевской губернии на 1905 г. Могилев, 1905.

Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1905—1906 учебный год. Могилев, 1905.

Последние известия. 1905. 12 янв., 2 февр.

Памятная книжка Могилевской губернии на 1906 г. Могилев, 1906.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1907 г. Могилев, 1907.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1907—1908 учебный год. Могилев, 1907.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1909 г. Могилев, 1908.
Список населенных мест Могилевской губернии. Могилев, 1910.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1911 г. Могилев, 1911.
Список фабрик и заводов Российской империи. СПб., 1912.
Памятная книжка Виленского учебного округа на 1915 г. Вильна, 1915.
Магілёўшчына. Магілёў, 1927.
Калгасны шлях. 1938. 30 вер.; 1939. 1 мая, 11 ліп., 20 вер.; 1940. 8 студз.; 1958. 21 сак.; 1959. 26 лют.; 1960. 9 ліп.
Документы и материалы по истории Белоруссии. Т. 2. Мн., 1940.
Ленінскае слова. 1957. 6 студз.; 1980. 22 сак.; 1982. 23 кастр.; 1985. 19 лют.
Закаменская Е.П. Вотчинные хозяйства Могилевской губернии во второй половине XVIII в. Могилев, 1958.
Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1. Мн., 1959.
Борьба за Советскую власть в Белоруссии, 1918—1920 гг. Т. 1. Мн., 1968.
Храмович Г. Зарево над Сожем. Мн., 1971.
Беларуская анамастыка. Мн., 1977.
Болбас М.Ф. Промышленность Белоруссии, 1860—1900. Мн., 1978.
Белорусская ССР: крат. энцикл. Т. 1. Мн., 1979.
Рапановіч Я.Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Магілёўскай вобласці. Мн., 1983.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—1944. Мн., 1984.
Асвета і педагагічная думка ў Беларусі: са старажыт. часоў да 1917 г. Мн., 1985.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Магілёўская вобл. Мн., 1986.
Административно-территориальное устройство БССР: справ. Т. 2 (1944—1980 гг.). Мн., 1987.
Памяць: Слаўгарадскі р-н. Мн., 1999.
Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 6, кн. 1. Мн., 2001.
Беларуская энцыклапедыя. Т. 14. Мн., 2002.
Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Магілёўская вобл. Мн., 2007.
Республики Беларусь: энцикл. Т. 6. Мн., 2008.


КЛІМАВІЦКІ РАЁН
РАСІЯ
Буда
Арлоўка
32°30'
Новая Жызнь
Ціхань
Таклёўка
Фаміно
Падлесная
Пагранічнік
Круглы
Клімавічы
53°30'
Забялышын
Прудок
Трасціно
Васілёўка 2
Будачка
Маркаўка
Канаўка
Бруеўка
Малуноўка
Елавец
32°45'
Гаўрылоўка
Аляксандравічы
Новы Пуць
Крынічка
Разальмова
Ельня
Дружба
Кляноўка
Хоцімск
Васілёўка 1
Шаладонаўка
Альшоў-
Ліпаўка
Марцінаўка
Селішча
Мосін
Канава
Паўлаўка
Янаўка
Хоцімск
Арцюхоўка
Чарняўка
Роскаш
Бесядскі Прудок
Узлогі
Новагрыгор'еўка
Уладзіміраўка
Бяседавічы
Касцюковічы
Янава
Баханы
Клін
Красн. Зара
Буросава
Новая Жызнь
Янаполле
Юзяфоўка
Варвараўка
Бярозкі
Міхайлаўскі
53°20'
Ігнатаўка
Малатоўка
Горня
Дубраўка
Князеўка
Ліпакі
Доўгая Дубрава
Батаева
Красн. Паляна
Галубоўка
Труд
Ветка
Яленаўка
Міхайлаўка
Чарчонае
Троіцкі
Іўкіна
Маштаб 1:220 000



# ХОЦІМСКІ РАЁН

Размешчаны на У вобласці. Пл. 0,9 тыс. км². Насельніцтва (2008) 13 тыс. чал.; гарадскога 49%. У складзе насельніцтва беларусы (89,6%), рускія (9%), украінцы (0,9%) і інш. Сярэдняя шчыльнасць 15,3 чал. на 1 км². Цэнтр — г.п. Хоцімск; у складзе раёна — 93 сельскія населеныя пункты, 9 сельсаветаў: Батаеўскі, Баханскі, Бярозкаўскі, Бяседавіцкі, Вялікаліпаўскі, Забялышынскі, Трасцінскі, Чарняўскі, Янаўскі. Па тэр. раёна праходзяць аўтадарогі Хоцімск—Клімавічы, Хоцімск—Касцюковічы.

Утвораны 17.7.1924 г. ў складзе Калінінскай акругі. 20.8.1924 г. падзелены на 14 сельсаветаў. У 1927—30 гг. у складзе Магілёўскай акругі. 8.7.1931 г. раён скасаваны, яго тэр. перададзена Клімавіцкаму і Касцюковіцкаму р-нам. Адноўлены 12.5.1935 г. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў Хоцімску і раёне 869 чал. На тэр. раёна дзейнічалі партыз. брыгады «Уперад», 5-я Клятнянская, асобныя партыз. атрады «Другія», «Бальшавік», 2-і Хоцімскі. Вызвалены ў вер. 1943 г. воінамі 50-й арміі Бранскага фронту ў ходзе Бранскай аперацыі. 17.4.1962 г. раён скасаваны, яго тэр. перададзена ў склад Касцюковіцкага і Клімавіцкага р-наў. Адноўлены 30.7.1966 г. У 1989 г. ў раёне 18,4 тыс. жыхароў, у 1999 г. — 17,1 тыс. жыхароў.

Тэр. раёна ў межах Аршанска-Магілёўскай і Чачорскай раўнін. Пераважаюць



*Уборка ўраджаю ў Хоцімскім р-не.*



*Герб г.п. Хоцімск.*

высоты 160—180 м над узроўнем мора, максімальная — 195 м (каля в. Буда). Карысныя выкапні: торф, будаўнічыя пяскі, гліны, сапрапель і інш. Сярэдняя тэмпература студз. -8 °С, ліп. 18,2 °С. Ападкаў выпадае 635 мм у год. Рака Беседзь з прытокамі Яленка, Альшоўка, Жадунька. Возера Святое. Глебы дзярнова-падзолістыя, дзярнова-падзолістыя забалочаныя, дзярновыя і дзярнова-карбанатныя забалочаныя, пойменныя (алювіяльныя), тарфяна-балотныя. Каля 26% тэр. раёна займаюць лясы, 4,6% — балоты.

С.-г. ўгоддзі займаюць 60% тэр. раёна. Пашыраны мясамалочная жывёлагадоўля, ільнаводства. Вырошчваюць збожжавыя і кармавыя культуры, бульбу (СВК «Авангард-Ельня», «Батаева», «Калгас «Чырвоны маяк», «Ліпаўка», «Кастрычнік-Бярозкі», УКСП «Саўгас «Забялышын»). Працуюць прам. прадпрыемствы па рамонце і абслугоўванні легкавых і с.-г. машын, вытв-сці прадуктаў харчавання, будаўнічых матэрыялаў, апрацоўцы лёну. У раёне (на 1.1.2008 г.) прафес. ліцэй № 16, 10 сярэдніх, 6 пач., 2 муз. школы, базавая школа-інтэрнат, 12 дзіцячых дашкольных устаноў. Дзейнічаюць 25 клубных устаноў, Цэнтр творчасці дзяцей і моладзі «Ветразь надзей», Палац спорту, дзіцяча-юнацкі клуб фіз. падрыхтоўкі, 23 б-кі, гісторыка-краязнаўчы музей, 6 краязнаўчых музеяў. Дзейнічаюць 2 бальніцы на 110 ложкаў, паліклініка, 2 амбулаторыі, 16 фельч.-акушэрскіх пунктаў, псіханеўралагічны дом-інтэрнат. Выдаецца газ. «Шлях кастрычніка». У раёне 7 рэліг. абшчын, з іх 4 праваслаўныя.

*Будынак Хоцімскага райвыканкома.*



Помнікі археалогіі: стаянкі каменнага веку (г.п. Хоцімск, вёскі Баханы, Бярозкі, Бяседавічы, Бесядскі Прудок, Падлесная), гарадзішча ранняга жал. веку (г.п. Хоцімск, в. Гамарня), курганныя могільнікі (вёскі Забялышын, Ліпаўка, Маркаўка, Падлесная, Паўлаўка, Таклёўка). Захаваўся помнік архітэктуры — царква Іаана Прадцечы (1843) у в. Забялышын.

У в. Забялышын нарадзіўся бел. пісьменнік Я.Брайцаў, у в. Бяседавічы — дзярж. дзеяч, акадэмік НАН Беларусі І.З.Сурта, у в. Дубраўка — Герой Сав. Саюза, ген.-маёр войск сувязі М.К.Піліпенка і поўны кавалер ордэна Славы С.А.Лупікаў; у в. Прудок — поўны кавалер ордэна Славы, камандзір мінамётнай батарэі, старшы сяржант І.Т.Ляскоўскі, у в. Чарняўка — Герой Сав. Саюза, камандзір эскадрыллі штурмавога палка Я.Я.Сусько.

**ХОЦІМСК** — гарадскі пасёлак, раённы цэнтр, на р. Беседзь пры ўпадзенні ў яе рэк Альшоўка і Жадунь. За 207 км ад Магілёва, 37 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Унеча; аўтадарогамі злучаны з Касцюковічамі і Суражам (Расія). 6,7 тыс. жыхароў (2007).

Засн. паміж 1695 і 1700 гг. як слабада. Упершыню згадваецца ў 1709 г. У 1714 г. 66 дымоў, млын, карчма, царква. 19.10. 1714 г. паводле універсала канцлера ВКЛ К.С.Радзівіла на левым беразе р. Беседзь насупраць в. Хоцімск закладзена мяст. Радзівілаў; у 1727 г. ў ім 148 дымоў, 3 вуліцы, у 1747 г. 8 вуліц, 116 дымоў, царква Раджджаства Багародзіцы са званіцай,



сінагога, карчма, турма. З сярэдзіны 18 ст. Радзівілаў — цэнтр Бярозкаўскай (Хоцімскай) вол. Крычаўскага староства, у крыніцах згадваецца як мяст. Хоцімск. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, Радзівілаў перайменаваны ў Хоцімск, належаў Р.А. Пацёмкіну. Спачатку быў у Крычаўскім графстве, потым у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ. У 1779 г. 105 двароў, 568 жыхароў. У 19 ст. мястэчка належала Галынскім, памешчыцы Кучэўскай, кн. Абаленскаму. У 1844 г. 139 двароў, 1828 жыхароў, 2 царквы, касцёл. У 1860—70-я г. ў Хоцімску 5 пенькатрапальных прадпрыемстваў, маслабойня, крупадзёрка, вінакурны і піваварны з-ды. У 1880 г. 274 дамы, 1849 жыхароў, 2 царквы, 2 малітоўныя дамы, вал. ўправа, нар. вучылішча, у 1897 г. — 416 двароў, 3030 жыхароў. З крас. 1919 г. ў складзе Гомельскай губ. РСФСР, з сак. 1924 г. ў складзе БССР. З 17.7.1924 г. да 18.7.1931 г. і з 12.5.1935 г. цэнтр Хоцімскага р-на Калінінскай, з чэрв. 1927 г. — Магілёўскай акруг. У 1926 г. 2,9 тыс. жыхароў. У 1931—35 гг. у складзе Касцюковіцкага р-на, са студз. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 27.9.1938 г. гар. пасёлак. У Вял. Айч. вайну з 15.8.1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі тут 700 чал. 23.10.1941 г. партызаны дыверсійна-разведвальнага атрада НКУС СССР і 2-га Хоцімскага атрада зрабілі налёт на гітлераўскі гарнізон у гар. пасёлку. Вызвалены 26.9.1943 г. ў ліку першых райцэнтраў Беларусі войскамі 50-й арміі ў ходзе Бранскай аперацыі 1943 г. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 2001 г. 8 тыс. жыхароў. Дзейнічаюць ААТ «Хоцімскі льнозавод», прыватныя УП камбінат каап. прам-сці і каапзаготпром; кулінарны камбінат, райплемстанцыя. Працуюць філіял і аддз. АСБ «Беларусбанк», аддз. ААТ «Белаграпрамбанк», транспартныя, дарожныя і гандл. арг-цыі. Функцыяніруюць прафес. ліцэй с.-г. вытв., 2 сярэднія школы, базавая школа-інтэрнат, дзіцячая муз. школа, дзіцяча-юнацкая спарт. школа, 2 дзіцячыя дашкольныя ўстановы. Працуюць цэнтр. раённая бальніца, раённая паліклініка, аптэка, псіханеўралагічны дом-інтэрнат, раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі, тэрытарыяльны цэнтр сац. абслугоўвання насельніцтва. Дзейнічаюць раённы Дом культуры, 2 б-кі, Цэнтр творчасці дзяцей і моладзі, Хоцімскі гісторыка-краязнаўчы музей. Ёсць раённая арг-цыя Бел. т-ва паляўнічых і рыбаловаў, Палац спорту, футбольныя і спарт.-аздараўленчыя пляцоўкі. Маюцца гасцініца, камбінат быт. абслугоўвання, пункт калектыўнага карыстання, аддз. сувязі, кафэ і інш.

Хоцімск развіваецца паводле генплана 1994 г. ўздоўж р. Альшоўка. Арх.-планіровачная структура прамавугольная, з дробнымі кварталамі пераважна аднапавярховай індывідуальнай забудовы сядзібнага тыпу. У цэнтр. частцы (вуліцы Ленінская, Чапаева і інш.) сканцэнтравана 2—5-павярховая жылая забудова. Асн. вуліцы — Ленінская, Камсамольская, Пралетарская, Чапаева, Першамайская і інш. Адм.-грамадскі і культ. цэнтр склаўся на вуліцы Ленінскай. На яе перакрыжаванні з вуліцай Пралетарскай утвора-



*Кола агляду ў Хоцімскім парку культуры і адпачынку.*



*С.М.Блажко.*

на пл. Леніна, якую замыкаюць скверы. Зона адпачынку — берагі рэк Беседзь і Альшоўка. У 2000-я г. ўзведзены будынак «Беларусбанка», адбылася рэканструкцыя культ. цэнтра «Мір», будынка «Белаграпрамбанка».

Помнікі архітэктуры: сабор Святой Тройцы (1861), Пакроўская царква (19 ст.), 2 жылыя дамы (пач. 20 ст.). Брацкія магілы сав. воінаў і партызан, магіла ахвяр фашызму. Помнікі: Вызвалення, ахвярам фашызму, партызанам, землякам, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны.

Хоцімск — радзіма вучонага ў галіне астраноміі, педагога, чл.-кар. АН СССР С.М.Блажко; бел. паэта А.А.Зарыцкага.

**АЗЁРАЎКА** — вёска ў Янаўскім с/с, за 3 км на ПдУ ад Хоцімска, 210 км ад Магілёва, 40 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ р. Жадунька (прыток р. Беседзь). Транспартыя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг. З 8.7.1931 г. да 12.5.1935 г. ў Касцюковіцкім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1928 г. 89 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «III Інтэрнацыянал» (цэнтр — г.п. Хоцімск), 4 гаспадаркі, 9 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай пераважна двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АЛЬШОЎ 1** — вёска ў Вялікаліпаўскім с/с, за 2 км на ПнУ ад Хоцімска, 209 км ад Магілёва, 39 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Альшоўка (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе да Хоцімска і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 103 гаспадаркі, 45 жыхароў (2007).

Вядома з пач. 20 ст. У 1910 г. адкрыта школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1918 г. створаны к-т

*Пакроўская царква на могілках у г.п. Хоцімск.*





беднаты. На базе дарэв. пачала дзейнічаць прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 95 вучняў, меўся пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 1919 г. ў Хоцімскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг. З 20.8.1924 г. да 24.9.1926 г. цэнтр сельсавета. У 1928 г. 629 жыхароў. З 8.7.1931 г. да 12.5.1935 г. ў Касцюковіцкім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 95 двароў, 410 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 26.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. 88 гаспадарак, 245 жыхароў, дзейнічалі паляводчая брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, дзіцячы сад-яслі, магазін. У 2007 г. дзіцячы сад-яслі, магазін. Гал. крывалінейная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ уздоўж ракі. Ад яе на ПнЗ адыходзіць крывалінейная кароткая вуліца. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на ПнУ.

Радзіма бел. пісьменніка П.Прыходзькі.

**АЛЬШОЎ 2** — вёска ў Янаўскім с/с, за 2 км на ПнУ ад Хоцімска, 209 км ад Магілёва, 39 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. На ПнЗ цячэ р. Альшоўка (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па шашы Хоцімск—Краснаполле, якая праходзіць праз вёску. 21 гаспадарка, 56 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг. З 8.7.1931 г. да 12.5.1935 г. ў Касцюковіцкім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1928 г. 237 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 26.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7. 1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — г.п. Хоцімск), 33 гаспадаркі, 71 жыхар. Планіровачна складаецца з доўгай, крывалі-



*А.А.Зарыцкі.*



*Троіцкая царква ў г.п. Хоцімск.*

нейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АЛЯКСАНДРАВІЧЫ** (да 30.7.1964 г. Цярпілаўка) — вёска ў Чарняўскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Хоцімска, 208 км ад Магілёва, 28 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. На ПнЗ праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Сураў (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Ельня, Мосін, Канава, Баханы і далей па шашы Хоцімск—Чэрыкаў. 8 гаспадарак, 20 жыхароў (2007).

У 1857 г. вёска Цярпілаўка ў Клімавіцкім павеце, уласнасць памешчыка. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг. З 8.7.1931 г. да 12.5.1935 г. ў Касцюковіцкім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Авангард» (цэнтр — в. Ельня). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ і забудаванай двухбакова, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АНДРОНАЎШЧЫНА** — вёска ў Чарняўскім с/с, за 25 км на З ад Хоцімска, 193 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Чарняўка і далей па шашы Краснаполле—Хоцімск. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг. З 8.7.1931 г. да 12.5.1935 г. ў Касцюковіцкім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.8.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «XXI з'езд КПСС» (цэнтр — в. Чарняўка). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АРЛОЎКА** — вёска ў Забялышынскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Хоцімска, 227 км ад Магілёва, 51 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Крычаў—Сураж. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ р. Рэкта (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Падлесная, Маркаўка і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 9 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1768 г. маёнтак у Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. сяльцо, 17 двароў, 106 жыхароў. Гаспадар аднаго маёнтка меў тут у 1873 г. 213 дзес. зямлі, вадзяны млын і сукнавальню, гаспадар другога ў 1876 г. — 130 дзес. зямлі. У 1879 г. засн. другая сукнавальня. У 1897 г. вёска (32 двары, 241 жыхар) у Забялышынскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 34 двары, 276 жыхароў. У 1918 г. створаны к-т беднаты. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8. 1924 г. ў Хоцімскім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг. З 8.7.1931 г. да 12.5.1935 г. ў Клімавіцкім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 20.8.1924 г. да 11.3.1960 г. цэнтр сельсавета. У 1928 г. 250 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Клімавіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе саўгаса «Забялышын» (цэнтр — в. Забялышын). 33 гаспадаркі, 72 жыхары, размешчаны вытв. бры-



гада, 8-гадовая школа, клуб, б-ка, магазін, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. ашчаднага банка, спартыўная пляцоўка. У 2007 г. б-ка, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы з завулкам, арыентаванай шыротна, уздоўж ракі і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АРОЛ** — былая вёска ў Батаеўскім с/с, за 33 км на ПдЗ ад Хоцімска, 240 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Журбін на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, вакол лес. Праз вёску цячэ р. Трасцянка (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Батаева—Хоцімск.

За 1,5 км на Пн ад вёскі захаваўся курганны могільнік, які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Вёска засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З 20.8.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг. З 26.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 14 двароў, 60 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Батаева), 13 гаспадарак, 30 жыхароў. Планіровачна складалася з 2 (адна дугападобная, другая крывалінейная) кароткіх вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і забудаваных пераважна двухбакова, няшчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АРЦЮХОЎКА** — вёска ў Чарняўскім с/с, за 22 км на З ад Хоцімска, 190 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. На З цячэ ручай (прыток р. Сураў). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Хоцімск—Чэрыкаў. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Вядома з 18 ст. У 1799 г. 19 двароў, 118 жыхароў. У 1857 г. ў Клімавіцкім павеце, уласнасць памешчыка. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся кушнерскім промыслам. У 1897 г. ў Бярозакаўскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 23 двары, 136 жыхароў. Меўся хлебазапасны магазін. У 1909 г. 24 двары, 173 жыхары. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг. З 8.7.1931 г. да 12.5.1935 г. ў Касцюковіцкім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «XXI з'езд КПСС» (цэнтр — в. Чарняўка), 17 гаспадарак, 31 жыхар. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі з завулкам. Забудавана аднабакова, няшчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БАГДАНАЎКА** — былая вёска ў Вялікаліпаўскім с/с, за 4 км на ПнУ ад Хоцімска, 211 км ад Магілёва, 41 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. На У і ПдУ цячэ р. Альшоўка (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Альшоў 2 і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле.

Вядома з 18 ст. У 1799 г. 42 двары, 238 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1834 г. 31 двор, 246 жыхароў, у 1847 г. ў складзе маёнтка Хоцімск у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 37 двароў, 249 жыхароў. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг. З 8.7.1931 г. да 12.5.1935 г. ў Касцюковіцкім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1928 г. 149 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы

ўступілі ў калгас. У 1940 г. 18 двароў, 60 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 26.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы ў вер. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Маяк» (цэнтр — в. Ялавец), 4 гаспадаркі, 6 жыхароў. Планіровачна складалася з кароткай дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ уздоўж ракі. Сял. сядзібы традыц., драўляныя, з гасп. пабудовамі, пастаўлены няшчыльна.

**БАТАЕВА** — вёска ў Батаеўскім с/с, за 32 км на ПдЗ ад Хоцімска, 239 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Журбін на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Войская (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па дарозе Батаева—Хоцімск і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 109 гаспадарак, 288 жыхароў (2007).

Засн. ў 1727 г. ў Крычаўскім старостве Мсціслаўскага ваяв. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. Спачатку тут было 8 гаспадарак. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1779 г. ў Крычаўскім старостве, 14 жыхароў, уласнасць памешчыка, меўся млын. У 1799 г. 10 двароў, 80 жыхароў. У 1795 г. пачаў дзейнічаць шклозавод, на якім у 1801 г. працавала 11 чал. У 1816 г. 15 двароў, 118 жыхароў, у 1847 г. ў складзе маёнтка Хоцімск у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 57 двароў, 208 жыхароў. У 1880 г. 53 двары, 318 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася вырабам посуду і іншых быт. рэчаў з дрэва, лыка і кары. У 1897 г. ў Бялынкавіцкай вол. Клімавіцкага павета, 66 двароў, 505 жыхароў. Дзейнічала смалакурня, на якой у 1881 г. працавалі 4 рабочыя. У 1909 г. 81 двор, 599 жыхароў. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім, з 22.2.1935 г. ў Хоцімскім р-нах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 20.8.1924 г. да 29.1.1960 г. цэнтр сельсавета. У 1919 г. адкрыта школа, для якой вяскоўцы ў 1928 г. пабудавалі памяшканне. У 1925 г. ў школе было 60 вучняў, дзейнічалі гурткі па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1934 г. адкрыты дзіцячая пляцоўка, яслі. У 1935 г. вёска электрыфікавана. У 1940 г. 110 двароў, 330 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы і яе ваколіцах у 1941 г. базіраваўся партыз. атрад Дз.М.Мядзведзева. За 0,5 км на ПнЗ ад вёскі ў 1975 г. ў гонар партызан пастаўлена стэла. Гітлераўцы ў жн. 1942 г. спалілі 100 двароў. На ўшанаванне памяці 160 землякоў, якія загінулі на фронце, у 1977 г. ў цэнтры вёскі пастаўлена стэла. У 1986 г. цэнтр калгаса «Прагрэс», 100 гаспадарак, 254 жыхары. Дзейнічалі пач. школа, дзіцячы сад-яслі, Дом культуры, б-ка, магазін, сталовая, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. У 2007 г. цэнтр СВК «Батаева», размешчаны дзіцячы сад-яслі, Дом культуры, б-ка, магазін, сталовая, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Ген. план забудовы распрацаваны Магілёўскім філіялам «Белкалгаспраекта» ў 1985 г. Рака падзяляе вёску на паўн.-ўсх. (3 крывалінейныя вуліцы, арыентаваныя з ПдУ на ПнЗ) і паўд.-зах. (крывалінейная, амаль паралельная да першай вуліцы з завулкам) частак. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Дзве новыя вуліцы паўн.-ўсх. часткі забудаваны мураванымі аднапавярховымі аднакватэрнымі дамамі. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы паўн.-ўсх. часткі. На З, Пд і ПдЗ — гасп. сектар.

**БАХАНЫ** — вёска, цэнтр сельсавета (з 20.8.1924), за 10 км на ПдЗ ад Хоцімска, 197 км ад Магілёва, 27 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. На ПдУ цячэ р. Беседзь (прыток р. Сож), а праз вёску — яе пры-



ток р. Чачавец. Транспартныя сувязі па шашы Хоцімск—Краснаполле, якая праходзіць побач з вёскай. 205 гаспадарак, 447 жыхароў (2007).

За 2,5 км уверх па цячэнні р. Беседзь, на яе правым беразе захаваўся курганны могільнік (2 насыпы), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Вядома з 1604 г. як сяло ў Крычаўскай вол. ВКЛ, казённая ўласнасць. У 1-й пал. 1740 г. атрад паўстанцаў на чале з К.Вашчылам напаў у лесе каля вёскі на буру (пабудова, дзе выраблялася паташ), сарваў выраб паташу, не дапусціў бурнікаў да работы. У 1756 г. вёска ў Крычаўскім старостве. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1779 г. сяло (80 двароў, 618 жыхароў), уласнасць памешчыка, мелася царква. У 1811 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 90 двароў, 372 жыхары мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. Апрача земляробства 60 сяльчан у 1880 г. займаліся адыходным промыслам. У 1885 г. ў Бярозкаўскай вол. Клімавіцкага павета, 157 двароў, 1007 жыхароў, дзейнічаў ветраны млын. У 1891 г. адкрыта школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1902 г. ў школе навучаліся 36 хлопчыкаў і 7 дзяўчынак, у 1907 г. — 39 хлопчыкаў і 5 дзяўчынак. У 1897 г. 230 двароў, 1522 жыхары, меліся 2 крамы, хлебазапасны магазін, піцейны дом. 1.1.1905 г. адбыліся сутыкненні сялян з паліцыяй у сувязі з арыштам аднаго з вяскоўцаў. У 1909 г. 215 двароў, 1366 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 144 вучні з в. Баханы і пас. Благаў. Дзейнічалі с.-г. арцель і хата-чытальня. У 1928 г. 1413 жыхароў. З 1919 г. вёска ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг. З 8.7.1931 г. да 12.5.1935 г. ў Касцюковіцкім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На ўшанаванне памяці 67 землякоў, якія загінулі на фронце, у 1967 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. цэнтр калгаса «Чырвоны Маяк», 303 гаспадаркі, 679 жыхароў, дзейнічалі сярэдняя школа, клуб, б-ка, дзіцячы сад-яслі, муз. школа, гандл. цэнтр, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. ашчаднага банка, аддз. сувязі. У 2007 г. цэнтр СВК «Калгас «Чырвоны маяк», размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад-яслі, муз. школа, гандлёвы цэнтр, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. АСБ «Беларусбанк», аддз. сувязі. Ген. план забудовы распрацаваны «Магілёўграмадзянпраектам» у 1978 г. Дзве крывалінейныя вуліцы, размежаваныя р. Чачавец, арыентаваны з ПдУ на ПнЗ і перакрыжаваны перпендыкулярна 2 крывалінейнымі вуліцамі з завулкамі. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Дзве новыя вуліцы шыротнай арыентацыі размешчаны на Пн паралельна да шашы і забудаваны мураванымі аднапавярховымі аднакватэрнымі дамамі. Такімі ж мураванымі дамамі забудавана і трэцяя новая прамалінейная вуліца, што ў цэнтры вёскі. Кампазіцыйным ядром адм.-грамадскага цэнтра з'яўляюцца невял. парк і плошча перад ім. Тут размешчаны асн. грамадскія будынкі. Гасп. сектар — на ПнУ, З і У.

У склад сельсавета ўваходзяць 4 вёскі.

**БЕСЯДСКІ ПРУДОК** — вёска ў Янаўскім с/с, за 4 км на ПдЗ ад Хоцімска, 203 км ад Магілёва, 33 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Беседзь (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Хоцімск—Краснаполле, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 25 гаспадарак, 49 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1799 г. 6 двароў, уласнасць памешчыка, у 1811 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 13 двароў, 67 жыхароў мужчынскага полу. У 1847 г. ў

складзе маёнтка Хоцімск, 32 двары, 257 жыхароў. У 1880 г. 39 двароў, 360 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася адыходным і іншымі промысламі, вырабам розных быт. рэчаў з лыка і кары. Летам 1886 г. сяляне захапілі памешчыцкі луг і выкасілі яго, а 13.9.1887 г. аказалі супраціўленне ўладам пры вопісе маёмасці для пагашэння страт у сувязі з захопам памешчыцкага лугу. У 1897 г. ў Хоцімскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 71 двор, 481 жыхар. У 1900 г. адкрыта школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1909 г. 71 двор, 573 жыхары. У пач. 1920-х г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 53 вучні, дзейнічала хата-чытальня. У 1918 г. створана камуна «Сасноўка». З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг. З 8.7.1931 г. да 12.5.1935 г. ў Касцюковіцкім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1928 г. 200 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «КІМ», які першапачаткова аб'ядноўваў 40 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «III Інтэрнацыянал» (цэнтр — г.п. Хоцімск), 52 гаспадаркі, 290 жыхароў. У 2007 г. дзейнічаў магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пн — гасп. сектар.

**БОРКІ** — былая вёска ў Янаўскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Хоцімска, 219 км ад Магілёва, 49 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. На ПнЗ цячэ р. Беседзь (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Васілёўка 2, Малуноўка і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле.

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг. З 8.7.1931 г. да 12.5.1935 г. ў Касцюковіцкім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1928 г. арганізаваны калгас «Усход». У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 26.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Калінінскім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — г.п. Хоцімск), 5 гаспадарак, 12 жыхароў. Планіровачна складалася з амаль прамалінейнай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ уздоўж ракі і забудаванай аднабакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БРУЁЎКА** — вёска ў Трасцінскім с/с, за 6 км на Пн ад Хоцімска, 213 км ад Магілёва, 43 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. На ПнУ цячэ р. Беседзь (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Хоцімск—Чэрыкаў. 15 гаспадарак, 19 жыхароў (2007).

Вядома з пач. 19 ст. У 1816 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 17 двароў, 116 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1834 г. 17 двароў, 168 жыхароў, у 1847 г. ў складзе маёнтка Хоцімск, 23 двары, 184 жыхары. У 1880 г. 37 двароў, 211 жыхароў. Апрача земляробства 18 вяскоўцаў займаліся сталярным і адыходным промысламі. У 1897 г. ў Хоцімскай вол. Клімавіцкага павета, 51 двор, 410 жыхароў. Мелася школа граматы. У 1907 г. ў школе (нар. вучылішча) навучаліся 44 хлопчыкі і 8 дзяўчынак. У 1909 г. 52 двары, 426 жыхароў. У пач. 1920-х г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 40 вучняў, дзейнічала хата-чытальня. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1925 г. ў Хоцімскім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг. З 8.7.1931 г. да 12.5.1935 г. ў Касцюковіцкім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 26.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.



1966 г. ў Клімавіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе саўгаса «Трасціно» (цэнтр — в. Трасціно), 25 гаспадарак, 45 жыхароў. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ уздоўж ракі і забудаванай пераважна двухбакова, няшчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БУДА** (да 7.3.1975 г. вёскі Новая Буда і Старая Буда) — вёска ў Забялышынскім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Хоцімска, 231 км ад Магілёва, 49 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Крычаў—Сураж. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Рэкта (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Арлоўка, Падлесная, Трасціно і далей па шашы Хоцімск—Чэрыкаў. 38 гаспадарак, 63 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1799 г. вёска, 35 двароў,180 жыхароў. У 1850 г. пачала дзейнічаць сукнавальня. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. вёскі Буда 1 (27 двароў, 182 жыхары, піцейны дом) і Старая Буда (33 двары, 202 жыхары, школа граматы, хлебазапасны магазін) у Забялышынскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. Побач былі 2 хутары па 1 двары. У 1909 г. ў Будзе — 27 двароў, 217 жыхароў, у Старой Будзе 28 двароў, 217 жыхароў. Побач былі маёнткі Буда (1 двор, 2 жыхары), Буда 1 (1 двор, 1 жыхар) і Старая Буда (1 двор, 12 жыхароў). У пач. 1920-х г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Хоцімскім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг. З 8.7.1931 г. да 12.5.1935 г. ў Клімавіцкім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. Дзейнічала с.-г. арцель. У 1928 г. ў в. Буда 1 (пазней стала называцца Новая Буда) 237 жыхароў, у в. Буда 2 (пазней — Старая Буда) 241 жыхар. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7. 1966 г. ў Клімавіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе саўгаса «Забялышын» (цэнтр — в. Забялышын), 90 гаспадарак, 202 жыхары. Адначасова з аб'яднаннем вёсак Новая Буда і Старая Буда да вёскі ў 1975 г. далучана в. Гарадок. У 2007 г. дзейнічаў магазін. Планіровачна складаецца з 3 частак: паўн. (былая в. Гарадок; ад амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, адыходзіць на Пн кароткая Г-падобная вуліца), паўд.-зах. (былая в. Старая Буда; 4 кароткія, узаемна перакрыжаваныя вуліцы мерыдыянальнай і шыротнай арыентацыі) і паўд.-ўсх. (былая в. Новая Буда; кароткая, крывалінейная вуліца амаль шыротнай арыентацыі). Забудавана двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на Пн.

**БУДАЧКА** — вёска ў Трасцінскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Хоцімска, 222 км ад Магілёва, 35 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Трасцінка (прыток р. Мужычок). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Трасціно, Маркаўка і далей па шашы Хоцімск—Чэрыкаў. 38 гаспадарак, 71 жыхар (2007).

У 1870 г. 4 мясц. памешчыкі мелі тут 355 дзес. зямлі. У 1897 г. вёскі Буда 2 (19 двароў, 129 жыхароў) і Буда 3 (8 двароў, 72 жыхары) у Забялышынскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. Побач быў фальварак (1 двор, 7 жыхароў). У 1909 г. ў в. Буда 2 было 17 двароў, 159 жыхароў, у в. Буда 3 — 3 двары, 21 жыхар, у маёнтку — 1 двор, 8 жыхароў. 24.1.1920 г. створана с.-г. арцель «Ясная Паляна», якая мела 99 дзес. зямлі, аб'ядноўвала 7 гаспадарак. Дзейнічала прац. школа 1-й ступені. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8. 1924 г. ў Хоцімскім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг. З 8.7.1931 г. да 12.5.1935 г. ў Касцюковіцкім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, вёскі Буда 2 і Буда 3 склалі адну вёску Будачка. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-





фаш. захопнікамі. З 29.1.1960 г. да 11.3. 1960 г. цэнтр Першамайскага с/с. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Клімавіцкім р-не. У 1975 г. да вёскі далучана в. Жукаўка, у 1977 г. — пас. Нававасільеўскі. У 1986 г. ў складзе саўгаса «Трасціно» (цэнтр — в. Трасціно), дзейнічалі 8-гадовая школа, клуб, б-ка, аддз. ашчаднага банка і сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. У 2007 г. фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з 2 размежаваных ракой крывалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных прасёлачнай дарогай з мостам цераз раку. Забудавана двухбакова, няшчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на Пд і ПдУ.

**БУРОСАВА** — вёска ў Бяседавіцкім с/с, за 6 км на ПдЗ ад Хоцімска, 213 км ад Магілёва, 43 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. На Пд праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Сплавень. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Бяседавічы і далей па шашы Хоцімск—Чэрыкаў. 9 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг. З 8.7.1931 г. да 12.5.1935 г. ў Касцюковіцкім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Іскра» (цэнтр — в. Бяседавічы), 31 гаспадарка, 66 жыхароў. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, і кароткай прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, злучаных прасёлачнай дарогай. Забудавана двухбакова, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БЯРОЗКІ** — вёска, цэнтр сельсавета (з 20.8.1924), за 17 км на ПдЗ ад Хоцімска, 194 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Еленка (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Хоцімск—Чэрыкаў. 247 гаспадарак, 663 жыхары (2007).

Вядома з 1604 г. як сяло ў Крычаўскай вол. ВКЛ, казённая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1779 г. ў Крычаўскім старостве, 34 двары, 255 жыхароў, уласнасць памешчыка, мелася царква. У 1811 г. ў Клімавіцкім павеце, 51 двор, 211 жыхароў мужчынскага полу. У 1834 г. пабудавана царква. У 1858 г. 258 рэвізскіх душ, заезны дом. У 1867 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1889 г. навучалася 45 хлопчыкаў. У 1880 г. 130 двароў, 640 жыхароў. 88 вяскоўцаў займаліся кравецкім, бандарным, кавальскім, адыходным і перавозным промысламі. У 1885 г. цэнтр воласці Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 128 двароў, 879 жыхароў, меліся 2 ветраныя млыны. У 1897 г. 175 двароў, 1200 жыхароў, дзейнічалі хлебазапасны магазін, піцейны дом. У 1905 г. адкрыты прыёмны пакой і казённая вінная крама. У 1908 г. для школы пабудавана памяшканне. У 1909 г. 180 двароў, 1274 жыхары. 23.2.1918 г. выбраны вал. Савет, які ажыццяўляў першыя дэкрэты сав. улады. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг. З 8.7.1931 г. да 12.5. 1935 г. ў Касцюковіцкім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 214 вучняў. Дзейнічалі камсамольская ячэйка, пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. Была створана с.-г. арцель, а 2.5.1923 г. — меліярацыйнае т-ва. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня, у 1926 г. — фельч.-акушэрскі пункт. У 1928 г. 1264 жыхары. У 1929 г. былі арганізаваны 2 калгасы — «Чырвоны Кастрычнік» і «Праца». У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У памяць аб



114 земляках, якія загінулі на фронце, у 1967 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1975 г. да вёскі далучана в. Ганнаўка. У 1986 г. цэнтр калгаса «Кастрычнік», 292 гаспадаркі, 726 жыхароў, дзейнічалі сярэдняя школа, Дом культуры, дзіцячы сад-яслі, гандл. цэнтр, магазін, сталовая, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, аптэка, аддз. ашчаднага банка, аддз. сувязі. У 2007 г. цэнтр СВК «Кастрычнік—Бярозкі», сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад-яслі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, аптэка, аддз. «Беларусбанка» і сувязі, гандлёвы цэнтр, магазін, сталовая. Ген. план забудовы распрацаваны «БелНДІгіпрасельбуд» у 1983 г. Рака падзяляе вёску на зах. (3 крывалінейныя вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі) і ўсх. (ад працяглай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай амаль мерыдыянальна ўздоўж ракі, на Пд адыходзяць 4 вуліцы, злучаныя прасёлачнай дарогай, і на ПнЗ — 2 прамалінейныя кароткія вуліцы) часткі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры ўзводзяцца мураваныя двухпавярховыя 8-кватэрныя і аднапавярховыя 1—2-кватэрныя дамы. Адм.-грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. Ёсць водаправод. На Пд, ПнУ і У — гасп. сектар. На З — сады.

Радзіма аднаго з кіраўнікоў партыз. руху на тэр. Магілёўскай вобл. ў гады Вял. Айч. вайны, камандзіра партыз. атрада «Бальшавік» П.С.Антоненкі. Адна з вуліц вёскі носіць яго імя.

У Бярозкаўскі с/с уваходзяць 10 населеных пунктаў.

**БЯСЕДАВІЧЫ** — вёска, цэнтр сельсавета (з 20.8.1924), за 3 км на ПдЗ ад Хоцімска, 210 км ад Магілёва, 40 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ р. Беседзь (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 171 гаспадарка, 395 жыхароў (2007).

У 1880 г. в. Бяседавічы (яна ж Бясовіца) у Хоцімскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 135 двароў, 960 жыхароў. 71 вясковец займаўся кравецкім, сталярным і адыходным промысламі, вырабам розных быт. рэчаў з дрэва, лыка і кары. Мелася драўляная царква. У 1897 г. 178 двароў, 1257 жыхароў. У 1900 г. адкрыта земская школа, для якой у 1906 г. пабудавана памяшканне. Штогод у маі, жн. і снеж. праводзіліся кірмашы. У 1905 г. ў вясковай школе навучаліся 44 хлопчыкі і 6 дзяўчынак, у 1907 г. — 65 хлопчыкаў і 16 дзяўчынак. У 1909 г. 178 двароў, 1198 жыхароў. У 1918 г. арганізавана камуна «Бяседавіцкая», а таксама каап. т-ва, у 1919 г. створана с.-г. т-ва, 29.6.1921 г. — с.-г. арцель «Чырвоная рошча». На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 118 вучняў. Дзейнічалі камсамольская ячэйка, пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг. З 8.7.1931 г. да 12.5.1935 г. ў Касцюковіцкім р-не. З 15.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1928 г. 1225 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У гэтым жа годзе для школы пабудавана новае памяшканне. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 26.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На ўшанаванне памяці 129 землякоў, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у цэнтры вёскі ў 1967 г. пастаўлены абеліск. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1950 г. ў вёску перасялены жыхары з пас. Лаўроўскі. Да вёскі ў 1967 г. далучана в. Дубраўка-Смародзіна. У 1986 г. цэнтр калгаса «Іскра», 75 гаспадарак, 178 жыхароў, размешчаны Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад-яслі, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. У 2007 г. цэнтр СВК

«Калгас «Іскра», Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад-яслі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання наельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Прамавугольную планіровачную сетку ўтвараюць прамалінейныя вуліцы, якія падыходзяць перпендыкулярна да гал. і арыентаваны з ПдУ на ПнЗ. На З праходзіць крывалінейная вуліца амаль шыротнай арыентацыі (былая в. Дубраўка-Смародзіна). У цэнтр. частцы насупраць невял. плошчы, утворанай пашырэннем гал. вуліцы, размешчаны грамадскія будынкі. Жылая забудова двухбаковая, індывідуальная, драўляная, сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне пабудаваны 12 мураваных аднакватэрных дамоў. Гасп. сектар — на ПдЗ і ПнЗ. Ёсць водаправод.


С.А.Лупікаў.

Радзіма дзярж. дзеяча, акадэміка АН БССР І.З.Сурты, поўнага кавалера ордэна Славы С.А.Лупікава, які вызначыўся ў Вял. Айч. вайну ў баях супраць гітлераўцаў на тэр. Польшчы.

Каля паўн.-ўсх. ускраіны знаходзіцца Бяседавіцкае радовішча пяскоў (разведаныя запасы 1,4 млн. т).

У склад сельсавета ўваходзяць 7 населеных пунктаў.

**ВАРВАРАЎКА** — вёска ў Бяседавіцкім с/с, за 6 км на ПдУ ад Хоцімска, 213 км ад Магілёва, 43 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам.На Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Жадунька (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 55 гаспадарак, 137 жыхароў (2007).

У 1816 г. 6 двароў, 52 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1897 г. вёска ў Хоцімскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 41 двор, 331 жыхар. У 1909 г. 52 двары, 476 жыхароў, мелася царк.-прыходская школа. У 1918 г. на базе дарэв. пачала дзейнічаць прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 40 вучняў, драматычны гурток. У 1918 г. створана с.-г. арцель, якая мела 123 дзес. зямлі. У 1920-х г. дзейнічала меліярацыйнае т-ва. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. зноў у Хоцімскім р-нах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1928 г. 175 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ленінскі шлях». У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На ўшанаванне памяці 58 вяскоўцаў, якія загінулі на фронце, у цэнтры вёскі ў 1970 г. пастаўлена стэла. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. цэнтр калгаса «Праца», 65 гаспадарак, 166 жыхароў, пач. школа, дзіцячы сад-яслі, б-ка, клуб, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. У 2007 г. б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Ген. план забудовы распрацаваны Магілёўскім філіялам «Аблміжкалгасбуда» ў 1985 г. 6 прамалінейных вуліц мерыдыянальнай арыентацыі перпендыкулярна перакрыжаваны 3 прамалінейнымі вуліцамі шыротнай арыентацыі, сярэдняя з якіх — галоўная. Забудавана двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На гал. вуліцы, а таксама на паўн. і паўн.-зах. ускраінах, пабудавана 20 мураваных і 10 панэльных аднакватэрных жылых дамоў. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы гал. вуліцы. У цэнтры, на Пн і Пд размешчаны гасп. пабудовы.

**ВАСІЛЁЎКА 1** — вёска ў Янаўскім с/с, за 4 км на ПнЗ ад Хоцімска, 211 км ад Магілёва, 41 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 14 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

У 1816 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 17 двароў, 108 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1847 г. ў складзе маёнтка Хоцімск, 23 двары, 225 жыхароў. У 1875 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1880 г. 45



двароў, 380 жыхароў. У 1897 г. в. Васілёўка, у Хоцімскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 64 двары, 513 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся кравецкім, стальмашным і адыходным промысламі. У 1909 г. 64 двары, 500 жыхароў. У 1918 г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 59 вучняў. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8. 1924 г. ў Хоцімскім р-не, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім р-нах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1928 г. 523 жыхары. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 26.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 46 вяскоўцаў загінулі на фронце. На ўшанаванне іх памяці ў 1965 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «III Інтэрнацыянал» (цэнтр — г.п. Хоцімск), 41 гаспадарка, 85 жыхароў, размешчаны клуб, магазін, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, якая на З перакрыжавана перпендыкулярна кароткай прамалінейнай вуліцай. На ПнУ праходзіць кароткая крывалінейная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ. Забудавана пераважна двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВАСІЛЁЎКА 2** — вёска ў Янаўскім с/с, за 9 км на Пн ад Хоцімска, 216 ад Магілёва, 46 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. На ПдУ цячэ ручай (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Малуноўка і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 51 гаспадарка, 99 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім р-нах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. Дзейнічала пач. школа. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 26.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Клімавіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — г.п. Хоцімск), 51 гаспадарка, 99 жыхароў, размешчаны пач. школа, клуб, б-ка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. У 2007 г. дзейнічалі клуб, б-ка, магазін. 4 доўгія прамалінейныя вуліцы, арыентаваныя з ПдУ на ПнЗ, перакрыжаваны перпендыкулярна 5 прамалінейнымі завулкамі. На ПнУ адасоблена размешчана кароткая прамалінейная вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі (былы пас. Красны). Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на паўн. і паўн.-ўсх. ускраінах.

**ВЕТКА** — вёска, цэнтр Батаеўскага с/с (з 29.1.1960), за 35 км на ПдЗ ад Хоцімска, 242 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Журбін на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, на З, ПдУ і У мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Войская (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Батаева—Хоцімск. 49 гаспадарак, 208 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З 20.8.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім, з 22.2.1935 г. ў Хоцімскім р-нах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1920-х г. дзейнічала пач. школа. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Рассвет», цэнтр якога знаходзіўся ў в. Паўлаўка. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У памяць аб 48 земляках, якія загінулі на фронце, у 1967 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1975 г. да Веткі далучана в. Леванова. У 1986 г. ў калгасе «Світанне», сярэдняя школа,





дзіцячы сад-яслі, клуб, б-ка, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. ашчаднага банка, аддз. сувязі, лясніцтва. У 2007 г. дзейнічалі Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, лясніцтва. Планіровачна складаецца з 4 вуліц, 3 з якіх доўгія, крывалінейныя, арыентаваны з ПдУ на ПнЗ. Чацвёртая вуліца (былая в. Леванова) крывалінейная, амаль мерыдыянальнай арыентацыі, размешчана на У адасоблена. Забудавана двухбакова, няшчыльна, індывідуальнымі, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн. і паўд. вуліцах вядзецца забудова аднапавярховымі аднакватэрнымі мураванымі дамамі. Вытв. сектар — на Пд і паўд.-ўсх. ускраіне.

У склад сельсавета ўваходзяць 14 населеных пунктаў.

**ВЯСЁЛАЯ ДУБРОВА** — былая вёска ў Забялышынскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Хоцімска, 225 км ад Магілёва, 55 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Падлесная, Трасціно, Маркаўка і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле.

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Клімавіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім р-нах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Клімавіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе саўгаса «Залябышын» (цэнтр — в. Забялышын), 6 гаспадарак, 10 жыхароў. Планіровачна складалася з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнУ на ПдЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГАЛУБОЎКА** — вёска ў Батаеўскім с/с, за 41 км на ПдЗ ад Хоцімска, 248 км ад Магілёва, 19 км ад чыг. ст. Журбін на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, на Пд і ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Доўгая Дуброва, Князеўка і далей па шашы Батаева—Хоцімск. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім р-нах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Ветка), 7 гаспадарак, 15 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГАМАРНЯ** — былая вёска ў Бяседавіцкім с/с, за 7 км на ПдЗ ад Хоцімска, 214 км ад Магілёва, 44 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ р. Беседзь (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Бяседавічы і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле.

Засн. ў 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім р-нах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1928 г. 87 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7. 1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Іскра» (цэнтр — в. Бяседавічы), 3 гаспадаркі, 3 жыхары. Планіровачна складалася з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.



**ГАЎРЫЛОЎКА** — вёска ў Вялікаліпаўскім с/с, за 13 км на ПнУ ад Хоцімска, 220 км ад Магілёва, 50 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. На ПдУ цячэ р. Уюнка (прыток р. Жадунька). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ліпаўка і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім р-нах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1928 г. 177 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 26.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7. 1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Ліпаўка), 11 гаспадарак, 17 жыхароў. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГОРНЯ** — вёска ў Бяседавіцкім с/с, за 13 км на Пд ад Хоцімска, 220 км ад Магілёва, 50 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. На Пн, З і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. Непадалёку, на ПнУ, пачынаецца р. Сплавень (прыток р. Беседзь). 32 гаспадаркі, 78 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1756 г. вёска ў Бярозкаўскім войтаўстве Крычаўскага староства ВКЛ, дзярж. ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1816 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 11 двароў, 58 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 72 рэвізскія душы і 22 жыхары (цыгане). У 1880 г. 35 двароў, 200 жыхароў. 5 вяскоўцаў займаліся бандарным і адыходным промысламі. У 1897 г. ў Хоцімскай вол. Клімавіцкага павета, 44 двары, 346 жыхароў. Мелася школа граматы. У 1909 г. 60 двароў, 420 жыхароў. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім р-не, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935



*Жыхар в. Гаўрылоўка.*

г. ў Хоцімскім р-нах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 26.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Старшыня калгаса Громаў забяспечваў партызан харчамі і нярэдка сам прымаў удзел у баявых аперацыях. У маі 1942 г. фашысты схапілі Громова і па-зверску закатавалі яго. За 1,5 км на Пд ад вёскі, каля дарогі Хоцімск—Сураж, у 4-х магілах пахавана 11 воінаў 112-га горнакавалерыйскага палка, якія загінулі 16.8.1941 г. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Праца» (цэнтр — в. Варвараўка), 56 гаспадарак, 117 жыхароў. У 2007 г. працаваў магазін. Ад гал. амаль прамалінейнай, працяглай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, перпендыкулярна адыходзяць на ПнУ і ПдЗ па 2 кароткія, прамалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд. і паўн. ускраінах узведзена 10 мураваных аднапавярховых аднакватэрных дамоў. На ПнЗ гасп. сектар, на Пд — сад.

За 0,2 км на ПнУ ад вёскі размешчана Горненскае радовішча даламітаў.

**ГРЫГОР'ЕЎКА** — былы пасёлак у Чарняўскім с/с, за 17 км на З ад Хоцімска, 190 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Еленка (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па шашы Хоцімск—Краснаполле, якая праходзіць побач з пасёлкам.

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім р-нах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Енаполле), 7 гаспадарак, 13 жыхароў. Планіроўвачна складаўся з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ уздоўж ракі і забудаванай індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДОЎГАЯ ДУБРОВА** (да 1937 Зіноўеўка) — вёска ў Батаеўскім с/с, за 27 км на ПдЗ ад Хоцімска, 234 км ад Магілёва, 19 км ад чыг. ст. Журбін на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, на З, Пн і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Князеўка і далей па шашы Батаева—Хоцімск. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім р-нах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе кал-

*Пчаляр з в. Горня.*





гаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Батаева), 12 гаспадарак, 29 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДРУЖБА** — вёска ў Янаўскім с/с, за 10 км на ПнЗ ад Хоцімска, 217 км ад Магілёва, 47 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Васілёўка 1 і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 8 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім р-нах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Клімавіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «III Інтэрнацыянал» (цэнтр — г.п. Хоцімск), 22 гаспадаркі, 48 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

За 1,6 км на ПдУ ад вёскі размешчана Дружбаўскае радовішча трэпелу.

**ДУБРАЎКА** — вёска ў Батаеўскім с/с, за 22 км на ПдЗ ад Хоцімска, 229 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Журбін на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Батаева—Хоцімск, якая праходзіць праз вёску. 27 гаспадарак, 51 жыхар (2007).

Вядома з 18 ст. У 1799 г. 7 двароў, 59 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 57 жыхароў мужчынскага полу. У 1880 г. 32 двары, 180 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася бандарным промыслам. У 1909 г. ў Хоцімскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 54 двары, 410 жыхароў, мелася царк.-прыходская школа. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені. Сяляне вёсак Дубраўка і Князеўка сумесна пабудавалі новы будынак для школы, у якой у 1925 г. было 60 вучняў, дзейнічаў драматычны гурток. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім р-нах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 20.8. 1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Батаева), 43 гаспадаркі, 76 жыхароў, размешчаны клуб, б-ка, магазін. У 2007 г. клуб, б-ка, магазін. Ад абодвух бакоў гал., працяглай, крывалінейнай вуліцы (адрэзак шашы), арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, адыходзяць перпендыкулярна і пад вострым вуглом 7 другарадных кароткіх вуліц. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма Героя Сав. Саюза, ген.-маёра войск сувязі М.К.Піліпенкі, які вызначыўся ў Вял. Айч. вайну пры фарсіраванні ў 1943 г. Дняпра на Пд ад Кіева.



*М.К.Піліпенка.*

**ЕЛАВЕЦ** — вёска ў Вялікаліпаўскім с/с, за 7 км на ПнУ ад Хоцімска, 214 км ад Магілёва, 44 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, на ПнЗ мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Альшоўка (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Альшоў 2 і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 90 гаспадарак, 228 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім р-нах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 24.9.1926 г. да 11.3.1960 г. цэнтр сельсавета. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Была адкрыта пач. школа. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 26.9.1943 г. аку-

піравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4. 1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. цэнтр калгаса «Маяк», 137 гаспадарак, 318 жыхароў, размешчаны Касцюковіцкая дзярж. лесагасп. ўстанова (дапаможная гаспадарка), пач. школа, клуб, б-ка, сталовая, гандлёвы цэнтр, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. У 2007 г. ў вёсцы размешчаны дапаможная гаспадарка Касцюковіцкай дзярж. лесагасп. установы, Дом культуры, б-ка, гандлёвы цэнтр, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Ген. план забудовы распрацаваны «Магілёўграмадзянпраектам» у 1978 г. Рака падзяляе вёску на паўн.-зах. (3 прамалінейныя вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ, перакрыжаваны перпендыкулярна 3 кароткімі вуліцамі) і паўд.-ўсх. (працяглая крывалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, ад якой на ПдУ адыходзяць 3 кароткія вуліцы) часткі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. На паўн.-зах. і паўд. ускраінах — гасп. сектар.

**ЕЛЬНЯ** — вёска ў Чарняўскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Хоцімска, 195 км ад Магілёва, 26 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Еленка (прыток р. Беседзь), а праз вёску — ручай (прыток р. Еленка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Чарняўка і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 108 гаспадарак, 315 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1762 г. с. Ельніца ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Меўся шынок. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. сяло ў Забялышынскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. У 1811 г. 31 двор, 79 жыхароў мужчынскага полу. Гаспадар аднаго маёнтка меў у 1830 г. 167, другога — у 1857 г. 135 дзес. зямлі. Мелася драўляная царква (адкрыта не пазней 1880 г.). Штогод у чэрв. праводзіўся кірмаш. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. Вёска хутка расла, у 1897 г. было 94 двары, 537 жыхароў, дзейнічалі школа граматы, хлебазапасны магазін, 4 крамы, піцейны дом. У 1905 г. ў школе (нар. вучылішча) навучаліся 51 хлопчык і 12 дзяўчынак, у 1907 г. — 59 хлопчыкаў, 18 дзяўчынак. У 1909 г. 72 двары, 527 жыхароў. У пач. 1920-х г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 110 вучняў. Дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У студз. 1919 г. створаны с.-г. арцелі «Зара» (7 гаспадарак) і «Новы шлях» (8 гаспадарак). З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім р-нах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 24.8.1924 г. да 11.3.1960 г. цэнтр сельсавета. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1941 г. на базе групы сав. ваеннаслужачых, якія не змаглі выйсці з акружэння, і мясц. жыхароў быў створаны 2-гі асобны Хоцімскі партыз. атрад. У баях супраць карнікаў у ліп. 1942 г. атрад панёс вялікія страты. Застаўшаяся частка партызан 28.8. 1942 г. ўлілася ў атрад «Наперад», а летам 1943 г. зноў вылучылася ў самастойны атрад. На ўшанаванне памяці 150 землякоў, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у 1947 г. на ўсх. ускраіне пастаўлены абеліск. У цэнтры вёскі пахаваны 10 сав. грамадзян, расстраляных гітлераўскімі карнікамі. У 1975 г. да вёскі далучана в. Запруддзе. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. цэнтр калгаса «Авангард», 97 гаспадарак, 249 жыхароў, размешчаны магазін, 8-гадовая школа, б-ка, сталовая, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. ашчаднага банка, клуб, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аптэка. У 2007 г. цэнтр СВК «Аван-



гард-Ельня», дзіцячы сад, сярэдняя школа, б-ка, Дом культуры, аддз. сувязі, аддз. «Беларусбанка», фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, амбулаторыя, аптэка. Ген. план распрацаваны «Белкалгаспраектам» у 1984 г. Аснову планіроўкі складаюць 2 працяглыя крывалінейныя вуліцы. Адна з іх, шыротнай арыентацыі, праходзіць уздоўж ручая, другая — адыходзіць перпендыкулярна ад цэнтра першай на Пд. Пад рознымі вугламі да гэтых вуліц падыходзяць другарадныя кароткія вуліцы і завулкі. Адасоблена на У праходзіць амаль прамалінейная кароткая вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ (былая в. Запруддзе). Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры, на Пд і У сярод жылой забудовы пераважаюць мураваныя 1—2-кватэрныя дамы. Грамадскія будынкі — у цэнтры, сярод жылой забудовы. На Пн, ПнУ і Пд — гасп. пабудовы.

**ЗАБЯЛЫШЫН** — вёска, цэнтр сельсавета (з 20.8.1924), за 20 км на ПнЗ ад Хоцімска, 182 км ад Магілёва, 32 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Сураў), на якім утворана запруда, на паўн.-ўсх. ускраіне цячэ другі ручай (прыток р. Мужычок). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Трасціно, Маркаўка і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 319 гаспадарак, 807 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1715 г., ратуючыся ад улад Рэчы Паспалітай, з Крычава збеглі 5 сямей. Яны далі пачатак пасёлку, які назвалі, як і вуліцу ў Крычаве, дзе яны раней жылі, — Забялышына. У 1768 г. засн. маёнтак, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. сяло, 20 двароў, 141 жыхар. У 1843 г. пабудавана драўляная царква, якая зараз з'яўляецца помнікам драўлянага дойлідства з элементамі класіцызму. У 1864 г. адкрыта школа, для якой у 1914 г. пабудавана памяшканне. Памешчык меў у 1867 г. ў вёсках Забялышын, Крупня і Сураў 3169,5 дзес. зямлі, 3 вадзяныя млыны, 3 сукнавальні. У 1889 г. ў школе навучалася 35 хлопчыкаў і 7 дзяўчынак, у 1907 г. — 46 хлопчыкаў і 4 дзяўчынкі. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся кравецкім, стальмашным, кавальскім і адыходным промысламі. У 1885 г. цэнтр воласці, у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 31 двор, 253 жыхары. Меліся бальніца (адкрыта не пазней 1880 г.), царква. У 1897 г. 56 двароў, 251 жыхар, дзейнічалі 4 крамы, хлебазапасны магазін, піцейны дом, царква, 2 разы ў год у чэрв. і ліп. праводзіліся кірмашы. Непадалёку быў фальварак (1 двор, 18 жыхароў). У 1909 г. 53 двары, 269 жыхароў, 3 аднайменныя маёнткі. У 1913 г. пачала дзейнічаць вінакурня. У 1918 г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якой быў выдзелены нацыяналізаваны будынак (у 1925 г. 101 вучань). Дзейнічала хата-чытальня. У ліст. 1919 г. створана с.-г. арцель «Свет», якая аб'яднала 7 гаспадарак, мела 92 дзес. зямлі. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Клімавіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. 14.12.1922 г. створана закупачна-збытавое т-ва. У 1926 г. пачалі дзейнічаць фельч.-акушэрскі пункт і бальніца. У пач. 1930-х г. на мясц. спіртзаводзе (былы пас. Свет) была змантаравана энергаўстаноўка і вёска атрымала электраасвятленне. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На ўшанаванне памяці 361 земляка, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у 1967 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Клімавіцкім р-не. У 1967 г. да вёскі далучаны пас. Свет, у 1975 г. — в. Хацімча, пасёлкі Стар і Фралоўка. У 1986 г. цэнтр саўгаса «Забялышын», 362 гаспа-

даркі, 997 жыхароў, размешчаны сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад-яслі, муз. школа, гандлёвы цэнтр, сталовая, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, бальніца, аптэка, аддз. сувязі, аддз. ашчаднага банка. У 2007 г. цэнтр КСУП «Саўгас «Забялышын», дзіцячы сад-яслі, сярэдняя школа, Дом культуры, муз. школа, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі і «Беларусбанка», амбулаторыя, аптэка, гандлёвы цэнтр, сталовая. Ген. план забудовы распрацаваны «БелНДІгіпрасельбудам» у 1984 г. Планіроўка радыяльная. Ад трохвугольнай невял. плошчы адыходзяць працяглыя крывалінейныя вуліцы, перакрыжаваныя другараднымі вуліцамі і завулкамі, скіраванымі на ПнУ (былы пас. Свет), на ПдУ (былая в. Хацімча), на Пд (былы пас. Стар), на ПнЗ і З (старая частка в. Забялышын). На ПдЗ адыходзіць новая вуліца, паралельна да якой адасоблена праходзіць невял. прамалінейная вуліца (былы пас. Фралоўка). Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Новыя вуліцы на ПнУ і ПнЗ забудаваны мураванымі аднакватэрнымі дамамі, а ў цэнтры ўзведзены 2 двухпавярховыя мураваныя 8-кватэрныя дамы. Грамадскія будынкі размешчаны ў цэнтры, вакол плошчы. Гасп. сектар — у цэнтры, на Пн і на ПдУ, на ПдЗ — вял. сад.


*В.Р.Брайцаў.*


*І.Р.Брайцаў.*

Радзіма вучонага-хірурга В.Р.Брайцава; рас. празаіка, драматурга і паэта Я.Р.Брайцава; матэматыка, праф., доктара фізіка-матэматычных навук І.Р.Брайцава.

У склад сельсавета ўваходзяць 8 населеных пунктаў.

**ЗАГОР'Е** — былая вёска ў Чарняўскім с/с, за 24 км на З ад Хоцімска, 193 км ад Магілёва, 19 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Арцюхоўка, Чарняўка і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле.

Вядома з 18 ст. У 1799 г. 5 двароў, 37 жыхароў. У 1858 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 35 рэвізскіх душ. У 1897 г. ў Бярозкаўскай вобл. Клімавіцкага павета, 17 двароў, 102 жыхары. Меўся хлебазапасны магазін. У 1909 г. 19 двароў, 160 жыхароў. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «XXI з'езд КПСС» (цэнтр — в. Чарняўка), 2 гаспадаркі, 2 жыхары. Традыц. драўляныя сял. сядзібы былі пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.

**ЗАРУЧЧА** — былая вёска ў Вялікаліпаўскім с/с, за 12 км на У ад Хоцімска, 219 км ад Магілёва, 49 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. На ПдУ праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Жадунька (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ліпаўка і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле.

Засн. ў 1920-х г. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1919 г. ў былым маёнтку створана с.-г. арцель, якая мела 214 га зямлі. У 1921 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1925 г. ў школе было 43 вучні, дзейнічалі драматычны і харавы гурткі. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 26.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Ліпаўка), 1 гаспадарка, 1 жыхар. Драўляная сялянская сядзіба з гасп. пабудовамі была пастаўлена побач з прасёлачнай дарогай.



**ЗЕЛЯНЕЦ** — былая вёска ў Чарняўскім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Хоцімска, 199 км ад Магілёва, 30 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. На Пд цячэ р. Еленка (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Ельня, Чарняўка і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле.

Вядома з 18 ст. У 1799 г. сяльцо, 6 двароў, 33 жыхары. У 1850 г. вёска, 8 двароў, 62 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Забялышынскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 15 двароў, 100 жыхароў. У 1909 г. 15 двароў, 113 жыхароў. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім р-не, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7. 1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Авангард» (цэнтр — в. Ельня), 17 гаспадарак, 33 жыхары. Захаваўся помнік драўлянага дойлідства — ветраны млын пач. 20 ст. Больш працяглая прамалінейная вуліца была арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Ад яе адыходзіла перпендыкулярна на ПнУ другая прамалінейная вуліца. Была забудавана двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ІГНАТАЎКА** — вёска ў Бярозкаўскім с/с, за 22 км на ПдЗ ад Хоцімска, 187 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Бярозкі, Янаполле, Баханы і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1799 г. 10 двароў. У 1880 г. 49 двароў, 240 жыхароў. 12 вяскоўцаў займаліся кравецкім і адыходным промысламі. У 1897 г. ў Бярозкаўскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 61 двор, 521 жыхар. Меўся хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1905 г. навучалася 30 хлопчыкаў. У 1909 г. вёска Ігнатаўка (яна ж Пагарэлаўка), 60 двароў, 501 жыхар. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. была створана прац. школа 1-й ступені. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.8.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 30 вяскоўцаў загінулі на фронце. У памяць аб іх у 1968 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Бярозкі), 28 гаспадарак, 59 жыхароў, дзейнічаў магазін. Планіровачна складаецца з 2 вуліц, гал. з якіх арыентавана з ПнУ на ПдЗ і мае двухбаковую забудову. Другая кароткая прамалінейная вуліца праходзіць на Пн ад першай, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, і забудавана аднабакова.

**ІЎКІНА** — вёска ў Батаеўскім с/с, за 38 км на ПдЗ ад Хоцімска, 245 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Журбін на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Войская (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ветка і далей па шашы Батаева—Хоцімск. 18 гаспадарак, 25 жыхароў (2007).

У 1897 г. пас. Іўкіна Слабада ў Бялынкавіцкай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 9 двароў. У 1909 г. вёска, 14 двароў, 89 жыхароў. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943

г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Ветка), 35 гаспадарак, 94 жыхары, дзейнічалі пач. школа, магазін. Рака падзяляе вёску на зах. (крывалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі) і ўсх. (Г-падобная вуліца) часткі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАНАВА** — вёска ў Баханскім с/с, за 15 км на З ад Хоцімска, 191 км ад Магілёва, 31 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 56 гаспадарак, 125 жыхароў (2007).

У 1811 г. вёска ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 10 двароў, 51 жыхар. У 1847 г. ў складзе маёнтка Хоцімск, 7 двароў, 66 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1862 г. 119 жыхароў мужчынскага полу. У 1880 г. 40 двароў, 240 жыхароў. 21 вясковец апрача земляробства займаўся рамізніцкім промыслам. У 1897 г. ў Бярозкаўскай вол. Клімавіцкага павета, 61 двор, 473 жыхары. Меліся карчма, вадзяны млын, сукнавальня. У маі 1906 г. сяляне зрабілі патраву памешчыцкіх пасеваў. У 1909 г. ў Хоцімскай вол. Клімавіцкага павета, 57 двароў, 426 жыхароў. У гэтым жа годзе адкрыта школа, для якой у хуткім часе было пабудавана памяшканне. У пач. 1920-х г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 64 вучні. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 90 двароў, 360 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. цэнтр калгаса імя К.Маркса, 93 гаспадаркі, 207 жыхароў, размешчаны пач. школа, дзіцячы сад-яслі, Дом культуры, б-ка, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, сталовая, аддз. сувязі. У 2007 г. Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Ген. план забудовы распрацаваны Магілёўскім філіялам Белдзяржпраекта ў 1984 г. Планіровачна складаецца з 2 вуліц: адна — працяглая, крывалінейная, з завулкамі, арыентавана з ПдУ на ПнЗ, 2 астатнія — паралельныя да першай, прамалінейныя. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Частка вёскі забудавана аднакватэрнымі мураванымі дамамі. Адм.-грамадскі цэнтр размешчаны на невял. плошчы паміж вуліцамі. На З — гасп. сектар.

**КАНАЎКА** — вёска ў Янаўскім с/с, за 7 км на ПнЗ ад Хоцімска, 214 км ад Магілёва, 44 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Маркаўка, Бруёўка і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1799 г. вёска, уласнасць памешчыка. Частка вяскоўцаў займалася адыходным промыслам. У 1897 г. вёска Канава ў Хоцімскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 19 двароў, 169 жыхароў. У 1909 г. 15 двароў, 131 жыхар. У 1910 г. адкрыта царк.-прыходская школа. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 26.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Клімавіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «III Інтэрнацыянал» (цэнтр — г.п. Хоцімск), 18 гаспадарак, 34



жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАЦЯРЫНПОЛЛЕ** — былая вёска ў Трасцінскім с/с, за 13 км на ПнЗ ад Хоцімска, 220 км ад Магілёва, 36 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. За 9 км на ПнУ ад вёскі знаходзіцца найвышэйшы пункт раёна (189,1 м). На З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Еленка (прыток р. Беседзь), а праз вёску праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Чачавец (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Шаладонаўка, Васілёўка 1 і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле.

У 1857 г. вёска ў Клімавіцкім павеце, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 295 жыхароў. 12 вяскоўцаў займаліся стальмашным і 26 — адыходным промысламі. У 1897 г. ў Хоцімскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 39 двароў. Побач быў аднайменны хутар (1 двор, 10 жыхароў). У 1909 г. ў вёсцы 35 двароў, 292 жыхары, на хутары 1 двор, 6 жыхароў. У 1918 г. адкрыта школа, у якой у 1925 г. было 45 вучняў. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім р-нах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 21.8.1925 г. да 1935 г. цэнтр сельсавета. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Клімавіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе саўгаса «Трасціно» (цэнтр — в. Трасціно), 24 гаспадаркі, 43 жыхары. Планіровачна складалася з 2 кароткіх прамалінейных вуліц, размежаваных каналам і арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. На Пн адасоблены ўчастак забудовы, на ПнУ — адасоблена праходзіла крывалінейная вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі (былы пас. Ранняя Зорка). Жылыя дамы індывідуальныя, традыц., драўляныя сядзібнага тыпу.

**КЛІН** — вёска ў Бярозкаўскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Хоцімска, 187 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Хоцімск—Краснаполле, якая праходзіць побач з вёскай. 44 гаспадаркі, 77 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1768 г. сяло, у Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, 22 гаспадаркі, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 18 двароў, 143 жыхары. У 1880 г. 62 двары, 290 жыхароў. 20 вяскоўцаў займаліся адыходным промыслам. У 1897 г. ў Бярозкаўскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 86 двароў, 640 жыхароў. Меўся хлебазапасны магазін. У 1910 г. пачала дзейнічаць царк.-прыходская школа. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 59 вучняў, дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 62 вяскоўцы загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. У памяць аб іх у цэнтры вёскі ў 1968 г. ўзведзены абеліск. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Бярозкі), 74 гаспадаркі, 166 жыхароў, размешчаны пач. школа, клуб, б-ка, магазін. У 2007 г. клуб, б-ка, магазін. Планіроўка Т-падобная. Больш працяглая прамалінейная вуліца адыходзіць перпендыкулярна ад кароткай прамалінейнай вуліцы на ПнУ. Забудавана двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПнЗ і ПнУ — гасп. сектар, на Пн — сад.

**КЛЯНОЎКА** — вёска ў Чарняўскім с/с, за 18 км на З ад Хоцімска, 207 км ад Магілёва, 34 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. На ПнУ праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Еленка (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Мосін, Канава і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 27 гаспадарак, 56 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. Гаспадар аднаго маёнтка меў тут у 1840 г. 219 дзес. зямлі і ветраны млын, другога — 340 дзес. зямлі. У 1858 г. вёска, у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., дзярж. ўласнасць. У 1880 г. 33 двары, 124 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася стальмашным промыслам. У 1897 г. ў Забялышынскай вол. Клімавіцкага павета, 43 двары, 299 жыхароў. У 1909 г. 42 двары. У 1912 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6. 1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якой быў выдзелены нацыяналізаваны будынак. У 1925 г. ў школе было 38 вучняў, дзейнічалі хата-чытальня, пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у цэнтры вёскі ў 1967 г. ўзведзены абеліск. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Авангард» (цэнтр — в. Ельня), 56 гаспадарак, 118 жыхароў, размешчаны пач. школа, магазін. У 2007 г. дзейнічаў магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай працяглай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, ад якой на Пд адыходзіць другая крывалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПнЗ — гасп. сектар, на З — сад.

**КНЯЗЕЎКА** — вёска ў Батаеўскім с/с, за 23 км на ПдЗ ад Хоцімска, 230 км ад Магілёва, 19 км ад чыг. ст. Журбін на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, на З, ПнЗ і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Батаева—Хоцімск. 10 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

У 1897 г. арганізаваны пасёлак ва ўрочышчы Пажар, у Бялынкавіцкай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6. 1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 21 двор, 84 жыхары. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 26.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы ў жн. 1942 г. поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. Ураджэнец вёскі П.Р.Ткачоў быў актыўным удзельнікам умацавання Сав. улады ў зах. раёнах Беларусі. Старшыня Маларыцкага райвыканкома П.Р.Ткачоў 20.2.1947 г. пасля правядзення сходу ў в. Лажная быў забіты бандытамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Батаева), 19 гаспадарак, 46 жыхароў. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы (адрэзак шашы), арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРУГЛЫ** — пасёлак у Янаўскім с/с, за 12 км на Пн ад Хоцімска, 219 км ад Магілёва, 49 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, на ПдУ мяжуе з лесам, на ПнЗ цячэ р. Беседзь (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Васілёўка 2, Малуноўка і далей па шашы Хо-



цімск—Краснаполле. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім р-нах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. пасялкоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 26.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Клімавіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — г.п. Хоцімск), 18 гаспадарак, 44 жыхары. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРЫНІЧКА** — вёска ў Чарняўскім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Хоцімска, 209 км ад Магілёва, 28 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. На З цячэ р. Еленка (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Кляноўка, Мосін, Канава і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. В 1986 г. ў складзе калгаса «Авангард» (цэнтр — в. Ельня), 16 гаспадарак, 41 жыхар. Планіровачна складаецца з 2 узаемна перакрыжаваных пад прамым вуглом вуліц, адна з якіх арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛАЗОЎКА** — былая вёска ў Янаўскім с/с, за 7 км на ПнЗ ад Хоцімска, 214 км ад Магілёва, 44 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Васілёўка 1 і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле.

Вядома з 1768 г. як урочышча, у Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Аднак актыўная забудова вёскі пачалася толькі ў 1920-х г. Уваходзіла ў Хоцімскі, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкі, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскі раёны Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Клімавіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «III Інтэрнацыянал» (цэнтр — г.п. Хоцімск), 14 гаспадарак, 26 жыхароў. Планіровачна складалася з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛІПАКІ** — вёска ў Батаеўскім с/с, за 26 км на ПдЗ ад Хоцімска, 243 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Журбін на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Батаева—Хоцімск, якая праходзіць праз вёску. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З 1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 25 двароў, 75 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 26.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1942 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбу-

давана. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Батаева), 12 гаспадарак, 21 жыхар. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы (адрэзак шашы), арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛІПАЎКА** (да 7.3.1975 г. вёскі Вялікая Ліпаўка і Малая Ліпаўка) — вёска, цэнтр сельсавета, за 8 км на У ад Хоцімска, 215 км ад Магілёва, 45 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Уюнка (прыток р. Жадунька). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 159 гаспадарак, 422 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1756 г. вёска ў Бярозкаўскім войтаўстве Крычаўскага староства ВКЛ, дзярж. ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1834 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 57 двароў, 472 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 115 двароў, 860 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. 2 вёскі: Вялікая Ліпаўка (84 двары, 693 жыхары, царк.-прыходская школа) і Малая Ліпаўка (64 двары, 508 жыхароў, карчма). Побач быў фальварак (41 жыхар). У 1898 г. ў в. Вялікая Ліпаўка адкрыта земская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне, мелася б-ка. У 1910 г. адкрыта школа ў в. Малая Ліпаўка ў толькі што пабудаваным для яе памяшканні. У 1909 г. ў двух вёсках 131 двор, 1119 жыхароў, мелася царква. На базе дарэв. ў в. Вялікая Ліпаўка адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 60 вучняў, дзейнічаў драматычны гурток. Такая ж школа была ў в. Малая Ліпаўка, дзе ў 1925 г. было 52 вучні, дзейнічалі хата-чытальня, гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. 17.8.1919 г. створана с.-г. арцель «Заручча», якая аб'ядноўвала 15 гаспадарак. 15.6.1923 г. пачало дзейнічаць меліярацыйнае т-ва. У 1929 г. арганізаваны калгас «Бальшавік». У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 26.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1967 г. ў вёсцы пастаўлены помнік у гонар сав. воінаў-вызваліцеляў. У памяць аб земляках, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у цэнтры вёскі ў 1967 г. пастаўлены абеліск. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1975 г. вёскі Вялікая Ліпаўка і Малая Ліпаўка склалі адну вёску Ліпаўка. У 1986 г. цэнтр калгаса «Бальшавік», 196 гаспадарак, 526 жыхароў, размешчаны 8-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад-яслі, магазін, сталовая, комплексны прыёмны пункт бытавога абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. ашчаднага банка, аддз. сувязі. У 2007 г. цэнтр СВК «Ліпаўка», дзіцячы сад-яслі, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі і «Беларусбанка», комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін. Ген. план забудовы распрацаваны «Белкалгаспраектам» у 1985 г. Аснову планіровачнай структуры складаюць 2 крывалінейныя, працяглыя вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ абапал ракі. На Пн ад іх праходзіць крывалінейная вуліца амаль шыротнай арыентацыі (былая в. Малая Ліпаўка), на ПдЗ адасоблена праходзяць 3 кароткія прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі (былая в. Вялікая Ліпаўка). Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Частку забудовы ў цэнтры і на Пд складаюць мураваныя аднапавярховыя аднакватэрныя дамы. Адм.-грамадскія будынкі размешчаны пераважна



вакол плошчы, што ў цэнтры вёскі. Побач з плошчай — парк. Гасп. сектар — на ПнУ і ПнЗ.

У Вялікаліпаўскі сельсавет уваходзяць 5 вёсак.

**МАЛАТОЎКА** — вёска ў Бярозкаўскім с/с, за 29 км на ПдЗ ад Хоцімска, 195 км ад Магілёва, 29 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, на ПдУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Бярозкі і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З 1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6. 1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Бярозкі), 2 гаспадаркі, 4 жыхары. Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. будынкамі пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.

**МАЛУНОЎКА** — вёска ў Янаўскім с/с, за 4 км на Пн ад Хоцімска, 211 км ад Магілёва, 41 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. На ПдЗ цячэ р. Беседзь (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 36 гаспадарак, 74 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З 1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6. 1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 26.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 38 вяскоўцаў. У памяць аб іх у 1965 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — г.п. Хоціна), 44 гаспадаркі, 99 жыхароў, размешчаны клуб, б-ка, магазін. Ген. план забудовы распрацаваны ў 1984 г. Магілёўскім філіялам Белдзяржпраекта. Планіровачна складаецца з гал. крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і перакрыжаванай прамалінейнай вуліцай пад прамым вуглом. Перпендыкулярна да гал. на ПнУ адыходзяць яшчэ 2 прамалінейныя, кароткія вуліцы. На Пн адасоблена праходзіць кароткая прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На гал. вуліцы ўзведзена 10 панэльных аднакватэрных жылых дамоў.

**МАРКАЎКА** — вёска ў Трасцінскім с/с, за 7 км на ПнЗ ад Хоцімска, 214 км ад Магілёва, 44 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, на ПнЗ мяжуе з лесам. На Пн і ПнУ цячэ р. Беседзь (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Бруёўка і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 26 гаспадарак, 31 жыхар (2007).

За 0,5 км на ПдУ ад вёскі знаходзіцца стараж. курганны могільнік (19 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 15 ст. У 1447 г. згодна прывілею вялікага князя ВКЛ Казіміра шляхціц Марк Астрэйка атрымаў дворышча на ручаі Смародзінцы, які ўпадае ў р. Беседзь. Затым дворышча і вёска сталі называцца па імені ўладальніка. У 1762 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Меліся млын і шынок. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 12 двароў, 82 жыхары. У 1811 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 33 двары, 218 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1897 г. в. Маркаўка (яна ж Галееўка) у Хоцімскай вол. Клімавіцкага павета Ма-

гілёўскай губ., 39 двароў, 268 жыхароў. У 1909 г. 35 двароў, 245 жыхароў. У 1918 г. адкрыта школа, для якой вяскоўцы ў хуткім часе пабудавалі памяшканне. У 1925 г. ў школе было 35 вучняў, дзейнічала хата-чытальня. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1928 г. арганізавана с.-г. арцель «Чырвоная Зорка», якая аб'ядноўвала 49 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1951 г. абсталяваны радыёвузел, вёска была радыёфікавана, у 1965 г. — электрыфікавана. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Клімавіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе саўгаса «Трасціно» (цэнтр — в. Трасціно), 40 гаспадарак, 88 жыхароў, размешчаны клуб, б-ка, магазін. У 2007 г. клуб, магазін. Планіроўка Т-падобная. Ад цэнтра кароткай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ уздоўж ракі, адыходзіць на ПдЗ кароткая дугападобная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАРЦІНАЎКА** — вёска ў Чарняўскім с/с, за 25 км на З ад Хоцімска, 193 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Чарняўка і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 21 гаспадарка, 30 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1768 г. маёнтак і двор у Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 10 двароў, 69 жыхароў. У 1858 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 52 рэвізскія душы. У 1880 г. 28 двароў, 150 жыхароў. 17 вяскоўцаў займаліся адыходным промыслам. У 1897 г. ў Бярозкаўскай вол. Клімавіцкага павета, 30 двароў, 195 жыхароў. Меўся хлебазапасны магазін. У 1909 г. 29 двароў, 255 жыхароў. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6. 1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «XXI з'езд КПСС» (цэнтр — в. Чарняўка), 45 гаспадарак, 109 жыхароў, дзейнічаў магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы з завулкам амаль шыротнай арыентацыі, ад якой на ПдУ адыходзіць кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МІХАЙЛОЎКА** — былая вёска ў Трасцінскім с/с, за 17 км на ПнЗ ад Хоцімска, 224 км ад Магілёва, 35 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Будачка, Трасціно, Маркаўка і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле.

Вядома з пач. 19 ст. У 1811 г. вёска, 4 двары, 12 жыхароў мужчынскага полу. У 1880 г. 7 двароў, 29 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. ў Забялышынскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 10 двароў, 73 жыхары. У 1901 г. засн. вінакурны з-д, на якім у 1913 г. было 15 рабочых. У 1909 г. 9 двароў, 88 жыхароў. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6. 1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 25 двароў, 75 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіра-



вана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе саўгаса «Трасціно» (цэнтр — в. Трасціно), 11 гаспадарак, 12 жыхароў. Планіровачна складалася з амаль прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МІХАЙЛАЎКА** — вёска ў Батаеўскім с/с, за 36 км на ПдЗ ад Хоцімска, 210 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Журбін на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, вакол лес. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ветка і далей па шашы Батаева—Хоцімск. 15 гаспадарак, 29 жыхароў (2007).

У 1897 г. ў Бялынкавіцкай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 8 двароў, 43 жыхары. У 1909 г. 4 двары, 39 жыхароў. Непадалёку быў аднайменны хутар, 9 двароў, 63 жыхары. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6. 1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Ветка), 31 гаспадарка, 70 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы з завулкам, арыентаваным з ПнЗ на ПдУ, забудаванай двухбакова, няшчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МІХАЙЛАЎСКІ** — былы пасёлак у Бяседавіцкім с/с, за 9 км на ПдУ ад Хоцімска, 216 км ад Магілёва, 46 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, на Пн, З і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Варвараўка і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле.

Вядомы з 1746 г., калі тут быў фальварак, дзейнічалі рудня і гута. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Як населены пункт пачаў складвацца ў пач. 1920-х г. З 1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 18 двароў, 54 жыхары. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі пасёлак, загубілі 2 жыхароў. Пасля вайны адбудаваны. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Праца» (цэнтр — в. Варвараўка), 11 гаспадарак, 18 жыхароў. Планіровачна складаўся з прамалінейнай, кароткай, амаль мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы з завулкамі, забудаванай двухбакова, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МОСІН** (да 7.3.1975 г. вёскі Стары Мосін і Новы Мосін) — вёска ў Баханскім с/с, за 17 км на З ад Хоцімска, 205 км ад Магілёва, 33 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Благаўка (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Канава і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 32 гаспадаркі, 61 жыхар (2007).

У 1857 г. вёскі Стары Мосін і Новы Мосін у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., уласнасць памешчыка. У 1880 г. ў вёсцы Стары Мосін 22 двары, 150 жыхароў, 8 чалавек займаліся перавозным промыслам; у вёсцы Новы Мосін 45 двароў, 230 жыхароў, 5 чалавек займаліся бондарным, 21 адыходным і 14 перавозным промысламі. У 1897 г. ў в. Стары Мосін 35 двароў, 236 жыхароў, у в. Новы Мосін 66 двароў, 413 жыхароў, уваходзілі ў Бяроз-

каўскую вол. Клімавіцкага павета. Меліся хлебазапасны магазін, царк.-прыходская школа, піцейны дом. У 1909 г. ў вёсках Стары Мосін і Новы Мосін 86 двароў, 665 жыхароў. У пач. 1920-х г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 60 вучняў, дзейнічаў драматычны гурток. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6. 1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Канава), 97 гаспадарак, 216 жыхароў, клуб, магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай працяглай вуліцы з завулкамі (паўн. частка — былая в. Стары Мосін, паўд. — былая в. Новы Мосін), арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне і Пд — гасп. сектар, на паўн.-зах. ускраіне — сад.

За 1 км на У ад вёскі знаходзіцца Старамосінскае радовішча глін.

**НОВАЯ ЖЫЗНЬ** — вёска ў Бяседавіцкім с/с, за 6 км на ПдЗ ад Хоцімска, 213 км ад Магілёва, 43 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Сплавень. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Бяседавічы і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З 1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6. 1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Іскра» (цэнтр — в. Бяседавічы), 18 гаспадарак, 29 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова, няшчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НОВАЯ ЖЫЗНЬ** — вёска ў Забялышынскім с/с, за 19 км на ПнЗ ад Хоцімска, 226 км ад Магілёва, 56 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. На ПнУ цячэ р. Рэкта (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Падлесная, Трасціно, Маркаўка і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 8 гаспадарак, 14 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З 1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Клімавіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6.1927 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Клімавіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе саўгаса «Забялышын» (цэнтр — в. Забялышын), 16 гаспадарак, 39 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай пераважна двухбакова, няшчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НОВЫ ШЛЯХ** — вёска ў Чарняўскім с/с, за 28 км на ПнЗ ад Хоцімска, 195 км ад Магілёва, 27 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. На ПнУ цячэ р. Еленка (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Ельня, Чарняўка і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).






*Дарожны ўказальнік пасёлка Пагранічнік.*

Засн. ў 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З 1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6. 1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Авангард» (цэнтр — в. Ельня), 13 гаспадарак, 26 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПнУ на ПдЗ і забудаванай аднабакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАГРАНІЧНІК** — пасёлак у Янаўскім с/с, за 14 км на Пн ад Хоцімска, 221 км ад Магілёва, 51 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам, на З цячэ р. Беседзь (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Васілёўка 2, Малуноўка і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З 1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6. 1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл.

*Пчаляр з пасёлка Пагранічнік.*



У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Клімавіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — г.п. Хоцімск), 8 гаспадарак, 20 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай аднабакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАДЛЕСНАЯ** (да 30.7.1964 Каравянец) — вёска ў Трасцінскім с/с, за 16 км на ПнЗ ад Хоцімска, 223 км ад Магілёва, 53 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ р. Мурашка (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Трасціно, Маркаўка і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 25 гаспадарак, 52 жыхары (2007).

Вядома з 19 ст. Гаспадар маёнтка, які размяшчаўся тут, меў у 1869 г. 114 дзес. зямлі. У 1857 г. вёска ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., уласнасць памешчыка. У 1880 г. 21 двор, 106 жыхароў. 21 вясковец займаўся скарняжным і адыходным промысламі. У 1897 г. ў Забялышынскай вол. Клімавіцкага павета, 27 двароў, 208 жыхароў. Побач быў аднайменны фальварак (1 двор, 6 жыхароў). У 1905 г. ў вёсцы 30 двароў, 228 жыхароў, на хутары 4 двары, 32 жыхары. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6. 1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Клімавіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе саўгаса «Трасціно» (цэнтр — в. Трасціно), 45 гаспадарак, 82 жыхары, размешчаны магазін. У 2007 г. клуб, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, размешчанай уздоўж ракі. Ад гэтай вуліцы на Пд перпендыкулярна адыходзяць 3 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, няшчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На З — вытв. сектар.

**ПАЎЛАЎКА** — вёска ў Баханскім с/с, за 13 км на З ад Хоцімска, 203 км ад Магілёва, 30 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Чачавец (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 30 гаспадарак, 51 жыхар (2007).

У 1880 г. вёска, 44 двары, 260 жыхароў. 24 вяскоўцы займаліся рамізніцкім промыслам. У 1897 г. ў Бярозкаўскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 62 двары, 354 жыхары. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. створана с.-г. арцель. У 1930 г. арганізаваны калгас «Рассвет». У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7. 1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Канава), 68 гаспадарак, 134 жыхары. У 2007 г. дзейнічаў магазін. Планіровачна складаецца з працяглай, прамалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай амаль мерыдыянальна і падзеленай у цэнтры лагчынай. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры і на Пн — гасп. сектар.

**ПРУДОК** — вёска ў Забялышынскім с/с, за 19 км на ПнЗ ад Хоцімска, 226 км ад Магілёва, 33 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, на Пн і ПдЗ мяжуе з лесам. На ПдЗ цячэ р. Мужычок (прыток р. Беседзь).



Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Трасціно, Маркаўка і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 27 гаспадарак, 65 жыхароў (2007).

У 1858 г. ў вёсцы было 134 жыхары. У 1873 г. засн. сукнавальня. У 1880 г. 31 двор, 138 жыхароў. У 1886 г. сяляне захапілі памешчыцкі луг, а ў наступным годзе аказалі супраціўленне ўладам пры апісанні маёмасці. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся кравецкім і адыходным промысламі. У 1897 г. ў Забялышынскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 47 двароў. Побач быў аднайменны хутар (4 двары, 24 жыхары). У 1909 г. ў вёсцы 39 двароў, 382 жыхары, у маёнтку 1 двор, 7 жыхароў. У 1918 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні (у 1925 г. 31 вучань), дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Клімавіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Клімавіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе саўгаса «Забялышын» (цэнтр — в. Забялышын), 61 гаспадарка, 144 жыхары. У 2007 г. дзейнічаў магазін. Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ уздоўж ракі. Ад асн. адыходзіць на ПнУ крывалінейная вуліца з завулкам. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПдУ — гасп. сектар.

Радзіма поўнага кавалера ордэна Славы, камандзіра мінамётнай батарэі, старшага сяржанта І.Т.Ляскоўскага (1901—46), які вызначыўся ў Вял. Айч. вайну ў баях на тэр. Малдовы і Германіі.

**РАЗАЛЬМОВА** — вёска ў Трасцінскім с/с, за 13 км на ПнЗ ад Хоцімска, 220 км ад Магілёва, 33 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам, на З цячэ р. Трасцінка (прыток р. Мужычок), на паўд.-ўсх. ускраіне — тры сажалкі. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Кацярынполле, Шаладонаўка, Васілёўка 1 і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 30 гаспадарак, 48 жыхароў (2007).



*І.Т.Ляскоўскі.*

Вядома з 19 ст. Гаспадар маёнтка меў тут у 1838 г. 246,5 дзес. зямлі. У 1858 г. вёска ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 32 рэвізскія душы. У 1880 г. 17 двароў, 48 жыхароў мужчынскага полу. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. вёска (24 двары, 155 жыхароў) і фальварак (1 двор, 14 жыхароў) у Забялышынскай вол. Клімавіцкага павета. У 1909 г. ў вёсцы 329, у маёнтку 10 жыхароў. У 1919 г. адкрыта школа, у якой у 1925 г. было 36 вучняў, дзейнічаў драматычны гурток. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. 1.5.1919 г. быў арганізаваны першы на Хоцімшчыне саўгас «Разальмова», які спецыялізаваўся на свінагадоўлі. Дырэктар саўгаса загінуў ад рук кулакоў. У 1934 г. адкрыты дзіцячая пляцоўка і яслі. З 1935 г. да 29.1.1960 г. цэнтр Першамайскага с/с. У кастр. 1937 г. саўгас рэарганізаваны і на яго базе была створана МТС, якая першапачаткова атрымала 25 трактароў і інш. тэхніку. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Клімавіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе саўгаса «Трасціно» (цэнтр — в. Трасціно), 66 гаспадарак, 159 жыхароў. Планіроўка Г-падобная. Прамалінейная вуліца арыентавана з ПнУ на ПдЗ, дзе ад яе на ПдУ ады-

ходзіць крывалінейная вуліца. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РОСКАШ** — вёска ў Бярозкаўскім с/с, за 16 км на ПдЗ ад Хоцімска, 192 км ад Магілёва, 23 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, праз вёску цячэ ручай (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па шашы Хоцімск—Краснаполле, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 22 гаспадаркі, 28 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1799 г. 13 двароў, 91 жыхар. У 1811 г. вёска ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., уласнасць памешчыка. У 1816 г. 31 двор, 144 жыхары. У 1857 г. в. Роскаш (яна ж Круцялі) у Клімавіцкім павеце. У 1880 г. 44 двары, 260 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кушнерскім, бандарным і адыходным промысламі. У 1897 г. ў Бярозкаўскай вол. Клімавіцкага павета, 69 двароў, 545 жыхароў. Меўся хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1907 г. навучалася 56 хлопчыкаў, 8 дзяўчынак. У 1909 г. 63 двары, 679 жыхароў. У пач. 1920-х г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 35 вучняў. Дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7. 1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Енаполле), 47 гаспадарак, 97 жыхароў, дзейнічаў магазін. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх крывалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, размешчаных абапал ручая і арыентаваных з ПнЗ на ПдУ. Забудавана двухбакова, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**САКАЛОЎКА** — былы пасёлак у Чарняўскім с/с, за 26 км на ПнЗ ад Хоцімска, 197 км ад Магілёва, 27 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Ельня, Чарняўка і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле.

Вядома з пач. 19 ст. У 1811 г. вёска ў Клімавіцкім павеце, 17 двароў, 79 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. У 1909 г. ў Забялышынскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 48 двароў, 347 жыхароў. У 1919 г. створана с.-г. арцель. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Авангард» (цэнтр — в. Ельня), 1 гаспадарка, 1 жыхар. Традыц. сял. драўляная сядзіба з гасп. пабудовамі была пастаўлена каля прасёлачнай дарогі.

**СЕЛІШЧА** — вёска ў Чарняўскім с/с, за 17 км на З ад Хоцімска, 198 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Еленка (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Мосін, Канава і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1799 г. 14 двароў, 108 жыхароў. У 1857 г. вёска ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., уласнасць памешчыка. У 1866 г. ў фальварку, што быў побач, засн. вінакурны з-д (у 1881 г. 7 рабочых). У 1880 г. 21 двор. Частка вяскоўцаў займалася адыходным промыслам. У 1897 г. ў Бярозкаўскай вол. Кліма-



віцкага павета Магілёўскай губ., 30 двароў, 214 жыхароў. Меўся хлебазапасны магазін. У фальварку 1 двор, 9 жыхароў. У 1909 г. 255 жыхароў. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4. 1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «XXI з'езд КПСС» (цэнтр — в. Чарняўка), 14 гаспадарак, 27 жыхароў. Кароткая прамалінейная вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ, ад яе на ПдЗ адыходзіць кароткая крывалінейная вуліца. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ТАКЛЁЎКА** — вёска ў Забялышынскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Хоцімска, 230 км ад Магілёва, 40 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пд цячэ р. Сураў (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Забялышын, Трасціно, Маркаўка і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 34 гаспадаркі, 68 жыхароў (2007).

У 1858 г. вёска ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 72 рэвізскія душы, уласнасць памешчыка. У 1880 г. в. Цеклеўка, 36 двароў, 146 жыхароў. 15 вяскоўцаў займаліся адыходным промыслам. У 1897 г. ў Забялышынскай вол. Клімавіцкага павета, 47 двароў, 267 жыхароў. У 1909 г. 348 жыхароў. На хутары Цеклеўка ў 1910 г. была адкрыта казённая вінная лаўка. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Клімавіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. 19.3. 1924 г. створана меліярацыйнае т-ва. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Клімавіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе саўгаса «Забялышын» (цэнтр — в. Забялышын), 76 гаспадарак, 183 жыхары, дзейнічалі клуб, магазін. У 2007 г. працаваў магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных на Пд трэцяй прамалінейнай вуліцай. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ТРАСЦІНО** — вёска, цэнтр сельсавета (з 20.8.1924), за 10 км на ПнЗ ад Хоцімска, 217 км ад Магілёва, 47 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, на ПдУ мяжуе з лесам, праз вёску цякуць р. Мужычок (прыток р. Беседзь) і яе прыток р. Трасцінка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Маркаўка і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 250 гаспадарак, 607 жыхароў (2007).

У цэнтры вёскі побач з могілкамі захаваўся курганны могільнік (34 насыпы), за 0,5 км на Пн ад вёскі размешчаны другі курганны могільнік (3 насыпы), якія сведчаць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Вёска вядома з 18 ст. У 1762 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяводстве ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Меўся шынок. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1784 г. 30 двароў, 232 жыхары. У 1811 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 39 двароў, 133 жыхары мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. У чэрв. 1861 г. сяляне адмовіліся адбываць павіннасць на памешчыка. У 1885 г. ў Хоцімскай вол. Клімавіцкага павета, 35 двароў, 259 жыхароў. Мелася царква. Частка вяскоўцаў займалася адыходным промыслам. У 1897 г. побач з сялом быў аднайменны фальварак (1 двор, 4 жыхары) і фальва-

рак Трасціно (ён жа Маркаўка; 1 двор, 7 жыхароў). У 1896 г. адкрыта школа, для якой у 1906 г. пабудавана памяшканне. У 1905 г. ў школе навучалася 46 хлопчыкаў і 5 дзяўчынак. У 1909 г. ў вёсцы было 47 двароў, 390 жыхароў, у фальварку 2 двары, 13 жыхароў. У пач. 1920-х г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, мелася хата-чытальня. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 15.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Новы шлях», які аб'яднаў 96 гаспадарак. У 1930 г. для школы пабудавана новае памяшканне. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 200 жыхароў удзельнічалі ў баях на фронце і ў партыз. барацьбе, 117 з іх загінулі. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе, у 1967 г. на ўсх. ускраіне вёскі пастаўлены абеліск. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Клімавіцкім р-не. У 1975 г. да вёскі далучаны вёскі Зарэчча 1 і Зарэчча 2, Азёрная (былая в. Мужычок). У 1986 г. цэнтр саўгаса «Трасціно», 249 гаспадарак, 678 жыхароў, размешчаны сярэдняя школа, клуб, б-ка, дзіцячы сад-яслі, гандлёвы цэнтр, сталовая, комплексны прыёмны пункт бытавога абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. ашчаднага банка, аддз. сувязі. У 2007 г. дзейнічалі дзіцячы сад-яслі, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі і «Беларусбанка», гандлёвы цэнтр, сталовая. Ген. план забудовы распрацаваны «Магілёўграмадзянпраектам» у 1981 г. Рэкі падзяляюць вёску на паўн. (крывалінейная вуліца з завулкам, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ уздоўж р. Мужычок, былая в. Азёрная), цэнтр. (2 амаль прамалінейныя, размежаваныя дарогай вуліцы шыротнай арыентацыі, былыя вёскі Зарэчча 1, Зарэчча 2, і 2 новыя, паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з ПдУ на ПнЗ) і паўд. (крывалінейная працяглая вуліца ўздоўж р. Трасцінка, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, ад цэнтра якой на ПдУ адыходзіць новая прамалінейная вуліца) часткі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Новыя вуліцы забудаваны мураванымі аднапавярховымі аднакватэрнымі дамамі. Частка мураваных дамоў размешчана каля адм.-грамадскага цэнтра. На Пн і ПнЗ узведзена некалькі двухпавярховых 8- і 16-кватэрных жылых дамоў. Вытв. сектар — на ПнЗ, Пд і З.

У склад сельсавета ўваходзяць 6 населеных пунктаў.

**ТРОІЦКІ** — вёска ў Батаеўскім с/с, за 36 км на ПдЗ ад Хоцімска, 180 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Журбін на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Войская (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ветка і далей па шашы Батаева—Хоцімск. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях. З 1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Ветка), 9 гаспадарак, 19 жыхароў. Планіровачна складаецца з крывалінейнай кароткай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай няшчыльна, двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ТРУД** — вёска ў Батаеўскім с/с, за 28 км на ПдЗ ад Хоцімска, 235 км ад Магілёва, 21 км ад чыг. ст. Журбін на лініі Кліма-



вічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, на Пн і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Доўгая Дубрава, Князеўка і далей па шашы Батаева—Хоцімск. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Засн. ў 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З 1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6. 1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Ветка), 5 гаспадарак, 8 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**УЗЛОГІ** — вёска ў Вялікаліпаўскім с/с, за 13 км на ПдУ ад Хоцімска, 220 км ад Магілёва, 50 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Жадунька (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ліпаўка і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 24 гаспадаркі, 49 жыхароў (2007).

Засн. ў 1725 г. ў Крычаўскім старостве Мсціслаўскага ваяв. ВКЛ. У 1727 г. 14 дымоў. З 1747 г. дзейнічала гута па вырабе шкла. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1779 г. 11 двароў, 78 жыхароў. У 1799 г. ў Крычаўскім старостве Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 12 двароў, 121 жыхар. У 1834 г. 23 двары, 190 жыхароў. У 1880 г. 47 двароў, 348 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася бандарным промыслам. У 1897 г. ў Хоцімскай вол. Клімавіцкага павета, 64 двары, 497 жыхароў. У 1909 г. 66 двароў, 525 жыхароў. У 1911 г. адкрыта земская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 52 вучні, дзейнічалі б-ка, хата-чытальня, харавы гурток. У 1919 г. створана т-ва па сумеснай апрацоўцы зямлі, якое аб'ядноўвала 15 гаспадарак. 10.7.1923 г. арганізавана меліярацыйнае т-ва. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 26.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Ліпаўка), 54 гаспадаркі, 123 жыхары, дзейнічалі клуб, магазін. Планіровачна складаецца з 3 вуліц, больш працяглая з якіх крывалінейная, арыентавана з ПдУ на ПнЗ уздоўж ракі. Ад яе паўд.-ўсх. канца адыходзіць на У кароткая прамалінейная вуліца. На Пн, за ракой, паралельна да яе праходзіць трэцяя кароткая вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**УЛАДЗІМІРАЎКА** — вёска ў Бярозкаўскім с/с, за 17 км на ПдЗ ад Хоцімска, 190 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, у цэнтры вёскі — дзве невял. сажалкі. Транспартныя сувязі па шашы Хоцімск—Краснаполле, якая праходзіць побач з вёскай. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

Засн. ў 1924 г. як пасёлак у Хоцімскім р-не, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7. 1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Савецкая Беларусь»

(цэнтр — в. Енаполле), 17 гаспадарак, 30 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 вуліц, адна з якіх арыентавана з ПдЗ на ПнУ, другая адыходзіць ад яе пад вострым вуглом на У, паралельна да шашы. Забудавана аднабакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**УСХОДНІ ШЛЯХ** — былая вёска ў Чарняўскім с/с, за 25 км на З ад Хоцімска, 193 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Чарняўка і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле.

Засн. ў 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З 1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6. 1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «XXI з'езд КПСС» (цэнтр — в. Чарняўка), 4 гаспадаркі, 7 жыхароў. Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі былі пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.

**ФАМІНО** — вёска ў Забялышынскім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Хоцімска, 221 км ад Магілёва, 51 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам, на Пд цячэ р. Мурашка (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Падлесная, Трасціно, Маркаўка і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З 1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Клімавіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Клімавіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе саўгаса «Забялышын» (цэнтр — в. Забялышын), 8 гаспадарак, 20 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай аднабакова, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЦІХАНЬ** (да 7.3.1975 г. вёскі Ціхань 1 і Ціхань 2) — вёска ў Забялышынскім с/с, за 18 км на Пн ад Хоцімска, 225 км ад Магілёва, 55 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, на ПдУ цячэ р. Беседзь (прыток р. Сож), на ПнУ — яе прыток р. Рэкта. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Падлесная, Трасціно, Маркаўка і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 15 гаспадарак, 20 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1799 г. сяльцо, 34 двары, 266 жыхароў. У 1857 г. в. Ціхан у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., уласнасць памешчыка. Гаспадар маёнтка, што быў побач, меў у 1860 г. 756 дзес. зямлі. У 1870 г. засн. сукнавальня. У 1897 г. вёскі Ціхань 1 (47 двароў, 233 жыхары) і Ціхань 2 (32 двары, 218 жыхароў) у Забялышынскай вол. Клімавіцкага павета. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся кравецкім і адыходным промысламі. У 1909 г. ў в. Ціхань 1 было 49 двароў, 406 жыхароў, у в. Ціхань 2 — 28 двароў, 220 жыхароў. У 1910 г. адкрыта царк.-прыходская школа. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Клімавіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7. 1966 г. ў Клімавіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе саўгаса «Забялышын» (цэнтр — в. Забялышын), 36 гаспадарак, 68 жыха-



роў. Планіровачна складаецца з 4 адасобленых вуліц, адна з якіх амаль прамалінейная, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ уздоўж р. Рэкта. Дзве другія вуліцы паралельныя паміж сабой, арыентаваны з ПнУ на ПдЗ. На Пд праходзіць чацвёртая вуліца амаль шыротнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЧАРНЯЎКА** — вёска, цэнтр сельсавета (з 20.8.1924), за 23 км на З ад Хоцімска, 190 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, праз вёску цячэ р. Еленка (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па шашы Хоцімск—Клімавічы, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 87 гаспадарак, 173 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1768 г. вёска (25 двароў) і маёнтак у Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1784 г. быў касцёл. У 1799 г. 15 двароў, 115 жыхароў. У 1844 г. пабудавана драўляная царква. У 1858 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 101 рэвізская душа. Мелася карчма. У 1852 г. пачаў дзейнічаць цукровы з-д. Гаспадар маёнтка меў у 1871 г. ў вёсках Чарняўка і Гарадок 1998 дзес. зямлі, 2 вадзяныя млыны і карчму. У 1885 г. сяло ў Бярозкаўскай вол. Клімавіцкага павета, 40 двароў, 250 жыхароў. Меліся заезны дом, царква. У 1886 г. засн. вінакурны з-д (у 1896 г. 14 рабочых). Апрача земляробства вяскоўцы займаліся вырабам розных гасп. рэчаў з дрэва, лыка, кары, а таксама бандарным, кравецкім і адыходным промысламі. У 1897 г. ў сяле 50 двароў, 355 жыхароў, хлебазапасны магазін, у аднайменным фальварку 32 жыхары. У 1900 г. адкрыта школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1902 г. засн. яшчэ адзін вінакурны з-д, на якім у 1913 г. працавала 12 рабочых. У 1909 г. 50 двароў, 356 жыхароў. У пач. 1920-х г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 46 вучняў, дзейнічалі камсамольская ячэйка і хата-чытальня. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У жн. 1919 г. створана с.-г. арцель, якая аб'ядноўвала 8 гаспадарак, мела 72 дзес. зямлі. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На ўшанаванне памяці 134 землякоў, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у цэнтры вёскі ў 1947 г. пастаўлены абеліск. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1975 г. да вёскі далучана в. Максімаўка. У 1986 г. цэнтр калгаса «XXI з'езд КПСС», 119 гаспадарак, 285 жыхароў, размешчаны 8-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, гандлёвы цэнтр, сталовая, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, аддз. ашчаднага банка. У 2007 г. фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі і «Беларусбанка», магазін. Ген. план забудовы распрацаваны ў 1984 г. Рака падзяляе вёску на ўсх. (крывалінейная працяглая вуліца з завулкамі амаль мерыдыянальнай арыентацыі) і зах. (амаль прамалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі, былая в. Максімаўка) часткі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны на У сярод жылой забудовы. Гасп. сектар — на ПнУ.

Радзіма Героя Сав. Саюза Я.Я.Сусько.

У Чарняўскі сельсавет уваходзяць 10 вёсак.



*Я.Я.Сусько.*

**ЧАРЧОНАЕ** — вёска ў Батаеўскім с/с, за 35 км на ПдЗ ад Хоцімска, 210 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Журбін на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, на З і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ветка і далей

па шашы Батаева—Хоцімск. 9 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З 1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Ветка), 18 гаспадарак, 40 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкам амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЧЫРВОНАЯ ЗАРА** — пасёлак у Чарняўскім с/с, за 17 км на ПдЗ ад Хоцімска, 190 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Еленка (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па шашы Хоцімск—Краснаполле, якая праходзіць побач з вскай. 7 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

Засн. ў 1923 г. як пасёлак. З 1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7. 1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Енаполле), 12 гаспадарак, 25 жыхароў. Планіровачна складаўся з кароткай прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, паралельнай да шашы. Забудаваны двухбакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЧЫРВОНАЯ ПАЛЯНА** — вёска ў Батаеўскім с/с, за 28 км на ПдЗ ад Хоцімска, 207 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Журбін на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, на ПнЗ і ПдУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Батаева—Хоцімск. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З 1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7. 1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Ветка), 18 гаспадарак, 34 жыхары. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай пераважна аднабакова, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ШАЛАДОНАЎКА** — вёска ў Янаўскім с/с, за 7 км на З ад Хоцімска, 214 км ад Магілёва, 44 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Васілёўка 1 і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 20 гаспадарак, 27 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1799 г. ў Крычаўскім старостве, 5 двароў, 80 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1816 г. 14 двароў, 108 жыхароў, у 1847 г. 20 двароў, 209 жыхароў, у складзе маёнтка Хоцімск. У 1880 г. 40 двароў, 340 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася адыходным промыслам. У 1897 г. ў Хоцімскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 53 двары, 371 жыхар, школа граматы. У 1909 г. 52 двары, 406 жыхароў. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8. 1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Клімавіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г.



ў Магілёўскай вобл. 25.3.1920 г. створана с.-г. арцель, якая аб'ядноўвала 10 гаспадарак. У 1920-х г. дзейнічала т-ва па сумеснай апрацоўцы зямлі, якое аб'ядноўвала 38 гаспадарак. З 20.8.1924 г. да 21.8.1925 г. цэнтр сельсавета. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Клімавіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «III Інтэрнацыянал» (цэнтр — г.п. Хоцімск), 49 гаспадарак, 103 жыхары, дзейнічаў магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Каля паўд. ускраіны размешчана Шаладонаўскае радовішча даламіту, якое распрацоўваецца мясц. будаўнічымі аргцыямі.

**ЮЗЯФОЎКА** — вёска ў Бяседавіцкім с/с, за 9 км на ПдЗ ад Хоцімска, 201 км ад Магілёва, 31 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, на Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Беседзь (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Бяседавічы і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 79 гаспадарак, 147 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1762 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Меўся млын. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1811 г. 27 двароў, 139 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. У 1816 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 29 двароў, 237 жыхароў. У 1880 г. 84 двары, 480 жыхароў. 38 вяскоўцаў займаліся адыходным промыслам. У 1897 г. ў Бярозкаўскай вол. Клімавіцкага павета, 108 двароў, 820 жыхароў. Побач быў Юзяфоўскі Хутар (4 двары, 18 жыхароў). У 1907 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1920 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 70 вучняў. У 1929 г. для школы пабудавана новае памяшканне. У маі 1919 г. створана с.-г. арцель, якая аб'ядноўвала 8 гаспадарак. У 1920-х г. дзейнічала с.-г. т-ва. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 25 вяскоўцаў загінулі на фронце. На ўшанаванне памяці аб іх у 1970 г. ў цэнтры вёскі пастаўлена стэла. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Іскра» (цэнтр — в. Бяседавічы), 132 гаспадаркі, 351 жыхар, размешчаны пач. школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. У 2007 г. ў вёсцы клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з 2 асн. працяглых крывалінейных вуліц шыротнай арыентацыі, злучаных на З. На ПдУ паралельна да асн. праходзіць трэцяя прамалінейная кароткая вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вуліца на ПдУ забудавана мураванымі аднакватэрнымі дамамі. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. Гасп. сектар — на ПнЗ і ў цэнтры вёскі.

**ЯЛЕНАЎКА** — вёска ў Батаеўскім с/с, за 38 км на ПдЗ ад Хоцімска, 195 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Журбін на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Батаева—Хоцімск. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З 1924 г. ў Бялынкавіцкім, з 4.8.1927 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6. 1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг

БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.1.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Батаева), 28 гаспадарак, 52 жыхары, дзейнічалі клуб, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай амаль мерыдыянальна і забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЯНАВА** — пасёлак у Бярозкаўскім с/с, за 21 км на ПдЗ ад Хоцімска, 186 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Хоцімск—Краснаполле, якая праходзіць побач з вёскай. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

Пач. пасёлку паклаў маёнтак, дзе ў 1857 г. пачала дзейнічаць вінакурня, у якой у 1895 г. ўстаноўлена паравая машына. У 1858 г. гаспадар маёнтка меў 297 дзес. зямлі. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. сюды актыўна перасяляліся сяляне з суседніх вёсак. З 1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Бярозкі), 24 гаспадаркі, 59 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай мерыдыянальна, перпендыкулярна да шашы. Забудавана двухбакова традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЯНАПОЛЛЕ** — вёска ў Бярозкаўскім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Хоцімска, 195 км ад Магілёва, 23 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 62 гаспадаркі, 148 жыхароў (2007).

У 1876 г. фальварак, пачала працаваць вінакурня. У 1897 г. ў Бярозкаўскай вол. Клімавіцкага павета, 63 жыхары. Меліся вінакурны з-д і вадзяны млын. У 1909 г. 34 жыхары. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. Вясной 1919 г. створана с.-г. арцель, у жн. 1920 г. — камуна «Праўда», а ў 1930 г. — калгас «Савецкая Беларусь». У 1940 г. 145 двароў, 700 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. На ўшанаванне памяці 132 жыхароў вёсак Янаполле, Роскаш, Уладзіміраўка, Грыгор'еўка, Чырвоная Зара, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у 1966 г. ў скверы пастаўлена стэла. У 1975 г. да вёскі далучана в. Благаўка. З 17.4.1962 г. да 30.7.1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. цэнтр калгаса «Савецкая Беларусь», 97 гаспадарак, 230 жыхароў, размешчаны пач. школа, Дом культуры, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. У 2007 г. ў пасёлку б-ка, клуб, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Ген. план забудовы распрацаваны Магілёўграмадзянпраектам у 1978 г. Былы сядзібны парк падзяляе вёску на паўд. (прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ і перпендыкулярна перакрыжаваная трыма прамалінейнымі завулкамі) і паўн. (прамалінейныя вуліцы, арыентаваныя з ПдУ на ПнЗ уздоўж ручая, зах. з іх — былая в.



Благаўка) часткі. Забудавана двухбакова, шчыльна, праважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры і на паўн. ускраіне пабудаваны мураваныя дамы. Грамадскія будынкі размешчаны ў паўд. частцы, у парку. Гасп. сектар — на ПнЗ і ПдУ.

**ЯНАЎКА** — вёска ў Янаўскім с/с, за 4 км на З ад Хоцімска, 203 км ад Магілёва, 34 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Касціўка (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па шашы Хоцімск—Краснаполле, якая праходзіць побач з вёскай. 26 гаспадарак, 56 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1816 г. 12 двароў, 79 жыхароў. У 1847 г. 18 двароў, 165 жыхароў, у складзе маёнтка Хоцімск, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 40 двароў, 311 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім і адыходным промысламі. У 1897 г. ў Хоцімскай вол. Клімавіцкага павета, 41 двор, 352 жыхары. Дзейнічала школа, у якой у 1905 г. навучалася 36 хлопчыкаў і 5 дзяўчынак. У 1909 г. 38 двароў, 289 жыхароў. З 1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Хоцімскім, з 8.7.1931 г. ў Касцюковіцкім, з 12.2.1935 г. ў Хоцімскім раёнах Калінінскай, з 9.6.1927 г. да ліп. 1930 г. Магілёўскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 33 вучні. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 26.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.4.1962 г. да 30.7. 1966 г. ў Касцюковіцкім р-не. У 1986 г. ў складзе калгаса «III Інтэрнацыянал» (цэнтр — г.п. Хоцімск), 40 гаспадарак, 89 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ паралельна да шашы. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 6, воп. 1, спр. 894; ф. 30, воп. 2, спр. 1476, 1797; ф. 34, воп. 2, спр. 37; ф. 42, воп. 1, спр. 1124, 1756, 1783, 2127; воп. 2, спр. 3228, 3474—3478, 3481—3493, 3501—3507; ф. 48, воп. 1, спр. 2962; ф. 141, воп. 1, спр. 177, 454; ф. 334, воп. 1, спр. 292, 470, 500; воп. 2, спр. 38; ф. 1024, воп. 1, спр. 715, 831.
Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 694, воп. 4, спр. 1155; ф. 1729, воп. 1, спр. 78; ф. 1772, воп. 1, спр. 19; ф. 2014, воп. 1, спр. 97, 288; ф. 2151, воп. 1, спр. 107—110, 113, 114, 177, 178, 414; ф. 2212, воп. 1, спр. 7.
Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў, ф. 1355, воп. 1, спр. 713.
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1290, воп. 11, спр. 1350.
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў у Санкт-Пецярбургу, ф. 577, воп. 19, спр. 421.
Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы, ф. 459, воп. 1, спр. 2300.
Архіў Расійскай акадэміі навук: Санкт-Пецярбургскае аддз., ф. 30, воп. 2, спр. 30.
Памятная книжка Виленского учебного округа на 1874 г. Вильна, 1874.
Дембовецкий А.С. Опыт описания Могилевской губернии... Кн. 2. Могилев, 1884.
Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1889—1890 учебный год. Могилев, 1889.
Календарь для духовенства Могилевской епархии на 1899 г. Могилев, 1899.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1902—1903 учебный год. Могилев, 1902.
Список фабрик и заводов Европейской России. СПб., 1903.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1905 г. Могилев, 1905.

Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1907—1908 учебный год. Могилев, 1907.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1909 г. Могилев, 1908.
Список населенных мест Могилевской губернии. Могилев, 1910.
Список фабрик и заводов Российской империи. СПб., 1912.
Крестьянское движение в России в 1881—1889 гг. М., 1960.
Поболь Л.Д. Славянские древности Белоруссии. Мн., 1974.
Мелешко В.И. Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии (вторая половина XVII—XVIII в.). Мн., 1975.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—1944. Мн., 1984.
Административно-территориальное устройство БССР. Т. 1. Мн., 1985.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Магілёўская вобл. Мн., 1986.
Гордеев Б.П. Могилевщина: памятники бессмерт. славы. Мн., 1986.
Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 6, кн. 2. Мн., 2003.
Беларуская энцыклапедыя. Т. 17. Мн., 2003.
Памяць: Хоцімскі р-н. Мн., 2003.
Республика Беларусь. Т. 7. Мн., 2008.
Шлях Кастрычніка, 1968, 6 студз.; 1978, 28 кастр.; 1981, 27 студз.; 1984, 1 мая; 1986, 18 сак., 7 ліст.




Маштаб 1:305 000



# ЧАВУСКІ РАЁН

Размешчаны на У Магілёўскай вобл. Утвораны 17.7.1924 г. ў складзе Магілёўскай акругі, у якой знаходзіўся да 26.7.1930 г. 20.8.1924 г. падзелены на 17 сельсаветаў: Антонаўскі, Благавіцкі, Ваўкавіцкі, Галузскі, Галавенчыцкі, Даўгамохскі, Кузьмініцкі, Пілешчынскі, Прудкоўскі, Прылескі, Пуцькаўскі, Радамлянскі, Самулкаўскі, Сушчоўскі, Усушацкі, Халмоўскі, Чавускі. 2.3.1931 г. далучаны сельсаветы Амхініцкі (Вялікаамохніцкі), Хацетаўскі, Хацкавіцкі скасаванага Лупалаўскага р-на, 8.7.1931 г. — Чарнаўскі скасаванага Дрыбінскага, Асінаўскі, Дзяднянскі скасаванага Расненскага р-наў. З 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На 1.1.1941 г. раён уключаў г. Чавусы і 21 сельсавет. У Вял. Айч. вайну ў сярэдзіне ліп. 1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў горадзе і раёне 1786 чал. На тэр. раёна дзейнічалі Чавускія падп. райкомы КП(б)Б (25.6—1.10.1943) і ЛКСМБ (1.6—1.10.1943), партыз. брыгады 14-я Цемналеская, 17-я, партыз. палкі «Трынаццаць» і 15-ы, асобны партыз. атрад «Чапай». Усх. частка раёна вызвалена ў вер.—снеж. 1943 г. воінамі 10-й арміі Зах. фронту ва ўзаемадзеянні з часцямі 50-й арміі Бранскага (з 10.18.1943 г. Цэнтральнага, з 20.10.1943 г. Беларускага) фронту ў ходзе Смаленскай і Бранскай аперацый. На працягу 9 месяцаў тут праходзіла лінія сав.-герм. фронту. Чавусы і астатняя частка раёна вызвалены ў канцы чэрв. 1944 г. воінамі 50-й арміі 2-га Бел. фронту ў хо-



*Рака Проня.*


*Золак на рацэ Бася.*

дзе Магілёўскай аперацыі 1944 г. ва ўзаемадзеянні з партыз. палком «Трынаццаць». 16.7.1954 г. ліквідаваны Амхініцкі, Ваўкавіцкі, Галавенчыцкі, Даўгамохскі, Дзяднянскі, Жаліўскі, Прылескі, Самулкаўскі, Халмоўскі, Хацетаўскі сельсаветы, утвораны Гарбавіцкі с/с, Макрацкі с/с перайменаваны ў Варварынскі. 16.9.1959 г. да раёна далучаны Зарэсценскі с/с Дрыбінскага р-на. 14.10.1959 г. Пуцькаўскі с/с перайменаваны ў Жаліўскі. 13.11.1959 г. ліквідаваны Зарэсценскі, 16.5.1960 г. Асі-


*Вадасховішча Рудзея.*



наўскі, Варварынскі, Дужаўшчынскі, Жаліўскі, Сушчоўскі, Усушацкі, Хацкавіцкі сельсаветы. 25.12.1962 г. да раёна далучаны Верамейскі с/с Крычаўскага р-на, Гіжэнскі і Лапаціцкі сельсаветы Слаўгарадскага р-на; 22.11.1963 г. Гіжэнскі с/с перайменаваны ў Целяшоўскі; 11.4.1964 г. ўтвораны Жаліўскі с/с, 25.12.1964 г. Сухарэўскі с/с перададзены Магілёўскаму р-ну, утвораны Цемравіцкі с/с; 6.1.1965 г. Лапаціцкі і Целяшоўскі сельсаветы перададзены Слаўгарадскаму р-ну, Верамейскі с/с — Крычаўскаму р-ну; 4.6.1965 г. ўтвораны Дужаўскі, 27.6.1969 г. — Вайнілаўскі сельсаветы. На 1.1.1981 г. раён уключаў г. Чавусы і 10 сучасных сельсаветаў. Большая частка тэр. раёна пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі ў 1986 г. Радыеактыўнае забруджанне глебы з узроўнем 5—15 Кі/км² адзначана на частцы тэр. Антонаўскага, Ваўкавіцкага, Дужаўскага, Прудкоўскага і Пуцькаўскага сельсаветаў, з узроўнем 1—5 Кі/км² — на значна большай плошчы, адзначана ў г. Чавусы, на тэр. Антонаўскага, Благавіцкага, Вайнілаўскага, Ваўкавіцкага, Гарбавіцкага, Дужаўскага, Жаліўскага, Прудкоўскага, Пуцькаўскага сельсаветаў. На забруджанай радыенуклідамі тэр. пражывае 76% насельніцтва. Адсяленне за межы раёна не было. Пл. раёна 1,5 тыс. км². Насельніцтва (2008) 21,1 тыс. чал.; гар. 49%. Сярэдняя шчыльнасць 14 чал. на 1 км². Асн. насельніцтва — беларусы (92,2%), жывуць таксама рускія (5,8%), украінцы (1,3%) і інш. Цэнтр раёна — г. Чавусы. У раён уваходзяць 168 населеных пунктаў. Адміністрацыйна падзяляецца на 10 сельсаветаў: Антонаўскі, Благавіцкі, Вайнілаўскі, Ваўкавіцкі, Гарбавіцкі, Дужаўскі, Жаліўскі, Прудкоўскі, Пуцькаўскі, Цемравіцкі. Па тэр. раёна праходзяць чыг. Магілёў—Чавусы—Крычаў, аўтадарогі Магілёў—Слаўгарад, Магілёў—Чавусы—Мсціслаў, Магілёў—Чавусы—Чэрыкаў, Чавусы—Слаўгарад і інш.

Тэр. раёна знаходзіцца ў межах Аршанска-Магілёўскай раўніны. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Пераважаюць вышыні 150—190 м (87%). На ПдУ ад в. Новааляксандраўка знаходзіцца найвышэйшы пункт раёна (203 м). З карысных выкапняў у раёне ёсць торф, гліны, будаўнічыя пяскі, пясчана-жвіровы матэрыял, мел. Сярэдняя тэмпература студз. -7,7 °С, ліп. 18,2 °С. Ападкаў 642 мм за год, вегетацыйны перыяд 186 сутак. На тэр. раёна найбольшая р. Проня з прытокамі Бася і Раста (з Рудзеяй, Беліцай і Плясной). На р. Рудзея створана аднайменнае вадасховішча. 30% тэр. раёна знаходзіцца пад лесам, найбольшыя лясныя масівы на Пн у міжрэччы Басі і Проні і У (левабярэжжа Проні). Лясы хваёвыя, яловыя, бярозавыя, асінавыя, дубовыя, чорна- і шэраальховыя. Штучныя лесанасаджэнні займаюць каля 4% тэр., пераважаюць хвойныя. Балотамі занята 2,2% пл. У раёне створаны біялагічны заказнік мясц. значэння каля в. Брады для аховы баброў. Ахоўваюцца тарфянікі Азярышча, Бардзілаўскае-Крамянец, Бярозавае, Каралеўшчына, Рабяткі. Помнікі прыроды мясц. значэння: парк у г. Чавусы, валуны каля вёсак Бра-

*Скроневыя кольцы (1—3), наверша ад шыйнай грыўні (4), падвескі (5, 14—20), пацеркі (6—13), спражкі (21—24), гузік (25), фрагменты бранзалетаў (26, 27), пярсцёнкі (28—36) з Чавускіх археалагічных помнікаў.*



ды і Новааляксандраўка, участак лесу «Ялова» ў Макрадскім лясніцтве.

С.-г. ўгоддзі займаюць 56% тэр. раёна. Глебы с.-г. угоддзяў дзярнова-падзолістыя, дзярнова-падзолістыя забалочаныя, тарфяна-балотныя і інш. Сельская гаспадарка спецыялізуецца на малочна-мясной жывёлагадоўлі, свінагадоўлі. Вырошчваюць збожжавыя і зернебабовыя культуры, рапс, лён, бульбу, агародніну. Працуюць 10 СВК, унітарнае КСУП «Саўгас «Савецкая Беларусь», фермерскія гаспадаркі, ААТ «Аграсэрвіс», ТАА «Дусен». Прадпрыемствы прам-сці: будаўнічых матэрыялаў (жалезабетонныя вырабы, цэгла), харч. (масла, сыры, цэльнамалочныя прадукты, сушаная агародніна), першаснай апрацоўкі лёну (ільновалакно, траста), кааператыўнай. У раёне (на 1.1.2008) 3 сярэднія, 13 комплексаў дзіцячы сад—школа, 8 дашкольных устаноў, 2 школы мастацтваў, дзіцяча-юнацкая спарт. школа, міжшкольны навучальна-вытв. камбінат, цэнтры: сац.-пед., карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі, падрыхтоўкі да паступлення ў ВНУ, турызму, краязнаўства і экскурсій дзяцей і моладзі. Функцыяніруюць раённы цэнтр культуры, 5 дамоў культуры, Дом нар. творчасці, 8 бібліятэк-клубаў, 14 клубаў, аўтаклуб, 25 б-к, раённы гісторыка-краязнаўчы музей. Працуюць 2 бальніцы, паліклініка, 3 амбулаторыі, 23 фельч.-акушэрскія пункты, 13 комплексных прыёмных пунктаў, 20 аб'ектаў грамадскага харчавання, 75 магазінаў. Дамы-інтэрнаты псіханеўралагічны, для састарэлых і інвалідаў, дзіцячы рэабілітацыйна-аздараўленчы цэнтр «Вясёлка», аздараўленчыя лагеры «Зара» і «Ластаўка». Зоны адпачынку мясц. значэння Зарэчча і Каменка. У раёне 7 рэліг. абшчын, у т. л. 4 праваслаўныя, 1 рымска-каталіцкая, 2 хрысціян веры евангельскай. Выдаецца раённая газ. «Іскра». Археал. помнікі: гарадзішчы, паселішчы, стаянкі стараж. людзей (вёскі Высокае, Гарбавічы, Глінішча, Гразівец, Кузьмінічы, Радамля, Селішча, Сталка, Старасёлы, Сушчы, Цёплае, Чарэнкі), курганныя могільнікі (вёскі Гарбавічы, Глінішча, Гразівец, Кузьмінічы, Старасёлы). Помнік архітэктуры — царква ў в. Благавічы (2-я пал. 19 ст.).

**ЧАВУСЫ** — горад раённага падпарадкавання і чыг. станцыя на лініі Магілёў—Крычаў, цэнтр раёна, за 41 км на ПдУ ад Магілёва. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, праз горад цячэ р. Бася (прыток р. Проня), вузел аўтадарог на Магілёў, Мсціслаў,




*Памятны знак г. Чавусы.*



*Сучасны герб г. Чавусы.*



*Царква ў імя св. Георгія Перамаганосца ў г. Чавусы. Фота М.М. Астанковіча пач. 20 ст.*



Крычаў, Чэрыкаў. 10,4 тыс. жыхароў (2008).

Каля горада да 1972 г. быў стараж. курганны могільнік, які сведчыў аб засяленні гэтых месц у далёкай мінуўшчыне. Пісьмовыя крыніцы сведчаць аб існаванні в. Чавусовічы ў ВКЛ з сярэдзіны 16 ст. У 1560 г. сяло ў Магілёўскай вол., 53 дымы, дзярж. ўласнасць. У 1571 г. засн. Чавускі кармеліцкі кляштар. У 1580 г. сяло аддадзена ў пажыццёвае валоданне памешчыку. З 1583 г. ў складзе Магілёўскай эканоміі. З 1604 г. горад. Польскі кароль Уладзіслаў IV у 1634 г. надаў Чавусам магдэбургскае права і герб з выявай святога Марціна, узброенага мячом, на кані. У 1648 г. тут было 176 дамоў. Вайна 1654—67 гг. паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай нанесла Чавусам значныя страты. Цар Аляксей Міхайлавіч у снеж. 1654 г. перадаў Чавусы і 4 вёскі ў валоданне палкоўніку К.Паклонскаму, а 800 жыхароў Чавусаў і навакольных вёсак пайшло ў царскае войска. Нягледзячы на гэта, магілёўскі шляхціц Паклонскі разам са сваімі прыхільнікамі ў хуткім часе перайшоў на бок Рэчы Паспалітай, Чавусы заставаліся пад уладай рус. цара. Вясной 1656 г. Чавусы занялі казакі палкоўніка І.Нячая, які камандаваў укр. казацкім войскам. Ён заснаваў тут сваю рэзідэнцыю і пачаў называць сябе «палкоўнікам Чавускім». Толькі ў канцы 1659 г. пасля аднаўлення аўтаноміі Украіны ў складзе Расіі і вываду казацкага войска з Беларусі, цар зноў устанавіў у Чавусах сваю ўладу. Восенню 1660 г. Чавусы заняты войскам Рэчы Паспалітай. У 1676 г. тут было 109 дамоў. Пад час Паўн. вайны 1700—21 шведы ў 1708 г. абрабавалі Чавусы і наваколле. У 1737 г. дзейнічалі 3 праваслаўныя царквы, меўся мытны пункт. Дзесятую частку жыхароў складалі рамеснікі. У пач. 1770-х г. у Чавусах каля 2530 жыхароў, больш за 420 дамоў, штогод праводзіўся кірмаш.




*Памятны знак у гонар 400-годдзя г. Чавусы.*





*Будынкі ў г. Чавусы. Канец 19 — пач. 20 ст.*



*Вуліца Азарава ў г. Чавусы.*

Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) Чавусы ў складзе Рас. імперыі, з 1777 г. цэнтр павета Магілёўскай губ., з 1778 г. Магілёўскага намесніцтва, у 1796—1802 гг. — Беларускай, у 1802—1919 гг. зноў Магілёўскай губерняў. У 1781 г. зацверджаны новы герб — на чырвоным полі шпага, пакладзеная крыжападобна з мячом, якія аб'яднаны лаўровым вянком (у памяць аб перамозе ў 1708 г. над шведамі ў ваколіцах горада, пад Лясной). Гэты ж малюнак у аснове сучаснага герба Чавусаў, зацверджанага ў 2005 г. План забудовы горада 1778 г. прадугледжваў карэкціроўку існуючай забудовы і стварэнне новай на рэгулярнай, класічнай аснове. Плану горада была нададзена форма амаль правільнага васьмівугольніка. Сетка жылых кварталаў утваралася ўзаемна перпендыкулярнымі вуліцамі. У цэнтры размяшчалася вял. квадратная ў плане плошча, прызначаная для гар. сквера. Яшчэ 3 плошчы меншых памераў размяшчаліся па восях плана праз квартал ад цэнтраль-



*Алея памяці землякоў, загінуўшых у Афганістане, у г. Чавусы.*



*Мемарыяльны комплекс воінам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у гарадскім парку.*




*Забудова вуліцы ў г. Чавусы.*

най. На гэтых плошчах былі ўзведзены мураваныя адм. і грамадскія будынкі. Сярод іх помнік архітэктуры класіцызму — Чавуская ратуша (канец 18 ст., не збераглася). З 1789 г. ў Чавусах працавала двухкласнае нар. вучылішча.

У вайну 1812 г. праз Чавусы адыходзілі войскі Баграціёна (атрад Платава) да Смаленска. У мэтах развіцця гандлю ў 1824 г. былі закуплены новыя вагі і меры. У 1825 г. каля 4 тыс. жыхароў, 569 дамоў, 5 цэркваў, 30 крам, праводзіліся 2 кірмашы на год. У 1829 г. 584 дамы, 4 царквы, касцёл, 6 сінагог. У 1839 г. дзейнічала палатняная мануфактура. У 1840 г. ў Чавусах было 5150 жыхароў, 4 мураваныя, 808 драўляных дамоў, 26 крам, 23 піцейныя дамы. Двойчы ў год адбываліся кірмашы, на якія прыязджалі купцы з розных месц, у т.л. з Расіі і Рыгі. Гандл. абарот горада ў 1785 г. склаў 20 тыс. руб. У 1842 г. пачала дзейнічаць гарбарня, у 1860 г. — другая. Мелася 8 маслабоен (адкрыты ў 1817, 1832, 1845, 1859, 1867,


*Цэнтральная плошча г. Чавусы.*





*Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі.*

*Будынак (канец 19 — пач. 20 ст.) краязнаўчага музея ў г. Чавусы.*

1871—72). У 1833 г. адкрыта аднакласнае вучылішча, у 1865 г. жаночая школа пры ім. У 1865 г. адкрыта двухкласнае пав. вучылішча. У 1870—80-я г. было 19 прам. прадпрыемстваў (9 масларобных, 4 крупадзёркі, 4 дражджавыя, свечачнае, гарбарнае), за кошт земства і жыхароў забрукавана гал. вуліца, адкрыты гар. парк, пабудаваны 2 масты, у 1873 г. адкрыта бальніца (10 ложкаў). У 1860 г. 676 двароў, 4579 жыхароў, лячэбніца, двухкласнае павятовае і прыходскае з жаночай зменай вучылішчы, 73 крамы, 4 царквы, 2 сінагогі, 7 малітоўных школ. Дзейнічалі 73 гандл. кропкі, аптэка. 12.8.1881 г. адкрыта тэлегр. станцыя. Паводле перапісу 1897 г. 4960 жыхароў, з іх 41,4% былі пісьменнымі. З 1901 працавалі трохкласнае гар. вучылішча, царк.-прыходская школа. У 1904 г. ў горадзе 6,1 тыс. жыхароў, 41 рамеснае прадпрыемства (97 рабочых), штогод адбываліся 4 кірмашы (2 вясною, 1 восенню і 1 зімою). Дзейнічалі друкарня, бальніца на 24 ложкі, бібліятэка-чытальня. У час 1-й рас. рэвалюцыі ў сак. 1905 г. баставалі краўцы, 1 мая таго ж года — рабочыя. С.-д. арг-цыя, якая дзейнічала ў горадзе, была раскрыта паліцыяй 26.9.1909 г. У 1910 г. адкрыта аддз. пед. т-ва. У 1912 г. ў Чавусах 6991 жыхар. У 1914 г. засн. прафес.-тэхн. школа металістаў.

*Будаўніцтва новай царквы ў г. Чавусы.*

*Царква ў гонар Узнясення Гасподняга.*











*Фрагмент забудовы ў г. Чавусы.*

*Будынак Дома культуры ў г. Чавусы.*

3.1.1918 г. пачаў працаваць пав. Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. 9.1.1918 г. створаны пав. рэўком, старшынёй якога стаў матрос В.С.Бульба-Папкоў. У хуткім часе быў створаны атрад чырвонай гвардыі. У лютым 1918 г. была распушчана гар. дума, рэарганізаваны дзярж. ўстановы. На базе былой настаўніцкай семінарыі былі адкрыты пед. курсы. У студз. 1919 г. пачаў дзейнічаць пав. к-т па ваенных справах, у тым жа годзе павятова-гар. аддзел нар. асветы пачаў выпускаць часопіс «Заря». З 25.5.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР. 11.1.1920 г. распушчаны пав. рэўком, у чэрв. 1920 г. адбылася 1-я канферэнцыя беспартыйнай моладзі, 15.2.1920 г. — 10-я пав. канферэнцыя РКП(б). У 1922 г. працавалі 3 школы 2-й ступені і 4 школы 1-й ступені, а таксама 3 дзіцячыя сады. У тым жа годзе Чавускі павет скасаваны, большая яго частка, у т.л. і Чавусы, былі далучаны да Магілёўскага павета. 10.8.1923 г. створана с.-г. т-ва. Дзейнічала б-ка. З сак. 1924 г. ў складзе БССР, з 17.7.1924 г. цэнтр раёна Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1924 г. адкрыта аптэка, нар. дом, прафтэхшкола металістаў (58 вучняў). У 1925 г. створана с.-г. арцель, дзейнічала крэдытнае т-ва. У 1926 г. 5409 жыхароў. Працавалі электрастанцыя, цагельна-ганчарная арцель «Чырвоны цагельнік», кравецкая



*Служба ў царкве ў гонар Узнясення Гасподняга ў г. Чавусы.*


У цэнтры г. Чавусы.


Аўтастанцыя ў г. Чавусы.


Будынак Чавускага філіяла ААТ «Беларусбанк».


Школа мастацтваў у г. Чавусы.

арцель «Чырвоны вытворнік», сыраробны з-д і іншыя прадпрыемствы. Дзейнічалі таксама бальніца і метэаралагічная станцыя. Паблізу вялася здабыча торфу (75 рабочых). У 1931 г. створана Чавуская МТС, якая ў 1936 г. мела 50 трактароў і іншую тэхніку (рэарганізавана 31.3.1958). У 1932 г. МТС была радыёфікавана, палітаддзел МТС у 1933—34 гг. выпускаў газ. «Бальшавіцкі трактар». У 1932 г. выйшаў 1-ы нумар раённай газ. «За бальшавіцкія калгасы», рэдактарам якой у даваенныя гады быў М.П.Барашкаў, які ў Вял. Айч. вайну рэдагаваў падп. газ. «Звязда». У 1939 г. ў горадзе налічвалася 7,2 тыс. жыхароў. Працавалі 3 сярэднія і 7-гадовая школы, Дом культуры.

У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. Чавусы знаходзіліся ў зоне баявых дзеянняў 13-й арміі Зах. фронту. Гітлераўцы 15.7.


Навучэнцы Чавускай школы мастацтваў.


Святкаванне Дня Перамогі ў г. Чавусы.







*Будынак выканкома ў г. Чавусы.*

*Кафэ «Аазіс» у г. Чавусы.*





*Забудова вуліцы ў г. Чавусы.*

*Раён аўтавакзала ў г. Чавусы.*

1941 г. захапілі горад. Яны загубілі ў горадзе і раёне 1786 чал. Ва ўмовах акупацыі актыўна дзейнічалі сав. падпольшчыкі, якія падтрымлівалі сувязь з Магілёўскім антыфаш. падполлем. У час Бел. аперацыі «Баграціён» 25.6.1944 г. часці 385-й стралк. дывізіі 50-й арміі 2-га Бел. фронту вызвалілі Чавусы. Адна з вуліц носіць імя Героя Сав. Саюза С.І.Азарава, ураджэнца в. Вілейка. Адразу пасля вызвалення была адноўлена тэлегр. і тэлеф. сувязь, якая з кожным годам пашыралася. У горадзе размясціўся дзіцячы дом. Хутка расла прам-сць, што садзейнічала істотнаму пашырэнню прам. вытв-сці, будаўніцтве транспартных магістралей. У 1957 г. праектным ін-там «Белдзяржпраект» быў распрацаваны першы ген. план планіроўкі і забудовы горада. На яго аснове ў 1976 г. Бел. дзярж. н.-д. і праект-





*Святкаванне Дня Незалежнасці ў г. Чавусы. 2008 г.*



*Гарадскі фантан каля кафэ «Ліга».*



*У цэху Дома бытавых паслуг.*



*У.М.Кудрэвіч.*

ным ін-там горадабудаўніцтва створаны ген. план развіцця горада да 2005 г.

Асн. транспартная магістраль — шаша Магілёў—Чэрыкаў — перасякае горад з ПнЗ на ПдУ. Вуліца Азарава, якая ідзе з ПнУ на ПдЗ разам з шашой падзяляюць горад на 3 часткі. Паўн.-ўсх. частка, на ўзбярэжжы р. Бася, уяўляе сабой сялібную зону, якая склалася гістарычна з дробнаквартальнай прамавугольнай сеткай вуліц. Жылы фонд пераважна драўляны, аднапавярховы, сядзібнага тыпу. Будаўніцтва шматпавярховых мураваных жылых дамоў вядзецца ўздоўж вуліцы Ленінскай. На перакрыжаванні вуліц Ленінскай, Савецкай і Піянерскай — плошча, якая з'яўляецца кампазіцыйным ядром планіровачнай структуры горада. У паўн.-ўсх. частцы сканцэнтраваны асн. прам. прадпрыемствы горада. Да прам. зоны прылягаюць жылыя мікрараёны па вуліцах Лермантава (адрэзак шашы Магілёў—Чэрыкаў) і Азарава, забудаваныя 3—5-павярховымі шматкватэрнымі буйнапанэльнымі тыпавымі дамамі. У паўд. частцы, ад шашы да чыгункі, размешчаны прам. прадпрыемствы з жылымі пасёлкамі, якія маюць шматпавярховую мураваную забудову. У гэтай частцы ген. планам прадугледжана далейшае развіццё сялібнай тэрыторыі.

У 2007 г. ў горадзе дзейнічалі камбінат каап. прам-сці, масласыраробны і жалезабетонных вырабаў з-ды, льнозавод, райплестанцыя, райаграсэрвіс, перасоўная механізаваная калона, лясгас. Працавалі філіял ААТ «Беларусбанк» і аддз. ААТ «Белаграпрамбанк», будаўнічыя, да-



*Народны ансамбль «Забава».*



*Сустрэча Новага года ў г. Чавусы.*



рожна-рамонтныя і транспартныя арг-цыі. Функцыяніравалі 2 сярэднія, базавая, дзіцяча-юнацкая спарт. школы, школа мастацтваў, школа-інтэрнат для дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў, 5 дзіцячых дашкольных устаноў, цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі. Працавалі раённы цэнтр культуры і адпачынку, цэнтр. раённая і дзіцячая б-кі, гісторыка-краязнаўчы музей, раённы Дом моладзі, Дом дзіцячай творчасці, Цэнтр краязнаўства і экскурсій для дзяцей і моладзі, цэнтр. раённая бальніца, паліклініка, аптэка і 3 аптэчныя кіёскі, псіханеўралагічны дыспансер, раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі, тэр. цэнтр сац. абслугоўвання насельніцтва. Дзейнічалі фізкультурна-аздараўленчы комплекс, стадыён, басейн, 2 футбольныя палі, камбінат быт. абслугоўвання насельніцтва, пункт калект. карыстання, аддз. сувязі. У горадзе знаходзяцца брацкія магілы сав. воінаў, партызан і ахвяр фашызму, Алея герояў, устаноўлены помнікі воінам-вызваліцелям, ахвярам фашызму. Помнікі археалогіі: стаянка эпохі неаліту, 2 селішчы (2—10 ст.), курганныя могільнікі (9—12 ст.). Горад — радзіма бел. жывапісца-пейзажыста, засл. дзеяча мастацтваў Беларусі У.М.Кудрэвіча (1884—1957); Героя Сав. Саюза, ваеннага разведчыка, камбрыга Л.Я.Маневіча (1898—1945); ген.-маёра М.І.Панфіловіча (1901—76); бел. прававеда, чл.-кар. НАН Беларусі, доктара юрыд. навук, праф. С.П.Маргунскага (1912—78); ген.-лейт. артылерыі Ц.У.Мельнікава (1913); аднаго з кіраўнікоў партыз. руху на тэр. Мінскай вобл. ў Вял. Айч. вайну Г.Р.Чарняўскага (1911—74); бел. паэта Лявоннага Юркі (Л.М.Юркевіч, 29.7.1908—37); доктара тэхн. навук, праф. У.А.Маркава (нар. ў 1946); чл.-кар. Рас. акадэміі медыцынскіх навук доктара мед. навук, праф. А.М.Разумава (нар. ў 1944).

**АЛЕКСАНДРОВА** — вёска ўВаўкавіцкім с/с, за 26 км на ПдЗ ад Чавусаў, 34 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на ПнУ мяжуе з лесам. На ПнЗ цячэ р. Ржаўка (прыток р. Будлянка). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Слаўгарад, якая праходзіць паблізу вёскі. 20 гаспадарак, 30 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. Уладальніца маёнтка А.В.Мілер мела тут у 1858 г. 656 дзес. зямлі. У 1897 г. хутар Александроў у Царкоўнаасавецкай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 1 двор, 7 жыхароў. У 1909 г. фальварак Александроў у Грудзінаўскай вол. Быхаўскага павета, 1 двор, 5 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР. 1.3.1928 г. арганізаваны калгас «Серп і молат», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 41 гаспадарку, абслугоўваўся Расненскай МТС. Мелася кузня. З ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У лютым 1944 г. гітле-



*Л.Я.Маневіч.*



*М.І.Панфіловіч.*



*Месца адпачынку «Вадзяное кола».*



*Святкаванне Купалля каля р. Бася.*


С.П.Маргунскі.


Ц.У.Мельнікаў.


Ю.Лявонны.

раўцы спалілі 41 двор, загубілі 8 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 45 гаспадарак, 87 жыхароў, у складзе калгаса «Іскра» (цэнтр — в. Ваўкавічы). Быў магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АЛЕКСАНДРОЎКА** — вёска ў Жаліўскім с/с, за 19 км на Пн ад Чавусаў, 67 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ПнУ цячэ р. Радуча (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Жаліўе і далей па шашы Магілёў—Чэрыкаў. 15 гаспадарак, 30 жыхароў (2007).

У 1834 г. вёска (23 жыхары) і фальварак (19 дваровых). У 1847 г. вёска (5 двароў, 23 жыхары, млын, карчма, з-д буйной рагатай жывёлы) і фальварак (15 дваровых) у Чавускім павеце Магілёўскай губ. У фальварку быў памешчыцкі дом. Уладальніца маёнтка А.А.Чахоўская мела тут у 1859 г. 121 дзес. зямлі. У 1875 г. засн. кафляная мануфактура (у 1895 г. 22 рабочых, 2 конныя рухавікі). Паводле перапісу 1897 г. ў Радамскай вол. Чавускага павета, у вёсцы 6 двароў, 36 жыхароў, у сядзібе 1 двор, 5 жыхароў, у фальварку 2 двары, 5 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 9 двароў, 38 жыхароў, у фальварку 6 двароў, 21 жыхар. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 30 двароў, 120 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. гітлераўцы спалілі 27 дамоў. Пасля вайны адбудавана. У 1952 г. радыёфікавана, у 1954 г. электрыфікавана. У 1990 г. 23 гаспадаркі, 75 жыхароў, у складзе калгаса «Звязда» (цэнтр — в. Радамля). Была бальніца. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ, да якой падыходзіць з Пд кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АЛЬХОЎКА** — вёска ў Пуцькаўскім с/с, за 16 км на У ад Чавусаў, 64 км ад Магілёва, 21 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на ПдУ мяжуе з лесам і праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Каменка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Мсціслаў, якая праходзіць паблізу вёскі. 10 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

У 1858 г. вёска, 18 двароў, 116 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Радамскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 9 двароў, 56 жыхароў. Непадалёку, ва ўрочышчы каля р. Бася, была сядзіба (1 двор, 6 жыхароў). У 1909 г. ў вёсцы 9 двароў, 73 жыхары. У 1920-я г. дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Ударнік палёў», які ў 1932 г. аб'яноўваў 43 гаспадаркі, абслугоўваўся Мсціслаўскай МТС. У 1940 г. 60 двароў, 209 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1943 г. гітлераўцы спалілі 56 дамоў, загубілі 10 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1958 г. радыёфікавана, у 1962 г. электрыфікавана. У 1990 г. 37 гаспадарак, 59 жыхароў, у складзе саўгаса «Асінаўскі» (цэнтр — в. Асінаўка). Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**АНТОНАЎКА** — вёска ў Гарбавіцкім с/с, за 22 км на З ад Чавусаў, 26 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на ПнУ мяжуе з лесам. На З цячэ р. Чарняўка (прыток р. Рудзея). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Чэрыкаў, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 23 гаспадаркі, 34 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. У 1635 г. абруб у Гарбавіцкім вой-



таўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1742 г. 13 гаспадарак. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1880 г. 20 двароў, 181 жыхар. Частка вяскоўцаў займалася сталярным і кравецкім промысламі. У 1897 г. ў Галянёўскай вол. Чавускага павета, 34 двары, 234 жыхары. У 1909 г. 38 двароў, 252 жыхары. З сак. 1924 г. ў БССР. 10.10.1930 г. арганізаваны калгас «Рэкорд». Мелася кузня. У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1952 г. радыёфікавана, у 1954 г. электрыфікавана. У 1990 г. 63 гаспадаркі, 106 жыхароў, у складзе саўгаса «Раста» (цэнтр — в. Гарбавічы). Размяшчаліся паляводчая брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, былі клуб і магазін. Планіроўка П-падобная. Аснову яе складаюць 2 прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, злучаныя на Пн трэцяй прамалінейнай вуліцай. Забудавана няшчыльна, двухбакова, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АНТОНАЎКА** — вёска, цэнтр сельсавета (з 20.8.1924), за 9 км на ПдЗ ад Чавусаў, 54 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Чэрыкаў. 162 гаспадаркі, 496 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1604 г. як абруб у Гарбавіцкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Чавускім павеце, 11 двароў, дварцовая ўласнасць. У 1858 г. 12 двароў, уласнасць памешчыка. У 1869 г. належала П.І.Таманскаму, які меў 1152 дзес. зямлі і карчму. У 1897 г. вёска ў Чавускай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 19 двароў, 160 жыхароў. У 1909 г. 17 двароў, 147 жыхароў. Мелася школа граматы, якая ў 1912 г. ператворана ў земскую, размяшчалася ў наёмным памяшканні. З сак. 1924 г. ў БССР. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. быў 51 вучань. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1931 г. вёска атрымала тэлеф. сувязь. 11.2.1932 г. арганізаваны калгас «Чырвоны барацьбіт», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 34 гаспадаркі, абслугоўваўся Чавускай МТС. У 1940 г. 52 двары, 222 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У снеж. 1941 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 58 жыхароў. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахавана 1148 воінаў 38-га стралк. корпуса 50-й арміі 2-га Бел. фронту, якія загінулі ў баях за вызваленне вёскі. У 1990 г. цэнтр калгаса «1 Мая», 140 гаспадарак, 470 жыхароў. У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, свінагадоўчая ферма, сталярна-цяслярская майстэрня, устаноўка па перапрацоўцы кармоў, ветэрынарны ўчастак. Дзейнічалі базавая і дзіцячая муз. школы, дзіцячы сад-яслі, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, аддз. ашчаднага банка, 2 магазіны, аўтаматычная тэлеф. станцыя, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны Магілёўскім філіялам ін-та «Белкалгаспраект» у 1971 г. Аснову планіроўкі складае працяглая прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ і



*У.А.Маркаў.*



*А.М.Разумаў.*



*Аграгарадок Антонаўка.*

забудаваная двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Паралельна да яе ідзе кароткая прамалінейная вуліца з такой жа забудовай, а перпендыкулярна — новая вуліца, забудаваная шматкватэрнымі двухпавярховымі муравапымі дамамі. На перакрыжаванні вуліц — адм.-грамадскі цэнтр. На ПдЗ — гасп. сектар.

У склад сельсавета ўваходзяць 19 населеных пунктаў. Радзіма бел. пісьменніка І.А.Аношкіна (нар. ў 1928).


*І.А.Аношкін.*

**АСІНАЎКА** — вёска ў Пуцькаўскім с/с, за 20 км на ПнУ ад Чавусаў, 68 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Мсціслаў, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 123 гаспадаркі, 308 жыхароў (2007).

У 1880 г. вёска ў Гарадзецкай вол. Чавускага павета, 12 двароў, 88 жыхароў. У 1897 г. 19 двароў, 134 жыхары, дзейнічаў ветраны млын. Непадалёку быў заезны дом (1 двор, 3 жыхары). У 1909 г. ў вёсцы 18 двароў, 140 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР. З 21.8.1925 г. да 16.5.1960 г. цэнтр сельсавета. У 1929 г. арганізаваны саўгас імя Камінтэрна. У 1940 г. 66 двароў, 270 жыхароў. З 15.7.1941 г. да кастр. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1943 г. партызаны палка «Трынаццаць» разграмілі паліцэйскі гарнізон, які размяшчаўся ў вёсцы. У жн. 1943 г. гітлераўцы спалілі 57 двароў, загубілі 1 жыхара. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 492 воіны 49-й, 212-й, 290-й, 324-й, 369-й стралк. дывізій, якія загінулі ў баях за вызваленне раёна. У 1990 г. цэнтр саўгаса «Асінаўскі», 117 гаспадарак, 392 жыхары. У вёсцы размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, машынны двор, піларама, устаноўка па перапрацоўцы кармоў, ветэрынарная аптэка, вытв. брыгада. У 2007 г. цэнтр СВК «Калгас «Асінаўскі», дзейнічалі сярэдняя школа, дзіцячы сад-яслі, клуб, б-ка, урачэбная амбулаторыя, аптэка, аддз. сувязі, магазін, сталовая, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. ААТ «Беларусбанк», комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, грамадская лазня. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1982 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Аснову планіровачнай структуры складае плаўна выгнутая вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ. Паралельна і перпендыкулярна да яе ідуць яшчэ 2 кароткія вуліцы. Забудавана двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі з гасп. будынкамі. Хаты і гасп. двары розных тыпаў. Пры ўездзе ў вёску з боку шашы склаліся 2 новыя вуліцы, забудаваныя муравапымі жылымі дамамі. Гасп. сектар — на Пн і Пд.


*А.М.Снігіроў.*

Радзіма доктара фізіка-матэматычных навук А.М.Снігірова (нар. ў 1954).

**АСТРАВЫ** — вёска ў Ваўкавіцкім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Чавусаў, 34 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Раста (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Слаўгарад. 49 гаспадарак, 75 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. У 1635 г. сяло ў Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета, дзярж. уласнасць. Меліся млын і драўляная царква. У 1742 г. 20 аселых падданых, у Магілёўскім старостве-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Гаспадар маёнтка І.І.Зяньковіч у 1852 г. меў тут 826,5 дзес. зямлі, млын, карчму. У 1897 г. ў Даўгамохскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 88 двароў, 598 жыхароў. Меліся школа граматы, хлебазапасны магазін, вінная крама, царква. Побач быў аднайменны фальварак (20 жыхароў). У 1904 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1909 г. ў сяле 96 двароў, 649 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 7 жыхароў, на пагосце 3 двары, 9 жыхароў. На базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. быў 101 вучань. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З сак. 1924



г. ў БССР. У маі 1931 г. арганізаваны калгас «Камунар», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 115 гаспадарак, з 1933 г. яго абслугоўвала Расненская МТС. Меліся ваўначоска і кузня. У 1940 г. 205 двароў, 985 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 12.7.1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы ў лютым 1944 г. спалілі 175 двароў, загубілі 30 жыхароў. У брацкай магіле, размешчанай на могілках, пахаваны 10 воінаў 110-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў баях за вызваленне раёна. У 1954 г. радыёфікавана, у 1956 г. электрыфікавана. У 1976 г. да вёскі далучаны пас. Дубрава. У 1990 г. 111 гаспадарак, 209 жыхароў, у складзе калгаса «Іскра» (цэнтр — в. Ваўкавічы). Размяшчаліся вытв. брыгада, 2 фермы буйной рагатай жывёлы, былі б-ка, клуб. У 2007 г. дзейнічаў магазін. Аснову планіровачнай структуры складаюць 2 вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, паралельна да ракі, злучаныя на Пн мясц. дарогай. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная. На Пн, на значнай адлегласці — адасоблены ўчастак забудовы (былы пас. Дубрава). На З — гасп. сектар.

**АТРАЖЖА** — вёска ў Благавіцкім с/с, за 10 км на З ад Чавусаў, 38 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пд праходзіць чыгунка. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Вілейка). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Чэрыкаў, якая праходзіць побач з вёскай. 36 гаспадарак, 68 жыхароў (2007).

Упершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца ў 1560 г. як паселішча ў Магілёўскай вол. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1604 г. сяло Атраж у Благавіцкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, 26 двароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Чавускім павеце Магілёўскага намесніцтва, 23 двары, 199 жыхароў, дварцовая ўласнасць. У 1880 г. 38 двароў, 273 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім і стальмашным промысламі. У 1897 г. ў Гладкаўскай вол. Чавускага павета, 59 двароў, 391 жыхар. У 1909 г. 65 двароў, 442 жыхары. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас, які з 1933 г. абслугоўвала Расненская МТС. У Вял. Айч. вайну з 10.7.1941 г. да 25.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што на могілках, пахаваны 2 сав. воіны, якія загінулі ў 1941 г. У 1952 г. радыёфікавана, у 1954 г. электрыфікавана. У 1990 г. 89 гаспадарак, 192 жыхары, у складзе калгаса «Святло Кастрычніка» (цэнтр — в. Благавічы). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, устаноўка па перапрацоўцы кармоў, быў магазін. Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных 2 прамалінейнымі вуліцамі. Забудавана двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**АСТРЭНІ** — вёска ў Вайнілаўскім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Чавусаў, 38 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ р. Вілейка (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Чэрыкаў. 15 гаспадарак, 19 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1560 г. ў сувязі з правядзеннем агр. рэформы (рэвізіі) як с. Астрэневічы (Астрэнкі) у Магілёўскай вол. ВКЛ, 3 дымы, дзярж. ўласнасць. У 1580 г. сяло ў Магілёўскай воласці-старостве Аршанскага павета Віцебскага ваяв., аддадзена ў пажыццёвае валоданне памешчыку. У 1604 г. ў Благавіцкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., 21 двор. У 1635 г. 25 двароў. У 1742 г. мелася карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. сяло Астрэні (136 жыхароў) у Чавускім павеце, дварцовая ўласнасць. У 1897 г. ў Галянёўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 31 двор, 196 жыхароў. Побач была сядзіба, 12 двароў, 59 жыхароў. У 1909 г. ў сяле

29 двароў, 213 жыхароў, у аднайменным пасёлку 14 двароў, 70 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1924 г. арганізавана меліярацыйнае т-ва, якому за поспехі ў меліярацыйных работах 21.4.1925 г. быў уручаны ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга БССР. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Леніна, які з 1933 г. абслугоўвала Чавуская МТС. Мелася кузня. У 1940 г. 71 двор, 340 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 10.7.1941 г. да 25.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліст. 1943 г. гітлераўцы спалілі 57 двароў, загубілі 11 жыхароў. У брацкай магіле, што на могілках, пахаваны 3 воіны 110-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў баях за вызваленне вёскі. У 1953 г. радыёфікавана, у 1956 г. электрыфікавана. У 1990 г. 43 гаспадаркі, 81 жыхар, у складзе племсаўгаса «XVIII партз'езд» (цэнтр — в. Вайнілы). Размяшчаліся вытв. аддяленне і ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц шыротнай арыентацыі, злучаных завулкамі. Забудавана двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АЎХІМКІ** — вёска ў Благавіцкім с/с, за 13 км на Пн ад Чавусаў, 44 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пн цячэ ручай (прыток р. Бася), на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Каменка і далей па шашы Магілёў—Чэрыкаў. 21 гаспадарка, 34 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1560 г. як с. Аўхімавічы ў Магілёўскай вол. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1604 г. ў Пуцькаўскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., 22 двары. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Чавускім павеце Магілёўскага намесніцтва, 27 двароў, 255 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Радамскай вол. Чавускага павета, 50 двароў, 380 жыхароў, меўся хлебазапасны магазін. У 1909 г. 57 двароў, 385 жыхароў. На базе дарэв. школы граматы адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 56 вучняў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Ленінскі шлях», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 29 гаспадарак. У 1940 г. 41 двор, 200 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліст. 1943 г. гітлераўцы спалілі 33 двары, загубілі 27 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 37 гаспадарак, 75 жыхароў, у складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Каменка). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, быў магазін. У 1955 г. да вёскі далучаны пас. Навінкі. У 1952 г. ўступіў у строй радыёвузел, вёска была радыёфікавана, у 1958 г. электрыфікавана. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПнЗ на ПдУ і злучаных мясц. дарогай. На ПдУ адасоблена размешчаны 2 кароткія, прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы такой жа арыентацыі. Забудавана двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БАРДЗІЛЫ** — вёска ў Цемравіцкім с/с, за 17 км на ПнЗ ад Чавусаў, 39 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Бася (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Хількавічы і далей па шашы Магілёў—Мсціслаў. 17 гаспадарак, 45 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1560 г. (па фрагментах інвентару) як сяло ў Магілёўскай вол. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1604 г. цэнтр войтаўства Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. 9 двароў, 70 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. Памешчыца К.І.Савіцкая мела тут у 1867 г. 134 дзес. зямлі. У 1897 г. ў Радамскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 10 двароў, 66 жыхароў. Непадалёку былі аколіца (13



двароў, 56 жыхароў) і фальварак (1 двор, 13 жыхароў). У 1908 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1909 г. ў сяле было 13 двароў, 63 жыхары, у аколіцы 15 двароў, 68 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 40 вучняў. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1932 г. арганізаваны калгас «Шлях сацыялізму», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 44 гаспадаркі. З 1933 г. калгас абслугоўвала Паўлаўская МТС. У 1940 г. 30 двароў, 120 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. гітлераўцы спалілі 13 дамоў, загубілі 3 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1958 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1990 г. 31 гаспадарка, 69 жыхароў, у складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Пілешчына). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы. У 2007 г. дзейнічалі пач. школа і магазін. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПнУ на ПдЗ і злучаных завулкамі. На Пн да гэтых вуліц падыходзіць перпендыкулярна, з ПнЗ, трэцяя прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд, уздоўж дарогі, склалася новая вуліца, забудаваная муранымі жылымі дамамі тыпу катэджаў.

Радзіма ўдзельніка грамадз. і Вял. Айч. войнаў ген.-маёра А.І.Якімовіча (1883—1944).

**БАРДЗІНІЧЫ** — вёска ў Благавіцкім с/с, за 7 км на Пн ад Чавусаў, 54 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. На правым беразе р. Бася (прыток р. Проня). Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз былыя вёскі Малыя Бардзінічы, Забалацце і далей па шашы Магілёў—Чавусы. 33 гаспадаркі, 43 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1560 г. як с. Барадзішчы ў Магілёўскай вол. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1604 г. ў Пуцькаўскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., 28 двароў. У 1742 г. мелася карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. с. Бардзінічы, у Чавускім павеце Магілёўскага намесніцтва, 85 двароў, 437 жыхароў, дварцовая ўласнасць. У 1834 г. 243 жыхары. У 1847 г. ў складзе маёнтка Ялова, 62 двары, 355 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Чавускай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 100 двароў, 644 жыхары, меўся вадзяны млын. У час 1-й рас. рэвалюцыі 4.6.1906 г. на сельскім сходзе вясковец Д.Іёнаў выступіў з антыўрадавай прамовай. Сяляне накіравалі ў 1-ю дзярж. думу пасланне аб сваіх патрэбах. У 1909 г. 120 двароў, 677 жыхароў. Дзейнічала школа граматы. У 1920-я г. вёскі Вялікія Бардзінічы і Малыя Бардзінічы. З сак. 1924 г. ў БССР. 1.10.1929 г. арганізаваны калгас «Юны камунар», які з 1933 г. абслугоўвала Чавуская МТС. У 1940 г. калгас быў удзельнікам Усесаюзнай с.-г. выстаўкі. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. радыёфікавана, у 1952 г. электрыфікавана. У 1990 г. 42 гаспадаркі, 69 жыхароў, у складзе калгаса «Юны камунар» (цэнтр — былая в. Забалацце). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, устаноўка па перапрацоўцы кармоў, былі клуб, б-ка, магазін. Планіровачна складаецца з вуліцы ламанага абрысу, арыентаванай амаль мерыдыянальна, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПдЗ, паміж былымі вёскамі Вялікія Бардзінічы і Малыя Бардзінічы — гасп. сектар.

**БАРОДКІ** — вёска ў Жаліўскім с/с, за 19 км на Пн ад Чавусаў, 60 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзго-



*А.І.Якімовіч.*

рысты. На Пн цячэ р. Радуча (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Заложжа, якая праходзіць праз вёску. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чавускім павеце. У 1822 г. 6 двароў, у валоданні Радамскага касцёла кармелітаў. У 1897 г. ў Радамскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 5 двароў, 24 жыхары. У аколіцы, якая, як і вёска, знаходзілася пры р. Радуча, было 7 двароў, 50 жыхароў, у заезным доме — 1 двор, 5 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 10 двароў, 35 жыхароў, у аколіцы 15 двароў, 51 жыхар. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1932 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 18 двароў, 60 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. гітлераўцы спалілі 16 дамоў. Пасля вайны адбудавана. У 1956 г. радыёфікавана, у 1958 г. электрыфікавана. У 1990 г. 11 гаспадарак, 22 жыхары, у складзе калгаса «Звязда» (цэнтр — в. Радамля). Планіровачна складаецца з працяглай, плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ, да якой на Пн далучаецца кароткая вуліца (адрэзак шашы) мерыдыянальнай арыентацыі. На Пн ад асн. вуліцы, амаль паралельна да яе, праходзіць кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БАРЫШАЎКА** — вёска ў Жаліўскім с/с, за 12 км на Пн ад Чавусаў, 60 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ р. Проня (прыток р. Сож). На ПдУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Чавусы—Заложжа. 82 гаспадаркі, 226 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чавускім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Жаліўе Чавускага павета Магілёўскага намесніцтва, 15 двароў, 131 жыхар, уласнасць памешчыцы П.Ф.Казубоўскай, якая мела тут у 1871 г. 410 дзес. зямлі. У 1897 г. ў Радамскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 34 двары, 241 жыхар, дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1909 г. 84 двары, 258 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 47 двароў, 241 жыхар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1944 г. гітлераўцы спалілі 43 двары, загубілі 21 жыхара. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. цэнтр саўгаса «Савецкая Беларусь», 74 гаспадаркі, 209 жыхароў. У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, піларама, машынны двор, сталярнацяслярская майстэрня, устаноўка па перапрацоўцы кармоў. У 2007 г. цэнтр унітарнага с.-г. прадпрыемства «Савецкая Беларусь», базавая школа, дзіцячы сад-яслі, клуб, б-ка, сталовая, 2 магазіны, фельч.-акушэрскі пункт, грамадская лазня. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1981 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачна складаецца з 2 частак: паўн.-зах. (ад мясц. дарогі адыходзяць на ПнЗ 2 вуліцы, злучаныя завулкамі, якія ўтвараюць адвольную сетку кварталаў) і паўд.-зах. (ад мясц. дарогі на ПдУ адыходзяць прамалінейныя вуліцы). Забудавана двухбакова, шчыльна, паўн.-зах. частка — традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу, паўд.-ўсх. — мураванымі адна- і двухпавярховымі індывідуальнымі і шматкватэрнымі дамамі з унутрыквартальнымі гасп. пабудовамі. Каля дарогі, якая злучае абедзве часткі, — адм.-грамадскі цэнтр. Гасп. сектар — на Пн і ПдЗ.

**БАХАЦЕЦ** — вёска ў Гарбавіцкім с/с, за 23 км на З ад Чавусаў, 34 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Ржаўка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Хацкавічы і далей па шашы Магілёў—Слаўгарад. 71 гаспадарка, 161 жыхар (2007).



Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. У 1635 г. сяло ў Гарбавіцкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1742 г. 30 гаспадарак, мелася драўляная царква. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. сяло ў Чавускім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ў Чавускім павеце Магілёўскага намесніцтва, 60 двароў, 512 жыхароў, дварцовая ўласнасць. У 1858 г. 115 рэвізскіх душ, меўся шынок. У 1880 г. 53 двары, 256 жыхароў. У 1893 г. адкрыта школа, для якой у 1915 г. пабудавана памяшканне. У 1897 г. ў Галяноўскай вол. Чавускага павета, 70 двароў, 558 жыхароў, раз у год праводзіўся кірмаш. У сядзібе, якая знаходзілася побач, было 2 двары, 6 жыхароў, на месцы ранейшай карчмы — 1 двор, 7 жыхароў. У 1909 г. 74 двары, 603 жыхары. З сак. 1924 г. ў БССР. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 70 вучняў, дзейнічаў драматычны гурток. 1.5.1930 г. арганізаваны калгас імя Сталіна, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 39 гаспадарак. Працавала кузня. З 1933 г. калгас абслугоўвала Расненская МТС. У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 1952 г. радыёфікавана, у 1954 г. электрыфікавана. У 1990 г. 130 гаспадарак, 264 жыхары, у складзе саўгаса «Магілёў-Сад» (цэнтр — в. Хацкавічы). Размяшчалася паляводчая брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, пач. школа, клуб, б-ка, магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, злучаных завулкамі і арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. Да гэтых вуліц на Пд падыходзяць з ПнЗ пад прамым вуглом 2 прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы, злучаныя кароткай прамалінейнай вуліцай. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі. Адна з вуліц, якая адыходзіць на ПнЗ, забудавана мураванымі дамамі тыпу катэджаў. Пры ўездзе ў вёску з Пд размешчаны грамадскія будынкі. На ПнЗ — гасп. сектар.

Радзіма Героя Сав. Саюза лётчыка-знішчальніка Ц.С.Жучкова (1922—87), які вызначыўся ў Вял. Айч. вайну ў час прарыву блакады Ленінграда.



*Ц.С.Жучкоў.*

**БЛАГАВІЧЫ** — вёска, цэнтр сельсавета (з 20.8.1924), за 8 км на ПнЗ ад Чавусаў, 40 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Плясна (прыток р. Раста), на якой зроблена вадасховішча. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Чавусы. 137 гаспадарак, 335 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц (фрагменты інвентару) вядома з 1560 г. як сяло ў Магілёўскай вол. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1580 г. перададзена ў валоданне памешчыку, у 1604 г. цэнтр войтаўства, дзярж. ўласнасць, 58 двароў, меўся млын на р.





*Знешні выгляд і фрагмент інтэр'ера царквы ў гонар свяціцеля Мікалая Цудатворца ў в. Благавічы.*

Плясна. У 1742 г. 30 гаспадарак, дзейнічала карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. 75 двароў, 532 жыхары. У 1797 г. пабудавана драўляная царква. У 18 — пач. 19 ст. належала ген.-маёру І.М.Рымскаму-Корсакаву. У 1848 г. сяло ў Чавускім павеце Магілёўскай губ. У 1858 г. 232 рэвізскія душы. Памешчык меў у 1879 г. ў вёсках Благавічы і Лапкі 1710 дзес. зямлі, вінакурны з-д, вадзяны млын і карчму. У 1880 г. ў фальварку пачала дзейнічаць вінакурня. У 1880 г. ў Гладкаўскай вол. Чавускага павета, 100 двароў, 694 жыхары, з цэглы пабудавана царква, якая зараз з'яўляецца помнікам архітэктуры. Частка вяскоўцаў займалася стальмашным і кравецкім промысламі. У 1887 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у 1902 г. пабудавана памяшканне. У 1897 г. 157 двароў, 933 жыхары, меліся кузня, 2 хлебазапасныя магазіны. Двойчы на год праводзіліся кірмашы. Непадалёку была сядзіба (4 двары, 19 жыхароў). У 1909 г. ў сяле 166 двароў, 1092 жыхары, у аднайменнай сядзібе — 2 двары, 8 жыхароў. У канцы лютага 1918 г. створаны атрад Чырвонай гвардыі (200—300 чал.). На базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. быў 81 вучань. У 1918 г. створаны культурна-асветны гурток, які ў 1919 г. стаў народным домам. У 1922 г. адкрыта хата-чытальня. Па выніках Усесаюзнага конкурсу, праведзенага ў 1924 г. газ. «Правда», яна ўдастоена 1-й прэміі. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Перабудова», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 35 гаспадарак, меў кузню. У 1931 г. вёска атрымала тэлеф. сувязь. У 1940 г. 153 двары, 800 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 10.7.1941 г. да 25.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліст. 1943 г. гітлераўцы спалілі 12 двароў, загубілі 9 жыхароў. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 5 воінаў 369-й стралк. дывізіі і 1 партызан, якія загінулі ў 1944 г. ў баях за вызваленне раёна. У 1990 г. цэнтр калгаса «Святло Кастрычніка», 152 гаспадаркі, 359 жыхароў. У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, машынны двор, піларама, 2 устаноўкі па перапрацоўцы кармоў. У 2007 г. дзейнічалі сярэдняя школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. сувязі, 2 магазіны. Праекты планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1974 г. Магілёўскім філіялам ін-та «Белдзяржпраект». Планіровачна падзяляецца ракой і ўтвораны на ёй вадаёмам на 2 часткі: паўн.-ўсх. (складаецца з працяглай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, паралельна і перпендыкулярна да якой праходзяць кароткія прамалінейныя вуліцы) і паўд.-зах. (ад крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, адыходзяць на ПдЗ кароткія прамалінейныя вуліцы). Забудавана двухбакова, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У паўд.-зах. частцы 2 вуліцы забудаваны тыпавымі адна- і двухпавярховымі мураванымі жылымі дамамі. Гасп. сектар — на У і Пд.

У склад Благавіцкага с/с уваходзіць 21 населены пункт (2007).



*Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызана, якія загінулі пры вызваленні раёна ў Вялікую Айчынную вайну, у в. Благавічы.*



**БРАДЫ** — вёска ў Антонаўскім с/с, за 6 км на ПдЗ ад Чавусаў, 46 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ р. Відлінка (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Чавусы. 21 гаспадарка, 35 жыхароў (2007).

У 1897 г. пас. Брады (ён жа Кліны) у Чавускай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 6 двароў, 94 жыхары. У 1909 г. хутар Брады, 14 двароў, 93 жыхары. У 1917 г. адкрыта школа, у якой у 1925 г. было 58 вучняў. У 1924 г. створана меліярацыйнае т-ва. З сак. 1924 г. ў БССР. 21.1.1932 г. арганізаваны калгас «Перамога», які першапачаткова аб'ядноўваў 53 гаспадаркі, з 1933 г. яго абслугоўвала Чавуская МТС. У 1940 г. 55 двароў, 230 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліст. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 5 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1956 г. радыёфікавана, у 1958 г. электрыфікавана. У 1990 г. 40 гаспадарак, 72 жыхары, у складзе калгаса «Пяцігодка» (цэнтр — в. Галачэва). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц (адна працяглая, другая кароткая), арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і злучаных кароткай прамалінейнай вуліцай. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БРАКАВА СЛАБАДА** — вёска ў Цемравіцкім с/с, за 17 км на ПнЗ ад Чавусаў, 40 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. На ПнЗ праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Бася (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Каменка і далей па шашы Магілёў—Чавусы. 15 гаспадарак, 20 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. У 1635 г. абруб Бракавец у Бардзілаўскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета ВКЛ, дзярж. уласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1897 г. вёска ў Радамскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 15 двароў, 17 жыхароў. Непадалёку былі аднайменныя фальварак (2 двары, 16 жыхароў) і заезны дом (1 двор, 6 жыхароў). У 1909 г. ў вёсцы 15 двароў, 92 жыхары, у фальварку 1 двор, 5 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перамога», які з 1933 г. абслугоўвала Паўлаўская МТС. У 1940 г. 41 двор, 150 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. гітлераўцы спалілі 10 дамоў, загубілі 4 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 34 гаспадаркі, 69 жыхароў, у складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Пілешчына). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БУДЗІНА** — вёска ў Жаліўскім с/с, за 25 км на Пн ад Чавусаў, 73 км ад Магілёва, 30 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, месцамі ўзгорысты. На Пн мяжуе з лесам. На У ад вёскі цячэ р. Проня (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Чавусы—Заложжа. 26 гаспадарак, 50 жыхароў (2007).

У 1849 г. в. Будзін (48 двароў, 314 жыхароў) і фальварак у складзе казённага маёнтка ў Чавускім павеце Магілёўскай губ., дзярж. уласнасць. Памешчык І.Н.Ружанцоў меў тут у 1876 г. 265 дзес. зямлі. У 1880 г. 46 двароў, 344 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім і кравецкім промысламі. У 1897 г. ў Радамскай вол. Чавускага павета, 78 двароў, 473 жыхары, меўся хлебазапасны магазін. У аднайменным фальварку ў гэты час быў 1 двор, 7 жыхароў. У 1904 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1909 г. 90 двароў, 475 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 60 вучняў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1931 г. арганізава-

ны калгас, які з 1933 г. абслугоўвала Макрадская МТС. З 1931 г. на р. Проня дзейнічаў гідралагічны пост. У 1940 г. 121 двор, 586 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1944 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 73 жыхары. 23.6.1944 г. часці 49-й арміі 2-га Бел. фронту ў ходзе аперацыі «Баграціён» прарвалі тут, на р. Проня, абарону ням.-фаш. войск і пачалі наступленне ў Магілёўскім напрамку. У 1972 г. ў памяць аб прарыве варожай абароны ў вёсцы, на беразе ракі, пастаўлена стэла. У баях за вызваленне вёскі вызначыўся малодшы сяржант М.Т.Курбатаў, які разам з групай воінаў захапіў варожую гармату і агнём з яе падавіў 18 агнявых кропак і 3 варожыя дзоты, за што быў удастоены звання Героя Сав. Саюза. Пасля вайны адбудавана. У 1958 г. радыёфікавана, у 1962 г. электрыфікавана. У 1990 г. 59 гаспадарак, 156 жыхароў, у складзе калгаса «Звязда» (цэнтр — в. Радамля). Размяшчаліся паляводчая брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, установка па перапрацоўцы кармоў. У 2007 г. дзейнічалі пач. школа, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц амаль мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных на Пн крывалінейнай вуліцай шыротнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры сялібнай тэр. — грамадскія будынкі. На Пн — гасп. сектар.

**БУДЗІНА** — пасёлак у Жаліўскім сельсавеце, за 24 км на Пн ад Чавусаў, 72 км ад Магілёва, 29 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Проня (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Чавусы—Заложжа. 20 гаспадарак, 38 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1764 г. як вёска Мсціслаўскім старостве Мсціслаўскага ваяв. ВКЛ, дзярж. уласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1876 г. памешчык І.Н.Ружанцоў меў тут 265 дзес. зямлі. У 1909 г. ў Радамскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 10 двароў, 75 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас, які з 1933 г. абслугоўвала Макрадская МТС. У 1940 г. 32 двары, 111 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1044 г. гітлераўцы спалілі 31 двор, загубілі 11 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1958 г. радыёфікавана, у 1962 г. электрыфікавана. У 1990 г. 31 гаспадарка, 71 жыхар, у складзе калгаса «Звязда» (цэнтр — в. Радамля). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудавана пераважна аднабакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БЫНАВА** — вёска ў Пуцькаўскім с/с, за 26 км на ПнУ ад Чавусаў, 73 км ад Магілёва, 31 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ р. Саладзец (прыток р. Проня), на Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Асінаўка і далей па шашы Чавусы—Мсціслаў. 20 гаспадарак, 29 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1742 г. вёска ў Пуцькаўскім войтаўстве Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, дзярж. уласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Меўся млын. У 1785 г. ў Чавускім павеце 63 двары, 433 жыхары, уласнасць памешчыка. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся бандарным, шавецкім і іншымі промысламі. У 1897 г. ў Чавускай вол. Чавускага павета, 59 двароў, 368 жыхароў. У 1909 г. 57 двароў, 354 жыхары, меўся вадзяны млын. Дзейнічала школа граматы. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 14 гаспадарак. У 1940 г. 72 двары, 311 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да канца вер. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1943 г. гітлераўцы спалілі 69



двароў. За 0,5 км на З ад вёскі, на вайсковых могілках пахаваны 1950 воінаў 49-й арміі 2-га Бел. фронту, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях на р. Проня. Сярод пахаваных — Герой Сав. Саюза камандзір кулямётнага разліку сяржант Дз.Б.Маматаў, які вызначыўся 21.12.1943 г. ў баі на р. Проня. Пасля вайны адбудавана. У 1957 г. радыёфікавана, у 1962 г. электрыфікавана. У 1990 г. 51 гаспадарка, 90 жыхароў, у складзе саўгаса «Асінаўскі» (цэнтр — в. Асінаўка). Размяшчаліся паляводчая брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, ёсць магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БЯСЧЫННЕ** — вёска ў Ваўкавіцкім с/с, за 33 км на ПдЗ ад Чавусаў, 26 км ад Магілёва, 21 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Чарняўка (прыток р. Ржаўка). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Слаўгарад, якая праходзіць паблізу вёскі. 41 гаспадарка, 116 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1604 г. як сяло (39 двароў) у Асавецкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ., дзярж. ўласнасць. У 1742 г. меўся шынок. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1866 г. гаспадар маёнтка меў тут 621,5 дзес. зямлі. У 1897 г. ў Царкоўна-Асавецкай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. 20 двароў, 130 жыхароў. Меўся млын. У 1909 г. ў Даўгамохскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 33 двары, 216 жыхароў. У 1917 г. адкрыта школа, у якой у 1925 г. было 24 вучні. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Прамень свабоды», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 35 гаспадарак. У 1940 г. 33 двары, 30 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 7.7.1941 г. да 25.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У лютым 1944 г. гітлераўцы спалілі 17 двароў, загубілі 24 жыхары. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. цэнтр калгаса «Праўда», 35 гаспадарак, 88 жыхароў. У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, машынны двор, піларама, авечкагадоўчая і свінагадоўчая фермы, устаноўка па перапрацоўцы кармоў. У 2007 г. дзейнічалі бібліятэка-клуб, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, грамадская лазня, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, да якой з З пад прамым вуглом падыходзіць кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі і некалькі мураваных двухкватэрных жылых дамоў. На Пд — гасп. сектар.

**ВАЙНІЛЫ** — вёска, цэнтр сельсавета (з 27.6.1969), за 18 км на З ад Чавусаў, 33 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Відлінка (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Чавусы. 193 гаспадаркі, 437 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц (фрагменты інвентару) вядома з 1560 г. як сяло ў Магілёўскай вол. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1563 г. 15 дымоў, у 1580 г. аддадзена ў валоданне памешчыку, у 1604 г. ў часовым валоданні шляхціца, працаваў млын. У 1742 г. 5 двароў, у Гарбавіцкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета, дзейнічалі млын і карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. дварцовая ўласнасць, 37 двароў, 303 жыхары. У 1858 г. ў Чавускім павеце, 125 рэвізскіх душ. Памешчыца П.М.Нячаева мела тут у 1878 г. 1927 дзес. зямлі і карчму. У 1880 г. 60 двароў, 342 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася стальмашным промыслам. У 1894 г. пачала дзейнічаць вінакурня (у 1913 г. 8 рабочых, паравы рухавік). У 1897 г. сяло (72 двары, 461 жыхар), фальварак (3 двары, 23 жыхары, вінакурня, паравы млын, кузня), заезны дом (1 двор, 3 жыхары) і сядзіба (1 двор, 8 жыхароў) у Галянёўскай вол. Чавускага павета. У 1909




г. ў сяле 87 двароў, 625 жыхароў, у фальварку 1 двор, 13 жыхароў. У гэтым жа годзе адкрыта школа, для якой у хуткім часе было пабудавана памяшканне. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 98 вучняў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1920-я г. тут была падсобная гаспадарка саўгаса «Ялова», у 1931 г. створаны саўгас «Вайнілы», у якім у 1934 г. меўся трактар. У 1934 г. адкрыты дзіцячыя яслі. У 1940 г. 132 двары, 580 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 10.7.1941 г. да 25.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 70 дамоў, загубілі 11 жыхароў. Вызвалена часцямі 139-й стралк. дывізіі. У 2 магілах, што на вясковых могілках, пахаваны 5 сав. воінаў, якія загінулі ў баях супраць акупантаў, і партызан-разведчык. На ўшанаванне памяці 105 землякоў, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у 1976 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. цэнтр саўгаса імя XVIII партз'езда, 234 гаспадаркі, 282 жыхары. У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, свінагадоўчы комплекс, машынна-трактарная майстэрня, піларама, 2 устаноўкі па перапрацоўцы кармоў. У 2007 г. дзейнічалі пач. школа, дзіцячы сад-яслі, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, 2 магазіны, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сталовая, Дом механізатара, грамадская лазня. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1982 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачна складаецца з 4 амаль прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных шыротна, уздоўж ракі (па 2 з кожнага боку) і злучаных дарогай з мастом праз раку. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПнУ сфарміраваўся грамадскі цэнтр, дзе размешчаны грамадскія будынкі і ўзведзены мураваныя адна- і двухпавярховыя жылыя дамы. Вытв. сектар — на ПдУ. За грамадскім цэнтрам на ПнУ — сад.

У склад Вайнілаўскага с/с уваходзяць 7 населеных пунктаў (2007).

Радзіма бел. і ўкраінскага пісьменніка В.В.Сударэнкі (1941—95).

**ВАЛОЖАНКА** — вёска ў Антонаўскім с/с, за 8 км на ПдЗ ад Чавусаў, 43 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ПнЗ мяжуе з лесам. На Пд ад вёскі цячэ р. Вілейка (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Чавусы. 20 гаспадарак, 30 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1560 г. як паселішча Валожына ў Магілёўскай вол. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1604 г. с. Валожын у Чавускім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі. У 1635 г. ў Благавіцкім войтаўстве, дзярж. ўласнасць. У 1742 г. ў Бардзілаўскім войтаўстве, меліся млын і шынок. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Чавускім павеце Магілёўскага намесніцтва, 5 двароў, 61 жыхар, дварцовая ўласнасць. Памешчык меў тут у 1856 г. 406 дзес. зямлі. У 1858 г. 63 рэвізскія душы. У 1860 г. 19 двароў, 110 жыхароў, у складзе аднайменнага маёнтка. У 1871 г. Я.А.Фліверк меў тут 141 дзес. зямлі. У 1880 г. 21 двор, 172 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася стальмашным промыслам. У 1897 г. ў Чавускай вол. Чавускага павета, 29 двароў, 213 жыхароў. У аднайменным фальварку, што быў побач, 2 двары, 1 жыхар. У 1909 г. ў сяле 93 двары, 210 жыхароў, у фальварку 1 двор, 1 жыхар. 10.8.1921 г. створана с.-г. т-ва «Чырвоны селянін», у якое ўваходзілі 4 гаспадаркі. У 1922 г. ўзнікла яшчэ адно такое т-ва, якое мела назву «Новая зара», у 1924 г. — меліярацыйнае т-ва. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1930 г. арганізаваны калгас «Валожанка». Працавала кузня. З 1933 г. калгас абслугоўвала Чавуская МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана



ням.-фаш. захопнікамі. У 1956 г. радыёфікавана, у 1958 г. электрыфікавана. У 1990 г. 36 гаспадарак, 69 жыхароў, у складзе калгаса «Пяцігодка» (цэнтр — в. Галачэва). Размяшчалася свінагадоўчая ферма. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПнЗ на ПдУ і забудаваных пераважна двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВАРВАРЫНА** — вёска ў Цемравіцкім с/с, за 21 км на ПнЗ ад Чавусаў, 38 км ад Магілёва, 26 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Бася (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Мсціслаў. 15 гаспадарак, 27 жыхароў (2007).

У 1834 г. фальварак Варварына (ён жа Дзяніскі) у Чэрыкаўскім павеце, 12 жыхароў, уласнасць памешчыка Я.С.Азалова, які меў тут у 1857 г. 956 дзес. зямлі, вадзяны млын і карчму. У 1897 г. ў Радамскай вол. Чавускага павета, 3 двары, 11 жыхароў. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Шлях сацыялізму». Мелася кузня. З 1933 г. калгас абслугоўвала Паўлаўская МТС. У 1940 г. 43 двары, 160 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 25.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы ў чэрв. 1944 г. спалілі 3 двары, загубілі 1 жыхара. З 16.7.1954 г. да 16.5.1960 г. цэнтр сельсавета. У 1958 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1990 г. 34 гаспадаркі, 58 жыхароў, у складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Пілешчына). Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы. арыентаванай з ПнЗ на ПдУ, да якой у цэнтры далучаецца з З кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВАСЬКАВІЧЫ** — вёска ў Цемравіцкім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Чавусаў, 43 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На З цячэ р. Раста (прыток р. Проня), а праз вёску — яе прыток р. Удоўша. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Мсціслаў. 75 гаспадарак, 184 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1604 г. як с. Васковічы ва Уланаўскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, дзярж. ўласнасць, 59 двароў. У 1635 г. 46, у 1742 г. 34 двары. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Красніцкім ключы Магілёўскай эканоміі Чавускага павета, дварцовая ўласнасць, 48 двароў, 350 жыхароў. У 1847 г. ў складзе маёнтка Красніца, уласнасць памешчыка, 56 двароў, 338 жыхароў. У 1897 г. ў Гладкаўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 84 двары, 567 жыхароў. Мелася школа граматы. Дзейнічаў піцейны дом. У 1909 г. 102 двары, 640 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 59 вучняў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1929 г. арганізаваны калгас «Перадавік», які першапачаткова аб'ядноўваў 30 гаспадарак, мелася кузня. З 1934 г. калгас абслугоўвала Макрадская МТС. У 1940 г. 190 двароў, 670 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1941 г. гітлераўцы спалілі 51 двор, загубілі 17 жыхароў. У брацкай магіле, што на вясковых могілках, пахаваны 106 воінаў 64-й і 199-й стралк. дывізій, якія загінулі ў 1944 г. У 1975 г. пастаўлены помнік. У 1976 г. да вёскі далучаны пасёлкі Дзерліўка, Манушкі. У 1990 г. цэнтр калгаса «Перадавік», 104 гаспадаркі, 211 жыхароў. У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, піларама, машынны двор, устаноўка па перапрацоўцы кармоў. У 2007 г. дзейнічалі школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі і «Беларусбанка», магазін, дзіцячы сад-яслі. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1977 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачна складаецца з працяглай, амаль прамалінейнай ву-

ліцы, арыентаванай шыротна, уздоўж ракі. На другім беразе ракі, перпендыкулярна да яе, на Пд адыходзяць 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Сучаснае будаўніцтва вядзецца на ПдУ, дзе размешчаны адм.-грамадскія будынкі і мураваныя аднапавярховыя двухкватэрныя тыпавыя дамы. Вытв. сектар — на паўн. і ўсх. ускраінах.

**ВАЎКАВІЧЫ** — вёска, цэнтр сельсавета (з 20.8.1924), за 30 км на ПдЗ ад Чавусаў, 35 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Ржаўка. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Слаўгарад, якая праходзіць праз вёску. 174 гаспадаркі, 444 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц (фрагменты інвентару) вядома з 1560 г. як сяло ў Магілёўскай вол. ВКЛ, дзярж. ўласнасць, 4 дымы. У 1580 г. перададзена ў пажыццёвае валоданне памешчыку. У 1589 г. сяло ў Магілёўскай вол., дзярж. ўласнасць. У 1635 г. с. Багданава ў Асавецкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета, 6 двароў. Меўся млын. У 1673 г. 15 двароў, 40 жыхароў мужчынскага полу. Побач быў аднайменны фальварак. У 1742 г. 27 двароў, млын, карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1858 г. сяло ў Быхаўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 35 двароў, 144 жыхары. Частка сяльчан займалася бандарным і сталярным промысламі. У 1897 г. вёскі Вялікія Ваўкавічы (24 двары, 180 жыхароў, хлебазапасны магазін) і Малыя Ваўкавічы (20 двароў, 133 жыхары) у Царкоўна-Асавецкай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. ў Вялікіх Ваўкавічах 24 двары, 192 жыхары, у Малых Ваўкавічах 22 двары, 188 жыхароў. У 1910 г. адкрыта царк.-прыходская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 47 вучняў. З сак. 1924 г. ў БССР. У лютым 1931 г. арганізаваны калгас «Прамень», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 94 гаспадаркі, з 1933 г. яго абслугоўвала Расцянская МТС. У 1931 г. вёска атрымала тэлеф. сувязь. У 1940 г. 100 двароў, 380 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 25.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У лютым 1944 г. гітлераўцы спалілі 71 двор, загубілі 13 жыхароў. У 3 брацкіх магілах, на вясковых могілках, пахаваны сав. воіны, якія загінулі ў баях супраць гітлераўскіх акупантаў у 1941 і 1944 гг. На ўшанаванне памяці 177 землякоў, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у 1975 г. пастаўлена стэла. У 1990 г. цэнтр калгаса «Іскра», 96 гаспадарак, 232 жыхары. У вёсцы размяшчаліся лясніцтва, вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, машынны двор, піларама, млын. У 2007 г. дзейнічалі сярэдняя школа, дзіцячы саднеслі, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, аўтаматычная тэлеф. станцыя, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. У 1975 г. да вёскі далучаны пасёлкі Журбіншчына, Ніва, Шлях. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1976 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачна складаецца з 3 крывалінейных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ (2 вуліцы на ўсх. беразе ракі, адна з іх — адрэзак шашы, трэцяя вуліца — на зах. беразе ракі). Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі. Каля шашы — адм.-грамадскі цэнтр. Тут жа ўзведзены мураваныя шматкватэрныя двухпавярховыя і індывідуальныя жылыя дамы тыпу катэджаў. Вытв. сектар — на ПдУ.

У склад Ваўкавіцкага с/с уваходзяць 14 населеных пунктаў (2007).

**ВЕРБАЎКА** — вёска ў Жаліўскім с/с, за 26 км на ПнУ ад Чавусаў, 74 км ад Магілёва, 31 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пн і З мяжуе з лесам. На ПдУ цячэ р. Вербаўка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Галузы, Жаліўе і далей па шашы Чавусы—Заложжа. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).



Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. У 1589 г. с. Вербы ў Радамскай вол. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. 14 двароў, 131 жыхар, у складзе маёнтка Жаліўе Чавускага павета, уласнасць памешчыка. У 1847 г. ў складзе маёнтка Аляксандраў Чавускага павета Магілёўскай губ., мелася карчма. У 1880 г. 20 двароў, 155 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася сталярным промыслам. У 1897 г. ў Радамскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 36 двароў, 224 жыхары. У 1922 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. былі 24 вучні. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас, які з 1935 г. абслугоўвала Макрадская МТС. У 1940 г. 44 двары, 224 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1944 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 7 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1961 г. радыёфікавана, у 1962 г. электрыфікавана. У 1990 г. 7 гаспадарак, 12 жыхароў, у складзе саўгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Барышаўка). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай няшчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВІДЛІН** — вёска ў Благавіцкім с/с, за 9 км на З ад Чавусаў, 39 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Чавусы, якая праходзіць паблізу вёскі. 10 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

У 1857 г. в. Антонаўка (яна ж Відлін), уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Гладкаўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 29 двароў, 160 жыхароў. У 1909 г. 33 двары, 214 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Дружба», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 8 гаспадарак, з 1933 г. яго абслугоўвала Чавуская МТС. У 1940 г. 31 двор, 130 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 10.7.1941 г. да 25.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліст. 1943 г. гітлераўцы спалілі 3 двары, загубілі 4 жыхары. Пасля вайны адбудавана. 29 гаспадарак, 51 жыхар, у складзе калгаса «Святло Кастрычніка» (цэнтр — в. Благавічы). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, устаноўка па перапрацоўцы кармоў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на Пн далучаецца кароткая прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВІЛЕЙКА** — вёска ў Благавіцкім с/с, за 5 км на З ад Чавусаў, 43 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ПдУ мяжуе з лесам. Непадалёку пачынаецца і цячэ праз вёску р. Вілейка (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Чавусы, якая праходзіць паблізу вёскі. 39 гаспадарак, 57 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1590 г. як вёска ў ВКЛ, 8 двароў, у валоданні Чавускага кармеліцкага кляштара. У 1604 г. абруб у Чавускім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць. У 1652 г. цэнтр маёнтка. У 1742 г. сяло (10 гаспадарак) у Благавіцкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета, мелася карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Чавускім павеце Магілёўскага намесніцтва, 27 двароў, 107 жыхароў, уласнасць памешчыка і Чавускага кармеліцкага кляштара. У 1858 г. 47 рэвізскіх душ. У 1880 г. 30 двароў, 166 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся стальмашным і іншымі промысламі. У 1897 г. ў Чавускай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 44 двары, 265 жыхароў. У аднайменным фальварку, які знаходзіўся паблізу, было 2 двары, 6 жыхароў. У 1909 г. ў сяле 51 двор,

282 жыхары, на хутары 9 двароў, 50 жыхароў. У 1912 г. адкрыта царк.-прыходская школа. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 60 вучняў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1924 г. засн. меліярацыйнае т-ва, 1.3.1931 г. арганізаваны калгас «Перамога», які з 1933 г. абслугоўвала Чавуская МТС. Мелася ваўначоска. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 76 гаспадарак, 144 жыхары, у складзе калгаса «Юны камунар» (цэнтр — былая в. Забалацце). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, устаноўка па перапрацоўцы кармоў, былі пач. школа, клуб. У 2007 г. дзейнічаў магазін. Планіровачна складаецца з 4 прамалінейных кароткіх вуліц, што ўтвараюць прамавугольнік, ад якога на ПдУ адыходзіць плаўна выгнутая вуліца, а ад яе на ПнУ — кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пн — гасп. сектар.



*І.Р.Карасёў.*

Радзіма Героя Сав. Саюза І.Р.Карасёва (1922—55), які вызначыўся ў Вял. Айч. вайну ў 1943 г. пры фарсіраванні Дняпра, і Героя Сав. Саюза С.І.Азарава (1909—42), які вызначыўся ў Вял. Айч. вайну ў баях пад Ленінградам і ў Карэліі.



*С.І.Азараў.*

**ВУЖЖАР** — вёска ў Дужаўскім с/с, за 19 км на Пд ад Чавусаў, 60 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ПдУ цячэ р. Проня (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Слаўгарад, якая праходзіць праз вёску. 19 гаспадарак, 33 жыхары (2007).

На паўд.-зах. ускраіне вёскі захаваўся курган, які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска засн. ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны ўсход», які першапачаткова аб'ядноўваў 30 гаспадарак, мелася кузня. З 1933 г. калгас абслугоўвала Чавуская МТС. У 1940 г. 49 двароў, 197 жыхароў. У Вял. айч. вайну ў ліп. 1941 г. да 2.12.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У снеж. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 7 жыхароў. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 668 воінаў 38-га стралк. корпуса 50-й арміі 2-га Бел. фронту, якія памерлі ад ран у шпіталі ў 1944 г. У 1977 г. пастаўлены помнік. Пасля вайны адбудавана. У 1956 г. радыёфікавана, у 1958 г. электрыфікавана. У 1990 г. 34 гаспадаркі, 61 жыхар, у складзе калгаса імя Ільіча (цэнтр — в. Кузьмінічы). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай з завулкамі вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВУСЦЕ** — вёска ў Антонаўскім с/с, за 16 км на ПдЗ ад Чавусаў, 46 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Вілейка (прыток р. Раста), на ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Галавенчыцы і далей па шашы Магілёў—Чавусы. 76 гаспадарак, 204 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1604 г. як сяло ў Гарбавіцкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, дзярж. уласнасць, у часовым валоданні шляхціца. У 1742 г. абруб Вусце (ён жа Пнёўка). Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. ў Старабыхаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1858 г. ў Быхаўскім павеце, 62 жыхары мужчынскага полу. Гаспадар аднайменнага маёнтка меў тут у 1865 г. 209 дзес. зямлі. У 1880 г. 29 двароў, 151 жыхар. Гаспадар маёнтка М.Д.Панятоўскі ў 1880 г. валодаў 1305 дзес. зямлі, вадзяным млыном, сукнавальняй. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. ў Даўгамохскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 40 двароў, 264 жыхары, хлебазапасны магазін. Непадалёку быў фальварак, 1 двор, 8 жыхароў. У 1909 г. ў сяле 48 двароў, 199 жыхароў, у маёнтку — 1 двор, 5 жыхароў. Дзейнічала шко-



ла граматы. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1932 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава. У 1940 г. 81 двор, 349 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліст. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 96 жыхароў. У 2 брацкіх магілах, што ва ўрочышчы Вусцяншчына, і 3 індывідуальных магілах, што на вясковых могілках, пахаваны 306 воінаў 38-га стралк. корпуса 50-й арміі 2-га Бел. фронту, якія загінулі пры вызваленні вёскі. Помнікі пастаўлены ў 1975 г. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. цэнтр саўгаса «Галавенчыцы», 76 гаспадарак, 181 жыхар. У вёсцы размяшчаўся машынны двор. У 2007 г. цэнтр СВК «Калгас «Галавенчыцы», пач. школа, дзіцячы сад-яслі, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, сталовая, аддз. АСБ «Беларусбанк», комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1982 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, паралельна да якой на У праходзіць кароткая прамалінейная вуліца, злучаная з асн. завулкам. Забудавана двухбакова, пераважна шчыльна. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы, на У. Тут жа ўзведзены двухпавярховыя мураваныя шматкватэрныя дамы і індывідуальныя мураваныя дамы тыпу катэджаў.

**ВЫСОКАЕ** — вёска ў Антонаўскім с/с, за 12 км на Пд ад Чавусаў, 60 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Проня (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Чавусы—Слаўгарад. 21 гаспадарка, 27 жыхароў (2007).

За 0,2 км на ПнУ ад вёскі, на правым беразе р. Проня, размешчана гарадзішча 10—11 ст., якое мае мясц. назву Царскія Вароты, а таксама гарадзішча ранняга жал. веку і пач. 2-га тыс. да н.э. з мясц. назвай Гарадок. Гэтыя помнікі археалогіі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай старажытнасці. Вёска паводле пісьмовых крыніц вядома з 1560 г. як сяло ў Магілёўскай вол. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1580 г. ва ўладанні памешчыка. У 1635 г. с. Пятровічы (яно ж Высокае) у Благавіцкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета, 16 двароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Загоранскім ключы Чавускага павета Магілёўскага намесніцтва, уласнасць памешчыка, 40 двароў, 254 жыхары. У 1858 г. 146 рэвізскіх душ. Памешчык меў у 1878 г. ў вёсках Высокае і Туроўка 514 дзес. зямлі. У 1880 г. 56 двароў, 336 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася сальмашным і ганчарным промысламі. У 1897 г. сяло (79 двароў, 573 жыхары) і фальварак (1 двор, 13 жыхароў) у Чавускай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ. У 1908 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1909 г. 98 двароў, 584 жыхары. З сак. 1924 г. ў БССР. 1.7.1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны барацьбіт». На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 65 вучняў. У 1940 г. 72 двары, 512 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліст. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 18 жыхароў. У брацкай магіле, што на могілках, пахаваны 565 воінаў 38-га стралк. корпуса 50-й арміі 2-га Бел. фронту, якія загінулі ў 1944 г. ў баях за вызваленне раёна. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 64 гаспадаркі, 106 жыхароў, у складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Антонаўка). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы, былі б-ка, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц амаль мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных завулкамі і забудаваных двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЯЛІКІЯ АМХІНІЧЫ** — вёска ў Гарбавіцкім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Чавусаў,

29 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ ручай Ільменка (прыток р. Рудзея). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Чавусы, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 39 гаспадарак, 89 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1560 г. ў сувязі з правядзеннем агр. рэформы (рэвізіі) як с. Мхінічы ў Магілёўскай вол. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1580 г. с. Міхінічы ў Магілёўскай воласці-старостве Аршанскага павета Віцебскага ваяв., у пажыццёвым валоданні памешчыка. У 1604 г. 51 двор, у 1635 г. 106 двароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Магілёўскай эканоміі Чавускага павета Магілёўскага намесніцтва, 63 двары, 405 жыхароў, дварцовая ўласнасць. У 1847 г. ў складзе маёнтка Красніца Чавускага павета, 84 двары, 526 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1895 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1897 г. ў Гладкаўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 102 двары, 570 жыхароў. У 1909 г. 105 двароў, 707 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 35 вучняў. З сак. 1924 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. У 1931 г. арганізаваны калгас імя М.Горкага, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 12 гаспадарак, з 1933 г. яго абслугоўвала Расцянская МТС. Мелася кузня. У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1955 г. да вёскі далучаны пасёлкі Бярозаўка, Малінаўка. У 1990 г. 50 гаспадарак, 113 жыхароў, у складзе калгаса «Серп і молат» (цэнтр — в. Лёўкаўшчына). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, млын. У 2007 г. працавалі пач. школа і магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на Пд далучаецца пад прамым вуглом з ПдУ другая прамалінейная вуліца (былая в. Малінаўка). Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГАЛАВЕНЧЫЦЫ** — вёска ў Антонаўскім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Чавусаў, 40 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Вёску перасякае меліярацыйны канал, злучаны на З з р. Вілейка (прыток р. Раста). На Пд цячэ р. Быхаўка (прыток р. Вілейка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Чавусы. 59 гаспадарак, 100 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1560 г. як сяло ў Магілёўскай вол. ВКЛ, дзярж. ўласнасць, 11 дымоў. У 1563 г. перададзена ў часовае валоданне шляхціцу, у 1580 г. — у пажыццёвае валоданне Васілю Нямеру. У 1604 г. дзярж. ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. цэнтр маёнтка Чавускага павета Магілёўскага намесніцтва, уласнасць памешчыка, 58 двароў, 438 жыхароў, мелася драўляная царква. У 1848 г. 48 двароў. У 1858 г. 104 рэвізскія душы. У 1885 г. ў Чавускай вол., 52 двары, 256 жыхароў. У 1863 г. адкрыта школа, якая ў 1872 г. была пераведзена ў Чавусы. Памешчык П.Я.Радзіёнаў меў тут у 1871 г. 376 дзес. зямлі, вадзяны млын і карчму. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім промыслам. У 1891 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1897 г. ў Чавускай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 71 двор, 464 жыхары, раз у год (8 вер.) праводзіўся кірмаш. У аднайменным фальварку было 2 двары, 3 жыхары, у сядзібе — 2 двары, 10 жыхароў. У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама. У 1909 г. 76 двароў, 482 жыхары. У фальварку ген.-маёра П.Я. Радзіёнава быў 1 двор, 9 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 114 вучняў, дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З сак. 1924 г. ў БССР. З 1924 г. да 1936 г. — цэнтр сельсавета. У 1920-я г. дзейнічала садова-агародніцкае



т-ва. 1.10.1930 г. арганізаваны калгас «Партызан», які абслугоўвала Чавуская МТС, працавала кузня. У 1931 г. вёска атрымала тэлеф. сувязь. У 1940 г. 126 двароў, 440 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліст. 1943 г. гітлераўцы спалілі 122 двары, загубілі 13 жыхароў. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 97 сав. воінаў, у т.л. байцы 110-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў баях за вызваленне раёна. Помнік пастаўлены ў 1969 г. У 1990 г. 102 гаспадаркі, 201 жыхар, у складзе саўгаса «Галавенчыцы» (цэнтр — в. Вусце). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, піларама, сталярна-цяслярская майстэрня, 2 устаноўкі па перапрацоўцы кармоў, ветэрынарны ўчастак, пач. школа, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, аўтаматычная тэлеф. станцыя, магазін. У 2007 г. працаваў магазін. 2 крывалінейныя вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ, размежаваныя р. Вілейка. Да ўсх. вуліцы падыходзіць з ПдУ кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. Гасп. сектар — на У.

**ГАЛАЧОЎКА** — вёска ў Прудкоўскім с/с, за 10 км на ПдУ ад Чавусаў, 58 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. На ПдЗ цячэ р. Сіняўка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Чэрыкаў. 32 гаспадаркі, 53 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1635 г. як с. Каменка ў Благавіцкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета ВКЛ, дзярж. уласнасць. У 1742 г. с. Галачоўка (яно ж Каменка), 8 двароў, меліся млын, карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. ў Чавускім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. в. Галавачоўка, 16 двароў, 90 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. У 1858 г. 51 рэвізская душа. У 1880 г. 22 двары, 146 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. ў Чавускай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 33 двары, 255 жыхароў. Непадалёку былі 2 хутары (2 двары, 17 жыхароў). У 1907 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1909 г. ў сяле 37 двароў,265 жыхароў, на хутары 4 двары, 29 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 70 вучняў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Пераможац», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 38 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 4.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 63 гаспадаркі, 106 жыхароў, у складзе калгаса «Камуніст» (цэнтр — в. Петухоўка). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, устаноўка па перапрацоўцы кармоў, быў клуб. У 2007 г. працаваў магазін. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да цэнтра якой з ПнУ далучаюцца 2 кароткія вуліцы. Забудавана пераважна аднабакова, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі. На ПдЗ — гасп. сектар.

**ГАЛАЧЭВА** — вёска ў Антонаўскім с/с, за 5 км на Пд ад Чавусаў, 53 км ад Магілёва, 1 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Слаўгарад, якая праходзіць побач з вёскай. 115 гаспадарак, 288 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 17 ст. У 1604 г. сяло (30 гаспадарак) у Чавускім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, дзярж. уласнасць. У 1643 г. меўся млын. У 1742 г. ў Благавіцкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета, 19 двароў. Мелася карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. сяло ў Загоранскім ключы Чавускага павета Магілёўскага намесніцтва, уласнасць памешчыка, 35 двароў, 217 жыхароў. У 1858 г. 92 рэвізскія душы, дзейнічаў цагельны з-д. З 1875 г. працавала маслабойня. У 1880 г. 45 двароў, 148 жыхароў. Апрача




земляробства сяльчане займаліся рознымі промысламі. У 1909 г. ў сяле 56 двароў, 344 жыхары, на аднайменным хутары, што быў паблізу, 18 двароў, 55 жыхароў. Дзейнічала школа граматы. З сак. 1924 г. ў БССР. У тым жа годзе арганізавана меліярацыйнае т-ва, у 1933 г. — калгас, які абслугоўваўся Чавускай МТС. У 1940 г. 80 двароў, 480 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліст. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 1 жыхара. Пасля вайны адбудавана. На ўшанаванне памяці 139 землякоў — сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у цэнтры вёскі ў 1965 г. пастаўлены абеліск. У 1990 г. 135 гаспадарак, 281 жыхар, цэнтр калгаса «Пяцігодка». У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, машынны двор, піларама, установка па перапрацоўцы кармоў, б-ка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аўтаматычная тэлеф. станцыя. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1976 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачна складаецца з 2 вуліц (адна плаўна выгнутая, другая прамалінейная), арыентаваных з ПдУ на ПнЗ, ад якіх на ПнУ і ПдЗ адыходзяць кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова традыц., сядзібнага тыпу, пераважна драўляная, двухбаковая. Адм.-грамадскія будынкі размешчаны на ПдЗ. Тут жа вядзецца жыллёвае будаўніцтва аднапавярховымі адна- і двухкватэрнымі жылымі дамамі. Гасп. сектар — у цэнтры і на ПдЗ.

**ГАЛУЗЫ** — вёска ў Жаліўскім с/с, за 19 км на ПнУ ад Чавусаў, 67 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ ручай (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Жаліўе і далей па шашы Чавусы—Заложжа. 19 гаспадарак, 29 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1777 г. як вёска ў Чавускім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. 20 двароў, 171 жыхар, у складзе маёнтка Жаліўе Чавускага павета Магілёўскага намесніцтва, уласнасць памешчыка. У 1834 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 20 двароў, 114 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 95 рэвізскіх душ. У 1880 г. 41 двор, 282 жыхары. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся кавальскім і кушнерскім промысламі. У 1897 г. ў Радамскай вол. Чавускага павета, 54 двары, 387 жыхароў, меўся хлебазапасны магазін. У 1909 г. 61 двор, 386 жыхароў. Пасля 1917 г. ў вёсцы быў сфарміраваны чырвонаармейскі атрад. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Шлях сацыялізму», працавала кузня. З 1933 г. калгас абслугоўвала Макрадская МТС. У 1940 г. 93 двары, 280 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Каля вёскі базіраваўся партыз. атрад. У студз. 1944 г. гітлераўцы спалілі 13 двароў, загубілі 6 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1961 г. радыёфікавана, у 1962 г. электрыфікавана. У 1990 г. 62 гаспадаркі, 125 жыхароў, у складзе саўгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Барышаўка). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, вытв. брыгада. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, ад якой адыходзіць на ПдУ плаўна выгнутая вуліца. Забудавана пераважна двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГАРАДЗЕЦ** — вёска ў Благавіцкім с/с, за 18 км на Пн ад Чавусаў, 59 км ад Магілёва, 23 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Дзяргучка (прыток р. Бася). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Сушчы, Каменка і далей па шашы Магілёў—Чавусы. 12 гаспадарак, 14 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1581 г. вёска аддадзена ў валоданне Чавускаму кармеліцкаму кляштару. У 1647 г. фальварак, у валоданні Чавускага касцёла кармелітаў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. вёска і



фальварак у Чавускім павеце. У 1818 г. ў фальварку Гарадзец былі 2 вадзяныя млыны, 2 карчмы. У 1834 г. ў вёсцы 92 жыхары, у 1847 г. ў складзе маёнтка Ялова ў Чавускім павеце Магілёўскай губ., 19 двароў, 113 жыхароў, уласнасць памешчыка графа М.Дз.Талстога, які меў у 1870 г. ў вёсках Гарадзец, Мікольск, Ялова 3864 дзес. зямлі, 3 вадзяныя млыны, сукнавальню, 2 карчмы. Дзейнічала школа (нар. вучылішча), адкрытая не пазней 1884 г. У 1897 г. ў Радамскай вол. Чавускага павета, 49 двароў, 293 жыхары, на хутары 1 двор, 7 жыхароў. У 1907 г. ў школе навучалася 37 хлопчыкаў і 5 дзяўчынак. На базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. быў 51 вучань. З сак. 1924 г. ў БССР. 1.6.1931 г. арганізаваны калгас «Маяк», які меў 116 га зямлі, аб'ядноўваў 21 гаспадарку. Працавала кузня. З 1933 г. калгас абслугоўвала Чавуская МТС. У 1940 г. 50 двароў, 250 жыхароў. З 22.7.1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У снеж. 1943 г. гітлераўцы спалілі 8 дамоў, загубілі 9 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1952 г. радыёфікавана, у 1954 г. электрыфікавана. У 1990 г. 32 гаспадаркі, 54 жыхары, у складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Каменка). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ГАРБАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Гарбавіцкага с/с, чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў, за 18 км на З ад Чавусаў, 30 км ад Магілёва. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. На паўн. ускраіне праходзіць чыгунка. На У цячэ р. Раста (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Чавусы, якая праходзіць паблізу вёскі. 13 гаспадарак, 799 жыхароў (2007).

За 1,5 км на ПдУ ад вёскі размешчана стараж. гарадзішча, за 3 км на З, каля левага берага р. Раста, знаходзіцца курганны могільнік радзімічаў (9—11 ст.); было 11 насыпаў, з якіх 8 даследаваны археолагамі. Каля шашы Магілёў—Чавусы да 1978 г. былі 3 курганы. Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 1560 г. як сяло ў Магілёўскай вол. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1566 г. перададзена ў часовае валоданне шляхціцу. У 1585 г. ўпамінаецца ў Баркулабаўскім летапісе. У 1604 г. дзярж. ўласнасць, 37 двароў, меліся карчма і млын на р. Раста. У 1613 г. аддадзена ў пажыццёвае валоданне шляхціцу. У 1742 г. 34 двары. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. дварцовая ўласнасць, 54 двары, 489 жыхароў. У 1858 г. 153 рэвізскія душы, шынок, млын, паштовая станцыя на тракце Магілёў—Чэрыкаў—Краснаполле, якая мела 14 коней. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся сталярным промыслам. Памешчык М.М.Пузанаў меў у 1865 г. ў вёсках Гарбавічы, Пятровічы і Падгор'е (зараз у Магілёўскім р-не) 6972 дзес. зямлі, 4 карчмы, вінакурны з-д, 3 вадзяныя млыны і паштовую станцыю. У 1880 г. 40 двароў, 185 жыхароў. У 1897 г. ў Галянёўскай вол. Чавускага павета, 75 двароў, 503 жыхары, меліся 2 драўляныя капліцы, паштовая станцыя, школа, хлебазапасны магазін, заезны дом, вадзяны млын, крама, піцейны дом. У цэнтры вёскі была сядзіба (2 двары, 12 жыхароў, капліца, конна-паштовая станцыя, вадзяны млын,

*Аграгарадок Гарбавічы.*



заезны дом). У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама. У 1909 г. 106 двароў, 641 жыхар. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Сталіна, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 19 гаспадарак, працавалі кузня і вадзяны млын. З 1933 г. калгас абслугоўвала Расцянская МТС. У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, штоў цэнтры вёскі, пахаваны 23 воіны 139-й стралк. дывізіі і лётчык 49-га знішчальнага авіяпалка, якія загінулі ў 1944 г. ў баях за вызваленне раёна. У 1970 г. на магіле пастаўлены помнік. У 1990 г. 357 гаспадарак, 846 жыхароў, цэнтр саўгаса «Раста». У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, машынны двор, млын, піларама, свінагадоўчая гаспадарка дома-інтэрната, філіял Магілёўскай ф-кі мастацкіх вырабаў, маслазавод, хлебапякарня, швейная майстэрня, ветэрынарны ўчастак. У 2000-я г. на базе вёскі створаны аграгарадок. У 2007 г. дзейнічалі сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, навучальна-вытв. камбінат, дзіцячы сад-яслі, аддз. АСБ «Беларусбанк», аптэка, 3 магазіны, амбулаторыя, бальніца, сталовая, грамадская лазня, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Непадалёку знаходзіцца санаторый-прафілакторый «Раста». Ген. план і схема планіроўкі распрацаваны ў 1984 г. Бел. н.-д. і праектным ін-там па будаўніцтве ў вёсцы. Аснову планіроўкі складае прамалінейная вуліца амаль шыротнай арыентацыі, ад якой на Пн адыходзіць 8 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц. Забудавана двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Дзве новыя вуліцы, што на Пд ад гал., забудаваны мураванымі дамамі. Трэцяя размешчаная тут вуліца забудоўваецца двухпавярховымі 8-кватэрнымі мураванымі дамамі. На Пд ад традыц. жылой забудовы склаўся адм.-грамадскі цэнтр з вял. вясковай плошчай, штучным вадаёмам і скверам. На паўн.-зах. ускраіне — чыг. станцыя. Гасп. сектар — на Пн і ПдУ.


*М.С.Бардзілоўскі.*

Радзіма бел. мастака В.І.Рамцэвіча (нар. ў 1936).

У склад Гарбавіцкага с/с уваходзяць 18 населеных пунктаў.

**ГАТНАЯ СЛАБОДКА** — вёска ў Цемравіцкім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Чавусаў, 40 км ад Магілёва, 19 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ р. Рэуза (прыток р. Бася). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Цемравічы, Каменка і далей па шашы Магілёў—Чавусы. 9 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1604 г. як с. Гатна ў Благавіцкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць, у валоданні магілёўскага пратапопа. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. сяльцо ў Чавускім павеце, 9 двароў, 73 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1897 г. аколіца ў Гладкаўскай вол. Чавускага павета, 13 двароў, 104 жыхары. У 1909 г. 13 двароў, 50 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1930 г. арганізаваны калгас «Радзіма», які з 1933 г. абслугоўвала Паўлаўская МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 24 гаспадаркі, 45 жыхароў, у складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Пілешчына). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, ад якой на ПнУ адыходзяць 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ГАЦІШЧА** — вёска ў Пуцькаўскім с/с, за 15 км на ПнУ ад Чавусаў, 63 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Пуцькі і далей па шашы Чавусы—Заложжа. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).



Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З сак. 1024 г. ў БССР. 12.12.1933 г. арганізаваны калгас імя В.І.Чапаева. У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да канца вер. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Калгас з 1945 г. абслугоўвала Пераможная МТС. У 1958 г. радыёфікавана, у 1960 г. электрыфікавана. У 1990 г. 15 гаспадарак, 28 жыхароў, у складзе саўгаса «Чавускі» (цэнтр — в. Пуцькі). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма ген.-маёра М.С.Бардзілоўскага (нар. ў 1950).

**ГІРАЎЦЫ** — вёска ў Жаліўскім с/с, за 18 км на Пн ад Чавусаў, 66 км ад Магілёва, 23 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Чавусы—Заложжа. 23 гаспадаркі, 34 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1785 г. сяльцо ў Чавускім павеце, 2 двары, 18 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1858 г. вёска, 46 рэвізскіх душ, меўся шынок. У 1860 г. 22 двары, 150 жыхароў, уласнасць памешчыка І.М.Насовіча, які меў тут у 1875 г. 201 дзес. зямлі. У 1897 г. ў Радамскай вол. Чавускага павета, 30 двароў, 200 жыхароў, у фальварку, што размяшчаўся паблізу, 2 двары, 14 жыхароў, дзейнічала царква. У 1909 г. ў вёсцы 24 двары, 225 жыхароў, у фальварку 1 двор, 2 жыхары. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас, які з 1933 г. абслугоўвала Макрадская МТС. У 1940 г. 55 двароў, 274 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. гітлераўцы спалілі 50 двароў, загубілі 97 жыхароў. У брацкай магіле, што на могілках, пахаваны 30 сав. воінаў, у ліку якіх салдаты і афіцэры 139-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў баях за вызваленне раёна. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла. Пасля вайны адбудавана. У 1961 г. радыёфікавана, у 1962 г. электрыфікавана. У 1990 г. 38 гаспадарак, 88 жыхароў, у складзе саўгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Барышаўка). Размяшчаліся паляводчая брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, быў магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, якую перакрыжоўваюць 3 кароткія вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГЛАДКАВА** — вёска ў Гарбавіцкім с/с, за 27 км на ПнЗ ад Чавусаў, 39 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ р. Раста (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Красніца і далей па шашы Магілёў—Чавусы. 21 гаспадарка, 47 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. У 1667 г. сяло ў Аршанскім павеце ВКЛ, дзярж. ўласнасць, мелася царква. У 1742 г. ва Уланаўскім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета, 7 двароў, дзярж. ўласнасць. Меліся млын, 2 карчмы. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Магілёўскай эканоміі Чавускага павета, 43 двары, 357 жыхароў, дварцовая ўласнасць. У 1834 г. 227 жыхароў, у 1847 г. ў складзе маёнтка Красніца Чавускага павета, 34 двары, 238 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1852 г. 33 двары, 202 жыхары. У 1864 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1889 г. навучаліся 31 хлопчык і 1 дзяўчынка. У 1880 г. 44 двары, 106 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. цэнтр воласці Чавускага павета, 61 двор, 379 жыхароў. Меліся хлебазапасны магазін, крама, драўляная царква (адкрыта не пазней 1880), прыёмны пакой, піцейны дом. Раз у год праводзіўся кірмаш. У царк. сядзібе, што была побач, 4 двары, 13 жыхароў. У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама. У 1909 г. 66 двароў, 454 жыхары. У студз. 1918 г. створаны чырвонагв. атрад. На базе дарэв. адкрыта

прац. школа 1-й ступені, якая размясцілася ў памяшканні былой вал. управы, у 1925 г. было 46 вучняў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1930 г. арганізаваны калгас «Зара Кастрычніка», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 27 гаспадарак, з 1933 г. яго абслугоўвала Гарбавіцкая МТС. Працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 44 воіны 139-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў 1944 г. У 1975 г. пастаўлены помнік. У 1953 г. радыёфікавана, у 1955 г. электрыфікавана. У 1990 г. 50 гаспадарак, 113 жыхароў, у складзе калгаса «Серп і молат» (цэнтр — в. Лёўкаўшчына). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, была 8-гадовая школа. У 2007 г. працаваў магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай працяглай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.


*М.А.Рыжанкоў.*

Радзіма бел. скульптара М.А.Рыжанкова (1932—94).

**ГЛІНІЦКІ** — пасёлак у Цемравіцкім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Чавусаў, 34 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Мсціслаў, якая праходзіць паблізу пасёлка. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

У 1897 г. фальварак у Радамскай вол. Чавускага павета, 3 двары, 29 жыхароў. У 1909 г. 1 двор, 8 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1932 г. арганізаваны калгас, які з 1934 г. абслугоўвала Макрадская МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1954 г. радыёфікаваны, у 1956 г. электрыфікаваны. У 1990 г. 11 гаспадарак, 30 жыхароў, у складзе калгаса «50 гадоў БССР» (цэнтр — в. Сласцёны). Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПнУ на ПдЗ і забудаванай аднабакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГЛІНШЧА** — вёска ў Благавіцкім с/с, за 14 км на Пн ад Чавусаў, 62 км ад Магілёва, 19 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Бася (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Каменка і далей па шашы Магілёў—Чавусы. 6 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

У вёсцы, на правым беразе р. Басі, захаваўся стараж. курганны могільнік (10 насыпаў), за 0,5 км на ПнЗ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Бася — стаянка каменнага веку, за 1 км на Пн ад вёскі, на правым беразе р. Бася — стараж. курган. Гэтыя помнікі археалогіі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 18 ст. У 1785 г. сяльцо ў Чавускім павеце, уласнасць памешчыка ў Ракусаў-Сушчэўскіх, меліся млын, сажалка. Памешчыкі мелі тут у 1866 г. 330 дзес. зямлі, вадзяны млын і сукнавальню. У 1897 г. фальварак у Радамскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 3 двары, 29 жыхароў. У 1909 г. 1 двор, 8 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР. 15.10.1931 г. арганізаваны калгас «Новы шлях», які з 1934 г. абслугоўвала Чавуская МТС. У 1940 г. 30 двароў, 170 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У снеж. 1943 г. гітлераўцы спалілі 6 двароў, загубілі 2 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1954 г. радыёфікавана, у 1956 г. электрыфікавана. У 1990 г. 28 гаспадарак, 58 жыхароў, у складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Каменка). Быў клуб. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай пераважна двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГРАБАЛАВА** — вёска ў Пуцькаўскім с/с, за 26 км на ПнУ ад Чавусаў, 74 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пн і У цячэ р. Волчас (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і



далей па шашы Чавусы—Мсціслаў. 38 гаспадарак, 58 жыхароў (2007).

За 0,7 км на ПнУ ад вёскі, на правым беразе р. Волчас, захаваўся стараж. курганны могільнік — 9 насыпаў, што сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска Грыбалава ў Чэрыкаўскім павеце. У 1858 г. уласнасць памешчыка. У 1909 г. 2 вёскі ў Беліцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ.: у адной — 33 двары, 126 жыхароў, у другой — 11 двароў, 71 жыхар.

З сак. 1924 г. ў БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Праўда», які ў 1932 г. аб'яднаўваў 35 гаспадарак. Працавала кузня. Дзейнічалі школа і пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1940 г. 74 двары, 360 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да канца вер. 1943 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1943 г. гітлераўцы спалілі 69 двароў. Пасля вайны адбудавана. У 1958 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1990 г. 67 гаспадарак, 145 жыхароў, у складзе калгаса «Асінаўскі» (цэнтр — в. Асінаўка). Размяшчаліся паляводчая брыгада, свінагадоўчая ферма, былі клуб, б-ка, магазін. У 2007 г. ў складзе СВК «Калгас «Асінаўскі», працаваў магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, да якой на З далучаецца кароткая дугападобная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд ад сялібнай тэр. — гасп. сектар.

**ГРАЗІВЕЦ** — вёска ў Ваўкавіцкім с/с, за 36 км на ПдЗ ад Чавусаў, 38 км ад Магілёва, 25 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ р. Раста (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Слаўгарад, якая праходзіць праз вёску. 28 гаспадарак, 77 жыхароў.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1604 г. як сяло (11 двароў) у Асавецкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, дзярж. уласнасць. У 1635 г. с. Гразівец, 33 двары, меўся млын. У 1742 г. 19 гаспадарак, меліся шынок і царква. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1880 г. 67 двароў, 374 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1896 г. адкрыта школа, для якой у тым жа годзе пабудаваны будынак. У 1897 г. ў Даўгамохскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 74 двары, 527 жыхароў. Меліся хлебазапасны магазін, царква. У 1909 г. 106 двароў, 675 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені. З сак. 1924 г. ў БССР. 5.5.1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны ўсход», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 33 гаспадаркі, з 1933 г. яго абслугоўвала Расцянская МТС. Працавала кузня. У 1940 г. 120 двароў, 405 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 12.7.1941 г. да 2.12.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліст. 1943 г. гітлераўцы спалілі 93 двары, загубілі 20 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1953 г. радыёфікавана, у 1955 г. электрыфікавана. У 1990 г. 52 гаспадаркі, 112 жыхароў, у складзе калгаса імя Ф.Э. Дзяржынскага (цэнтр — в. Чарэнкі). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, ад абодвух канцоў якіх на У адыходзяць кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На У — гасп. сектар.

Радзіма бел. мовазнаўцы, фалькларыста і этнографа І.І.Насовіча (1788—1877).



*І.І.Насовіч.*

**ДЗЕДНЯ** — вёска ў Жаліўскім с/с, за 23 км на ПнУ ад Чавусаў, 71 км ад Магілёва, 28 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам, на Пд цячэ р. Кашанка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Чавусы—Заложжа. 30 гаспадарак, 38 жыхароў (2007).

У 1858 г. вёска (153 рэвізскія душы) у Чавускім павеце Магілёўскай губ. Мелася карчма. У 1880 г. 53 двары, 431 жыхар. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім, бандарным і кавальскім промысламі. У 1897 г. ў Расненскай вол. Чавускага павета, 95 двароў, 623 жыхары. У пач. 20 ст. адкрыта школа, у якой у 1907 г. навучаліся 52 хлопчыкі і 1 дзяўчынка. У 1909 г. 117 двароў, 721 жыхар. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 85 вучняў. З сак. 1924 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. — цэнтр сельсавета. У 1927 г. адкрыта хата-чытальня. У 1931 г. арганізаваны калгас «7 гадоў без У.І.Леніна». У 1940 г. 122 двары, 501 жыхар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да канца вер. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Пасля вызвалення вёска больш за 7 месяцаў знаходзілася побач з лініяй фронту. У студз. 1944 г. гітлераўцы спалілі ў ёй 120 двароў, загубілі 49 жыхароў. Ураджэнец вёскі Р.І.Цімафеенка быў актыўным удзельнікам падполля ў Гомелі, чл. Гомельскага аператыўнага цэнтра па каардынацыі дзейнасці падп. груп. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, каля будынка школы, пахаваны 48 сав. воінаў і партызан, сярод іх воіны 64-й, 238-й, 330-й стралк. дывізій, якія загінулі ў баях за вызваленне раёна. У 1964 г. пастаўлены помнік. Пасля вайны адбудавана. У 1961 г. электрыфікавана, у 1962 г. радыёфікавана. 87 гаспадарак, 149 жыхароў, у складзе саўгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Барышаўка). Размяшчаліся паляводчая брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, былі 8-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, да якой на Пд далучаецца з У пад вострым вуглом кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры сярод жылой забудовы — грамадскія будынкі.



*Група археолагаў пад кіраўніцтвам прафесара В.Ф.Капыцiна (у цэнтры) у час даследавання стаянкі эпохі мезаліту каля в. Дзедня.*

**ДОЎГІ МОХ** — вёска ў Ваўкавіцкім с/с, за 30 км на ПдЗ ад Чавусаў, 50 км ад Магілёва, 25 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З і Пд цячэ р. Раста (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Слаўгарад, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 64 гаспадаркі, 137 жыхароў (207).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 17 ст. У 1635 г. с. Гарадавец, 26 дымоў, у Асавецкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1742 г. 48 двароў, меліся царква, млын, карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1857 г. сяло ў Быхаўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 162 жыхары мужчынскага полу. У 1872 г. адкрыта школа, для якой у 1895 г. пабудавана памяшканне. У 1880 г. цэнтр воласці Быхаўскага павета, 80 двароў, 513 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся кравецкім і іншымі промысламі. У 1897 г. ў Даўгамохскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 103 двары, 749 жыхароў. Меліся школа (нар. вучылішча), хлебазапасны магазін, 2 крамы, піцейны дом, царква. У 1909 г. 124 двары, 870 жыхароў, былі адкрыты прыёмны пакой, казённая вінная крама, працаваў вадзяны млын. На базе дарэв. пачала дзейнічаць прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 92 вучні. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1924 г. былі адкрыты б-ка і хата-чытальня. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сель-



савета. 22.3.1924 г. засн. с.-г. т-ва, дзейнічала крэдытнае т-ва. У 1931 г. вёска атрымала тэлеф. сувязь. У 1929 г. арганізаваны калгас імя Ф.Э.Дзяржынскага, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 122 гаспадаркі, працавала кузня. З 1933 г. калгас абслугоўвала Расцянская МТС. У 1940 г. 159 двароў, 610 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 12.7.1941 г. да 2.12.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліст. 1943 г. гітлераўцы спалілі 44 двары, загубілі 53 жыхары. У 2 брацкіх магілах (на могілках і на паўд.-ўсх. ускраіне), пахаваны 547 сав. воінаў і 1 партызан, якія загінулі пры вызваленні раёна. У 1975 г. пастаўлены помнікі. У 1990 г. 121 гаспадарка, 237 жыхароў, у складзе калгаса імя Ф.Э. Дзяржынскага (цэнтр — в. Чарэнкі). Размяшчаліся вытв. брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, устаноўка па перапрацоўцы кармоў, былі 8-гадовая школа, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, клуб, б-ка, аддз. сувязі, гандл. цэнтр. Планіроўка прамавугольная. Чатыры вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі з двухбаковай забудовай сядзібнага тыпу злучаны паміж сабой другараднымі. Сярод жылля размешчаны грамадскія будынкі. Вытв. сектар — на ПнЗ.

**ДРАЧКАВА** — вёска ў Цемравіцкім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Чавусаў, 36 км ад Магілёва, 58 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Раста (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Чавусы. 10 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1604 г. як сяло ва Уланаўскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв. Рэчы Паспалітай, дзярж. ўласнасць, 33 жыхары. У 1742 г. 19 двароў, мелася карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. сяло Красніцкага ключа Магілёўскай эканоміі Чавускага павета, дварцовая ўласнасць, 37 двароў, 234 жыхары. У 1834 г. 136 жыхароў, у 1847 г. ў складзе маёнтка Красніца, 27 двароў, 151 жыхар, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Гладкаўскай вол. Чавускага павета, 54 двары, 315 жыхароў. У 1909 г. 58 двароў, 413 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зара», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 14 гаспадарак. З 1933 г. калгас абслугоўвала Паўлаўская МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1953 г. радыёфікавана, у 1955 г. электрыфікавана. У 1990 г. 24 гаспадаркі, 42 жыхары, у складзе калгаса «Перадавік» (цэнтр — в. Васькавічы). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДРОКАЎКА** — вёска ў Прудкоўскім с/с, за 16 км на ПдУ ад Чавусаў, 64 км ад Магілёва, 21 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пн цячэ р. Каменка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Чавусы—Чэрыкаў. 29 гаспадарак, 46 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. У 1635 г. абруб Дракавец у Благавіцкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1742 г. сяло, 29 двароў, меўся млын. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1858 г. 103 рэвізскія душы, уласнасць памешчыка, мелася карчма. У 1880 г. 41 двор, 277 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася стальмашным, бандарным і кавальскім промысламі. У 1897 г. сяло (58 двароў, 485 жыхароў) і хутар (1 двор, 7 жыхароў) у Чавускай вол. Чавускага павета. У 1909 г. 68 двароў, 498 жыхароў. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. З сак. 1924 г. ў БССР. 17.6.1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны баявік», які ў 1936 г. аб'ядноўваў 36 гаспадарак. У 1940 г. 109 двароў, 419 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 3.10.1943 г. акупіравана




ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 97 двароў, загубілі 5 жыхароў. Пасля вайны адбудавана.

У 1990 г. цэнтр калгаса імя У.І.Леніна, 81 гаспадарка, 151 жыхар. У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, машынны двор, працавалі магазін, аддз. сувязі. У 2007 г. дзейнічалі магазін і аддзяленне сувязі. Планіровачна складаецца з 6 прамалінейных, амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных паміж сабой на ПдЗ мясц. дарогай. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вуліца, размешчаная ў цэнтры, забудавана адна- і двухпавярховымі муравнымі жылымі дамамі. Сярод жылой забудовы размешчаны гасп. сектар.

**ДУБАСНІК** — вёска ў Пуцькаўскім с/с, за 3 км на Пн ад Чавусаў, 51 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Заложжа, якая праходзіць праз вёску. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. Памешчык меў тут у 1876 г. 100 дзес. зямлі. У 1897 г. хутар ў Чавускай вол. Чавускага павета, 7 двароў, 38 жыхароў. У 1909 г. 12 двароў, 40 жыхароў.

З сак. 1924 г. ў БССР. 1.10.1929 г. арганізаваны калгас «Юны камунар», які з 1933 г. абслугоўвала Чавуская МТС. У 1940 г. калгас быў удзельнікам усесаюзнай с.-г. выстаўкі. У 1940 г. 24 двары, 133 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. гітлераўцы спалілі 22 двары, загубілі 22 жыхары. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 7 гаспадарак, 10 жыхароў, у складзе калгаса «Юны камунар» (цэнтр — былая в. Забалацце). Традыц. драўляныя сял. сядзібы, пастаўлены абапал кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ.

**ДУБРОЎКА** — пасёлак у Цемравіцкім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Чавусаў, 37 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Раста (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Васькавічы і далей па шашы Магілёў—Чавусы. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. З сак. 1924 г. ў БССР. 3.7.1928 г. арганізаваны калгас «Перадавік», які з 1934 г. абслугоўвала Макрадская МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962 г. электрыфікавана, у 1964 г. радыёфікавана. У 1990 г.12 гаспадарак, 23 жыхары, у складзе калгаса «Перадавік» (цэнтр — в. Васькавічы). Планіроўка лінейная. Вуліца шыротнай арыентацыі з вял. інтэрвалам пасярэдзіне. Забудова сядзібнага тыпу, двухбаковая, драўляная.

**ДУЖАЎКА** — вёска, цэнтр Дужаўскага с/с (з 21.8.1925), за 21 км на Пд ад Чавусаў, 69 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ р. Проня (прыток р. Сож), праз вёску цячэ р. Уліта (прыток р. Проня), на якой утвораны штучны вадаём. Транспартныя сувязі па шашы Слаўгарад—Чавусы, якая праходзіць праз вёску. 95 гаспадарак, 236 жыхароў (2007).

На паўн. ускраіне вёскі, на правым беразе р. Проня, захаваўся стараж. курганны могільнік (3 насыпы), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 18 ст. У 1777 г. в. Дужаўшчызна ў Старабыхаўскім павеце. У 1858 г. 10 двароў, 34 жыхары мужчынскага полу, мелася карчма, уласнасць памешчыка. У 1880 г. в. Дужаўшчына ў Даўгамохскай вол. Быхаўскага павета, 50 двароў, 306 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся адыходным, стальмашным і іншымі промысламі. У 1897 г. 62 двары, 425 жыхароў. Меліся школа граматы, хлебазапасны магазін, вінная крама, піцейны дом. Непадалёку былі яшчэ адна вёска Дужаўшчына (яна ж Камароўка), якая налічвала 10 двароў, 61 жыхара і аднай-



менны фальварак (1 двор, 15 жыхароў). У 1909 г. 82 двары, 528 жыхароў. Былая в. Дужаўшчына (яна ж Камароўка) стала аколіцай, 6 двароў, 38 жыхароў, у фальварку былі 1 двор, 5 жыхароў. У 1910 г. школа граматы пераўтворана ў земскую. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якая размясцілася ў нацыяналізаваным будынку. У 1925 г. ў школе было 80 вучняў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1929 г. арганізаваны калгас імя Ільіча, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 53 гаспадаркі, меў кузню і ваўначоску. У 1931 г. адкрыты дзіцячыя яслі. З 1933 г. калгас абслугоўвала Чавуская МТС. У 1940 г. 78 двароў, 342 жыхары. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 2.12.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У снеж. 1943 г. гітлераўцы спалілі 72 двары, загубілі 20 жыхароў. У 2 брацкіх магілах, што на зах. ускраіне, пахаваны 1561 сав. воін, у 2 брацкіх магілах, што ў цэнтры вёскі, — 248 воінаў 38-га стралк. корпуса 50-й арміі 2-га Бел. фронту, якія загінулі ў баях за вызваленне раёна. У 1954, 1969, 1975 гг. пастаўлены помнікі. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. цэнтр калгаса «Перамога», 95 гаспадарак, 236 жыхароў. Звеннявы па вырошчванні бульбы М.Дз.Дзеруноў за атрыманне высокіх ураджаяў быў удастоены звання Героя Сац. Працы. У вёсцы ў 1990 г. размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, машынны двор, пiларама, установка па перапрацоўцы кармоў, дзейнічалі сярэдняя школа, дзіцячы сад-яслі, клуб, б-ка, амбулаторыя, аптэка, аддз. сувязі, аддз. ашчаднага банка, магазін, аўтаматычная тэлеф. станцыя, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. У 2007 г. сярэдняя школа, дзіцячы сад-яслі, б-ка, аптэка, аддз. сувязі, аддз. АСБ «Беларусбанк», магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1977 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы (адрэзак шашы) амаль мерыдыянальнай арыентацыі, на З ад якой праходзяць 2 кароткія, прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы шыротнай арыентацыі. Да адной з кароткіх вуліц далучаецца з Пд кароткая вуліца мерыдыянальнай арыентацыі. За-



*Краявід каля в. Дужайка.*

будавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На гал. вуліцы, уздоўж шашы размешчаны грамадскія будынкі, а жылую забудову тут складаюць пераважна мураваныя будынкі. На Пд — гасп. сектар.

У склад Дужаўскага с/с уваходзяць 10 населеных пунктаў.

**ЖАЛІЎЕ** — вёска, цэнтр Жаліўскага с/с (з 21.8.1925 да 16.7.1954, з 28.9.1959 да 16.5.1960 і з 25.2.1964), за 14 км на ПнУ ад Чавусаў, 62 км ад Магілёва, 19 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Заложжа, якая праходзіць праз вёску. 20 гаспадарак, 29 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1777 г. сяло ў Чавускім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. цэнтр маёнтка, у Радамскай вол. Чавускага павета Магілёўскага намесніцтва, уласнасць памешчыка, 31 двор, 256 жыхароў. У 1858 г. мелася гандл. плошча. У 1860 г. пабудавана драўляная царква. Памешчыца В.В.Грыневіч мела тут у 1871 г. 635 дзес. зямлі. У 1875 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у 1908 г. пабудавана памяшканне. У 1880 г. 28 двароў, 210 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся шавецкім, кравецкім і іншымі промысламі. У 1897 г. 40 двароў, 256 жыхароў. Меўся хлебазапасны магазін. У школе навучалася 38 хлопчыкаў і 12 дзяўчынак. Непадалёку былі 2 сялібы: у адной 2 двары, 7 жыхароў, у другой 3 двары, 9 жыхароў. У 1909 г. ў сяле 43 двары, 265 жыхароў, у фальварку — 1 двор, 10 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. быў 81 вучань, дзейнічалі хата-чытальня і гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. Працаваў сыраробны з-д. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны ўсход», вёска атрымала тэлеф. сувязь, пачалі дзейнічаць дзіцячыя яслі. У 1940 г. 50 двароў, 210 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1944 г. гітлераўцы спалілі 20 двароў, загубілі 5 жыхароў. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 229 воінаў, у іх ліку воіны 290-й і 330-й стралк. дывізій, якія загінулі ў баях за вызваленне раёна. У 1968 г. на магіле пастаўлены помнік. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 49 гаспадарак, 91 жыхар, у складзе саўгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Барышаўка). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, устаноўка па перапрацоўцы кармоў, сепаратарны пункт, швейная майстэрня, пач. школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, магазін. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой вуліц амаль мерыдыянальнай арыентацыі (адна з'яўляецца часткай шашы), да якіх на Пн далучаецца з ПдУ пад вострым вуглом прамалінейная кароткая вуліца з завулкам. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

У склад Жаліўскага с/с уваходзяць 23 населеныя пункты.

**ЗАБАВА** — пасёлак у Гарбавіцкім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Чавусаў, 36 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Раста). На З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Сталка і далей па шашы Магілёў—Слаўгарад. 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1932 г. арганізаваны калгас, які з 1933 г. абслугоўвала Расцянская МТС. У 1940 г. 27 двароў, 135 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 24 двары, загубілі 7 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1945 г. да пасёлка далучаны пас. Краснае. У 1953 г. радыёфікавана, у 1955 г. электрыфікавана. У 1990 г. 18 гаспадарак, 25 жыхароў, у складзе саўгаса «Хацкавічы» (цэнтр — в. Хацкавічы). Планіровачна



складаецца з 2 кароткіх вуліц амаль шыротнай арыентацыі, размежаваных ручаём. Ад абодвух канцоў паўд. вуліцы адыходзяць на Пд 2 кароткія вуліцы. Забудавана пераважна аднабакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАБАЛАЦЦЕ** — былая вёска ў Чавускім гар. Савеце, за 5 км на ПнЗ ад Чавусаў, 53 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Чавусы.

Вядома паводле пісьмовых крыніц з пач. 17 ст. У 1604 г. сяло ў Пуцькаўскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Рэчы Паспалітай, дзярж. ўласнасць, 16 двароў. У 1742 г. 30 двароў, меліся млын і карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. дварцовая ўласнасць. У 1847 г. ў складзе маёнтка Ялова Чавускага павета, 44 двары, 270 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1852 г. 46 двароў, 246 жыхароў. У 1880 г. 49 двароў, 268 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. ў Чавускай вол. Чавускага павета, 79 двароў, 443 жыхары. У 1909 г. 80 двароў, 435 жыхароў. У 1916 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 68 вучняў, дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 1923 г. дзейнічаў чырвоны куток — філіял Благавіцкай хатычытальні. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. З сак. 1924 г. ў БССР. 1.10.1929 г. арганізаваны калгас. З 1933 г. калгас абслугоўвала Чавуская МТС. У 1930 г. пабудавана кузня, потым — кароўнік, сіласная башня, кармакухня. Дзейнічалі дзіцячыя яслі, гурткі мастацкай самадзейнасці. За поспехі ў развіцці гаспадаркі калгас у 1940 г. быў удзельнікам Усесаюзнай с.-г. выстаўкі. Усе хутары былі пераселены ў вёску. 1940 г. 160 двароў, 430 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. гітлераўцы спалілі 8 двароў, загубілі 16 жыхароў.

У 1990 г. цэнтр калгаса «Юны камунар», 193 гаспадаркі, 432 жыхары. У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, комплекс буйной рагатай жывёлы, свінагадоўчая ферма, машынны двор, піларама, устаноўка па перапрацоўцы кармоў, былі пач. школа, клуб, аддз. сувязі, аддз. ашчаднага банка, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аўтаматычная тэлеф. станцыя, дзіцячы сад-яслі, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, грамадская лазня. У канцы 1990-х г. далучана да Чавусаў. Праект планіроўкі і забудовы быў распрацаваны ў 1977 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачна складалася з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ, да якіх на ПнУ перпендыкулярна падыходзілі 2 кароткія вуліцы. Была забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПдУ новая кароткая вуліца забудоўвалася тыпавымі муравper нымі індывідуальнымі і шматкватэрнымі дамамі. На У асн. вуліцы перасякаліся мясц. дарогай, уздоўж якой былі размешчаны адм.-грамадскія будынкі. На ПнУ знаходзіўся вытв. сектар.

**ЗАБОКА** — пасёлак у Цемравіцкім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Чавусаў, 46 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ПнУ цячэ р. Рэўза (прыток р. Бася). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Цемравічы, Каменка і далей па шашы Магілёў—Чавусы. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Радзіма», які з 1934 г. абслугоўвала Макрадская МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1958 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1990 г. 8 гаспадарак, 13 жыхароў, у складзе калгаса «Зара» (цэнтр —

в. Пілешчына). Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі пастаўлены ўздоўж кароткай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі.

**ЗАГОРАНКА** — вёска ў Антонаўскім с/с, за 8 км на Пд ад Чавусаў, 56 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З мяжуе з лесам. На У цячэ р. Проня (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Галачэва і далей па шашы Магілёў—Чавусы. 9 гаспадарак, 38 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1777 г. в. Загорынка ў Чавускім павеце Магілёўскай губ., у 1785 г. сяльцо, уласнасць памешчыка А.І.Шабекі, які меў у 1878 г. ў вёсках Загоранка і Светазер'е 13 501 дзес. зямлі, 6 харчэвень, 5 вадзяных млыноў і сукнавальню. У 1909 г. ў Чавускай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 10 двароў, 53 жыхары. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1932 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё». Працавала кузня. З 1933 г. калгас абслугоўвала Чавуская МТС. У 1940 г. 49 двароў, 245 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 2 жыхароў. У брацкай магіле, што на могілках, пахаваны 651 воін 38-га стралк. корпуса 50-й арміі 2-га Бел. фронту, якія загінулі ў баях за вызваленне раёна. У 1976 г. пастаўлены помнік. Пасля вайны адбудавана. У 1956 г. радыёфікавана, у 1958 г. электрыфікавана. У 1990 г. 22 гаспадаркі, 59 жыхароў, у складзе калгаса «Пяцігодка» (цэнтр — в. Галачэва). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіроўка Г-падобная. Да вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, далучаецца з ПнЗ кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана пераважна аднабакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАЛЕССЕ** — вёска ў Антонаўскім с/с, за 10 км на ПдЗ ад Чавусаў, 47 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Вілейка (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Чавусы—Слаўгарад. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чавускім павеце Магілёўскай губ., у 1785 г. ў складзе маёнтка Галавенчыцы Чавускага павета, 16 двароў, 96 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 46 рэвізскіх душ. У 1880 г. 16 двароў, 116 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася стальмашным і кравецкім промысламі. У 1897 г. ў Чавускай вол. Чавускага павета, 37 двароў, 213 жыхароў. У 1909 г. 37 двароў, 229 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР. 1.8.1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг», які з 1933 г. абслугоўвала Чавуская МТС. У 1940 г. 60 двароў, 240 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 4 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 23 гаспадаркі, 32 жыхары, у складзе калгаса «Пяцігодка» (цэнтр — в. Галачэва). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАЛОЖЖА** — вёска ў Жаліўскім с/с, за 27 км на Пн ад Чавусаў, 50 км ад Магілёва, 32 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. На У цячэ р. Проня (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Мсціслаў, якая праходзіць праз вёску. 19 двароў, 30 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1737 г. ў вёсцы дзейнічала царква. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай у складзе Рас. імперыі. У 1834 г. 127 жыхароў, у 1850 г. 15 двароў, 139 жыхароў, у складзе маёнтка Радучы ў Чавускім павеце Магілёўскай губ., уласнасць памешчыцы О.Д.Панятоўскай, якая мела ў



1880 г. ў вёсках Заложжа, Радучы і Суслаўка (зараз Дрыбінскі р-н) 2959 дзес. зямлі, 3 вадзяныя млыны і паром. У 1897 г. ў Радамскай вол. Чавускага павета, 26 двароў, 173 жыхары, меўся хлебазапасны магазін. На хутары, які знаходзіўся паблізу, было 2 двары, 10 жыхароў, вадзяны млын, паромная пераправа. У 1909 г. 30 двароў, 190 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР. 8.8.1933 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Беларусь». Працавала кузня. Калгас абслугоўвала Расцянская МТС. У 1940 г. 56 двароў, 224 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 12 жыхароў. У брацкай магіле, што на могілках, пахаваны 651 воін 38-га стралк. корпуса, а ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі — 117 воінаў 32-й, 95-й, 290-й стралк. дывізій, якія загінулі ў баях за вызваленне раёна. У 1970 г. і 1976 г. пастаўлены помнікі. Пасля вайны адбудавана. У 1961 г. радыёфікавана, у 1962 г. электрыфікавана. У 1990 г. 43 двары, 98 жыхароў, у складзе калгаса «Звязда» (цэнтр — в. Радамля). Размяшчаліся паляводчая брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, устаноўка па перапрацоўцы кармоў, магазін. Планіровачна складаецца з 2 вуліц (адна прамалінейная, другая плаўна выгнутая), арыентаваных шыротна, па абодва бакі шашы. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая.

**ЗАРА АЎХІМКАЎСКАЯ** — пасёлак у Благавіцкім с/с, за 13 км на ПнЗ ад Чавусаў, 61 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Каменка і далей па шашы Магілёў—Чэрыкаў. 7 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У кастр. 1928 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зара», які першапачаткова аб'ядноўваў 16 гаспадарак. Мелася кузня. З 1933 г. калгас абслугоўвала Чавуская МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1956 г. радыёфікавана, у 1958 г. электрыфікавана. У 1990 г. 23 гаспадаркі, 46 жыхароў, у складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Каменка). Планіровачна складаецца з 2 кароткіх перакрыжаваных вуліц з традыц. двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ЗАРАЙ** — былы пасёлак у Чавускім гар. савеце, за 8 км на Пн ад Чавусаў, 56 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Чавусы—Заложжа.

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1928 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зара», які з 1933 г. абслугоўвала Чавуская МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. радыёфікаваны, у 1952 г. электрыфікаваны. У 1990 г. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў, у складзе калгаса «Юны камунар» (цэнтр — в. Забалацце). Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі былі пастаўлены ўздоўж кароткай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі.

**ЗАРЭСЦЕ** — былая вёска ў Ваўкавіцкім с/с, за 26 км на ПдЗ ад Чавусаў, 32 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам, на З цячэ р. Раста (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Слаўгарад.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. Памешчык А.А.Адзінцоў меў тут у 1880 г. 472 дзес. зямлі і карчму. У 1882 г. гаспадар маёнтка Э.Я.Бішэўскі меў 1302,5 дзес. зямлі, 2 вадзяныя млыны. У 1897 г. фальварак (18 жыхароў) у Царкоўна-Асавецкай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 1 двор, 5 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. да 13.11.1959 г. цэнтр сельсавета. 1.8.1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг», які абслугоўвала Ваўкавіцкая МТС. Мелася

кузня. У 1940 г. 33 двары, 165 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 12.7.1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліст. 1943 г. гітлераўцы спалілі 31 двор, загубілі 9 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 18 гаспадарак, 31 жыхар, у складзе калгаса «Іскра» (цэнтр — в. Ваўкавічы). Планіровачна складалася з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, да якой з ПдЗ пад вострым вуглом далучалася кароткая прамалінейная вуліца. Была забудавана пераважна аднабакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАРЭЧЧА** — вёска ў Дужаўскім с/с, за 20 км на Пд ад Чавусаў, 68 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У і З мяжуе з лесам. На З цячэ р. Проня (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Кузьмінічы і далей па шашы Слаўгарад—Чавусы. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Парыжская Камуна», які з 1933 г. абслугоўвала Чавуская МТС. Мелася кузня. У 1940 г. 32 двары, 144 жыхары. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы ў чэрв. 1944 г. поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1956 г. радыёфікавана, у 1958 г. электрыфікавана. У 1990 г. 15 гаспадарак, 24 жыхары, у складзе калгаса імя Ільіча (цэнтр — в. Кузьмінічы). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на Пд, да цэнтра якой з ПдЗ далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАХАРПОЛЛЕ** — былая вёска ў Ваўкавіцкім с/с, за 26 км на ПдЗ ад Чавусаў, 32 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З і Пд цячэ р. Раста (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Слаўгарад.

У 1857 г. фальварак у Быхаўскім павеце Магілёўскай губ., уласнасць памешчыка. У 1881 г. гаспадар маёнтка меў тут 445 дзес. зямлі і вадзяны млын. У 1897 г. ў Царкоўна-Асавецкай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 21 жыхар. У 1909 г. ў Грудзінаўскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 1 двор, 6 жыхароў.

У 1920-я г. дзейнічала садова-агародніцкае т-ва. З сак. 1924 г. ў БССР. 1.8.1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг», які з 1933 г. аблугоўвала Расцянская МТС. У 1940 г. 15 двароў, 91 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 12.7.1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліст. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 15 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1962 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1990 г. ў складзе калгаса «Іскра» (цэнтр — в. Ваўкавічы). Планіровачна складалася з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай пераважна аднабакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАШЛЯШША** — пасёлак у Цемравіцкім с/с, за 16 км на ПнЗ ад Чавусаў, 45 км ад Магілёва, 21 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Каменка і далей па шашы Магілёў—Чавусы. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Радзіма», які з 1934 г. абслугоўвала Макрадская МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 20 гаспадарак, 30 жыхароў, у складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Пілешчына). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ і забудаванай двухбакова, няшчыль-



на, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗЯЛЁНАЯ РОШЧА** – вёска ў Антонаўскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Чавусаў, 57 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ПдУ цячэ р. Вілейка (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Слаўгарад. 10 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях. 6.6.1933 г. арганізаваны калгас «Зялёная Рошча», які аб'ядноўваў 20 сямей. Абслугоўвала калгас Чавуская МТС. У 1940 г. 47 двароў, 217 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 49 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1954 г. радыёфікавана, у 1956 г. электрыфікавана. У 1990 г. 39 гаспадарак, 67 жыхароў, у складзе саўгаса «Галавенчыцы» (цэнтр – в. Вусце). Была бальніца. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗЯЛЁНЫ ПРУДОК** – вёска ў Прудкоўскім с/с, за 10 км на ПдУ ад Чавусаў, 58 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ПнУ мяжуе з лесам і цячэ р. Рэкта (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Мсціслаў, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

У 1897 г. вёска ў Чавускай вол. Чавускага павета, 62 двары, 315 жыхароў, меўся вадзяны млын. У 1909 г. 73 двары, 358 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР. 15.10.1931 г. арганізаваны калгас «Пераможац». Дзейнічала камсамольская ячэйка, па ініцыятыве якой была адкрыта хата-чытальня і створаны гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1940 г. 45 двароў, 175 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 3.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1943 г. гітлераўцы спалілі 34 двары. За 1 км на ПнЗ ад вёскі, у лесе, пахаваны 28 чал., у т.л. 9 жанчын і 17 дзяцей — членаў сем'яў партызан, якіх акупанты расстралялі як заложнікаў. У 1985 г. пастаўлены помнік. У брацкай магіле, што на зах. ускраіне, пахаваны 74 сав. воіны, сярод іх воіны 49-й і 385-й стралк. дывізій, якія загінулі ў баях за вызваленне раёна. У 1975 г. пастаўлены помнік. У 1990 г. 13 гаспадарак, 15 жыхароў, у складзе калгаса «Камуніст» (цэнтр — в. Петухоўка). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

Радзіма засл. дзеяча навукі РСФСР, доктара філасофскіх навук, праф. Ф.Т. Канстанцінава (1915–91) і засл. работніка культуры Беларусі Г.Е.Барысава.



*Ф.Т.Канстанцінаў.*

**ІСАКАВА БУДА** — вёска ўВаўкавіцкім с/с, за 35 км на ПдЗ ад Чавусаў, 24 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Будлянка (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Слаўгарад, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 38 гаспадарак, 50 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома ў ВКЛ з пач. 17 ст. У 1604 г. с. Ісакава (14 двароў) у Асавецкім войтаўстве Магілёўскага старостваэканоміі, дзярж. уласнасць. У 1742 г. 15 гаспадарак, мелася карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1858 г. 74 жыхары мужчынскага полу, у Быхаўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 37 двароў, 164 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася адыходным і бандарным промысламі. У 1897 г. ў Царкоўна-Асавецкай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 53 двары, 357 жыхароў. Меліся школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 52 двары, 434 жыхары. У 1913 г. адкрыта земская школа. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 49 вучняў. 6.5.1931 г.

арганізаваны калгас «III Інтэрнацыянал», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 48 гаспадарак, з 1933 г. яго абслугоўвала Чавуская МТС. Мелася кузня. У 1940 г. 87 двароў, 310 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 59 двароў, загубілі 6 жыхароў. У брацкай магіле, што на вясковых могілках, пахаваны 2 воіны 110-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў баі за вызваленне вёскі. У 1976 г. пастаўлены помнік. Пасля вайны адбудавана. У 1953 г. радыёфікавана, у 1954 г. электрыфікавана. У 1990 г. 72 гаспадаркі, 137 жыхароў, у складзе калгаса «Праўда» (цэнтр — в. Бясчынне). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, устаноўка па перапрацоўцы кармоў, былі магазін, аддз. сувязі, клуб. Планіровачна складаецца з 3 паралельных паміж сабой вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных завулкамі, а на Пн — кароткай прамалінейнай вуліцай. Забудавана двухбакова, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі. Гасп. сектар — на ПдУ.

**КАДЗІНА** — вёска ў Гарбавіцкім с/с, за 28 км на ПнЗ ад Чавусаў, 16 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Рудзея (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Чавусы. 17 гаспадарак, 32 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. У 1635 г. сяло ва Уланаўскім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета ВКЛ, дзярж. уласнасць. Меўся млын. У 1742 г. дзейнічала карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. мястэчка, 2 разы ў год праводзіліся невял. кірмашы. У 1834 г. уласнасць памешчыка. У 1840 г. пачала дзейнічаць вінакурня. Памешчык А.Р.Шаціла меў у 1872 г. ў сёлах Кадзіна і Кісялькі 1369 дзес. зямлі, памешчык М.А.Матвееў у сёлах Кадзіна і Мар'інск у 1879 г. меў 303 дзес. зямлі, вадзяны млын і карчму. У 1897 г. ў Гладкаўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай эканоміі, 48 двароў, 284 жыхары. Побач былі аднайменныя карчма (1 двор, 9 жыхароў) і фальварак (1 двор, 8 жыхароў, вадзяны млын). У 1909 г. ў сяле 53 двары, 368 жыхароў, у фальварку 1 двор, 4 жыхары. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Рассвет», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 22 гаспадаркі, з 1933 г. абслугоўваўся Расцянскай МТС. Мелася кузня. У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1953 г. радыёфікавана, у 1955 г. электрыфікавана. Маецца тэлеф. сувязь. У 1990 г. 32 гаспадаркі, 51 жыхар, у складзе калгаса «Серп і молат» (цэнтр — в. Лёўкаўшчына). У 2007 г. дзейнічалі б-ка, магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і забудаваных двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАЛАСОЎШЧЫНА** — вёска ў Благавіцкім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Чавусаў, 34 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд і З цячэ р. Плясна (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Благавічы і далей па шашы Магілёў—Чавусы. 12 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. З сак. 1924 г. ў БССР. 5.5.1931 г. арганізаваны калгас «1 Мая», які з 1933 г. абслугоўвала Чавуская МТС. У 1940 г. 46 двароў, 230 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 10.7.1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліст. 1943 г. гітлераўцы спалілі 5 двароў, загубілі 5 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1956 г. радыёфікавана, у 1958 г. электрыфікавана. У 1990 г. 29 гаспадарак, 51 жыхар, у складзе калгаса «Святло Кастрычніка» (цэнтр — в. Благавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, якая перасечана пад прамым вуглом 3 кароткімі прамалі-



нейнымі вуліцамі. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**КАЛЯСЯНКА** — вёска ў Жаліўскім с/с, за 19 км на Пн ад Чавусаў, 67 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ПдЗ цячэ р. Радуча (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Заложжа, якая праходзіць паблізу вёскі. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

У 1857 г. вёска ў Чавускім павеце, уласнасць памешчыка. У 1858 г. ў Чавускім павеце Магілёўскай губ., 36 рэвізскіх душ, уласнасць памешчыка Ф.Л.Радкевіча, які меў тут у гэты час 426 дзес. зямлі. У 1860 г. 15 двароў, 92 жыхары, у складзе аднайменнага маёнтка. У 1897 г. ў Радамскай вол. Чавускага павета, 18 двароў, 139 жыхароў. Непадалёку быў фальварак (3 двары, 12 жыхароў). У 1909 г. 20 двароў, 133 жыхары. Вясковец С.Н.Гусеў у 1917 г. служыў матросам на крэйсеры «Аўрора», потым актыўна змагаўся за ўмацаванне сав. улады, удзельнічаў у баях супраць ням.-фаш. захопнікаў, з 1940 г. чл. Саюза пісьменнікаў СССР. З сак. 1924 г. вёска ў БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас імя газ. «Калгаснік Беларусі». Мелася кузня. З 1933 г. калгас абслугоўвала Макрадская МТС. У 1940 г. 26 двароў, 107 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. гітлераўцы спалілі 24 двары, загубілі 10 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 22 гаспадаркі, 36 жыхароў, у складзе калгаса «Звязда» (цэнтр — в. Радамля). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы і ўстаноўка па перапрацоўцы кармоў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы шыротнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі. На Пн адасоблены ўчастак забудовы.

Радзіма Героя Сав. Саюза, камандзіра роты асобнага разведвальнага батальёна, старшага лейтэнанта А.Р.Целешава (1906—1940), які вызначыўся ў сав.-фінляндскую вайну 1939—40 гг. у час разведкі боем агнявой сістэмы праціўніка ў раёне мыса Патаніем на Ладажскім возеры.



*А.Р.Целешаў.*

**КАМЕНКА** — вёска ў Благавіцкім с/с, за 9 км на ПнЗ ад Чавусаў, 48 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, месцамі складанаперасечаны. Праз вёску цячэ р. Рэўза (прыток р. Бася). У цэнтры на ёй утвораны штучны вадаём. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Чавусы. 148 гаспадарак, 414 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома ў ВКЛ з 1604 г. як сяло ў Пуцькаўскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць, 23 двары, меўся млын. У 1742 г. в. Галачоўка (яна ж Каменка) у Благавіцкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., 8 двароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. ў Чавускім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. 29 двароў, 268 жыхароў, дзярж. ўласнасць. У 1857 г. вёска, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 34 двары, 152 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася шавецкім і стальмашным промысламі. У 1897 г. сяло (42 двары, 287 жыхароў), карчма (1 двор, 8 жыхароў) у Гладкаўскай вол. Чавускага павета. У 1-ю рус. рэвалюцыю сяляне 30.12.1905 г. пра-

*Аграгарадок Каменка.*



вялі высечку памешчыцкага лесу і аказалі супраціўленне адміністрацыі маёнтка. У 1909 г. ў вёсцы 48 двароў, 339 жыхароў, у засценку — 1 двор, 5 жыхароў. У 1913 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 54 вучні. З сак. 1924 г. ў БССР. 5.5.1931 г. арганізаваны калгас «Новы свет», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 8 гаспадарак, меў кузню. З 1934 г. калгас абслугоўвала Макрадская МТС. У 1940 г. 58 двароў, 230 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 22.7.1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліст. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 2 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1945 г. да вёскі далучаны пас. Каменскі Шлях. У 1990 г. цэнтр калгаса «Ленінскі шлях», 123 гаспадаркі, 394 жыхары. У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, піларама, машынны двор, 2 устаноўкі па перапрацоўцы кармоў, млын, цэх па вырабе тавараў шырокага спажывання. У 2000-я г. на базе вёскі створаны аграгарадок. У 2007 г. дзейнічалі пач. школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад-яслі, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, магазін, грамадская лазня, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1975 г. Магілёўскім філіялам ін-та «Белдзяржпраект». Планіровачна складаецца з 2 частак: паўн.-ўсх. (2 узаемна перпендыкулярныя вуліцы, адна з якіх выцягнута ўздоўж вадаёма, забудаваныя традыц. драўлянымі сял. сядзібамі) і паўд.-зах. (да працяглай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, далучаецца ў цэнтры з ПнУ прамалінейная вуліца, забудаваная пераважна муравнымі адна- і двухпавярховымі жылымі дамамі — шматкватэрнымі і тыпу катэджаў з кватэрамі ў 2 узроўнях). У паўд.-зах. частцы размешчаны адм.-грамадскія будынкі. Вытв. сектар — на У.

**КАМЕНКА** — вёска ў Пуцькаўскім с/с, за 15 км на У ад Чавусаў, 63 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. На Пд цячэ р. Каменка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Мсціслаў, якая праходзіць паблізу вёскі. 10 гаспадарак, 21 жыхар (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 17 ст. У 1604 г. сяло (23 двары, вадзяны млын) у Пуцькаўскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета. У 1635 г. 44 двары, дзярж. ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. 20 двароў, 116 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1834 г. 136 жыхароў, у 1847 г. 33 двары, 194 жыхары, у складзе маёнтка Ялова ў Чавускім павеце Магілёўскай губ. У 1897 г. ў Чавускай вол. Чавускага павета, 33 двары, 236 жыхароў, у 1909 г. 36 двароў, 254 жыхары. Дзейнічала школа граматы. З сак. 1924 г. ў БССР. 1.7.1929 г. арганізаваны калгас імя КІМ. Мелася кузня. У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да канца вер. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Пасля вайны адбудавана. У 1958 г. радыёфікавана, у 1962 г. электрыфікавана. У 1990 г. 32 гаспадаркі, 67 жыхароў, у складзе саўгаса «Чавускі» (цэнтр — в. Пуцькі). Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАПАНІ** — вёска ў Вайнілаўскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Чавусаў, 35 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Вёска перасечана 2 ручаямі, якія злучаны на З з р. Раста (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ваўкавічы і далей па шашы Магілёў—Слаўгарад. 51 гаспадарка, 80 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1560 г. ў сувязі з правядзеннем агр. рэформы (рэвізіі) як с. Капаневічы (4 дымы) у Магілёўскай вол. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1563 г. с. Капанічы аддадзена ў часовае валоданне шляхціцу. У 1604



г. ў Асавецкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., 8 двароў, дзярж. уласнасць. У 1742 г. 33 двары, дзярж. уласнасць, мелася карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1880 г. 71 двор, 397 жыхароў. Апрача земляробства сяльчане займаліся адыходным і кушнерскім промысламі. У 1897 г. ў Даўгамохскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 94 двары, 647 жыхароў. Меліся школа граматы, хлебазапасны магазін, піцейны дом. У 1909 г. 108 двароў, 675 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР. 24.3.1934 г. арганізаваны калгас «Другая пяцігодка», які абслугоўвала Чавуская МТС. Мелася кузня. У 1940 г. 183 двары, 720 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 10.7.1941 г. да 25.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліст. 1943 г. гітлераўцы спалілі 171 двор, загубілі 25 жыхароў. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 13 воінаў 385-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў баях за вызваленне раёна. У 1976 г. пастаўлены помнік. У 1990 г. 144 гаспадаркі, 210 жыхароў, у складзе племсаўгаса імя XVIII партз'езда (цэнтр — в. Вайнілы). Размяшчаліся вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы, былі сярэдняя школа, клуб, б-ка, магазін. У 2007 г. працаваў магазін. Ад мясц. дарогі Астравы—Навасёлкі на ПнЗ адыходзяць 2 прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы, злучаныя завулкамі, на Пн — кароткай прамалінейнай вуліцай. На ПдУ ад дарогі адыходзяць 2 прамалінейныя вуліцы (адна працяглая, другая кароткая). Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне — сад і гасп. сектар.

**КАРАЛЁЎКА** — вёска ў Цемравіцкім с/с, за 25 км на Пн ад Чавусаў, 46 км ад Магілёва, 30 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Вёску перасякае ручай (прыток р. Радуча). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Мсціслаў. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1743 г. сяло ў Аршанскім павеце ВКЛ, частка якога належала віленскім езуітам. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1834 г. 85 жыхароў, у 1850 г. ў складзе маёнтка Радучы ў Чавускім павеце, 13 двароў, 90 жыхароў, уласнасць памешчыка. Частка сяльчан займалася бандарным промыслам. У 1897 г. ў Радамскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 14 двароў, 81 жыхар. Непадалёку быў аднайменны пасёлак, 15 двароў, 68 жыхароў. У 1909 г. ў сяле 15 двароў, 95 жыхароў, у пасёлку — 11 двароў, 75 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны ўдарнік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 15 гаспадарак, з 1933 г. абслугоўваўся Паўлаўскай МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 13 гаспадарак, 18 жыхароў, у складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Пілешчына). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, забудаваных двухбакова, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**КІРКОРЫ** — вёска ў Цемравіцкім с/с, за 28 км на ПнЗ ад Чавусаў, 36 км ад Магілёва, 38 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ ручай (прыток р. Бася). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Мсціслаў. 22 гаспадаркі, 44 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1742 г. сяло (20 двароў) ва Уланаўскім войтаўстве Магілёўскай эканоміі, дзярж. уласнасць. Меліся млын, царква. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў складзе маёнтка Селішча Чавускага павета, 40 двароў, 266 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1860 г. с. Кіркораўка, цэнтр маёнтка. У 1897 г. ў Гладкаўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 70 двароў, 488 жыхароў, мелася школа граматы. У 1909 г. 78 двароў, 572 жыхары. У 1920 г.





адкрыта школа, у якой у 1925 г. быў 31 вучань. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1928 г. дзейнічала сыраробчая арцель. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік», які меў кузню, з 1933 г. абслугоўваўся Паўлаўскай МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што на вясковых могілках, пахаваны 14 воінаў 199-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў 1944 г. ў баях на р. Проня. У 1945 г. пастаўлены помнік. У 1958 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1990 г. 48 гаспадарак, 104 жыхары, у складзе калгаса «50 гадоў БССР» (цэнтр — в. Сласцёны). Размяшчаліся вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы, былі пач. школа і магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, ад якой на ПдЗ адыходзяць 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд — гасп. сектар.

**КЛЮЧ** — вёска ў Прудкоўскім с/с, за 12 км на Пд ад Чавусаў, 60 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ р. Проня (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Чавусы—Чэрыкаў. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. У 1635 г. абруб у Благавіцкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1742 г. 2 двары. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. вёска ў Чавускім павеце, 19 двароў, 114 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 46 рэвізскіх душ. У 1880 г. 19 двароў, 130 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася шавецкім промыслам. У 1897 г. ў Чавускай вол. Чавускага павета, 31 двор, 113 жыхароў. У 1908 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1909 г. 34 двары, 220 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 42 вучні. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны артылерыст», які з 1933 г. абслугоўвала Чавуская МТС. У 1940 г. 48 двароў, 168 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 3.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1956 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1990 г. 19 гаспадарак, 28 жыхароў, у складзе калгаса «Камуніст» (цэнтр — в. Петухоўка). Размяшчалася паляводчая брыгада, быў магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай пераважна двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КОНАНАЎКА** — вёска ў Дужаўскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Чавусаў, 52 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Рудзея (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Чавусы—Слаўгарад. 9 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1743 г. сяло, у Аршанскім павеце ВКЛ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. с. Кононава ў Старабыхаўскім павеце. У 1858 г. ў Быхаўскім павеце, 13 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыкаў В.Д.Зубовіч і П.Д.Кашко, якія ў 1855 г. мелі тут 147 дзес. зямлі. У 1880 г. 8 двароў, 21 жыхар. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1909 г. вёскі Конанаўка 1 (7 двароў, 46 жыхароў) і Конанаўка 2 (7 двароў, 38 жыхароў), у Даўгамохскай вол. Быхаўскага павета. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1929 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 30 гаспадарак. Мелася кузня. У 1940 г. 42 двары, 189 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 33 жыхары. Пасля вайны



адбудавана. У 1990 г. 23 гаспадаркі, 44 жыхары, у складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Дужаўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**КРАСНАЯ БУДА** — вёска ў Антонаўскім с/с, за 12 км на З ад Чавусаў. 59 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Слаўгарад, якая праходзіць паблізу вёскі. 8 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

У 1897 г. вёска, 11 двароў, 90 жыхароў, у 1909 г. 12 двароў, 87 жыхароў, у Чавускай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ. З сак. 1924 г. ў БССР. 1.11.1930 г. арганізаваны калгас «Новая дружба». У 1940 г. 23 двары, 161 жыхар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 25 жыхароў. У брацкай магіле, што за 2 км на Пд ад вёскі, і 2 брацкіх магілах, што на вясковых могілках, пахаваны 214 воінаў, у іх ліку воіны 38-га стралк. корпуса 50-й арміі 2-га Бел. фронту, якія загінулі ў 1944 г. ў баях за вызваленне раёна. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 19 гаспадарак, 36 жыхароў, у складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Антонаўка). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы, быў магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**КРАСНАЯРСК** — былы пасёлак у Ваўкавіцкім с/с, за 26 км на ПдЗ ад Чавусаў, 34 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Ржаўка (прыток р. Будлянка). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Слаўгарад.

Засн. ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1932 г. арганізаваны калгас, які з 1933 г. абслугоўвала Расцянская МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1962 г. быў радыёфікаваны, у 1964 г. электрыфікаваны. У 1990 г. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў, у складзе калгаса «Іскра» (цэнтр — в. Ваўкавічы). Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі былі пастаўлены ўздоўж прасёлачнай дарогі.

**КРАСНІЦА** — вёска ў Гарбавіцкім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Чавусаў, 28 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Раста (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Чавусы. 33 гаспадаркі, 63 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1604 г. як с. Краснае, 20 двароў, ва Уланаўскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета ВКЛ, дзярж. уласнасць. У 1635 г. мелася царква. У 1742 г. ў Асавецкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі, 34 двары, мелася карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1816 г. ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ., 35 двароў, 183 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1847 г. ў фальварку, які знаходзіўся побач з сялом, 16 двароў, 43 жыхары, цэнтр маёнтка, уласнасць памешчыкаў Макавецкіх, якія мелі ў 1868 г. ў вёсках Красніца, Прудок і Лёўкаўшчына 4045 дзес. зямлі, 5 харчэвень, 2 вадзяныя млыны. Дзейнічалі вінакурня, карчма і кузня. У 1897 г. сяло (31 двор, 297 жыхароў) і карчма (3 двары, 20 жыхароў) у Гладкаўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ. Меліся вадзяны млын і крама. У 1909 г. 44 двары, 298 жыхароў. Сав. ўлада ўстаноўлена ў снеж. 1917 г. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1930 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 58 гаспадарак, з 1933 г. абслугоўвала Гарбавіцкая МТС. Працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што на вясковых могілках, пахавана

39 воінаў, сярод іх воіны 238-й і 369-й стралк. дывізій, якія загінулі ў баях за вызваленне раёна. У 1975 г. пастаўлены помнік. У 1952 г. ўступіў у строй радыёвузел, вёска была радыёфікавана, у 1955 г. электрыфікавана. У 1990 г. 65 гаспадарак, 123 жыхары, у складзе калгаса «Серп і молат» (цэнтр — в. Лёўкаўшчына). Размяшчаліся вытв. брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, быў клуб. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой вуліц амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаваных двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПнУ — гасп. сектар.

**КРОТКІ** — вёска ў Пуцькаўскім с/с, за 28 км на ПнУ ад Чавусаў, 76 км ад Магілёва, 33 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на У, Пн і З мяжуе з лесам. На Пн цячэ р. Кашанка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Асінаўка і далей па шашы Чавусы—Мсціслаў. 14 гаспадарак, 19 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. У 1667 г. сяло ў Аршанскім павеце ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1858 г. сяло з'яўлялася ўласнасцю памешчыцы Р.В.Пячкоўскай, якая тут мела ў 1879 г. 168 дзес. зямлі. У 1897 г. ў Доўгавіцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 34 двары, 223 жыхары. У 1909 г. ў сяле 40 двароў, 244 жыхары, у фальварку 1 двор, 7 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР. У хуткім часе была адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. навучаліся 33 хлопчыкі і дзяўчынкі. У 1932 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 81 двор, 380 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да канца вер. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1943 г. гітлераўцы спалілі 75 двароў, загубілі 3 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1959 г. радыёфікавана, у 1962 г. электрыфікавана. У 1990 г. 48 гаспадарак, 93 жыхары, у складзе саўгаса «Асінаўскі» (цэнтр — в. Асінаўка). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, быў магазін. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на ПнЗ далучаецца прамалінейная вуліца такой жа арыентацыі з завулкам. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КУЗЬМІНІЧЫ** — вёска ў Дужаўскім с/с, за 15 км на Пд ад Чавусаў, 63 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З і Пд цячэ р. Глодаўка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Слаўгарад—Чавусы, якая праходзіць праз вёску. 100 гаспадарак, 211 жыхароў (2007).

За 1 км на У ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Проня захавалася стараж. стаянка. Тут жа знаходзіцца паселішча ранняга жал. веку і эпохі Кіеўскай Русі. На Пн ад гэтых помнікаў захаваўся курганны могільнік (22 насыпы). Гэтыя помнікі археалогіі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1560 г. як сяло ў Магілёўскай вол. ВКЛ, дзярж. ўласнасць, 7 дымоў. У 1563 г. перададзена ў часовае валоданне шляхціцу, у 1580 г. — у пажыццёвае валоданне памешчыку. У 1604 г. ў Чавускім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць, 35 двароў. У 1742 г. ў Благавіцкім войтаўстве, 31 двор. Меліся царква, карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1880 г. ў Даўгамохскай вол. Быхаўскага павета, 59 двароў, 384 жыхары. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся кавальскім, бандарным, сталярным, кравецкім і іншымі промысламі, вырабам розных быт. рэчаў з лыка і кары. У 1897 г. ў сяле 81 двор, 586 жыхароў, у выселку, што быў непадалёку, 18 двароў, 105 жыхароў. Дзейнічала земская школа. У 1909 г. ў сяле 106 двароў, 714 жыхароў, у выселку 22 двары, 106 жыхароў. Меўся ветраны млын. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, для якой у 1924 г. па-



будавана памяшканне, у 1925 г. былі 93 вучні. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Герой Працы», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 38 гаспадарак, мелася кузня. Крыху пазней арганізаваны другі калгас — імя О.Ю.Шміта. З 1933 г. калгасы абслугоўвала Чавуская МТС. У 1940 г. 153 двары, 1071 жыхар. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 2.12.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У снеж. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 145 жыхароў. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 1675 воінаў 110-й, 369-й і 385-й стралк. дывізій, якія загінулі ў 1943—44 гг. У 1990 г. цэнтр калгаса імя Ільіча, 143 гаспадаркі, 333 жыхары. У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, машынны двор, піларама, 2 устаноўкі па перапрацоўцы кармоў, былі пач. школа, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, клуб, б-ка, аддз. сувязі, магазін, грамадская лазня. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1985 г. ін-там «Белкалгаспраект». Аснову планіровачнай структуры складае працяглая вуліца (адрэзак шашы), арыентаваная з ПдУ на ПнЗ і забудаваная традыц. драўлянымі сял. сядзібамі. Яшчэ адна вуліца з аднабаковай забудовай сядзібнага тыпу ідзе на ПнУ да гал. Сярод жылля размешчаны грамадскія будынкі. На паўн. ускраіне склалася новая вуліца, забудаваная мураванымі дамамі тыпу катэджаў. Побач з ёю — гасп. сектар.

Радзіма Героя Сав. Саюза С.І.Чубукова (1907—83), які вызначыўся ў Вял. Айч. вайну ў час Курскай бітвы ў ліп. 1943 г., бел. вучонага ў галіне акушэрства і гінекалогіі, доктара мед. навук, праф. І.А.Макаранкі.

**КУТНЯ** — вёска ў Ваўкавіцкім с/с, за 28 км на ПдЗ ад Чавусаў, 24 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З і Пд цячэ р. Чарняўка (прыток р. Ржаўка). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Слаўгарад, якая ідзе праз вёску. 52 гаспадаркі, 108 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1604 г. як сяло (29 двароў) у Асавецкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. уласнасць. У 1635 г. 40 двароў, дзейнічаў млын, у 1742 г. 32 двары, драўляная царква, млын, карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1858 г. ў Быхаўскім павеце, 73 жыхары мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. Мелася гандл. плошча, на якой праводзіліся кірмашы. У 1863 г. адкрыта школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1880 г. 34 двары, 146 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім і сталярным промысламі. У 1897 г. ў Царк.-асавецкай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 51 двор, 360 жыхароў. У 1909 г. 53 двары, 417 жыхароў, дзейнічала казённая вінная крама. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 44 вучні, дзейнічаў драматычны гурток. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас імя В.М.Молатава, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 18 гаспадарак, з 1933 г. яго абслугоўвала Чавуская МТС. Працавалі 2 кузні. У 1940 г. 115 двароў, 410 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 40 двароў, загубілі 16 жыхароў. У 2 брацкіх магілах, што на вясковых могілках, пахаваны 14 воінаў 139-й і 330-й стралк. дывізій, якія загінулі ў 1944 г. ў баях за вызваленне раёна. У 1953 г. радыёфікавана, у 1954 г. электрыфікавана. У 1972 г. і 1975 г. на магілах пастаўлены помнікі. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 91 гаспадарка, 181 жыхар, у складзе калгаса «Праўда» (цэнтр — в. Бясчынне). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы, былі пач. школа, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін. У 2007 г. дзейнічаў магазін. Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы (адрэзак шашы), арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц.



*С.І.Чубукоў.*



*І.А.Макаранка.*

драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. На паўн.-зах. ускраіне — гасп. сектар.

**ЛАПЕНІ** — вёска ў Антонаўскім с/с, за 9 км на ПдЗ ад Чавусаў, 45 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Чарнушка (прыток р. Вілейка). Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Слаўгарад, якая праходзіць каля вёскі. 13 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1604 г. як сяло ў Чавускім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. уласнасць, у часовым валоданні шляхціца. У 1635 г. абруб у Благавіцкім войтаўстве, дзярж. уласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. уласнасць памешчыка, 18 двароў, 136 жыхароў. У 1858 г. мелася карчма. У 1880 г. 30 двароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся ганчарным і іншымі промысламі. У 1897 г. ў Чавускай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 32 двары, 208 жыхароў. У 1909 г. 30 двароў, 212 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1929 г. арганізаваны калгас імя Ю.Мархлеўскага. У хуткім часе былі адкрыты дзіцячыя яслі. У 1940 г. 56 двароў, 373 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліст. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 34 жыхары. За 2 км на У ад вёскі, у лесе, у брацкай магіле пахаваны 551 воін 38-га стралк. корпуса 50-й арміі 2-га Бел. фронту, якія загінулі ў 1944 г. ў баях за вызваленне раёна. У 1975 г. пастаўлены помнік. У 1990 г. 25 гаспадарак, 45 жыхароў, у складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Антонаўка). Размяшчаліся свінагадоўчы комплекс і ферма буйной рагатай жывёлы, быў магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛЁЎКАЎШЧЫНА** — вёска ў Гарбавіцкім с/с, за 27 км на ПнЗ ад Чавусаў, 19 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ ручай Ільменка (прыток р. Рудзея). На Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Чавусы. 64 гаспадаркі, 150 жыхароў (2007).

Памешчыкі Макавецкія мелі ў 1868 г. ў вёсках Лёўкаўшчына, Красніца і Прудок 4045 дзес. зямлі, 5 харчэвень і 2 вадзяныя млыны. У 1897 г. вёска ў Гладкаўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 21 двор, 193 жыхары. У пач. 20 ст. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1907 г. навучалася 27 хлопчыкаў і 15 дзяўчынак. У 1909 г. 28 двароў, 196 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1930 г. арганізаваны калгас «Шлях сацыялізму», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 12 гаспадарак, меў кузню. З 1933 г. калгас абслугоўвала Расцянская МТС. У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. На ўшанаванне памяці 152 землякоў, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у 1964 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. У 1951 г. ўступіў у строй радыёвузел, вёска была радыёфікавана, крыху пазней электрыфікавана. У 1990 г. цэнтр калгаса «Серп і молат», 76 гаспадарак, 184 жыхары. У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, машынны двор, піларама, ветэрынарны ўчастак, устаноўка па перапрацоўцы кармоў. У 2007 г. дзейнічалі пач. школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, магазін, аўтаматычная тэлеф. станцыя, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1976 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ і ПнУ абапал ручая, і забудаваных пераважна двухбакова, традыц.



драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПдУ ад гэтых вуліц адыходзяць перпендыкулярна 3 кароткія прамалінейныя вуліцы, злучаныя завулкамі. Адна з гэтых вуліц новая, забудавана муравацымі дамамі тыпу катэджаў. У цэнтры, сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі. Гасп. сектар — на паўн.-ўсх. і паўд.-ўсх. ускраінах.

**ЛУЖОК** — вёска ў Вайналіўскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Чавусаў, 33 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. На З цячэ р. Раста (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вайнілы і далей па шашы Магілёў—Чавусы. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1785 г. вёска (2 двары, 27 жыхароў) у Чавускім павеце, шляхецкая ўласнасць, меўся млын. У 1816 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 12 двароў, 94 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Галянёўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 12 двароў, 78 жыхароў. У 1909 г. 12 двароў, 90 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны араты», які з 1933 г. абслугоўвала Чавуская МТС. Мелася кузня. У Вял. Айч. вайну з 10.7.1941 г. да 25.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што на вясковых могілках, пахаваны 12 сав. воінаў, у ліку якіх воіны 385-й стралк. дывізіі, што загінулі ў баях за вызваленне раёна. У 1975 г. пастаўлены помнік. У 1990 г. 12 гаспадарак, 24 жыхары, у складзе племсаўгаса імя XVIII партз'езда (цэнтр — в. Вайнілы). Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі пастаўлены ўздоўж кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ.

**ЛУЦШЧА** — вёска ў Пуцькаўскім с/с, за 22 км на У ад Чавусаў, 70 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З, Пн і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Чавусы—Мсціслаў. 12 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. У 1816 г. сяло ў Чэрыкаўскім павеце, 15 двароў, 50 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1858 г. ў Копыскім павеце, 14 двароў, 78 жыхароў, уласнасць памешчыка. З сак. 1924 г. ў БССР. 12.5.1933 г. арганізаваны калгас імя 2-й пяцігодкі. У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да кастр. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1990 г. 12 гаспадарак, 16 жыхароў, у складзе саўгаса «Асінаўскі» (цэнтр — в. Асінаўка). Планіровачна складаецца з вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЛЮБАВІНА** — былая вёска ў Вайнілаўскім с/с, за 17 км на ПдЗ ад Чавусаў, 28 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Раста (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вайнілы і далей па шашы Магілёў—Чавусы.

У 1897 г. аколіца ў Галянёўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 21 двор, 136 жыхароў. У 1909 г. вёска, 21 двор, 105 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1930 г. адкрыта пач. школа і арганізаваны калгас «Запаветы Ільіча». Мелася кузня. З 1933 г. калгас абслугоўвала Расцянская МТС. У 1940 г. 34 двары, 164 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 10.7.1941 г. да 25.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліст. 1943 г. гітлераўцы спалілі 32 двары, загубілі 14 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1952 г. была радыёфікавана, у 1954 г. электрыфікавана. У 1990 г. 8 гаспадарак, 14 жыхароў, у складзе саўгаса «Племзавод імя XVIII партз'езда» (цэнтр — в. Вайнілы). У 1999 г. 2 гаспадаркі, 5 жыхароў. Планіровачна складалася з кароткай прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай





двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі.

**ЛЯХАЎШЧЫНА** — вёска ў Прудкоўскім с/с, за 12 км на ПдУ ад Чавусаў, 60 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, вакол лес. Праз вёску цячэ р. Сіняўка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Чэрыкаў, якая праходзіць паблізу вёскі. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1777 г. в. Ліхаўшчына ў Чавускім павеце Магілёўскай губ., у 1785 г. сяльцо, цэнтр маёнтка Чавускага павета Магілёўскага намесніцтва, 6 двароў, 54 жыхары, уласнасць памешчыцы Л.А.Кржысевіч, меліся млын, сажалка. Памешчыца мела тут у 1852 г. 1271 дзес. зямлі, карчму і вадзяны млын. У 1860 г. ў Чавускай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 20 двароў, 142 жыхары. У 1918 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне, у 1925 г. было 50 вучняў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1932 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава, у які ўваходзіла 61 гаспадарка, 446,6 га зямлі, дзейнічала кузня. З 1933 г. калгас абслугоўвала Чавуская МТС. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 3.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1956 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1990 г. 32 гаспадаркі, 60 жыхароў, у складзе калгаса «Камуніст» (цэнтр — в. Дрокаўка). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з ПнУ далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.



*В.М.Еўдакімаў.*

Радзіма ген.-маёра В.М.Еўдакімава (нар. ў 1931).

**МАКРАДКА** — вёска ў Цемравіцкім с/с, за 22 км на Пн ад Чавусаў, 48 км ад Магілёва, 27 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ ручай (прыток р. Бася). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Мсціслаў. 12 гаспадарак, 26 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1777 г. с. Макрэйка ў Чавускім павеце. У 1858 г. ў складзе маёнтка Радучы ў Чавускім павеце, 61 рэвізская душа. Меўся млын. У 1860 г. 10 двароў, 56 жыхароў, цэнтр маёнтка, уласнасць памешчыка І.М.Бардзілоўскага, які меў тут у 1872 г. 169 дзес. зямлі. Дзейнічала драўляная царква (адкрыта не пазней 1880). У 1884 г. адкрыта царк.-прыходская школа. У 1897 г. сяло ў Радамскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 7 двароў, 33 жыхары. У другім аднайменным сяле, якое знаходзілася побач, было 13 двароў, 74 жыхары. Непадалёку размяшчаліся таксама сядзіба царк. служыцеляў (3 двары, 10 жыхароў), прыватная сядзіба (2 двары, 6 жыхароў) і в. Макрадка (32 двары, 220 жыхароў, вадзяны млын). У 1909 г. ў сяле, утвораным з 2 ранейшых сёл, было 18 двароў, 118 жыхароў, у вёсцы — 40 двароў, 218 жыхароў. За 2,5 км ад вёскі быў акалотак з той жа назвай (6 двароў, 35 жыхароў). На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якая размясцілася ў нацыяналізаваным будынку, у 1925 г. было 80 вучняў, дзейнічалі б-ка і хата-чытальня. З сак. 1924 г. ў БССР. З 21.8.1925 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. У 1931 г. арганізаваны калгас «1 Мая», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 28 гаспадарак. У 1931 г. вёска атрымала тэлеф. сувязь, былі адкрыты дзіцячыя яслі. У 1934 г. створана МТС (рэарганізавана 31.3.1958), у якой у 1938 г. было 15 трактароў і іншая тэхніка. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 27 гаспадарак, 49 жыхароў, у складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Пілешчына). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнУ на ПдЗ. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая.

**МАЛЫ ГРАЗІВЕЦ** — вёска ў Ваўкавіцкім с/с, за 34 км на ПдЗ ад Чавусаў, 36 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Раста



на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Будлянка (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Слаўгарад, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 6 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

Узнікла ў 1920-я г. ў выніку падзелу в. Гразівец на дзве: Вялікі Гразівец і Малы Гразівец. У 1931 г. арганізаваны калгас імя В.М.Молатава (у 1932 г. аб'ядноўваў 42 гаспадаркі). У 1940 г. 67 двароў, 296 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 12.7.1941 г. да 2.12.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліст. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 25 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1953 г. радыёфікавана, у 1955 г. электрыфікавана. У 1990 г. 20 гаспадарак, 33 жыхары, у складзе калгаса імя Ф.Э.Дзяржынскага (цэнтр — в. Чарэнкі). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**МАЛЫЯ АМХІНІЧЫ** — вёска ў Гарбавіцкім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Чавусаў, 30 км ад Магілёва, 2 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З цячэ ручай (прыток ручая Ільменка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Чавусы. 33 гаспадаркі, 57 жыхароў (2007).

Узнікла ў выніку падзелу ў 1920-х г. в. Амхінічы на дзве: Вялікія Амхінічы і Малыя Амхінічы. 1.3.1928 г. арганізаваны калгас «Серп і молат», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 41 гаспадарку. З 1933 г. калгас абслугоўвала Гарбавіцкая МТС. Меліся кузня і ваўначоска. У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1953 г. радыёфікавана, у 1955 г. электрыфікавана. У 1950 г. да вёскі далучаны пас. Круглінка, у 1976 г. — пас. Мышкаўка. У 1990 г. 48 гаспадарак, 95 жыхароў, у складзе калгаса «Серп і молат» (цэнтр — в. Лёўкаўшчына). Размяшчаліся паляводчая вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПдУ — адасоблены ўчастак забудовы. На паўн. ускраіне — гасп. сектар.

**МАЛЫЯ БАРДЗІНІЧЫ** — былая вёска ў Чавускім гарадскім Савеце, за 6 км на Пн ад Чавусаў, 53 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. На У цячэ р. Бася (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Забалацце і далей па шашы Магілёў—Чавусы.

Узнікла ў выніку падзелу ў 1920-я г. в. Бардзінічы на дзве: Вялікія Бардзінічы і Малыя Бардзінічы. У кастр. 1929 г. арганізаваны калгас «Юны камунар», які з 1933 г. абслугоўвала Чавуская МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. радыёфікавана, у 1952 г. электрыфікавана. У 1990 г. 38 гаспадарак, 69 жыхароў, у складзе калгаса «Юны камунар» (цэнтр — в. Забалацце). Планіровачна складалася з дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**МАШОК** — вёска ў Благавіцкім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Чавусаў, 38 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Плясна (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Благавічы і далей па шашы Магілёў—Чавусы. 22 гаспадаркі, 45 жыхароў (2007).

У 1897 г. вёска ў Гладкаўскай вол. Чавускага павета, 18 двароў, 156 жыхароў. У 1909 г. 24 двары, 199 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новае святло», які з 1933 г. абслугоўвала Благавіцкая МТС. У 1940 г. 33 двары, 150 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 22.7.1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 1.11.1943 г. гітлераўцы спалілі 4 двары, загубілі 1

жыхара. У брацкай магіле, што на паўн. ускраіне вёскі, пахаваны 96 воінаў 172-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў 1941 г. пры абарончых баях. У 1975 г. пастаўлены помнік. У 1990 г. 36 гаспадарак, 81 жыхар, у складзе калгаса «Святло Кастрычніка» (цэнтр — в. Благавічы). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы, быў магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да цэнтра якой з ПнУ далучаецца другая прамалінейная вуліца. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн.-зах. ускраіне — гасп. сектар.

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Антонаўскім с/с, за 17 км на ПдЗ ад Чавусаў, 53 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Вілейка (прыток р. Раста). 9 гаспадарак, 14 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома ў ВКЛ з 1560 г. Сяло налічвала 7 дымоў. У 1604 г. ў Гарбавіцкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі, дзярж. уласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Чавускім павеце, 28 двароў, 288 жыхароў, дварцовая ўласнасць. У 1858 г. меўся шынок. У 1897 г. ў Чавускай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 64 двары, 353 жыхары. Непадалёку быў заезны дом (1 дом, 1 жыхар), вадзяны млын. У 1909 г. ў сяле 70 двароў, 384 жыхары, у заезным доме 1 двор, 3 жыхары. З сак. 1924 г. ў БССР. 18.2.1933 г. арганізаваны калгас «Шлях праўды», які з 1933 г. абслугоўвала Чавуская МТС. У 1940 г. 88 двароў, 329 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліст. 1943 г. гітлераўцы спалілі 85 двароў, загубілі 73 жыхары. Пасля вайны адбудавана. У 1956 г. радыёфікавана, у 1958 г. электрыфікавана. У 1990 г. 38 гаспадарак, 49 жыхароў, у складзе саўгаса «Галавенчыцы» (цэнтр — в. Вусце). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да абодвух канцоў якой з ПдУ далучаюцца кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Гарбавіцкім с/с, за 32 км на ПнЗ ад Чавусаў, 20 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Мсціслаў. 9 гаспадарак, 14 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1635 г. сяло (39 двароў) у Гарбавіцкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета, дзярж. уласнасць. У 1742 г. 10 гаспадарак, меліся млын, карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1897 г. ў Гладкаўскай вол. Чавускага павета, 134 жыхары. У 1909 г. 22 двары, 112 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Новы шлях» (першапачаткова аб'ядноўваў 22 гаспадаркі, меў 156,4 га зямлі), які з 1933 г. абслугоўвала Расцянская МТС. У 1940 г. 88 двароў, 329 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліст. 1943 г. гітлераўцы спалілі 85 двароў, загубілі 73 жыхары. Пасля вайны адбудавана. У 1952 г. радыёфікавана, у 1954 г. электрыфікавана. У 1990 г. 15 гаспадарак, 31 жыхар, у складзе калгаса «Серп і молат» (цэнтр — в. Лёўкаўшчына). Планіровачна складаецца з 2 кароткіх вуліц (адна амаль мерыдыянальнай, другая — шыротнай арыентацыі). Забудова двухбаковая, няшчыльная, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**НАВІНКА** — вёска ў Жаліўскім с/с, за 13 км на ПнУ ад Чавусаў, 61 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Заложжа, якая праходзіць праз вёску. 13 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

У 1860 г. вёска ў складзе аднайменнага маёнтка ў Чавускім павеце Магілёўскай



губ., 16 двароў, 124 жыхары, уласнасць памешчыцы П.Ф.Казубоўскай, якая мела тут у 1871 г. 200 дзес. зямлі. У 1887 г. побач з вёскай былі 2 фальваркі і заезны дом у Расненскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1932 г. арганізаваны калгас, які з 1934 г. абслугоўвала Макрадская МТС. У 1940 г. 30 двароў, 120 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1944 г. гітлераўцы спалілі 5 двароў. Пасля вайны адбудавана. У 1939 г. электрыфікавана, у 1956 г. радыёфікавана. У 1990 г. 24 гаспадаркі, 49 жыхароў, у складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Барышаўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**НАДЗЕЖДА** — вёска ў Благавіцкім с/с, за 10 км на Пн ад Чавусаў, 51 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд мяжуе з лесам і цячэ р. Рэўза (прыток р. Бася). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Забалацце і далей па шашы Магілёў—Чавусы. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях. У 1932 г. арганізаваны калгас «Надзея», які аб'ядноўваў 12 гаспадарак. Мелася ваўначоска. Калгас з 1934 г. абслугоўвала Макрадская МТС. У Вял. Айч. вайну з 22.7.1941 г. да 24.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1952 г. радыёфікавана, у 1954 г. электрыфікавана. У 1990 г. 17 гаспадарак, 23 жыхары, у складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Каменка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**НЕЖКАЎКА** — вёска ў Пуцькаўскім с/с, за 23 км на ПнУ ад Чавусаў, 61 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ ручай Самаволка (прыток р. Волчас). На З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Мсціслаў, якая праходзіць паблізу вёскі. 20 гаспадарак, 34 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскім павеце. У 1880 г. 48 двароў, 173 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася бандарным промыслам. У 1897 г. ў Беліцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 58 двароў, 375 жыхароў. У 1908 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1909 г. 86 двароў, 411 жыхароў. У 1917 г. створаны чырвонагвардзейскі атрад (больш за 100 чал.), які дапамагаў вал. рэв. к-ту ў барацьбе супраць кулацкіх элементаў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 36 вучняў. З сак. 1924 г. ў БССР. 7.11.1929 г. арганізаваны калгас «XII Кастрычнік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 32 гаспадаркі. У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1958 г. радыёфікавана, у 1962 г. электрыфікавана. У 1990 г. 49 гаспадарак, 109 жыхароў, у складзе саўгаса «Асінаўскі» (цэнтр — в. Асінаўка). Размяшчаліся паляводчая брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц, размежаваных ручаём і арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**НОВААЛЯКСАНДРАЎКА** — вёска ў Пуцькаўскім с/с, за 12 км на ПдУ ад Чавусаў, 60 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пд і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Мсціслаў, якая праходзіць паблізу вёскі. 11 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

У 1897 г. слабада Новааляксандраўка ў Чавускай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 88 двароў, 524 жыхары, меліся 2 ветраныя млыны. У 1908 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1909 г. вёска, 90 двароў, 505 жыхароў. На базе дарэв. ство-

рана прац. школа 1-й ступені, для якой вяскоўцы пабудавалі ў 1921 г. памяшканне. У 1925 г. ў школе быў 101 вучань, дзейнічаў чырвоны куток. З сак. 1924 г. ў БССР. 1.5.1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Май». Працавала кузня. У 1940 г. 54 двары, 261 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да кастр. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1943 г. гітлераўцы спалілі 53 двары, загубілі 7 жыхароў. За 0,3 км на Пд ад вёскі пахаваны партызан палка «Трынаццаць», які загінуў у 1942 г. пры выкананні баявога задання. У 1973 г. пастаўлены помнік. Пасля вайны адбудавана. У 1957 г. ў складзе саўгаса «Чавускі» (цэнтр — в. Пуцькі). У 1990 г. 42 гаспадаркі, 46 жыхароў. Размяшчаліся паляводчая брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. Планіроўка Т-падобная. Да цэнтра прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, далучаецца з ПнУ кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У месцы злучэння вуліц размешчаны будынак былой царквы — помнік архітэктуры 19 ст.

**НОВАЯ ГОРАЎКА** — вёска ў Прудкоўскім с/с, за 15 км на Пд ад Чавусаў, 63 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. На З цячэ р. Проня (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Прудок і далей па шашы Чавусы—Чэрыкаў. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

У 1897 г. пас. Ягораўшчына (яна ж Глушазь) у Чавускай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 16 двароў, 100 жыхароў. У 1909 г. 18 двароў, 116 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1932 г. арганізаваны калгас «Новы шлях», які першапачаткова аб'ядноўваў 16 гаспадарак, меў 111 га зямлі. З 1933 г. калгас абслугоўвала Чавуская МТС. Працавала ваўначоска. У 1940 г. 34 двары, 54 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 3.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1954 г. радыёфікавана, у 1959 г. электрыфікавана. У 1990 г. ў складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Дрокаўка). Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі пастаўлены ўздоўж кароткай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі.

**НОВЫ КРАМЯНЕЦ** — былы пасёлак у Цемравіцкім с/с, за 16 км на ПнЗ ад Чавусаў, 42 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Цемравічы, Каменка і далей па шашы Магілёў—Чавусы.

Засн. ў 1932 г. ў сувязі з будаўніцтвам торфазавода, на якім першапачаткова працавала 15 чал. У 1933 г. электрыфікаваны. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У сувязі са спыненнем торфараспрацовак пасёлак стаў хутка памяншацца. У 1948 г. радыёфікаваны. У 1990 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар, у складзе калгаса «Перадавік» (цэнтр — в. Васькавічы). Традыц. драўляная сял. сядзіба была пастаўлена каля прасёлачнай дарогі.

**ПАБЕДА** — былы пасёлак у Ваўкавіцкім с/с, за 28 км на ПдЗ ад Чавусаў, 35 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Раста (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ваўкавічы і далей па шашы Магілёў—Слаўгарад.

Засн. ў 1945 г. У 1956 г. радыёфікаваны, у 1958 г. электрыфікаваны. У 1990 г. 4 гаспадаркі, 13 жыхароў, у складзе калгаса «Іскра» (цэнтр — в. Ваўкавічы). У 1999 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары. Планіровачна ўяўляў кароткую вуліцу амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаваную з зах. боку традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПАЛОЕВА** — вёска ў Дужаўскім с/с, за 23 км на Пд ад Чавусаў, 71 км ад Магілёва, 28 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З мяжуе з лесам. На У цячэ р. Крупка



(прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Зарэчча і далей па шашы Чавусы—Слаўгарад. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

У 1897 г. пас. Палой у Даўгамохскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 26 двароў, 200 жыхароў. У 1909 г. в. Палой, 34 двары, 262 жыхары. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1935 г. арганізаваны калгас «Прагрэс». У 1940 г. 52 двары, 235 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 4.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1941 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 4 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1956 г. радыёфікавана, у 1958 г. электрыфікавана. У 1990 г. 23 гаспадаркі, 34 жыхары, у складзе калгаса імя Ільіча (цэнтр — в. Кузьмінічы). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх, узаемна перпендыкулярных вуліц, арыентаваных амаль мерыдыянальна і шыротна і забудаваных двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАПОЎЦЫ** — вёска ў Цемравіцкім с/с, за 25 км на З ад Чавусаў, 42 км ад Магілёва, 30 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Бася (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Мсціслаў. 25 гаспадарак, 39 жыхароў (2007).

Каля вясковых могілак, на 1-й надпоймавай тэрасе левага берага р. Бася, захавалася стаянка каменнага веку; на паўн. ускраіне вёскі, на 2-й надпоймавай тэрасе правага берага ракі Бася — 2-я стараж. стаянка. Гэтыя помнікі археалогіі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай старажытнасці. Вёска паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1858 г. ў Чавускім павеце Магілёўскай губ., 33 рэвізскія душы. Дзейнічала карчма. Памешчык В.В.Бурскі меў тут у 1872 г. 199 дзес. зямлі. У 1897 г. ў Радамскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 22 двары, 153 жыхары. Непадалёку былі сядзіба (1 двор, 4 жыхары) і пасёлак (9 двароў, 59 жыхароў). У 1909 г. 20 двароў, 193 жыхары. З сак. 1924 г. ў БССР. 1.5.1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны шлях», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 11 гаспадарак, з 1933 г. яго абслугоўвала Паўлаўская МТС. У 1940 г. 46 двароў, 160 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1944 г. гітлераўцы спалілі 3 двары, загубілі 5 жыхароў. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 40 воінаў 290-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях на р. Проня. У 1975 г. пастаўлены помнік. У 1958 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1990 г. 47 гаспадарак, 108 жыхароў, у складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Пілешчына). Размяшчаліся вытв. брыгада, свінагадоўчая ферма, установка па перапрацоўцы кармоў, былі пач. школа, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАРОЕЎКА** — вёска ў Дужаўскім с/с, за 24 км на ПдЗ ад Чавусаў, 54 км ад Магілёва, 19 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Чавусы—Слаўгарад. 14 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. У 1667 г. сяло ў Аршанскім павеце ВКЛ, шляхецкая ўласнасць, у 1777 г. ў Старабыхаўскім павеце. У 1909 г. ў Даўгамохскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 44 двары, 288 жыхароў. Мелася школа граматы. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені. З сак. 1924 г. ў БССР. 30.3.1930 г. арганізаваны калгас «Прамень», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 23 гаспадаркі. Працавала кузня. У 1940 г. 43 двары, 150 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. гітлераўцы спалілі 33 двары. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 27 гаспадарак, 59

жыхароў, у складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Дужаўка). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, установка па перапрацоўцы кармоў. Быў магазін. Планіровачна складаецца з 2 (адна працяглая, другая кароткая) прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.


*М.Дз.Дзеруноў.*

Радзіма Героя Сац. Працы, механізатара М.Дз.Дзерунова (нар. ў 1930).

**ПАЎЛАЎКА** — пасёлак у Цемравіцкім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Чавусаў, 44 км ад Магілёва, 23 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ р. Бася (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Мсціслаў. 1 гаспадарка, 3 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. У 1635 г. абруб Сяльцо ў Барадзілаўскім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета ВКЛ, дзярж. ўласнасць. Меўся млын на р. Бася. У 1742 г. в. Паўлаўка (яна ж Сялец). Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. гаспадарскі дом у Чавускім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. 2 двары, 19 жыхароў, уласнасць памешчыка. Меліся млын і сажалка. З сак. 1924 г. ў БССР. На былых памешчыцкіх землях быў створаны саўгас «Паўлаўка», у якім у 1934 г. працавалі 2 трактары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Радзіма», які з 1934 г. абслугоўвала Макрадская МТС. У 1934 г. адкрыты дзіцячыя яслі. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1958 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1990 г. 2 гаспадаркі, 4 жыхары, у складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Пілешчына). Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі пастаўлены ўздоўж кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ.

**ПЕТУХОЎКА** — вёска ў Антонаўскім с/с, за 14 км на Пд ад Чавусаў, 62 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў— Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Проня (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Чавусы—Слаўгарад. 48 гаспадарак, 96 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. У 1635 г. с. Лазерава, у Благавіцкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1742 г. с. Лазераўка (яно ж Петухоўка), 8 гаспадарак, дзейнічала царква. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. ў Чавускім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ў Чавускім павеце Магілёўскага намесніцтва, 35 двароў, 244 жыхары, уласнасць памешчыка. Мелася сукнавальня. У 1880 г. 67 двароў, 186 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася стальмашным промыслам. Дзейнічалі ветраны і вадзяны млыны. У 1909 г. 111 двароў, 663 жыхары, царк.-прыходская школа. 1.7.1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны барацьбіт». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што на паўн. ускраіне вёскі, пахаваны 382 воіны, сярод якіх воіны 49-й і 139-й стралк. дывізій, якія загінулі ў баях на р. Проня ў 1943—44 гг., а таксама партызан палка «Трынаццаць». У 1967 г. пастаўлены помнік. У 1990 г. 92 гаспадаркі, 212 жыхароў, у складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Антонаўка). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, установка па перапрацоўцы кармоў, была 8-гадовая школа, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай мерыдыянальна і забудаванай пераважна двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пн — гасп. сектар.

**ПЕТУХОЎКА** — вёска, цэнтр Прудкоўскага с/с, за 12 км на ПдУ ад Чавусаў, 60 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ мяжуе з лесам. На Пд цячэ р. Сіняўка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Чэрыкаў,



якая праходзіць паблізу вёскі. 98 гаспадарак, 262 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. У 1635 г. с. Петухоўка (яно ж Прышнева) у Благавіцкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1742 г. 9 гаспадарак. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. ў Чавускім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. 16 двароў, 126 жыхароў, у складзе маёнтка Ляхаўшчызна Чавускага павета, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 131 рэвізская душа, дзейнічалі карчма, млын, лесапільня, драўляная царква (адкрыта не пазней 1880). У 1850 г. пачала працаваць царк.-прыходская школа, якая ў 1917 г. ператворана ў земскую. У 1883 г. 67 двароў, 389 жыхароў. У 1897 г. 95 двароў, 617 жыхароў. Непадалёку былі яшчэ адно с. Петухоўка (2 двары, 12 жыхароў), вадзяны млын, сядзіба (4 двары, 10 жыхароў) і вёска (37 двароў, 240 жыхароў). У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама. У 1909 г. ў сяле 111 двароў, 663 жыхары, у вёсцы 46 двароў, 244 жыхары, з 1904 г. дзейнічалі вадзяны і ветраны млыны. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якая размясцілася ў нацыяналізаваным памяшканні, у 1925 г. былі 82 вучні, дзейнічала хата-чытальня, гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1930 г. арганізаваны калгас, які з 1933 г. абслугоўвала Чавуская МТС. Сяло і вёска былі аб'яднаны ў адзін населены пункт. У 1939—45 гг. цэнтр сельсавета. У 1940 г. 130 двароў, 440 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 14.7.1941 г. да 3.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 11 жыхароў. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахавана 379 воінаў, у тым ліку воінаў 139-й, 369-й, 395-й стралк. дывізій, якія загінулі пры вызваленні раёна. У 1970 г. на магіле пастаўлены помнік. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1990 г. цэнтр калгаса «Камуніст», 101 гаспадарка, 260 жыхароў. У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, машынны двор, піларама, устаноўка па перапрацоўцы кармоў, ветэрынарны ўчастак, сярэдняя школа, дзіцячы сад-яслі, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, аддз. ашчаднага банка, гандл. цэнтр, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1976 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай шыротна, уздоўж берага ракі. Жылая забудова сядзібнага тыпу, пераважна драўляная, двухбаковая. Хаты і гасп. двары пастаўлены адвольна. Дзве новыя вуліцы, якія праходзяць на Пн ад асн. і паралельна да яе, забудаваны мураванымі двухпавярховымі шматкватэрнымі дамамі і аднапавярховымі тыпу катэджаў. Сярод жылой забудовы размешчаны адм.-грамадскія будынкі. На З і ПдУ — гасп. сектар.

У склад Прудкоўскага с/с уваходзяць 11 населеных пунктаў.

**ПЛЕШЧЫНА** — вёска ў Цемравіцкім с/с, за 21 км на Пн ад Чавусаў, 45 км ад Магілёва, 26 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, ёсць некалькі сажалак. На Пд цячэ р. Бася (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Мсціслаў. 46 гаспадарак, 117 жыхароў (2007).

У 1858 г. вёска (33 рэвізскія душы) у Чавускім павеце Магілёўскай губ., уласнасць памешчыка, мелася карчма. У 1897 г. ў Радамскай вол. Чавускага павета, 22 двары, 168 жыхароў, меўся хлебазапасны магазін. У 1909 г. 24 двары, 174 жыхары. З сак. 1924 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. да 21.8.1925 г. цэнтр сельсавета. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 21 гаспадарку, з 1934 г. яго абслугоўвала Макрадская МТС. У 1940 г. 20 двароў, 193 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1941 г. гітлераўцы спалілі 18 двароў, загубілі 30 жыхароў. У брацкай магіле, што на могіл-

ках, пахаваны 25 сав. воінаў, сярод іх воіны 64-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна. У 1990 г. цэнтр калгаса «Зара», 63 гаспадаркі, 152 жыхары. У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, машынны двор, лесапільня і млын, былі сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. ашчаднага банка, магазін. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1977 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На У размешчаны адм.-грамадскі цэнтр. Жылая забудова тут вядзецца аднапавярховымі мураванымі дамамі тыпу катэджаў. Вытв. сектар — на З.

**ПРУДОК** — вёска ў Прудкоўскім с/с, за 12 км на ПдУ ад Чавусаў, 60 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Каменка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Чавусы—Чэрыкаў. 11 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. У 1635 г. с. Запруддзе ў Благавіцкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета ВКЛ, дзярж. ўласнасць. Меўся млын. У 1742 г. с. Прудок (яно ж Запруддзе), 9 двароў, мелася карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. 9 двароў, 57 жыхароў, уласнасць памешчыка, дзейнічалі млын і збудаваная з дрэва царква. У 1858 г. 62 рэвізскія душы. Памешчыкі Макавецкія мелі ў 1868 г. ў вёсках Прудок, Красніца і Лёўкаўшчына 4045 дзес. зямлі, 5 харчэвень, 2 вадзяныя млыны. У 1880 г. 28 двароў, 174 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася сталярным промыслам. У 1897 г. ў Чавускай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 42 двары, 287 жыхароў, дзейнічаў цэнтр. хлебазапасны магазін, 2 разы ў год праводзіліся кірмашы. У 1909 г. 46 двароў, 289 жыхароў. Працавала школа граматы. З сак. 1924 г. ў БССР. 1.5.1931 г. арганізаваны калгас «Ударнік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 31 гаспадарку. З 1933 г. абслугоўвала Чавуская МТС. З 20.8.1924 г. да 1939 г. цэнтр сельсавета. У 1940 г. 69 двароў, 162 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 2.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 1 жыхара. У брацкай магіле, што на паўн.-зах. ускраіне, пахаваны 641 воін, у іх ліку воіны 7-й, 49-й, 139-й, 369-й стралк. дывізій, якія загінулі ў баях на р. Проня ў 1943—44 гг. У 1975 г. пастаўлены помнік. Пасля вайны адбудавана. У 1945 г. цэнтр сельсавета. У 1990 г. 31 гаспадарка, 43 жыхары, у складзе калгаса «Камуніст» (цэнтр — в. Петухоўка). Размяшчаліся вытв. брыгада і жывёлагадоўчая ферма, фельч.-акушэрскі пункт, аўтаматычная тэлеф. станцыя. Рака падзяляе вёску на зах. (З кароткія крывалінейныя вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ) і ўсх. (да дугападобнай вуліцы далучаецца з У кароткая прамалінейная вуліца) часткі. Забудова сядзібнага тыпу, цалкам драўляная.

**ПРЫДАНЦЫ** — вёска ў Цемравіцкім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Чавусаў, 40 км ад Магілёва, 25 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. На З цячэ р. Удоўша (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Мсціслаў. 23 гаспадаркі, 41 жыхар (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1742 г. сяло, ва Уланаўскім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета ВКЛ, дзярж. ўласнасць, ніхто ў гэты час у сяле не жыў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. 3 двары, 21 жыхар, уласнасць памешчыка. У 1858 г. ў Чавускім павеце Магілёўскай губ., 16 рэвізскіх душ. У 1880 г. 10 двароў, 69 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася стальмашным промыслам. У 1897 г. ў Гладкаўскай вол. Чавускага павета, 14 двароў, 103 жыхары,



меўся ветраны млын. Непадалёку быў аднайменны хутар (1 двор, 9 жыхароў). У 1909 г. 13 двароў, 128 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1930 г. арганізаваны калгас «Бальшавік», які з 1933 г. абслугоўвала Паўлавіцкая МТС. У 1940 г. 65 двароў, 297 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1941 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1951 г. электрыфікавана, у 1953 г. радыёфікавана. У 1990 г. 33 гаспадаркі, 82 жыхары, у складзе калгаса «Перадавік» (цэнтр — в. Васькавічы). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Аснову планіроўкі складае прамалінейная вуліца амаль шыротнай арыентацыі. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая.

**ПРЫЛЕССЕ** — вёска ў Пуцькаўскім с/с, за 15 км на У ад Чавусаў, 63 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У мяжуе з лесам. На паўд.-ўсх. ускраіне цячэ р. Каменка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Мсціслаў, якая праходзіць каля вёскі. 49 гаспадарак, 91 жыхар (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1785 г. с. Прылессе-Заходы ў Чавускім павеце, 23 двары, 253 жыхары, уласнасць памешчыка. Меліся млын, царква. У 1858 г. ў Чавускім павеце Магілёўскай губ., 118 рэвізскіх душ, уласнасць памешчыка, мелася карчма. У 1883 г. 44 двары, 256 жыхароў, дзейнічалі драўляная царква, ветраны і вадзяны млыны. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. ў Чавускай вол. Чавускага павета, 70 двароў, 491 жыхар, раз у год праводзіўся кірмаш. На хутары, што знаходзіўся побач, было 5 двароў, 21 жыхар, у царк. сядзібе — 2 двары, 9 жыхароў. У 1909 г. ў сяле 80 двароў, 484 жыхары, на хутары Прылессе (ён жа Бярозаўка) — 7 двароў, 26 жыхароў. У 1900 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. Сав. ўлада ўстаноўлена ў снеж. 1917 г. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 85 вучняў. З сак. 1924 г. ў БССР. З 1924 г. да 1954 г. цэнтр сельсавета. 1.6.1931 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн». Дзейнічалі 2 сукнавальні і ваўначоска. У 1940 г. 110 двароў, 227 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да кастр. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 4.8.1943 г. гітлераўцы спалілі 107 двароў, загубілі 4 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1958 г. радыёфікавана, у 1962 г. электрыфікавана. У 1990 г. 92 гаспадаркі, 220 жыхароў, у складзе саўгаса «Чавускі» (цэнтр — в. Пуцькі). Размяшчаліся паляводчая брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, былі 8-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. У 2007 г. дзейнічалі фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на Пд далучаецца прамалінейная вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі з завулкам. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі. Гасп. сектар — на З.

**ПРЫЛЁПАЎКА** — вёска ў Пуцькаўскім с/с, за 12 км на ПнУ ад Чавусаў, 60 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ р. Проня (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Пуцькі і далей па шашы Чавусы—Заложжа. 11 гаспадарак, 19 жыхароў (2007).

Каля вёскі, на левым беразе р. Проня, захавалася стараж. гарадзішча, на ўсх. ускраіне вёскі, на правым беразе р. Проня — стараж. курганны могільнік, што сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1777 г. ў Чавускім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Жаліўе Чавускага павета Магілёўскага намесніцтва, 11 двароў, 117 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1858 г. ў

Чавускім павеце, 66 рэвізскіх душ, мелася карчма. У 1880 г. 25 двароў, 150 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася сталярным промыслам. У 1897 г. дзве сумежныя вёскі з назвай Прылёпаўка ў Расненскай вол. Чавускага павета, адна налічвала 15 двароў, 94 жыхары, другая — 35 двароў, 217 жыхароў. Меўся заезны дом (1 двор, 10 жыхароў). У 1909 г. ў Радамскай вол. Чавускага павета, 40 двароў, 240 жыхароў, у Прылёпаўцы, якая ўваходзіла ў Расненскую вол., было 16 двароў, 119 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Зорка». У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1940 г. 34 двары, 219 жыхароў. У чэрв. 1944 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 1 жыхара. Пасля вайны адбудавана. У 1958 г. радыёфікавана, у 1962 г. электрыфікавана. У 1990 г. 24 гаспадаркі, 38 жыхароў, у складзе саўгаса «Чавускі» (цэнтр — в. Пуцькі). Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ уздоўж ракі і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.


*К.П.Кармызава.*

Радзіма Героя Сац. Працы К.П.Кармызавай (нар. ў 1920).

**ПУХНАВА** — вёска ў Жаліўскім с/с, за 29 км на ПнУ ад Чавусаў, 77 км ад Магілёва, 34 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Клінка (прыток р. Кашанка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Горкі—Чырвонае. 26 гаспадарак, 35 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1604 г. як сяло, засн. ў лесе, у Пуцькаўскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1742 г. 23 двары, меліся млын, карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. былі вёскі Піхнава 1 (24 двары, 116 жыхароў, млын, сажалка) і Піхнава 2 (25 двароў, 168 жыхароў) у Чавускім павеце Магілёўскага намесніцтва, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 111 рэвізскіх душ. Дзейнічалі карчма, млын. Памешчык І.А.Чахоўскі меў тут у 1863 г. 324 дзес. зямлі, вадзяны млын і сукнавальню. У 1897 г. ў Расненскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 66 двароў, 425 жыхароў. Непадалёку на хутары Пухноўка быў 1 двор, 5 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 73 двары, 508 жыхароў, на 2 хутарах па 1 двары і па 6 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1926 г. адкрыта школа, у якой у 1927 г. былі 42 вучні, дзейнічала хата-чытальня. У 1931 г. арганізаваны калгас «7 гадоў без У.І.Леніна», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 26 гаспадарак. Працавалі вадзяны млын і сукнавальня. Дзейнічала школа і пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1940 г. 80 двароў, 317 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У студз. 1944 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 38 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1961 г. электрыфікавана, у 1962 г. радыёфікавана. У 1990 г. 56 гаспадарак, 111 жыхароў, у складзе саўгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Барышаўка). Размяшчаліся паляводчая брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, устаноўка па перапрацоўцы кармоў, быў магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц амаль мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных завулкамі і забудаваных двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПУЦЬКІ** — вёска, цэнтр Пуцькаўскага с/с (з 20.8.1924 г. да 28.9.1959 г. і з 16.5.1960 г.), за 8 км на ПнУ ад Чавусаў, 56 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ р. Проня (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Чавусы—Заложжа. 131 гаспадарка, 324 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1560 г. ў сувязі з правядзеннем агр. рэформы (рэвізіі) як с. Пуцькавічы Магі-



лёўскай вол. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1604 г. цэнтр войтаўства Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., 35 двароў. У 1742 г. 26 гаспадарак, меліся млын, карчма. У 1762 г. аддадзена ў пажыццёвае валоданне падскарбію ВКЛ Флемінгу. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Чавускім павеце, 76 двароў, дварцовая ўласнасць. У 1834 г. 250 жыхароў, у 1847 г. 75 двароў, 371 жыхар, у складзе маёнтка Ялова, уласнасць памешчыка. З 1846 г. працавала сукнавальня. У 19 ст. належала графам Талстым. У 1897 г. ў Чавускай вол. Чавускага павета, 104 двары, 617 жыхароў. У пач. 20 ст. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якім у 1907 г. навучалася 47 хлопчыкаў і 11 дзяўчынак. У 1909 г. 126 двароў, 649 жыхароў. У 1915 г. для школы ўзведзены будынак. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 105 вучняў. Дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1934 г. арганізаваны калгас імя В.М.Молатава. У 1940 г. 139 двароў, 618 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы ў чэрв. 1944 г. спалілі 131 двор, загубілі 3 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1945 г. створана МТС «Перамога» (рэарганізавана 31.3.1958 г.). У 1990 г. цэнтр саўгаса «Чавускі», 164 гаспадаркі, 387 жыхароў. У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, машынны двор, механічная і швейная майстэрні, лесапільня, ветэрынарная аптэка, сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, дзіцячы сад-яслі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, 3 магазіны, сталовая, грамадская лазня. У 2007 г. дзейнічалі комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1983 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачна складаецца з 2 плаўна выгнутых, амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. У цэнтры ўтворана невял. плошча. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Новыя вуліцы, размешчаныя на Пд, забудаваны мураванымі індывідуальнымі і шматкватэрнымі дамамі. Частка дамоў узведзена з кватэрамі ў 2 узроўнях. Грамадскія будынкі размешчаны вакол плошчы і сярод жылой забудовы. Гасп. сектар — на ПдЗ.

У склад Пуцькаўскага с/с уваходзяць 18 населеных пунктаў.

**ПЫРЦЫ** — вёска ў Жаліўскім с/с, за 14 км на ПнУ ад Чавусаў, 62 км ад Магілёва, 19 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Проня (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Заложжа, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 5 гаспадарак, 6 жыхароў.

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чавускай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Жаліўе Чавускага павета Магілёўскага намесніцтва, 16 двароў, 141 жыхар, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 19 двароў, 137 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім, сталярным і бандарным промысламі. У 1897 г. ў Радамскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 25 двароў, 179 жыхароў. У 1909 г. 28 двароў, 117 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1932 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 37 двароў, 171 жыхар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У студз. 1944 г. гітлераўцы спалілі 33 двары, загубілі 19 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1956 г. радыёфікавана, у 1958 г. электрыфікавана. У 1990 г. 26 гаспадарак, 46 жыхароў, у складзе саўгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Барышаўка). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, якая раздвойваецца на абодвух

канцах. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая.

**РАБІНАВАЯ СЛАБОДКА** — вёска ў Жаліўскім с/с, за 15 км на Пн ад Чавусаў, 63 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Заложжа, якая праходзіць побач з вёскай. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

У 1848 г. вёска ў Чавускім павеце Магілёўскай губ., 39 рэвізскіх душ, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Радамскай вол. Чавускага павета, 32 двары, 215 жыхароў. У 1909 г. 45 двароў, 210 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 32 двары, 125 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. гітлераўцы спалілі 29 двароў, загубілі 52 жыхары. Пасля вайны адбудавана. У 1961 г. радыёфікавана, у 1962 г. электрыфікавана. У 1990 г. 22 гаспадаркі, 39 жыхароў, у складзе саўгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Барышаўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.


*А.Ф.Ушакоў.*


*М.Ц.Палякоў.*

**РАБЯТКІ** — вёска ў Пуцькаўскім с/с, за 18 км на У ад Чавусаў, 66 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Каменка (прыток р. Проня). На Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Мсціслаў, якая праходзіць побач з вёскай. 12 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1742 г. вёска (10 аселых падданых) у Асавецкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, дзярж. уласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. ў Чэрыкаўскай акрузе. У 1858 г. 35 двароў, 189 жыхароў, уласнасць памешчыка А.І.Шабекі, які меў тут у 1878 г. 850 дзес. зямлі. У 1880 г. 41 двор, 241 жыхар. Частка вяскоўцаў займалася бандарным промыслам. У 1897 г. ў Беліцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 62 двары, 439 жыхароў, меліся школа граматы, піцейны дом. У 1908 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у 1914 г. пабудавана памяшканне. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 52 вучні. У 1931 г. арганізаваны калгас «Перамога», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 25 гаспадарак. У 1940 г. 59 двароў, 240 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да кастр. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1952 г. ўступіў у строй радыёвузел, вёска была радыёфікавана, у 1962 г. — электрыфікавана. У 1990 г. 34 гаспадаркі, 65 жыхароў, у складзе саўгаса «Асінаўскі» (цэнтр — в. Асінаўка). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы, быў магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма бел. паэта А.Ф.Ушакова (1912—41), бел. скульптара М.Ц.Палякова (нар. ў 1936).

**РАГОЗІНКА** — вёска ў Цемравіцкім с/с, за 22 км на Пн ад Чавусаў, 46 км ад Магілёва, 27 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У мяжуе з лесам. На ПдЗ цячэ р. Бася (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Пілешчына і далей па шашы Магілёў—Мсціслаў. 25 гаспадарак, 40 жыхароў (2007).

На паўд.-зах. ускраіне, на левым беразе р. Бася знаходзіцца курганны могільнік (14 насыпаў) і за 2,5 км на Пд, на правым беразе р. Бася — другі могільнік (20 насыпаў), якія сведчаць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1742 г. як вёска, у якой ніхто не жыў, у Бардзілаўскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета ВКЛ, дзярж. ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У



1785 г. ў Чавускім павеце, 10 двароў, 108 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 71 рэвізская душа. У 1880 г. 24 двары, 193 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася сталярным промыслам. У 1897 г. ў Радамскай вол. Чавускага павета, 39 двароў, 267 жыхароў. У 1909 г. 40 двароў, 290 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перабудова», які з 1933 г. абслугоўвала Паўлаўская МТС. У 1940 г. 42 двары, 160 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 2.9.1943 г. гітлераўцы захапілі 100 мірных жыхароў, якія хаваліся ў лесе ад вывазу ў Германію, і ўсіх расстралялі. У 1950 г. пастаўлены помнік. У 1944 г. акупанты спалілі 10 двароў, загубілі 18 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 44 гаспадаркі, 92 жыхары, у складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Пілешчына). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, якая на абодвух канцах раздвойваецца і забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РАДАМЛЯ** — вёска ў Жаліўскім с/с, за 20 км на Пн ад Чавусаў, 65 км ад Магілёва, 25 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ПдЗ цячэ р. Радуча (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Заложжа, якая праходзіць праз вёску. 108 гаспадарак, 311 жыхароў (2007).

Каля вёскі, на левым беразе р. Радуча, захавалася гарадзішча ранняга жал. веку і эпохі Кіеўскай Русі (13 ст.), на Пн ад гарадзішча, за ярам — стараж. паселішча. Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у вельмі далёкія часы. Па паданні, Радамля была цэнтрам племя радзімічаў, якія сяліліся на берагах р. Сож і яе прытокаў. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 1527 г. ў складзе ВКЛ, калі тут знаходзіўся замак Радамль, які быў аддадзены кн. Жаслаўскаму. Як сведчыць Літоўская метрыка, з 1539 г. да 1770 г. Радамля была цэнтрам староства. У 1580 г. ўпамінаецца ў Баркулабаўскай хроніцы, з'яўлялася дзярж. уласнасцю. У 1764 г. вёска — цэнтр дзяржавы ў Мсціслаўскім ваяв., казённая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1797 г. мястэчка, тут размяшчалася рэзідэнцыя Мсціслаўскага кармеліцкага кляштара. У 1849 г. сяло (10 двароў, 73 жыхары) у складзе казённага маёнтка Мсціслаўскі, меліся карчма, млын. У 1880 г. цэнтр воласці Чавускага павета, 25 двароў, 162 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася шавецкім промыслам. Дзейнічалі 2 царквы (адна мураваная), касцёл, заезны дом. У 1883 г. адкрыта школа. У 1897 г. с. Радамль, цэнтр воласці Чавускага павета Магілёўскай губ., 29 двароў, 157 жыхароў. Меліся царква, багадзельня, школа, у якой навучалася 85 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі. У пасёлку, што знаходзіўся побач, было 11 двароў, 67 жыхароў, крама, піцейны дом, у царк. сядзібе 4 двары, 6 жыхароў, царк.-прыходская школа, у якой навучалася 13 хлопчыкаў і 5 дзяўчынак, у касцельнай сядзібе 3 двары, 6 жыхароў. У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама. У 1909 г. 37 двароў, 230 жыхароў. У студз. 1918 г. створаны чырвонагв. атрад. На базе дарэв. арганізавана прац. школа 1-й ступені, якая размясцілася ў нацыяналізаваным будынку, у 1925

*Аграгарадок Радамля.*



г. было 107 вучняў. У 1922 г. створана с.-г. т-ва, у 1924 г. пачалі дзейнічаць хата-чытальня і ўрачэбны ўчастак. З сак. 1924 г. ў БССР. 1.4.1924 г. створана каап. т-ва. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. У 1930 г. арганізаваны калгас «Зорка», у наступным годзе вёска атрымала тэлеф. сувязь, былі адкрыты дзіцячыя яслі. У 1930-я г. 4-гадовая школа ператворана ў 7-гадовую. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 23.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1944 г. гітлераўцы спалілі вёску, загубілі 21 жыхара. Пасля вайны адбудавана. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 152 сав. воіны, сярод іх воіны 369-й стралк. дывізіі, загінуўшыя 23.6.1944 г. пры вызваленні вёскі. У 1976 г. пастаўлены помнік. У цэнтры вёскі на ўшанаванне памяці 115 землякоў, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у 1977 г. пастаўлены абеліск з імёнамі загінуўшых. У 1990 г. цэнтр калгаса «Звязда», 80 гаспадарак, 272 жыхары. У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, устаноўка па перапрацоўцы кармоў, машынны двор, піларама, сярэдняя школа, дзіцячы сад-яслі, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, гандл. цэнтр, сталовая, аўтаматычная тэлеф. станцыя, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, грамадская лазня. У 2000-я г. на базе вёскі створаны аграгарадок. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1982 г. Бел. н.-д. і праектным ін-там па будаўніцтве ў вёсцы. Забудова традыц., сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая. Плаўна выгнутая з завулкам вуліца (адрэзак шашы) арыентавана мерыдыянальна. Паралельна да асн. праходзіць на У новая вуліца, забудаваная мураванымі адна- і двухпавярховымі тыпавымі жылымі дамамі — індывідуальнымі і шматкватэрнымі з блакіраванымі гасп. пабудовамі. Грамадскія будынкі размешчаны ўздоўж асн. вуліцы сярод жылой забудовы. Вытв. сектар — на Пн і ПдУ.

*Аграгарадок Радамля.*



**РАДУЧЫ** — вёска ў Жаліўскім с/с, за 22 км на Пн ад Чавусаў, 70 км ад Магілёва, 27 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ р. Радуча (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Заложжа, якая праходзіць паблізу вёскі. 10 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чавускім павеце. У 1834 г. 179 жыхароў, у 1850 г. цэнтр маёнтка ў Чавускім павеце, 25 двароў, 161 жыхар, уласнасць памешчыка. У 1852 г. 26 двароў, 171 жыхар і 10 сямей дваровых. У 1880 г. ў Радамскай вол. Чавускага павета, 28 двароў, 212 жыхароў. Памешчыца В.Дз.Панятоўская мела ў гэты час у вёсках Радучы, Суслаўка (зараз у Дрыбінскім р-не) і Заложжа 2959 дзес. зямлі, 3 ветраныя млыны, сукнавальню і паром. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім і шавецкім промысламі. У 1897 г. 40 двароў, 250 жыхароў. У 1909 г. 45 двароў, 245 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1930 г. арганізаваны калгас «Зорка». У 1940 г. 68 двароў, 292 жыхары. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1944 г. гітлераўцы спалілі 49 двароў, загубілі 104 жыхары. Пасля вайны адбудавана. У 1962 г. да вёскі далучаны пас. Азярына. У 1990 г. 27 гаспадарак, 49 жыхароў, у складзе саўгаса «Звязда» (цэнтр — в. Радамля). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, устаноўка па перапра-



цоўцы кармоў. Планіроўка Т-падобная. Больш працяглая вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Да яе на Пн далучаецца кароткая вуліца амаль шыротнай арыентацыі. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая.

Радзіма бел. драматурга, лаўрэата Дзярж. прэміі Беларусі і прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, засл. дзеяча мастацтваў Беларусі К.Губарэвіча (1907—87) і ўдзельніка барацьбы за сав. ўладу ў Беларусі А.П.Арлова (1894—1970).

**РАДУЧЫ** — пасёлак у Жаліўскім с/с, за 23 км на Пн ад Чавусаў, 7 км ад Магілёва, 28 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ р. Радуча (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Заложжа, якая праходзіць паблізу пасёлка. 14 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

У 1897 г. пасёлак у Радамскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 14 двароў, 102 жыхары, меліся прыёмны пакой і вадзяны млын. У 1909 г. 17 двароў, 114 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1932 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 53 двары, 254 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1944 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі пасёлак, загубілі 49 жыхароў. Пасля вайны адбудаваны. У 1956 г. радыёфікаваны, у 1958 г. электрыфікаваны. У 1990 г. 37 гаспадарак, 71 жыхар, у складзе калгаса «Звязда» (цэнтр — в. Радамля). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РАМАН-ВІНА** — вёска ў Дужаўскім с/с, за 17 км на Пд ад Чавусаў, 65 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на ПнЗ мяжуе з лесам. На Пд і У цячэ р. Глодаўка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Кузьмінічы і далей па шашы Чавусы—Слаўгарад. 32 гаспадаркі, 58 жыхароў (2007).

Засн. перасяленцамі з хутароў і суседніх вёсак у пач. 1920-х г. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1930 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 32 гаспадаркі. У 1940 г. 82 двары, 394 жыхары. Да вёскі ў 1940 г. далучаны пас. Пагар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 2.12.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы спалілі 80 двароў, загубілі 58 жыхароў. У брацкай магіле, на зах. ускраіне вёскі, пахаваны 165 сав. воінаў, якія загінулі ў баях за вызваленне вёскі. У 1976 г. пастаўлены помнік. Пасля вайны адбудавана. У 1956 г. радыёфікавана, у 1958 г. электрыфікавана. У 1990 г. 67 гаспадарак, 130 жыхароў, у складзе калгаса імя Ільіча (цэнтр — в. Кузьмінічы). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, ёсць магазін. Планіровачна складаецца з 2 амаль прамалінейных адасобленых вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і забудаваных традыц. драўлянымі сял. сядзібамі. На ПдУ — гасп. сектар.



*К.Губарэвіч.*

**РОШЧА** — пасёлак у Благавіцкім с/с, за 8 км на Пн ад Чавусаў, 56 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. На З цячэ р. Бася (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Чавусы—Заложжа. 6 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях. З сак. 1924 г. ў БССР. 1.10.1929 г. арганізаваны калгас «Юны камунар», які з 1933 г. абслугоўвала Чавуская МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1951 г. радыёфікаваны, у 1954 г. электрыфікаваны. У 1990 г. 11 гаспадарак, 28 жыхароў, у складзе калгаса «Юны камунар» (цэнтр — в. Забалаццe). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**РУСІНАЎКА** — вёска ў Пуцькаўскім с/с, за 8 км на ПнУ ад Чавусаў, 56 км ад

Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на паўд.-зах. ускраіне — невял. сажалка. Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Заложжа, якая праходзіць каля вёскі. 17 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1777 г. в. Русінавічы ў Чавускім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. в. Русілаўка ў складзе маёнтка Жаліўе Чавускага павета Магілёўскага намесніцтва, 13 двароў, 122 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1860 г. в. Русінава ў складзе аднайменнага маёнтка, уласнасць памешчыка Ф.Л.Красоўскага, які меў тут у 1874 г. 220 дзес. зямлі. У 1880 г. 29 двароў, 122 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася вырабам посуду і іншых быт. рэчаў з дрэва. У 1895 г. адкрыта царк.-прыходская школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1897 г. ў Радамскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 33 двары, 229 жыхароў. Непадалёку былі хутар (1 двор, 4 жыхары), фальварак (8 двароў, 55 жыхароў) і заезны дом (1 двор, 10 жыхароў). У 1909 г. ў вёсцы 13 двароў, 225 жыхароў, у пасёлку 9 двароў, 69 жыхароў, на хутары 1 двор, 7 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 36 вучняў. З сак. 1924 г. ў БССР. 13.10.1934 г. арганізаваны калгас «Пераможац». У 1940 г. 58 двароў, 230 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску і загубілі 2 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1958 г. радыёфікавана, у 1962 г. электрыфікавана. У 1990 г. 43 гаспадаркі, 72 жыхары, у складзе саўгаса «Чавускі» (цэнтр — в. Пуцькі). Размяшчаліся фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, былі б-ка, магазін. Планіровачна складаецца з 2 амаль паралельных паміж сабой вуліц (адна плаўна выгнутая, другая прамалінейная), арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і забудаваных двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РЫМІНКА** — вёска ў Прудкоўскім с/с, за 17 км на ПдУ ад Чавусаў, 65 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Каменка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Чавусы—Чэрыкаў. 31 гаспадарка, 50 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. У 1635 г. с. Стайкі ў Благавіцкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета ВКЛ, дзярж. ўласнасць. Меўся млын. У 1742 г. с. Рымінка (яно ж Стайкі), 16 двароў, мелася царква. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1858 г. 58 рэвізскіх душ, уласнасць памешчыка, дзейнічала карчма. У 1883 г. ў Чавускай вол. Чавускага павета, 26 двароў, 157 жыхароў. У 1887 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у 1892 г. пабудавана памяшканне. У 1897 г. 41 двор, 327 жыхароў, меўся ветраны млын. Раз у год праводзіўся кірмаш. Непадалёку была сядзіба, 4 двары, 13 жыхароў. У 1909 г. 60 двароў, 364 жыхары. На базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 70 вучняў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас імя У.І.Леніна, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 87 гаспадарак. Мелася кузня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 2.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 63 гаспадаркі, 114 жыхароў, у складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Дрокаўка). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, устаноўка па перапрацоўцы кармоў, былі клуб, б-ка. У 2007 г. працаваў магазін. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн.-ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**САМУЛКІ** — вёска ў Благавіцкім с/с, за 15 км на З ад Чавусаў, 33 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ПдУ цячэ



р. Плясна (прыток р. Раста), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Чавусы, якая праходзіць каля вёскі. 56 гаспадарак, 108 жыхароў (2007).

Упершыню ўпамінаецца ў 1560 г. ў сувязі з правядзеннем агр. рэформы (рэвізіі) як с. Смулкі ў Магілёўскай вол. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1580 г. с. Савулкі ў Магілёўскай вол.-старостве Аршанскага павета Віцебскага ваяв., аддадзена ў пажыццёвае валоданне памешчыку. У 1604 г. ў Благавіцкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі, 26 двароў, дзярж. ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Чавускім павеце, 42 двары, 251 жыхар, уласнасць памешчыка, мелася драўляная царква. У 1858 г. 114 рэвізскіх душ. У 1889 г. адкрыта царк.-прыходская школа. У 1897 г. ў Галянёўскай вол. Чавускага павета, 57 двароў, 353 жыхары, меўся хлебазапасны магазін. У царк. сядзібе быў 1 двор, 7 жыхароў. У 1909 г. 66 двароў, 409 жыхароў. На базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 94 вучні. Размяшчалася школа ў нацыяналізаваным будынку, меліся харавы гурток і гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З сак. 1924 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. У 1931 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», вёска атрымала тэлеф. сувязь, працавала кузня. Калгас абслугоўвала Чавуская МТС. У 1940 г. 89 двароў, 420 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 22.7.1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы спалілі 9 двароў, загубілі 3 жыхароў. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 15 сав. воінаў 139-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў баях за вызваленне вёскі. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік. Пасля вайны адбудавана. У 1952 г. радыёфікавана, у 1954 г. электрыфікавана. У 1990 г. 98 гаспадарак, 222 жыхары, у складзе калгаса «Святло Кастрычніка» (цэнтр — в. Благавічы). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, устаноўка па перапрацоўцы кармоў, былі пач. школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, дзіцячы сад, гандл. цэнтр. У 2007 г. працавалі фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, дзіцячы сад, гандл. цэнтр. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных (адна працяглая, другая кароткая) вуліц, арыентаваных з ПнУ на ПдЗ і злучаных дарогай. Забудова традыц., сядзібнага тыпу, пераважна драўляная, двухбаковая. Сярод жылой забудовы — грамадскія будынкі. На Пн — гасп. сектар.

**СЕЛІШЧА** — вёска ў Цемравіцкім с/с, за 26 км на ПнЗ ад Чавусаў, 36 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Бася (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Мсціслаў. 13 гаспадарак, 24 жыхары (2007).

За 1 км на ПнУ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе левага берага р. Бася захавалася стаянка каменнага веку, за 1,5 км на ПнЗ ад вёскі, на правым беразе р. Бася — гарадзішча. Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чавускім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. сяльцо ў Чавускім павеце Магілёўскага намесніцтва, 4 двары, 28 жыхароў, уласнасць памешчыка, меўся млын. З 1821 г. працавала сукнавальня. Памешчык А.Ф.Брусевіч меў тут у 1876 г. 680 дзес. зямлі, вадзяны млын, сукнавальню, вінакурню і карчму. У 1897 г. фальварак у Гладкаўскай вол. Чавускага павета, 2 двары, 31 жыхар. У 1909 г. 1 двор, 12 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1930 г. арганізаваны калгас. Дзейнічаў вадзяны млын. З 1933 г. калгас абслугоўвала Паўлаўская МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1953 г. радыёфікавана, у 1955 г. электрыфікавана. У 1990 г. 33 гаспадаркі, 69 жыхароў, у складзе калгаса «50 гадоў БССР» (цэнтр — в. Сласцёны). Планіро-

вачна складаецца з 3 кароткіх прамалінейных вуліц (дзве шыротнай, адна — мерыдыянальнай арыентацыі). Забудова сядзібнага тыпу, квартальная, драўляная.

**СКВАРСК** — вёска ў Жаліўскім с/с, за 13 км на ПнУ ад Чавусаў, 61 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Проня (прыток р. Сож) пры ўпадзенні ў яе р. Кашанка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Чавусы—Заложжа. 18 гаспадарак, 24 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1768 г. маёнтак і сяло ў Аршанскім павеце ВКЛ, шляхецкая ўласнасць, 101 жыхар, меліся млын на р. Проня і сукнавальня. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. ў Чавускім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. с. Скварская ў складзе маёнтка Жаліўе Чавускага павета Магілёўскага намесніцтва, 17 двароў, 147 жыхароў, уласнасць памешчыка А.В.Леановіча, які меў тут у 1853 г. 275 дзес. зямлі і вадзяны млын. У 1858 г. 80 рэвізскіх душ. У 1889 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1897 г. ў Радамскай вол. Чавускага павета, 34 двары, 240 жыхароў. У аднайменным фальварку было 5 двароў, 14 жыхароў. У 1909 г. ў сяле 35 двароў, 241 жыхар, у фальварку 1 двор, 3 жыхары. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 37 вучняў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Кастрычніка, з 1933 г. абслугоўвала Чавуская МТС. У 1937 г. электрыфікавана, у 1938 г. радыёфікавана. У 1940 г. 69 двароў, 324 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 52 жыхары. Мінамётны ўзвод пад камандаваннем старшага лейтэнанта П.В.Каваленкі ў снеж. 1943 г. выявіў і знішчыў скапленне гітлераўскіх войск, якія рыхтаваліся да атакі каля вёскі. П.В.Каваленка ўдастоены звання Героя Сав. Саюза. На вайсковых могілках пахаваны 725 сав. воінаў, 31-й, 95-й, 369-й стралк. дывізій, якія загінулі ў баях за вызваленне раёна. У 1965 г. пастаўлены помнік. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 50 гаспадарак, 105 жыхароў, у складзе саўгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Барышаўка). Размяшчаўся цагельны з-д. У 2007 г. працаваў магазін. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай мерыдыянальна ўздоўж ракі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

За 0,8 км на У ад вёскі знаходзіцца Скварскае радовішча пяскоў (разведаныя запасы 218 тыс. м³).

**СКОКЛЕВА** — вёска ў Дужаўскім с/с, за 22 км на Пд ад Чавусаў, 70 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Уліта (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Слаўгарад, якая праходзіць паблізу вёскі. 29 гаспадарак, 47 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома ў ВКЛ з 1604 г. як сяло (6 гаспадарак) у Чавускім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць. У 1635 г. ў Благавіцкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета. У 1643 г. меўся млын. У 1742 г. с. Скоклева (яно ж Лясуцічы), 13 гаспадарак, дзярж. ўласнасць. Дзейнічала карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. с. Скоклеў у Старабыхаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1858 г. ў Быхаўскім павеце, 153 жыхары мужчынскага полу. Гаспадар маёнтка ў 1878 г. меў тут 2158 дзес. зямлі і карчму. У 1880 г. ў Даўгамохскай вол. Быхаўскага павета, 64 двары, 347 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася адыходным, бандарным, кавальскім і кравецкім промысламі. У 1897 г. 88 двароў, 577 жыхароў. Меліся школа граматы, хлебазапасны магазін, піцейны дом. У 1909 г. 100 двароў, 660 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка»,



які ў 1932 г. аб'ядноўваў 54 гаспадаркі. Дзейнічала кузня. У 1940 г. 80 двароў, 316 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 2.12.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы ў снеж. 1943 г. спалілі 75 двароў, загубілі 28 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 62 гаспадаркі, 122 жыхары, у складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Дужаўка). Планіровачная структура блізкая да радыяльнай. Ад плошчы, утворанай у цэнтры вёскі, адыходзяць у розныя бакі 4 прамалінейныя вуліцы. Уздоўж зах. боку ракі праходзіць яшчэ адна плаўна выгнутая вуліца. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, пераважна двухбаковая. На ПдЗ — гасп. сектар.

**СЛАБАДА** — вёска ў Гарбавіцкім с/с, за 20 км на З ад Чавусаў, 32 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Чавусы, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1742 г. сяло (8 двароў) у складзе маёнтка Пятровічы Гарбавіцкага войтаўства Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета ВКЛ, дзярж. ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1816 г. ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ., 9 двароў, 46 жыхароў, уласнасць памешчыка. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 30 двароў, 129 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 28 двароў. Пасля вайны адбудавана. У 1954 г. радыёфікавана, у 1956 г. электрыфікавана. У 1990 г. 55 гаспадарак, 114 жыхароў, у складзе саўгаса «Раста» (цэнтр — в. Гарбавічы). Планірочна ўяўляе 2 кароткія вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, злучаныя мясц. дарогай. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая.

**СЛАБОДКА** — вёска ў Благавіцкім с/с, за 12 км на Пн ад Чавусаў, 60 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Бася (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Русінаўка і далей па шашы Чавусы—Заложжа. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1777 г. в. Слабада Сушчэўская ў Чавускім павеце Магілёўскай губ. У 1784 г. вёска, 18 двароў, 131 жыхар, меўся млын, уласнасць памешчыка. У 1816 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 34 двары, 175 жыхароў, уласнасць памешчыцы А.П.Шарамецеўскай, якая мела тут у 1867 г. 180 дзес. зямлі. У 1897 г. ў вёсцы 32 двары, 189 жыхароў, у фальварку 2 двары, 2 жыхары. У 1909 г. в. Сушчэўская Слабодка, 35 двароў, 190 жыхароў і аднайменны пасёлак, 3 двары, 16 жыхароў, у Радамскай вол. Чавускага павета. Дзейнічала школа. У 1922 г. створана с.-г. арцель «Маяк Рэвалюцыі». З сак. 1924 г. ў БССР. У 1932 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 23 гаспадаркі. Працавала кузня. З 1933 г. калгас абслугоўвала Чавуская МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. радыёфікавана, у 1952 г. электрыфікавана. У 1990 г. 23 гаспадаркі, 39 жыхароў, у складзе калгаса «Юны камунар» (цэнтр — в. Забалацце). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы і ўстаноўка па перапрацоўцы кармоў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на У далучаецца плаўна выгнутая вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СЛАСЦЁНЫ** — вёска ў Цемравіцкім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Чавусаў, 30 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ р. Бася (прыток р. Проня). На Пд невялікая сажалка. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Мсціслаў, якая праходзіць праз вёску. 86 гаспадарак, 235 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома ў ВКЛ з 1604 г. як сяло (14 двароў) у Бардзілаўскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць. У 1742 г. 2 двары. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. с. Сласцюны ў Чавускай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Хількавічы Чавускага павета Магілёўскага намесніцтва, 14 двароў, 83 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 26 рэвізскіх душ. У 1897 г. ў Гладкаўскай вол. Чавускага павета, 22 двары, 155 жыхароў. У 1909 г. 23 двары, 188 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1930 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Новы шлях». У 1940 г. да вёскі далучаны пас. Шлях. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 35 жыхароў. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у 1975 г. пастаўлены абеліск з імёнамі загінуўшых. У 1990 г. цэнтр калгаса «50 гадоў БССР», 75 гаспадарак, 205 жыхароў. У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, машынны двор, піларама, установка па перапрацоўцы кармоў, ветэрынарны ўчастак. У 2007 г. дзейнічалі пач. школа, дзіцячы сад-яслі, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі і «Беларусбанка», гандл. цэнтр, грамадская лазня, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1981 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы (адрэзак шашы), арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, ад якой на ПнУ адыходзяць 2 кароткія прамалінейныя вуліцы з завулкам. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Сучаснае будаўніцтва вядзецца адна-двухпавярховымі індывідуальнымі і шматкватэрнымі тыпавымі мураванымі дамамі. У цэнтры сялібнай тэр. на гал. вуліцы склаўся адм.-грамадскі цэнтр. Гасп. сектар — на паўн.-зах. і паўд.-ўсх. ускраінах.

**СМОЛКА** — вёска ў Ваўкавіцкім с/с, за 29 км на ПдЗ ад Чавусаў, 19 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Ржаўка (прыток р. Будлянка). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Слаўгарад, якая праходзіць праз вёску. 62 гаспадаркі, 106 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1635 г. с. Крэчкава ў Асавецкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета, дзярж. ўласнасць. У 1742 г. с. Смолка (яно ж Крэчкава), 25 двароў, дзярж. ўласнасць. Мелася карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. ў Чавускім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. с. Смолкі (43 двары) у Чавускім павеце Магілёўскага намесніцтва, дварцовая ўласнасць. У 1880 г. 44 двары, 274 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася бандарным промыслам. У 1882 г. адкрыта школа граматы. У 1897 г. ў Галянёўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 56 двароў, 378 жыхароў, меўся заезны дом. У 1909 г. 67 двароў, 460 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 90 вучняў, дзейнічаў драматычны і харавы гурткі. У 1925 г. адкрыта хата-чытальня. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1929 г. арганізаваны калгас імя Ф.Э.Дзяржынскага. Мелася кузня. З 1933 г. калгас абслугоўвала Чавуская МТС. У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1952 г. радыёфікавана, у 1954 г. электрыфікавана. У 1990 г. 115 гаспадарак, 228 жыхароў, у складзе саўгаса «Магілёў-Сад» (цэнтр — в. Хацкавічы). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, былі пач. школа, клуб, магазін. У 2007 г. працаваў магазін. Аснову планіроўкі складаюць прамалінейная вуліца (адрэзак шашы) і паралельная да яе вуліца, злучаныя завулкамі. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Сярод жылля размешчаны грамадскія будынкі. На З — гасп. сектар.



**СТАЛКА** — вёска ў Гарбавіцкім с/с, за 21 км на ПдЗ ад Чавусаў, 34 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. На У цячэ р. Раста (прыток р. Проня). Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Слаўгарад. 52 гаспадаркі, 91 жыхар (2007).

За 1 км на ПнЗ ад вёскі, на правым беразе р. Раста, захавалася гарадзішча ранняга жал. веку, на паўд.-усх. ускраіне — другое гарадзішча. Гэтыя помнікі археалогіі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1635 г. ў Гарбавіцкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета, дзярж. ўласнасць. У 1742 г. 37 двароў, мелася карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. вёска ў Чавускім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. в. Сталкі ў Чавускім павеце Магілёўскага намесніцтва, 44 двары, 417 жыхароў, дварцовая ўласнасць. У 1860 г. 12 двароў, 82 жыхары, цэнтра маёнтка, уласнасць памешчыка П.Ф.Капцелева, які меў тут у 1870 г. 322 дзес. зямлі, вадзяны млын, сукнавальню і карчму. У 1897 г. вёскі Сталка 1 (35 двароў, 225 жыхароў, школа граматы, заезны дом) і Сталка 2 (30 двароў, 237 жыхароў), непадалёку — сядзіба Сталка 2 (1 двор, 5 жыхароў, кузня) і фальварак Сталка (1 двор, 3 жыхары, капліца) у Галянёўскай вол. Чавускага павета. 1.10.1908 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1909 г. ў в. Сталка 1 было 36 двароў, 241 жыхар, у в. Сталка 2 — 40 двароў, 305 жыхароў, у фальварку — 1 двор, 2 жыхары. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якой быў выдзелены нацыяналізаваны будынак, у 1925 г. 53 вучні. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1929 г. арганізаваны калгас імя Ф.Э. Дзяржынскага, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 35 гаспадарак, працавала кузня. З 1933 г. калгас абслугоўвала Расцянская МТС. У 1940 г. 108 двароў, 432 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы спалілі 107 дамоў. На вясковых могілках у 2 брацкіх магілах пахаваны 21 воін 385-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна. У 1977 г. на магілах пастаўлены помнікі. Пасля вайны адбудавана. У 1952 г. радыёфікавана, у 1954 г. электрыфікавана. У 1990 г. 75 гаспадарак, 164 жыхары, у складзе саўгаса «Раста» (цэнтр — в. Гарбавічы). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, былі пач. школа, клуб, б-ка, магазін. У 2007 г. працаваў магазін. Працяглая крывалінейная вуліца арыентавана мерыдыянальна ўздоўж берага ракі. Паралельна да яе ідзе яшчэ адна вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу, драўляная. Сярод жылля размешчаны грамадскія будынкі. На З — гасп. сектар.

**СТАРАСЁЛЫ** — вёска ў Пуцькаўскім с/с, за 7 км на У ад Чавусаў, 55 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Проня (прыток р. Сож). На Пн і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Чавусы—Заложжа. 7 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

На зах. ускраіне, на правым беразе р. Проня захаваўся курган канца 1-га — пач. 2-га тыс. н.э., за 0,5 км на ПдЗ ад вёскі — сараж. курганны могільнік. Гэтыя помнікі археалогіі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома ў ВКЛ з 1604 г. як с. Старасель у Пуцькаўскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі і Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць, у часовым валоданні шляхціца. З 1635 г. с. Старасёл. У 1742 г. 30 двароў, меліся млын, карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. с. Стараселле ў Чавускім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. 42 двары, 273 жыхары, дварцовая ўласнасць. У 1847 г. ў складзе

маёнтка Ялова ў Чавускім павеце, 47 двароў, 260 жыхароў, уласнасць графа М.Д. Талстога. У 1852 г. 43 двары, 242 жыхары. У 1880 г. 45 двароў, 220 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім промыслам. Паводле перапісу 1897 г. ў Чавускай вол. Чавускага павета, 67 двароў, 378 жыхароў, меўся хлебазапасны магазін. У 1909 г. 66 двароў, 392 жыхары. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сормавец». У 1940 г. 85 двароў, 255 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. гітлераўцы спалілі 84 двары. Пасля вайны адбудавана. У 1958 г. радыёфікавана, у 1962 г. электрыфікавана. У 1990 г. 42 гаспадаркі, 60 жыхароў, у складзе саўгаса «Чавускі» (цэнтр — в. Пуцькі). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы з завулкамі, арыентаванай шыротна, уздоўж ракі, потым паварочвае на ПнЗ. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая.

**СТАРАСЁЛЫ** — вёска ў Цемравіцкім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Чавусаў, 42 км ад Магілёва, 30 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ПдЗ цячэ р. Бася (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Мсціслаў. 12 гаспадарак, 20 жыхароў (2007).

За 1 км на Пд ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе левага берага р. Бася захавалася стараж. стаянка, якая сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай мінуўшчыне. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 19 ст. У 1858 г. в. Стараселле ў Чавускім павеце Магілёўскай губ., 22 рэвізскія душы. У 1897 г. ў Радамскай вол. Чавускага павета, 17 двароў, 116 жыхароў. У 1909 г. 20 двароў, 115 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сормавец», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 13 гаспадарак. З 1933 г. калгас абслугоўвала Паўлаўская МТС. У 1940 г. 85 двароў, 255 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. гітлераўцы спалілі 84 двары. Пасля вайны адбудавана. У 1953 г. радыёфікавана, у 1955 г. электрыфікавана. У 1990 г. 23 гаспадаркі, 44 жыхары, у складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Пілешчына). Размяшчалася свінагадоўчая ферма, былі пач. школа, магазін. Планіроўка Т-падобная. Да больш працяглай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі далучаецца на Пн кароткая, прамалінейная вуліца шыротнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СТАРАЯ БУДА** — вёска ў Антонаўскім с/с, за 13 км на ПдЗ ад Чавусаў, 53 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Чарнушка (прыток р. Вілейка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слаўгарад—Чавусы. 40 гаспадарак, 62 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1785 г. в. Буда ў складзе маёнтка Галавенчыцы Чавускага павета, 29 двароў, 192 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1816 г. 29 двароў, 220 жыхароў. У 1897 г. ў Чавускай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 40 двароў, 260 жыхароў. У 1909 г. 50 двароў, 288 жыхароў. У 1922 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. былі 42 вучні. З сак. 1924 г. ў БССР. 1.11.1930 г. арганізаваны калгас «Новая дружба», які першапачаткова аб'ядноўваў 45 гаспадарак. З 1933 г. калгас абслугоўвала Чавуская МТС. Працавала кузня. У 1940 г. 95 двароў, 500 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліст. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 65 жыхароў. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 513 воінаў 38-га стралк. корпуса 50-й арміі 2-га Бел. фронту, якія загінулі ў баях за вызваленне раёна. У 1975 г. пастаўлены помнік. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 74 гаспадаркі, 164 жыхары, у складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Антонаўка). Размяшчаліся фермы буйной рагатай жывёлы і свіна-



гадоўчая, установка па перапрацоўцы кармоў, машынны двор. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, да якой з З падыходзіць пад вуглом кароткая прамалінейная вуліца. Забудова традыц., драўляная, сядзібнага тыпу, пераважна двухбаковая. Гасп. сектар — на паўн. ускраіне і на З.

**СУТОКІ** — вёска ў Ваўкавіцкім с/с, за 26 км на З ад Чавусаў, 34 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, у сутоку р. Будлянка (прыток р. Раста) і р. Ржаўка (прыток р. Будлянка). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Слаўгарад, якая праходзіць паблізу вёскі. 30 гаспадарак, 40 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1585 г. як сяло ў складзе ВКЛ. У 1604 г. ў Асавецкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., 9 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1742 г. 28 двароў, мелася карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. сяло ў Старабыхаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1858 г. ў Быхаўскім павеце, 120 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 63 двары, 264 жыхары. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся бандарным, сталярным, кавальскім, шавецкім і кушнерскім промысламі. У 1897 г. ў Царкоўна-Асавецкай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 79 двароў, 512 жыхароў. Меліся хлебазапасны магазін, крама. У 1909 г. 80 двароў, 560 жыхароў. Дзейнічала школа граматы, пераўтвораная ў 1910 г. ў земскую. На базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. быў 41 вучань, дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1924 г. створана меліярацыйнае т-ва. У 1929 г. арганізаваны калгас «4-ы завяршаючы», які першапачаткова аб'ядноўваў 46 гаспадарак. У 1940 г. 82 двары, 555 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 12.7.1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У лютым 1944 г. гітлераўцы спалілі 80 двароў, загубілі 16 жыхароў. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 54 сав. воіны, у ліку іх воіны 110-й і 385-й стралк. дывізій, у брацкай магіле, што на могілках, пахаваны 235 воінаў 38-га стралк. корпуса 50-й арміі, якія загінулі ў 1944 г. ў баях за вызваленне раёна. У 1975 і 1976 гг. пастаўлены помнікі. Пасля вайны адбудавана. У 1960 г. радыёфікавана, у 1962 г. электрыфікавана. У 1990 г. 78 гаспадарак, 137 жыхароў, у складзе калгаса «Іскра» (цэнтр — в. Ваўкавічы). Размяшчаліся фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, вытв. брыгада, былі клуб, магазін. У 2007 г. працаваў магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ уздоўж р. Ржаўка. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СУШЧЫ** — вёска ў Благавіцкім с/с, за 15 км на Пн ад Чавусаў, 56 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ПнУ цячэ р. Бася (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Забалацце і далей па шашы Магілёў—Чавусы. 7 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1560 г. як сяло ў Магілёўскай вол. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1580 г. аддадзена ў пажыццёвае валоданне шляхціцу. У 1604 г. ў Пуцькаўскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі, аддадзена ў часовае валоданне шляхціцу. У 1635 г. сяло, дзярж. ўласнасць. Меўся млын. У 1785 г. ў Чавускім павеце Магілёўскага намесніцтва, 14 двароў, 57 жыхароў, уласнасць памешчыка. З 1864 г. дзейнічала сукнавальня. У 1897 г. ў Радамскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 34 двары, 188 жыхароў. Непадалёку быў хутар, 1 двор, 6 жыхароў. У 1909 г. 34 двары, 195 жыхароў. Дзейнічала земская школа. У 1918 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 49 вучняў. З сак. 1924 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. да 16.5.1960 г. цэнтр сельсавета. У 1931 г. арганізаваны

калгас «Пераходны сцяг», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 10 гаспадарак, вёска атрымала тэлеф. сувязь, пачалі дзейнічаць дзіцячыя яслі. Працавалі вадзяны млын і сукнавальня. З 1933 г. калгас абслугоўвала Чавуская МТС. У 1940 г. 43 двары, 210 жыхароў. З 22.7.1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліст. 1943 г. гітлераўцы спалілі 8 двароў, загубілі 7 жыхароў. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 69 сав. воінаў, у ліку іх воіны 238-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў 1944 г. ў баях за вызваленне раёна. У 1975 г. пастаўлены помнік. У 1952 г. радыёфікавана, у 1954 г. электрыфікавана. У 1990 г. 30 гаспадарак, 50 жыхароў, у складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Каменка). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы, былі сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СЯЛЕЦ** — вёска ў Жаліўскім с/с, за 19 км на ПнУ ад Чавусаў, 67 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пд цячэ р. Радуча (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Заложжа, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 10 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

За 1,5 км на ПдУ ад вёскі захаваўся курганны могільнік (35 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 18 ст. У 1777 г. ў Чавускім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. сяльцо ў складзе маёнтка Жаліўе Чавускага павета, 12 двароў, 105 жыхароў, уласнасць памешчыка, меліся млын, сажалка. У 1860 г. 35 двароў, 166 жыхароў, цэнтр маёнтка, уласнасць памешчыка В.А. Калантая, які меў тут у 1873 г. 323 дзес. зямлі, вадзяны млын і паром. У 1897 г. ў Радамскай вол. Чавускага павета, 32 двары, 210 жыхароў. Непадалёку быў фальварак (4 двары, 13 жыхароў), вадзяны млын. Дзейнічала паромная пераправа цераз р. Проня (Сідараў перавоз), дзе быў 1 двор, 6 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 40 двароў, 225 жыхароў, у фальварку 1 двор, 5 жыхароў. У 1922 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 50 вучняў, меўся чырвоны куток. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан». Працавала кузня. З 1933 г. калгас абслугоўвала Макрадская МТС. У 1940 г. 30 двароў, 120 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. гітлераўцы спалілі 25 двароў, загубілі 40 жыхароў. У брацкай магіле, што на могілках, пахаваны 21 сав. воін, у ліку іх воіны 330-й стралк. дывізіі, што загінулі ў 1944 г. ў баях за вызваленне раёна. У 1968 г. пастаўлены помнік. Пасля вайны адбудавана. У 1958 г. радыёфікавана, у 1962 г. электрыфікавана. У 1990 г. 28 гаспадарак, 55 жыхароў, у складзе калгаса «Звязда» (цэнтр — в. Радамля). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, устаноўка па перапрацоўцы кармоў, магазін. У 2007 г. дзейнічаў магазін. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх крывалінейных вуліц блізкай да шыротнай арыентацыі, злучаных завулкамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СЯЛЕЦ** — пасёлак у Жаліўскім с/с, за 18 км на Пн ад Чавусаў, 67 км ад Магілёва, 23 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ р. Радуча (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Заложжа, якая праходзіць непадалёку ад пасёлка. 22 гаспадаркі, 36 жыхароў (2007).

За 1,5 км на ПдУ ад пасёлка захаваўся курганны могільнік (35 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц пасёлак вядомы з пач. 20 ст. У 1909 г. фальварак Сялец у Радамскай вол. Чавускага павета, 1 двор, 5 жыхароў. У 1920-х г. тут на былых памешчыцкіх зем-



лях пачалі будавацца перасяленцы з суседніх вёсак. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан», які з 1933 г. абслугоўвала Макрадская МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што на могілках, пахаваны 21 сав. воін, у іх ліку воіны 330-й страл. дывізіі, якія загінулі ў 1944 г. ў баях за вызваленне раёна. У 1958 г. радыёфікаваны, у 1962 г. электрыфікаваны. У 1990 г. 30 гаспадарак, 85 жыхароў, у складзе калгаса «Звязда» (цэнтр — в. Радамля). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**УДОЎСК** — вёска ў Благавіцкім с/с, за 13 км на З ад Чавусаў, 35 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ПнЗ цячэ р. Плясна (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Чавусы, якая праходзіць паблізу вёскі. 11 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома ў ВКЛ з 1604 г. як сяло (11 двароў) у Благавіцкім войтаўстве Магілёўскага старства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць. У 1742 г. 6 двароў, меліся млын, шынок. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. с. Удоўска ў Чавускім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. с. Удоўская ў Чавускім павеце Магілёўскага намесніцтва, 25 двароў, 147 жыхароў, дварцовая ўласнасць. У 1897 г. ў Галянёўскай вол. Чавускага павета, 25 двароў, 166 жыхароў, пры карчме — 1 двор, 6 жыхароў. У 1909 г. 33 двары, 191 жыхар. З сак. 1924 г. ў БССР. 15.7.1931 г. арганізаваны калгас «Новы Удоўск», які першапачаткова аб'ядноўваў 8 гаспадарак, з 1933 г. яго абслугоўвала Расцянская МТС. У Вял. Айч. вайну з 10.7.1941 г. да 25.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1954 г. радыёфікавана, у 1956 г. электрыфікавана. У 1990 г. 26 гаспадарак, 40 жыхароў, у складзе калгаса «Святло Кастрычніка» (цэнтр — в. Благавічы). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх (адна прамалінейная, другая плаўна выгнутая) вуліц, арыентаваных з ПнУ на ПдЗ і злучаных завулкам і мясц. дарогай. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая.

**УСУШАК** — вёска ў Антонаўскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Чавусаў, 45 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Вілейка (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Слаўгарад. 47 гаспадарак, 90 жыхароў (2007).

За 1,3 км на Пд ад вёскі, на левым беразе р. Раста, у лесе, захаваўся курганны могільнік (3 насыпы), які сведчыць аб засяленні тутэйшых месц у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома ў ВКЛ з 1604 г. як сяло ў Гарбавіцкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць, аддадзенае ў часовае карыстанне шляхціцу. У 1742 г. ў Гарбавіцкім войтаўстве, 25 двароў. Мелася карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. сяло ў Старабыхаўскім павеце Магілёўскай губ. Гаспадары маёнтка Кучэўскія ў 1876 г. мелі тут 2046,5 дзес. зямлі, вадзяны млын і карчму. У 1880 г. ў Даўгамохскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 88 двароў, 581 жыхар. Частка вяскоўцаў займалася адыходным, кавальскім, шавецкім і кравецкім промысламі. У 1889 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у 1910 г. пабудавана памяшканне. У 1897 г. 129 двароў, 821 жыхар. Меўся хлебазапасны магазін. Непадалёку быў фальварак, 39 жыхароў, млын. У 1909 г. ў сяле 150 двароў, 910 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 4 жыхары. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 42 вучні. У 1924 г. пачала дзейнічаць хата-чытальня. З сак. 1924 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. да 16.5.1960 г. цэнтр

сельсавета. У 1920-я г. дзейнічала садова-агародніцкае т-ва. У 1931 г. вёска атрымала тэлеф. сувязь, у 1932 г. арганізаваны калгасы «1 Мая» (у 1932 г. 72 гаспадаркі) і «Чырвоны партызан» (у 1932 г. 96 гаспадарак). Мелася кузня. Дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1940 г. 176 двароў, 586 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паблізу дзейнічалі партызаны палка «Трынаццаць». Гітлераўцы ў ліст. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску, загубілі 198 жыхароў. У 3 брацкіх і 2 адзіночных магілах, што ў цэнтры вёскі і на могілках, пахаваны 109 сав. воінаў і 4 партызаны, якія загінулі ў баях супраць акупантаў. У 1965, 1968, 1973 гг. пастаўлены помнікі. Пасля вайны адбудавана. У 1952 г. ўступіў у строй радыёвузел, вёска была радыёфікавана, некалькі пазней — электрыфікавана. У 1990 г. 103 гаспадаркі, 201 жыхар, у складзе саўгаса «Галавенчыцы» (цэнтр — в. Вусце). Размяшчаліся вытв. брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, устаноўка па перапрацоўцы кармоў, былі 8-гадовая школа, клуб, б-ка, бальніца, аптэка, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, магазін. У 2007 г. дзейнічаў магазін. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі. На паўн. ускраіне — гасп. сектар.



*М.І.Івуценка.*

**УТРА** — вёска ў Гарбавіцкім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Чавусаў, 15 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На зах. ускраіне цячэ р. Рудзея (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Чавусы. 22 гаспадаркі, 35 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. 25.6.1931 г. арганізаваны калгас «Утра», які першапачаткова аб'ядноўваў 17 сямей. У 1933 г. калгас абслугоўвала Расцянская МТС. У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1952 г. радыёфікавана, у 1954 г. электрыфікавана. У 1990 г. 38 гаспадарак, 85 жыхароў, у складзе калгаса «Серп і молат» (цэнтр — в. Лёўкаўшчына). Размяшчаліся вытв. брыгада і свінагадоўчая ферма. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх, прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, забудаваных двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма поўнага кавалера ордэна Славы М.І.Івуценкі (1921—45), які вызначыўся ў Вял. Айч. вайну ў баях на тэр. Польшчы і Германіі.

**ХАМЯНКІ** — вёска ў Антонаўскім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Чавусаў, 65 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Чарнушка (прыток р. Вілейка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Усушак, Доўгі Мох і далей па шашы Магілёў—Слаўгарад. 29 гаспадарак, 63 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома ў ВКЛ з 1560 г. як с. Хаменькі, 10 дымоў, у Магілёўскай вол., дзярж. ўласнасць. У 1580 г. ў Магілёўскай вол.-старостве Аршанскага павета Віцебскага ваяв., аддадзена ў пажыццёвае валоданне памешчыку. У 1604 г. сяло апусцела, уваходзіла ў Чавускае войтаўства Магілёўскага староства-эканоміі, было дзярж. ўласнасцю. У 1742 г. абруб Хамянка. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1858 г. ў Быхаўскім павеце, 179 жыхароў, уласнасць памешчыка В.С.Шаміёта, які меў тут у 1862 г. 518,5 дзес. зямлі і вадзяны млын. У 1897 г. ў Даўгамохскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 62 двары, 393 жыхары. Меўся хлебазапасны магазін. У фальварку, што быў паблізу, 1 двор, 7 жыхароў, млын. У 1909 г. ў сяле 72 двары, 447 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 4 жыхары. У 1911 г. адкрыта земская школа. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 54 вучні, дзейнічаў гурток па ліквідацыі



непісьменнасці сярод дарослых, размяшчалася ў нацыяналізаваным будынку. У 1920-я г. дзейнічала садова-агародніцкае т-ва. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Верны шлях», які першапачаткова аб'ядноўваў 64 гаспадаркі. З 1933 г. калгас абслугоўвала Чавуская МТС. У 1940 г. 120 двароў, 504 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы спалілі 113 двароў, загубілі 68 жыхароў. У брацкай магіле, што ва ўрочышчы Пушча, пахаваны 350 сав. воінаў, у брацкай магіле ў цэнтры вёскі — 154 воіны 38-га стралк. корпуса 50-й арміі 2-га Бел. фронту, якія загінулі ў 1944 г. ў баях за вызваленне раёна. У 1963, 1970, 1975 гг. пастаўлены помнікі. Пасля вайны адбудавана. У 1956 г. радыёфікавана, у 1958 г. электрыфікавана. У 1990 г. 75 гаспадарак, 144 жыхары, у складзе саўгаса «Галавенчыцы» (цэнтр — в. Вусце). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, ёсць пач. школа і магазін. Планіровачна складаецца з 2 плаўна выгнутых вуліц, арыентаваных з ПнУ на ПдЗ. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая. На Пд — гасп. сектар.

**ХАРКАЎКА** — вёска ў Вайнілаўскім с/с, за 21 км на ПдЗ ад Чавусаў, 36 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Раста (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вайнілавы і далей па шашы Магілёў—Чавусы. 22 гаспадаркі, 37 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чавускім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ў Чавускім павеце Магілёўскага намесніцтва, дварцовая ўласнасць. Памешчыкі Жураўскія мелі тут у 1872 г. 595 дзес. зямлі, вадзяны млын, сукнавальню і карчму. Паводле перапісу 1897 г. засценак у Галянёўскай вол. Чавускага павета, 5 двароў, 54 жыхары. У 1909 г. 9 двароў, 81 жыхар. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1931 г. арганізаваны саўгас. У 1940 г. 35 двароў, 187 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 10.7.1941 г. да 25.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У цэнтры вёскі ў брацкай магіле пахаваны 3 чырвонаармейцы, якія загінулі ў 1941 г. У кастр. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 2 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1952 г. радыёфікавана, у 1954 г. электрыфікавана. У 1990 г. 33 гаспадаркі, 61 жыхар, у складзе племзавода імя XVIII партз'езда (цэнтр — в. Вайнілы). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы, быў магазін. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх прамалінейных вуліц, амаль шыротнай арыентацыі, да якіх на З далучаецца трэцяя кароткая вуліца, мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ХАЎМЫ** — вёска ў Цемравіцкім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Чавусаў, 35 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У мяжуе з лесам і цячэ р. Плясна (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Чавусы. 28 гаспадарак, 45 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома ў ВКЛ з 1604 г. як сяло ў Благавіцкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць. У 1635 г. абруб Плясна. У 1643 г. с. Плясна (яно ж Халмы). У 1742 г. с. Халмы (яно ж Плясна) налічвала 3 гаспадаркі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. ў Чавускім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ў Чавускім павеце Магілёўскага намесніцтва, 10 двароў, 80 жыхароў, дварцовая ўласнасць. У 1847 г. ў складзе маёнтка Красніца ў Чавускім павеце Магілёўскай губ., 15 двароў, 100 жыхароў. У 1852 г. 13 двароў, 105 жыхароў. У 1897 г. ў Гладкаўскай вол. Чавускага павета, 29 двароў, 183 жыхары. У 1909 г. 31 двор, 129 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. да 8.7.1960 г. цэнтр сельсавета. У 1930 г. арганізаваны калгас «Свабод-

ны», які з 1933 г. абслугоўвала Паўлаўская МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 25.6.1944 г. ў час Магілёўскай аперацыі стралк. дывізія пад камандаваннем ген.-маёра І.С.Лазарэнкі пасняхова адбіла варожыя атакі каля вёскі. І.С.Лазарэнка, які асабіста з гарматы падбіў некалькі варожых танкаў, загінуў у гэтым баі. За здзейсненыя подзвігі ён пасмяротна ўдастоены звання Героя Сав. Саюза. Пахаваны ў Магілёве, дзе яго імем названы вуліца і сквер. У 1954 г. радыёфікавана, у 1956 г. электрыфікавана. У 1990 г. 68 гаспадарак, 118 жыхароў, у складзе калгаса «Перадавік» (цэнтр — в. Васькавічы). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, установа па перапрацоўцы кармоў, быў магазін. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з Пд і У далучаюцца кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова сядзібнага тыпу, драўляная, двухбаковая.

**ХАЦЕТАВА** — вёска ў Гарбавіцкім с/с, за 23 км на З ад Чавусаў, 35 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Раста (прыток р. Проня), а праз вёску — ручай (прыток р. Раста). На У і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Гарбавічы і далей па шашы Магілёў—Чавусы. 45 гаспадарак, 76 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома ў ВКЛ з 1560 г. як сяло ў Магілёўскай вол., дзярж. ўласнасць. У 1581 г. дзейнічала царква. У 1584 г. с. Хацетаў у Магілёўскай вол. Аршанскага павета Віцебскага ваяв. У 1604 г. сяло ў Гарбавіцкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., у часовым валоданні шляхціца. У 1635 г. 30 двароў, дзярж. ўласнасць, мелася карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Чавускім павеце Магілёўскага намесніцтва, 15 двароў, 113 жыхароў, дварцовая ўласнасць. У 1858 г. 62 рэвізскія душы, меўся шынок. У 1860 г. 14 двароў, 92 жыхары, уласнасць памешчыка А.С.Маралеўскага, які меў тут у 1861 г. 138 дзес. зямлі і карчму. Другі памешчык П.І.Таманскі меў у 1869 г. ў вёсках Хацетава і Антонаўка 1152 дзес. зямлі і карчму. У 1892 г. адкрыта царк.-прыходская школа. У 1897 г. ў Галянёўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 19 двароў, 105 жыхароў. Штогод 20 ліп. праводзіўся кірмаш. Непадалёку былі 2 фальваркі (2 двары, 17 жыхароў, ветраны млын), 2 сядзібы (2 двары, 17 жыхароў), хутар (1 двор, 5 жыхароў) і на месцы былой карчмы 2 двары, 10 жыхароў. Апрача гэтага каля р. Раста адасоблена існавалі фальварак (2 двары, 3 жыхары), урочышча (1 двор, 7 жыхароў), вадзяны млын і заезны дом. З 1907 г. дзейнічала аднакласная царк.-прыходская школа. У 1909 г. ў сяле 34 двары, 324 жыхары, у вёсцы — 12 двароў, 90 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. быў 61 вучань, дзейнічалі клуб, хата-чытальня, камсамольская ячэйка. 10.5.1919 г. створана с.-г. арцель «Кастрычнік». З сак. 1924 г. ў БССР. З 5.8.1929 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. 1.6.1931 г. арганізаваны калгас імя Камінтэрна, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 21 гаспадарку. Працавала кузня. У 1940 г. 112 двароў, 450 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1943 г. гітлераўцы спалілі 20 двароў, загубілі 1 жыхара. Пасля вайны адбудавана. У 1952 г. радыёфікавана, у 1954 г. электрыфікавана. У 1990 г. 106 гаспадарак, 202 жыхары, у складзе саўгаса «Раста» (цэнтр — в. Гарбавічы). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, свінагадоўчы комплекс, дзейнічалі пач. школа, клуб, б-ка, грамадская лазня, магазін. У 2007 г. працаваў магазін. Планіровачна складаецца з 3 плаўна выгнутых вуліц, арыентаваных з ПнЗ на ПнУ, злучаных плаўна выгнутай вуліцай і мясц. дарогай. Забудавана двухбакова, шчыль-



на, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Сярод жылой забудовы — грамадскія будынкі. Гасп. сектар — на У і Пд.

**ХАЦКАВІЧЫ** (да 30.11.1976 г. вёскі Хацкавічы 1 і Хацкавічы 2) — вёска ў Гарбавіцкім с/с, за 28 км на З ад Чавусаў, 24 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Ржаўка (прыток р. Будлянка). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Слаўгарад, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 117 гаспадарак, 263 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома ў ВКЛ з 1560 г. як сяльцо Хацкава ў Магілёўскай вол., шляхецкая ўласнасць. У 1604 г. сяло ў Магілёўскай вол. Аршанскага павета. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. с. Хацьковічы ў Чавускім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ў Чавускім павеце Магілёўскага намесніцтва, 26 двароў, 256 жыхароў, уласнасць памешчыка, меліся 2 млыны, 2 сажалкі. У 1858 г. дзейнічаў шынок. Памешчык В.С.Гатоўскі меў у 1846 г. ў сёлах Хацкавічы і Наваселле 369 дзес. зямлі і карчму. У 1880 г. 34 двары, 126 жыхароў. Частка сялян займалася шавецкім промыслам. У 1888 г. адкрыта школа. У 1897 г. вёскі Хацкавічы 1 (29 двароў, 209 жыхароў, хлебазапасны магазін) і Хацкавічы 2 (18 двароў, 122 жыхары). Непадалёку быў фальварак (2 двары, 7 жыхароў). У 1909 г. ў в. Хацкавічы 1 (Вялікія) 36 двароў, 257 жыхароў, школа граматы, вятрак, у в. Хацкавічы 2 (Малыя) 21 двор, 161 жыхар, у фальварку 1 двор, 6 жыхароў. У 1921 г. ў былым маёнтку створана с.-г. арцель. На базе дарэв. пачала дзейнічаць прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 60 вучняў і драматычны гурток. З 20.8.1924 г. да 16.5.1960 г. цэнтр сельсавета. З сак. 1924 г. ў БССР. 7.11.1929 г. ў в. Хацкавічы 2 арганізаваны калгас імя 12-годдзя Кастрычніка, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 23 гаспадаркі. Мелася кузня. У Вял. Айч. вайну з 12.7.1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі вёску, загубілі 14 жыхароў. У брацкай магіле ў цэнтры вёскі і 3 адзіночных магілах, што на могілках, пахаваны 23 сав. воіны, у іх ліку воіны 139-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў баях за вызваленне вёскі. У 1965 і 1970 гг. пастаўлены помнікі. Пасля вайны адбудавана. У 1945 г. да вёскі далучаны пас. Кіркораўка. У 1990 г. цэнтр саўгаса «Магілёў-Сад», 159 гаспадарак, 371 жыхар. У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, машынны двор, піларама, млын, ветэрынарная аптэка, сярэдняя школа, дзіцячы сад-яслі, клуб, б-ка, урачэбная амбулаторыя, аддз. ашчаднага банка, фельч.-акушэрскі пункт, аптэка, аддз. сувязі, гандл. цэнтр, аўтаматычная тэлеф. станцыя, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. У 2007 г. цэнтр ТАА «Дусен», сярэдняя школа, дзіцячы сад-яслі, клуб, б-ка, аддз. «Беларусбанка», фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, гандл. цэнтр, аўтаматычная тэлеф. станцыя. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1980 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачна складаецца з 2 частак: паўд. (2 прамалінейныя вуліцы, арыентаваныя з ПдУ на ПнЗ і злучаныя кароткай вуліцай і завулкамі) і паўн. (3 прамалінейныя вуліцы такой жа арыентацыі, злучаныя завулкамі). Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Каля дарогі, якая злучае абедзве часткі вёскі, размешчаны грамадскі цэнтр, ад якога на Пн ідзе новая вуліца, забудаваная тыпавымі мураванымі адна-, двух- і шматкватэрнымі дамамі. Гасп. сектар — на З.

**ХІЛЬКАВІЧЫ** — вёска ў Цемравіцкім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Чавусаў, 32 км ад Магілёва, 29 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ПнУ цячэ р. Бася (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Мсціслаў, якая праходзіць праз вёску. 24 гаспадаркі, 42 жыхары (2007).

За 1 км на ПдУ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Бася захавалася стаянка каменнага веку, што

сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома ў ВКЛ з 1604 г. як с. Хількі (16 двароў) у Бардзілаўскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. уласнасць. У 1742 г. 19 двароў. Меліся млын, карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. с. Фількавічы ў Чавускім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. 22 двары, 208 жыхароў, уласнасць памешчыка, меліся млын, сукнавальня. У 1897 г. ў Гладкаўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 31 двор, 202 жыхары. У 1909 г. 32 двары, 281 жыхар. У 1918 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, якая размясцілася ў нацыяналізаваным будынку, у 1925 г. 106 вучняў. З сак. 1924 г. ў БССР. 13.10.1930 г. арганізаваны калгас імя 13-га Кастрычніка, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 13 гаспадарак, з 1933 г. абслугоўваўся Паўлавіцкай МТС. У 1940 г. 63 двары, 258 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 8 жыхароў. У брацкай магіле, што на вясковых могілках, пахаваны 89 воінаў, у іх ліку воіны 199-й і 290-й стралк. дывізій, якія загінулі ў 1943—44 гг. на р. Проня. У 1975 г. пастаўлены помнік. Пасля вайны адбудавана. У 1958 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1990 г. 47 гаспадарак, 94 жыхары, у складзе калгаса «50 гадоў БССР» (цэнтр — в. Сласцёны). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, ветэрынарны ўчастак, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з зігзагападобнай вуліцы блізкай да шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ХОНЬКАВІЧЫ** — вёска ў Цемравіцкім с/с, за 27 км на ПнЗ ад Чавусаў, 36 км ад Магілёва, 30 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ПдЗ цячэ р. Бася (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Мсціслаў, якая праходзіць праз вёску. 35 гаспадарак, 48 жыхароў (2007).

За 1 км на З ад вёскі, на левым беразе р. Бася захаваўся курганны могільнік (2 насыпы), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома ў ВКЛ з 1586 г. як сяло ў Магілёўскай вол., дзярж. уласнасць. У 1604 г. 58 двароў, у Бардзілаўскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. уласнасць, меўся млын на р. Бася. У 1635 г. 52 двары. У 1742 г. дзейнічала карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў складзе маёнтка Хількавічы Чавускага павета, 44 двары, 385 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1897 г. 55 двароў, 390 жыхароў. Дзейнічалі школа граматы, хлебазапасны магазін, кузня. Побач быў аднайменны хутар, 2 двары, 10 жыхароў. У 1907 г. адкрыта аднакласная царк.-прыходская школа. У 1909 г. ў сяле 60 двароў, 475 жыхароў, на хутары 1 двор, 6 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1930 г. арганізаваны калгас «Юны ленінец», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 24 гаспадаркі, з 1934 г. яго абслугоўвала Макрадская МТС. У 1940 г. 128 двароў, 430 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. гітлераўцы спалілі 105 двароў, загубілі 5 жыхароў. У 1953 г. радыёфікавана, у 1955 г. электрыфікавана. У 1990 г. 83 гаспадаркі, 148 жыхароў, у складзе калгаса «50 гадоў БССР» (цэнтр — в. Сласцёны). Размяшчаліся вытв. брыгады, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, установка па перапрацоўцы кармоў, магазін. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд — гасп. сектар.

**ЦЕМНАЛЕССЕ** — вёска ў Благавіцкім с/с, за 19 км на ПнЗ ад Чавусаў, 35 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Праз



вёску цячэ ручай (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Чавусы. 9 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1777 г. в. Траслівец у Чавускім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. сяльцо (15 жыхароў, млын) і вёска (5 двароў, 46 жыхароў) у Чавускім павеце Магілёўскага намесніцтва, уласнасць памешчыка. У 1909 г. ў Галянёўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 23 двары, 114 жыхароў. У 1934 г. арганізаваны калгас «7-ы з'езд Саветаў», які з 1933 г. абслугоўвала Расцянская МТС. У 1940 г. 53 двары, 280 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 10.7.1941 г. да 25.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 48 двароў. Пасля вайны адбудавана. У 1956 г. радыёфікавана, у 1958 г. электрыфікавана. У 1990 г. 28 гаспадарак, 49 жыхароў, у складзе калгаса «Святло Кастрычніка» (цэнтр — в. Благавічы). Планіровачна складаецца з 2 (адна плаўна выгнутая, другая прамалінейная) вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і забудаваных двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЦЕМРАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Цемравіцкага с/с (з 25.12.1964), за 13 км на ПнЗ ад Чавусаў, 42 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Вёску ў мерыдыянальным напрамку перасякае р. Рэўза (прыток р. Бася). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Каменка, Забалацце і далей па шашы Магілёў—Чавусы. 53 гаспадаркі, 98 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома ў ВКЛ з 1604 г. як сяло, 19 двароў, у Пуцькаўскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. уласнасць. У 1635 г. 39 двароў, меўся млын. У 1742 г. 12 гаспадарак, дзейнічала карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Чавускім павеце Магілёўскага намесніцтва, 30 двароў, 335 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 130 рэвізскіх душ, у 1880 г. 70 двароў, 375 жыхароў. Апрача земляробства сяляне займаліся кравецкім і іншымі промысламі. У 1893 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1897 г. ў Гладкаўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 80 двароў, 502 жыхары. Меўся хлебазапасны магазін. У 1907 г. ў школе навучалася 60 хлопчыкаў і 14 дзяўчынак. У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама. У 1909 г. 86 двароў, 615 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 54 вучні. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перамога», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 10 гаспадарак. У 1940 г. ў вёсцы 113 двароў, 430 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1944 г. гітлераўцы спалілі 12 двароў, загубілі 23 жыхары. У 2 брацкіх магілах, што на вясковых могілках, пахаваны 12 сав. воінаў, у іх ліку воіны 64-й і 369-й стралк. дывізій, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях на р. Проня. Пасля вайны адбудавана. У 1945 г. да вёскі далучаны пас. Цемравічы, у 1976 г. — в. Пярэспа. У 1990 г. 95 гаспадарак, 192 жыхары, у складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Пілешчына). Размяшчаліся вытв. брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, лесапільня, устаноўка па перапрацоўцы кармоў, былі пач. школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, гандл. цэнтр, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Планіровачна складаецца з 2 размежаваных ракой вуліц (усх. — дугападобная, зах. — амаль прамалінейная з завулкамі, былая в. Пярэспа), арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі. На У ад сялібнай тэр. — сад, на ПдЗ — гасп. сектар.

У склад Цемравіцкага с/с уваходзяць 26 населеных пунктаў.

**ЦЁПЛАЕ** — вёска ў Дужаўскім с/с, за 25 км ад Чавусаў, 58 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Проня (прыток р. Сож). Праз вёску цячэ ручай — яе прыток. Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Слаўгарад, якая праходзіць праз вёску. 40 гаспадарак, 74 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома ў ВКЛ з 1560 г. як сяло (6 дымоў) у Магілёўскай вол., дзярж. ўласнасць. У 1571 г. аддадзена ў часовае валоданне шляхціцу, у 1580 г. — у пажыццёвае валоданне памешчыку. У 1604 г. ў Чавускім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1848 г. ў Быхаўскім павеце, 32 двары, мелася драўляная царква. У 1880 г. ў Даўгамохскай вол. Быхаўскага павета, 56 двароў, 327 жыхароў. Апрача земляробства сяляне займаліся адыходным, кавальскім, кравецкім і кушнерскім промысламі. У 1897 г. 87 двароў, 566 жыхароў, меліся школа граматы, хлебазапасны магазін, піцейны дом, царква. Непадалёку быў фальварак (1 двор, 12 жыхароў). У гэтым жа годзе адкрыта царк.-прыходская школа. У 1909 г. ў сяле 106 двароў, 642 жыхары, у маёнтку — 1 двор, 2 жыхары. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. быў 81 вучань. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1930 г. арганізаваны калгас «Пралетарый», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 31 гаспадарку, працавала кузня. У 1940 г. 126 двароў, 760 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 2.12.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У снеж. 1943 г. гітлераўцы спалілі 106 двароў, загубілі 38 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 86 гаспадарак, 156 жыхароў, у складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Дужаўка). Размяшчаліся вытв. брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, устаноўка па перапрацоўцы кармоў, быў клуб, магазін. У 2007 г. дзейнічаў магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, размежаваных ручаём вуліц шыротнай арыентацыі, якія на З перасякае шаша. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На З — гасп. сектар.



*У.Л.Рагуцкі.*

Радзіма бел. паэта У.Л.Рагуцкага (1917—41) і ўдзельніка барацьбы за ўмацаванне сав. улады ў зах. раёнах Беларусі І.М.Белавусава (1910—44).

**ЦІМОХАЎКА** — вёска ў Благавіцкім с/с, за 8 км на ПнЗ ад Чавусаў, 49 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Рэўза (прыток р. Бася). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Забалацце і далей па шашы Магілёў—Чавусы. 30 гаспадарак, 38 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1643 г. сяло ў Пуцькаўскім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета, дзярж. ўласнасць. У 1742 г. 1 двор у Пуцькаўскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1858 г. ў Чавускім павеце Магілёўскай губ., 42 рэвізскія душы. Памешчык І.Ф.Даўнаровіч меў тут у 1859 г. 131 дзес. зямлі і карчму. У 1860 г. 10 двароў, 74 жыхары, цэнтр маёнтка, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 21 двор, 75 жыхароў. Частка сялян займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. ў Гладкаўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 28 двароў, 173 жыхары. У фальварку, што быў побач — 1 двор, 14 жыхароў. У 1909 г. ў сяле 29 двароў, 188 жыхароў, у фальварку 1 двор, 1 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас «Сталінскі шлях», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 9 гаспадарак. Працавала ваўначоска. З 1933 г. калгас абслугоўвала Чавуская МТС. У Вял. Айч. вайну з 22.7.1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На могілках пахаваны 2 воіны 139-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў баі за вызваленне



вёскі. У 1985 г. пастаўлены помнік. У 1952 г. радыёфікавана, у 1954 г. электрыфікавана. У 1990 г. 41 гаспадарка, 74 жыхары, у складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Каменка). Размяшчаліся фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, быў клуб. Планіровачна складаецца з 2 вуліц (адна працяглая, амаль прамалінейная, другая кароткая), арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і забудаваных двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЧАРНАЎЦЫ** — вёска ў Благавіцкім с/с, за 18 км на Пн ад Чавусаў, 66 км ад Магілёва, 23 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Бася (прыток р. Проня). На ПнЗ і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Чавусы—Заложжа. 13 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1635 г. с. Чэрна (42 двары) у Бардзілаўскім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета, дзярж. уласнасць. У 1742 г. 16 двароў, меліся сукнавальня і карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Чавускім павеце, 25 двароў, 278 жыхароў, уласнасць памешчыка. Меўся млын. У 1858 г. 73 рэвізскія душы. У 1897 г. ў Радамскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 43 двары, 271 жыхар. Непадалёку быў заезны дом (1 двор, 8 жыхароў). У 1907 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1909 г. 42 двары, 283 жыхары. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 38 вучняў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны будаўнік», у які першапачаткова ўваходзіла 13 гаспадарак. Працавала кузня. З 1934 г. калгас абслугоўвала Макрадская МТС. У Вял. Айч. вайну з 22.7.1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1940 г. 46 двароў, 240 жыхароў. У ліст. 1943 г. гітлераўцы спалілі 9 двароў, загубілі 2 жыхароў. У 1952 г. радыёфікавана, у 1954 г. электрыфікавана. У 1990 г. 38 гаспадарак, 64 жыхары, у складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Каменка). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, былі клуб, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ. Забудова сядзібнага тыпу, двухбаковая, драўляная, шчыльная.

**ЧАРЭНКІ** — вёска ў Ваўкавіцкім с/с, за 28 км на Пд ад Чавусаў, 47 км ад Магілёва, 23 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ПнУ цячэ р. Раста (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Слаўгарад, якая праходзіць паблізу вёскі. 62 гаспадаркі, 154 жыхары (2007).

На паўд.-ўсх. ускраіне, на правым беразе р. Раста захавалася гарадзішча 1-й пал. 1-га тыс. і 12—13 ст., якое сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1635 г. с. Кішыцы (яно ж Чарэнкі) у Асавецкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета, 22 двары, дзярж. ўласнасць. У 1742 г. с. Чарэнкі (яно ж Кішчына) налічвала 21 двор, меўся шынок. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1858 г. 74 жыхары мужчынскага полу, у складзе маёнтка Мошкі Быхаўскага павета, уласнасць памешчыка. У 1880 г. ў Даўгамохскай вол. Быхаўскага павета, 39 двароў, 155 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася шавецкім і кравецкім промысламі. У 1897 г. 49 двароў, 356 жыхароў, меліся школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 58 двароў, 390 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Іскра Ільіча». Працавала кузня. У 1940 г. 64 двары, 320 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 12.7.1941 г. да 2.12.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліст. 1943 г. гітлераўцы спалілі 58 двароў, загубілі 37 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. цэнтр калгаса імя Ф.Э.Дзяржынскага, 68 гаспадарак, 169 жыхароў. У вёсцы размяшчаліся вытв.

брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, пiларама, машынны двор, устаноўка па перапрацоўцы кармоў, клуб, аддз. сувязі, аддз. ашчаднага банка, фельч.-акушэрскі пункт, аўтаматычная тэлеф. станцыя. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1977 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачна складаецца з крывалінейнай, шыротнай арыентацыі вуліцы, ад якой на Пн адыходзіць адна, на Пд — 3 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова сядзібнага тыпу, пераважна драўляная, у асн. двухбаковая. На З — адм.-грамадскі цэнтр і новая вуліца, забудаваная адна- і двухкватэрнымі мураванымі дамамі. Вытв. сектар — на ПдУ.

**ЧЫГРЫНАЎКА** — вёска ў Пуцькаўскім с/с, за 25 км на ПнУ ад Чавусаў, 73 км ад Магілёва, 30 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Саладзец (прыток р. Проня). На З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Асінаўка і далей па шашы Чавусы—Мсціслаў. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1785 г. в. Чыгірынка ў Чавускім павеце, 10 двароў, 117 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 48 рэвізскіх душ, меўся млын. Памешчык меў у вёсках Чыгрынаўка і Вярба 1856 дзес. зямлі. Памешчык І.А.Станкевіч меў у вёсцы ў 1856 г. 292 дзес. зямлі, карчму і вадзяны млын. У 1860 г. 16 двароў, 86 жыхароў, у складзе аднайменнага маёнтка. У 1897 г. ў Чавускай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 50 двароў, 266 жыхароў. У фальварку, што быў паблізу, у гэты час было 2 двары, 2 жыхары, у выселку Чыгрынаўшчына — 1 двор, 9 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 40 двароў, 249 жыхароў, у выселку 1 двор, 9 жыхароў. У 1914 г. адкрыта земская школа. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1927 г. было 72 вучні, дзейнічала хата-чытальня, гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1929 г. арганізаваны калгас «Іскра», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 35 гаспадарак. У 1940 г. 44 двары, 219 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 15.7.1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 2 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1959 г. радыёфікавана, у 1962 г. электрыфікавана. У 1990 г. 20 гаспадарак, 42 жыхары, у складзе саўгаса «Асінаўскі» (цэнтр — в. Асінаўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, шыротнай арыентацыі вуліцы, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЧЫЖЫ** — вёска ў Жаліўскім с/с, за 19 км на Пн ад Чавусаў, 67 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Вёску перасякае р. Радуча (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Заложжа, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 8 гаспадарак, 14 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чавускім павеце. У 1858 г. 30 рэвізскіх душ. У 1880 г. 12 двароў, 126 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся кушнерскім промыслам. У 1897 г. ў Радамскай воласці Чавускага павета, 8 двароў, 62 жыхары. Непадалёку была аколіца, 12 двароў, 77 жыхароў. У 1909 г. 19 двароў, 65 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас, які з 1933 г. абслугоўвала Макрадская МТС. У 1940 г. 20 двароў, 80 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1944 г. гітлераўцы спалілі 16 двароў. Пасля вайны адбудавана. У 1959 г. радыёфікавана, у 1960 г. электрыфікавана. У 1990 г. 18 гаспадарак, 31 жыхар, у складзе калгаса «Звязда» (цэнтр — в. Радамля). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудавана пераважна двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЧЫРВОНАЯ ПАЛЯНА** — пасёлак у Ваўкавіцкім с/с, за 27 км на ПдЗ ад Ча-



вусаў, 38 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Раста (прыток р. Проня). Абкружана лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ваўкавічы і далей па шашы Магілёў—Слаўгарад. 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. З сак. 1924 г. ў БССР. 1.12.1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная паляна», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 19 гаспадарак, з 1933 г. яго абслугоўвала Чавуская МТС. У 1940 г. 35 двароў, 190 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 12.7.1941 г. да 2.12.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі пасёлак, загубілі 44 жыхары. Пасля вайны адбудаваны. У 1960 г. радыёфікаваны, у 1962 г. электрыфікаваны. У 1990 г. 22 гаспадаркі, 38 жыхароў, у складзе калгаса імя Ф.Э.Дзяржынскага (цэнтр — в. Чарэнкі). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай пераважна аднабакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ШАПЯРЭВА** — вёска ў Антонаўскім с/с, за 5 км на Пд ад Чавусаў, 53 км ад Магілёва, 2 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У мяжуе з лесам, на Пн праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Галачэва і далей па шашы Чавусы—Слаўгарад. 17 гаспадарак, 37 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома ў ВКЛ з 1604 г. як с. Шапірава (7 двароў) у Чавускім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць. У 1635 г. с. Шаперава ў Благавіцкім войтаўстве. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. 17 двароў, 81 жыхар, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 68 рэвізскіх душ, мелася карчма. У 1880 г. 30 двароў, 168 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася стальмашным, бандарным і кравецкім промысламі. У 1897 г. ў Чавускай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 34 двары, 218 жыхароў. У пасёлку, што быў побач, 2 двары, 19 жыхароў. У час 1-й рус. рэвалюцыі ў вёсцы адбыліся антыўрадавыя выступленні. У чэрв. 1910 г. сяляне правялі высечку памешчыцкага лесу. У 1909 г. ў сяле 40 двароў, 223 жыхары, на хутары 1 двор, 7 жыхароў. У 1918 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 67 вучняў. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас, які з 1933 г. абслугоўвала Чавуская МТС. У 1940 г. 71 двор, 253 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліст. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 4 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1950 г. радыёфікавана, у 1952 г. электрыфікавана. У 1990 г. 52 гаспадаркі, 93 жыхары, у складзе калгаса «Пяцігодка» (цэнтр — в. Галачэва). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы, быў клуб. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЮШКАВІЧЫ** — вёска ў Антонаўскім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Чавусаў, 55 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Вілейка (прыток р. Раста). На Пд і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Слаўгарад. 13 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

За 1 км на Пд ад вёскі, абапал дарогі ў в. Зялёная Рошча захаваўся курганны могільнік (10 насыпаў), які сведчыць аб засяленні тутэйшых месц у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома ў ВКЛ з 1604 г., калі яна налічвала 9 двароў, у Гарбавіцкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць, меўся вадзяны млын. У 1635 г. 10 двароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас.

імперыі. У 1857 г. ў Чавускім павеце, уласнасць памешчыка. У 1897 г. вёска (52 двары, 305 жыхароў, хлебазапасны магазін) і выселак (1 двор, 7 жыхароў) у Даўгамохскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 56 двароў, 332 жыхары. У 1911 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 50 вучняў, дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З сак. 1924 г. ў БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Неперапаможны», які першапачаткова аб'ядноўваў 7 гаспадарак, з 1933 г. яго абслугоўвала Чавуская МТС. У 1940 г. 97 двароў. 360 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 24.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. гітлераўцы спалілі 95 двароў, загубілі 12 жыхароў. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 109 сав. воінаў, у іх ліку воіны 110-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў баях за вызваленне раёна. У 1966 г. пастаўлены помнік. Пасля вайны адбудавана. У 1956 г. радыёфікавана, у 1958 г. электрыфікавана. У 1990 г. 55 гаспадарак, 91 жыхар, у складзе саўгаса «Галавенчыцы» (цэнтр — в. Вусце). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з 2 вуліц (адна працяглая, плаўна выгнутая, другая кароткая, прамалінейная), размежаваных ракой і арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 1, воп. 1, спр. 26, 33; ф. 4, воп. 28, спр. 102, 578; ф. 6, воп. 1, спр. 541, 2533, 2553; ф. 38, воп. 1, спр. 322; ф. 42, воп. 1, спр. 115 б, 930, 942, 1381, 1385; воп. 2, спр. 322, 1158, 3461, 3467, 4122—4124, 4129, 4132, 4151, 4155, 4178, 4180, 4185, 4188, 4189, 4329—4331, 4333—4349, 4351—4379, 4668, 5377; ф. 46, воп. 1, т. 2, спр. 519; ф. 48, воп. 1, спр. 2271, 2861, 2962, 3918, 4935; ф. 141, воп. 1, спр. 177, 199; ф. 165, воп. 1, спр. 13, 58; ф. 251, воп. 1, спр. 264; ф. 258, воп. 1, спр. 87; ф. 300, воп. 1, спр. 226; ф. 314, воп. 1, спр. 447; ф. 334, воп. 1, спр. 367, 447, 500, 519; воп. 2, спр. 37, 470; ф. 338, спр. 135, 322; ф. 1024, воп. 1, спр. 831; ф. 2151, воп. 1, спр. 179.

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, КМФ-5, воп. 1, спр. 467а, 2504, 2505, 4679; ф. 1287, воп. 1, спр. 4382; ф. 1290, воп. 11, спр. 1341, 1375; ф. 1729, воп. 1, спр. 78; ф. 2014, воп. 1, спр. 9б, 68, 105, 146, 147, 247, 401, 555; ф. 2151, воп. 1, спр. 81, 179, 181, 189, 190, 212; воп. 2, спр. 2; ф. 2189, воп. 1, спр. 299; ф. 2221, воп. 1, спр. 54, 55, 61—64, 68.

Дзяржаўны архіў Магілёўскай вобласці, ф. 39, воп. 1а, спр. 41; ф. 6592, воп. 1, спр. 17.

Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў, ф. 389, воп. 1, спр. 41, 50, 65, 73; ф. 1319, воп. 1, спр. 1022.

Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. ДП-00, 1906, спр. 700, ч. 17; ф. 577, воп. 19, спр. 8, 13, 16, 18, 19, 45, 1469, 1476—1478, 1480, 1482, 1487, 1493, 1495, 1500, 1501, 1503, 1509, 1512, 1515, 1531, 1533, 1538, 1539, 1541, 1545, 1546, 1548, 1550, 1551, 1559, 1654; ф. 822, воп. 11, спр. 872в; воп. 12, спр. 2589, 2616; ф. 1290, воп. 11, спр. 1205, 1341, 1375; ф. 1350, воп. 312, спр. 95, 96.

Архіў Расійскай акадэміі навук: Пецярбургскае аддз., ф. 24, воп. 1, спр. 16; ф. 30, воп. 2, спр. 30; ф. 52, воп. 1, спр. 263.

Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы, ф. ДА, спр. 3236, 3280, 3806; КМФ-1, воп. 2, спр. 467; ф. 1135, воп. 4, спр. 509.

Дзяржаўны гістарычны архіў Украіны, ф. 317, воп. 1, спр. 3657, 4460; ф. 318, воп. 1, спр. 941.

Архіў рукапісаў і рэдкіх кніг Расійскай Нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбургу, ф. Эрм., спр. 235; ф. IV, 768.

Аддзел рукапісаў Навуковай бібліятэкі Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта, ф. 4, воп. 1, спр. 4914.




Аддзел рукапісаў Навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы, ф. 16, спр. 2; ф. 40, спр. 493.
Список церковно-приходских школ и школ грамоты Могилевской епархии. СПб., [Б.г.].
Михайловский-Данилевский А.И. Описание Отечественной войны в 1812 г. Ч. 1. СПб., 1839.
Статистические таблицы о состоянии городов Российской империи. СПб., 1840.
Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. 8, ч. 3; Могилевская губерния. СПб., 1848.
Приложения к Трудам редакционных комиссий... Т. 6. Могилевская губерния. СПб., 1860.
Памятная книжка Виленского учебного округа на 1874 г. Вильна, 1874.
Дембовецкий А.С. Опыт описания Могилевской губернии... Кн. 2—3. Могилев, 1884.
Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.
Акты, относящиеся к истории Южной и западной России... Т. 14. СПб., 1889.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1889—1890 учебный год. Могилев, 1889.
Указатель фабрик и заводов Европейской России. Материалы для фабрично-заводской статистики. 3 изд. СПб., 1894.
Документы Московского архива Министерства юстиции. Т. 1. М., 1897.
Фабрично-заводская промышленность России: перечень фабрик и заводов. СПб., 1897.
Календарь для духовенства Могилевской епархии на 1899 г. Могилев, 1899.
Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси...Т. 13. Вильна, 1902.
Первая всеобщая перепись населения Российской империи, 1897 г. [Т.] 23. Могилевская губерния. СПб., 1903.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1905 г. Могилев, 1905.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1905—1906 учебный год. Могилев, 1905.
Последние известия, 1905, 12 янв., 2 авг.
Города России в 1904 г. СПб., 1906.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1907 г. Могилев, 1906.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1907—1908 учебный год. Могилев, 1907.
Могилевский вестник, 1907, 12 сент.; 1908, 1 июля.
Список населенных мест Могилевской губернии. Могилев, 1910.
Список фабрик и заводов Российской империи. СПб., 1912.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1914 г. Могилев, 1914.
Звязда, 1924, 17 снеж.
БССР: эканоміка-стат. давед. Мн., 1931.
Матэрыялы да гісторыі мануфактуры Беларусі ў часы распаду феадалізму. № 1. Мн., 1934.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 1—2. Мн., 1935.
Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. 1 (IX—XVIII ст.). Мн., 1936.
Документы и материалы по истории Белоруссии (1900—1917 гг.). Т. 3. Мн., 1953.
Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии: док. и материалы. Т. 2. Мн., 1957.
Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1—2. Мн., 1959—60.
Хроника важнейших событий истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1 (1883—1918 гг.). Мн., 1962.
Хохлов А.Г. Красная гвардия Белоруссии в борьбе за власть Советов (март 1917 — март 1918 гг.). Мн., 1965.
Богданович А.В., Сидоров П.А. Города Белоруссии. Мн., 1967.
Борьба за Советскую власть в Белоруссии, 1918—1920 гг. Т. 1. Мн., 1968.
Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Т. 2. Мн., 1970; Т. 6. Мн., 1972; Т. 9. Мн., 1973.
Хроника важнейших событий истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 2 (1919 г. — июнь 1941 г.). Мн., 1970.
Борьба за Советскую власть в Белоруссии, 1918—1920 гг. Т. 2 (февраль 1919 г. — 1920 г.). Мн., 1971.




Гісторыя Беларускай ССР. Т. 1. Мн., 1972.
Гневко В.Г. Рабочий класс Белоруссии в борьбе за победу Октября (март 1917 — март 1918 гг.). Мн., 1973.
Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці. Мн., 1975.
Белорусская ССР: крат. энцикл. Т. 5. Мн., 1982.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—1944. Мн., 1984.
Асвета і педагагічная думка ў Беларусі: са старажыт. часоў да 1917 г. Мн., 1985.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Магілёўская вобл. Мн., 1986.
Знамя юности. 1986. 4 марта.
Административно-территориальное устройство БССР: справ. Т. 2 (1944—1980 гг.). Мн., 1987.
Ветераны ленинской партии. Мн., 1987.
Памяць: Чавускі р-н. Мн., 2002.
Беларуская энцыклапедыя. Т. 17. Мн., 2003.
Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 6, кн. 2. Мн., 2003.
Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Магілёўская вобл. Мн., 2007.
Республика Беларусь: энцикл. Т. 7. Мн., 2008.
Volumina Legum. T. 2. [2 wyd.]. Petersburg, 1859.
Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. 1. Warszawa, 1880; T. 9. Warszawa, 1888.



МСЦІСЛАЎСКІ РАЁН
КРЫЧАЎСКІ РАЁН
КЛІМАВІЦКІ РАЁН
КАСЦЮКОВІЦКІ РАЁН
НАПОЛЬСКІ РАЁН
ЧЭРЫКАЎ
Нов.-
Белiца
Стар.-
Верамейкі
Паляна
Магілеў
Ляхі
Селішча
Ясная-
Зара
Масток
Калода
Забачэў
Касец
Чарнышын
Юдаўка
Каменка
Гарадзец
Наркі
Жытнеў
Бялыгіескі
Падбудкі
Красны
Васькоўка
Ялоўка
Вазраджэнне
Карма
Грамабой
Шчацінка
Анюціна
Зара
Каменка
Пабеда
Вудага
Зялены Дуб
Падлом'е
Загурковішча
Карма
Дубраўка
Лабанаўка
Халоблін
Масткова
Глінь
Рынкоўка
Юны Пахар
Рэчыца
Гіжня
Шароеўка
Сцепаноў
Ляшчэвіна
Тур'е
Ржавец
Вербеж
Латышчына
Зоры
Вусце
Охар
Міхалін
Лобча
Ямкі
Вымач
Багданаўка
Доўгае
Карпаўскі
Вінаград
Гронаў
Рагаліна
Язеры
Заазер'е
Шыманы
Майскі
Грыўкі
Прыпёчына
Вепрын
Баровая
Новы Свет
Міхлін
Звязда
Горкі
Міраґошч
Лімень
Сакалоўка
Палпень
Малінаўка
Бакаў
Пільня
Драгунскія Хутары
Галоўчыцы
31°30'
53°40'
53°30'
Маштаб 1:255 000



# ЧЭРЫКАЎСКІ РАЁН

Размешчаны на ПдУ Магілёўскай вобл. Пл. 1 тыс. км$^2$. Насельніцтва 16,1 тыс. чал., у тым ліку гарадскога 8,5 тыс. чал. (2008). Цэнтр — г. Чэрыкаў. У складзе раёна 89 сельскіх населеных пунктаў, 5 сельсаветаў: Вепрынскі, Верамейскі, Рэчыцкі, Сормаўскі, Язёрскі. Праз тэр. раёна праходзяць чыгунка Магілёў—Крычаў, аўтадарогі Крычаў—Рагачоў, Магілёў—Чэрыкаў і інш. Раён пацярпеў ад аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцы ў 1986 г. Яго тэр. забруджана радыёнуклідамі пераважна 1—15 Кі/км$^2$, на асобных участках да 40 Кі/км$^2$ і больш за 25 населеных пунктаў перасталі існаваць.

Утвораны 17.7.1924 г. ў складзе Калінінскай акругі. 20.8.1924 г. падзелены на 15 сельсаветаў: Вепрынскі, Верамейскі, Глінскі, Горацкі, Зябенскі, Каменскі, Лабанаўскі, Мірагошчанскі, Рынкоўскі, Рэчыцкі, Ушакоўскі, Халмоўскі, Чэрыкаўскі, Шароеўскі, Язёрскі. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. раён Магілёўскай акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На 1.1.1941 г. ўключаў г. Чэрыкаў і 14 сельсаветаў. У Вял. Айч. вайну на ўчастку Чэрыкаў—Прапойск да 25 ліп. 1941 г. пагеройску змагалася 55-я стралк. дывізія Г.А.Тэр-Гаспарана. З ліп. 1941 г. акупіраваны ням.-фаш. войскамі, якія ў горадзе і раёне знішчылі 1118 чал. Дзейнічалі Чэрыкаўскія падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМ, партыз. брыгады 14-я Цемналеская, 47-я «Перамога», асобныя партыз. атрады — 2-і, 15, 41, 42, 720, 721-ы, «Але-




*Выгляд саду і агарода аграбазы «Макараўка» Чэрыкаўскага павета. Пач. 1920-х г.*

ся», «Анатоля», «Валянціна Маёрава», І.А.Стафаненкі, Чэрыкаўскі. У 1941 г. ў вёсках Наркі, Юдава, пазней у Чэрыкаве І.П.Дзенісенка стварыў падп. групы, якія рабілі дыверсіі на аб'ектах праціўніка, збіралі для партызан разведдадзеныя. У 1943 г. Дзенісенка ўзначаліў Чэрыкаўскі антыфаш. к-т. Раён вызвалены воінамі 50-й арміі Бранскага фронту ў ходзе Бранскай аперацыі 1943 г. 16.9.1959 г. скасаваны, сельсаветы перададзены Крычаўскаму р-ну. Зноў утвораны 30.7.1966 г., уключаў г. Чэрыкаў, Вепрынскі, Верамейскі, Лабанаўскі, Рэчыцкі, Сормаўскі сельсаветы Крычаўскага, Ушакоўскі с/с Краснапольскага р-наў. 18.2.1972 г. створаны Язёрскі с/с.

Тэр. раёна знаходзіцца ў межах Аршанска-Магілёўскай раўніны, агульны нахіл з ПнУ на ПдЗ уздоўж р. Сож. 57% тэр. — на вышыні 150—170 м над узроўнем мора, 30% — ніжэй, 13% — вышэй яго. Самая найвышэйшая кропка (189 м) каля в. Новая Беліца Верамейскага с/с, ніжэйшая (131 м) — на ўрэзе р. Сож. Рака Сож мае прытокі Волчас, Вудагу, Лобчанку, Сянну і інш. Карысныя выкапні: мел, мергель, гліна, будаўнічыя пяскі, суглінкі, торф. Сярэдняя т-ра студз. -7,9, ліп. 18,3 °С. Вегетацыйны перыяд 187 дзён. Ападкаў 594 мм за год. Глебы с.-г. угоддзяў дзярнова-падзолістыя, дзярнова-падзолістыя забалочаныя, дзярновыя забалочаныя, тарфяна-балотныя, алювіяльныя і інш. З мінеральных глеб 51% суглінкавых, 41,7% супясчаных, 7,3% пясчаных. Пад лесам 44% тэр. раёна, пераважаюць сасновыя, яловыя, чорнаальховыя, дубовыя. Пад балотамі 2% пл. Помнікі прыроды рэсп. значэння: біялагічны — дуброва ў Вепрынскім лясніцтве, геалагічны — агаленне балотна-азёрных адкладанняў у г. Чэрыкаў.

С.-г. ўгоддзі займаюць 32 тыс. га. Асн. галіны сельскай гаспадаркі — мясамалочная жывёлагадоўля, вытв-сць збожжа (жыта, пшаніца, трыцікале, ячмень, авёс), кармавых (караняплоды, кукуруза, травы) і тэхн. (рапс) культур, бульбы. Працуюць 4 СПК, унітарнае рэспубліканскае с.-г. прадпрыемства, ОАО «Чэрыкаўрайаграпрамтэхснаб», ОАО «Саўгас-камбінат «Светлы». Дзейнічаюць 8 фермерскіх гаспадарак. Прадпрыемствы хлебабулач-



*А.А.Марачкін. Старажытны Чэрыкаў.*



*Помнік адселеным вёскам у г. Чэрыкаў.*



ных і калбасных вырабаў, плодаагароднінных кансерваў, па разліве мінеральных вод і дрэваапрацоўцы. У раёне (на 1.1. 2008) праф.-тэхн. ліцэй, 9 сярэдніх (у тым ліку 2 комплексы школа—сад), вячэрняя агульнаадукац., базавая, пач. школы, цэнтралізаваная школа мастацтваў з 3 філіяламі, спарт. дзіцяча-юнацкая школа алімпійскага рэзерву, раённы фізкультурна-спарт. клуб, Цэнтр творчасці дзяцей і моладзі, база юных турыстаў, вучэбна-вытв. камбінат, сацыяльна-пед. цэнтр «Пралеска», цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі, 12 дзіцячых дашкольных устаноў. Дзейнічаюць 21 клубная ўстанова, 12 кінаўстановак, 15 б-к, Чэрыкаўскі гісторыка-краязнаўчы музей, нар. краязнаўчы музей Верамейскай сярэдняй школы. Працуюць бальніца на 110 ложкаў, паліклініка, 2 амбулаторыі, 12 фельч.-акушэрскі пунктаў. Зона адпачынку мясц. значэння Наркі. У раёне 5 рэлігійных абшчын, у т.л. 2 праваслаўныя, 3 пратэстанцкія. Выдаецца газ. «Веснік Чэрыкаўшчыны». Археал. помнікі: стаянкі ў в. Горкі, паселішча ў в. Гронаў, Брацкія магілы сав. воінаў у вёсках Глінь, Зоры, Лабанаўка, Лімень, Лобча, Манастырок, Мірагошч, Пільня, Тур'е, Ушакі, Язёры; сав. воінаў і партызан у вёсках Вепрын, Верамейкі, Прыпёчына, Рэчыца; сав. ваеннапалонных у в. Вусце. Помнікі землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у вёсках Вудага, Гронаў, Рэчыца, Сакалоўка, Ушакі, Язёры. Помнікі архітэктуры: царква ў в. Камаровічы (сярэдзіна 19 ст.), садова-паркавага мастацтва ў вёсках Вепрын (2-я пал. 19 ст.), Юдаўка (пач. 20 ст.).

**ЧЭРЫКАЎ** — горад, цэнтр раёна, за 85 км на ПдУ ад Магілёва, 25 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы, на скрыжаванні аўтадарог Магілёў—Касцюковічы, Масква—Брэст. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ р. Сож (прыток р. Дняпро).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 15 ст. Каля 1460 г. кароль польскі і вял. кн. літоўскі Казімір IV Ягелончык у сувязі з выратаваннем сваёй жонкі ад смерці загадаў пабудаваць некалькі праваслаўных цэркваў, у т.л. і ў Чэрыкаве. З канца 16 ст. ў складзе каралеўскіх валасцей Магілёўскага павета Мсціслаўскага ваяв. У пач. 17 ст. сяло ў Пуцькаўскай вол. Ар-



*Герб г. Чэрыкаў.*




*Чэрыкаўскі павятовы выканком. Кастрычнік 1922 г.*

шанскага павета, у часовым валоданні маскоўскіх дваран. У 1604 г. кароль польскі і вял. кн. літоўскі Жыгімонт III Ваза перавёў Чэрыкаў у разрад гарадоў, які ў 1641 г. атрымаў магдэбургскае права, меў герб: у блакітным полі сярэбраны мур з трыма вежамі, у цэнтральнай — брама з рыцарам, узброеным дзідай. У 1648 г. ў Чэрыкаве адбылося антыфеад. паўстанне. У ліст. войскі на чале з Горскім і Пацам, падмацаваныя часткай Быхаўскага гарнізона, а таксама наёмнай пяхотай і конніцай, якую прыслалі магнаты Агінскі, Сіняўскі і Сангушка, накіраваліся на падаўленне паўстання. Большасць казацкіх атрадаў, якія падтрымлівалі паўстанне гараджан, знаходзіліся ў гэты час на правым беразе Дняпра, а ў горадзе размяшчаўся толькі невял. атрад. 11 ліст. 1648 г. пасля ўпартых баёў Чэрыкаў быў захоплены, паўстанне задушана. Вял. страты панёс горад у вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. Сейм Рэчы Паспалітай у маі 1659 г. даў казацкаму палкоўніку Івану Нячаю, які перайшоў на бок Рэчы Паспалітай, прывілей на пажыццёвае валоданне Чэрыкавам, аднак у канцы таго ж года ён трапіў у палон да рускіх і быў высланы ў Табольск.

*Святочныя мерапрыемствы, прысвечаныя Дню Незалежнасці Рэспублікі Беларусь. 2008 г.*




*Старшыня Чэрыкаўскага райвыканкома М.М.Кадаценка ўзнагароджвае пераможцу раённага спаборніцтва «Чалавек года-2007» дырэктара ААТ «Чэрыкаўрайаграпрамтэхзаб» Я.А.Татарэнку.*



У час Паўночнай вайны 1700—21 гг., у 1708 г., шведскі кароль Карл XII выступіў з Магілёва ў напрамку Чэрыкава, каб пераправіцца цераз р. Сож і рушыць на Украіну. Горад быў захоплены і разрабаваны. Але ўпартае супраціўленне рус. войск прымусіла шведаў змяніць маршрут, рушыць да Мсціслава і толькі потым накіравацца на Пд. У 1737 г. ў Чэрыкаве дзейнічала царква. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Расійскай імперыі, з 1773 г. — павятовы горад Мсціслаўскай правінцыі, з 1777 г. — Магілёўскай губ., з 1778 г. — Магілёўскага намесніцтва, з 1796 г. — Бел., з 1802 г. — Магілёўскай губ. У 1777 г. 906 жыхароў. У 1778 г. зацверджаны план горада, у 1781 г. — нададзены герб, які нязначна адрозніваўся ад герба Магілёва. У данясенні сенатараў графоў А.Варанцова і А.Нарышкіна аб аглядзе Магілёўскай губ. ў 1784 г. гаворыцца, што ў Чэрыкаве «заводаў няма... У адным абывацельскім доме маецца адзін чан і работа праводзіцца самім гаспадаром, а іншы раз і наёмнымі людзьмі, апрацоўваецца 25 чорных і 9 кож падошвенных ялавічных». Ген. межаванне губерні, праведзенае ў канцы 18 ст., сведчыць, што ў горадзе ў той час дзейнічалі павятовы суд, нар. двухкласнае вучылішча, гар. праўленне і казначэйства, размяшчаліся турма, саляны і хлебны магазіны, багадзельня, малітоўны дом. Два разы ў год адбываліся тыднёвыя кірмашы. Сюды прыязджалі гандляры з розных гарадоў і мястэчак Беларусі, Украіны, Расіі. Магілёўскія, крычаўскія і шклоўскія гандляры прывозілі апрацаваныя скуры,



гаршкі, тканіну, жалеза, волава, свінец, пяньку, мыла, фарфор, шкляны і драўляны посуд, дзёгаць, вяроўкі, воўну, канаплянае масла, сала, рыбу, цукар, чай. З Чарнігаўскай губ. прывозіўся тытунь. Сяляне з навакольных вёсак гандлявалі зернем, жывёлай, гароднінай, маслам, сенам, дровамі, рознымі саматужнымі вырабамі. Кожную вясну жыхары Чэрыкава наймаліся да купцоў, якія на баржах ішлі ўніз па Сажы да Краменчуга, загружаліся там соллю і вярталіся назад. У 1787 г., у час падарожжа ў паўд. правінцыі Расіі, горад наведала імператрыца Кацярына II. Чэрыкаў у той час налічваў 300 дамоў, дзейнічалі 2 праваслаўныя царквы і малітоўная школа. У 1811 г. 364 двары, 355 жыхароў мужчынскага полу. У 160 дварах жылі і працавалі 162 рамеснікі. 15.7.1812 г. праз Чэрыкаў адыходзіла да Смаленска 2-я рус. армія пад камандаваннем П.І.Баграціёна. У 1839 г. дзейнічалі 2 плісавыя, 1 палатняная, 1 гарбарная, 1 паташная і 2 медзеплавільныя мануфактуры. У пач. 1840-х г. насельніцтва горада павялічылася да 3242 чалавек, меліся 380 драўляных і 2 мураваныя дамы, 39 крам. У 1848 г. 407 дымоў. У 1790 г. адкрыта аднакласнае вучылішча, а ў 1865 г. жаночая змена пры ім. У 1830 г. пачало працаваць 3-класнае павятовае вучылішча (5 настаўнікаў, 40 вучняў). У 1846 г. адкрыта прыватная школа для пач. навучання дзяўчынак, у якой выкладаліся Закон Божы, пач. курс рус., французскай і ням. моў, граматыка, арыфметыка, геаграфія, танцы і рукадзелле. З 1865 г. працавала прыходскае жаночае вучылішча, 4 разы ў год адбываліся кірмашы. Пасля пракладкі ў 1851 г. Маскоўска-Варшаўскай шашы тут размяшчалася паштовая станцыя, якая мела 16 коней. У 1861 г. ў Чэрыкаве налічвалася 3877 чал. Працавалі цукровы з-д і 5 невял. маслабойных прадпрыемстваў. У ліку рамеснікаў былі 9 мяснікоў, 10 масларобцаў, 64 краўцы, 44 шаўцы, 4 печнікі, 12 сталяроў, 7 медыкаў, 14 кавалёў, 2 шкляры, 1 гадзіншчык, 1 канавал, 2 фарбавальшчыкі, 2 пераплётчыкі, 5 цесляроў і інш. (усяго 205 чал.). Пашыраўся гандаль, у 1865 г. праз чэрыкаўскую прыстань было адпраўлена 18 358 пудоў розных грузаў. Купцы з Яраслаўля, Вязьмы, Дарагабужа і Ржэва закупілі ў 1875 г. ў Чэрыкаве розных тавараў на 40 тыс. руб. Асн. прадметам гандлю ў гэты час была пянька, якую з Чэрыкава і яго наваколляў везлі па Сажы і Дняпры ў Кіеў ці сухім шляхам да Віцебска, а потым накіроўвалі па рацэ Зах. Дзвіна ў Рыгу. Амаль усе гараджане займаліся земляробствам. Гораду належала 35 дзес. сядзібнай, 1853 дзес. ворыўнай і агароднай зямлі, 112 дзес. сенакосу. Сярод забудоў у 1865 г. 15 мураваных будынкаў (астрог, 2 адм. будынкі, паштовая станцыя, застаўны шашэйны дом, 9 крам і

*Будынак Чэрыкаўскага райвыканкома.*



*Будынак Чэрыкаўскай раённай бальніцы — помнік архітэктуры 19 ст.*










*Дом культуры ў г. Чэрыкаў.*

*Царква Раства Прасвятой Багародзіцы ў г. Чэрыкаў.*

2 жылыя дамы). Астатняя забудова драўляная (505 жылых дамоў, праваслаўная царква, 4 малітоўныя школы, касцёл, 54 крамы, гар. млын). Планіровачна складаўся з 4 плошчаў, 12 вуліц, 13 завулкаў, частка з якіх была забрукавана. З 1866 г. працаваў цагельны з-д. У 1868 г. пачала дзейнічаць гарбарня. 1.9.1869 г. адкрыта тэлеф. станцыя. Працавалі 3-х класнае павятовае, 1-класнае царк.-прыходскае і яўр. вучылішчы, прыватная жаночая школа. У 1880 г. 564 дамы, 5053 жыхары. Гораду належала 3000 дзес. зямлі, працавалі 6 маслабойняў, 3 крупадзёркі, салатопенны і цагельны з-ды, пазней адкрыты пенькатрапальнае, а ў 1897 г. — спіртаачышчальнае прадпрыемствы. Частка вяскоўцаў займалася шавецкім промыслам. У 1883 г. адкрыта бальніца (12 ложкаў), мелася аптэка. У 1886 г. заснавана метэаралагічная станцыя. У 1897 г. 963 двары, 5249 жыхароў. У сак. 1897 г. за ўдзел у забастоўцы ў Чэрыкаў з Віцебскай губ. былі сасланы некалькі рабочых і студэнтаў. Яны разгарнулі тут агітацыю, у першую чаргу праз створаную імі рабочую школу. У хуткім часе паліцыя закрыла школу. Тады быў створаны к-т дапамогі падлеткам, які займаўся працаўладкаваннем моладзі, вёў агульнаадукац. і агітацыйную работу. У 1900 г. ўзнік к-т рабочых «Калектыў» (10 чал.), які падтрымліваў сувязь з Палескім к-там РСДРП, атрымліваў ад яго рэв. л-ру, распаўсюджваў пракламацыі. У 1902 г. ў Чэрыкаў пачала пастунаць ленінская «Іскра», у 1904 г. адбылася забастоўка на мануфактуры Індэнбаума. У панчошнай майстэрні гэтай мануфактуры на 75 вязальных машынах працавала каля 200 работніц, большую частку якіх складалі падлеткі. Акрамя гэтага, 200—300 машын працавалі па дамах. Забастоўка працягвалася больш за 2 месяцы і скончылася перамогай рабочых. Каля 2 месяцаў баставалі і краўцы Чэрыкава.

*Чэрыкаўская цэнтральная раённая бальніца.*



Плошча забудаванай часткі горада ў 1904 г. дасягнула 1,3 квадратныя вярсты, насельніцтва склала 5781 чал. Асвятлялі вуліцы 40 газавых ліхтароў, а прамысло-



васць складалі 23 маленькія прадпрыемствы (73 рабочыя), 118 рамесных майстэрняў (216 рамеснікаў). У 1906 г. адбыліся хваляванні ў гар. вучылішчы. Насельніцтва горада ў 1910 г. дасягнула 6198 чалавек. Пачало дзейнічаць аддз. пед. т-ва. Напярэдадні Кастр. рэвалюцыі працавалі мужчынская гімназія, 2 пач. вучылішчы. У сак. 1917 г. створаны Савет салдацкіх і афіцэрскіх дэпутатаў, у крас. 1917 г. — Савет сял. дэпутатаў. У чэрв. 1917 г. адбылася яшчэ адна забастоўка работніц панчошнай майстэрні. 15—16.8.1918 г. адбылася Чэрыкаўская павятовая канферэнцыя РКП(б). Восенню 1918 г. левым эсэрам удалося навязаць VI Чэрыкаўскаму пав. з'езду Саветаў контррэв. па змесце рэзалюцыі, у выніку чаго бальшавікі пакінулі залу пасяджэння і з'езд быў распушчаны. Уплыў бальшавікоў паступова пашыраўся. 7.8.1918 г. пачала выходзіць газ. «Известия Чериковского уездного совдепа», а потым газ. «Красный клич» — орган Чэрыкаўскага пав. Савета. У ліп. 1918 г. былі адкрыты дзіцячы дом, 4 дзіцячыя пляцоўкі і дзіцячы сад. З сярэдзіны 1919 г. дзейнічаў пав. камісарыят па ваенных справах. У якасці дапамогі Чырвонай Арміі ў лютым 1919 г. быў сфарміраваны запасны стралк. батальён. Дзейнічала прац. школа 2-й ступені, у якой у 1924 г. было 426 вучняў. У 1922 г. заснавана Чэрыкаўская раённая б-ка.

У 1919—24 гг. Чэрыкаў уваходзіў у Гомельскую губ. РСФСР. Буйныя бандыцкія вылазкі адбыліся ў Чэрыкаўскім павеце ў чэрв. 1919 г., вясной і ў ліп. 1920 г. Па просьбе пав. сходу камуністаў Гомельскі губком РКП(б) накіраваў у Чэрыкаў атрад з 80 слухачоў губ. парт. школы. Вясной 1921 г. Чэрыкаўскі пав. пасяўком выдзеліў насельніцтву горада ў якасці пазыкі больш за 400 пудоў насення. У 1922 г. пачалі дзейнічаць пракатны пункт с.-г. машын, з 1.10.1923 г. — с.-г. кааператыўнае т-ва, у 1924 г. — с.-г. крэдытнае т-ва, у 1925 г. — пчолагадоўчы кааператыў. 14.10.1925 г. адбылася 1-я с.-г. выстаўка. Актыўна праводзіліся работы па добраўпарадкаванні горада: рамантаваліся і насціпаліся тратуары, аднаўляліся старыя і капаліся новыя калодзежы. Дзейнічала хата-чытальня. Агульная плошча забудовы горада ў 1925 г. склала 304,9 дзес. Вуліцы былі добраўпарадкаваны, устаноўлены ліхтары, адрамантаваны масты, прыведзены ў парадак пад'езд да Сожа. У 1923 г. дзейнічалі школа-дзевяцігодка і 4 школы-чатырохгодкі, у якіх навучаліся 554 вучні. З 1924 г. пачала працаваць раённая б-ка, з 1925 г. — нар. дом, парт.-рабочы клуб. У 1928 г. пры школе адкрыты інтэрнат.

У 1924 г. Чэрыкаў увайшоў у склад Беларускай ССР, у 1924—27 гг. уваходзіў у Калінінскую, у 1927—3 0 гг. у Магілёў-

*Чэрыкаўская цэнтральная раённая бальніца.*





скую акругі. З 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. пачала дзейнічаць радыёпрыёмная ўстаноўка, у 1927 г. — метэаралагічная станцыя. У 1928 г. для школы-сямігодкі пабудавана новае памяшканне, пачала працаваць стацыянарная кінаўстаноўка. 30.1.1931 г. адбылася 1-я канферэнцыя раённай арг-цыі і т-ва па ліквідацыі непісьменнасці і малапісьменнасці сярод дарослых. У 1933 г. адкрыта 2-гадовая школа саўгаснага навучання, дзейнічалі ўрачэбны ўчастак са стацыянарам на 35 ложкаў і зубным кабінетам, амбулаторыя, аптэка, а таксама бальніца для лячэння трахомы на 40 ложкаў, што было звязана са значным распаўсюджваннем гэтай хваробы ў раёне на працягу доўгага часу. У 1933 г. пачала выходзіць раённая газ. «Сацыялістычная перамога», якая ў 1936 г. мела да 200 карэспандэнтаў. У 1934 г. для рабочых лесараспрацовак выдавалася шматтыражка «Чырвоны лесаруб». У 1939 г. працавалі пач. школы і 2 сярэднія, ветэрынарны тэхнікум, раённы Дом культуры, б-ка, радыёвузел (у 1938 г. 270 радыёкропак), дзейнічалі дрэваапрацоўчая, рамонтная, кравецкая і шавецкая майстэрні, 2 цагельныя, 2 смалакурныя і лесапільны з-ды, маслазавод, хлебапякарня, электрастанцыя, вадзяны млын, 2 кузні. Адзін з двух саўгасаў, якія былі ў раёне, знаходзіўся ў Чэрыкаве. Тут у 1930-я г. выходзіла шматтыражка. У 1934 г. пачала дзейнічаць Чэрыкаўская МТС, якая ў 1935 г. мела 34 трактары (рэарганізавана 31.3.1958).

У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. горад акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Барацьбу супраць акупанаў узначаліў Чэрыкаўскі падп. райком КП(б)Б (7.1941—12.1941, 4.6.1943—1.10.1943). Пастаянную сувязь з райкомам падтрымлівала чэрыкаўская антыфашысцкая падп. арг-цыя (кіраўнік І.П.Дзенісенка). Патрыёты збіралі разведдадзеныя аб ням. войсках у Чэрыкаве, Крычаве, Прапойску, Клімавічах, вялі агітацыйна-прапагандысцкую работу сярод насельніцтва, распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, расклейвалі лістоўкі. Зімой 1942—43 гг. падпольшчыкі ўзарвалі электрастанцыю, частку станкоў і абсталявання ў механічнай майстэрні, падпалілі лесазавод і хлебапякарню. Адбыліся дыверсіі і на стаянках ням. аўтакалон. 9.2.1943 г. былі арыштаваны падпольшчыкі А.І.Акаёмаў і Г.П.Лузенін, 5.6.1943 г. — іншыя патрыёты, частка якіх была расстраляна, а асобным удалося ўцячы. У канцы вер. 1943 г. прадстаўнікі Чэрыкаўскага партыз. злучэння выйшлі на сувязь са штабам 50-й арміі і дамовіліся аб сумесных дзеяннях. Пры падыходзе часцей Чырвонай Арміі да Чэрыкаўскага р-на падп. РК КП(б)Б арганізаваў насельніцтва вёсак і Чэрыкава на падрыхтоўку пераправы часцей Чырвонай Арміі церез р. Сож. 1.10.1943 г. Чэрыкаў быў



*Народны ансамбль музыкі, песні і танца «Надзея».*



*Удзельніцы гуртка «Узорынка» з мастацкім кіраўніком І.М.Бяляевай.*



вызвалены часцямі 413-й дывізіі 50-й арміі пры ўдзеле партызан 720-га, 15-га і 721-га атрадаў.

Адразу пасля вызвалення пачалося аднаўленне гаспадаркі горада. Узводзіліся новыя жылыя і адм. будынкі, наладжвалася мірнае жыццё. Ужо 5.2.1944 г. была адноўлена Чэрыкаўская МТС. У хуткім часе ў рабочы стан было прыведзена 25 трактароў, 19 трактарных плугоў, 7 малацілак, 3 збожжаўборачныя камбайны. Аднаўлялася тэлегр. і тэлеф. сувязь, якая з кожным годам пашыралася, у 1960-х г. была ўстаноўлена аўтаматычная тэлеф. станцыя. Спачатку працавала радыёўстаноўка на 50 кропак, потым быў абсталяваны радыёвузел большай магутнасці. Аднавіла выхад раённая газ. «Заклік Ільіча». Дзейнічалі дзіцячы дом, раённая бальніца, інфекцыйны ізалятар, сталовая. Быў створаны радыёвузел на суднаверфі. У 1970-х г. пачала працаваць рэдакцыя раённага радыёвяшчання. Колькасць насельніцтва, аднак, заставалася значна меншай, чым была да вайны. Калі ў 1939 г. ў горадзе было 6,4 тыс. чал., то ў 1959 г. — 4,9 тыс., у 1965 — 5 тыс. чал. У 1959—1962 гг. і ў 1965—66 гг. Чэрыкаў у складзе Крычаўскага, у 1962—65 гг. — Краснапольскага р-наў. З 1966 г. зноў цэнтр раёна. У 1977 г. да горада далучана в. Сормава.

Чэрыкаў забудоўваецца па генплане 1986 г. Сетка вуліц прамавугольная з дробнымі кварталамі. Яе аснову складаюць магістральныя вуліцы Ленінская, Камсамольская, Ракасоўскага. Адм.-гарадскі цэнтр склаўся ў раёне пл. Цэнтральная, якая ўтварылася на перакрыжаванні вуліц Камсамольскай і Ракасоўскага. Пераважае аднапавярховая забудова сядзібнага тыпу, па вуліцах Ракасоўскага і Ленінскай вядзецца 3—5-павярховае будаўніцтва. Зона адпачынку — р. Сож, гар. парк. У 2000-я г. пабудаваны будынак фонду сац. абароны, жылыя дамы. У 2007 г. ў горадзе 7,8 тыс. жыхароў. Дзейнічалі вытв. УП «Чэрыкаўскі плодакансервавы завод», камбінат каап. прамысловасці, філіял АСБ «Беларусбанк», аддз. ААТ «Белаграпрамбанк», райплемстанцыя, эксперыментальная станцыя «Чэрыкаў» па раслінаводстве, перасоўная механізаваная калона, лясгас, дарожна-рамонтныя, гандлёвыя і транспартныя арг-цыі. Ёсць прафес.-тэхн. вучылішча кулінарыі, 3 сярэднія (у т.л. вячэрняя) і пач. школы, спарт. дзіцяча-юнацкая школа алімпійскага рэзерву (біятлон), школа мастацтваў, 5 дзіцячых дашкольных устаноў, вучэбна-курсавы камбінат, цэнтр карэкцыйна-развіваючага выхавання і рэабілітацыі. Працуюць раённы Дом культуры, цэнтр. раённая і дзіцячая б-кі, гіст.-краязнаўчы музей, Цэнтр творчасці дзяцей і моладзі. Функцыяніруюць цэнтр. раённая бальніца, раённая паліклініка, аптэка і аптэчны кіёск, раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі;

*У Чэрыкаўскім гісторыка-краязнаўчым музеі.*






*Л.Ф.Яўменаў.*


*В.Ф.Карамазаў.*

тэрытарыяльны цэнтр сац. абслугоўвання насельніцтва. У горадзе размешчаны раённая арг-цыя Бел. т-ва паляўнічых і рыбаловаў, база юных турыстаў, фізкультурна-спартыўны клуб, стадыён, 3 футбольныя палі, валейбольныя, баскетбольныя і спарт.-аздараўленчыя пляцоўкі. Ёсць камбінат быт. абслугоўвання, гасцініца, пункт калектыўнага карыстання, аддз. сувязі і інш. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан, магілы ахвяр фашызму, помнік землякам, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны. Помнік архітэктуры — будынак бальніцы (19—20 ст.).

Чэрыкаў — радзіма аднаго з бакінскіх камісараў М.В.Басіна (1890—1918); лётчыцы-выпрабавальніцы М.Ф.Дзмітрыевай (1907—35), якая загінула ў час трэніровачнага палёту самалёта «Максім Горкі»; бел. кампазітара, засл. дзеяча мастацтваў Беларусі І.І.Любана (1906—75); бел. пісьменніка, лаўрэата Дзярж. прэміі Беларусі імя К.Каліноўскага В.Ф.Карамазава (н. ў 1934); бел. мовазнаўцы, засл. дзеяча навукі БССР (1951), кандыдата пед. навук (1944) М.І.Жыркевіча; вучонага ў галіне матэматыкі, чл.-кар. АН УССР (1934), лаўрэата прэміі імя П.Л.Чэбышава (1948) Н.І.Ахіезера (1901—80); бел. паэта, доктара філасофскіх навук, чл.-кар. АН БССР (1991) Л.Ф.Яўменава (н. ў 1932); ген.-маёра танкавых войск У.П.Варончанкі (1908—71).

*У музеі хлеба Чэрыкаўскай сярэдняй школы № 2.*



**АНЮЦІНА** — вёска ў Верамейскім с/с, за 16 км на Пн ад Чэрыкава, 88 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз населеныя пункты Юны Пахар, Шароеўка і далей па шашы Чавусы—Чэрыкаў. 10 гаспадарак, 12 жыхароў.

У 1862 г. памешчык меў тут 567 дзес. зямлі, вадзяны млын і карчму. У 1897 г. ў Крычаўскай вол. Чэрыкаўскага павета, фальварак, 1 двор, 4 жыхары. У 1909 г. ў Камаровіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 1 двор, 3 жыхары. З 17.7.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. У 1926 г. хутары, 19 двароў, 111 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 20 двароў, 66 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У пач. жн. 1941 г. 62-гадовы вясковец Д.М.Цяпін выратаваў і схаваў Чырвоны Сцяг, якім у 1918 г. УЦВК узнагародзіў Самара-Ульянаўскую жал. дывізію (у канцы 1943 г. — 24-я стралк. Бярдзічаўская, Самара-Ульянаўская двойчы Чырванасцяжная жал. дывізія). У кастр. 1943 г., калі вёска была вызвалена, Д.М.Цяпін перадаў сцяг сав. камандаванню, быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга і навечна занесены ў спіс дывізіі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 20 двароў. Пасля вайны адбудавана. У 1946 г. электрыфікавана, у 1949 г. радыёфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1989 г. ў вёсцы 19 гаспадарак, 42 жыхары, у складзе калгаса «Іскра» (цэнтр — в. Вудага). Да 1989 г. знаходзілася ў Сормаўскім с/с. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АСАВЕЦ** — былая вёска ў Вепрынскім с/с, за 18 км на ПдУ ад Чэрыкава, 105 км



ад Магілёва, 43 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. На З цячэ р. Сянна (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз населеныя пункты Чудзяны, Вепрын і далей па шашы Чэрыкаў—Краснаполле. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі і радыяцыйнага забруджання жыхары ў 1990 г. пераселены ў чыстыя раёны. На месцы вёскі ў 2006 г. ўстаноўлены мемарыяльны знак.

Вядома з 19 ст. У 1816 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 4 двары, 46 жыхароў, уласнасць памешчыка, які ў 1867 г. меў тут 116 дзес. зямлі. У 1897 г. ў Дубравіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 5 двароў, 21 жыхар. У 1909 г. 6 двароў, 37 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. У 1926 г. 10 двароў, 80 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас, які потым абслугоўвала Чэрыкаўкая МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У пасляваенны час у складзе саўгаса «Знамя» (цэнтр — в. Баровая). У 1946 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 30.7.1966 г. зноў у Чэрыкаўскім р-нах. Традыц. драўляныя сял. сядзібы пастаўлены ўздоўж кароткай вуліцы. У 1989 г. 3 гаспадаркі, 7 жыхароў.

**АСТРАВЫ** — былая вёска ў былым Ушакоўскім с/с, за 38 км на Пд ад Чэрыкава, 123 км ад Магілёва, 70 км ад чыг. ст. Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі і радыяцыйнага забруджання жыхары пераселены ў 1990 г. ў чыстыя раёны. На месцы вёскі ў 2006 г. ўстаноўлены мемарыяльны знак.

Вядома з пач. 20 ст. У 1909 г. ў Дубравіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, хутар (8 двароў, 60 жыхароў). У 1926 г. 14 двароў, 85 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1934 г. жыхары вёсак Астравы, Лысаўка, Сонненка, Гутка стварылі калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце змагаліся 3 вяскоўцы, 2 з іх загінулі. У 1948 г. радыёфікавана, у 1967 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 30.7.1966 г. зноў у Чэрыкаўскім р-нах. У 1980-я г. ў складзе калгаса «Чырвоны араты» (цэнтр — в. Галоўчыцы). У 1989 г. 1 гаспадарка, 3 жыхары.

**БАГДАНАЎКА** — вёска ў Сормаўскім с/с, за 5 км на ПнУ ад Чэрыкава, 90 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на Пд і З мяжуе з лесам. На Пд цячэ р. Сож (прыток р. Дняпро, на З — яе прыток р. Вудага). Транспартныя сувязі па шашы Слаўгарад—Крычаў, якая праходзіць побач з вёскай. 72 гаспадаркі, 178 жыхароў (2007).

Па перапісе 1897 г. хутар Багданаўка (ён жа Горкі) у Камаровіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 2 двары, 6 жыхароў. У 1909 г. 1 двор, 3 жыхары. З 17.7.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 16 двароў, 50 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы ў вер. 1943 г. спалілі 16 двароў. Пасля вайны адбудавана. З 16.7.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. зноў у Чэрыкаўскім р-нах. У 1946 г. радыёфікавана, у 1961 г. электрыфікавана. У 1989 г. ў вёсцы 49 гаспадарак, 221 жыхар, у складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Зоры), размешчаны ферма буйной рагатай жывёлы, вытв. брыгада, участковая бальніца. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, амаль мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, якая падыходзіць перпен-





дыкулярна да шашы і забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На У — адасоблены ўчастак забудовы, санаторый і піянерскі лагер, на ПнУ — гасп. сектар.

**БАКАЎ** — вёска ў Язёрскім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Чэрыкава, 100 км ад Магілёва, 40 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. На У і ПдУ цячэ р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Поліпень і далей па шашы Слаўгарад—Крычаў. 33 гаспадаркі, 72 жыхары (2007).

Вядома з пач. 20 ст. У 1909 г. ў Даўжанскай вол. Чэрыкаўскага павета, хутар, 1 двор, 1 жыхар. З 17.7.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1931 г. арганізаваны калгас «Авангард», працавалі кузня і ваўначоска. Абслугоўвала калгас Чэрыкаўская МТС. У 1940 г. 45 двароў, 142 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 45 двароў. На франтах змагаўся 21 вясковец, 9 з іх загінулі. Пасля вайны адбудавана, знаходзілася ў складзе калгаса «Прагрэс» (цэнтр. — в. Сакалоўка). У 1948 г. радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. зноў у Чэрыкаўскім р-нах. У 1989 г. ў вёсцы 38 гаспадарак, 131 жыхар, пач. школа, магазін. У 2007 г. дзейнічаў дом сац. паслуг. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ ўздоўж ракі і забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БАКУНАВІЧЫ** — былая вёска ў былым Ушакоўскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Чэрыкава, 105 км ад Магілёва, 45 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на Пд і У мяжуе з лесам. На У праходзяць меліярацыйныя каналы, якія злучаны з р. Сянна (прыток р. Сож), што цячэ на Пн. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Ушакі, Манастырок і далей па шашы Краснаполле—Чэрыкаў. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі і радыяцыйнага забруджання жыхары ў 1990 г. перасялены ў чыстыя раёны. На месцы вёскі ў 2006 г. ўстаноўлены мемарыяльны знак.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1555 г. як в. Абакуновічы, 2 двары, у Прапойскім старостве, дзярж. ўласнасць, пасесія. У 1681 г. 14 двароў, у 1705 г. 29 двароў. У 1769 г. 34 двары, 49 жыхароў мужчынскага полу, дзейнічалі карчма і млын. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, належала кн. А.М.Галіцыну. У 1816 г. ў Чавускім павеце, 26 двароў, 198 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1848 г. 32 двары. Памешчык меў тут у 1855 г. 653,5 дзес. зямлі і вадзяны млын. У 1858 г. 104 жыхары мужчынскага полу, частка вяскоўцаў займалася бандарным промыслам. У 1897 г. ў Старынскай (Старынкаўскай) вол. Чэрыкаўскага павета, 60 двароў, 420 жыхароў, дзейнічала школа граматы. У аднайменным фальварку 1 двор, 4 жыхары, вадзяны млын. У чэрв. 1905 г. сход вяскоўцаў вырашыў захапіць памешчыцкія землі, і потым гэта рашэнне было праведзена ў жыццё. У снеж. 1905 г. сяляне спалілі памешчыцкі свіран. Паліцыя сумесна з вайсковым падраздзяленнем падавіла хваляванне. 6.1.1906 г. вяскоўцы збілі на млыне арандатара, а крыху пазней высеклі ўчастак памешчыцкага лесу, адмовіліся выконваць патрабаванні паліцыі. Вясною 1906 г. сяляне захапілі памешчыцкія лугі. Пасля 1917 г. на базе дарэв. была створана прац. школа 1-й ступені. З 17.7.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі, арганізавана меліярацыйнае таварыства. У 1926 г. 114 двароў, 621 жыхар. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Магілёўскай акрузе. У 1931 г. 8 бядняцкіх гаспадарак арганізавалі калгас «Бальшавік», які ў 1935 г. аб'ядноўваў 94 двары. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 100 двароў, 380 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп.



1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліст. 1942 г. гітлераўцы спалілі 95 двароў, загубілі 32 жыхары. Партызаны 720-га атрада разграмілі варожы апорны пункт, які знаходзіўся ў вёсцы. Вызвалена 30.9.1943 г. воінамі 324-й стралк. дывізіі 50-й арміі пры ўдзеле партызан 720-га і 721-га атрадаў. На франтах і ў партыз. барацьбе ўдзельнічалі 60 вяскоўцаў, 32 з іх загінулі. Пасля вайны адбудавана. У 1949 г. радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 30.7.1966 г. зноў у Чэрыкаўскім р-нах. У 1980-я г. ў складзе калгаса «Маладая гвардыя» (цэнтр — в. Ушакі), ферма буйной рагатай жывёлы, магазін, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, б-ка. Планіровачна складалася з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, ад якой на Пд адыходзіла кароткая прамалінейная вуліца. Была забудавана двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Вёска — радзіма бел. пісьменніка І.К.Сіўцова (1922—59).

**БАРОВАЯ** — вёска ў Вепрынскім с/с, за 25 км на У ад Чэрыкава, 110 км ад Магілёва, 50 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Бароўка (прыток р. Лабжанка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз населеныя пункты Малінаўка, Вепрын і далей па шашы Чэрыкаў—Краснаполле. 18 гаспадарак, 46 жыхароў (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 18 ст. У 1762 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв., шляхецкая ўласнасць, меліся карчма і млын. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, 31 двор, 150 жыхароў. У 1825 г. заснавана прыгонніцкая мануфактура, якая давала да 900 аршынаў палатна ў год. У 1848 г. 46 двароў, у 1858 г. 142 жыхары мужчынскага полу, меўся заезны дом. У 1889 г. адкрыта земская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1897 г. ў Дубравіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 89 двароў, 645 жыхароў. Непадалёку быў аднайменны фальварак, 4 двары, 18 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 111 двароў, 730 жыхароў; у маёнтку 2 двары, 4 жыхары; дзейнічаў вінакурны з-д (у 1913 г. 7 рабочых). Пасля 1917 г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 47 вучняў. З 17.7.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. У 1926 г. 170 двароў, 1023 жыхары.З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У баях супраць ворага ўдзельнічала 89 жыхароў, 24 з іх загінулі. У пасляваенны час у складзе саўгаса «Сцяг» (цэнтр — в. Малінаўка). У 1948 г. радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1989 г. 94 гаспадаркі, 224 жыхары, ферма буйной рагатай жывёлы, магазін, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўскай, б-ка. У 2007 г. дзейнічалі ферма буйной рагатай жывёлы, дом сац. паслуг. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, падзеленых ракой і злучаных 2 кароткімі вуліцамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц., пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПдЗ і ПнУ гасп. сектар.

**БЛІЖНЯЯ РЭЧЫЦА** — былая вёска ў Рэчыцкім с/с, за 13 км на ПнУ ад Чэрыкава, 98 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на Пн і З мяжуе з лесам. На З цячэ ручай (прыток р. Волчас). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Чэрыкаў—Крычаў. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі і радыяцыйнага забруджання жыхары вёскі ў 1990-х гг. перасялены ў чыстыя раёны. На месцы вёскі ў 2006 г. ўстаноўлены мемарыяльны знак.

Вядома па пісьмовых крыніцах з 18 ст. У 1777 г. в. Рэчыца ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1880 г. 12 двароў, 21 жыхар, частка вяскоўцаў займалася кра-



*І.К.Сіўцоў.*

вецкім промыслам. У 1897 г. ў Камаровіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 20 двароў, 152 жыхары. Побач быў аднайменны фальварак, 3 двары, 19 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 24 двары, 148 жыхароў, у фальварку — 1 двор, 3 жыхары. З 17.7.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. У 1926 г. 53 двары, 227 жыхароў. Дзейнічала 4-гадовая школа. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава, які абслугоўвала Чэрыкаўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 28 двароў, 111 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўскія карнікі спалілі 21 двор. На франтах змагаліся 20 вяскоўцаў, 18 з іх загінулі. Пасля вайны адбудавана. У 1956 г. электрыфікавана і радыёфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1989 г. 33 гаспадаркі, 67 жыхароў, у складзе калгаса імя Ільіча (цэнтр — в. Рэчыца). Планіровачна складалася з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, ад якой адыходзіла на ПнЗ другая прамалінейная кароткая вуліца; была забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БЯЛЬГІЙСКІ** — пасёлак у Верамейскім с/с, за 18 км на Пн ад Чэрыкава, 80 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Наркі і далей па шашы Верамейкі—Чэрыкаў. 9 гаспадарак, 24 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1928 г. 22 жыхары. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1989 г. ў пасёлку 19 гаспадарак, 33 жыхары, у складзе саўгаса «Ударнік» (цэнтр — в. Верамейкі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВАЗРАЖДЗЕННЕ** — пасёлак у Сормаўскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Чэрыкава, 67 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Крычаў—Орша. Рэльеф раўнінны, вакол лес. На У цячэ р. Вудага (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Верамейкі—Чэрыкаў. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-х г. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 4 пасялкоўцы змагаліся на франтах, 3 з іх загінулі. У 1947 г. радыёфікаваны, у 1968 г. электрыфікаваны. У 1989 г. ў пасёлку 5 гаспадарак, 10 жыхароў. Да 1995 г. знаходзіўся ў былым Лабанаўскім с/с. Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВАСЬКОЎКА** — вёска ў Сормаўскім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Чэрыкава, 63 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У, Пн і З мяжуе з лесам. На Пн цячэ р. Каменка (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Чэрыкаў, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 13 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1780 г. 5 двароў, 32

*Мемарыяльны знак на месцы былой в. Бліжняя Рэчыца.*





жыхары, у 1811 г. 24 двары, 77 жыхароў мужчынскага полу, у Чэрыкаўскім павеце, уласнасць царквы. У 1863 г. памешчык меў тут 318 дзес. зямлі. У 1880 г. 9 двароў, 63 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася бандарным промыслам. У 1897 г. ў Лабанаўскай вол. Чэрыкаўскага павета, 34 двары, 187 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 20 двароў, 135 жыхароў, на аднайменных хутарах адпаведна 13 двароў, 74 жыхары і 1 двор, 7 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. У 1926 г. 46 двароў, 272 жыхары. З 9.6.1927 г. Магілёўскай акругі (да 20.7.1930). У 1931 г. арганізаваны калгас «Хваля рэвалюцыі», працавала кузня. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 49 двароў, 166 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 46 двароў. На франтах змагаліся 11 вяскоўцаў, 3 з іх загінулі. Пасля вайны адбудавана. У 1946 г. радыёфікавана, у 1966 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Чавускім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1989 г. ў вёсцы 37 гаспадарак, 81 жыхар, у складзе саўгаса «Лабанаўка» (цэнтр — в. Лабанаўка). Да 1995 г. ў былым Лабанаўскім с/с. Планіровачна складаецца з Г-падобнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай няшчыльна, двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЕПРЫН** — вёска, да 1991 г. цэнтр Вепрынскага с/с, за 10 км на У ад Чэрыкава, 95 км ад Магілёва, 36 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На З і Пн праходзяць меліярацыйны каналы, злучаныя з р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Чэрыкаў—Краснаполле. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2007). У выніку катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі і радыяцыйнага забруджання большая частка жыхароў вёскі ў 1990-х г. адселена.

Вядома па пісьмовых крыніцах з 16 ст. У 1586 г. сяло ў Крычаўскай вол., дзярж. ўласнасць. У 1709 г. ў сяле 9 валок зямлі, 5 пуставалі. У 1747 г. ў Крычаўскім старостве, дзярж. ўласнасць, пасесія, 67 двароў, дзейнічалі млын, маслабойня, карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, належала статскаму саветніку І.В.Галынскаму. У 1779 г. ў Крычаўскім старостве Чэрыкаўскага павета, уласнасць памешчыка, 81 двор, 623 жыхары, дзейнічаў млын. У 1785 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 82 двары, 594 жыхары, у 1816 г. 96 двароў, 458 жыхароў. У 1847 г. цэнтр маёнтка ў Чэрыкаўскім павеце. У 1858 г. 263 рэвізскія душы, дзейнічаў заезны дом. У 1877 г. памешчык меў тут 218, у 1882 г. — 421

*На месцы былой в. Вепрын.*



*Дуброва ў Вепрынскім лясніцтве.*



дзес. зямлі. У 1883 г. засн. смалакурна-шкіпінарны з-д (у 1890 г. 5 рабочых). У 1880 г. 141 двор, 810 жыхароў, частка вяскоўцаў займалася кавальскім і кравецкім промысламі. У 1897 г. ў Дубравіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 174 двары, 1197 жыхароў, дзейнічалі школа граматы, піцейны дом. Непадалёку быў фальварак, 6 двароў, 43 жыхары, хмельны з-д, 2 заезныя дамы, а таксама сядзіба (1 двор, 7 жыхароў). У 1905 г. адкрыта казённая вінная лаўка, у 1907 г. — аднакласная царк.-прыходская школа. У снеж. 1905 г. сяляне разграмілі памешчыцкі маёнтак. У былым маёнтку ў 1918 г. быў адкрыты дзіцячы дом. З 20.8.1924 г. ў Чэрыкаўскім раёне Калінінскай акругі, цэнтр Вепрынскага с/с. У 1926 г. ў сяле 172 двары, 971 жыхар, у былым маёнтку 26 двароў, 117 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені. З 9.6.1927 г. Магілёўскай акрузі (да 26.7.1930 г.). У кастр. 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік», а ў 1930 г. — калгас «Экспарт» (пазней — імя І.В.Сталіна), у пасляваенны час — калгас «Кастрычнік». Абслугоўвала калгасы Чэрыкаўская МТС. Дзейнічалі нафтавы (засн. ў 1927 г., 2 рабочыя) і ветраны млыны, кузня. У 1939 г. ў склад сельсавета ўваходзілі населеныя пункты Вепрынская Слабада, Камунар, Красная Горка, Мядзведзеўка, Зайечча, Варацец, Страгацін, якія зараз не існуюць. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 402 двары, 1692 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 256 двароў, загубілі 6 жыхароў. Партызаны 720-га атрада разграмілі варожы апорны пункт, які знаходзіўся ў вёсцы. Вызвалена 30.9.1943 г. воінамі Далёкаўсходняй стралк. дывізіі 50-й арміі. У брацкай магіле, што на У вёскі, пахавана 68 сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць акупантаў. На фронце змагаліся 86 вяскоўцаў, 65 з іх загінулі. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 6.1.1965 г. зноў ў Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1953 г. ўступіў у строй радыёвузел, і вёска была радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. У 1989 г. ў вёсцы 386 гаспадарак, 928 жыхароў; размешчаны фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, рамонтная майстэрня, піларама, устаноўкі па прыгатаванні вітаміннай мукі і перапрацоўцы кармоў, бальніца, аптэка, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт бытавога абслугоўвання насельніцтва, 2 магазіны, аддз. ашчаднага банка, дзіцячы сад-яслі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, сталовая, сярэдняя школа, Дом культуры са стацыянарнай кінаўстаноўкай, б-ка, музычная школа. Ген. план забудовы распрацаваны ін-там «Белкалгаспраект» у 1981 г. Планіровачна вёска складаецца з 2 (адна крывалінейная, другая амаль прамалінейная) вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і злучаных паміж сабой на канцах і ў цэнтры. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

У Вепрынскі с/с уваходзілі 19 населеных пунктаў.

Каля вёскі знаходзіцца Вепрынскае радовішча глін (разведаныя запасы 17,1 млн. т).

**ВЕРАМЕЙКІ** — вёска і чыг. ст. на лініі Магілёў—Крычаў, цэнтр сельсавета (з 20.8.1924), за 26 км на Пн ад Чэрыкава, 76 км ад Магілёва. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З і Пд мяжуе з лесам. На Пн і У праходзяць меліярацыйныя каналы, злу-

*Верамейская сярэдняя школа.*







*Вуліца аграгарадка Верамейкі.*

чаныя з р. Казёл (прыток р. Вудага). Транспартныя сувязі па шашах Верамейкі—Лабанаўка і Магілёў—Чэрыкаў. 600 гаспадарак, 1555 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1576 г. як с. Верамеевічы ў Прапойскай вол. Рэчыцкага павета, дзярж. уласнасць. У 1737 г. мелася царква. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у 1777 г. сяло ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1811 г. 39 двароў, 94 жыхары, у 1846 г. с. Верамеенка ў складзе маёнтка Рэкта Чэрыкаўскага павета; уласнасць памешчыка. У 1858 г. ў складзе маёнтка Пятрушына. У 1880 г. 30 двароў, 183 жыхары, частка вяскоўцаў займалася бандарным промыслам. У 1897 г. ў Беліцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 39 двароў, 303 жыхары. Дзейнічалі драўляная царква (адкрыта не пазней 1880 г.), царк.-прыходская школа. У 1909 г. 59 двароў, 225 чалавек. Пасля 1917 г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, адкрыта хата-чытальня. З 20.8.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. У 1926 г. 71 двор, 343 жыхары. З 9.6.1927 г. Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), пачала дзейнічаць чыг. станцыя. З 1931 г. ў Чавускім р-не, арганізаваны калгас «Чырвоная зорка». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл., у вёсцы пачала дзейнічаць Ударная МТС, якая абслугоўвала 5 сельсаветаў (рэарганізавана 31.3.1958 г.); адкрыты аптэка, яслі, 4-гадовая школа была ператорана ў 7-гадовую, для якой пабудавана новае памяшканне. У 1940 г. 115 двароў, 415 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1941 г. гітлераўцы расстралялі старшыню сельсавета, дэпутата Вярх. Савета БССР А.І.Федасеенка, сакратара партарганізацыі сельсавета П.П.Карнюшчанка і старшыню калгаса «Чырвоная зорка» І.А.Гузнякова. У час акупацыі ў вёсцы дзейнічала падп. патрыят. група (кіраўнік Я.Кавалёў). У 1941 г. падпольшчыкі ўзарвалі вадакачку, правялі шэраг дыверсій на чыгунцы, спалілі варожы склад. У маі 1943 г. асобны партыз. полк «Трынаццаць» разграміў фашысцкі гарнізон, які размяшчаўся ў Верамейках. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 96 двароў. Вызвалены 5.10.1913 г. воінамі 385-й Крычаўскай

*Будынак Верамейскай бібліятэкі і музычнай школы.*





*Абеліск савецкім воінам, якія загінулі ў 1941 г. ў міжрэччы Проні і Сажа, у аграгарадку Верамейкі.*



*Заслужаны настаўнік Рэспублікі Беларусь, дырэктар Верамейскай сярэдняй школы Дз.П.Хомчанка.*

стралк. дывізіі 50-й арміі Бранскага фронту. У брацкай магіле, што каля будынка чыг. станцыі, пахавана 96 сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—43 г. На франтах і ў партыз. атрадах змагаліся 190 вяскоўцаў, 57 з іх загінулі. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Чавускім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1953 г. пабудаваны радыёвузел, і вёска была радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1968 г. да вёскі далучана в. Паходавічы. У 1989 г. ў Верамейках 460 гаспадарак, 1042 жыхары, ферма буйной рагатай жывёлы, машынны двор, піларама, устаноўкі па перапрацоўцы кармоў і па прыгатаванні вітаміннай мукі, бальніца, дзіцячы сад-яслі, сярэдняя школа, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, Дом культуры са стацыянарнай кінаўстаноўкай, музычная школа, б-ка, аптэка, аддз. ашчаднага банка, сталовая, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання, 3 магазіны, ветэрынарная лячэбніца. З 2006 г. аграгарадок. У 2007 г. пабудавана Пакроўская царква, дзейнічалі сярэдняя і муз. школы, дзіцячы сад, Цэнтр культуры, б-ка, цэнтр сац. абслугоўвання, амбулаторыя, аптэка, ветэрынарная лячэбніца, быт. камбінат, аддз. сувязі, філіял Беларусбанка, лясніцтва, машынны двор, чыг. вакзал, лесапагрузачны пункт чыг. станцыі, 7 магазінаў. Ген. план забудовы вёскі распрацаваны ў 1985 г. Бел. н.-д. і праектным ін-там па будаўніцтве на вёсцы. Гал. прамалінейная вуліца шыротнай арыентацыі праходзіць уздоўж чыгункі. На Пд ад яе, за чыгункай, у напрамку ПнЗ — ПдУ ідзе крывалінейная вуліца. На Пн перпендыкулярна да гал. адыходзіць доўгая, амаль прамалінейная вуліца, якая перасякаецца кароткімі прамалінейнымі вуліцамі. Забудавана шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры гал. вуліцы чыг. станцыя. На З і У вытв. сектар.

У склад Верамейскага с/с уваходзяць 23 населеныя пункты.

**ВЕРБЕЖ** — вёска ў Язёрскім с/с, за 8 км на ПнЗ ад Чэрыкава, 78 км ад Магілёва, 33 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. На ПнЗ і Пн цячэ р. Малая Вудага (прыток р. Вудага). Транспартныя сувязі па мясц.



дарозе і далей па шашы Чэрыкаў—Чавусы. 62 гаспадаркі, 136 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. У 1635 г. слабада Вербеж у Пуцькаўскім войтаўстве Магілёўскай эканоміі, дзярж. уласнасць. У 1654 г. дзейнічаў млын. У студз. 1655 г. цар Аляксей Міхайлавіч дараваў войту магілёўскаму М.Кгельду с. Вербеж з млыном (раней належала С.Срадзінскаму). У 1742 г. вёска ў Асавецкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., 30 двароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у валоданні Магілёўскай казённай палаты, 49 двароў, 145 жыхароў. У 1880 г. 62 двары, апрача земляробства вяскоўцы займаліся стальмашным, бандарным і гарбарным промысламі. У 1858 г. 370 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Лабанаўскай вол. Чэрыкаўкага павета, 91 двор, 584 жыхары, дзейнічаў піцейны дом. У 1909 г. 105 двароў, 667 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, арганізаваны калгас «Будаўнік», працавала кузня. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 115 двароў, 409 жыхароў. Абслугоўвала калгас Чэрыкаўская МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 2.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 40 двароў. На фронце і ў партыз. атрадах змагаліся 80 вяскоўцаў, 49 з іх загінулі. Пасля вайны адбудавана, у 1946 г. радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. зноў у Чэрыкаўскім р-нах. У 1990-я г. ў складзе саўгаса «Язёрскі» (цэнтр — в. Язёры). У 1989 г. 98 гаспадарак, 252 жыхары, дзейнічалі ферма буйной рагатай жывёлы, пач. школа, магазін, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, б-ка. У 2007 г. жывёлагадоўчая ферма, клуб, б-ка, магазін. Планіроўка квартальная. Тры прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з ПнУ на ПдЗ, злучаны папярочнымі кароткімі прамалінейнымі вуліцамі. На ПнУ, за лагчынай, — 3 кароткія вуліцы ўтвараюць яшчэ адзін участак забудовы. У цэнтры вёскі — невял. плошча, дзе размешчаны грамадскія будынкі. Жылыя дамы традыц., драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены шчыльна, пераважна па абодва бакі вуліц. На паўн.-ўсх. ускраіне гасп. сектар.

Радзіма Героя Сац. Працы, шахцёра А.І.Царкова (1887—1958).



*А.І.Царкоў.*

**ВІНАГРАД** — пасёлак у Язёрскім с/с, за 10 км на З ад Чэрыкава, 85 км ад Магілёва, 34 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. На ПдЗ праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Лобчанка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Язёры і далей па шашы Слаўгарад—Чэрыкаў. 11 гаспадарак, 22 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 20 двароў, 81 жыхар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 20 двароў. Пасля вайны адбудаваны, у складзе саўгаса «Язёрскі» (цэнтр — в. Язёры). У 1949 г. радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. У 1989 г. ў пасёлку 21 гаспадарка, 35 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВУДАГА** — вёска ў Верамейскім с/с, за 15 км на Пн ад Чэрыкава, 100 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ ручай Глінец (прыток р. Волчас). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясцовай дарозе праз вёскі Глінь, Латышчына і далей па шашы Крычаў—Чэрыкаў. 84 гаспадаркі, 209 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома пад 1560 г. як сяло, дзярж. ўласнасць. У 1566 г. аддадзена ў часовае валоданне шляхціцу. У 1604 г. 11 валок пахаці, 21 двор, у





Пуцькаўскім войтаўстве Магілёўскага староства, дзярж. ўласнасць. У студз. 1655 г. цар Аляксей Міхайлавіч дараваў войту магілёўскаму М.Кгельду вёску, якая раней належала С.Срадзінскаму. У 1742 г. 50 двароў, у Асавецкім войтаўстве Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць. Меліся карчма і царква. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у валоданні Магілёўскай казённай палаты. У 1840 г. памешчык меў тут 1130,5 дзес. зямлі і карчму. У 1880 г. 52 двары, 305 жыхароў, частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. 72 двары, 495 жыхароў, у Камаровіцкай вол. Чэрыкаўскага павета. Дзейнічала школа граматы. У 1909 г. 71 двор, 579 жыхароў. Пасля 1917 г. на базе дарэв. створана працоўная школа 1-й ступені. З 17.7.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. У 1926 г. 97 двароў, 679 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна, які абслугоўвала Чэрыкаўская МТС. У 1936 г. пабудавана памяшканне для школы. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 48 двароў, 152 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 2.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 46 двароў. Пасля вайны адбудавана. У 1947 г. радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1976 г. да вёскі далучаны пас. Кістоўня. У 1989 г. ў вёсцы 81 гаспадарка, 206 жыхароў, майстэрня па рамонце сельгастэхнікі, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, пач. школа, клуб, б-ка, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад-яслі, стацыянарная кінаўстаноўка. У 2007 г. дзейнічалі малочна-таварная ферма ОАО саўгас-камбінат «Светлы», клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Ген. план забудовы вёскі распрацаваны ў 1980 г. філіялам ін-та «Белкалгаспраект». Планіровачна складаецца з 3 амаль паралельных паміж сабой крывалінейных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і злучаных на Пд кароткай прамалінейнай вуліцай. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.



*Я.М.Нікалаенка.*

Радзіма Героя Сав. Саюза (1939), ген.-лейт. авіяцыі Я.М.Нікалаенкі (1939–1961).

**ВУСЦЕ** — вёска ў Рэчыцкім с/с, за 15 км на ПнУ ад Чэрыкава, 100 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. На У і Пн цячэ р. Волчас (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Чэрыкаў—Крычаў, якая праходзіць паблізу вёскі. 91 гаспадарка, 159 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з пач. 18 ст. У 1709 г. з 30 валок зямлі, якія меліся ў вёсцы, 24 пуставалі. У 1765 г. в. Зябня Кажамякіна, 10 двароў, у Прапойскім старостве, дзярж. ўласнасць, у 1769 г. 12 двароў, 20 жыхароў мужчынскага полу, дзейнічала карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1779 г. ў Крычаўскім старостве Чэрыкаўскага павета, 35 двароў, 352 жыхары, дзейнічалі млын і суканавальня. У 1816 г. 50 двароў, 328 жыхароў, у 1880 г. 47 двароў, 342 жыхары. Памешчык меў тут 305 дзес. зямлі. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1884 г. ў аднайменным фальварку, што знаходзіўся побач, працавала суканавальня. У 1897 г. вёска ў Камаровіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 86 двароў, 586 жыхароў, школа граматы, у фальварку 3 двары, 48 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 91 двор, 709 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 2 жыхары. У 1913 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у 1917 г. пабудавана памяшканне. У 1918 г. ў былым маёнтку была арганізавана камуна. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені (у 1925 г. было 40 вучняў). З 17.7.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акругі. У 1928 г.



пачала дзейнічаць сыраробчая вытворчасць. У 1933 г. арганізаваны калгас «2-я пяцігодка», які абслугоўвала Чэрыкаўская МТС; працавалі вадзяны млын і кузня. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 165 двароў, 512 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 140 двароў. На фронце і ў партыз. атрадах змагалася 178 вяскоўцаў, 64 з іх загінулі. У брацкай магіле, што каля вёскі, пахаваны 2 сав. воіны, якія загінулі ў 1941 г. У пасляваенны час вёска адбудавана, у 1948 г. радыёфікавана, у 1956 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1989 г. 180 гаспадарак, 304 жыхары, у складзе калгаса імя Ільіча (цэнтр — в. Рэчыца), фермы буйной рагатай жывёлы і свінаводчая, ветэрынарны пункт, Дом культуры са стацыянарнай кінаўстаноўкай, дзіцячы дом, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, б-ка. У 2007 г. дзейнічалі магазін і дом сац. паслуг. Планіровачна складаецца з гал., ламанага абрысу вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на Пн, да якой на Пн далучаецца з зах. боку другая крывалінейная вуліца амаль шыротнай арыентацыі. Адм.-грамадскі цэнтр размешчаны на невял. плошчы, утворанай пашырэннем у цэнтры гал. вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне, на Пд гал. вуліцы гасп. сектар.

За 0,3 км на З ад вёскі знаходзіцца Вусцеўскае радовішча мелу (разведаныя запасы 23 млн. т).

**ВЫМАЧ** — вёска ў Сармаўскім с/с, за 6 км на ПнУ ад Чэрыкава, 91 км ад Магілёва, 26 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Чэрыкаў—Крычаў, якая праходзіць праз вёску. 23 гаспадаркі, 59 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 29 двароў, 116 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 28 двароў. Пасля вайны адбудавана. У 1945 г. радыёфікавана, у 1967 г. электрыфікавана. У пасляваенны час у складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Зоры). У 1989 г. 35 гаспадарак, 59 жыхароў. Складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ уздоўж шашы і забудаванай аднабакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГАЛОЎЧЫЦЫ** — вёска ў Вепрынскім с/с, за 21 км на ПдУ ад Чэрыкава, 106 км ад Магілёва, 52 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, мясцовасць лясістая. Праз вёску цячэ р. Домашня (прыток р. Сянна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Драгунскія Хутары і далей па шашы Чэрыкаў—Краснаполле. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі і радыяцыйнага забруджання большая частка жыхароў вёскі ў 1990-х гг. перасялена. 14 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 1555 г. як сяло ў Прапойскай вол., дзярж. уласнасць. У 1569 г. 5 двароў, але жыхароў не было, у 1671 г. 1 двор, у 1681 г. 3 двары. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, 13 двароў, 78 жыхароў, належала Ануфрыеўскаму базыльянскаму кляштару. У 1897 г. 20 двароў, 165 жыхароў, у Палужскай вол. Чэрыкаўскага павета. Мелася драўляная царква (адкрыта не пазней 1880 г.). У 1909 г. 23 двары, 197 жыхароў; у гэтым жа годзе адкрыта школа, для якой у хуткім часе было пабудавана памяшканне. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 42 вучні. У 1926 г. 41 двор, 297 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акругі. З 1934 г. цэнтр калгаса «Чырвоны араты», які абслугоўвала Чэрыкаўская

МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах змагаліся 19 вяскоўцаў, 11 з іх загінулі. У 1946 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. Маецца тэлеф. сувязь. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1989 г. ў вёсцы 71 гаспадарка, 187 жыхароў, 2 фермы буйной рагатай жывёлы, піларама, майстэрня, устаноўка па перапрацоўцы кармоў, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, магазін, аўтаматычная тэлеф. станцыя, фельч.-акушэрскі пункт, пач. школа, ветэрынарная лячэбніца, дзіцячы сад-яслі, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, аддз. ашчаднага банка, б-ка. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных у цэнтры трэцяй крывалінейнай вуліцай. Забудавана пераважна аднабакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГАРАДЗЕЦ** — пасёлак у Верамейскім с/с, за 17 км на Пн ад Чэрыкава, 80 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Крычаў—Орша. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Наркі і далей па шашы Чавусы—Чэрыкаў. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 1648 г., калі в. Гарадзец была завешчана Чавускаму кармеліцкаму кляштару. У 1765 г. ў Прапойскім старостве, 11 двароў, дзярж. ўласнасць, з 1769 г. дзейнічала карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у валоданні кн. А.М.Галіцына. У 1786 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 15 двароў, 104 жыхары. У 1816 г. 20 двароў, 164 жыхары. Памешчык у 1853 г. меў тут 227 дзес. зямлі і вадзяны млын. З 20.8.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. Магілёўскай акругі. З 1928 г. дзейнічала радыёўстаноўка. У 1930 г. арганізаваны калгас. З 5.12.1931 г. ў Чавускім, з 20.1.1932 г. зноў у Чэрыкаўскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 17 двароў, 52 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Чавускім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1946 г. радыёфікаваны, у 1964 г. электрыфікаваны. У 1989 г. ў пасёлку 16 гаспадарак, 20 жыхароў, у складзе саўгаса «Ударнік» (цэнтр — в. Верамейкі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ вуліцы з завулкамі, забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГІЖНЯ** — вёска ў Язёрскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Чэрыкава, 78 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Рынкоўка, Падлом'е і далей па шашы Магілёў—Чэрыкаў. 23 гаспадаркі, 40 жыхароў (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 16 ст. У 1571 г. прывілеем караля польскага і вял. кн. літ. Жыгімонта II Аўгуста с. Гізня пажалавана Чавускаму кармеліцкаму кляштару. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, даравана кн. А.М.Галіцыну, 17 двароў, 166 жыхароў. У 1797 г. 72 жыхары, у 1805 г. — 117 жыхароў мужчынскага полу. У 1811 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 41 двор, 149 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць царквы. У 1848 г. ў складзе казённага маёнтка Гарадзец, 35 двароў, 279 жыхароў, дзейнічала карчма. У 1880 г. 79 двароў, 290 чалавек. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся стальмашным, гарбарным, бандарным і сталярным промысламі. У 1897 г. ў Даўжанскай вол. Чэрыкаўскага павета, 112 двароў, 652 жыхары. Дзейнічалі школа граматы, 3 ветраныя млыны, піцейны дом. У 1905 г. адкрыта казённая вінная лаўка. У 1909 г. 118 двароў, 576 чалавек. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені. З 20.8.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г.



Магілёўскай акруг (да 20.7.1930). У 1931 г. арганізаваны калгас імя К.Маркса. Працавалі вадзяны млын, конная крупадзёрка, кузня і ваўначоска. У 1940 г. 75 двароў, 348 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 72 двары. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1949 г. радыёфікавана, у 1966 г. электрыфікавана. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл., з 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Чавускім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. зноў у Чэрыкаўскім р-нах. У 1989 г. ў вёсцы 53 гаспадаркі, 120 жыхароў, у складзе саўгаса «Наватар» (цэнтр — в. Лобча). Дзейнічалі фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, магазін. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, забудаваных двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Да 1993 г. ў Лабанаўскім с/с.

**ГЛІНЬ** — вёска ў Сормаўскім с/с, за 10 км на Пн ад Чэрыкава, 95 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Крычаў—Слаўгарад. 56 гаспадарак, 134 жыхары (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з пач. 17 ст. У 1604 г. сяло, 21 гаспадарка, у Пуцькаўскім войтаўстве Магілёўскага староства Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць, аддадзена ў часовае валоданне шляхціцу. У 1645 г. прыватная ўласнасць. У студз. 1655 г. цар Аляксей Міхайлавіч дараваў войту магілёўскаму Мікалаю Кгельду в. Глінну, што раней належала Станіславу Срадзінскаму. У 1742 г. 58 гаспадарак, дзярж. ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у валоданні Магілёўскай казённай палаты, 66 двароў, 335 жыхароў. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1858 г. 101 рэвізская душа, дзейнічала карчма. У 1865 г. памешчык меў тут 815 дзес. зямлі і карчму. У 1880 г. 75 двароў, 468 чалавек, акрамя земляробства вяскоўцы займаліся кравецкім і кавальскім промысламі. У 1897 г. ў Камаровіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 96 двароў, 727 жыхароў, мелася школа граматы. У пач. 20 ст. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1907 г. навучалася 57 хлопчыкаў і 3 дзяўчынкі. У 1909 г. 106 двароў, 860 жыхароў. Пасля 1917 г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені. У 1926 г. 132 двары, 817 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Іскра», працавалі кузня, ваўначоска. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета (да 24.6.1960)



*Удзельнікі аб'яднання «Гаспадыня» з в. Глінь.*



*Народны ўмелец з в. Глінь А.М.Міхаенка.*

Чэрыкаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. Магілёўскай акруг (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 86 двароў, 260 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 81 двор. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахавана 14 сав. воінаў, якія загінулі пры вызваленні раёна. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1947 г. радыёфікавана, у 1961 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім. з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. зноў у Чэрыкаўскім р-нах. У 1989 г. 122 гаспадаркі, 270 жыхароў, у складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Зоры); ферма буйной рагатай жывёлы, машынны двор, ветэрынарны пункт, сярэдняя школа, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, б-ка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, сталовая, аддз. ашчаднага банка. У 2007 г. дзейнічалі комплекс школа—сад, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з галоўнай, крывалінейнай і амаль паралельнай да яе прамалінейнай вуліц, арыентаваных з ПнУ на ПдЗ і злучаных у цэнтры невял. папярочнай вуліцай. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц., пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны на гал. вуліцы сярод жылой забудовы. На паўн.-зах. ускраіне і на Пд гасп. сектар.



*П.І.Кавалёў.*



*М.Д.Папчанка.*

**ГОЙКАЎ** — былая вёска ў Рэчыцкім с/с, за 16 км на Пн ад Чэрыкава, 101 км ад Магілёва, 19 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. На У цячэ р. Волчас (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Глінь і далей па шашы Крычаў—Чэрыкаў. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі і радыяцыйнага забруджання жыхары вёскі ў 1990-х гг. адселены. На месцы вёскі ў 2006 г. ўстаноўлены мемарыяльны знак.

Вядома па пісьмовых крыніцах з 18 ст. У 1777 г. в. Гойкава ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1850 г. ў Клімавіцкім павеце, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Камаровіцкай вол., 34 двары, 251 жыхар. У 1909 г. 32 двары, 243 жыхары. З 17.7.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. У 1926 г. 45 двароў, 307 жыхароў, дзейнічалі 4-гадовая школа, хата-чытальня, с.-г. арцель «Серп і молат», кузня. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава. У 1935 г. пабудавана памяшканне для школы, у 1937 г. — для дзіцячага сада. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. На фронце супраць акупантаў змагалася 16 вяскоўцаў, 10 з іх загінулі. Пасля вайны адбудавана, у 1954 г. радыёфікавана, у 1956 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах.У 1989 г. ў складзе калгаса «Краіна Саветаў» (цэнтр — в. Камаровічы), 4 гаспадаркі, 6 жыхароў. Дзейнічалі ферма буйной рагатай жывёлы. Сял. сядзібы былі традыц., драўляныя.

Радзіма Героя Сав. Саюза П.І.Кавалёва (1916—44), пад кіраўніцтвам якога ў Вял. Айч. вайну група падрыўнікоў 255-га партыз. палка пусціла пад адхон 19 варожых эшалонаў, падарвала 30 аўтамашын; ген.-маёра М.Д.Папчанкі (1901—70), Героя Сац. Працы М.А.Марчанкі.

**ГОРКІ** — вёска ў Сормаўскім с/с, за 6 км на ПдЗ ад Чэрыкава, 91 км ад Магілёва, 36 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. На Пд цячэ р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слаўгарад—Чэрыкаў. 40 гаспадарак, 82 жыхары (2007).

За 1,5 км на ПдУ і за 0,5 км на Пд ад вёскі знаходзяцца 2 стаянкі эпохі позня-



га мезаліту і курганны могільнік, якія сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вёска вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ., у валоданні Магілёўскай казённай палаты. У 1834 г. 4 двары, 36 жыхароў, уласнасць памешчыка, які меў у 1877 г. ў вёсках Язёры і Горкі 8157 дзес. зямлі. У 1880 г. 12 двароў, 63 жыхары, частка вяскоўцаў займалася стальмашным і бандарным промысламі. У 1897 г. вёска (12 двароў, 77 жыхароў) і фальварак (1 двор, 25 жыхароў) у Даўжанскай вол. Чэрыкаўскага павета. У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама. У 1909 г. ў вёсцы 19 двароў, 106 жыхароў, у фальварку 2 двары, 32 жыхары. 15.8.1923 г. арганізавана с.-г. т-ва, некалькі пазней адкрыта 4-гадовая школа. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета (да 24.6.1960) Чэрыкаўскага р-на Калінінскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас «Іскра», які абслугоўвала Чэрыкаўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце змагалася 26 вяскоўцаў, 12 з якіх загінулі. У 1950 г. радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1989 г. ў вёсцы 54 гаспадаркі, 135 жыхароў, у складзе калгаса «Маладая гвардыя» (цэнтр — в. Ушакі), пач. школа. Гал. дугападобная вуліца арыентавана з ПнЗ на ПдУ. На ПнЗ адасоблены ўчастак забудовы — кароткая прамалінейная вуліца. Вёска забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма доктара медыцынскіх навук, праф., засл. дзеяча навукі Беларусі І.М.Старавойтава.

**ГРАМАБОЙ** — пасёлак у Сормаўскім с/с, за 16 км на ПнУ ад Чэрыкава, 75 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны, вакол лес. На У цячэ р. Вудага (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Лабанаўка і далей па шашы Чавусы—Чэрыкаў. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1989 г. ў пасёлку 7 гаспадарак, 13 жыхароў, у складзе саўгаса «Лабанаўка» (цэнтр — в. Лабанаўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГРОНАЎ** — вёска ў Вепрынскім с/с, за 7 км на У ад Чэрыкава, 92 км ад Магілёва, 37 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. На Пн цячэ р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Краснаполле—Чэрыкаў. 138 гаспадарак, 334 жыхары (2007).

За 1,5 км на З ад вёскі знаходзіцца курганны могільнік, паміж вёскамі Гронаў і Вепрын, ва ўрочышчы Курганне — паселішча верхнедняпроўскай культуры эпохі неаліту. Гэтыя помнікі археалогіі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вёска вядома з 18 ст. У 1777 г. ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ., належала стацкаму саветніку І.В.Галынскаму, 14 двароў, 106 жыхароў. У 1785 г. 23 двары, 138 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1811 г. 26 двароў, 89 жыхароў мужчынскага полу, у 1897 г. ў Дубравіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 50 двароў, 327 жыхароў, непадалёку быў заезны дом (1 двор, 12 жыхароў). У 1909 г. 58 двароў, 341 жыхар, дзейнічала школа граматы. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені. З 17.7.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. У 1926 г. 98 двароў, 481 жыхар. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас «Трэці рашаючы», які абслугоўвала Чэрыкаўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 92 двары, 362 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г.



*М.А.Марчанка.*



*І.М.Старавойтаў.*


*М.І.Суворaў.*

да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 61 двор, загубілі 2 жыхароў. З 25 вяскоўцаў, якія змагаліся супраць фашызму, 20 загінулі. У памяць аб іх у 1977 г. каля Дома культуры ўстаноўлена стэла. У 1958 г. вёска радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1989 г. 143 гаспадаркі, 438 жыхароў, у складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Веприн). Дзейнічалі дрэваапрацоўчы з-д, лесапункт, Дом культуры са стацыянарнай кінаўстаноўкай, аўтаматычная тэлеф. станцыя, магазін, сталовая, фельч.-акушэрскі пункт, пач. школа, дзіцячы сад-яслі, б-ка. У 2007 г. Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дрэваапрацоўчы к-т, цэх-лесапільня Чэрыкаўскага лясгаса, лесапункт, магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай, амаль шыротнай арыентацыі вуліцы і паралельнай да яе прамалінейнай вуліцы, злучаных у цэнтры перавулкам. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПнЗ вытв. сектар.

Радзіма Героя Сац. Працы М.І.Суворава.

**ГРЫЎКІ** — пасёлак у Язёрскім с/с, за 17 км на З ад Чэрыкава, 102 км ад Магілёва, 48 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на ПнЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Міхлін, Сакалоўка і далей па шашы Слаўгарад—Чэрыкаў. 7 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 40 двароў, 120 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 18 жыхароў. У баях супраць акупантаў удзельнічала 7 жыхароў, 3 з іх загінулі. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1989 г. ў пасёлку 18 гаспадарак, 45 жыхароў, у складзе калгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Сакалоўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДОЎГАЯ** — вёска ў Язёрскім с/с, за 18 км на З ад Чэрыкава, 82 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам і цячэ р. Лобчанка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз населеныя пункты Язёры, Селішча і далей па шашы Слаўгарад—Чэрыкаў. 45 гаспадарак, 93 жыхары (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 17 ст. У 1675 г. слабада, 2 двары, дзярж. уласнасць, пасесія, у 1769 г. 14 двароў, дзейнічалі карчма, 2 млыны. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1786 г. 29 двароў, 239 жыхароў, мелася драўляная царква. У 1834 г. 40 двароў, 332 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1864 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1889 г. навучаліся 41 хлопчык і 4 дзяўчынкі, у 1907 г. — 57 хлопчыкаў і 3 дзяўчынкі, дзейнічала б-ка. У 1886 г. цэнтр воласці, 53 двары, 345 жыхароў, апрача земляробства вяскоўцы займаліся сталярным і бандарным промысламі. У 1897 г. 78 двароў, 512 жыхароў; дзейнічалі хлебазапасны магазін, школа, фельч. ўчастак, царква, піцейны дом, раз у год (у маі) праводзіўся кірмаш. У 1905 г. адкрыта казённая вінная лаўка, у 1909 г. 79 двароў, 582 жыхары. Пасля 1917 г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені. З 20.8.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. У 1925 г. адкрыта б-ка. У 1926 г. 96 двароў, 586 жыхароў, фельч.-акушэрскі пункт. З 9.6.1927 г. Магілёўскай акругі (да 20.7. 1930). У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Чырвоная Беларусь», працавалі кузня і ваўначоска. Абслугоўвала калгас спачатку Чэрыкаўская, а пасля 1938 г. — Ударная МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 75 двароў, 313 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. за-



хопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 73 двары. На фронце змагаліся 18 вяскоўцаў, 10 з іх загінулі. У 1951 г. вёска радыёфікавана, у 1961 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Чавускім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1989 г. 77 гаспадарак, 188 жыхароў, у складзе саўгаса «Наватар» (цэнтр — в. Лобча). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, магазін, б-ка. Да 1993 г. ў Лабанаўскім с/с. У 2008 г. дзейнічалі жывёлагадоўчая ферма, магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДРАГУНСКІЯ ХУТАРЫ** — вёска ў Вепрынскім с/с (з 1992), за 18 км на Пд ад Чэрыкава, 103 км ад Магілёва, 48 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, вакол лес. На Пд цячэ р. Домашня (прыток р. Сянна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Чэрыкаў—Краснаполле. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. У 1926 г. хутары, 42 двары, 270 жыхароў, дзейнічала школа. У 1931 г. арганізаваны калгас «Камунар». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 35 двароў, 147 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 2 двары. На фронце змагалася 10 вяскоўцаў, 5 з іх загінулі. У 1955 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1989 г. 34 гаспадаркі, 71 жыхар, у складзе калгаса «Чырвоны араты» (цэнтр — в. Галоўчыцы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. На ПдЗ — адасоблены ўчастак забудовы. Жылыя дамы традыц., драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ДУБРАЎКА** — вёска ў Язёрскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Чэрыкава, 60 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Крычаў—Орша. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Чавусы—Чэрыкаў. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскай акрузе. У 1834 г. 20 двароў, 135 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 27 двароў, 188 жыхароў, апрача земляробства вяскоўцы займаліся сталярным промыслам. У 1897 г. ў Лабанаўскай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 48 двароў, 298 жыхароў. У 1909 г. 53 двары, 335 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. У 1926 г. 63 двары, 375 жыхароў. Дзейнічала пач. школа. З 9.6.1927 г. Магілёўскай акругі (да 20.7.1930). У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 58 двароў, 234 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 56 двароў. У баях супраць акупантаў загінулі 5 вяскоўцаў. Пасля вайны адбудавана. У 1949 г. вёска радыёфікавана, у 1966 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Чавускім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 20.7.1966 г. зноў у Чэрыкаўскім р-нах. У 1989 г. 23 гаспадаркі, 41 жыхар, у складзе саўгаса «Наватар» (цэнтр — в. Лобча). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы, працаваў магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДУБРАЎКА** — былая вёска ў былым Ушакоўскім с/с, за 28 км на ПдУ ад Чэрыкава, 113 км ад Магілёва, 58 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз населеныя пункты Галоўчыцы, Драгунскія Хутары і далей па шашы Чэрыкаў—Краснаполле. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай атамнай

электрастанцыі і радыяцыйнага забруджання жыхары вёскі ў 1990-х гг. адселены. На месцы вёскі ў 2006 г. ўстаноўлены мемарыяльны знак.

Вядома з 19 ст. У 1858 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 26 рэвізскіх душ. У 1897 г. вёска ў Палужскай вол. Чэрыкаўскага павета, 22 двары, 155 жыхароў. Побач былі аднайменныя вёска (17 двароў, 133 жыхары) і фальварак (1 двор, 5 жыхароў). З 17.7.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг. У 1934 г. арганізаваны калгас «XVII партз'езд», які першапачаткова аб'ядноўваў 8 сямей, але ўжо ў наступны год у ім было 40 сямей. Абслугоўвала калгас Чэрыкаўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах змагалася 15 вяскоўцаў, 5 з іх загінулі. У 1953 г. вёска радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. зноў у Чэрыкаўскім р-нах. У пасляваенны час у складзе калгаса «Чырвоны араты» (цэнтр — в. Галоўчыцы). У 1989 г. 38 гаспадарак, 81 жыхар. Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. Планіровачна складалася з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, была забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўночна-заходняй ускраіне быў гасп. сектар.

**ЖУРАВЕЛЬ** — былая вёска ў Сормаўскім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Чэрыкава, 97 км ад Магілёва, 44 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. На Пд цячэ р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слаўгарад—Чэрыкаў. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі і радыяцыйнага забруджання жыхары вёскі ў 1990-х г. адселены. На месцы вёскі ў 2006 г. ўстаноўлены мемарыяльны знак.

За 2,5 км на ПдЗ ад вёскі знаходзіцца курганны могільнік, за 1,5 км на ПдУ — стаянка позняга мезаліту, што сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ., у 1780 г. ў валоданні Магілёўскай казённай палаты, 19 двароў, 137 жыхароў. У 1834 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 22 двары, 140 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 67 жыхароў мужчынскага полу, у 1880 г. — 40 двароў, 156 чалавек; апрача земляробства вяскоўцы займаліся сталярным і бандарным промысламі. У 1897 г. ў Даўжанскай вол. Чэрыкаўскага павета, 48 двароў, 338 жыхароў. У 1909 г. 57 двароў, 426 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. У 1926 г. 73 двары, 462 жыхары, дзейнічала 4-гадовая школа. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас «Светлы шлях», які першапачаткова аб'ядноўваў 18, а ў 1935 г. — 90 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У сярэдзіне 1940 г. калгас меў 150 галоў буйной рагатай жывёлы, 80 коней, 170 авечак. У 1940 г. ў вёсцы 60 двароў, 273 чал. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 40 двароў, загубілі 3 жыхароў. На фронце змагалася 55 вяскоўцаў, 37 з іх загінулі. У вёсцы пахаваны чл. Чэрыкаўскага падп. райкома КП(б)Б, камандзір групы асобнага Чэрыкаўскага партыз. атрада В.П.Шчаўлікаў, які загінуў у снеж. 1941 г. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1951 г. радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. зноў у Чэрыкаўскім р-нах. У 1980-я г. ў складзе калгаса «Маладая гвардыя» (цэнтр — в. Ушакі). У 1989 г. 62 гаспадаркі, 120 жыхароў. Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, магазін, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай. Гал. вуліца была арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Да



ае перпендыкулярна на Пд падыходзіла з ПнУ другая вуліца; забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд.-зах. ускраіне быў гасп. сектар.

**ЖЫТНЁЎ** — пасёлак у Сормаўскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Чэрыкава, 75 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам і цячэ р. Вудага (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Лабанаўка і далей па шашы Чавусы—Чэрыкаў. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1847 г. тут заснавана сукнавальнае прадпрыемства, якое ў 1847 г. выпрацавала 1500 аршынаў сукна. У 1874 г. памешчык меў тут 1220 дзес. зямлі, 2 вадзяныя млыны, сукнавальню і карчму. У 1897 г. ў Лабанаўскай вол. Чэрыкаўскага павета, фальварак, 1 двор, 8 жыхароў. У 1909 г. 14 жыхароў. У 1926 г. 4 двары, 16 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. Магілёўскай акруг (да 20.7.1930). У 1930-я г. пасялкоўцы аб'ядналіся ў калгас. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940-я г. 11 двароў, 49 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Летам 1943 г. з партыз. палка «Трынаццаць» была вылучана ініцыятыўная група, якая стала ядром партыз. атрада № 15 (камандзір І.Н.Валчкоў, камісар Я.А.Касмачоў, працяглы час дыслацыраваўся ў пас. Жытнёў і яго ваколіцах). На дзень злучэння з Чырвонай Арміяй 2.10.1943 г. атрад налічваў 432 партызаны. У 1953 г. пасёлак радыёфікаваны, у 1966 г. электрыфікаваны. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Чавускім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У пасляваенны час вёска ў складзе саўгаса «Лабанаўка» (цэнтр — в. Лабанаўка). У 1989 г. 7 гаспадарак, 15 жыхароў. Да 1995 г. ў Лабанаўскім с/с. Традыц. драўляныя сял. сядзібы пастаўлены двухбакова, няшчыльна, уздоўж кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ.

**ЗААЗЕР'Е** — пасёлак у Язёрскім с/с, за 8 км на З ад Чэрыкава, 93 км ад Магілёва, 40 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. На Пд мяжуе з лесам, на Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Лобчанка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слаўгарад—Чэрыкаў. 15 гаспадарак, 44 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 20 двароў, 83 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы ў вер. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску. На фронце змагаліся 8 вяскоўцаў, з іх 3 загінулі. Пасля вайны пасёлак адбудаваны, у складзе саўгаса «Язёрскі» (цэнтр — в. Язёры). У 1954 г. радыёфікаваны, у 1963 г. электрыфікаваны. У 1989 г. 22 гаспадаркі, 60 жыхароў, пач. школа. Планіровачна складаецца з вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАБАЧЭЎ** — вёска ў Верамейскім с/с, за 29 км на ПнЗ ад Чэрыкава, 74 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам і цячэ р. Вудага (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ялоўка і далей па шашы Чавусы—Чэрыкаў. 10 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1832 г. засн. сукнавальня. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся бандарным промыслам. У 1858 г. 20 двароў, 96 жыхароў, уласнасць памешчыка, які меў тут у 1879 г. 658 дзес. зямлі, вадзяны млын і сукнавальню. У 1880 г. 122 жыхары. У 1897 г. ў Лабанаўскай вол. Чэрыкаўскага павета, 30 двароў, 193 жыхары. У 1909 г. 41 двор, 248 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. У 1926 г. дзейнічалі 4-гадовая школа, вадзяны млын. З 9.6.1927 г. Магілёскай акругі (да 26.7.1930). З

5.12.1931 г. ў Чавускім р-не, арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава. З 20.1.1932 г. ў Чэрыкаўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 44 двары, 197 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 7 двароў. Партызаны у 1943 г. разграмілі гарнізон акупантаў, які размяшчаўся ў вёсцы, узарвалі воданапорную вежу, якая забяспечвала вадой ст. Верамейкі. На фронце змагалася 20 вяскоўцаў. У 1948 г. вёска радыёфікавана, у 1965 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Чавускім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1989 г. 30 гаспадарак, 58 жыхароў, вёска ў складзе саўгаса «Ударнік» (цэнтр — в. Верамейкі). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. Планіроўка крыжападобная. Гал. вуліца прамалінейная, арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Яе на Пн амаль перпендыкулярна перасякае другая крывалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАГУРКОВІШЧА** — вёска ў Верамейскім с/с, за 13 км на Пн ад Чэрыкава, 85 км ад Магілёва, 43 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз пас. Карма, в. Глінь і далей па шашы Крычаў—Чэрыкаў. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 21 двор, 68 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы ў вер. 1943 г. спалілі 20 двароў. Пасля вайны вёска адбудавана, у складзе калгаса «Іскра» (цэнтр — в. Вудага). У 1951 г. радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. У 1989 г. 13 гаспадарак, 22 жыхары. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАРА** — пасёлак у Сормаўскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Чэрыкава, 65 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Чэрыкаў, якая праходзіць паблізу вёскі. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 5 пасялкоўцаў змагаліся на франтах. У пасляваенны час пасёлак у складзе саўгаса «Лабанаўка» (цэнтр — в. Лабанаўка). У 1950 г. радыёфікаваны, у 1966 г. электрыфікаваны. У 1989 г. 12 гаспадарак, 21 жыхар, магазін, фельч.-акушэрскі пункт. Да 1995 г. ў Лабанаўскім с/с. Планіровачна складаецца з вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай аднабакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗВЯЗДА** — вёска ў Язёрскім с/с, за 9 км на З ад Чэрыкава, 94 км ад Магілёва, 41 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на Пд і ПнЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слаўгарад—Чэрыкаў. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1926 г. 17 двароў, 72 жыхары. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 18 двароў, 72 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. На франтах змагаліся 7 вяскоўцаў, 2 з іх загінулі. Пасля вайны вёска адбудавана, у складзе саўгаса «Язёрскі» (цэнтр — в. Язёры). У 1954 г. радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. У 1989 г. 14 гаспадарак, 37 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай аднабакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗОРЫ** — вёска ў Сормаўскім с/с, за 9 км на ПнУ ад Чэрыкава, 94 км ад Магілё-



ва, 23 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ ручай Глінец (прыток р. Волчас). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Крычаў—Чэрыкаў. 59 гаспадарак, 174 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1709 г. вёска, у якой з 20 валок зямлі 15 пуставалі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1779 г. 50 двароў, 453 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1811 г. 59 двароў, 228 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. ў Камаровіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 111 двароў, 756 жыхароў. Меліся хлебны магазін, школа граматы, карчма. Непадалёку быў піцейны дом (1 двор, 9 жыхароў). У 1909 г. 123 двары, 964 жыхары. З 17.7.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. У 1926 г. 198 двароў, 1114 жыхароў, дзейнічалі 4-х гадовая школа, кузня. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акругі, у 1929 г. арганізаваны калгас «Пераможац», які ў 1929 г. аб'ядноўваў 30, а ў 1930 г. — 240 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 12 двароў. У брацкай магіле, што на могілках, пахаваны 4 сав. воіны, якія загінулі ў ліп. 1941 г. У 1950 г. радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1968 г. да вёскі далучаны пас. Замастоўе. У 1989 г. 157 гаспадарак, 429 жыхароў, размяшчаліся комплекс і ферма буйной рагатай жывёлы, піларама, устаноўка па перапрацоўцы кармоў, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аўтаматычная тэлеф. станцыя, фельч.-акушэрскі пункт, 8-гадовая школа, дзіцячы сад-яслі, Дом культуры са стацыянарнай кінаўстаноўкай, б-ка. У 2007 г. дзейнічалі Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт, аддз. міністэрства па надзвычайных сітуацыях, магазін. Планіровачна складаецца з 2 амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПнУ на ПдЗ і злучаных у цэнтры невял. прамалінейнай вуліцай. На Пн, за рэчкай, — адасоблены ўчастак забудовы. Жылыя дамы індывідуальныя, пераважна драўляныя сядзібнага тыпу, пастаўлены ў большасці двухбакова, шчыльна. У цэнтры, на гал. вуліцы і на зах. ускраіне ўзведзена 14 двухпавярховых мураваных і 8 аднапавярховых мураваных жылых дамоў. На паўд.-зах. ускраіне гасп. сектар.

За 0,2 км на Пд і ПдЗ размешчана Зорскае радовішча мелу.

**ЗЯБЕНЬ** — былая вёска ў былым Ушакоўскім с/с, за 26 км на ПдУ ад Чэрыкава, 110 км ад Магілёва, 57 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, вакол лес. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Сянна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз населеныя пункты Галоўчыцы, Драгунскія Хутары і далей па шашы Чэрыкаў—Краснаполле. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі і радыяцыйнага забруджання жыхары вёскі ў 1990-х г. адселены. На месцы вёскі ў 2006 г. ўстаноўлены мемарыяльны знак.

Вядома па пісьмовых крыніцах з 1765 г. як слабада ў Прапойскім старостве, дзярж. ўласнасць, 2 двары. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, належала кн. А.М.Галіцыну. У 1786 г. 3 двары, 49 жыхароў. У 1816 г. ў в. Зябны 11 двароў, 81 жыхар, у 1828 г. ў фальварку Зябень пачала дзейнічаць прыгонніцкая суконная мануфактура, на якой у 1859 г. працавала 39 рабочых. У тым жа годзе заснавана і мануфактура па вырабе ліставога шкла, дзейнічалі 2 цэглавыя печы. У 1858 г. 113 рэвізскіх душ, карчма, млын. Памешчык меў у 1870 г. 4114 дзес. зямлі, вадзяны млын, карчму і 2 таўчыльні для лазовай кары. У 1874 г. заснаваны 2 прадпрыемствы па вырабе таўчыльняў, неабходных для апрацоўкі лазовай кары. У 1880 г. 28 двароў, 202 жыхары, апрача земляробства вяскоўцы займаліся бандарным промыслам. У 1897 г. ў Палужскай вол. Чэрыкаўскага павета, 39 двароў, 319 жыхароў. Меўся вадзяны

млын. Непадалёку былі аднайменныя фальварак (1 двор, 7 жыхароў, 1 млын) і хутар (4 двары, 32 жыхары). У 1907 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у тым жа годзе навучалася 37 хлопчыкаў і 4 дзяўчынкі. У 1907 г. для школы пабудавана памяшканне. У 1909 г. ў вёсцы 45 двароў, 326 жыхароў; у фальварку 1 двор, 5 жыхароў; у маёнтку 1 двор, 6 жыхароў. Пасля 1917 г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 66 вучняў; дзейнічала хата-чытальня. З 20.8.1924 г. да 8.7.1960 г. цэнтр сельсавета ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. Магілёўскай акруг (да 26.7.1930). У 1931 г. арганізаваны калгас «Добраахвотнік». У 1940 г. 27 двароў, 85 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 13 двароў, загубілі 5 жыхароў. У вёсцы дзейнічала падп. антыфаш. група (10 чалавек, кіраўнік — настаўніца мясц. школы В.Я.Цітовіч). Патрыёты збіралі звесткі аб варожых гарнізонах і ўмацаваных пунктах акупантаў, распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро. 23.2.1942 г. В.Я. Цітовіч была арыштавана і 2.3 расстраляна. У памяць аб мужнай патрыётцы ў вёсцы, на будынку школы ў 1966 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка. У баях супраць акупантаў змагаліся на фронце 14 вяскоўцаў, 5 з іх загінулі. У 1954 г. вёска радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 30.7.1966 г. зноў у Чэрыкаўскім р-нах. У пасляваенны час у складзе калгаса «Чырвоны араты» (цэнтр — в. Галоўчыцы). У 1989 г. 31 гаспадарка, 74 жыхары. Дзейнічалі 8-гадовая школа, магазін, б-ка. Планіровачна складалася з 2 амаль паралельных паміж сабой і падзеленых ручаём вуліц, арыентаваных амаль мерыдыянальна і злучаных перавулкам; была забудавана традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗЯЛЁНЫ ДУБ** — пасёлак у Сармаўскім с/с, за 19 км на ПнЗ ад Чэрыкава, 68 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Чэрыкаў, якая праходзіць паблізу вёскі. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 6 пасялкоўцаў змагаліся на фронце, 3 з іх загінулі. У пасляваенны час у складзе саўгаса «Лабанаўка» (цэнтр — в. Лабанаўка). У 1952 г. радыёфікаваны, у 1966 г. электрыфікаваны. У 1989 г. 14 гаспадарак, 42 жыхары. Да 1995 г. ў Лабанаўскім с/с. Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАЛОДА** — вёска ў Верамейскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Чэрыкава, 82 км ад Магілёва, 2 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Казёл (прыток р. Вудага). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз населеныя пункты Юдаўка, Лабанаўка і далей па шашы Чавусы—Чэрыкаў. 7 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-х г. як пасёлак. 10.9.1925 г. арганізавана меліярацыйнае т-ва. У 1928 г. 96 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 16 вяскоўцаў змагаліся на франтах. У пасляваенны час у складзе саўгаса «Ударнік» (цэнтр — в. Верамейкі). У 1950 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. Размешчана ферма буйной рагатай жывёлы. У 1989 г. ў вёсцы 20 гаспадарак, 47 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай мерыдыянальна і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне гасп. сектар.

**КАЛЮЦІН** — былая вёска ў Вепрынскім с/с, за 18 км на ПдУ ад Чэрыкава, 103 км ад Магілёва, 48 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, вакол лес. Транспартныя



сувязі па мясц. дарозе праз в. Вепрын і далей па шашы Чэрыкаў—Краснаполле. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі і радыяцыйнага забруджання жыхары вёскі ў 1990-х гг. адселены. На месцы вёскі ў 2006 г. ўстаноўлены мемарыяльны знак.

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1926 г. хутары, 17 двароў, 125 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 5 вяскоўцаў змагаліся на франтах, 3 з іх загінулі. У пасляваенны час у складзе саўгаса «Сцяг» (цэнтр — в. Баровая). У 1957 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1989 г. 6 гаспадарак, 7 жыхароў. Планіровачна складалася з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.



*Мемарыяльны знак на месцы былой в. Камаровічы.*

**КАМАРОВІЧЫ** — былая вёска ў Рэчыцкім с/с, за 19 км на ПнУ ад Чэрыкава, 104 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. На ПдЗ цячэ р. Волчас (прыток р. Сож), а праз вёску — яе прыток р. Яленка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Рэчыца і далей па шашы Чэрыкаў—Крычаў. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі і радыяцыйнага забруджання жыхары вёскі ў пач. 1990-х г. адселены. На месцы вёскі ў 2006 г. ўстаноўлены мемарыяльны знак.

За 0,5 км на Пд ад былой вёскі знаходзіцца гарадзішча ранняга жал. веку, што сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Паводле рукапісных крыніц вёска вядома з 16 ст. У 1568 г. сяло ў Крычаўскай вол., дзярж. ўласнасць. У 1604 г. сяло Крычаўскай дзяржавы. У 1709 г. з 40 валок зямлі 34 пуставалі. У 1747 г. 37 двароў, дзейнічала царква, карчма, млын. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, належала В.Х.Галынскай. У 1779 г. ў Крычаўскім старостве Чэрыкаўскага павета, 32 двары, 332 жыхары, уласнасць памешчыка. Меліся драўляная царква, вадзяны млын, сукнавальня. У 1816 г. 64 двары, 405 жыхароў. У 1880 г. 65 двароў, 383 жыхары, апрача земляробства вяскоўцы займаліся кравецкім, бандарным і кавальскім промысламі. У 1862 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1889 г. ў школе навучаліся 31 хлопчык і 3 дзяўчынкі, у 1907 г. — 69 хлопчыкаў і 6 дзяўчынак; дзейнічала б-ка. У 1897 г. цэнтр воласці ў Чэрыкаўскім павеце, 79 двароў, 581 жыхар. Меліся хлебазапасны магазін, царква, дом апекі, карчма. Асобна быў піцейны дом (8 двароў, 31 жыхар). У 1905 г. адкрыта казённая вінная лаўка. У 1909 г. 88 двароў, 700 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 58 вучняў. Дзейнічалі пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых, хата-чытальня і б-ка. З 17.7.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. У 1926 г. пачаў дзейнічаць фельч.-акушэрскі пункт. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас «Краіна Саветаў», працавалі кузня, вадзяны млын, на якім у 1938 г. была зманціравана ўстаноўка па выпрацоўцы

электраэнергіі для патрэб калгасаў «6-ы з'езд Саветаў» і «Краіна Саветаў». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 72 двары, 220 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 70 двароў. На фронце змагаліся 120 вяскоўцаў, 25 з іх загінулі. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны сав. воіны, якія загінулі ў 1941—45 гг. Пасля вайны адбудавана. У 1953 г. пабудаваны радыёвузел, і вёска была радыёфікавана, у 1956 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1989 г. 121 гаспадарка, 312 жыхароў, комплекс буйной рагатай жывёлы, свінагадоўчая ферма, майстэрня, устаноўка па перапрацоўцы кармоў, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, камбінат быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, дзіцячы сад-яслі, б-ка, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай. Ген. план забудовы вёскі быў распрацаваны Бел. н.-д. ін-там па будаўніцтве на вёсцы ў 1975 г. Планіровачна складалася з гал. крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, якую ў цэнтры перасякала р. Яленка. Да гэтай вуліцы пад прамым вуглом далучаліся 3 прамалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, няшчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд і З быў гасп. сектар.

**КАМЕНКА** — былая вёска ў Вепрынскім с/с, за 19 км на ПдУ ад Чэрыкава, 104 км ад Магілёва, 51 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. На паўд. і паўд.-зах. ускраінах цячэ р. Сянна (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Малінаўка, Вепрын і далей па шашы Чэрыкаў—Краснаполле. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі і радыяцыйнага забруджання жыхары вёскі ў 1990-х г. адселены. На месцы вёскі ў 2006 г. ўстаноўлены мемарыяльны знак.

У 1834 г. вёска ў Чэрыкаўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Дубравіцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 23 двары, 174 жыхары. У 1909 г. 26 двароў, 191 жыхар. З 17.7.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. У 1926 г. 41 двор, 205 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 45 двароў, 291 жыхар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 42 двары. На фронце змагаліся 33 вяскоўцы, 12 з іх загінулі. У 1956 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-не. У пасляваенны час у складзе саўгаса «Сцяг» (цэнтр — в. Баровая). У 1989 г. 41 гаспадарка, 78 жыхароў. Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складалася з двух амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і забудаваных пераважна двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАМЕНКА** — вёска ў Верамейскім с/с, за 34 км на ПнЗ ад Чэрыкава, 75 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ялоўка і далей па шашы Чавусы—Чэрыкаў. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2007).

Вядома з пач. 19 ст. У 1811 г. вёска ў Чэрыкаўскім павеце, 4 двары, 14 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. У 1834 г. 77 жыхароў. У 1858 г. ў складзе маёнтка Пятрушына. У 1880 г. 15 двароў, 95 жыхароў, частка вяскоўцаў займалася бандарным промыслам. У 1897 г. в. Каменка (яна ж Слабодка) у Лабанаўскай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., налічвала 25 двароў, 166 жыхароў. У 1909 г. 30 двароў, 199 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі (з 20.8.1924 г. да



16.7.1954 г. цэнтр сельсавета). З 9.6.1927 г. Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), у 1928 г. 225 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 45 двароў, 291 жыхар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 42 двары. На фронце змагаліся 10 вяскоўцаў. Ад рук акупантаў і на франтах загінулі 22 жыхары. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Чавускім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У пасляваенны час у складзе саўгаса «Ударнік» (цэнтр — в. Верамейкі). У 1948 г. радыёфікавана, у 1965 г. электрыфікавана. У 1989 г. 9 гаспадарак, 14 жыхароў, дзейнічаў магазін. Планіроўка У-падобная. Гал. крывалінейная вуліца, арыентавана з ПдУ на ПнЗ. На У да яе падыходзіць прамалінейная кароткая вуліца. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАМЕНКА** — вёска ў Сормаўскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Чэрыкава, 70 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд і З мяжуе з лесам. На ПнУ цячэ р. Каменка (прыток р. Малая Вудага). Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Чэрыкаў. 4 гаспадаркі, 8 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1946 г. радыёфікавана, у 1966 г. электрыфікавана. У 1989 г. 5 гаспадарак, 15 жыхароў, у складзе саўгаса «Лабанаўка» (цэнтр — в. Лабанаўка). Да 1995 г. ў Лабанаўскім с/с. Планіровачна складаецца з крывалінейнай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Сял. сядзібы традыц. драўляныя, з гасп. пабудовамі.

**КАРМА** — пасёлак у Верамейскім с/с, за 16 км на Пн ад Чэрыкава, 80 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз пас. Юны Пахар і далей па шашы Чавусы—Чэрыкаў. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1948 г. радыёфікаваны, у 1964 г. электрыфікаваны. У 1989 г. 14 гаспадарак, 32 жыхары, у складзе саўгаса «Ударнік» (цэнтр — в. Верамейкі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАРМА** — пасёлак у Верамейскім с/с, за 14 км на Пн ад Чэрыкава, 99 км ад Магілёва. 42 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на Пн сажалка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Глінь, Латышчына і далей па шашы Крычаў—Чэрыкаў. 7 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1957 г. радыёфікаваны і электрыфікаваны. Да 1989 г. ў Сормаўскім с/с. У 1989 г. 16 гаспадарак, 32 жыхары, у складзе калгаса «Іскра» (цэнтр — в. Вудага). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай шчыльна, двухбакова, індывідуальнымі, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАРПАЎСКІ** — пасёлак у Язёрскім с/с, за 10 км на З ад Чэрыкава, 95 км ад Магілёва, 42 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слаўгарад—Чэрыкаў. 5 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 18 двароў, 75 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы ў вер. 1943 г. поўнасцю спалілі пасёлак. На франтах змагаліся 5 пасялкоўцаў, 3 з іх загінулі. Пасля вайны адбудаваны. У 1954 г. радыёфікаваны, у 1963 г. электрыфікаваны. У





1989 г. ў пасёлку 7 гаспадарак, 25 жыхароў, у складзе саўгаса «Язёрскі» (цэнтр — в. Язёры). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАСАРЫ** — былая вёска ў Верамейскім с/с, за 26 км на ПнЗ ад Чэрыкава, 71 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Каменка, Ялоўка і далей па шашы Чавусы—Чэрыкаў.

Вядома па пісьмовых крыніцах з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1811 г. 19 двароў, у Чэрыкаўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 28 двароў, 138 чалавек, апрача земляробства вяскоўцы займаліся сталярным промыслам. У 1897 г. 42 двары, 250 жыхароў, у Лабанаўскай вол. Чэрыкаўскага павета. У 1909 г. 47 двароў, 290 жыхароў. У гэтым жа годзе адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 43 вучні. З 20.8.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. Магілёўскай акруг (да 26.7.1930), з 5.12.1931 г. ў Чавускім, з 20.1.1932 г. зноў у Чэрыкаўскім р-нах. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас імя Сталіна, працавала кузня. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 47 двароў, 312 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 2 двары. На фронце змагаліся 25 вяскоўцаў, 21 з іх загінуў. У 1949 г. радыёфікавана, у 1965 г. электрыфікавана. У 1989 г. 14 гаспадарак, 22 жыхары. Вёска знаходзілася ў складзе саўгаса «Ударнік» (цэнтр — в. Верамейкі). Планіровачна складалася з двух прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, злучаных у цэнтры завулкам, і арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Была забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КЛІНЫ** — былы пасёлак у Вепрынскім с/с, за 24 км на ПдУ ад Чэрыкава, 109 км ад Магілёва, 56 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Каля пасёлка пачынаецца р. Сянна (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз населеныя пункты Малінаўка, Вепрын і далей па шашы Краснаполле—Чэрыкаў. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі і радыяцыйнага забруджання жыхары пасёлка ў 1990-х г. адселены. На яго месцы ў 2006 г. ўстаноўлены мемарыяльны знак.

Вядомы па пісьмовых крыніцах з 18 ст. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, належаў кн. А.М.Галіцыну, 4 двары, 29 жыхароў. У 1811 г. 8 двароў, 47 жыхароў мужчынскага полу. Памешчык у 1871 г. меў ва ўрочышчы Кліны і Крамянка 6136 дзес. зямлі і вадзяны млын. У 1909 г. ў Дубравіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 13 двароў, 126 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. У 1926 г. 23 двары, 158 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акругі. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На фронце змагаліся 18 пасялкоўцаў, 11 з іх загінулі. У 1958 г. радыёфікаваны, у 1964 г. электрыфікаваны. У пасляваенны час у складзе саўгаса «Сцяг» (цэнтр — в. Баровая). З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1989 г. 19 гаспадарак, 35 жыхароў. Планіровачна складаўся з 2 крывалінейных, амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і забудаваных двухбакова, няшчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КНЯЗЁЎКА** — былая вёска ў былым Ушакоўскім с/с, за 21 км на ПдУ ад Чэрыкава, 106 км ад Магілёва, 53 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы.



Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. На Пн цячэ р. Сянна (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз населеныя пункты Галоўчыцы, Драгунскія Хутары і далей па шашы Чэрыкаў—Краснаполле. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі і радыяцыйнага забруджання жыхары вёскі ў 1990-х г. адселены. На месцы вёскі ў 2006 г. ўстаноўлены мемарыяльны знак.

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 1765 г. як вёска (10 двароў) у Прапойскім старостве, дзярж. ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, належала кн. А.М.Галіцыну. У 1786 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 10 двароў, 89 жыхароў. У 1897 г. ў Палужскай вол. Чэрыкаўскага павета, 13 двароў, 57 жыхароў. У 1909 г. 16 двароў, 113 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. У 1926 г. 28 двароў, 176 жыхароў. У 1930 г. жыхары вёсак Князёўка і Піленка арганізавалі калгас «Чырвоны пераможца». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1955 г. радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1989 г. ў складзе калгаса «Чырвоны араты» (цэнтр — в. Галоўчыцы), 13 гаспадарак, 19 жыхароў. Планіровачна складалася з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРАСНЫ** — пасёлак у Верамейскім с/с, за 16 км на Пн ад Чэрыкава, 79 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пн і ПнУ мяжуе з лесам. На ПдУ пачынаецца ручай Глінец (прыток р. Волчас). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Карма, Вудага, Глінь і далей па шашы Чэрыкаў—Крычаў. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Вядомы з 19 ст. У 1897 г. фальварак у Беліцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 2 двары, 32 жыхары. Меліся карчма і заезны дом (13 жыхароў). У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1964 г. радыёфікаваны, у 1967 г. электрыфікаваны. У 1989 г. ў пасёлку 7 гаспадарак, 16 жыхароў, у складзе саўгаса «Ударнік» (цэнтр — в. Верамейкі). Традыц. драўляныя сял. сядзібы пастаўлены абапал сажалкі.

**ЛАБАНАЎКА** — вёска ў Сормаўскім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Чэрыкава, 71 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Каменка (прыток р. Малая Вудага). Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Чэрыкаў, якая праходзіць каля вёскі. 125 гаспадарак, 339 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. У вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. занята рас. войскамі, у студз. 1655 г. цар Аляксей Міхайлавіч дараваў войту магілёўскаму М.Кгельду в. Лабанаўка, што раней належала С.Срадзінскаму. У 1742 г. 68 гаспадарак, у Асавецкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць. Меліся млын і карчма. У 1737 г. дзейнічала драўляная царква. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у валоданні Магілёўскай казённай палаты. У 1816 г. 33 двары, 187 жыхароў, у Мсціслаўскім павеце, у 1858 г. 78 двароў, 590 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1862 г. адкрыта аднакласная школа (нар. вучылішча), якая ў 1911 г. ператворана ў двухкласную. У 1889 г. ў школе навучаліся 44 хлопчыкі і 4 дзяўчынкі, у 1907 г. — 107 хлопчыкаў і 14 дзяўчынак, дзейнічала б-ка. Памяшканне для школы пабудавана ў 1894 г. У 1880 г. 102 двары, 656 жыхароў, цэнтр воласці, частка вяскоўцаў займалася бандарным промыслам. У 1892 г. заснаваны 2 стайні, дзе размяшчаліся чыстакроўныя жарабцы, купленыя ў Варонежскай губ. для паляпшэння мясц. парод коней. У

1897 г. 145 двароў, 995 жыхароў, царква, дом апекі, заезны дом, штогод у чэрв. праводзіўся кірмаш. Асобна размяшчаўся вадзяны млын (1 двор, 7 жыхароў). У 1909 г. 183 двары, 1078 жыхароў, працавала паштовае аддз. Пасля 1917 г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 117 вучняў. У 1924—95 — цэнтр сельсавета. З 20.8.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі, адкрыта хата-чытальня, у 1926 г. пачаў працаваць урачэбны ўчастак. З 9.6.1927 г. Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, у 1934 г. пабудавана памяшканне для 7-гадовай школы. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На кірмашы, якія праводзіліся раз у год, прыязджалі сяляне з многіх вёсак, гандлявалі с.-г. інвентаром, прадуктамі, вырабамі саматужнікаў. У 1940 г. 129 двароў, 779 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 2 двары, загубілі 2 жыхароў. На фронце змагаліся 25 вяскоўцаў, з якіх 8 загінулі. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахавана 12 сав. воінаў, якія загінулі пры вызваленні раёна. У 1944 г. радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Чавускім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1989 г. ў вёсцы 155 гаспадарак, 416 жыхароў; размешчаны комплекс байной рагатай жывёлы, рамонтныя майстэрні, піларама, установкі па перапрацоўцы кармоў і па прыгатаванні вітаміннай мукі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, грамадская лазня, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, дзіцячы сад-яслі, сярэдняя школа, сталовая, аўтаматычная тэлеф. станцыя, Дом культуры са стацыянарнай кінаўстаноўкай, б-ка, аддз. ашчаднага банка, аптэка. У 2007 г. дзейнічалі малочнатаварная ферма, комплекс школа-сад, клуб, б-ка, комплексны прыёмны пункт, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Ген. план забудовы вёскі распрацаваны ў 1984 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і злучаных у цэнтры чацвёртай невял. вуліцай. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі традыц. дамамі сядзібнага тыпу. На ПнЗ і У гасп. сектар.


*Е.С.Белавусава.*

Радзіма Героя Сац. Працы, прадзільшчыцы Магілёўскага з-да штучнага валакна Е.С.Белавусавай (н. 13.5.1925 г.).

**ЛАТЫШЧЫНА** — вёска ў Сормаўскім с/с, за 6 км на ПнУ ад Чэрыкава, 91 км ад Магілёва, 28 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Чэрыкаў—Крычаў. 40 гаспадарак, 126 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1928 г. 151 жыхар. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 23 двары, 71 жыхар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы ў вер. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана, у складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Зоры). У 1956 г. радыёфікавана, у 1966 г. электрыфікавана. У 1989 г. ў вёсцы 27 гаспадарак, 66 жыхароў, ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з 2 (адна крывалінейная, другая прамалінейная) вуліц, амаль паралельных паміж сабой і арыентаваных мерыдыянальна. Забудавана аднабакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне гасп. сектар.

**ЛОБЧА** — вёска ў Язёрскім с/с, за 17 км на З ад Чэрыкава, 103 км ад Магілёва, 25 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Лобчанка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Доўгае, Язёры і далей па шашы Слаўгарад—Чэрыкаў. 111 гаспадарак, 306 жыхароў (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 16 ст. У 1555 г. с. Лонча ў Прапойскай вол., дзярж. ўласнасць. У 1675 г. 5, у 1681 г. 6 двароў, у 1769 г. 29 двароў, 67 жыхароў,



мелася карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у валоданні Магілёўскай казённай палаты, 39 двароў, 191 чалавек. У 1786 г. 44 двары, 305 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1845 г. 52 двары, 214 жыхароў. У 1880 г. 81 двор, 385 чалавек, апрача земляробства вяскоўцы займаліся бандарным промыслам. У 1897 г. 101 двор, 686 жыхароў, у Даўжанскай вол. Мелася школа граматы. У 1909 г. 113 двароў, 816 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. 4.6.1923 г. арганізавана меліярацыйнае т-ва. З 20.8.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. У 1926 г. 147 двароў, 789 жыхароў. З 9.6.1927 г. Магілёўскай акругі (да 20.7.1930). У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны ўсход», працавала кузня. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 120 двароў, 670 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 114 двароў. На фронце змагалася 30 вяскоўцаў, 15 з іх загінулі. У брацкіх магілах, што на могілках, пахаваны 3 сав. лётчыкі, якія загінулі ў ліп. 1941 г., і 12 воінаў, якія загінулі пры вызваленні вёскі. У 1949 г. радыёфікавана, у 1961 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Чавускім, з 6.1.1965 г. ў Крычаўскім, з 30.7.1966 г. зноў у Чэрыкаўскім раёнах.

У 1989 г. ў вёсцы 147 гаспадарак, 374 жыхары, размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, вытв. брыгада, рамонтная майстэрня, піларама, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сталовая, фельч.-акушэрскі пункт, аўтаматычная тэлеф. станцыя, 8-гадовая школа, аддз. сувязі, дзіцячы сад-яслі, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, б-ка. У 2007 г. дзейнічалі малочна-таварная ферма, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Ген. план забудовы вёскі распрацаваны ін-там «Магілёўграмадзянпраект» у 1983 г. Гал. прамалінейная вуліца шыротнай арыентацыі і крывалінейная вуліца, якая праходзіць на Пн ад гал., арыентаваная з ПдУ на ПнЗ, злучаны паміж сабой завулкам з мостам цераз раку. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Новая вуліца амаль шыротнай арыентацыі праходзіць на З вёскі. На ПнЗ і Пд гасп. сектар.

**ЛЫСАЎКА** — былая вёска ў былым Лысаўскім с/с, за 23 км на ПдУ ад Чэрыкава, 108 км ад Магілёва, 55 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, вакол лес. Праз вёску цячэ ручай Альховы (прыток р. Сянна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вепрын і далей па шашы Чэрыкаў—Краснаполле. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі і радыяцыйнага забруджання жыхары вёскі ў 1990-х г. адселены. На месцы вёскі ў 2006 г. ўстаноўлены мемарыяльны знак.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з канца 18 ст., калі ў вёсцы разам з маёнткам было 15 жыхароў. У 1811 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 5 двароў, 24 жыхары мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. У 1-й пал. 19 ст. працаваў з-д па вырабе шкла (на 6,5 тыс. руб. у год), якое спажывалася ў губерні і вывозілася ў Крамянчуг. У 1909 г. ў Брацькавіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 17 двароў, 150 жыхароў.

З 17.7.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. У 1926 г. 21 двор, 116 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акругі. У 1934 г. жыхары вёсак Лысаўка, Астравы, Сенненка, Гутка арганізавалі калгас «7-ы з'езд Саветаў», які абслугоўвала Чэрыкаўская МТС. З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З канца 1941 г. ў вёсцы дзейнічала падп. група. Падпольшчыкі збіралі зброю, боепрыпасы, распаўсюджвалі выданні партызан і прысланыя з Вялікай зямлі газеты, брашуры, зводкі Саўінфармбюро, выступалі ў якасці сувязных і разведчыкаў. Вызвалена 1.10.1943 г. З 16.9. 1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 20.7.1966 г. ў Чэры-

каўскім р-нах. У 1980-я г. ў складзе калгаса «Чырвоны араты» (цэнтр — в. Галоўчыцы). У 1989 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар. Сял. сядзіба была драўляная з гасп. пабудовамі.

**ЛЮТРАЎКА** — былая вёска ў Сормаўскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Чэрыкава, 78 км ад Магілёва, 44 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Малая Вудага (прыток р. Вудага). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Шароеўка і далей па шашы Чавусы—Чэрыкаў.

Вядома з 1765 г. як в. Летароўка, у Прапойскім старостве, 8 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1769 г. 4 двары, 6 жыхароў, мелася карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1786 г. 2 двары, 30 чал., уласнасць памешчыка, які меў тут у 1877 г. 127 дзес. зямлі. У 1897 г. аколіца Лютароўка, 5 двароў, 35 жыхароў, у Лабанаўскай вол. Чэрыкаўскага павета. Непадалёку была другая аколіца з такой жа назвай, 1 двор, 4 жыхары. У 1909 г. 6 двароў, 44 жыхары. З 17.7.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. У 1926 г. 17 двароў, 112 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Культура», працавала кузня. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 24 двары, 97 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 12 двароў. На фронце змагалася 9 вяскоўцаў, 4 з іх загінулі. У 1949 г. вёска радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1980-я г. знаходзілася ў складзе эксперыментальнай базы «Чэрыкаў» (цэнтр — г. Чэрыкаў). У 1989 г. 9 гаспадарак, 14 жыхароў. Планіровачна складалася з прамалінейнай, мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, забудаванай традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вёска скасавана ў сак. 2004 г.

**ЛЯСАНЬ** — былая вёска ў Вепрынскім с/с, за 14 км на У ад Чэрыкава, 99 км ад Магілёва, 46 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на У, Пн і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вепрын і далей па шашы Краснаполле—Чэрыкаў. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі і радыяцыйнага забруджання жыхары ў 1990 г. адселены. На месцы вёскі ў 2006 г. ўстаноўлены мемарыяльны знак.

У 1920-я г. ў памешчыцкім маёнтку створана школа-камуна. З 17.7.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У баях супраць ворага змагаліся 17 вяскоўцаў, 10 з іх загінулі. Вызвалена вёска 30.9.1943 г. У 1950 г. радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 23.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1980-я г. ў складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Вепрын). У 1989 г. 33 гаспадаркі, 62 жыхары. Планіровачна складалася з прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛЯХІ** — вёска ў Верамейскім с/с, за 26 км на ПнЗ ад Чэрыкава, 73 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. станцыі Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на паўн. ускраіне праходзіць чыгунка. На У цячэ р. Вудага (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Каменка, Ялоўка і далей па шашы Чавусы—Чэрыкаў. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

У 1855 г. памешчык меў тут 352 дзес. зямлі; у 1858 г. 10 двароў, 38 жыхароў. У 1880 г. 22 двары, 97 чалавек, апрача земляробства вяскоўцы займаліся бандарным промыслам. У 1897 г. ў Беліцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 30 двароў, 176 жыхароў. Непадалёку былі аколіца (24 двары, 129 жыхароў) і маёнтак-фальварак (1 двор, 4 жыхары) з такой жа назвай. У 1909 г. ў вёсцы 60 двароў, 148 жыхароў, у



фальварку 1 двор, 4 жыхары. Дзейнічала школа граматы. Пасля 1917 г. на яе базе створана прац. школа 1-й ступені. З 20.8.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. У 1926 г. 72 двары, 375 жыхароў. З 9.6.1927 г. Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 5.12.1931 г. ў Чавускім, з 20.1.1932 г. зноў у Чэрыкаўскім р-нах. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 85 двароў, 174 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 6 двароў, загубілі 2 жыхароў. На фронце змагалася 25 вяскоўцаў, 9 з якіх загінулі. У 1953 г. радыёфікавана, у 1956 г. электрыфікавана. У 1989 г. ў вёсцы 6 гаспадарак, 48 жыхароў; у складзе саўгаса «Ударнік» (цэнтр — в. Верамейкі), ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. Да гал., арыентаванай з ПдЗ на ПнУ вуліцы, далучаюцца з З адна, а з У — дзве кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудавана пераважна двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛЯШЧЭВІНА** — пасёлак у Сормаўскім с/с, за 12 км на Пн ад Чэрыкава, 97 км ад Магілёва, 38 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёску Латышчына і далей па шашы Чэрыкаў—Крычаў. 5 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1956 г. радыёфікаваны, у 1966 г электрыфікаваны. У 1989 г. ў пасёлку 10 гаспадарак, 23 жыхары, у складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Зоры). Планіроўка П-падобная: 3 кароткія прамалінейныя вуліцы з сажалкай у цэнтры. Сял. сядзібы традыц., драўляныя, з гасп. пабудовамі.

**МАЙСКІ** — пасёлак, цэнтр Вепрынскага с/с (з 1991), за 27 км на У ад Чэрыкава, 113 км ад Магілёва, 59 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. На Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Бароўка (прыток р. Лабжанка), якая цячэ на У вёскі. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз вёскі Селішча, Охар, Рэчыца і далей па шашы Чэрыкаў—Крычаў. 232 гаспадаркі, 549 жыхароў (2007). У сувязі з катастрофай на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі ў пасёлак былі пераселены жыхары вёсак, якія пацярпелі ад радыяцыйнага забруджання.

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 15 пасялкоўцаў змагаліся на фронце, 5 з іх загінулі. У 1964 г. электрыфікаваны і радыёфікаваны. У 1989 г. 17 гаспадарак, 43 жыхары, у складзе саўгаса «Сцяг» (цэнтр — в. Баровая). З 1991 г. цэнтр Вепрынскага с/с. У 2008 г. цэнтр СВК «Калгас «Сцяг», 8 вуліц, сярэдняя школа-сад, клуб, б-ка, аддз. сувязі, філіял «Беларусбанка», комплексны прыёмны пункт, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з Г-падобнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАЛІНАЎКА** — вёска ў Вепрынскім с/с, за 18 км на ПдУ ад Чэрыкава, 103 км ад Магілёва, 50 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. На Пд і ПдУ мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Сянна (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вепрын і далей па шашы Чэрыкаў—Краснаполле. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 1777 г. як вёска ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. ў Быхаўскім павеце, 3 двары, 29 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1841 г. засн. шкляная мануфактура, дзе ў год выраблялася 750 скрынак ліставога шкла (у 1859 г. працавала 40 майстравых, дзейнічалі 3 печы). Прадукцыя накіроўвалася гал. чынам у Кіеў. У 1897 г. ў Дубравіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, фальварак, 2 двары, 23 жыхары. З 17.7.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не

Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг. З 1927 г. цэнтр Халмянскага с/с. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн», які абслугоўвала Чэрыкаўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 4 двары, 31 жыхар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце змагалася 106 вяскоўцаў, 36 з іх загінулі. Ураджэнка вёскі М.С.Таўкачова была ўдзельніцай Крычаўскага антыфашысцкага падполля. У 1952 г. вёска радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 20.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1976 г. да вёскі далучана в. Халмы.

У 1990 г. 148 гаспадарак, 364 жыхары, ферма буйной рагатай жывёлы, устаноўка па перапрацоўцы кармоў, машынны двор, майстэрня, магазін, грамадская лазня, фельч.-акушэрскі пункт, аўтаматычная тэлеф. станцыя, сярэдняя школа, дзіцячы сад-яслі, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сталовая, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, б-ка. Ген. план забудовы быў распрацаваны ін-там «Магілёўграмадзянпраект» у 1983 г. Рака падзяляе вёску на зах. (крывалінейная вуліца шыротнай арыентацыі) і ўсх. (3 кароткія вуліцы складаюць П-падобную планіроўку) часткі. Забудавана была двухбакова, няшчыльна, пераважна традыц. драўлянымі сядзібамі.

**МАНАСТЫРОК** — вёска ў Вепрынскім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Чэрыкава, 100 км ад Магілёва, 47 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на У і Пд мяжуе з лесам. На Пн цячэ р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Краснаполле—Чэрыкаў. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2007).

Вядома з 1765 г. як вёска ў Прапойскім старостве, 3 двары, дзярж. ўласнасць. У 1769 г. 9 двароў, 7 жыхароў мужчынскага полу, мелася карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1786 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 5 двароў, 41 жыхар, уласнасць памешчыка. У 1816 г. 3 двары, 13 жыхароў. У 1860 г. памешчык меў тут 610 дзес. зямлі. У 1897 г. ў Старынскай (Старынкаўскай) вол. Чэрыкаўскага павета, 24 двары, 147 жыхароў, дзейнічаў заезны дом. У чэрв. 1905 г. вяскоўцы насуперак забароне пасвілі сваю жывёлу на памешчыцкіх угоддзях. У 1909 г. 28 двароў, 187 жыхароў. 4.5.1923 г. створана меліярацыйнае т-ва. У хуткім часе былі адкрыты хата-чытальня, 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. У 1926 г. 34 двары, 230 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акругі. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 7 жыхароў. За 2 км на Пн ад вёскі, ва ўрочышчы «Крынічка», размяшчаўся Чэрыкаўскі падпольны райком КП(б)Б, які дзейнічаў з 13.7.1941 г. да снеж. 1941 г. і быў пад аховай партыз. атрада Храмовіча. 23.10.1941 г. карнікі разграмілі партыз. базу і партызаны былі вымушаны адысці ў Бранскія лясы. Вызвалена вёска 30.9. 1943 г. воінамі 324-й стралк. дывізіі 50-й арміі. На фронце змагаліся 42 вяскоўцы, 28 з іх загінулі. У брацкай магіле, што на могілках, пахаваны 6 сав. воінаў. Адноўлена зямлянка, у якой у 1941 г. размяшчаўся падпольны райком КП(б)Б. У пач. 1950-х г. уведзены ў строй радыёвузел і вёска была радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана.

У 1989 г. ў вёсцы 44 гаспадаркі, 72 жыхары, у складзе калгаса «Маладая гвардыя» (цэнтр — в. Ушакі); размешчана вытв. брыгада, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, магазін, б-ка. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ уздоўж ракі і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.



Каля паўн. ускраіны знаходзіцца Манастыроцкае радовішча пяскоў (разведаныя запасы 863 тыс. $м^3$).

**МАСТКОВА** — пасёлак у Сормаўскім с/с, за 13 км на Пн ад Чэрыкава, 98 км ад Магілёва, 38 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на Пн і ПнЗ мяжуе з лесам. На У праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Вудага (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Глінь, Латышчына і далей па шашы Крычаў—Чэрыкаў. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1928 г. 65 жыхароў. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 11 двароў, 32 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 10 двароў. Пасля вайны адбудаваны. У 1961 г. электрыфікаваны, у 1966 г. радыёфікаваны.

У 1989 г. ў пасёлку 14 гаспадарак, 30 жыхароў, у складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Зоры). Пдніровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАСТОК** — пасёлак у Верамейскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Чэрыкава, 80 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. На У цячэ р. Казёл (прыток р. Вудага). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Лабанаўка і далей па шашы Чавусы—Чэрыкаў. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1928 г. 54 жыхары. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На фронце змагалася 10 пасялкоўцаў, 8 з іх загінулі. У 1964 г. радыёфікаваны, у 1965 г. электрыфікаваны. У 1989 г. ў пасёлку 11 гаспадарак, 15 жыхароў, у складзе саўгаса «Ударнік» (цэнтр — в. Верамейкі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МІРАГОШЧ** — вёска ў Сормаўскім с/с, за 5 км на Пд ад Чэрыкава, 90 км ад Магілёва, 37 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. На Пд цячэ р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Горкі і далей па шашы Слаўгарад—Чэрыкаў. 65 гаспадарак, 130 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 17 ст. У 1692 г. сяло, прыватная ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у падпарадкаванні Магілёўскай казённай палаты, 27 двароў, 193 жыхары. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1834 г. 36 двароў, 265 жыхароў, у Чэрыкаўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 133 жыхары мужчынскага полу, дзейнічаў заезны дом. У 1880 г. 53 двары, 253 жыхары, апрача земляробства вяскоўцы займаліся бандарным промыслам. У 1887 г. царк. ведамства адкрыла школу. У 1897 г. ў Даўжанскай вол. Чэрыкаўскага павета, 62 двары, 448 жыхароў. У 1909 г. 81 двор, 534 жыхары.

Пасля 1917 г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 53 вучні. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 20.8.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. З 20.8.1924 г. да 8.7.1960 г. цэнтр сельсавета. У 1926 г. 116 двароў, 685 жыхароў. З 9.6.1927 г. Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1929 г. арганізаваны калгас «Сцяг працы», які ў 1930-я г. абслугоўвала Чэрыкаўская МТС; працавала кузня. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 135 двароў, 567 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 119 двароў. Вызвалена 30.9.1943 г. воінамі 1320-га палка 431-й стралк. дывізіі (камандзір І.Ф.Мілёхін) 50-й арміі. У брацкай магіле, што на могілках, пахавана 12 сав. воінаў, якія загінулі пры вызваленні раёна. На фронце змагаліся 73

вяскоўцы, 45 з якіх загінулі. У 1945 г. радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1989 г. ў вёсцы 85 гаспадарак, 195 жыхароў, у складзе эксперыментальнай базы «Чэрыкаў» (цэнтр — г. Чэрыкаў); размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, аддз. сувязі, клуб, 8-гадовая школа, б-ка, магазін. У 2007 г. дзейнічалі малочна-таварная ферма, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай шыротна ўздоўж ракі і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы, на паўн.-ўсх. ускраіне гасп. сектар.

**МІХАЙЛАЎКА** — былая вёска ў былым Ушакоўскім с/с, за 22 км на ПдУ ад Чэрыкава, 107 км ад Магілёва, 54 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. На У цячэ р. Домашня (прыток р. Сянна). Транспартныя сувязі па мясцовай дарозе праз населеныя пункты Галоўчыцы, Драгунскія Хутары і далей па шашы Краснаполле—Чэрыкаў. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі і радыяцыйнага забруджання жыхары вёскі ў 1990-х г. адселены. На месцы вёскі ў 2006 г. ўстаноўлены мемарыяльны знак.

Засн. ў 1920-я г. У 1933 г. жыхары вёсак Міхайлаўка і Хаўменка арганізавалі калгас «Перамога». Працаваў смалакурны з-д. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце змагаліся 7 вяскоўцаў, з якіх 4 загінулі. У пасляваенны час у складзе калгаса «Чырвоны араты» (цэнтр — в. Галоўчыцы). Была электрыфікавана і радыёфікавана. У 1989 г. 11 гаспадарак, 18 жыхароў. Планіровачна складалася з прамалінейнай, амаль мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МІХАЛІН** — вёска ў Рэчыцкім с/с, за 15 км на ПнУ ад Чэрыкава, 100 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Охар і далей па шашы Крычаў— Чэрыкаў. 12 гаспадарак, 19 жыхароў (2007).

У 1840 г. тут заснавана скураная прыгонніцкая мануфактура, дзе ў 1859 г. працавала 36 рабочых. Памешчык меў у 1855 г. ў вёсках Міхалін і Халоблін 5513,5 дзес. зямлі, вадзяны млын, сукнавальню, карчму і вінакурны з-д. У 1876 г. другі памешчык меў у вёсках Міхалін і Нізкі 2000 дзес. зямлі. У 1897 г. фальварак у Камаровіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 1 двор, 18 жыхароў. У 1898 г. створана вінакурнае прадпрыемства, дзе ў 1900 г. пачала працаваць паравая машына. У 1909 г. 7 жыхароў. У ліст. 1918 г. ў фальварку арганізавана камуна. З 17.7.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. У 1926 г. 12 двароў, 65 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акругі. У 1930-я г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка», які абслугоўвала Чэрыкаўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 33 двары, 98 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. На фронце змагаліся 18 вяскоўцаў, 8 з іх загінулі. Пасля вайны адбудавана. У 1962 г. радыёфікавана, у 1956 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. зноў у Чэрыкаўскім р-нах. У 1989 г. ў вёсцы 32 гаспадаркі, 85 жыхароў, у складзе калгаса імя Ільіча (цэнтр — в. Рэчыца). Планіроўка Г-падобная. Больш працяглая вуліца прамалінейная, арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Да яе пад прамым вуглом падыходзіць з З кароткая, прамалінейная вуліца. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыль-



на, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МІХЛІН** — вёска ў Язёрскім с/с, за 17 км на ПдЗ ад Чэрыкава, 102 км ад Магілёва, 49 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Сакалоўка і далей па шашы Слаўгарад—Чэрыкаў. 18 гаспадарак, 29 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. У 1931 г. арганізаваны калгас «Міхлін». У 1940 г. 30 двароў, 92 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. На фронце змагаліся 30 вяскоўцаў, з іх 13 загінулі. У 1960 г. радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. У 1989 г. ў вёсцы 28 гаспадарак, 71 жыхар, у складзе калгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Сакалоўка); размешчаны вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы. У 2008 г. дзейнічаў дом сац. паслуг. Планіроўка Г-падобная. Больш працяглая прамалінейная вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Да яе на У пад прамым вуглом падыходзіць кароткая, прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Паміж вёскамі Рэчыца і Міхлін знаходзіцца Сожскае радовішча мелу (разведаныя запасы 108,9 млн.т).

**НАРКІ** — вёска ў Верамейскім с/с, за 17 км на Пн ад Чэрыкава, 68 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. На З цячэ р. Казёл (прыток р. Вудага). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Юны Пахар, і далей па шашы Чавусы—Чэрыкаў. 52 гаспадаркі, 110 жыхароў (2007).

За 2 км на ПнЗ ад вёскі знаходзіцца гарадзішча, пры археал. раскопках якога знойдзена кераміка ранняга жал. веку, што сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вёска вядома з 1580 г. як сяло Норкавічы. У 1604 г. кароль польскі і вял. кн. літ. ВКЛ Жыгімонт III Ваза дараваў вёску выхадцам з Маскоўскай дзяржавы Хрыпуновым. У 1635 г. вёска ў Пуцькаўскім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета, дзярж. ўласнасць. У студз. 1655 г., калі Магілёўшчына была захоплена рус войскамі, цар Аляксей Міхайлавіч аддаў Наркі, якія належалі С.Срадзінскаму, войту магілёўскаму М.Кгельду. У 1742 г. ў Асавецкім войтаўстве Аршанскага павета Віцебскага ваяв., 39 двароў, дзярж. ўласнасць. Меліся млын, карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1858 г. ў вёсцы Норкіна 29 двароў, 153 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 113 двароў, 716 жыхароў, апрача земляробства вяскоўцы займаліся бандарным промыслам. У 1897 г. ў Лабанаўскай вол. Чэрыкаўскага павета, 167 двароў, 1138 жыхароў, меліся вадзяны млын і хлебазапасны магазін. Непадалёку была аднайменная сядзіба (1 двор, 4 жыхары). У 1909 г. ў вёсцы 180 двароў, 1154 жыхары, каля вадзянога млына быў 1 двор, 5 жыхароў. Дзейнічала школа граматы. У 1922 г. арганізавана с.-г. кааператыўнае і закупачна-збытавое т-ва. На базе дарэв. створаны прац. школа 1-й ступені, хата-чытальня і б-ка. З 20.8.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сормавец», куды ўвайшлі асобныя гаспадаркі з пасёлкаў Карма, Красны і інш. З 9.6.1927 г. Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 5.12.1931 г. ў Чавускім, з 20.1.1932 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг». У 1933 г. ў вёсцы паявіўся першы трактар, быў паказаны першы кінафільм. З 20.02.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 112 двароў, 574 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 74 двары. У 1951 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Чавускім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1989 г. ў вёсцы 118 гас-

падарак, 247 жыхароў, у складзе саўгаса «Ударнік» (цэнтр — в. Верамейкі); размешчаны вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, пач. школа, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, дзіцячы сад-яслі, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, б-ка. У 2007 г. дзейнічалі клуб, дом сац. паслуг, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіроўка прамавугольная. Пад вострым вуглом да гал. прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі падыходзяць з З і У прамалінейныя вуліцы, якія перасякаюцца завулкамі. Жылыя дамы індывідуальныя, драўляныя, пастаўлены пераважна двухбакова, шчыльна. Грамадскія будынкі размешчаны на гал. вуліцы сярод жылой забудовы. На ПдЗ гасп. сектар.


*І.П.Дзенісенка.*

Радзіма аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў Чэрыкаўскага антыфаш. падполля ў Вял. Айч. вайну, паэта, журналіста І.П.Дзенісенкі (1913—43); бел. балетмайстра, засл. дзеяча культуры БССР (1968) І.А.Серыкава (1919—97).

**НОВАМАЛІНАЎКА** — былая вёска ў Вепрынскім с/с, за 23 км на ПдУ ад Чэрыкава, 108 км ад Магілёва, 55 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. На Пн цячэ р. Сянна (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Малінаўка, Чудзяны, Вепрын і далей па шашы Краснаполле—Чэрыкаў. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі і радыяцыйнага забруджання жыхары вёскі ў 1990 г. адселены. На яе месцы ў 2006 г. ўстаноўлены мемарыяльны знак.

Вядома з пач. 20 ст. У 1909 г. хутар у Дубравіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 18 двароў, 142 жыхары. У 1926 г. вёска, 29 двароў, 175 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы арганізавалі калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце змагаліся 27 вяскоўцаў, 10 з іх загінулі. У 1949 г. вёска радыёфікавана, у 1966 г. электрыфікавана. У пасляваенны час у складзе саўгаса «Сцяг» (цэнтр — в. Баровая). У 1990 г. 30 гаспадарак, 73 жыхары. Планіровачна складалася з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НОВАЯ БЕЛІЦА** — вёска ў Верамейскім с/с, за 31 км на Пн ад Чэрыкава, 88 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Каля вёскі найвышэйшы пункт раёна (189 м). На Пн цячэ р. Волчас (прыток р. Сож), на У праходзяць меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Верамейкі і далей па шашы Чавусы—Чэрыкаў. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1811 г. слабодка Беліца ў Чэрыкаўскім павеце, 18 двароў, 49 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. У 1816 г. вёска Новая Беліца, 47 двароў, 233 жыхары. У 1880 г. 40 двароў, 237 жыхароў, частка вяскоўцаў займалася кузнечным промыслам. З 20.8.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. У 1926 г. 41 двор, 201 жыхар. З 9.6.1927 г. Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 5.12.1931 г. ў Чавускім, з 20.1.1932 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1933 г. арганізаваны калгас «16-годдзе Кастрычніка», які ў сярэдзіне 1930-х г. далучыўся да калгаса «12-годдзе Кастрычніка» (в. Старая Беліца). Працавала кузня. З 20.02.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 43 двары, 267 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 41 двор. На фронце змагаўся 21 вясковец, 12 з іх загінулі. У 1949 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Чавускім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7. 1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1989 г. ў вёсцы 18 гаспадарак, 28 жыхароў, у складзе саўгаса «Ударнік» (цэнтр — в. Верамейкі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.



**НОВАЯ СЛАБАДА** — былая вёска ў Язёрскім с/с, за 10 км на З ад Чэрыкава, 80 км ад Магілёва, 44 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вербеж і далей па шашы Чавусы—Чэрыкаў.

Засн. ў 1920-я г. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 18 двароў, 72 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана, знаходзілася ў складзе саўгаса «Язёрскі» (цэнтр — в. Язёры). У 1954 г. радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. У 1989 г. 4 гаспадаркі, 11 жыхароў. Дзейнічала пач. школа. Планіровачна складалася з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НОВЫ СВЕТ** — вёска ў Язёрскім с/с, за 18 км на З ад Чэрыкава, 103 км ад Магілёва, 50 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на З і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Міхлін, Сакалоўка і далей па шашы Слаўгарад—Чэрыкаў. 7 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 35 двароў, 141 жыхар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1956 г. радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. У 1989 г. ў вёсцы 18 гаспадарак, 55 жыхароў, у складзе калгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Сакалоўка), дзейнічалі б-ка, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ОХАР** — вёска ў Рэчыцкім с/с, за 16 км на ПнУ ад Чэрыкава, 101 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Чэрыкаў—Крычаў. 13 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1604 г. як сяло Крычаўскай дзяржавы, уласнасць казны. У 1709 г. з 9 валок зямлі 5 пуставалі. У 1727 г. с. Огару ў Крычаўскім старостве. У 1747 г. 35 двароў, дзярж. ўласнасць, пасесія. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. 52 двары, 379 жыхароў. У 1811 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 47 двароў, 174 жыхары мужчынскага полу. Дзейнічаў мужчынскі праваслаўны Охарскі манастыр. У 1897 г. ў Камаровіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 78 двароў, 567 жыхароў, хлебны магазін, школа граматы, карчма, піцейны дом (1 двор, 10 жыхароў), мужчынскі манастыр (3 двары, 38 жыхароў), 2 царквы. У 1909 г. 84 двары, 631 жыхар. У 1910 г. адкрыта школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. З 17.7.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 75 вучняў, дзейнічала хатачытальня. У кастр. 1925 г. арганізавана камсамольская ячэйка. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акругі. У 1933 г. арганізаваны калгас «Ленінскія шлях», працавала кузня. З 20.02.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 82 двары, 271 жыхар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 70 двароў. Вызвалена воінамі 238-й стралк. дывізіі 50-й арміі. У пасляваенны час у складзе калгаса імя Ільіча (цэнтр — в. Рэчыца). У 1951 г. радыёфікавана, у 1956 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1989 г. ў вёсцы 104 гаспадаркі, 230 жыхароў, ферма буйной рагатай жывёлы, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, магазін, б-ка. Гал. прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, пер-

пендыкулярна перасякаецца 3 кароткімі прамалінейнымі вуліцамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц., драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАБЕДА** — вёска ў Сормаўскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Чэрыкава, 73 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пн і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Лабанаўка і далей па шашы Чавусы—Чэрыкаў. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1958 г. радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. У 1989 г. ў вёсцы 19 гаспадарак, 43 жыхары, у складзе саўгаса «Лабанаўка» (цэнтр — в. Лабанаўка), размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. У 1968 г. да вёскі далучаны пасёлкі Гром, Слава. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАДБУДКІ** — пасёлак у Сормаўскім с/с, за 21 км на ПнЗ ад Чэрыкава, 76 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на З і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Лабанаўка і далей па шашы Чавусы—Чэрыкаў. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце змагаліся 5 пасялкоўцаў, з якіх 2 загінулі. У 1960 г. радыёфікаваны, у 1966 г. электрыфікаваны. У 1989 г. ў пасёлку 8 гаспадарак, 13 жыхароў, у складзе саўгаса «Лабанаўка» (цэнтр — в. Лабанаўка). Традыц. драўляныя сял. сядзібы пастаўлены няшчыльна, уздоўж кароткай, прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ.

**ПАДЛОМ'Е** — вёска ў Сормаўскім с/с, за 16 км на ПнЗ ад Чэрыкава, 69 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Чэрыкаў, якая праходзіць побач з вёскай. 13 гаспадарак, 27 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-х г. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1957 г. радыёфікавана, у 1966 г. электрыфікавана. У 1989 г. ў вёсцы 22 гаспадаркі, 64 жыхары, у складзе саўгаса «Лабанаўка» (цэнтр — в. Лабанаўка), ферма буйной рагатай жывёлы. Да 1995 г. вёска ў складзе Лабанаўскага с/с. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на Пн і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПЕРАМОГА** — былы пасёлак у Рэчыцкім с/с, за 18 км на ПнУ ад Чэрыкава, 103 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Рэчыца і далей па шашы Крычаў—Чэрыкаў.

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1926 г. 60 жыхароў. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 24 двары, 72 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 22 двары. У партыз. атрадах і на фронце змагаўся 21 вясковец, з іх 9 загінулі. У 1956 г. электрыфікаваны, у 1962 г. радыёфікаваны. У 1989 г. 16 гаспадарак, 35 жыхароў, у складзе калгаса «Краіна Саветаў» (цэнтр — в. Камаровічы). Планіровачна складаўся з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПІЛЕНКА** — былая вёска ў былым Ушакоўскім с/с, за 23 км на ПдУ ад Чэрыкава, 108 км ад Магілёва, 55 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. На Пн і З мяжуе з лесам. На Пд цячэ р. Сянна (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз населеныя пункты Галоўчыцы, Дра-



гунскія Хутары і далей па шашы Краснаполле—Чэрыкаў. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай атамнай станцыі і радыяцыйнага забруджання жыхары ў 1990-х г. адселены. На месцы вёскі ў 2006 г. ўстаноўлены мемарыяльны знак.

У 1897 г. вёска ў Палужскай вол. Чэрыкаўскага павета, 7 двароў, 69 жыхароў. У 1909 г. 9 двароў, 90 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. У 1926 г. 18 двароў, 115 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акругі. У 1930 г. жыхары вёсак Піленка і Князёўка арганізавалі калгас «Чырвоны пераможца», дзейнічалі ветраны млын, кузня, 2 ваўначоскі. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце змагаліся 3 вяскоўцы, 2 з іх загінулі.

У пасляваенны час у складзе калгаса «Чырвоны араты». У 1961 г. радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. З 16.1. 1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1990 г. 6 гаспадарак, 29 жыхароў. Традыц., драўляныя сял. сядзібы былі пастаўлены няшчыльна, уздоўж кароткай, прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ.

**ПІЛЬНЯ** — вёска ў Вепрынскім с/с, за 15 км на Пд ад Чэрыкава, 100 км ад Магілёва, 47 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ р. Сянна (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Краснаполле—Чэрыкаў. 14 гаспадарак, 26 жыхароў (2007).

Вядома з пач. 19 ст., калі тут дзейнічала медналіцейная прыгонніцкая мануфактура (у 1812 г. працаваў 31 рабочы). У 1882 г. пачала дзейнічаць кардонна-папяровая ф-ка (Сенненскі з-д). У 1890 г. 6 рабочых. У 1897 г. вёска вядома як Сенненскі завод (яна ж Пільня, Гамарня), у Краснапольскай вол. Чэрыкаўскага павета, 37 двароў, 257 жыхароў, мелася школа граматы, капліца, заезны дом. У 1909 г. ў вёсцы 42 двары, 312 жыхароў, у фальварку, што быў побач, — 1 двор, 24 жыхары. У пач. 1920-х г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені. З 17.7.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. У 1926 г. 60 двароў, 331 жыхар. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акругі. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 20.02.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 60 двароў, 300 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы дзейнічала антыфашысцкая падп. група. Патрыёты збіралі звесткі пра ворага, зброю, распаўсюджвалі лістоўкі і газеты, падтрымлівалі сувязь з партызанамі. Падпольшчыкі правялі дыверсію на смалакурным з-дзе. 9—10.7.1943 г. партызаны атрада 47-га «Перамога» разграмілі варожы апорны пункт, які размяшчаўся ў вёсцы. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 58 двароў, загубілі 4 жыхароў. Вызвалена 30.7.1943 г. воінамі 324-га стралк. палка 413-й дывізіі 50-й арміі пры ўдзеле партызан 720-га і 721-га атрадаў. На фронце і ў партыз. атрадах змагаліся 18 вяскоўцаў, з якіх 3 загінулі. У брацкай магіле, што на могілках, пахаваны сав. воіны, якія загінулі ў ліп. 1941 г. У пасляваенны час у складзе калгаса «Маладая гвардыя» (цэнтр — в. Ушакі). У 1963 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1990 г. 39 гаспадарак, 83 жыхары, ферма буйной рагатай жывёлы, ма-

*Дом сацыяльных паслуг у в. Пільня.*



газін, клуб. У 2007 г. дзейнічаў дом сац. паслуг. Да крывалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ уздоўж ракі, на Пд далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПОЛІПЕНЬ** — вёска ў Язёрскім с/с, за 14 км на ПдЗ ад Чэрыкава, 99 км ад Магілёва, 46 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. На З цячэ р. Лобчанка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Слаўгарад—Чэрыкаў, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 17 гаспадарак, 38 жыхароў (2007).

Вядома з пач. 20 ст. У 1909 г. хутар Поліпень, у Даўжанскай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 1 двор. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 35 двароў, 143 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. На фронце і ў партыз. атрадах змагаліся 23 вяскоўцы, 9 з іх загінулі. Пасля вайны адбудавана. У 1961 г. радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. У 1989 г. ў вёсцы 27 гаспадарак, 38 жыхароў, у складзе калгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Сакалоўка), ферма буйной рагатай жывёлы. У 2008 г. дзейнічаў дом сац. паслуг. Планіроўка крыжападобная. Працяглую, крывалінейную вуліцу, арыентаваную амаль мерыдыянальна, уздоўж ракі, на Пд перасякае перпендыкулярна кароткая, прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПРЫПЁЧЫНА** — вёска ў Язёрскім с/с, за 16 км на З ад Чэрыкава, 101 км ад Магілёва, 48 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам і цячэ р. Лобчанка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Міхлін, Сакалоўка і далей па шашы Слаўгарад—Чэрыкаў. 39 гаспадарак, 71 жыхар (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. У 1675 г. 6 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1765 г. 13 двароў, у 1769 г. 18 двароў, мелася карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. 26 двароў, 208 жыхароў, прыватная ўласнасць. У 1816 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 25 двароў, 184 жыхары. У 1824 г. заснавана сукнавальня. У 1834 г. 28 двароў, 190 жыхароў. З 1858 г. дзейнічаў цагельны з-д. У 1880 г. 41 двор, 225 жыхароў, апрача земляробства вяскоўцы займаліся стальмашным, сталярным і бандарным промысламі. У 1897 г. ў Даўжанскай вол. Чэрыкаўскага павета, 56 двароў, 370 жыхароў, меўся піцейны дом. 27.12.1905 г. сяляне разграмілі дом кн. Абаленскага, а пры арышце зачыншчыкаў аказалі супраціўленне паліцыі. У 1909 г. 68 двароў, 443 жыхары. У 1918 г. была адкрыта 4-гадовая школа. З 17.7.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. У 1926 г. 87 двароў, 556 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас «Праўда», які абслугоўвала Чэрыкаўская МТС. Працавалі крупадзёрка, вадзяны млын, кузня. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 85 двароў, 337 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. На фронце і ў партыз. атрадах змагаліся 80 вяскоўцаў, з іх 17 загінулі. У брацкай магіле, што на могілках, пахаваны 65 воінаў і партызан. Пасля вайны адбудавана. У 1957 г. радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1989 г. ў вёсцы 73 гаспадаркі, 161 жыхар, у складзе калгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Сакалоўка), ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. У 2007 г. дзейнічаў магазін. Планіровачна складаецца з двух амаль паралельных паміж сабой вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных у цэнтры прасёлачнай



дарогай і на Пд — завулкам. На З, за ракой, — невял. адасоблены ўчастак забудовы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены пераважна двухбакова, шчыльна. На ПнЗ гасп. сектар.

**РАГАЛІНА** — вёска ў Язёрскім с/с, за 18 км на З ад Чэрыкава, 103 км ад Магілёва, 47 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. На ПнУ цячэ р. Лобчанка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Сакалоўка і далей па шашы Слаўгарад—Чэрыкаў. 36 гаспадарак, 82 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1765 г. вёска ў Прапойскім старостве, 23 двары, дзярж. ўласнасць. У 1769 г. 61 жыхар, мелася карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у валоданні Магілёўскай казённай палаты. У 1777 г. вёска Рыгаліна, у Чэрыкаўскай акрузе. У 1785 г. ў Чэрыкаўскім павеце, уласнасць памешчыка, размяшчалася паштовая станцыя. У 1834 г. 36 двароў, 255 жыхароў. У 1858 г. 140 жыхароў мужчынскага полу. У 1880 г. 65 двароў, 305 жыхароў, апрача земляробства вяскоўцы займаліся бандарным промыслам. У 1897 г. ў Даўжанскай вол. Чэрыкаўскага павета, 99 двароў, 623 жыхары, меліся школа граматы, карчма. У 1898 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1909 г. 105 двароў, 719 жыхароў. Пасля 1917 г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 68 вучняў. З 17.7.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. У 1926 г. 135 двароў, 792 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 150 двароў, 465 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія поўнасцю спалілі вёску, загубілі 26 жыхароў. Вызвалена 1.10.1943 г. часцямі 50-й арміі. На фронце змагалася 95 вяскоўцаў, з іх 47 загінулі. У памяць аб земляках, якія загінулі ў барацьбе супраць фашызму, каля будынка школы ўзведзены абеліск. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1989 г. ў вёсцы 83 гаспадаркі, 238 жыхароў, у складзе калгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Сакалоўка), ферма буйной рагатай жывёлы, магазін, пач. школа, б-ка. У 2007 г. дзейнічалі малочна-таварная ферма «Рагаліна» СВК «Прагрэс», клуб, б-ка, магазін. Планіроўка У-падобная. Да працяглай дугападобнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі ў цэнтры пад вострым вуглом далучаецца кароткая, прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, традыц. індывідуальнымі, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПнЗ гасп. сектар.

**РЖАВЕЦ** — вёска ў Язёрскім с/с, за 9 км на ПнЗ ад Чэрыкава, 79 км ад Магілёва, 41 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. На Пн цячэ р. Малая Вудага (прыток р. Вудага). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вербеж і далей па шашы Чавусы—Чэрыкаў. 44 гаспадаркі, 92 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1756 г. ў Прапойскім старостве, 32 двары, дзярж. ўласнасць. У 1769 г. 34 двары, мелася карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі ў валоданні Магілёўскай казённай палаты, 33 двары, 234 жыхары. У 1811 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 38 двароў, 129 жыхароў мужчынскага полу. У 1846 г. ў складзе Прапойскага маёнтка ў Чэрыкаўскім павеце, 35 двароў, 220 жыхароў. У 1880 г. 49 двароў, 339 жыхароў, частка вяскоўцаў займалася стальмашным промыслам. У 1897 г. ў Лабанаўскай вол. Чэрыкаўскага павета, 87 двароў, 512 жыхароў. У 1909 г. 90 двароў, 616 жыхароў, мелася школа граматы. Пасля 1917 г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені. З 17.7.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 94 двары, 334 жыхары. У Вял.




Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 80 двароў. На фронце змагаліся 96 вяскоўцаў, з іх 51 загінуў. У 1962 г. радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1989 г. ў вёсцы 82 гаспадаркі, 189 жыхароў, у складзе саўгаса «Язёрскі» (цэнтр — в. Язёры), авечкагадоўчая ферма, магазін. У 2007 г. дзейнічаў магазін. Планіровачна складаецца з працяглай, крывалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн.-зах. ускраіне гасп. сектар.


*У.Р.Яўсеенка.*

**РЫНКОЎКА** — вёска ў Язёрскім с/с, за 16 км на ПнЗ ад Чэрыкава, 64 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на ПдУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясцовай дарозе праз в. Падлом'е і далей па шашы Чавусы—Чэрыкаў. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. У 1675 г. вёска Рынкаўка (яна ж Рыкаўка), у Прапойскім старостве, 27 двароў, дзярж. ўласнасць, пасесія. У 1681 г. 22 двары, у 1769 г. 17 двароў, 41 жыхар, мелася карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1834 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 23 двары, 187 жыхароў, уласнасць памешчыка, які ў 1877 г. меў тут 704 дзес. зямлі. У 1885 г. 38 двароў, 249 жыхароў, апрача земляробства вяскоўцы займаліся стальмашным, сталярным і бандарным промысламі. У 1897 г. ў Даўжанскай вол. Чэрыкаўскага павета, 40 двароў, 324 жыхары, мелася школа граматы. У 1909 г. 52 двары, 416 жыхароў. Пасля 1917 г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені. З 20.8.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1936 г. для школы пабудавана новае памяшканне. У 1940 г. 43 двары, 129 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы ў вер. 1943 г. спалілі 40 двароў. Вызвалена 1.10.1943 г. У 1949 г. радыёфікавана, у 1966 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Чавускім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1989 г. ў вёсцы 33 гаспадаркі, 65 жыхароў, у складзе саўгаса «Наватар» (цэнтр — в. Лобча), ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. Да 1993 г. знаходзілася ў складзе Лабанаўскага с/с. У 2007 г. дзейнічаў дом сац. паслуг. Планіровачна складаецца з 3 (адна працяглая і 2 кароткія) вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма Героя Сав. Саюза У.Р.Яўсеенкі (1922—78), які вызначыўся ў Вял. Айч. вайну, і актывіста калгаснага будаўніцтва, удзельніка антыфаш. падполля на тэрыторыі Чэрыкаўскага р-на ў Вял. Айч. вайну І.А.Гузнякова (1896—1941).

**РЭЧЫЦА** — вёска, цэнтр сельсавета, за 14 км на ПнУ ад Чэрыкава, 99 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. На Пд цячэ р. Волчас (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Чэрыкаў—Крычаў, якая праходзіць праз вёску. 170 гаспадарак, 453 жыхары (2007).

*Фрагмент забудовы в. Рэчыца.*





Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1816 г. вёска Рэдчыца ў Чэрыкаўскім павеце, 18 двароў, 121 жыхар, уласнасць памешчыка. У 1847 г. 17 двароў, 111 жыхароў, карчма, побач быў фальварак (12 жыхароў). Пасля пракладкі ў 1851 г. Маскоўска-Варшаўскай шашы тут размяшчалася паштовая станцыя, якая мела 11 коней. У 1880 г. памешчык меў тут 89 дзес. зямлі. У 1897 г. вёскі Малыя Рэчыцы (10 двароў, 69 жыхароў), Дальняя Рэчыца (3 двары, 17 жыхароў) і Вялікія Рэчыцы (Дальнія Рэчыцы, 36 двароў, 247 жыхароў) у Камаровіцкай вол. Чэрыкаўскага павета. Непадалёку была паштовая станцыя (3 двары, 16 жыхароў). У 1905 г. адкрыта казённая вінная лаўка, у 1911 г. — паштовае аддз.

У ліст. 1918 г. створана камуна, у 1924 г. адкрыта 4-гадовая школа, у якой у 1925 г. было 50 вучняў. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг. У 1929 г. вяскоўцы арганізавалі калгас. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1939 г. на тэрыторыі Рэчыцкага с/с былі населеныя пункты Акцябр, Ляды, Подгарадзь, Падхалоблін, Кляшта, якія зараз не існуюць. У 1940 г. 81 двор, 250 чал. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 71 двор. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 26 сав. воінаў і партызан, якія загінулі пры вызваленні раёна. Вызвалена 29.9.1943 г. воінамі 238-й стралк. дывізіі 50-й арміі. На фронце змагалася 140 вяскоўцаў, з іх 25 загінулі. У памяць аб земляках, якія загінулі, у цэнтры вёскі ў 1979 г. ўстаноўлена стэла. У 1945 г. радыёфікавана, у 1956 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах.

У 1989 г. ў вёсцы 170 гаспадарак, 484 жыхары, размешчаны 2 фермы буйной рагатай жывёлы, машынны двор, піларама, млын, устаноўка па перапрацоўцы кармоў, 2 магазіны, камбінат быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. сувязі, ветэрынарная лячэбніца, сярэдняя школа (22 настаўнікі), дзіцячы сад-яслі, б-ка, грамадская лазня, аддз. ашчаднага банка. З 2007 г. аграгарадок, дзейнічалі малочна-таварная ферма «Рэчыца» ОАО «Чэрыкаўагратэхзаб», зернесушыльны комплекс, сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, філіял цэнтра сац. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, 2 магазіны, кафэ, кацельня. Ген. план забудовы распрацаваны ў 1980 г. Магілёўскім філіялам ін-та «Белкалгаспраект». Да гал. вуліцы (адрэзак шашы), арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, далучаецца на Пд працяглая дугападобная вуліца, якая праходзіць уздоўж



*У камп'ютэрным класе Рэчыцкай сярэдняй школы.*



*Будынак былой паштовай станцыі ў Рэчыцы. 19 ст.*

ракі. Забудавана дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры і на ПнЗ гасп. сектар.

У Рэчыцкі с/с уваходзяць 6 населеных пунктаў. Радзіма ген.-палкоўніка У.Дз.Ягорава.



*У.Дз.Ягораў.*

**САКАЛОЎКА** — вёска ў Язёрскім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Чэрыкава, 100 км ад Магілёва, 53 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. На У цячэ р. Лобчанка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слаўгарад—Чэрыкаў. 135 гаспадарак, 439 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1765 г. як вёска (13 двароў), у Прапойскім старостве, дзярж. ўласнасць. У 1769 г. мелася карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у валоданні Магілёўскай казённай палаты. У 1785 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 22 двары, 168 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1834 г. 30 двароў, 249 жыхароў. Пасля пракладкі ў 1851 г. Маскоўска-Варшаўскай шашы тут размяшчалася паштовая станцыя, якая мела 9 коней. У 1880 г. 47 двароў, 260 жыхароў, апрача земляробства вяскоўцы займаліся стальмашным, сталярным і бандарным промысламі. У 1897 г. ў Даўжанскай вол. Чэрыкаўскага павета, 64 двары, 457 жыхароў, мелася школа граматы. Каля вёскі былі заезны дом (1 двор, 4 жыхары) і паштовая станцыя (1 двор, 10 жыхароў). У 1909 г. 75 двароў, 531 жыхар. Пасля 1917 г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені. З 17.7.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг. У 1931 г. арганізаваны калгас «Іскра», які абслугоўвала Чэрыкаўская МТС, працавала кузня. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 95 двароў, 380 жыхароў, дзейнічаў клуб. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. На фронце супраць ворага змагалася 111 вяскоўцаў, 29 з іх загінулі. У памяць аб земляках, якія загінулі, у цэнтры вёскі пастаўлена стэла. У 1951 г. ўступіў у строй радыёвузел і вёска была радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім раёнах.

У 1989 г. ў вёсцы 113 гаспадарак, 368 жыхароў, размешчаны машынны двор, ферма буйной рагатай жывёлы, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, дзіцячы сад-яслі, сярэдняя школа, ветэрынарная лячэбніца, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, б-ка. У 2007 г. дзейнічалі малочна-таварная ферма «Сакалоўка» СВК «Прагрэс», сярэдняя школа, дзіцячы сад, клуб, б-ка,



*Дом культуры ў аграгарадку Рэчыца.*



*Помнік землякам у в. Рэчыца.*



фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Генплан забудовы вёскі распрацаваны ін-там «Магілёўграмадзянпраект» у 1978 г. Планіровачна складаецца з працяглай дугападобнай вуліцы, арыентаванай амаль мерыдыянальна, да якой на Пн падыходзіць кароткая, прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, няшчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд гасп. сектар.

Радзіма Героя Сав. Саюза Л.В.Дзямянкова (1981—93), які ў Вял. Айч. вайну вызначыўся ў баях супраць ням.-фаш. захопнікаў на тэрыторыі Ленінградскай вобл.

**СВЕТЛЫ** — былы пасёлак у Лабанаўскім сельсавеце, за 17 км на ПнЗ ад Чэрыкава, 74 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пн і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Чавусы—Чэрыкаў.

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1928 г. 105 жыхароў. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1955 г. радыёфікаваны, у 1966 г. электрыфікаваны, у складзе саўгаса «Лабанаўка» (цэнтр — в. Лабанаўка). У 1989 г. 6 гаспадарак, 11 жыхароў. У 2004 г. пасёлак скасаваны. Традыц. драўляныя сял. сядзібы былі пастаўлены вакол невял. лагчыны.

**СЕЛІШЧА** — вёска ў Верамейскім с/с, за 28 км на ПнЗ ад Чэрыкава, 84 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У мяжуе з лесам, на Пн праходзіць чыгунка. На З цячэ р. Вудага (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Верамейкі, Лабанаўка і далей па шашы Чавусы—Чэрыкаў. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1777 г. як вёска ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. З 1797 г. дзейнічала сукнавальня. З 20.8.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. У 1926 г. хутары, 22 двары, 123 жыхары. З 9.6.1927 г. Магілёўскай акругі, з 26.7.1930 г. ў Чэрыкаўскім, з 5.12.1931 г. ў Чавускім, з 20.1.1932 г. зноў у Чэрыкаўскім р-нах. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, дзейнічалі кузня, пякарня. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 17 двароў, 67 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 13 двароў. У 1948 г. вёска радыёфікавана, у 1965 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1966 г. ў Чавускім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1989 г. ў вёсцы 16 гаспадарак, 21 жыхар, у складзе саўгаса «Ударнік» (цэнтр — в. Верамейкі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай амаль мерыдыянальна да чыгункі ўздоўж ракі. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СЕЛІШЧА** — вёска ў Язёрскім с/с, за 8 км на З ад Чэрыкава, 93 км ад Магілёва, 40 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. На У і Пд праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Лобчанка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слаўгарад—Чэрыкаў. 22 гаспадаркі, 61 жыхар (2007).

У 1897 г. ў Даўжанскай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 1 двор, 6 жыхароў. Пасля 1917 г. на былых паме-

*Будынак былой паштовай станцыі ў в. Сакалоўка. 19 ст.*



шчыцкіх землях пачалі пасяляцца сяляне з суседніх вёсак. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 24 двары, 104 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1940 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. На фронце змагалася 19 вяскоўцаў, 9 з іх загінулі. Пасля вайны адбудавана. У 1955 г. радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. У 1989 г. 30 гаспадарак, 91 жыхар, у складзе саўгаса «Язёрскі» (цэнтр — в. Язёры), ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. У 2007 г. дзейнічала малочна-таварная ферма «Селішча» СВК «Язёрскі». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд.-ўсх. ускраіне гасп. сектар.

**СТАРАЯ БЕЛІЦА** — вёска ў Верамейскім с/с, за 31 км на Пн ад Чэрыкава, 72 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. На Пн цячэ р. Волчас (прыток р. Сож), на З праходзяць меліярацыйныя каналы. Транспартныя суувязі па мясц. дарозе праз вёскі Верамейкі, Лабанаўка і далей па шашы Чавусы—Чэрыкаў. 14 гаспадарак, 43 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1777 г. сяло Беліца ў Чэрыкаўскай акрузе. У 1880 г. 44 двары, 278 жыхароў, частка вяскоўцаў займалася бандарным промыслам. У 1897 г. цэнтр воласці Чэрыкаўскага павета, 68 двароў, 357 жыхароў. Дзейнічалі школа (нар. вучылішча), прыёмны пакой, хлебазапасны магазін, піцейны дом, заезны дом. Побач быў выселак (1 двор, 3 жыхары). У 1909 г. ў вёсцы 67 двароў, 422 жыхары, у маёнтку 1 двор, 14 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. Магілёўскай акруг. У 1929 г. арганізаваны калгас «12-годдзе Кастрычніка», які спачатку абслугоўвала Чэрыкаўская, а пасля 1938 г. — Ударная МТС, працавала кузня. З 26.7.1930 г. ў Чэрыкаўскім, з 5.12.1931 г. ў Чавускім, з 20.1.1932 г. зноў у Чэрыкаўскім р-нах. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 75 двароў, 341 жыхар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 59 двароў, загубілі 6 жыхароў. На фронце змагаліся 40 вяскоўцаў, 23 з іх загінулі. У 1949 г. вёска радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Чавускім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 20.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1989 г. ў вёсцы 27 гаспадарак, 52 жыхары, у складзе саўгаса «Ударнік» (цэнтр — в. Верамейкі), ферма буйной рагатай жывёлы, клуб, магазін. Планіроўка Т-падобная. Да працяглай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі на Пн пад амаль прамым вуглом далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СЦЕПАНОЎ** — вёска ў Рэчыцкім с/с, за 18 км на ПнУ ад Чэрыкава, 103 км ад Магілёва, 25 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. На ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Охар і далей па шашы Чэрыкаў—Крычаў. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1926 г. 25 двароў, 143 жыхары. У 1933 г. жыхары вёсак Сцяпанава і Белая Дубрава арганізавалі калгас «Праца Леніна». У 1940 г. 39 двароў, 93 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 35 двароў. Пасля вайны адбудавана. У 1951 г. радыёфікавана, у 1956 г. электрыфікавана. У 1989 г. ў вёсцы 42 гаспадаркі, 76 жыхароў, у складзе калгаса імя Ільіча (цэнтр — в. Рэчыца). Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой у цэнтры амаль пад прамым вуглом далучаецца прамалінейная кароткая вуліца; забудавана двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.



**ТАРЖОЎ** — былая вёска ў Рэчыцкім с/с, за 16 км на ПнУ ад Чэрыкава, 101 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Крычаў—Чэрыкаў. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі і радыяцыйнага забруджання жыхары вёскі ў пач. 1990-х г. адселены. На месцы вёскі ў 2006 г. ўстаноўлены мемарыяльны знак.

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1926 г. 24 двары, 135 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы арганізавалі калгас «На варце». У 1940 г. 28 двароў, 84 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. На фронце змагаліся 18 вяскоўцаў, з іх 8 загінулі. У 1952 г. радыёфікавана, у 1956 г. электрыфікавана. У 1989 г. 6 гаспадарак, 12 жыхароў, у складзе калгаса імя Ільіча (цэнтр — в. Рэчыца). Планіровачна складалася з кароткай, крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, індывідуальнымі, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ТУР'Е** — вёска ў Сормаўскім с/с, за 7 км на Пн ад Чэрыкава, 82 км ад Магілёва, 39 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. На У цячэ р. Вудага (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Чавусы—Чэрыкаў. 47 гаспадарак, 117 жыхароў (2007).

За 1,5 км на ПдУ ад вёскі знаходзіцца гарадзішча, якое сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вёска вядома з 17 ст. У 1635 г. сяло ў Пуцькаўскім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета, 22 двары, дзярж. ўласнасць. У снеж. 1655 г. цар Аляксей Міхайлавіч дараваў магілёўскаму войту М.Кгельду вёску Туры, якая раней належала С.Срадзінскаму. У 1742 г. ў Асавецкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., 13 двароў, дзярж. ўласнасць. Меліся млын, сукнавальня, карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1858 г. 32 двары, 256 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1862 г. пачала працаваць вінакурня (10 рабочых). У 1863 г. памешчык меў тут 966 дзес. зямлі і карчму. У 1910 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У ліст. 1918 г. створана камуна. На базе дарэв. арганізавана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 70 вучняў, у гэтым жа годзе для яе пабудавана памяшканне, адкрыта хата-чытальня. З 17.7.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. У 1926 г. 117 двароў, 634 жыхары. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік», які абслугоўвала Чэрыкаўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 120 двароў, 428 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 87 двароў, загубілі 7 жыхароў. На фронце змагаўся 61 вясковец, 41 з іх загінуў. У брацкай магіле, што на вясковых могілках, пахаваны сав. воіны, якія загінулі ў 1941—43 гг. У 1954 г. радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 6.1.1955 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1989 г. ў вёсцы 84 гаспадаркі, 184 жыхары, у складзе эксперыментальнай базы «Чэрыкаў» (цэнтр — г. Чэрыкаў), ферма буйной рагатай жывёлы, аддз. сувязі, пач. школа, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, б-ка. У 2007 г. дзейнічалі малочна-таварная ферма «Тур'е» эксперыментальнай базы «Чэрыкаў», клуб, магазін. Планіроўка прамалінейная. На ПдУ ад гал., крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, праходзяць паралельна і перпендыкулярна прамалінейныя вуліцы, якія ўтвараюць невял. кварталы. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна,

традыц., у большасці драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне гасп. сектар.

**УШАКІ** — вёска ў Вепрынскім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Чэрыкава, 103 км ад Магілёва, 50 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. На Пд цячэ р. Сянна (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Манастырок і далей па шашы Краснаполле—Чэрыкаў. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007). У выніку катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі і радыяцыйнага забруджання большая частка жыхароў у 1990-х г. адселена. На месцы вёскі ў 2006 г. ўстаноўлены мемарыяльна знак.


*А.С.Яскевіч.*

За 2,5 км на ПнЗ і за 1,2 км на Пн ад вёскі знаходзяцца 2 курганныя могільнікі, якія сведчаць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 1604 г. як сяло Крычаўскай дзяржавы, дзярж. ўласнасць. У 1747 г. 11 двароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, належала стацкаму саветніку І.В.Галынскаму. У 1779 г. ў Крычаўскім старостве Чэрыкаўскага павета, 11 двароў, 102 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1780 г. заснаваны шклозавод. У 1785 г. 14 двароў, 122 жыхары. У 1811 г. 16 двароў, 74 жыхары мужчынскага полу. Памешчык меў тут у 1865 г. 2572 дзес. зямлі, 2 карчмы. У 1880 г. 50 двароў, 288 жыхароў, частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. Меліся 2 карчмы, прыстань на р. Сож для пагрузкі лесу. У 1884 г. адкрыта школа граматы, якая ў 1917 г. ператворана ў земскую. У 1897 г. ў Старынскай (Старынкаўскай) вол. Чэрыкаўскага павета, 66 двароў, 499 жыхароў. Дзейнічалі вадзяны млын, піцейны дом. Непадалёку быў фальварак — 1 двор, 5 жыхароў. У чэрв. 1905 г. сяляне самавольна пасвілі жывёлу на памешчыцкіх угоддзях. У 1909 г. 72 двары, 588 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, для якой вяскоўцы ў 1922 г. пабудавалі памяшканне (у 1925 г. 56 вучняў), дзейнічалі хата-чытальня, пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. 114 двароў, 681 жыхар. У 1929 г. арганізавана камуна, у 1931 г. — калгас «Чырвоны штурмавік», які потым абслугоўвала Чэрыкаўская МТС. Дзейнічалі вадзяны млын, кузня, сукнавальня. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1939 г. на тэрыторыі сучаснага Ушакоўскага с/с размяшчаліся населеныя пункты Чырвоны Усход, Гарбаты Мост, якія зараз не існуюць. У 1940 г. 95 двароў, 480 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1943 г. гітлераўцы спалілі 90 двароў, загубілі 5 жыхароў. У 1943 г. 720-ы партыз. атрад разграміў варожы апорны пункт, які размяшчаўся ў вёсцы. На фронце змагаліся 103 вяскоўцы, 62 загінулі. У памяць аб іх пастаўлена стэла. У брацкай магіле на вясковых могілках пахавана 12 сав. воінаў, якія загінулі ў 1941—45 гг. У 1952 г. вёска радыёфікавана, у 1963 г. — электрыфікавана. У 1989 г. 132 гаспадаркі, 340 жыхароў, цэнтр калгаса «Маладая гвардыя», машынны двор, піларама, устаноўка па прыгатаванні кармоў, ферма буйной рагатай жывёлы, ветэрынарная лячэбніца, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін, сярэдняя школа, дзіцячы сад-яслі, аддз. ашчаднага банка, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, б-ка. Ген. план забудовы распрацаваны ў 1977 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Рака падзяляла вёску на паўн. (працяглая, крывалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, з завулкамі) і паўд. (кароткая крывалінейная вуліца з завулкамі) часткі; забудавана пераважна двухбакова, традыц., драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма бел. крытыка і літаратуразнаўца А.Яскевіча (н. ў 1934).

**ХАЛАДНЯ** — былы пасёлак у Верамейскім с/с, за 18 км на Пн ад Чэрыкава,



82 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пн і У межаваў з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Наркі, Юны Пахар і далей па шашы Чавусы—Чэрыкаў.

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 13 двароў, 51 жыхар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі пасёлак. Пасля вайны адбудаваны. У 1949 г. радыёфікаваны, у 1967 г. электрыфікаваны. У 1989 г. 2 гаспадаркі, 2 жыхары, у складзе саўгаса «Ударнік» (цэнтр — в. Верамейкі). Традыц. драўляныя сял. сядзібы былі пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.

**ХАЛОБЛІН** — вёска ў Рэчыцкім с/с, за 18 км на ПнУ ад Чэрыкава, 103 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Лена (прыток р. Яленка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Пабеда і далей па шашы Крычаў—Чэрыкаў. 32 гаспадаркі, 61 жыхар (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 1709 г., калі тут з дзвюх валок зямлі адна пуставала. У 1738 г. 6 двароў і 5 пустых месцаў для забудовы, шляхецкая ўласнасць. У 1747 г. ў Крычаўскім старостве, 8 двароў, дзярж. ўласнасць, пасесія. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, секвестравана ў графа Мнішкі і перададзена стацкай саветніцы В.Х.Галынскай. У 1785 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 25 двароў, 210 жыхароў. У 1855 г. памешчык меў у вёсках Халоблін і Міхалін 1513,5 дзес. зямлі, вадзяны млын, сукнавальню, карчму і вінакурны з-д. У 1862 г. заснавана вінакурня (у 1879 г. 11 рабочых, у 1895 г. ўстаноўлена паравая машына). У 1880 г. 36 двароў, 278 жыхароў, частка вяскоўцаў займалася бандарным промыслам. У 1897 г. ў Камаровіцкай вол., 56 двароў, 384 жыхары. Непадалёку быў фальварак (2 двары, 10 жыхароў), дзе працавалі вінакурны з-д і піцейны дом. У лістападзе 1905 г. сяляне прымусілі памешчыка павялічыць плату падзёншчыкам, а ў снеж. 1905 г. самачынна правялі высечку памешчыцкага лесу. У 1909 г. ў вёсцы 60 двароў, 447 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 4 жыхары. У маёнтку ў 1923 г. было створана т-ва па сумеснай апрацоўцы зямлі, адкрыта школа, у якой у 1925 г. было 98 вучняў. З 17.7.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. У 1926 г. 51 двор, 368 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Гігант», які абслугоўвала Чэрыкаўская МТС, працавала кузня. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 89 двароў, 267 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 7 двароў. На фронце змагалася 112 вяскоўцаў, 30 з іх загінулі. У 1950 г. вёска радыёфікавана, у 1956 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1989 г. ў вёсцы 99 гаспадарак, 226 жыхароў, у складзе калгаса «Краіна Саветаў» (цэнтр — в. Камаровічы), машынны двор, ферма буйной рагатай жывёлы, устаноўка па прыгатаванні кармоў для жывёлы, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, камбінат быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін. У 2007 г. дзейнічаў дом сац. паслуг. Планіровачна складаецца з 2 (адна прамалінейная, другая — крывалінейная) вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ па абодва бакі ракі і злучаных кароткай, прамалінейнай вуліцай. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ХАЎМЕНКА** — былая вёска ў былым Ушакоўскім с/с, за 23 км на ПдУ ад Чэрыкава, 108 км ад Магілёва, 55 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам, на тэр. Чэрыкаўскага запаведніка. На ПдУ цячэ р. Домашня (прыток р. Сянна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз




населеныя пункты Галоўчыцы, Другунскія Хутары і далей па шашы Краснаполле—Чэрыкаў. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі і радыяцыйнага забруджання жыхары ў 1990 г. адселены. На месцы вёскі ў 2006 г. ўстаноўлены мемарыяльны знак.

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1926 г. 18 двароў, 111 жыхароў, дзейнічала 4-класная школа, для якой у 1927 г. ўзведзены будынак. У 1933 г. жыхары вёсак Хаўменка і Міхайлаўка арганізавалі калгас «Перамога», які ў 1930-я г. абслугоўвала Чэрыкаўская МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце змагаліся 9 вяскоўцаў, 5 з іх загінулі. У пасляваенны час у складзе калгаса «Чырвоны араты» (цэнтр — в. Галоўчыцы). У 1954 г. радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. У 1989 г. 24 гаспадаркі, 65 жыхароў. Планіровачна складалася з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЧАРНЫШЫН** — пасёлак у Верамейскім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Чэрыкава, 80 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на У і Пд мяжуе з лесам, на ПдЗ — цячэ р. Вудага (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Лабанаўка і далей па шашы Чавусы—Чэрыкаў. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1928 г. 75 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 10 вяскоўцаў змагаліся на фронце, 6 з іх загінулі. У 1989 г. ў пасёлку 11 гаспадарак, 15 жыхароў, у складзе саўгаса «Ударнік». Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай амаль мерыдыянальна і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЧУДЗЯНЫ** — былая вёска ў Вепрынскім с/с, за 17 км на ПдУ ад Чэрыкава, 102 км ад Магілёва, 49 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. На Пд, З і Пн мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Сянна (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вепрын і далей па шашы Краснаполле—Чэрыкаў. У выніку катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі і радыяцыйнага забруджання жыхары ў 1990 г. адселены. На месцы вёскі ў 2006 г. ўстаноўлены мемарыяльны знак.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. У 1555 г. сяло ў Прапойскай вол., дзярж. ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1816 г. вёскі Малая Чудзінаўка (8 двароў, 49 жыхароў) і Старая Чудзінаўка (Чудзіны; 10 двароў, 93 жыхары), уласнасць памешчыка. У 1880 г. 54 двары, 375 жыхароў, частка вяскоўцаў займалася кавальскім промыслам. У 1897 г. ў Дубравіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 69 двароў, 473 жыхары. Меліся школа граматы, піцейны дом. У 1900 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1907 г. навучаліся 62 хлопчыкі і 2 дзяўчынкі. У 1909 г. 92 двары, 548 чалавек. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, для якой у 1921 г. пабудавана памяшканне (у 1925 г. 72 вучні). Працавалі кузня, ветраны млын. З 17.7.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. У 1926 г. 61 двор, 625 жыхароў. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «13-годдзе Кастрычніка», які



*На месцы адселенай в. Чудзяны.*



абслугоўвала Чэрыкаўская МТС. З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. партызаны 720-га атрада разграмілі гітлераўскі гарнізон, які размяшчаўся ў вёсцы. Патрыёты захапілі шмат зброі, боепрыпасаў, харч. склад, аптэку, узялі ў палон 16 салдат. На фронце змагаліся 52 вяскоўцы, з іх 26 загінулі. У 1953 г. пабудаваны радыёвузел і вёска была радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1976 г. да вёскі далучана в. Чудзянская Слабада. У 1990 г. ў складзе саўгаса «Сцяг» (цэнтр — в. Баравая), 137 гаспадарак, 323 жыхары. Дзейнічалі ферма буйной рагатай жывёлы, аддз. сувязі, магазін, сталовая, пач. школа, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, б-ка. Планіровачна складалася з 2 крывалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ па абодва берагі ракі, якія злучаліся кароткай прамалінейнай вуліцай; была забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ШАРОЕЎКА** — вёска ў Сормаўскім с/с, за 10 км на ПнЗ ад Чэрыкава, 75 км ад Магілёва, 42 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Малая Вудага (прыток р. Вудага). Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Чэрыкаў, якая праходзіць паблізу вёскі. 40 гаспадарак, 79 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. У 1635 г. сяло ў Пуцькаўскім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета, дзярж. ўласнасць. У студз. 1655 г. цар Аляксей Міхайлавіч дараваў войту магілёўскаму М.Кгельду в. Шароеўка, якая раней належала С.Срадзінскаму. У 1742 г. ў Асавецкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., 35 двароў, дзярж. ўласнасць. Мелася карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у валоданні Магілёўскай казённай палаты, 42 двары, 321 жыхар. У 1858 г. 43 двары, 306 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 56 двароў, 344 жыхары, апрача земляробства вяскоўцы займаліся стальмашным і бандарным промысламі. У 1897 г. ў Лабанаўскай вол. Чэрыкаўскага павета, 94 двары, 556 жыхароў. Непадалёку была сядзіба Шароеўскі Млын (1 двор, 7 жыхароў). У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама. У 1909 г. 100 двароў, 595 жыхароў. Пасля 1917 г. была адчынена 4-гадовая школа. З 20.8. 1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. З 20.8.1924 г. да 8.7.1960 г. цэнтр сельсавета. У 1926 г. 122 двары, 689 жыхароў. З 9.6.1927 г. Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1931 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Чэрыкаўская МТС, працаваў вадзяны млын. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 95 двароў, 287 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. На фронце змагаліся 48 вяскоўцаў, 35 з іх загінулі. Пасля вайны адбудавана. У 1947 г. радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1989 г. 82 гаспадаркі, 209 жыхароў, у складзе эксперыментальнай базы «Чэрыкаў» (цэнтр — г. Чэрыкаў), размешчана ферма буйной рагатай жывёлы, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 8-гадовая школа, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, б-ка. Планіроўка крыжападобная. Працяглая з завулкамі крывалінейная вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі перасякаецца на Пд кароткай прамалінейнай вуліцай. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ШЫМАНЫ** — вёска ў Язёрскім с/с, за 6 км на З ад Чэрыкава, 91 км ад Магілёва, 38 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Лоб-

чанка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Слаўгарад—Чэрыкаў. 14 гаспадарак, 25 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 28 двароў, 84 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1956 г. радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. У 1989 г. ў вёсцы 14 гаспадарак, 25 жыхароў, у складзе саўгаса «Язёрскі» (цэнтр — в. Язёры). Планіровачна складаецца з 2 амаль паралельных паміж сабой вуліц. Забудавана аднабакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ШЧАЦІНКА** — вёска ў Сармаўскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Чэрыкава, 67 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Чэрыкаў, якая праходзіць паблізу вёскі. 16 гаспадарак, 32 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. У 1635 г. с. Шчацікавіна ў Пуцькаўскім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета, дзярж. ўласнасць. У студз. 1655 г. цар Аляксей Міхайлавіч дараваў магілёўскаму войту М.Кгельду вёску, якая раней належала пану С.Срадзінскаму. У 1742 г. вёска ў Асавецкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі, дзярж. ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у валоданні Магілёўскай казённай палаты, 39 двароў, 276 жыхароў. У 1880 г. 42 двары, 269 жыхароў, частка вяскоўцаў займалася стальмашным промыслам. У 1910 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. Пасля 1917 г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 57 вучняў. З 20.8.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. Магілёўскай акруг. У 1928 г. арганізаваны калгас «Іскра», які ў 1936 г. меў 52 каровы, больш за 100 свіней, 94 кані, пасеку на 193 калоды пчол. Абслугоўвала калгас спачатку Чэрыкаўская, а пасля 1938 г. — Ударная МТС. Працавалі вадзяны млын, 2 кузні. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 43 двары, 258 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 27 двароў, загубілі 9 жыхароў. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Чавускім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1989 г. ў вёсцы 34 гаспадаркі, 81 жыхар, у складзе саўгаса «Лабанаўка» (цэнтр — в. Лабанаўка), ферма буйной рагатай жывёлы, клуб, магазін. Да 1995 г. знаходзілася ў складзе Лабанаўскага с/с. У 2007 г. дзейнічала б-ка. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай пераважна двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЮДАЎКА** — вёска ў Верамейскім с/с, за 23 км на Пн ад Чэрыкава, 80 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на У і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Лабанаўка і далей па шашы Чавусы—Чэрыкаў. 7 гаспадарак, 14 жыхароў (2007).

За 0,5 км на У ад вёскі знаходзіцца гарадзішча, якое належыць да рэшткаў феад. стараж. замкаў, што сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. У 1862 г. памешчык меў тут 1574 дзес. зямлі, вадзяны млын і карчму. У 1897 г. фальварак у Лабанаўскай вол. Чэрыкаўскага павета, 26 жыхароў. У 1909 г. 2 двары, 23 жыхары. Пасля 1917 г. памяшканні былога маёнтка былі перададзены школе. З 20.8.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. У 1926 г. 4 двары, 14 жыхароў. З 9.6.1927 г. Магілёўскай акругі, з 5.12.1931 г. ў Чавускім, з 20.1.1932 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1930 г. арганізаваны калгас «Запаветы Леніна», які спачатку абслугоўвала Чэрыкаўская, а пасля 1938 г. — Ударная МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана



ням.-фаш. захопнікамі. На фронце змагаліся 16 вяскоўцаў, 10 з іх загінулі. У 1955 г. радыёфікавана, у 1965 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Чавускім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1989 г. ў вёсцы 18 гаспадарак, 41 жыхар, у складзе саўгаса «Ударнік» (цэнтр — в. Верамейкі), магазін. Планіроўка Г-падобная. Больш працяглая прамалінейная вуліца мае мерыдыянальную арыентацыю. Да яе на Пд падыходзіць з З кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЮНЫ ПАХАР** — пасёлак у Сормаўскім с/с, за 7 км на Пн ад Чэрыкава, 82 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам і цячэ р. Вудага (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Шароеўка і далей па шашы Чавусы—Чэрыкаў. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1926 г. 57 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Юны араты». У 1940 г. 12 двароў, 48 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 8 двароў, загубілі 1 жыхара. На фронце змагаліся 13 вяскоўцаў. У 1962 г. радыёфікаваны, у 1963 г. электрыфікаваны. У 1989 г. 17 гаспадарак, 38 жыхароў, у складзе эксперыментальнай базы «Чэрыкаў» (цэнтр — г. Чэрыкаў). Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ і забудаванай пераважна двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЯЗЁРЫ** — вёска, цэнтр сельсавета, за 10 км на З ад Чэрыкава, 95 км ад Магілёва, 42 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. Каля вёскі праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Лобчанка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Звязда і далей па шашы Слаўгарад—Чэрыкаў. 270 гаспадарак, 727 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. У 1555 г. сяло ў Прапойскай вол., дзярж. ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1816 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 64 двары, 445 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1848 г. 97 двароў, мелася драўляная царква. У 1857 г. засн. вінакурны з-д (у 1913 г. 12 рабочых, паравы рухавік). У 1877 г. памешчык меў у вёсках Язёры і Горкі 8157 дзес. зямлі. У 1880 г. 108 двароў, 578 жыхароў, дзейнічалі вадзяны млын, царква, апрача земляробства вяскоўцы займаліся бандарным промыслам. У 1909 г. ў Даўжанскай вол. Чэрыкаўскага павета, 173 двары, 1259 жыхароў. Была адкрыта царк.-прыходская школа. Пасля



*Язёрская сярэдняя школа.*



*Вуліца аграгарадка Язёры.*



*Малочна-таварная ферма «Язёры» СПК «Язёрскі».*

1917 г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якой былі перададзены памяшканні былога маёнтка, працавала кузня. Дзейнічала садова-агароднае т-ва. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. Магілёўскай акруг. У 1931 г. арганізаваны калгас «Будаўнік», які абслугоўвала Чэрыкаўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1939 г. ў Язёрскі с/с уваходзілі населеныя пункты Цэнтральны, Крывая Слабада, Заручэўе 1, Заручэўе 2, Пралетарскі, Чырвоны Маяк, імя Сталіна, Дудкі, Локці, Белякова, якія зараз не існуюць. У 1940 г. 130 двароў, 397 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 117 двароў, загубілі 7 жыхароў. На фронце змагаліся 118 вяскоўцаў, 38 з іх загінулі. У брацкай магіле, што на могілках, пахаваны 2 сав. воіны і 1 партызан. У 1949 г. радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Краснапольскім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1956 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1989 г. ў вёсцы 216 гаспадарак, 597 жыхароў, размяшчаліся машынны двор, комплекс буйной рагатай жывёлы, пiларама, аўтаматычная тэлеф. станцыя, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, аддз. ашчаднага банка, сталовая, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін, сярэдняя школа, дзіцячы сад-яслі, Дом культуры са стацыянарнай кінаўстаноўкай, б-ка. З 2008 г. аграгарадок, дзейнічалі малочна-таварная ферма «Язёры» СВК «Язёрскі», сярэдняя школа, дзіцячы сад, філіял Чэрыкаўскай цэнтралізаванай дзіцячай школы мастацтваў, Дом культуры, б-ка, фізкультурна-аздараўленчы цэнтр, сельская ўрачэбная амбулаторыя, тэрытарыяльны цэнтр абслугоўвання насельніцтва, комплексны прыёмны пункт, філіял АСБ «Беларусбанк», аддз. сувязі, 3 магазіны, кафэ, сталовая, пост Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, кацельня. Ген. план забудовы вёскі распрацаваны ін-там «Магілёўграмадзянпраект» у 1979 г. Да гал. прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, на канцах падыходзяць з ПнЗ 3 кароткія прамалінейныя вуліцы. На Пд,

*У Язёрскім аддзяленні сувязі.*





за каналам — адасоблены ўчастак старой забудовы і новая вуліца, забудаваная мураванымі грамадскімі будынкамі і жылымі дамамі; астатняя забудова традыц., драўляная, сядзібнага тыпу. Вытв. будынкі размешчаны ў розных частках вёскі.

У Язёрскі с/с уваходзяць 22 населеныя пункты.

Радзіма бел. жывапісца А.А.Марачкіна (н. ў 1940).

**ЯЛОЎКА** — вёска ў Сормаўскім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Чэрыкава, 61 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на ПнЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Чавусы—Чэрыкаў, якая праходзіць паблізу вёскі. 21 гаспадарка, 38 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У канцы 18 ст. 10 двароў, 105 жыхароў. У 1880 г. 22 двары, 134 жыхары, частка вяскоўцаў займалася сталярным промыслам. У 1897 г. 40 двароў, 233 жыхары, у Лабанаўскай вол. Чэрыкаўскага павета. У 1909 г. 43 двары, 282 жыхары. У 1915 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. Пасля 1917 г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 39 вучняў. Дзейнічалі хата-чытальня, кузня. З 20.8.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі. У 1926 г. 55 двароў, 309 жыхароў. З 9.7.1927 г. Магілёўскай акругі. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 54 двары, 183 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 51 двор, загубілі 2 жыхароў. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 г. ў Чавускім, з 6.1.1965 г. зноў у Крычаўскім, з 30.7.1966 г. ў Чэрыкаўскім р-нах. У 1950 г. радыёфікавана, у 1966 г. электрыфікавана. У 1989 г. ў вёсцы 45 гаспадарак, 93 жыхары, у складзе саўгаса «Лабанаўка» (цэнтр — в. Лабанаўка), ферма буйной рагатай жывёлы, магазін, б-ка. У 2008 г. дзейнічаў дом сац. паслуг. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і забудаваных няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЯМКІ** — вёска ў Сормаўскім с/с, за 6 км на ПнУ ад Чэрыкава, 91 км ад Магілёва, 26 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Чэрыкаў, якая праходзіць паблізу вёскі. 10 гаспадарак, 14 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1928 г. 69 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 19 двароў, 57 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 18 двароў. У 1957 г. радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. У 1989 ў вёсцы 23 гаспадаркі, 65 жыхароў, у складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Зоры). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЯСНАЯ ЗАРА** — вёска ў Верамейскім с/с, за 25 км на Пн ад Чэрыкава, 81 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. На З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Казёл (прыток р. Вудага). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Калода, Наркі, Юны Пахар і далей па шашы Чавусы—Чэрыкаў. 2 гаспадаркі, 6 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 15 двароў, 85 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 5 двароў. На фронце змагаліся 18 вяскоўцаў. У 1954 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1989 г. ў вёсцы 15 гаспадарак, 29 жыхароў, у складзе саўгаса «Ударнік» (цэнтр — в. Верамейкі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай




вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЯСНАЯ ПАЛЯНА** — вёска ў Верамейскім с/с, за 26 км на Пн ад Чэрыкава, 82 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Верамейкі на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам, на Пн праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Ясная Зара, Калода, Наркі, Юны Пахар і далей па шашы Чавусы—Чэрыкаў. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Засн. ў 1920-я г. У 1926 г. 10 двароў, 53 жыхары. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 17 двароў, 96 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 7 двароў. На фронце змагаліся 17 вяскоўцаў, з іх 11 загінулі. У 1957 г. радыёфікавана, у 1964 г. электрыфікавана. У 1989 г. ў вёсцы 11 гаспадарак, 15 жыхароў, у складзе саўгаса «Ударнік» (цэнтр — в. Верамейкі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ пад вострым вуглом да чыгункі. Забудавана двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

## КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ДП-00, спр. 700, ч. 17; ф. 6, воп. 1, спр. 894, 896, 994; ф. 30, воп. 1, спр. 1312, 3282—3284, 3340, 3341, 1377; воп. 2, спр. 3349; воп. 3, спр. 1377; ф. 31, воп. 1, спр. 23/19, 23/21, 659; ф. 42, воп. 1, спр. 1156, 730, 942, 1124, 1775, 1842, 2127, 2198, 3524; воп. 2, спр. 1775, 2017, 3509, 3511, 3514—3519, 3522—3524, 3527, 3543; ф. 48, воп. 1, спр. 2123, 2137, 2271, 2850, 2962, 3918; ф. 130, с/р-31, воп. 3, спр. 11; ф. 141, воп. 1, спр. 176; ф. 258, воп. 1, спр. 8; ф. 300, воп. 1, спр. 226; ф. 332, воп. 1, спр. 292; ф. 334, воп. 1, спр. 292, 500; воп. 2, спр. 37.

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (у Мінску), КМФ-5, воп. 1, спр. 2505; ф. 694, воп. 2, спр. 3982, 3982а, 3983; воп. 4, спр. 1155, 1556; ф. 1024, воп. 1, спр. 704, 715, 831; ф. 1297, воп. 1, спр. 15340, 16645, 18713; ф. 1772, воп. 1, спр. 19; ф. 2014, воп. 1, спр. 233, 406, 546, 550, 554; ф. 2151, воп. 1, спр. 112, 138, 177—181, 189, 190, 198, 212; ф. 2189, воп. 1, спр. 309, 315, 316; ф. 2221, воп. 1, спр. 77.

Дзяржаўны архіў Магілёўскай вобласці, ф. 15, воп. 2а, спр. 115.

Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі, ф. ДП-00, 1905 г., спр. 2550.

Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў, ф. 389, воп. 1, спр. 50, 56, 73; ф. 1355, воп. 1, спр. 735.

Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў у Санкт-Пецярбургу, ф. 577, воп. 19, спр. 1585, 1634, 1655, 1691; ф. 822, воп. 11, спр. 8726; воп. 12, спр. 2589; ф. 1290, воп. 11, спр. 1375; ф. 1350, воп. 312, спр. 96.

Архіў Расійскай акадэміі навук: Санкт-Пецярбургскае аддз., ф. 24, воп. 1, спр. 16; ф. 30, воп. 1, спр. 81; ф. 52, воп. 1, спр. 263.

Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы, ф. ДА, спр. 92, 3802; КМФ-1, воп. 2, спр. 467.

Дзяржаўны архіў старажытных актаў у Варшаве. Архіў Радзівілаў, аддз. XXV, спр. 1929, 1930.

Аддзел рукапісаў і рэдкіх кніг Расійскай Нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбургу, ф. IV, 768.

Аддзел рукапісаў бібліятэкі Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта, ф. 4, спр. 4914.

Список церковно-приходских школ и школ грамоты в Могилевской епархии. СПб., [Б.г.].

Севергин В. Продолжение записок путешествия по западным провинциям Российского государства... СПб., 1804.

Бутурмин Д.П. История нашествия императора Наполеона на Россию в 1812 г.: пер. с фр. Ч. 1. СПб., 1823.

Статистические таблицы о состоянии городов Российской империи. СПб., 1840.

Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. 8, ч. 3. Могилевская губерния. СПб., 1848.



Могилевские губернские ведомости. 1865. № 36.
Памятная книжка Виленского учебного округа на 1874 г. Вильна, 1874.
Дембовецкий А.С. Опыт описания Могилевской губернии... Кн. 1—3. Могилев, 1882—84.
Семенов-Тян-Шанский П.П. Географическо-статистический словарь Российской империи. Т. 5. СПб., 1885.
Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.
Указатель фабрик и заводов Европейской России и царства Польского: материалы для фабрично-заводской статистики. 2 изд. СПб., 1887.
Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России. Т. 14. СПб., 1889.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1889—1890 учебный год. Могилев, 1889.
Отчет, составленный канцеляриею Могилевского губернатора по устройству в Чериковском, Климовичском и Мстиславльском уездах заводских конюшен для улучшения местной породы крестьянских лошадей во всех 39 волостях этих трех уездов. Могилев, 1893.
Указатель фабрик и заводов Европейской России: материалы для фабрично-заводской статистики. 3 изд. СПб., 1894.
Первая всеобщая перепись населения Российской империи, 1897 г. [Т.] 23. Могилевская губерния. СПб., 1903.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1905 г. Могилев, 1905.
Россия: полное географическое описание нашего отечества. Т. 9. Верхнее Поднепровье и Белоруссия. СПб., 1905.
Города России в 1904 г. СПб., 1906.
Могилевский голос. 1906. 14 февр.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1907 г. Могилев, 1907.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1907—1908 учебный год. Могилев, 1907.
Список населенных мест Могилевской губернии. Могилев, 1910.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1911 г. Могилев, 1911.
Акты, издаваемые Виленскою комиссиею для разбора древних актов. Т. 39. Вильна, 1915.
Календарь-справочник Могилевского земства на 1917 г. Могилев, 1916.
Известия Гомельского губернского комитета Российской Коммунистической партии. 1923. № 58, 63, 64.
Савецкае будаўніцтва. 1926. № 12.
БССР: эканоміка-стат. давед. Мн., 1931.
Сацыялістычная перамога. 1935. 11 ліп., 4 кастр.; 1936. 5 мая, 11 ліп., 7 ліст.; 1937. 20 крас.; 1939. 1 студз., 12 чэрв., 29 кастр.; 1940. 11 ліп.; 1941. 8 мая; 1946. 23 лют.; 1959. 1 студз.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 1. Мн., 1935.
Абэцэдарскі Л.С. Барацьба ўкраінскага і беларускага народаў за ўз'яднанне з Расіяй у сярэдзіне XVII века. Мн., 1954.
Из истории установления Советской власти в Белоруссии и образования БССР. Мн., 1954.
Белоруссия в эпоху феодализма: сб. док. и материалов. Т. 2—4. Мн., 1960—79.
Восстановление народного хозяйства Гомельской губернии (1921—1925 гг.). Гомель, 1960.
Болбас М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг.). Мн., 1966.
Романовский Н.Т. Развитие мануфактурной промышленности в Белоруссии (вторая половина XVIII — первая половина XIX в.). Мн., 1966.
Заклік Ільіча. 1967. 10 чэрв.; 1968. 29 лют., 25 снеж.; 1977. 1, 12 мая, 16 чэрв.; 1978. 28 вер.; 1979. 16 чэрв.; 1981. 13 кастр.; 1982. 26 студз., 4 лют.; 1983. 1, 4 кастр.; 1985. 9 мая.
Борьба за Советскую власть в Белоруссии, 1918—1920 гг.: сб. док. и материалов. Т. 1. Мн., 1968.
Население БССР. Мн., 1969.
Жучкевіч В.А. Чаму так названа. Мн., 1969.
Храмович Г.А. Зарево над Сожем. Мн., 1971.
Гісторыя Беларускай ССР. Т. 2. Мн., 1972.




Селиванов П.А. Военное строительство в Белоруссии в период разгрома походов Антанты. Мн., 1973.
Мелешко В.И. Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии (вторая половина XVII—XVIII в.). Мн., 1975.
Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944). Мн., 1975.
Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Т. 8. Мн., 1975.
Болбас М.Ф. Промышленность Белоруссии, 1860—1900. Мн., 1978.
Хохлов А.Г. Крах антисоветского бандитизма в Белоруссии в 1918—1925 гг. Мн., 1981.
Храмович Г.А. Три партизанских года. 2 изд. Мн., 1981.
Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941—июль 1944): краткие сведения об орг. структуре партиз. соединений, бригад (полков), отрядов (батальонов) и их личном составе. Мн., 1983.
Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 2. Мн., 1984.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—1944. Мн., 1984.
Административно-территориальное устройство БССР: справ. Т. 1. Мн., 1985.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Магілёўская вобл. Мн., 1986.
Башко П.К. Советы рабочих, солдатских и крестьянских депутатов Белоруссии (март—окт. 1917 г.). Мн., 1987.
Под красным знаменем Октября: воспоминания участников рев. событий в Белоруссии в период Великого Октября. Мн., 1987.
Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. 1. Warszawa, 1880.
Wielka encyklopedya powszechna ilustrowana. T. 13. Warszawa, 1894.



ВІЦЕБСКАЯ ВОБЛАСЦЬ
АРШАНСКІ РАЁН
ТАЛАЧЫНСКІ РАЁН
КРУПСКІ РАЁН
БЯЛЫНІЦКІ РАЁН
МАГІЛЁЎСКІ РАЁН
ДРЫБІНСКІ РАЁН
ГОРАЦКІ РАЁН
ГОРАЦКІ
ШКЛОЎ
Дняпро
Забор'е
Баркі 1
Баркі 2
Герасімоўшчына
Смальяны
Стараселле
Падкняжанне
Мэнькава
Клін
Гвалтоўнік
Дымава
Хацькова
Гарадок
Калінаўка
Лідзіна
Троіца
Сісенева
Каменка
Чырчына
Шчаціна
Нов. Брашчына
Стар. Брашчына
Трыпесіна
Папоўка
Пясчанка
Мацава
Гаваркі
Палыкавічы
Рамшына
Рагозна
Бабчына
Клімавічы
Красн. Горка
Чарнаручча
Аляксандраўка
Ляхаўка
Тударава
Дубраўка
Карбатоўка
Ступляны
Вабічы
Смятанічы
Гавяды
Скубілаўка
Мал.-Лазіцы
Вял.-
Мерч
Зацішша
Перакоп
Стар. Вадва
Нов. Вадва
Нов. Комсінічы
Станцыя Латва
Красны Луч
Вял.-Міхайлоў
Мал.-
Цыркава
Барсукі
Бушлякі
Царковішча
Пруды
Заходы
Еўдакімавічы
Астравец
Заварата
Дуброўка 2
Азер'е
Плешчыцы
Мікалаеўка
Нічыпаравічы
Патапава
Чарапы
Ладыжына
Стар. Займішча
Нов. Займішча
Грамакі
Рудзіцы
Дзіўнава
Саськаўка
Радзішына
Ордаць
Нов. Вільянава
Шастакі
Сэрціслаў
Масеенкі
Навасёлкі
Гарадзішча
Благаўка
Стар. Чамаданы
Нов. Чамаданы
Слабодка
Княжыцы
Башкіраўка
Царковішча
Лысая Гара
Рудня
Акунеўка
Мал. Сліжы
Вял. Сліжы
Нов. Сліжы
Сліжы
Карасі
Любінічы
Лешча
Нов. Лешча
Заброддзе
Сасноўка 2
Клін
Заполле
Мал.-Славені
Вял.-
Каменка
Пронцаўка
Мікцінічы
Сапронькі
Кучарына
Ржаўцы
Стараселле
Валосавічы
Сасноўка 1
Гарадзец
Хадулы
Путнікі
Вял.-Зарэчча
Заходы
Гарадок
Крывель
Фашчаўка
Аўгустова
Наваселле
Дубраўка 1
Лакуцы
Бель
Падгайцы
Рэпалава
Зашчыта
Вял. Камароўка
Мухамораўшчына
Камароўка
Дабрыка
Махавое
Каменныя Лавы
Лятоўск
Рыжкавічы
Данькавічы
Маладзёжная
Апалонаўка
Шнараўка
Гарадзянка
Папоўцы
Ганцавічы
Савеленкі
Мікалаеўка 1
Стар.-Высокае
Нов.-
Тараўкачы
Масеенкі
Лопавічы
Барыскавічы
Аўчыненкі
Мал.-Аўчыненкі
Вял.-
Мал.-Чорнае
Вял.-
Зямцы
Хоцімка
Тросна
Лутна
Дуброва
Бяланава
Брус
Мал.-Старая Шклоў
Вял.-
Краснае
Яблонава
Засценкі
Зароўцы
Нізоўцы
Вял.-Лотва
Мал.-
Тросенка
Вял.-
Мал.-Уланава
Карзуны
Прасалы
Слабодка
Хілец
Вышкава
Багушоўка
Мал.-
Мяжнік
Вял.-
Александрыя
Капысца
Капысь
Стар.-Стайкі
Нов.-
Мал.-Замошша
Вял.-
Орша
Магілёў
30°15'
30°30'
30°45'
54°20'
54°10'
54°00'
Маштаб 1:330 000



# ШКЛОЎСКІ РАЁН

Размешчаны на Пн Магілёўскай вобл. Утвораны 17.7.1924 г. ў складзе Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). 20.8.1924 г. падзелены на 19 сельсаветаў: Акунёўскі, Ардацкі, Велікаўланаўскі, Велікачорненскі, Высокаўскі, Вялікалазіцкі, Гарадзецкі, Гарадзішчанскі, Зарэчна-Шклоўскі, Каменналаўскі, Княжыцкі, Навабрашчынскі, Падгайскі, Рыжкавіцкі, Старавадвянскі, Таўкачоўскі, Фашчаўскі, Чарнаруцкі, Шклоўскі. 2.3.1931 г. да раёна далучаны Заходскі с/с скасаванага Лупалаўскага р-на, 8.7. 1931 г. — Александрыйскі, Вялікаславенскі сельсаветы скасаванага Копыскага р-на. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл.



*Партызаны брыгады «Чэкіст», якая дзейнічала ў Шклоўскім раёне, слухаюць Вялікую зямлю. 1943 г.*



*Бусел на Шклоўшчыне.*



*У наваколлі Шклоўскага раёна.*

Шклайчаначкі.



У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На тэр. раёна дзейнічалі патрыят. падполле, асобныя партыз. атрады 1, 2, 3, 5, 10, 20, 25, 60-ы імя Сядлецкага, 112-ы Горацкі, 278-ы, партыз. брыгады «Чэкіст», «Звязда», 35-я, 61-я, 115-я Горацкая, 277-ы партыз. полк. За час акупацыі захопнікі знішчылі ў горадзе і раёне 7504 чал. Раён вызвалены ў сярэдзіне чэрв. 1944 г. воінамі 33-й арміі і 4-й паветр. арміі 2-га Бел. фронту ў ходзе Магілёўскай аперацыі. Пл. раёна 1,3 тыс. км². Насельніцтва 32,4 тыс. чал. (2008), у т.л. гарадскога 48,1%. Сярэдняя шчыльнасць 24 чал. на 1 км². Асн. насельніцтва — беларусы (92,2%), жывуць таксама рускія (5,5%), украінцы (1,2%) і інш. (0,8%). Цэнтр — г. Шклоў. У раён уваходзяць 206 сельскіх населеных пунктаў. Адміністрацыйна падзяляецца на 12 сельсаветаў: Александрыйскі, Ардацкі, Гарадзецкі, Гарадзішчанскі, Заходскі, Каменналаўскі, Рыжкавіцкі, Славенскі, Старасельскі, Таўкачоўскі, Фашчаўскі, Чарнаруцкі.

Па тэр. раёна праходзяць чыгунка Орша—Магілёў, аўтастрада Санкт-Пецярбург—Адэса, аўтадарогі Горкі—Шклоў, Бялынічы—Шклоў, Орша—Магілёў, Шклоў—Круглае і інш.

Тэрыторыя раёна ляжыць у межах Аршанска-Магілёўскай раўніны. Рэльеф узгорыста-платопадобны. Пераважаюць вышыні 150—200 м. Найвышэйшы пункт раёна (224 м) знаходзіцца каля в. Палыкавічы. З карысных выкапняў ёсць торф, гліны, суглінкі, будаўнічыя пяскі, пясчана-жвіровы матэрыял. З Пн на Пд працякае найбольшая рака ў раёне — Дняпро з прытокамі Бярозаўка, Капуснік, Серабранка, Чарніца, Арціслаўка і інш. Ва ўсх. частцы раёна працякае р. Бася з прытокам Аўчоса. Лесам занята 21,3% пл., 2% тэр. знаходзіцца пад балотамі. У раёне створаны біялагічныя заказнікі мясц. значэння Дуброва, Лох, Смятанка. У

Ансамбль «Бліскавіца» Шклоўскага раённага Дома культуры.

На Купаллі ў Шклоўскім раёне.









*Уборка збожжа на тэрыторыі Шклоўскага раёна. 2008 г.*

Шклоўскім лясніцтве захаваўся помнік прыроды мясц. значэння — дуброва.

Агульная пл. с.-г. угоддзяў 81,4 тыс. га (2008), з іх 58 тыс. га раллі. Глебы дзярнова-падзолістыя, дзярнова-падзолістыя забалочаныя, тарфяна-балотныя і інш. Асн. галіны сельскай гаспадаркі — мяса-малочная жывёлагадоўля, вырошчванне збожжавых, зернебабовых, алейных культур, сеяных траў, караняплодаў, лёну, бульбы, кукурузы. Працуюць (2008) 6 закрытых і 6 адкрытых акц. т-ваў, 1 ТАА, эксперыментальная база па насенняводстве бульбы і збожжавых, 1 СВК, 1 с.-г. вытв. комплекс, 2 унітарных і прыватнае прадпрыемствы, 39 фермерскіх гаспадарак. Прам-сць раёна прадстаўлена 10 арг-цыямі (2008), сярод якіх найбольш значныя папяровая ф-ка «Спартак», ільнозавод, масларобны і камбікормавы з-ды, з-д газетнай паперы (з 2008).

У 1997 г. ў раёне дзейнічалі 15 сярэдніх, 8 няпоўных сярэдніх (базавых), 5 пач. школ, 2 спецшколы, ПТВ, у горадзе — раённая, 4 сельскія бальніцы, 26 фельч.-акушэрскіх пунктаў і 3 амбулаторыі, 3 аздараўленчыя пункты. У 2008 г. ў сістэме адукацыі працуюць гімназія, 21 агульнаадукац. школа, у т.л. 8 вучэбна-пед. комплексаў дзіцячы сад—школа; 14 дзіцячых дашкольных устаноў, школа-інтэрнат, дзіцячая школа мастацтваў, 2 вучэбна-вытв. камбінаты, 3 цэнтры: карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі, пазашкольнай дзейнасці і адпачынку моладзі. Дзейнічаюць дзіцячы сац. прытулак, дзіцячы дом сямейнага тыпу, 26 устаноў клубнага тыпу, у т.л. раённы аўтаклуб, 11 дамоў культуры і клубаў, 2 клу-

*Будынак Шклоўскага раённага Дома культуры.*





*Футбольная каманда Шклоўскага раёна — прызёр чэмпіянату Магілёўскай вобласці. 2008 г.*

бы-бібліятэкі, клуб-музей, 11,5 тыс. кінаўстановак (на канец 2007), 34 публічныя б-кі, 3 бальніцы, 6 амбулаторый, 22 фельч.-акушэрскія і 2 аздараўленчыя пункты, раённыя цэнтр гігіены і эпідэміялогіі, ветэрынарная станцыя. Працуюць раённы гісторыка-краязнаўчы музей з 3 філіяламі, музей прац. і баявой славы калгаса імя Фрунзе (в. Любінічы) і райаграпрамтэхнікі (г. Шклоў), дом-музей кінаакцёра П.М.Алейнікава (в. Крывель). Выдаецца газ. «Ударны фронт».



*На турыстычным злёце рабочай моладзі ў Шклоўскім раёне. 2008 г.*



*Лыжаролерная траса ў Шклоўскім раёне.*

Згодна з Праграмай адраджэння і развіцця сяла на тэр. раёна да 2010 г. павінны быць уладкаваны 12 аграгарадкоў. Па зацверджаным графіку ў 2005 г. пабудаваны 2 аграгарадкі (Гавяды, Славені), у 2006 г. — 5 (Александрыя, Гарадзец, Гарадзішча, Ордаць, Фашчаўка).

На тэр. раёна ёсць помнікі археалогіі: гарадзішчы (вёскі Хоцімка, Царковішча), курганныя могільнікі (вёскі Дымава, Капысіца, Царковішча). Брацкія магілы сав. воінаў, сав. ваеннапалонных і мірных жыхароў, сав. воінаў і партызан; магілы ахвяр фашызму (вёскі Зацішша, Клін, Смятанічы). Помнікі сав. воінам (вёскі Дубраўка 1, Камароўка), партызанам (в. Хацькова), землякам, загінуўшым у Вял. Айч. вайну. Помнікі архітэктуры: Пакроўскія цэрквы ў вёсках Вялікія Лазіцы (19 ст.), Кішчыцы (1845). Паштовая станцыя (сярэдзіна 19 ст.) у в. Лакуці. Царква (1903) у в. Старое Высокае.

**ШКЛОЎ** — горад, цэнтр Шклоўскага р-на, на правым беразе р. Дняпро. За 30 км на Пн ад Магілёва. Чыг. станцыя на лініі Орша—Магілёў. 15,6 тыс. чал. (2008).



Археалагічныя раскопкі на месцы Старога Шклова сведчаць аб засяленні гэтай тэр. ў 10 ст. Выяўлена гарадзішча з ровам і валам Гарадок з напластаваннямі эпохі Кіеўскай Русі і ВКЛ. Побач з гарадзішчам існавала паселішча. У 1963 г. ва ўрочышчы Кукушкін Роў, на правым беразе р. Серабранка (Шклавянка) знойдзены шклоўскі ідал — выява слав. язычніцкага бажаства 10 ст., магчыма, схаваная ў зямлю пасля прыняцця хрысціянства жыхарамі стараж. Шклова. Упершыню згадваецца ў 1520 г. ў справаздачы пасла Польскага каралеўства С.Герберштэйна аб яго дыпламатычным падарожжы ў Маскву. У 1535 г. Шклоў спалены ваяводам В.Шуйскім у час вайны Маскоўскай дзяржавы з Польшчай (1534—37). З 1568 г. цэнтр графства, умацаваны горад, у валоданні Хадкевічаў, у Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. ВКЛ. У 1563 і 1580 гг. у час Лівонскай вайны падвяргаўся разарэнню рус. войск. У 1580 г. ўпамінаецца ў Баркулабаўскай хроніцы як мястэчка, шляхецкая ўласнасць. У 1643 г. ў Шклове 850 дамоў, 4750 жыхароў. З сярэдзіны 17 ст. і да 1-й трэці 18 ст. належаў магнатам Сяняўскім, затым Чартарыйскім. Ураджэнец Шклова Клім Міхайлаў у 1657 г. працаваў у патрыярха Нікана ў Новым Іерусаліме, аздабляючы Уваскрэсенскі сабор манастыра. У 1667—68 гг. у царскім с. Каломенскае ён рабіў для палаца Аляксея Міхайлавіча разьбярныя драўляныя ўпрыгожанні і арнаменты, у 1680—82 гг. удзельнічаў у стварэнні іканастасаў 3 цэркваў у с. Ізмайлава. У 1683—85 гг. разам з групай разьбяроў зрабіў клірас і 5-ярусны іканастас Смаленскага сабора Нова-



*Шклоў. Малюнак Ю.Пешкі. 1802 г.*



*Сучасны герб г. Шклоў.*



*Панарама г. Шклоў.*



*Адзін з уездаў у Шклоў.*



*Помнік С.Г.Зорычу ў Шклове.*



*С.Г.Зорыч.*

дзявочага і іканастас царквы Данскога манастыроў у Маскве. У канцы 16 — пач. 17 ст. (па іншых звестках 1619) у Шклове пабудаваны дамініканскі касцёл, які з'яўляецца помнікам архітэктуры. У 1661 г. ў горадзе, як сведчыць гісторык М.А.Ткачоў, акрамя фартыфікацыйных збудаванняў існавалі драўляныя ўмацаванні замка графоў Сяняўскіх. Пасярод замкавага двара стаяла высокая, зрубленая з бруса шмат'ярусная вежа, з якой у час аблог вёўся абстрэл подступаў да замка. Пасля пажару 1668 г. мястэчка перанесена на правы бераг Дняпра, а на яго ранейшым месцы знаходзіцца в. Малы Стары Шклоў. У вер. 1708 г. ў час Паўн. вайны разбураны войскамі ген. Лавенгаўпта.

У 1762 г. Шклоў атрымаў статус горада і герб з выявай бязмена, што сведчыла аб важным месцы гандлю ў жыцці горада. У 1763 г. тут было створана рус. гандл. консульства. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1773—77 гг. пав. горад, цэнтр Магілёў-



*Шклоўскі Дом Саветаў.*



*Касцёл святых Пятра і Паўла ў Шклове.*





*Вуліца Пралетарская ў г. Шклоў.*

скай правінцыі і губерні; праводзіліся шматлікія таржкі і 3 кірмашы ў год. З 1773 г. уладанне кн. Р.А.Пацёмкіна, які пабудаваў тут ф-ку гадзіннікаў. У 1778 г. горад падараваны рас. імператрыцай ген.-лейт. С.Г.Зорычу, дзе ён заснаваў муз. школы. У 1777 г. мястэчка, цэнтр воласці Магілёўскага павета. 31.5.1780 г. Шклоў наведала Кацярына II, дзе адбылася яе сустрэча з аўстрыйскім імператарам Іосіфам. У канцы 18 ст. дзейнічалі шаўковая мануфактура (у 1797 г. 38 рабочых) і гадзіннікавая ф-ка, канатнае (з 1790; закрыта ў 1799), парусінавае (з 1794; у 1797 г. 255 рабочых; закрыта ў 1845), гарбарнае (у 1796 г. 53 рабочыя), суконнае (у 1797 г. 108 рабочых) прадпрыемствы. У трупе прыгоннага тэатра (засн. ў 1788 г., праіснаваў 12 гадоў) былі спевакі, танцоры, драматычныя акцёры і музыканты-інструменталісты. Сярод бел. акцёраў Шклоўскага тэатра С.Г.Зорыча вядомыя Пелагея (прымадонна балета) і Кацярына Лук'янаўна (вядучая танцоўшчыца тэ-



*На адкрыцці скульптурнай кампазіцыі «Агурок» у г. Шклоў.*



*У цэнтральным універмагу г. Шклоў.*



*Цэнтральная плошча г. Шклоў.*

атра, пляменніца Пелагеі) Азарэвічы. Па ініцыятыве фаварыта Кацярыны II у горадзе быў узведзены кадэцкі корпус для дзяцей са збяднелых сямей, які пераводзіўся ў Гродна, Смаленск, потым у Маскву, дзе ў жн. 1824 г. атрымаў назву Маскоўскага кадэцкага корпуса. У канцы 18 ст. пабудавана ратуша з крамамі. У пач. 19 ст. Шклоў стаў важным гандл. цэнтрам з прыстанню на Дняпры (120 крам). У час вайны 1812 г. 10 кастр. атрад казакаў на чале з падпалкоўнікам Храпавіцкім з партыз. злучэння Дз.Давыдава вызваліў горад ад французаў. 28 ліст. ў мяст. Стараселле размяшчалася штаб-кватэра галоўнакамандуючага рус. арміяй М.І.Кутузава. Менавіта адсюль ён аддаў загад аб аперацыі на Бярэзіне, дзе быў нанесены рашаючы ўдар па войсках Напалеона. Фельдмаршал Кутузаў таксама арганізаваў у Шклове шпіталь на 1000 чал. У 1818 г. мястэчка. У 1827 г. 10 314 жыхароў, праводзіліся кірмашы 2 разы ў год. З 2-й пал. 1820-х г. Шклоў страчвае ранейшае эканам. значэнне. У



*Філіял «Беларусбанка» ў г. Шклоў.*



*Жылы дом у г. Шклоў.*





*Сучасны выгляд Шклоўскай ратушы.*



*А.К.Крывашэін.*

1848 г. ў горадзе 1158 двароў, мураваныя 2-павярховы жылы дом, мужчынскі кляштар і будынак былога дамініканскага кляштара, драўляныя царква і касцёл; яўр. школа (з 1851). У 1861 г. 1515 дамоў, 11 363 жыхары, 3 кірмашы ў год, у 1863 г. 12 421 жыхар. Памешчык меў у 1869 г. ў Шклове і вёсках Гарадзянка, Забраннае, Пікавічы, Прыют, Сямёнаўка, Французаўка 6590 дзес. зямлі, вадзяны млын, 2 крупадзёркі, гарэлачны склеп, паром. У 1864 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1889 г. навучаліся 35 хлопчыкаў і 19 дзяўчынак. У 2-й пал. 19 ст. ўладанне памешчыка Ваейкава. У 1870-я г. працавалі крупадзёрка, цагельны з-д, з-д па вырабе шроту, 5 ткацкіх прадпрыемстваў (у 1879 г. 32 рабочыя). Пасля пракладкі шашы і скасавання Пецярбургскага тракта значэнне Шклова як гандл. цэнтра паменшылася. На пач. 1880-х г. у горадзе 872 дамы, у іх ліку 11 мураваных, 203 крамы (154 мураваныя), 7 ткацкіх, 2 цагельныя, вінакурнае і ваўнаткацкае прадпрыемствы, кафельны з-д (14 рабочых), аптэка. Насельніцтва займалася кавальскім, кравецкім і шавецкім промысламі. З 1887 г. працаваў паравы млын. У 1898 г. А.К.Крывашэін заснаваў папяровую ф-ку (у 1910 г. 207 рабочых), якая вырабляла кардон, каляровую, абгортачную, папяросную і капіравальную паперу.

Пасля пабудовы ў пач. 20 ст. чыгункі Орша—Магілёў Шклоў становіцца чыг. станцыяй, каля яе ў 1906 г. запрацаваў лесапільны з-д «Днепр» (у 1913 г. 80 рабочых). Дзейнічала пажарнае т-ва. У 1901 г. ў горадзе адбылася эканам. стачка кушняроў і краўцоў, пазней прайшлі палітычныя сходы, маніфестацыі, дэманстрацыі і

*Алея Герояў у г. Шклоў.*





*Спаса-Праабражэнская царква ў г. Шклоў.*

першамайская забастоўка. У маі і вер. 1903 г. 200 рабочых папяровай ф-кі баставалі. У жн. 1904 г. адбылася антыўрадавая дэманстрацыя рабочых, якія пратэставалі супраць суда над 60 рабочымі — удзельнікамі першамайскай дэманстрацыі. Не спыняліся пратэсты рабочых і ў наступныя гады. У 1909 г. 70 дзён працягвалася забастоўка рабочых шчацiннага прадпрыемства. На пач. 20 ст. ў Шклове 840 двароў, дзейнічалі паштова-тэлегр. аддз., лячэбніца, школа (нар. вучылішча),



*Жылы дом у г. Шклоў.*



*Візіт мітрапаліта Філарэта ў г. Шклоў.*







*Мемарыяльны комплекс «Памяць» у г. Шклоў.*

*Помнік савецкім воінам, якія загінулі пры фарсіраванні р. Дняпро ў чэрвені 1944 г., у г. Шклоў.*

2 вінныя і чайная крамы, 2 царквы, касцёл, праводзіліся кірмашы; на чыг. станцыі 3 двары, 36 жыхароў, у сядзібе (запалкавая ф-ка) — 52 жыхары, у маёнтку Шклоў (ён жа Забраннае) — 10 двароў, 89 жыхароў. У лютым 1918 г. Шклоў акупіраваны герм. войскамі. Летам 1918 г. дзейнічала маладзёжная група «Юныя бальшавікі», якая стала ядром камсамольскай арг-цыі. З лютага 1919 г. горад у складзе РСФСР. У час паездкі на агітпоездзе «Кастрычніцкая рэвалюцыя»

*Навагодні феерверк у Шклове. 31.12.2008 г.*

*На злёце перадавікоў народнай гаспадаркі ў г. Шклоў.*





*У адным з цэхаў і ў лабараторыі прадпрыемства «Шклоўскі масларобны завод».*







*А.Я.Кляшчоў.*

Шклоў наведаў М.І.Калінін. Выходзіла газ. «Известия исполнительного комитета Совета рабочих, крестьянских и красноармейских депутатов».

З 1924 г. Шклоў у складзе БССР. З 17.7.1924 г. адм. цэнтр раёна, 6617 жыхароў. Дзейнічалі керамічная, кавальская, вяровачна-канатная, кушнерская, слясарная, сталярная, кравецкая, ганчарная вытв-сці, у якіх было занята 840 рабочых. У 1920-я г. створаны саўгас, с.-г. камуна «Іскра». У 1924 г. адкрыты кінатэатр, бальніца, амбулаторыя, аптэка, працавалі 4 школы, у т.л. 7-гадовая, папяровая ф-ка «Спартак» (згарэла ў 1931), ф-ка запалкавай саломкі. У 1927 г. пачала дзейнічаць метэаралагічная станцыя. У 1930 г. створана МТС (дзейнічала да 31.3.1958). Першым яе дырэктарам быў А.Я.Кляшчоў — адзін з арганізатараў партыз. руху на Беларусі ў Вял. Айч. вайну, Герой Сав. Саюза, а ў пасляваен. час — старшыня Савета Міністраў БССР. З 1931 г. выходзіла раённая газ. «Прамень камунізму»,

*Адзін з цэхаў (злева) і выпускаемая прадукцыя прадпрыемства «Папяровая фабрыка «Спартак» у г. Шклоў.*









*Будынак РУП «Завод газетнай паперы і піламатэрыялаў» у Шклове.*

на льнозаводзе — шматтыражка «Ударнік»; у 1935 г. выйшаў «Бюлетэнь па якасці малочна-масляных прадуктаў Аршанскай міжраённай базы Белкаапмалако». У 1930-я г. працавалі торфазавод «Вольніца», б-ка. У 1939 г. ў Шклове 8,1 тыс. жыхароў. Дзейнічалі школа медсясцёр і Магілёўская абл. школа наркамзема БССР. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. горад акупіраваны ням-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1941 г. загубілі каля 3 тыс. жыхароў. Падпольшчыкі падтрымлівалі сувязь з Магілёўскім «Камітэтам садзеяння Чырвонай Арміі». Са шклоўскай друкарні яны вывезлі шрыфты для круглянскай падп. газеты. Пасля вызвалення горада адноўлена тэлегр. і тэлеф. сувязь. Хуткімі тэмпамі аднаўлялася і пашыралася гар. гаспадарка. У 1959 г. ў Шклове 7,8 тыс. жыхароў, у 1970 г. — 9,9 тыс., у 2007 г. — 15,6 тыс. жыхароў. Працуюць папяровая ф-ка «Спартак», масла- і хлебазаводы, ільнозавод, камбікормавы з-д, вытв. аб'яднанні





*РУП «Завод газетнай паперы і піламатэрыялаў» у Шклове: галоўны цэх і лабараторыя.*





*У адным з цэхаў прадпрыемства «Шклоўскі льнозавод».*

*Прадукцыя ААТ «Шклоўскі камбікормавы завод».*

мэблевае, будаўнічых матэрыялаў, камбінат быт. абслугоўвання насельніцтва, ААТ «Шклоўскі аграсэрвіс» і «Шклоўскі льнозавод», ТДА «Рабініны & К°» і «Від-2007», УП «Спрынтэрплюс», прыватныя УП: «Шклоўскі прадгандаль», вытв. «Экстра-Люкс», гандл. «Одзун», філіял Рэсп. унітарнага вытв. прадпрыемства па племяннoй справе «Магілёўскае дзяржплемпрадпрыемства» па Шклоўскім р-не. Функцыяніруюць 3 агульнаадукац., вячэрняя, муз. і дзіцяча-юнацкая спарт.





*Адзін з цэхаў і прадукцыя прыватнага унітарнага прадпрыемства «Камбінат кааператыўнай прамысловасці» ў г. Шклоў.*





*У аперацыйнай Шклоўскай цэнтральнай раённай бальніцы.*

школы, гімназія, ліцэй, спец. агульнаадукац. школа-інтэрнат з парушэннем зроку, 6 школьных установ, ПТВ. Дзейнічаюць гар. Дом культуры, сац.-пед. цэнтр, цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі, цэнтр пазашкольнай дзейнасці, клуб, кінатэатр, цэнтр. раённая і раённая дзіцячая б-кі, дзіцячы парк, паліклініка, гар. і раённая бальніцы, 3 урачэбныя пункты, санітарная станцыя і станцыя хуткай медыцынскай дапамогі, 46 аб'ектаў харчавання, у т.л. 2





*У радзільным аддзяленні Шклоўскай цэнтральнай раённай бальніцы.*

*Чэмпіянат Беларусі па футболе сярод жанчын у Шклове. 2008 г.*





*Стадыён у г. Шклоў.*

рэстараны, 2 кафэ, 2 нарыхтоўчыя цэхі, 3 аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя. На тэр. Шклова размешчаны 21 спарт. зала, 2 плавальныя і 2 міні-басейны, 2 тэнісныя корты, 3 стралк. ціры, 20 футбольных палёў, 38 комплексных спарт. пляцовак. Працуе рэдакцыя раённага радыёвяшчання. Выдаецца раённая газ. «Ударны фронт». У 1977 г. ў склад горада ўвайшоў пас. Іскра, у 2000-я г. — в. Малое Зарэчча.

Тэрыторыя горада выцягнута з Пн на Пд і абмежавана з У р. Дняпро, з З — чы-


*Святкаванне Дня Перамогі ў г. Шклоў. 2008 г.*





*Святкаванне Дня Перамогі ў гарадскім парку. 2008 г.*

гункай Орша—Магілёў. Першы ген. план забудовы распрацаваны ў 1966 г. магілёўскімі абл. праектнымі майстэрнямі ін-та «Белдзяржпраект». На яго аснове ў 1976 г. ін-там «БелНДіПгорадабудаўніцтва» створаны новы ген. план развіцця горада. Цэнтральная частка Шклова мае дробнакварталъную планіровачную структуру з прамавугольнай сеткай вуліц. Асн. вось — вуліца 1-я Савецкая з мерыдыянальнай арыентацыяй і шматпавярховымі мураванымі жылымі дамамі, на іншых



*Раённы конкурс «Міс Шклоў-2008».*



*Аркестр народных інструментаў дзіцячай школы мастацтваў г. Шклоў.*



*К.С.Бакуновіч.*

вуліцах пераважае драўляная аднапавярховая забудова сядзібнага тыпу. У Шклове знаходзіцца брацкая магіла сав. воінаў. Захаваліся помнікі архітэктуры: ратуша (канец 18 ст.), якая з'яўляецца візітнай карткай цэнтра горада, рымска-каталіцкі касцёл (19—20 ст.), будынак канторы папяровай ф-кі «Спартак» (1898), Праабражэнская царква (пач. 20 ст.), сінагога (2-я пал. 17 ст.), жылыя дамы (18—19 ст.) і асабняк (пач. 20 ст.). Другім упрыгожаннем Шклова пасля ратушы з'яўляецца гар. парк (помнік садова-паркавага мастацтва) у б. маёнтку Забрамнае. Ад



*Ансамбль народных інструментаў настаўнікаў дзіцячай школы мастацтваў г. Шклоў.*






Прыём у піянеры ў Шклове.



В.Гузікаў.

старога парку зберагліся 3 алеі, сажалка і сядзібны дом, у якім размяшчаецца Цэнтр пазашкольнай работы. Жамчужына парку — белыя таполі, дыяметр ствала якіх дасягае 1,2 м. Мясц. жыхары запэўніваюць, што непасрэдны ўдзел у пасадцы гэтых волатаў прымаў фаварыт Кацярыны II С.Г.Зорыч. Адна з вуліц горада носіць імя К.С.Бакуновіча, які служыў на крэйсеры «Аўрора», а ў час штурму Зімняга палаца нёс вахту ў кацельнай крэйсера.

У Шклове нарадзіліся таленавіты музыка 19 ст. В.Гузікаў, якія сваімі рукамі



Танцавальны ансамбль дзіцячай школы мастацтваў г. Шклоў.







*Былая настаўніца дзіцячай школы мастацтваў г. Шклоў, рукадзельніца А.П.Акулава са сваімі работамі.*

*Навучэнцы гімназіі пасля атрымання пашпартоў.*



*У.М.Шыцік.*

сканструяваў ксілафон і быў вядомы віртуознай ігрой на ім (у Еўропе музыку параўноўвалі з Паганіні); бел. гісторык, нам. дырэктара Ін-та гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б у 1934—37 гг. А.І.Зюзькоў (1904—38); бел. пісьменнік У.М.Шыцік (1922—2000); бел. фізік, чл.-кар. НАН Беларусі У.П.Радзько (н. ў 1937).

**АЗЕР'Е** — вёска ў Заходскім с/с, за 32 км на ПдУ ад Шклова, 31 км ад Магілёва, 28 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ПдУ працякае р. Арціслаўка (прыток р. Дняпро), на ПнУ знаходзіцца воз. Святое. Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 35 гаспадарак, 61 жыхар (2007).

Каля вёскі знаходзіўся стараж. курган, які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай мінуўшчыне. Упершыню згадваецца пад 1560 г. як с. Азёры ў Магілёўскай вол., дзярж. ўласнасць. У 1580 г. аддадзена ў пажыццёвае валоданне памешчыку. У пач. 17 ст. непадалёку былі гаспадарскі дом і фальварак, меліся 2 вадзяныя млыны. У 1643 г. адкрыта карчма. У 1742 г. ўпамінаецца як с. Азёра, 25 двароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, 50 двароў, 411 жыхароў, ва ўладанні графа П.Завадоўскага. Апрача земляробства сяльчане займаліся рыбалоўствам, перавозным промыслам, сплаўлялі плыты і баркі па Дняпры. Паводле перапісу 1897 г. сяло (61 двор, 426 жыхароў) і фальварак (2 два-

*Конкурс дзіцячага малюнка на асфальце ў г. Шклоў. 1.6.2008 г.*

*Ускладанне кветак да мемарыяльнага комплексу «Памяць» у Дзень Перамогі ў г. Шклоў.*






ры, 1 жыхар) у Нічыпаравіцкай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 65 двароў, 491 жыхар. У 1911 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні.

У пач. 1920-х г. на базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені (у 1925 г. 55 вучняў). З 20.8.1924 г. ў Заходскім с/с Лупалаўскага, з 2.3.1931 г. Шклоўскага р-наў. У вер. 1932 г. арганізаваны калгас «Перамога». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. ў вёсцы 29 двароў, 119 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. Азер'е акупіравана ням.-фаш. захопнікамі і спалена імі. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1991 г. 65 гаспадарак, 138 жыхароў, у складзе калгаса імя Андрэева (цэнтр — в. Еўдакімавічы). У 1997 г. 56 гаспадарак, 109 жыхароў. У 2007 г. ў складзе ЗАТ «Ніва». Планіроўка крыжападобная. Забудова двухбаковая, няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу, узведзена некалькі адна- і двухкватэрных мураваных дамоў. На Пн гасп. сектар.

За 0,5 км на ПнЗ ад Шклова, у пойме Дняпра знаходзіцца радовішча пяскоў (перспектыўныя запасы 1,24 млн. $м^3$).

У в. Азер'е нарадзіўся Герой Сац. Працы механізатар калгаса Н.В.Другакоў.

**АКУНЁЎКА** — вёска ў Гарадзішчанскім с/с, за 25 км на У ад Шклова, 65 км ад Магілёва, 27 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На Пд і У цячэ р. Аўчоса (прыток Басі). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Княжыцы—Горкі. 106 гаспадарак, 307 жыхароў (2007).

Вядома з сярэдзіны 17 ст. як сяло ў складзе маёнтка Сліжы, 15 валок зямлі. У 1670 г. ў Анікавіцкім войтаўстве Копыскага графства, 23 двары, шляхецкая ўласнасць. У 1737 г. пазначана як в. Акуноўка, 25 двароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1773 г. ў Копыскім павеце, 40 двароў, 272 жыхары, ва ўладанні памешчыка. У 1785 г. 34 двары, 240 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Горацкага павета, 68 двароў, 393 жыхары, хлебазапасны магазін, драўляная царква. Побач існаваў аднайменны хутар, 1 двор, 6 жыхароў. У 1909 г. 64 двары, 412 жыхароў. З 20.8.1924 г. да 1925 г. цэнтр сельсавета. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў саўгас; дзейнічала пач. школа. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1964 г. ў Гарадзішчанскім с/с. У 1991 г. 124 гаспадаркі, 336 жыхароў, цэнтр саўгаса «Юбілейны», які спецыялізаваўся на насеннядстве. У 1990-я г. меў 3686 га с.-г. угоддзяў, у тым ліку 2842 га зямлі, 42 трактары, 16 збожжаўборачных камбайнаў, 17 грузавых аўтамашын і іншую тэхніку. Дзейнічалі клуб, б-ка, 8-гадовая школа (12 настаўнікаў), дзіцячы сад, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны



*У.П.Радзько.*



*Этнаграфічны куток краязнаўчага музея сярэдняй школы №4 г. Шклоў.*



*У Шклоўскім раённым гісторыка-краязнаўчым музеі.*

прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сталовая. У 1997 г. ў вёсцы 184 гаспадаркі, 357 жыхароў. Працавалі вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад — сярэдняя агульнаадукац. школа, б-ка, сельскі клуб, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт. У 2007 г. ў складзе ААТ «Новае Юбілейнае». Праект планіроўкі і забудовы вёскі распрацаваны ў 1977 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Планіроўка прамавугольная. Тры прамалінейныя вуліцы, арыентаваныя з ПнУ на ПдЗ, перакрыжаваны перпендыкулярна 2 прамалінейнымі вуліцамі. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. На З вёскі знаходзіцца адм. цэнтр, узведзены мураваныя будынкі і двухпавярховыя шматкватэрныя дамы. На ПдЗ гасп. сектар.



*Н.М.Баранава.*

У в. Акунёўка нарадзілася Герой Сац. Працы, маці-гераіня, дэп. Вярх. Савета БССР 8-га склікання Н.М.Баранава (н. ў 1922).

**АЛЕКСАНДРЫЯ** — вёска ў Александрыйскім с/с, за 16 км на Пн ад Шклова, 66 км ад Магілёва, 1 км ад чыг. ст. Копысь на лініі Орша—Магілёў. На Пн і У цячэ р. Вілейка (прыток р. Дняпро). Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На зах. ускраіне чыгунка. Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Орша, якая праходзіць праз вёску. 171 гаспадарка, 434 жыхары (2007).

Упершыню згадваецца ў сярэдзіне 17 ст. як мястэчка ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. ВКЛ, прыватная ўласнасць; гандл. крамы, млын, карчма. У 1695 г. цэнтр войтаўства ў Шклоўскім графстве, 41 двор, шляхецкая ўласнасць. У 1771 г. 71 двор, 129 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. Пры 1-м статыстычным апісанні Магілёўскай губ. ў 1783—84 гг. мястэчка ў Копыскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 53 двары, 378 жыхароў, 2 царквы, млын, гандаль адсутнічаў. У вайну 1812 г. каля вёскі дзейнічаў атрад Дз.Давыдава. У 1847 г. сяло ў складзе аднайменнага маёнтка таго ж павета, уласнасць памешчыка. У 1886 г. вёска ў Старасельскай вол. Аршанскага павета Магілёўскай губ., 54 двары, 312 жыхароў, 2 школы граматы, 2 млыны, кузня, малітвенны дом, дзярж. маёмасць. Побач існаваў маёнтак. Праз вёску праходзіў тракт Шклоў—Орша.



*Нарыхтоўка кармоў у ААТ «Новае Юбілейнае».*



*Рака Дняпро каля в. Александрыя.*





*Панарама аграгарадка Александрыя.*

Паводле перапісу 1897 г. 93 двары, 613 жыхароў, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, карчма, 2 царквы. Пры паштова-гандл. тракце быў аднайменны фальварак, 2 двары, 23 жыхары, вадзяны млын, крупадзёрка. У пач. 20 ст. ўведзена ў дзеянне чыгунка Орша—Магілёў, адкрыта вінная крама. У рэвалюцыю 1905—07 гг. сяляне падтрымалі выступленне рабочых Копысі супраць царызму і мясц. эксплуататараў. У 1909 г. ў сяле 99 двароў, 682 жыхары, у маёнтку 13 жыхароў. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 168 вучняў, у іх ліку 27 піянераў.

З 26.4.1919 г. ў Старасельскай вол. Аршанскага павета Гомельскай губ. РСФСР, з 18.11.1920 г. ў Віцебскай губ., з 3.3.1924 г. ў складзе БССР. З 20.8.1924 г. ў Копыскім р-не Аршанскай акругі, 175 двароў, 999 жыхароў. Пачалі дзейнічаць клуб, хата-чытальня, гурткі мастацкай самадзейнасці. З 26.7.1930 г. ў Копыскім, з 8.7.1931 г. ў Шклоўскім р-нах. 4.2.1928 г.



*Мост цераз р. Днядро, які звязвае в. Александрыя з пас. Станцыя Копысь.*





*Малочны комплекс ААТ «Александрыйскае» ў аграгарадку Александрыя.*

арганізаваны калгас імя Луначарскага (у 1932 г. аб'ядноўваў 49 гаспадарак) і 3.1.1931 г. — калгас «Запавет Ільіча» (у 1932 г. аб'ядноўваў 112 гаспадарак). З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1939 г. ў вёсцы 147 двароў, 1371 жыхар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 36 двароў. Вёска вызвалена воінамі 344-й стралк. дывізіі 33-й арміі 2-га Бел. фронту. У 1967 г. на базе 8-гадовай створана сярэдняя школа (17 настаўнікаў



*Універсальны спартыўны комплекс у аграгарадку Александрыя.*



і выхаваццеляў). У 1969 г. да вёскі далучаны пас. Александрыя. У 1990-я г. цэнтр калгаса «Дняпроўскі», які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі і льнаводстве, меў 1511 га с.-г. угоддзяў, у тым ліку 1015 га ворыва, 25 трактароў, 13 грузавых аўтамашын, 7 збожжаўборачных камбайнаў і іншую тэхніку. У 1991 г. вёска, 120 гаспадарак, 347 жыхароў. Працавалі дзіцячы сад, філіял Шклоўскай раённай б-кі, клуб, 2 сталовыя, 2 магазіны, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 1997 г. 175 гаспадарак, 344 жыхары. Функцыяніравалі вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад — сярэдняя агульнаадукац. школа, б-ка аграгарадка Александрыя, сельскі Цэнтр культуры і адпачынку, урачэбная амбулаторыя, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, кафэ. У 2007 г. цэнтр ААТ «Александрыйскае». Планіровачна складаецца з 2 працяглых, плаўна выгнутых вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, паміж якімі на Пн праходзяць 2 кароткія прамалінейныя вуліцы, злучаныя 2 перпендыкулярнымі да іх кароткімі прамалінейнымі вуліцамі. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Хаты пастаўлены пераважна падоўжным парадным фасадам з ганкам да вуліцы, двары вянковага ці часткова вянковага тыпу. На Пн і ПдЗ гасп. сектар.



*У басейне універсальнага спартыўнага комплексу «Александрыя». 2008 г.*

**АЛЯКСАНДРАЎКА** — вёска ў Рыжкавіцкім с/с, за 17 км на ПдЗ ад Шклова, 57 км ад Магілёва, 19 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Чарнаручча. 15 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

Вядома з канца 19 ст. як пасёлак у Чарнаруцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 15 двароў, 108 жыхароў. У 1909 г. 30 двароў, 130 жыхароў. У 1919 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені. З 20.8. 1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай



*Фруктовы сад ААТ «Александрыйскае» ў в. Александрыя.*

акругі (да 26.7.1930). У 1920—30-я г. дзейнічалі гурток па ліквідацыі непісьменнасці і малапісьменнасці сярод дарослых, меліярацыйнае т-ва «Праца»; арганізаваны калгас «Орка», які першапачаткова аб'ядноўваў 37 гаспадарак, меў 465 га зямлі. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 40 двароў, 156 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1944 г. спалілі 35 двароў і загубілі 2 жыхароў. У 1991 г. 29 гаспадарак, 51 жыхар, у складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Вялікае Чорнае). У 1997 г. 19 гаспадарак, 35 жыхароў. З 2007 г. ў складзе ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, паралельна да шашы. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя. На Пд гасп. сектар.

**АПАЛОНАЎКА** — вёска ў Рыжкавіцкім с/с, за 8 км на ПдЗ ад Шклова, 46 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Чарнаручча. 17 гаспадарак, 24 жыхары (2007).

Вядома з пач. 20 ст. як вёска ў Шклоўскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 15 двароў, 83 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1928 г. адкрыта пач. школа. У снеж. 1929 г. да вёскі далучана в. Хадзевічы. У пач. 1930-х г. арганізаваны калгас «Шлях сацыялізму», які аб'ядноўваў 37 гаспадарак, меў 397 га зямлі (1931). З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 42 двары, 179 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1941 г. гітлераўцы спалілі 38 двароў, загубілі 1 жыхара. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1991 г. 35 гаспадарак, 54 жыхары, у складзе калгаса «Праўда» (цэнтр — в. Зароўцы), клуб. У 1997 г. 24 гаспадаркі, 37 жыхароў. З 2007 г. ў складзе ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ, пад вуглом да шашы. Забудова двухбаковая, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя.

**АСТРАВЕЦ** — вёска ў Заходскім с/с, за 33 км на ПдУ ад Шклова, 33 км ад Магілёва, 30 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ПдУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Заходскім с/с Лупалаўскага, з 2.3.1931 г. Шклоўскага р-наў. У кастр. 1934 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Астравец». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. 9 гаспадарак, 13 жыхароў, у складзе калгаса імя Андрэева (цэнтр — в. Еўдакімавічы). У 1997 г. 5 гаспадарак, 7 жыхароў. У 2007 г. ў складзе ЗАТ «Ніва». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу.

**АЎГУСТОВА** — вёска ў Гарадзецкім с/с, за 11 км на ПдУ ад Шклова, 41 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На Пн, З і Пд мяжуе з лесам. На З цячэ р. Дняпро, на Пн яе прыток р. Дзедва. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 16 гаспадарак, 24 жыхары (2007).

Вядома з канца 18 ст. як с. Аўгустоў у складзе маёнтка Плешчыцы ў Магілёўскім павеце, уласнасць графа П.В.Завадоўскага. Тут знаходзіліся гаспадарскі дом, сажалка, вадзяны млын. Цераз Дняпро каля вусця р. Дзедва быў перавоз на байдарках. У 1841—47 гг. дзейнічаў цукровы з-д. Гаспадар маёнтка ў 1869 г. меў 9407,5 дзес. зямлі, 5 млыноў, 2 карчмы. З 1924 г. ў Падгайскім, з 1960 г. ў Заходскім, з ліст. 1965 г. ў Гарадзецкім сельсаветах. У 1929 г. арганізаваны калгас «Клім Варашылаў», які з 1930-х г. абслугоўвала



Фашчаўская МТС; адкрыта пач. школа. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 26.6.1944 г. перадавы атрад 153-й стралк. дывізіі пераправіўся каля вёскі на зах. бераг Дняпра і пачалося вызваленне мясцовасці. У 1991 г. 50 гаспадарак, 92 жыхары, у складзе саўгаса «Гарадзец» (цэнтр — в. Гарадзец). У 1997 г. 34 гаспадаркі, 57 жыхароў, магазін. У 2007 г. ў складзе с.-г. прыватнага УП «Акцыянерны ашчадны банк «Гарадзец». Планіроўка Г-падобная. Больш працяглая вуліца прамалінейная, арыентавана мерыдыянальна. Да яе паўд. канца з У далучаецца перпендыкулярна 2-я прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя. На У гасп. сектар.

**АЎРАМАЎКА** — пасёлак у Каменналаўскім с/с, за 19 км на Пд ад Шклова, 25 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пн і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Шклоў. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2007).

Пасёлак засн. ў 1920-я г. як вёска (да 1998) перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-х г. жыхары ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары, у складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Старая Вадва). У 1997 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары. У 2007 г. ў складзе ТАА «Плодаагародніна». Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі пастаўлены ўздоўж кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ.

**АЎЧЫНЕНКІ** — вёска ў Рыжкавіцкім с/с, за 13 км на ПдЗ ад Шклова, 49 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Чарнаручча. 11 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

Вёска вядома з 17 ст. ў Барыскаўскім войтаўстве Шклоўскага графства, шляхецкая ўласнасць, дзейнічаў млын. У 1771 г. 33 двары, 193 жыхары. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1858 г. сяло ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ., 121 рэвізская душа. У 1880 г. 60 двароў, 352 жыхары, насельніцтва займалася пяньковым промыслам, вырабам розных быт. рэчаў з лыка і кары. У 1882 г. адкрыта земская школа. Паводле перапісу 1897 г. ў Шклоўскай вол. Магілёўскага павета, 69 двароў, 478 жыхароў, 2 хлебазапасныя магазіны, заезны дом. На пач. 20 ст. 77 двароў, 555 жыхароў, побач існавала сядзіба (1 двор, 3 жыхары). У пач. 1920-х г. на базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 48 вучняў. З 26.4.1919 г. ў Шклоўскай вол. Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Чэрнеўскім с/с Шклоўскага р-на Магілёўскай акругі БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Аб'яднаная праца», у які першапачаткова ўвайшлі 30 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. 28 гаспадарак, 54 жыхары, у складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Вялікае Чорнае). У 1997 г. 18 гаспадарак, 33 жыхары. Дзейнічалі клуб, магазін. З 2007 г. ў складзе ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя. На З гасп. сектар.

**БАБЧЫНА** — вёска ў Чарнаруцкім с/с, за 24 км на З ад Шклова, 64 км ад Магілёва, 27 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пн меліярацыйны канал, злучаны з р. Чарнаводка (прыток р. Вабіч). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Чарнаручча. 7 гаспадарак, 29 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1743 г. згадваецца як с. Бабчын у Аршанскім павеце. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў складзе маёнтка Шупені Магілёўскага павета Магілёў-

скага намесніцтва, шляхецкая ўласнасць. У 1847 г. цэнтр аднайменнага маёнтка, у Магілёўскім павеце, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. фальварак (51 жыхар) у Чарнаруцкай вол. Магілёўскага павета. На пач. 20 ст. 23 жыхары, памешчыку належалі 1147 дзес. зямлі, млын і вінакурны з-д. Пад уплывам прапаганды салдат-франтавікоў сяляне ў кастр. 1917 г. разграмілі маёнтак. З 26.4.1919 г. ў Чарнаруцкай вол. Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, з 9.5.1923 г. ў Шклоўскай вол. таго ж павета, з 3.3.1924 г. ў складзе БССР. З 20.8. 1924 г. ў Чарнаруцкім с/с Шклоўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1925 г. дзейнічалі садова-агародная гаспадарка ў былым маёнтку і меліярацыйнае т-ва. 23.3.1934 г. вяскоўцы арганізавалі калгас «Чырвоны ўдарнік» (у 1941 г. ўваходзілі 32 гаспадаркі). З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. 15 гаспадарак, 26 жыхароў, у складзе калгаса імя Свярдлова (цэнтр — в. Клімавічы). У 1997 г. 9 гаспадарак, 16 жыхароў. У 2007 г. ў складзе ЗАТ «Палыкавіцкае». Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПнУ на ПдЗ. Забудова двухбаковая, няшчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя.

**БАГУШОЎКА** — вёска ў Александрыйскім с/с, за 12 км на Пн ад Шклова, 52 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Копысь на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Орша, якая праходзіць праз вёску. 15 гаспадарак, 22 жыхары (2007).

Упершыню вёска згадваецца ў сярэдзіне 17 ст. ў складзе Вышкаўскага войтаўства Шклоўскага графства, шляхецкая ўласнасць. У 1695 г. ў ёй ніхто не жыў. У 1771 г. 2 двары, 14 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1783 г. існаваў фальварак у Копыскім павеце Магілёўскай губ., 1 двор, 20 жыхароў. У 1854 г. пачаў дзейнічаць вінакурны з-д, на якім працавалі 9 рабочых, у 1861 г. на ім устаноўлена паравая машына. У 1862 г. працавала мукамольня. Паводле перапісу 1897 г. фальварак (31 жыхар) у Старасельскай вол. Аршанскага павета. На пач. 20 ст. 39 жыхароў, памешчыку належалі 2651 дзес. зямлі. З 26.4.1919 г. ў Старасельскай вол. Аршанскага павета Гомельскай, з 18.11. 1920 г. Віцебскай губерняў РСФСР. З сак. 1924 г. ў складзе БССР, з 20.8.1924 г. ў Александрыйскім с/с Копыскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7.1930). У лютым 1928 г. арганізаваны калгас «Энергія». З 8.7.1931 г. вёска ў Шклоўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 2 двары. У 1991 г. 35 гаспадарак, 77 жыхароў, у складзе калгаса «Ударнік» (цэнтр — в. Слабодка). У 1997 г. 26 гаспадарак, 45 жыхароў. Былі клуб, магазін. У 2007 г. ў складзе ААТ «Александрыйскае». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай амаль мерыдыянальна. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя.

**БАРКІ 1** — вёска ў Старасельскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Шклова, 63 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Копысь на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Стараселле і далей па шашы Хацькова—Шклоў. 35 гаспадарак, 97 жыхароў (2007).

Вёска вядома з 18 ст. У 1777 г. ў складзе Копыскай акругі Магілёўскай губ., уласнасць графа Агінскага. У вайну 1812 г. спалена французскімі войскамі. У канцы 1880-х г. дзейнічалі вінакурны з-д, сыраварня і вадзяны млын. Паводле перапісу 1897 г. ў Старасельскай вол. Аршанскага павета, 103 двары, 657 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін. Побач існаваў фальварак — 2 двары, 24 жыхары, вадзяны млын, сукнавальня. 1.10.1907 г. адкрыта земская школа, у якой першапачаткова навучаліся 50



хлопчыкаў і 13 дзяўчынак. У 1909 г. ў сяле 122 двары, 1120 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 62 жыхары. У пач. 1920-х г. на базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, для якой вяскоўцы ў 1922 г. прыстасавалі памяшканне былога хлебазапаснага магазіна. У 1923 г. ў школе было 36 вучняў. З 26.4.1919 г. ў Старасельскай вол. Аршанскага павета Гомельскай, з 18.11. 1920 г. Віцебскай губ. РСФСР. З 3.3.1924 г. ў складзе БССР, з 17.7.1924 г. ў Старасельскім с/с Копыскага р-на Аршанскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Наперад», які ў 1941 г. аб'ядноўваў 54 гаспадаркі, меў 393 га зямлі. З 8.7.1931 г. ў Талачынскім, з 5.12.1931 г. ў Шклоўскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 3 вяскоўцаў, 30 загінулі на франтах. У 1991 г. вёска, 65 гаспадарак, 143 жыхары, цэнтр калгаса «Наперад», які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі і вырошчванні тэхн. культур. У 1990-я г. меў 1783 га с.-г. угоддзяў, 23 трактары, 9 збожжаўборачных камбайнаў, 7 грузавых аўтамашын і іншую тэхніку. У вёсцы дзейнічалі пач. школа, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, сталовая. У 1997 г. 66 гаспадарак, 156 жыхароў. У 2007 г. ў складзе ААТ «Александрыйскае». Працавалі сельскія клуб-музей, б-ка. Планіровачна складаецца з 4 паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПнЗ на ПдУ і злучаных завулкамі. Забудова двухбаковая, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы пераважна драўляныя. Вуліца, размешчаная на Пд, забудавана мураванымі дамамі тыпу катэджаў. На Пн гасп. сектар.

У вёсцы нарадзіўся Герой Сав. Саюза М.А.Карначонак (1922—42), які ў Вял. Айч. вайну збіў 10 варожых самалётаў, зрабіў 349 баявых вылетаў. Яго імя прысвоена Аршанскаму мясакамбінату і вуліцы ў Шклове.

**БАРКІ 2** — вёска ў Старасельскім с/с, за 21 км на ПнЗ ад Шклова, 66 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Копысь на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На З цячэ р. Бярозаўка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Хацькова. 11 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. 26 гаспадарак, 49 жыхароў, у складзе калгаса «Наперад» (цэнтр — в. Баркі 1). У 1997 г. 20 гаспадарак, 25 жыхароў. З 2007 г. ў складзе ААТ «Александрыйскае». Аснову планіроўкі складаюць 2 кароткія прамалінейныя вуліцы, арыентаваныя з ПдУ на ПнЗ, да якіх далучаецца на Пн 3-я кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя.



*М.А.Карначонак.*

**БАРСУКІ** — вёска ў Каменналаўскім с/с, за 17 км на Пд ад Шклова, 23 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Шклоў. 60 гаспадарак, 118 жыхароў (2007).

Упершыню згадваецца ў 18 ст. У 1777 г. ўпамінаецца як сяло ў Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. 40 двароў, 308 жыхароў, цэнтр маёнтка ў Магілёўскім павеце, уласнасць праваслаўнай царквы, дзейнічала драўляная царква. У канцы 18 ст. належала архіепіскапу бел. і магілёўскаму Анастасію. Працавалі вадзяны млын, вінакурня. Апрача земляробства жыхары займаліся рыбалоўствам, выраблялі тканіну з лёну. У вайну 1812 г. ўсе работы на гаспадара архіепіскапа Шашацкага былі спынены, разгромлены яго маёнтак. У 1850 г. памешчык меў у вёсках Барсукі і Марціянава 120 дзес. зямлі. У сярэдзіне 19 ст. сяло ў Магілёўскім павеце, дзярж. ўласнасць; працавала царк.-прыходская школа. У 1912 г.

створана калонія для малалетніх злачынцаў, якая праіснавала да кастр. 1917 г. У пач. 1920-х г. на базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені. З 20.8.1924 г. ў Каменналаўскім с/с Шклоўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У пач. 1920-х г. арганізавана дзіцячая камуна, якая ў 1931 г. ператворана ў дашкольны дзіцячы дом імя Сталіна. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Галадзеда. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. ў вёсцы 102 двары, 443 жыхары, дзіцячы дом, пач. школа (101 вучань). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Сям'ю вяскоўца М.Ф.Асмалоўскага гітлераўцы расстралялі ў вер. 1941 г. за ўкрыццё параненага камандзіра 172-й стралк. дывізіі ген.-маёра М.Ц.Раманава. У 1991 г. 109 гаспадарак, 207 жыхароў, у складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Дабрэйка). У 1997 г. 95 гаспадарак, 193 жыхары. Працавалі 2 магазіны, стацыянарная кінаўстаноўка, школа-інтэрнант, аддз. сувязі. У 2007 г. ў складзе СВК «Вадвянскае ». Планіроўка П-падобная. Дзве прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы арыентаваны з ПдЗ на ПнУ і злучаны кароткай прамалінейнай вуліцай. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя. У цэнтры паміж вуліцамі гасп. сектар.

**БАРЫСКАВІЧЫ** — вёска ў Таўкачоўскім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Шклова, 36 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Чарнаручча. 15 гаспадарак, 24 жыхары (2007).

Вёска вядома з 17 ст. як цэнтр войтаўства ў Шклоўскім графстве. У 1695 г. 7 двароў, у 1771 г. 10 двароў, 53 жыхары. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. ў Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Шклоў у Магілёўскім павеце, 13 двароў, 95 жыхароў, уладанне памешчыка. У 1880 г. 14 двароў, 89 жыхароў, вяскоўцы займаліся вырабам ільняной, пяньковай і ваўнянай тканіны. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Шклоўскай вол. Магілёўскага павета, 17 двароў, 112 жыхароў, хлебазапасны магазін; у аднайменным пасёлку — 27 двароў, 156 жыхароў. У 1917 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені. У 1923 г. школу наведвалі дзеці з в. Барыскавічы і пас. Майсеенскі. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), адкрыта хата-чытальня. У 1926 г. ў вёсцы 39 двароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Арлен». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах у барацьбе супраць акупантаў загінулі 19 вяскоўцаў. У 1991 г. 29 гаспадарак, 47 жыхароў, у складзе калгаса «Рассвет» (цэнтр — в. Таўкачы). У 1997 г. 28 гаспадарак, 40 жыхароў. У 2007 г. ў складзе ЗАТ «Светлае». Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя.

**БАШКІРАЎКА** — вёска ў Гарадзецкім с/с, за 10 км на ПдУ ад Шклова, 43 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Капуснік (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 20 гаспадарак, 35 жыхароў (2007).

Вядома з сярэдзіны 19 ст. У 1856 г. сумесна з суседняй в. Гарадзец на правах спадчыны належала памешчыцы А.В.Танеевай. У 1880-х г. у Любініцкай вол. Горацкага павета, заезны дом, вінакурны з-д, вадзяны млын. Паводле перапісу 1897 г. існавала аднайменнае ўрочышча (1 двор, 9 жыхароў), у 1909 г. — хутар з той жа назвай (1 двор, 8 жыхароў). З 20.8.1924 г. ў Княжыцкім с/с Шклоўскага р-на. У 1929 г. арганізаваны калгас «Перамога», які ў 1930 г. аб'яднаваў 12 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп.



1941 г. каля вёскі трымалі абарону воіны 110-й стралк. дывізіі 61-га корпуса. У першыя пасляваенныя гады пабудавана памяшканне для пач. школы. У 1991 г. 29 гаспадарак, 55 жыхароў, у складзе саўгаса «Гарадзец» (цэнтр — в. Гарадзец). У 1997 г. 18 гаспадарак, 35 жыхароў. У 2007 г. ў складзе с.-г. прыватнага УП «Акцыянерны ашчадны банк «Гарадзец». Планіровачна складаецца з 2 (адна працяглая, плаўна выгнутая, другая кароткая, прамалінейная) вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных завулкам. Забудова двухбаковая, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя.

**БЕЛЬ** — вёска ў Заходскім с/с, за 21 км на ПдУ ад Шклова, 38 км ад Магілёва, 23 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Рудзея (прыток р. Арцслаўка). Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса, якая праходзіць праз вёску. 40 гаспадарак, 68 жыхароў (2007).

Упершыню згадваецца ў 1604 г. як сяло (104 дымы), у Плешчыцкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1635 г. 86 двароў, каля 60 валок зямлі. Жыхары плацілі чынш, мядовую дань і падатак збожжам. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў складзе маёнтка Плешчыцы Магілёўскага павета Магілёўскага намесніцтва, 73 двары, 388 жыхароў, уласнасць Аршанскага езуіцкага касцёла. Апрача земляробства сяльчане займаліся рыбалоўствам, перавозным промыслам, вырабам тканіны. У 1858 г. ў Горацкім павеце, 112 рэвізскіх душ. Паводле перапісу 1897 г. ў Нічыпаравіцкай вол. Горацкага павета, 62 двары, 393 жыхары, хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. 67 двароў, 466 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Падгайскім с/с Шклоўскага р-на БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Бальшавік». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 122 двары, 490 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У пач. ліп. 1941 г. акупанты поўнасцю спалілі вёску, загубілі 5 жыхароў. Каля вёскі трымалі абарону воіны 110-й стралк. дывізіі 61-га стралк. корпуса і вялі тут цяжкія баі супраць гітлераўцаў. Пасля вайны адбудавана. У 1955 г. ўступіў у строй радыёвузел. З 11.3.1960 г. ў Заходскім с/с. У 1991 г. 85 гаспадарак, 190 жыхароў, у складзе калгаса «50 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Лакуці). У 1997 г. 75 гаспадарак, 137 жыхароў. Працавала пач. школа. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Ніва». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, якая раздвойваецца на У. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя. На Пн гасп. сектар.

**БЛАГАЎКА** — вёска ў Гарадзішчанскім с/с, за 30 км на ПдУ ад Шклова, 53 км ад Магілёва, 32 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ ручай (прыток р. Бася) і мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Княжыцы—Горкі. 38 гаспадарак, 46 жыхароў (2007).

За 0,2 км на ПнЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок, знаходзіцца гарадзішча, якое сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Паводле інвентару 1616 г. пазначана як с. Пагост у Чамаданаўскім войтаўстве Магілёўскай эканоміі, 54 валокі зямлі, карчма і млын, дзярж. ўласнасць. У 1742 г. ўпамінаецца як с. Благаўка (яно ж Пагост), 26 двароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Копыскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 50 двароў, 312 жыхароў, дзярж. ўласнасць. У вайну 1812 г. спалена французскімі войскамі. У 1858 г. ў Горацкім павеце, 105 рэвізскіх душ, уласнасць памешчыка. У 1880-я г. 44 двары, 203 жыхары; вяскоўцы займаліся вырабам розных быт. рэчаў з лыка і кары, ганчарным промыслам. Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 57 двароў, 339 жыхароў, працаваў хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. 73 двары, 498 жыхароў. З

20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), адкрыта хата-чытальня, дзейнічала школа. 2.5.1928 г. створаны с.-г. «Першамайскі Чырвоны калектыў» (7 гаспадарак). На яго аснове ў 1930 г. арганізаваны калгас «Пралетарый», які ў 1940 г. аб'ядноўваў 102 гаспадаркі, меў 441 га ворыва, 118 га лугоў, жывёлагаспадарчыя фермы. У вёсцы быў таксама калгас імя К.Маркса. З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 103 двары, 510 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 3 жыхароў. У 1991 г. 98 гаспадарак, 192 жыхары, у складзе саўгаса «Гарадзішча» (цэнтр — в. Гарадзішча). У 1997 г. 87 гаспадарак, 149 жыхароў. Дзейнічалі клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, магазін. У 2007 г. ў складзе ААТ «Новагарадзішчанскае». Планіровачна складаецца з 2 (адна працяглая, плаўна выгнутая, другая кароткая, прамалінейная) вуліц амаль мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя. На З гасп. сектар.

**БРУС** — вёска ў Рыжкавіцкім с/с, за 6 км на ПдЗ ад Шклова, 46 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Круглае. 5 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

Сучасная вёска засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1930-я г. жыхары ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. 11 гаспадарак, 22 жыхары, у складзе калгаса «Праўда» (цэнтр — в. Зароўцы). У 1997 г. 5 гаспадарак, 15 жыхароў. З 2007 г. ў складзе ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс». Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова аднабаковая, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя.

**БУШЛЯКІ** — вёска ў Каменналаўскім с/с, за 17 км на Пд ад Шклова, 25 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ р. Дняпро. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Шклоў. 50 гаспадарак, 107 жыхароў (2007).

Вёска вядома з 17 ст. У 1667 г. ўпамінаецца як маёнтак у Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. сяльцо Бышлякі ў Магілёўскім павеце, 20 двароў, 175 жыхароў, млын, 2 сажалкі, уласнасць памешчыка. Цераз Дняпро дзейнічаў паромны перавоз. У 1848 г. цэнтр маёнтка, 21 двор, 177 жыхароў, уласнасць памешчыка. Працавалі школа граматы, карчма (1880). З 20.8.1924 г. ў Каменналаўскім с/с. У 1929 г. арганізаваны калгас «Новы шлях», у які ўваходзілі таксама гаспадаркі з в. Каменныя Лавы (у 1934 — 56 гаспадарак). У 1935 г. адкрыта пач. школа. За высокія ўраджаі лёну ў 1937—38 гг. калгас быў удзельнікам Усесаюзнай с.-г. выстаўкі ў Маскве. З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У 1939 г. 582 жыхары, 115 двароў, клуб. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія часткова спалілі вёскі. Пасля вайны адбудавана. У 1949 г. пач. школа пераўтворана ў 7-гадовую. У 1991 г. 89 гаспадарак, 196 жыхароў, у складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Дабрэйка). Дзейнічалі 8-гадовая школа, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. У 1997 г. 84 гаспадаркі, 189 жыхароў. Працавалі сельскія б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт. У 2007 г. ў складзе СВК «Вадвянскае». Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных мерыдыянальна і злучаных кароткімі прамалінейнымі вуліцамі. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя. На У гасп. сектар.



**БЯЛАНАВА** — вёска ў Рыжкавіцкім с/с, за 7 км на З ад Шклова, 47 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Круглае. 9 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Сучасная вёска засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1930-я г. пасёлак. З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. пасёлак, 15 гаспадарак, 22 жыхары, у складзе калгаса «Праўда» (цэнтр — в. Зароўцы). У 1997 г. 14 гаспадарак, 29 жыхароў. З 1998 г. вёска. З 2007 г. ў складзе ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс». Планіровачна ўяўляе прамалінейную вуліцу, арыентаваную з ПнЗ на ПдУ. Забудова пераважна аднабаковая, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя.

**БЯРОЗАЎКА** — былая вёска ў Старасельскім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Шклова, 64 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Копысь на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пд мяжуе з лесам. Каля вёскі пачынаецца р. Бярозаўка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Баркі 1 і далей па шашы Шклоў—Хацькова.

Вёска вядома з 18 ст. У 1777 г. ў Копыскай акрузе Магілёўскай губерні. У 1783 г. 15 двароў, 76 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. фальварак (13 жыхароў) у Старасельскай вол. Аршанскага павета. На пач. 20 ст. 30 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1929 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», які ў 1940 г. аб'ядноўваў 22 двары, меў 154 га зямлі. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 13 вяскоўцаў загінулі на фронце, 3 — у партыз. барацьбе. У пасляваенны час тут размяшчаўся дзіцячы дом. У 1991 г. 10 гаспадарак, 17 жыхароў, у складзе калгаса «Наперад» (цэнтр — в. Баркі 1). У 1997 г. 2 гаспадаркі, 4 жыхары. Планіровачна складалася з 2 кароткіх вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і забудаваных няшчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВАБІЧЫ** — вёска ў Чарнаруцкім с/с, за 27 км на ПдЗ ад Шклова, 42 км ад Магілёва, 29 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На З цячэ р. Вабіч (прыток Друці). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Круглае. 7 гаспадарак, 7 жыхароў (2007).

Вядомы з 17 ст. як вёска ў Чарнаруцкім войтаўстве Шклоўскага графства, шляхецкая ўласнасць. У 1695 г. 12 двароў. У 1771 г. 72 жыхары. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. вёска ў Магілёўскай акрузе. У 1785 г. ў складзе маёнтка Шклоў Магілёўскага павета, 15 двароў, 128 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 57 рэвізскіх душ. У 1880-я г. 26 двароў, 183 жыхары, частка з якіх займалася пяньковым промыслам. Паводле перапісу 1897 г. ў Чарнаруцкай вол. Магілёўскага павета, 34 двары, 214 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. 31 двор, 208 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), створана меліярацыйнае т-ва. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. 27 гаспадарак, 48 жыхароў, у складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Тударава). У 1997 г. 24 гаспадаркі, 34 жыхары. Працавалі клуб, грамадская лазня. У 2007 г. ў складзе ЗАТ «Палыкавіцкае». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя.

**ВАЛОСАВІЧЫ** — вёска ў Славенскім с/с, за 6 км на У ад Шклова, 46 км ад

Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Праз вёску цячэ р. Мар'янка (прыток р. Дняпро), на якой створана сажалка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 29 гаспадарак, 58 жыхароў (2007).

Упершыню згадваюцца ў 1525 г. як сяло, якое ў 1615 г. перададзена Копыскаму касцёлу. У 1626 г. 46 двароў, належала Копыскаму кальвінскаму збору. У сярэдзіне 17 ст. ў Копыскім графстве, 30 валок зямлі, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1783 г. 12 двароў, 76 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. ў Любініцкай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 30 двароў, 197 жыхароў. На пач. 20 ст. 36 двароў, 199 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1930-я г. працавала пач. школа, арганізаваны калгас «Шлях сацыялізму». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. 56 гаспадарак, 125 жыхароў, у складзе калгаса «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Кучарына). У 1997 г. 43 гаспадаркі, 87 жыхароў. З 2007 г. ў складзе ЗАТ «Амкадор-Шклоў». Працаваў магазін. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на Пд далучаецца кароткая прамалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя. На ПдЗ гасп. сектар.

**ВАРАПОНКА** — былая вёска ў Старасельскім с/с, за 15 км на З ад Шклова, 55 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ р. Варопінка (прыток р. Бярозаўка). Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Круглае.

У 1829 г. в. Варапаны ў Магілёўскім павеце, 3 двары, 19 жыхароў, уласнасць памешчыка. На пач. 20 ст. ў Старасельскай вол. Аршанскага павета Магілёўскай губ., 19 двароў, 161 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. 6 гаспадарак, 11 жыхароў, у складзе калгаса «Маяк» (цэнтр — в. Вялікае Уланава). У 1997 г. 5 гаспадарак, 8 жыхароў. Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі былі пастаўлены ўздоўж кароткай прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі.

**ВІШАНЬКА** — былая вёска ў Ардацкім с/с, за 38 км на ПдУ ад Шклова, 65 км ад Магілёва, 40 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Лешня (прыток р. Бася). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Княжыцы—Горкі.

Была засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. 9 гаспадарак, 17 жыхароў, у складзе саўгаса «Рабочы» (цэнтр — в. Ордаць). У 1997 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары. Планіровачна складалася з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВЫШКАВА** — вёска ў Александрыйскім с/с, за 10 км на Пн ад Шклова, 50 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Копысь на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Орша. 22 гаспадаркі, 30 жыхароў (2007).

Вядома з сярэдзіны 17 ст. як цэнтр войтаўства ў Шклоўскім графстве, шляхецкая ўласнасць. У 1771 г. 10 двароў, 62 жыхары. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у Копыскім павеце Магілёўскай губ. У 1783 г. 12 двароў, 105 жыха-



роў. На пач. 20 ст. 41 двор, 286 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Старасельскай вол. Аршанскага павета Гомельскай, з 18.1.1920 г. ў Віцебскай губ. РСФСР. З сак. 1924 г. ў складзе БССР, з 20.8.1924 г. ў Александрыйскім с/с Копыскага р-на Аршанскай акругі, з 8.7.1931 г. ў Шклоўскім р-не. 9.3.1931 г. арганізаваны калгас «Новы быт». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 5 двароў, разрабавалі маёмасць. У 1991 г. 46 гаспадарак, 78 жыхароў, у складзе калгаса «Ударнік» (цэнтр — в. Слабодка). Працаваў клуб. У 1997 г. 38 гаспадарак, 53 жыхары. У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Александрыйскае». Дзейнічалі школа, б-ка, аддз. сувязі. Аснову планіровачнай структуры складае прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, да цэнтра якой з ПнЗ далучаецца кароткая, плаўна выгнутая вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя.

**ВЯЛІКАЕ ЗАМОШША** — вёска ў Александрыйскім с/с, за 17 км на Пн ад Шклова, 57 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Копысь на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На З цячэ р. Машарня (прыток Ульянаўкі). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Орша. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2007).

Паводле перапісу 1897 г. вёска, 30 двароў, 190 жыхароў, у Баранскай вол. Аршанскага павета Магілёўскай губ. На пач. 20 ст. 40 двароў, 235 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Александрыйскім с/с Копыскага р-на Аршанскай акругі. 10.3.1931 г. арганізаваны калгас імя Варашылава. З 8.7.1931 г. ў Шклоўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. 16 гаспадарак, 29 жыхароў, у складзе калгаса «Дняпроўскі» (цэнтр — в. Александрыя). У 1997 г. 7 гаспадарак, 8 жыхароў. У 2007 г. ў складзе ААТ «Александрыйскае». Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя.

**ВЯЛІКАЕ ЗАРЭЧЧА** — вёска ў Гарадзецкім с/с, за 2 км на У ад Шклова, 42 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На З цячэ р. Дняпро, на Пд — яе прыток р. Капуснік. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 90 гаспадарак, 195 жыхароў (2007).

За 1,5 км на ПдУ ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе левага берага Дняпра, знаходзіцца стаянка ранняга мезаліту (датуецца 8—7-м тыс. да н.э.), што сведчыць аб засяленні чалавекам гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Па нар. паданні, Зарэчны Шклоў засн. яшчэ ў часы Паўн. вайны 1700—21 гг. Мястэчка размяшчалася на тым месцы, дзе быццам бы стаяў абоз рус. арміі пасля вяртання яе з-пад Палтавы. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1880-я г. 134 двары, 717 жыхароў, 16 крам, царква, малітвенная школа, раз у год праводзіўся кірмаш; існавала кафляная вытв-сць (1889). Паводле перапісу 1897 г. мястэчкі Вялікае і Малое Зарэчча (Зарэчны Шклоў), у Любініцкай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 148 двароў, 1228 жыхароў. Дзейнічалі царк.-прыходская школа, 10 крам, піцейны і 2 малітвенныя дамы. У вер. 1903 г. начальнік губ. жандарскага ўпраўлення даносіў у дэпартамент паліцыі, што сяляне прылягаючых да Шклова вёсак збіраюцца на сходкі і абмяркоўваюць пытанні аб паляпшэнні свайго становішча за кошт суседніх землеўладальнікаў. На пач. 20 ст. 195 двароў, 986 жыхароў, вінная крама, царква. З 20.8.1924 г. ў Зарэчна-Шклоўскім с/с. У 1934 г. арганізаваны калгас «7-ы з'езд Саветаў». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1939 г. 93 двары, 465 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. 289 гаспадарак, 832 жыхары, у





складзе саўгаса «Гарадзец» (цэнтр — в. Гарадзец). У 1997 г. ў вёсках Вялікае і Малое Зарэчча 93 гаспадаркі, 465 жыхароў. У 2007 г. ў складзе с.-г. прыватнага УП «Акцыянерны ашчадны банк «Гарадзец». Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных, амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ, да больш працяглай з якіх далучаюцца завулкі. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя. На У гасп. сектар.

**ВЯЛІКАЕ УЛАНАВА** — вёска ў Старасельскім с/с, за 11 км на ПнЗ ад Шклова, 51 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Цераз вёску цячэ ручай (прыток р. Бярозаўка), на якім створаны вадаём. Транспартныя сувязі па шашы Круглае—Шклоў. 104 гаспадаркі, 231 жыхар (2007).

Вядома з 17 ст. як в. Уланаў 1 у Чырчынскім войтаўстве Шклоўскага графства Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ. У 1-й пал. 17 ст. фальварак, шляхецкая ўласнасць. У 1695 г. 3 двары. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Копыскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 26 двароў, 159 жыхароў, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. пазначана як в. Уланава 1 Вялікае ў Старасельскай вол. Аршанскага павета, 48 двароў, 323 жыхары. Працавала школа граматы, якая ў 1907 г. ператворана ў царк.-прыходскую. На пач. 20 ст. 45 двароў, 301 жыхар. У пач. 1920-х г. на базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. займаліся 74 вучні з вёсак Вялікае Уланава, Малое Уланава, Панізоўе, Карэўцы, Прасалы і пас. Макранка.

З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Пэўны шлях», які ў 1940 г. аб'ядноўваў 70 гаспадарак, меў 520 га зямлі. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 16 двароў, загубілі 54 жыхароў. На франтах загінулі 42, у партыз. барацьбе — 12 вяскоўцаў. З 1963 г. ў Старасельскім с/с. У 1991 г. 116 гаспадарак, 304 жыхары, цэнтр калгаса «Маяк», які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі і вырошчванні тэхн. культур. У 1990-я г. меў 4057 га с.-г. угоддзяў, у тым ліку 3207 га ворнай зямлі, 49 трактароў, 13 збожжаўборачных камбайнаў, 21 грузавую аўтамашыну і інш. Працавалі дзіцячы сад, 8-гадовая школа, б-ка, Дом культуры, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі. У 1997 г. 114 гаспадарак, 306 жыхароў. З 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс». Дзейнічалі вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад—сярэдняя агульнаадукац. школа, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1982 г. Магілёўскім філіялам ін-та «Белкалгаспраект». Планіровачна складаецца з 2 (адна плаўна выгнутая, другая прамалінейная) вуліц, амаль паралельных паміж сабой, размежаваных ручаём і вадасховішчам,



*Адкрыццё змены на базе адпачынку «Космас» каля в. Вялікае Уланава.*



арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы пераважна драўляныя. У цэнтры вёскі, каля дамбы, мураваныя двухпавярховыя грамадскія будынкі і шматкватэрныя жылыя дамы. Уздоўж вадасховішча пабудаваны аднапавярховыя мураваныя дамы тыпу катэджаў. На У гасп. сектар.

**ВЯЛІКАЕ ЧОРНАЕ** — вёска ў Рыжкавіцкім с/с, за 16 км на ПдЗ ад Шклова, 56 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На Пд невял. возера, з якога выцякае р. Серабранка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Чарнаручча, якая праходзіць праз вёску. 77 гаспадарак, 152 жыхары (2007).

Вядома з сярэдзіны 17 ст. як вёска ў Чарнаруцкім войтаўстве Шклоўскага графства Віцебскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1695 г. 47 двароў, у 1771 г. 41 двор, 242 жыхары. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. згадваецца як с. Чорна ў Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У 2-й пал. 18 ст. 42 двары, 340 жыхароў, у складзе маёнтка Шклоў Магілёўскага павета, уласнасць памешчыка. У 1880-я г. 39 двароў, 271 жыхар, частка якіх займалася пяньковым промыслам, вырабам розных быт. рэчаў з лыка і кары; працавала школа (1889). Паводле перапісу 1897 г. ў Чарнаруцкай вол. Магілёўскага павета, 55 двароў, 377 жыхароў, хлебазапасны магазін, царк.-прыходская школа, заезны дом, драўляная царква (адкрыта не пазней 1880). На пач. 20 ст. 49 двароў, 348 жыхароў. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені (у 1925 г. 92 вучні). У 1924 г. дзейнічалі пчалярскае т-ва, хата-чытальня.

З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1920-я г. пабудавана памяшканне для школы, дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых, арганізаваны калгас «Шлях пралетарыяту» (1929). У 1930 г. створаны калгас «Барацьба». У 1937 г. 394 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. Пач. школа ператворана ў 7-гадовую, а потым — у сярэднюю. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што на могілках, пахаваны 33 сав. воіны, загінуўшыя ў баях за вызваленне вёскі. У 1956 г. да вёскі далучаны пас. Доўгі Абарок. У 1991 г. 98 гаспадарак, 248 жыхароў, цэнтр калгаса імя К.Маркса, які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі і вырошчванні тэхн. культур. У 1990-я г. меў 2792 га с.-г. угоддзяў, у тым ліку 2230 га ворнай зямлі, 42 трактары, 10 збожжаўборачных камбайнаў, 17 грузавых аўтамашын і інш. У вёсцы працавалі дзіцячы сад, сярэдняя школа, Дом культуры са стацыянарнай кінаўстаноўкай, б-ка, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі. У 1997 г. 98 гаспадарак, 199 жыхароў. З 2007 г. ў складзе ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс». Працавалі сярэдняя школа, б-ка, Дом культуры, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1985 г. Магілёўскім філіялам ін-та «Белкалгаспраект». Планіровачна складаецца з крывалінейнай, плаўна выгнутай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі з завулкамі. Уздоўж шашы і на Пд ад асноўнай склаліся новыя вуліцы, забудаваныя мураванымі грамадскімі будынкамі, адна- і двухпавярховымі шматкватэрнымі дамамі. Астатняя забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. На Пн гасп. сектар.

Каля вёскі знаходзіцца радовішча пясчана-жвіровага матэрыялу (разведаныя запасы 8,2 млн. м$^3$).

**ВЯЛІКАЯ КАМАРОЎКА** — вёска ў Каменналаўскім с/с, за 9 км на Пд ад Шклова, 32 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф

раўнінна-ўзгорысты. На ПнЗ цячэ р. Ульянка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Шклоў. 70 гаспадарак, 181 жыхар (2007).

Вядома з 17 ст. У 1623 г. вёска, у якой ніхто не жыў. У 1771 г. 16 двароў, 101 жыхар. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў складзе маёнтка Шклоў Магілёўскага павета, 22 двары, 162 жыхары, драўляная царква, уласнасць памешчыка. У 1887 г. адкрыта царк.-прыходская школа. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені (у 1924 г. 69 вучняў). З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У жн. 1929 г. арганізавана камуна «Чырвоны Кастрычнік», потым калгас, які ў 1934 г. аб'ядноўваў 24 гаспадаркі, абслугоўвала яго Шклоўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што за 0,5 км на У ад вёскі, пахаваны воіны 42-й стралк. дывізіі 49-й арміі 2-га Бел. фронту, якія загінулі ў баях за вызваленне вёскі. У 1950-я г. да вёскі далучана в. Прыгоннікі. У 1991 г. 97 гаспадарак, 207 жыхароў, цэнтр калгаса «Чырвоны Кастрычнік», які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі і вырошчванні тэхн. культур. У 1990-я г. меў 2610 га с.-г. угоддзяў, у тым ліку 2153 га ворыўнай зямлі, 33 трактары, 10 збожжаўборачных камбайнаў, 13 грузавых аўтамашын і інш. У вёсцы дзейнічалі дзіцячы сад, 8-гадовая школа, б-ка, клуб, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 1997 г. 73 гаспадаркі, 205 жыхароў. У 2007 г. вёска — цэнтр філіяла СВК «Газавік-Сіпакова» вытв. РУП «Магілёўаблгаз». Працаваў фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы пераважна драўляныя. На У гасп. сектар.

У в. Вялікая Камароўка нарадзіўся Герой Сац. Працы М.В.Вараб'ёў. (нар. ў 1922).

**ВЯЛІКАЯ ЛОТВА** — вёска ў Старасельскім с/с, за 7 км на ПнЗ ад Шклова, 47 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Тросенка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Круглае—Шклоў. 27 гаспадарак, 36 жыхароў (2007).

Паводле перапісу 1897 г. згадваецца як в. Лотва ў Старасельскай вол. Аршанскага павета, 37 двароў, 261 жыхар, школа граматы. На пач. 20 ст. 37 двароў, 273 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), адкрыта хата-чытальня. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. 52 гаспадаркі, 60 жыхароў, у складзе калгаса «Маяк» (цэнтр — в. Вялікае Уланава). Працавалі пач. школа, магазін. У 1997 г. 41 гаспадарка, 61 жыхар. З 2007 г. ў складзе ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя.

**ВЯЛІКАЯ МУХАМОРАЎШЧЫНА** — вёска ў Каменналаўскім с/с, за 11 км на Пд ад Шклова, 29 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Шклоў. 5 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

Вёска засн. ў 1920-я г. як пасёлак перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. пасёлак, 8 гаспадарак, 14 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоны Кастрычнік» (цэнтр — в. Вялікая Камароўка). У 1997 г. 7 гаспадарак, 16



жыхароў. У 2007 г. ў складзе філіяла СВК «Газавік-Сіпакова» вытв. РУП «Магілёўаблгаз». Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі пастаўлены ўздоўж кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ.

**ВЯЛІКІ МІХАЙЛОЎ** — вёска ў Каменналаўскім с/с, за 18 км на Пд ад Шклова, 34 км ад Магілёва, 2 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Шклоў. 21 гаспадарка, 31 жыхар (2007).

Паводле перапісу 1897 г. пас. Новае Міхалава (ён жа Багданаўка) у Таўпечыцкай вол. Магілёўскага павета, 3 двары, 23 жыхары. Побач існаваў фальварак, 1 двор, 10 жыхароў. На пач. 20 ст. ў в. Новы Міхайлаў 16 двароў, 81 жыхар, у 2 маёнтках Міхайлова — 2 двары, 12 жыхароў. У 1918 г. адкрыта школа, у якой у 1925 г. займалася 65 вучняў. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг». З 20.2. 1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У 1939 г. 42 двары, 245 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З сак. 1960 г. вёска ў Каменналаўскім с/с. У 1967 г. да яе далучаны вёскі Нісаўка, Горка. У 1991 г. 41 гаспадарка, 81 жыхар, у складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Дабрэйка). У 1997 г. 30 гаспадарак, 63 жыхары. У 2007 г. ў складзе СВК «Вадвянскае». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя.

**ВЯЛІКІ МЯЖНІК** — вёска, цэнтр Александрыйскага с/с, за 15 км на Пн ад Шклова, 55 км ад Магілёва, 1 км ад чыг. ст. Копысь на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны, на ПдУ складана-перасечаны. На Пд цячэ р. Мяжнікаўка (прыток р. Дняпро), на якой утворана невял. вадасховішча. Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Орша. 92 гаспадаркі, 242 жыхары (2007).

Вядомы з сярэдзіны 17 ст. як вёска ў Вышкаўскім войтаўстве Шклоўскага графства, шляхецкая ўласнасць. У 1695 г. 8 двароў, у 1771 г. 15 двароў, 88 жыхароў.



*Новы пасёлак у в. Вялікі Мяжнік. 2008 г.*

Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1783 г. ў Копыскім павеце Магілёўскай губ., 14 двароў, 105 жыхароў, уласнасць С.Г.Зорыча. Паводле перапісу 1897 г. ў Старасельскай вол. Аршанскага павета, 23 двары, 140 жыхароў. На пач. 20 ст. 25 двароў, 196 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Старасельскай вол. Аршанскага павета Гомельскай, з 18.11.1920 г. Віцебскай губерняў РСФСР. З 3.3.1924 г. ў складзе БССР, з 20.8.1924 г. ў Александрыйскім с/с Копыскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. ў Шклоўскім р-не. У 1930-я г. арганізаваны калгас імя Молатава, вёска атрымала электрычнае асвятленне. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 14 двароў, разрабавалі вёску. Вызвалена ў канцы чэрв. 1944 г. воінамі 1156-га стралк. палка 344-й стралк. дывізіі 33-й арміі 2-га Бел. фронту. У 1951 г. ўступіў у строй радыёвузел. З 1.4.1975 г. цэнтр сельсавета. У 1975 г. ў цэнтры вёскі ў памяць аб 20 земляках, якія загінулі на франтах, пастаўлена стэла. У 1991 г. 168 жыхароў, цэнтр калгаса імя Дзяржынскага, які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі і льнаводстве. У 1990-я г. меў 2136 га с.-г. угоддзяў, у тым ліку 1727 га ворнай зямлі, 31 трактар, 11 грузавых аўтамашын, 7 камбайнаў і інш. У вёсцы дзейнічалі дзіцячы сад, пач. школа, філіял Шклоўскай раённай б-кі, Дом культуры, спарт. комплекс, сталовая, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, грамадская лазня, аддз. сувязі і ашчаднага банка, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 1997 г. 91 гаспадарка, 278 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Александрыйскае». Працавалі дзіцячы дом-інтэрнат, сельская б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Ген. план забудовы з 1-й чаргой будаўніцтва распрацаваны Магілёўскім філіялам ін-та «Белкалгаспраект» у 1983 г. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі. На Пн на новай вуліцы ўзведзены мураваныя двухпавярховыя аднакватэрныя дамы з кватэрамі ў 2 узроўнях, а таксама двух-, чатырох- і шасцікватэрныя аднапавярховыя дамы. Тут жа пабудаваны чатырохпавярховы дом для маласямейных. Сучасная жылая забудова ўтварае рэгулярныя кварталы з унутрыквартальнымі гасп. дварамі.

У Александрыйскі с/с уваходзяць 7 вёсак і 1 пасёлак.

**ВЯЛІКІ СТАРЫ ШКЛОЎ** — вёска ў Рыжкавіцкім с/с, за 4 км на З ад Шклова, 44 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Праз вёску цячэ р. Серабранка (прыток р. Дняпро), на якой утвораны вадаём. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Круглае. 62 гаспадаркі, 108 жыхароў (2007).

Упершыню ўпамінаецца ў 1535 г., калі Шклоў быў спалены рус. ваяводам В.Шуйскім. У 1563 і 1580 гг. зноў разбураны рус. войскамі. У 1563 г. Я.Хадкевіч пабудаваў палац і кальвінскі збор, а ў 1619 г. А.Хадкевіч заснаваў дамініканскі кляштар з вял. б-кай. У 1643 г. ў Шклове 950 двароў, 4750 жыхароў, 11 рамесных цэхаў. У 1654 г. кн. Трубяцкой атрымаў каля вёскі перамогу над гетманам Радзівілам, 23.9.1654 г. рускія авалодалі Шкловам. У 1661 г. засн. шклоўскае праваслаўнае брацтва. У 1668 г. Шклоў спустошаны вял. пажарам, пасля якога большая частка жыхароў перасялілася на левы бераг р. Шклавянка, туды, дзе зараз размешчаны г. Шклоў. У 1695 г. ў Старым Шклове 29 двароў. У 1771 г. цэнтр войтаўства, 25 двароў, 159 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. З 1777 г. валоданне ген. С.Г.Зорыча. У 1785 г. 29 двароў, 193 жыхары, драўляныя гаспадарскі дом і царква. У 1874 г. адкрыта земская школа. Паводле перапісу 1897 г. ў Шклоўскай вол. Магілёўскага павета, 50 двароў, 341 жыхар. Дзейнічалі млын, хлебазапасны ма-



газін, царк.-прыходская школа, 2 царквы, раз у год праводзіўся кірмаш. На пач. 20 ст. ў сяле 51 двор, 353 жыхары, у мястэчку 49 двароў, 209 жыхароў, у сядзібе — 1 двор, 3 жыхары, млын. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені (у 1925 г. 99 вучняў). З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. 97 гаспадарак, 216 жыхароў, у складзе калгаса «Праўда» (цэнтр — в. Зароўцы). Дзейнічалі пач. школа, клуб, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 1997 г. 79 гаспадарак, 154 жыхары. З 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс». Планіровачна складаецца з 3 крывалінейных вуліц (дзве на З ад вадаёма, адна на Пн), арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, шчыльная, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пн гасп. сектар.

**ВЯЛІКІЯ АЎЧЫНЕНКІ** — вёска ў Рыжкавіцкім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Шклова, 50 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Праз вёску цячэ р. Серабранка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Чарнаручча. 45 гаспадарак, 94 жыхары (2007).

Вядомы з 18 ст. У 1777 г. згадваецца як в. Аўчыненкі ў Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў Шклоўскай вол. Магілёўскага павета, 68 двароў, 478 жыхароў, школа граматы, 2 хлебазапасныя магазіны, заезны дом. На пач. 20 ст. 77 двароў, 555 жыхароў. Побач існавала сядзіба, 1 двор, 3 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У сярэдзіне 1920-х г. в. Аўчыненкі падзелена на 2: Вялікія Аўчыненкі і Малыя Аўчыненкі. У 1928 г. 66 гаспадарак аб'ядналіся ў калгас імя К.Маркса, які меў 659 га зямлі. У 1931 г. вёска атрымала электрычнае асвятленне. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. 69 гаспадарак, 160 жыхароў, у складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Вялікае Чорнае). У 1997 г. 69 гаспадарак, 141 жыхар. З 2007 г. ў складзе ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс», клуб, магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных на Пн плаўна выгнутай вуліцай. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. На Пн гасп. сектар.

У в. Вялікія Аўчыненкі нарадзіўся У.М.Ільюшэнка (1966—84), які загінуў у Афганістане пры выкананні воінскага доўга.



*У.М.Ільюшэнка.*

**ВЯЛІКІЯ ЛАЗІЦЫ** — вёска ў Таўкачоўскім с/с, за 22 км на ПдЗ ад Шклова, 36 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У меліярацыйны канал, злучаны з р. Вабіч (прыток Друці). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Круглае. 48 гаспадарак, 104 жыхары (2007).



*Н.В.Галіноўская.*

Вядомы з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Галоўчына Магілёўскага павета, уласнасць памешчыка. У 1858 г. налічвала 106 рэвізскіх душ. У 1880-я г. 44 двары, 264 жыхары, частка з іх займалася сталярным промыслам. Па-



*Пакроўская царква ў в. Вялікія Лазіцы.*

водле перапісу 1897 г. сяло ў Таўпечыцкай вол. Магілёўскага павета, 62 двары, 365 жыхароў. Працавалі царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, царква, раз у год адбываўся кірмаш. На пач. 20 ст. вёска, 62 двары, 367 жыхароў, млын. У пач. 1920-х г. на базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені (у 1925 г. 61 вучань). У 1924 г. адкрыта хата-чытальня, дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ленінскі шлях». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1967 г. да яе далучана в. Аляксееўка. У 1991 г. 64 гаспадаркі, 178 жыхароў, цэнтр калгаса «Шлях да камунізму», які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі з развітым раслінаводствам. У 1990-я г. меў 2643 га с.-г. угоддзяў, у тым ліку 2079 га ворыўнай зямлі, 29 трактароў, 10 збожжаўборачных камбайнаў, 11 грузавых аўтамашын і інш.

У вёсцы дзейнічалі дзіцячы сад, сярэдняя школа, б-ка, клуб, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 1997 г. 69 гаспадарак, 151 жыхар. У 2007 г. ў складзе ААТ «Гавяды-Агра». Працавалі сельскі клуб-бібліятэка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы пераважна драўляныя. На Пд некалькі двухкватэрных мураваных дамоў. На Пн гасп. сектар.

У вёсцы нарадзілася бел. паэтэса Н.В.Галіноўская (нар. ў 1935). Друкуецца пад псеўданімам А.Снегіна.

**ВЯЛІКІЯ СЛАВЕНІ** — вёска ў Славенскім с/с, за 13 км на ПнУ ад Шклова, 50 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Праз вёску цячэ р. Чарніца (прыток р. Днязпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 53 гаспадаркі, 103 жыхары (2007).

За 1 км на З ад вёскі, на левым беразе р. Чарніца, знаходзіцца курганны мо-



*Нарыхтоўка кармоў у ЗАТ «Вялікія Славені».*



гільнік эпохі Кіеўскай Русі, што сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Вёска вядома з 18 ст. У 1785 г. ў Копыскім павеце Магілёўскай губ., 25 двароў, 155 жыхароў, уласнасць памешчыка, які ў 1866 г. меў 1168,5 дзес. зямлі; царква. Паводле перапісу 1897 г. згадваецца як с. Славені ў Любініцкай вол. Горацкага павета, 63 двары, 363 жыхары, хлебазапасны магазін. Побач існаваў фальварак, 3 двары, 11 жыхароў, карчма. На пач. 20 ст. 71 двор, 470 жыхароў, вінная крама, царк.-прыходская школа. З 20.8. 1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. 100 гаспадарак, 210 жыхароў, цэнтр калгаса імя Кірава, які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі. У 1990-я г. меў 4850 га с.-г. угоддзяў, у тым ліку 3403 га ворыўнай зямлі, 69 трактароў, 15 збожжаўборачных камбайнаў, 31 грузавую аўтамашыну і інш. У вёсцы дзейнічалі Дом культуры, б-ка, магазін, медпункт, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 1997г. 86 гаспадарак, 175 жыхароў. У 2007 г. цэнтр ЗАТ «Вялікія Славені». Працавала аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц (кароткая шыротнай арыентацыі, працяглая — арыентавана з ПдУ на ПнЗ), якія злучаюцца на З, размешчаны яшчэ 2 кароткія вуліцы. Забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. На Пн гасп. сектар.

У складзе Славенскага с/с 20 вёсак.

**ВЯЛІКІЯ СЛІЖЫ** — вёска ў Гарадзішчанскім с/с, за 22 км на У ад Шклова, 57 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На З мяжуе з лесам. На У цячэ р. Аўчоса (прыток р. Бася). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Акунёўка і далей па шашы Княжыцы—Горкі. На Пн праходзіць нафтаправод «Дружба». 38 гаспадарак, 74 жыхары (2007).

Сучасная вёска вядома з 1604 г. як сяло ў Копыскай вол. Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. ў Копыскай акрузе Магілёўскай губ., з 1840 г. дзейнічала драўляная царква. У 1858 г. сяло ў Горацкім павеце, уласнасць памешчыка, які меў тут у 1866 г. 362 дзес. зямлі і карчму. Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Горацкага павета, 16 двароў, 97 жыхароў, хлебазапасны магазін, царква. Побач існавалі аднайменныя хутар (5 двароў, 25 жыхароў) і фальварак (2 двары, 14 жыхароў). На пач. 20 ст. ў вёсцы 14 двароў, 141 жыхар, у фальварку — 1 двор, 5 жыхароў; працавала царк.-прыходская школа. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені (у 1925 г. 89 вучняў). У 1928 г. для школы пабудавана новае памяшканне, дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. 66 гаспадарак, 135 жыхароў, у складзе саўгаса «Юбілейны» (цэнтр — в. Акунёўка). Дзейнічалі б-ка, клуб, магазін, аддз. сувязі. У 1997 г. 61 гаспадарка, 114 жыхароў. У 2007 г. ў складзе ААТ «Новае Юбілейнае». Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных завулкамі. Забудова двухбаковая, шчыльная, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. На ПдУ гасп. сектар.

**ГАВАРАКІ** — вёска ў Старасельскім с/с, за 15 км на З ад Шклова, 53 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Круглае. 15 гаспадарак, 21 жыхар (2007).

Вядомы з 1-й пал. 17 ст. як вёска ў Чырчынскім войтаўстве Шклоўскага графства, шляхецкая ўласнасць. У 1643 г.

*Адзін з куткоў аграгарадка Гавяды.*

*У дзіцячым садзе аграгарадка Гавяды.*

25 двароў, у 1771 г. 23 двары, 142 жыхары. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Копыскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 26 двароў, 205 жыхароў, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў





Старасельскай вол. Аршанскага павета, 27 двароў, 195 жыхароў. На пач. 20 ст. 26 двароў, 184 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 29 двароў, 148 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1944 г. спалілі вёску, загубілі 16 жыхароў. У 1991 г. 22 гаспадаркі, 51 жыхар, у складзе калгаса «Маяк» (цэнтр — в. Вялікае Уланава). У 1997 г. 18 гаспадарак, 30 жыхароў. З 2007 г. ў складзе ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс». Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу.

**ГАВЯДЫ** — вёска, цэнтр Таўкачоўскага с/с, за 17 км на ПдЗ ад Шклова, 56 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Чарнаручча. 261 гаспадарка, 689 жыхароў (2007).

Вядомы з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Галоўчына Магілёўскага павета Магілёўскага намесніцтва, 33 двары, 174 жыхары, уласнасць памешчыка, які меў у 1840 г. ў вёсках Гавяды і Смятанічы 1186 дзес. зямлі, 3 карчмы. У 1880-я г. 50 двароў, 334 жыхары, значная частка якіх займалася вырабам ільняной і пяньковай пражы і тканіны, посуду і іншых быт. рэчаў з дрэва, бандарным промыслам. Паводле перапісу 1897 г. ў Таўпечыцкай вол. Магілёўскага павета, 77 двароў, 461 жыхар, школа граматы, хлебазапасны магазін, заезны дом. Побач існаваў фальварак, 1 двор, 5 жыхароў. У 1908 г. школа граматы ператворана ў земскую. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. займаліся 48 вучняў з в. Гавяды, пасёлкаў Чырвоны, Далецкі і бліжэйшых хутароў. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У



1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны барацьбіт». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1965 г. да яе далучана в. Карабль. У 1991 г. 71 гаспадарка, 134 жыхары, у складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Таўкачы). Дзейнічалі клуб, магазін, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 1997 г. 64 гаспадаркі, 158 жыхароў. З 2007 г. вёска — цэнтр ААТ «Гавяды-Агра». Працавалі сярэдняя агульнаадукац. школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка аграгарадка Гавяды, урачэбная амбулаторыя, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, да якой на Пн далучаецца дугападобная вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя. На У гасп. сектар.

У Таўкачоўскі с/с уваходзяць 11 вёсак і 1 пасёлак.

**ГАНЦАВІЧЫ** — вёска ў Рыжкавіцкім с/с, за 14 км на ПдЗ ад Шклова, 54 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Праз вёску цячэ р. Ульянка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Чарнаручча. 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

У 1857 г. вёска ў Магілёўскім павеце, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Шклоўскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 12 двароў, 60 жыхароў. На пач. 20 ст. 14 двароў, 79 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). 22.7. 1930 г. па рашэнні райвыканкома ва ўрочышчы Ганцавічы створаны свінагадоўчая і агародная гаспадаркі, якія ўваходзілі ў калгас імя Леніна. У 1937 г. ў вёсцы 129 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Многія вяскоўцы актыўна ўдзельнічалі ў барацьбе супраць акупантаў, у іх ліку сям'я Хаўранковых — сёстры Надзя, Зіна, Марыя, Ганна, Ефрасіння і Матрона (партыз. разведчыцы Надзя і Марыя загінулі ў гітлераўскіх засценках). У 1991 г. 15 гаспадарак, 31 жыхар, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Рыжкавічы). У 1997 г. 14 гаспадарак, 20 жыхароў. З 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс». Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя.

**ГАРАДЗЕЦ** — вёска, цэнтр Гарадзецкага с/с, за 8 км на У ад Шклова, 45 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгоры-



*Г.П.Хаўранкова.*



*Н.П.Хаўранкова.*



*З.П.Хаўранкова.*



*Аграгарадок Гарадзец.*



*Матрона Пiлiпаўна Хайранкова.*



*Е.П.Хайранкова.*



*Марыя Пiлiпаўна Хайранкова.*

сты. На Пд цячэ р. Гародня (прыток р. Капуснік). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 209 гаспадарак, 504 жыхары (2007).

За 0,2 км на Пд ад зах. ускраіны вёскі, на правым беразе р. Гародня, знаходзіцца гарадзішча ранняга жал. веку (мясц. назва Талерка). Непадалёку быў курганны могільнік, разараны ў пасляваенны час. Гэтыя помнікі археалогіі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай старажытнасці. Вёска вядома з 17 ст. У 1635 г. сяло (32 двары) у Плешчыцкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета, дзярж. ўласнасць. Паводле інвентару 1635 г. ў сяле 20 валок зямлі, сяляне плацілі чынш і мядовую дань. У 1650 г. ў Чурылаўскай вол. Копыскага графства Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1670 г. ў Гарадзецкім войтаўстве, 28 двароў, у 1737 г. 47 двароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, уладанне графа П.Завадоўскага. У 1785 г. ў Копыскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 63 двары, 451 жыхар, млын, царква. У сярэдзіне 19 ст. пабудавана новая драўляная царква, працаваў цукровы з-д. У 1880-я г. 71 двор, 360 жыхароў, частка якіх займалася стальмашным і бандарным промысламі. Паводле перапісу 1897 г. ў Любініцкай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 96 двароў, 558 жыхароў, школа (з 1890). Побач існавалі 2 фальваркі: у адным — 4 двары, 27 жыхароў, у другім — 3 двары, 15 жыхароў. На пач. 20 ст. ў вёсцы 98 двароў, 651 жыхар, на 3 хутарах па 1 двары ў кожным. У час герм. акупацыі ў 1918 г. зах. часткі Шклоўшчыны вёска знаходзілася ў прыфрантавой паласе, уваходзіла ў Любініцкую вол. Горацкага павета Заходняй вобл. РСФСР. У рэзалюцыі, прынятай на сходзе ў чэрв. 1918 г., жыхары выказалі жаданне застацца ў саставе РСФСР. З 20.8.1924 г. да 11.3.1960 г. цэнтр сельсавета Шклоўскага р-на. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой навучаліся дзеці з вёсак Гарадзец, Заходы, Путнікі, Любінічы, пас. Лешча. У 1925 г. ў школе было 68 вучняў. Вясной 1928 г. ар-

*Грамадскі цэнтр аграгарадка Гарадзец.*





ганізавана камуна «Спартак» на чале з рабочымі чыг. ст. Шклоў. Пры хаце-чытальні працаваў краязнаўчы гурток. У снеж. 1929 г. створаны калгас «Прамень камунізму» (спачатку аб'ядноўваў 10 гаспадарак) пры актыўным удзеле 25-тысячніка, начальніка Віцебскага тэкстыльнага камбіната Собалева і мясц. жыхара, камуніста, удзельніка грамадз. вайны А.Н. Ціханава. Абслугоўвала калгас Фашчаўская, а з 1937 г. Любініцкая МТС. У канцы 1930-х г. у выніку ссялення хутароў узніклі 3 новыя вуліцы, вёска налічвала 120 двароў, 620 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Каля вёскі ў 1941 г. трымалі абарону воіны 110-й стралк. дывізіі 61-га корпуса пад камандаваннем ген.-маёра Ф.А.Бакуніна. Пад націскам пераўзыходзячых сіл праціўніка 12 ліп. яны вымушаны былі адступіць. Акупанты спалілі 29 двароў, расстралялі 11 жыхароў, знішчылі калгасныя будынкі, школу. На франтах загінулі 33 вяскоўцы. Вёска вызвалена 27.6.1944 г. перадавым атрадам 252-га стралк. палка 70-й дывізіі пад камандаваннем В.В.Пілiпаса. Пасля вайны адбудавана. З 11.3.1960 г. ў Фашчаўскім с/с, з 22.10.1963 г. зноў цэнтр сельсавета. У 1991 г. 175 гаспадарак, 459 жыхароў, цэнтр саўгаса «Гарадзец» (створаны ў 1961 г.), які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі і вырошчванні тэхн. культур. У 1990-я г. меў 4949 га с.-г. угоддзяў, у тым ліку 3897 га ворыва, 65 трактароў, 23 збожжаўборачныя камбайны, 23 грузавыя аўтамашыны і інш. Дзейнічалі дзіцячыя яслі-сад, 8-гадовая школа, б-ка (больш за 12,6 тыс. кніг), Дом культуры, стацыянарная кінаўстаноўка, сталовая, магазін, грамадская лазня, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 1997 г. ў вёсцы 183 гаспадаркі, 470 жыхароў. Працавалі вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад—сярэдняя агульнаадукац. школа, б-ка аграгарадка Гарадзец, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. У 2007 г. ў складзе с.-г. прыватнага УП «Акцыянерны ашчадны банк «Гарадзец». Праект планіроўкі і забудовы вёскі распрацаваны ў 1976 г. ін-там

*Аддзяленне маладняку і даільны зал сельскагаспадарчага прыватнага унітарнага прадпрыемства «Акцыянерны ашчадны банк «Гарадзец».*







*В.В.Пілінас.*

«Магілёўграмадзянпраект». Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на У далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя. На Пн яшчэ 2 прамалінейныя новыя вуліцы, забудаваныя аднапавярховымі тыпавымі мураванымі дамамі. На У гасп. сектар.

У складзе Гарадзецкага с/с 13 вёсак.

**ГАРАДЗІШЧА** — вёска, цэнтр Гарадзішчанскага с/с, за 26 км на У ад Шклова, 53 км ад Магілёва, 28 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пд цячэ р. Чаёнка (прыток р. Бася). Транспартныя сувязі па шашы Княжыцы—Горкі, якая праходзіць праз вёску. 319 гаспадарак, 685 жыхароў (2007).

Вядома з 1604 г. як сяло ў Шклоўскай вол. Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У сярэдзіне 17 ст. ў Шарсцілаўскім войтаўстве Шклоўскага графства, у канцы 17 ст. фальварак, шляхецкая ўласнасць. У 1695 г. 11 двароў, у 1771 г. 22 двары, 111 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Копыскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 26 двароў, 173 жыхары, уладанне памешчыка. Дзейнічалі драўляная царква, млын, сукнавальня. Паводле перапісу 1897 г. цэнтр воласці Горацкага павета Магілёўскай губ., 50 двароў, 321 жыхар. Працавала школа (нар. вучылішча, адкрыта не пазней 1884), у якой у 1907 г. навучаліся 95 хлопчыкаў і 25 дзяўчынак, а таксама млын, гарбарня, прыёмны пакой, багадзельня, хлебазапасны магазін, царква. Побач існавала карчма, 2 двары, 13 жыхароў.

На пач. 20 ст. ў вёсцы 47 двароў, 349 жыхароў, вінная крама. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Шклоўскага р-на. У 1924 г. створаны парт. ячэйка, 2 калект. гаспадаркі — «Веснік» і «Адраджэнне», адкрыты ўрачэбны ўчастак, фельч. пункт хуткай дапамогі, хата-чытальня. У чэрв. 1928 г. арганізаваны калгас «Чырвоны араты», які першапачаткова аб'ядноўваў 14 гаспадарак. Дзейнічалі метэаралагічная станцыя, прам. арцель «Чырвоны абутнік», ільнозавод, які ў гады 2-й пяцігодкі быў рэканструяваны і значна пашыраны. З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1957—58 гг. выдавалася саўгасная шматтыражка. У 1977 г. далучаны вёскі Літвінавічы, Русакі, Старое Вільянава. У 1991 г. 391 гаспадарка, 991 жыхар, цэнтр племяннои гаспадаркі «Гарадзішча» (створана ў крас. 1957 г.), якая спецыялізавалася на мясамалочнай жывёлагадоўлі, вывядзенні высокапароднай жывёлы, вырошчванні збожжавых і бульбы. У 1990-я г. мела 4589 га с.-г. угоддзяў, у тым ліку 2989 га ворыўнай зямлі, 44 трактары, 20 збожжаўборачных камбайнаў, 36 грузавых аўтамашын і інш. Дзейнічалі дзіцячы сад, сярэдняя школа, б-ка, Дом культуры, сталовая, 4 магазіны, грамадская лазня, участковая бальніца, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, а таксама млын. У 1997 г. ў вёсцы 310 гаспадарак, 1018 жыхароў. У 2007 г. ў складзе ААТ «Новагарадзішчанскае», працавалі дзіцячы сад, сярэдняя агульнаадукац. школа, б-ка аграгарадка Гарадзішча, сельскія Дом культуры і бальніца, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Праект планіроўкі і забудовы вёскі распрацаваны ў 1982 г. ін-там «БелНДІгорадабудаўніцтва». Планіровачна складаецца з дугападобнай, працяглай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ уздоўж рэк Чаёнка і Бася, якую перасякае шаша. Забудова аднабаковая, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя. Вуліца ўздоўж шашы забудавана мураванымі двухпавярховымі 8—12-кватэрнымі дамамі і індывідуальнымі тыпу катэджаў. На З і Пд гасп. сектары.

У складзе Гарадзішчанскага с/с 14 вёсак.

**ГАРАДЗЯНКА** — вёска ў Рыжкавіцкім с/с, за 9 км на Пд ад Шклова, 34 км ад



Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пд мяжуе з лесам. На ПдЗ цячэ р. Ульянка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Чарнаручча. 18 гаспадарак, 31 жыхар (2007).

Вядома з сярэдзіны 17 ст. як вёска ў Высоцкім войтаўстве Шклоўскага графства. У 1695 г. 2 двары, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. згадваецца як в. Гарадзянка-Церабушка ў складзе маёнтка Шклоў Магілёўскага павета, 21 двор, 130 жыхароў, уласнасць памешчыка, які меў у 1869 г. ў Шклове і вёсках Забраннае, Сямёнаўка, Францаўка, Гарадзянка, Пікавічы, Прыют 6590 дзес. зямлі, вадзяны млын, 2 крупадзёркі, гарэлачны склеп, паром. Паводле перапісу 1897 г. ў Шклоўскай вол. Магілёўскага павета, 16 двароў, 122 жыхары, хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. 19 двароў, 130 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1927 г. адкрыта школа, для якой было выдзелена нацыяналізаванае памяшканне. У снеж. 1929 г. значная частка жыхароў уступіла ў калгас імя Валадарскага, цэнтр якога знаходзіўся ў суседняй в. Шнараўка, а ў 1935 г. арганізаваны калгас імя Кірава, які першапачаткова аб'ядноўваў 30, а ў 1940 г. — 46 гаспадарак. З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. 46 гаспадарак, 99 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Рыжкавічы). У 1997 г. 36 гаспадарак, 66 жыхароў. Працаваў магазін. З 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс». Планіровачна складаецца з 2 (адна плаўна выгнутая, другая прамалінейная) вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і злучаных завулкамі. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя.

**ГАРАДОК** — вёска ў Гарадзецкім с/с, за 8 км на ПдУ ад Шклова, 42 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На Пн, З і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Крывель і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 8 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

За 0,2 км на З ад вёскі знаходзіцца гарадзішча ранняга жал. веку, што сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Сучасная вёска засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8. 1924 г. ў Княжыцкім, з ліст. 1965 г. ў Гарадзецкім сельсаветах. У 1931 г. арганізаваны калгас «Гарадок», які ў 1933 г. аб'ядноўваў 23 гаспадаркі (абслугоўвала Фашчаўская МТС). З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 44 двары, 334 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Каля вёскі ў ліп. 1941 г. трымалі абарону воіны 110-й стралк. дывізіі 61-га корпуса. У 1991 г. 29 гаспадарак, 49 жыхароў, у складзе саўгаса «Гарадзец» (цэнтр — в. Гарадзец). У 1997 г. 22 гаспадаркі, 27 жыхароў. Працавалі комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 2007 г. ў складзе с.-г. прыватнага УП «Акцыянерны ашчадны банк «Гарадзец». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя.

**ГАРАДОК** — вёска ў Старасельскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Шклова, 58 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ПдЗ мяжуе з лесам. На У цячэ р. Бярозаўка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Хацькова. 8 гаспадарак, 10 жыхароў (2008).

На паўд.-зах. ускраіне, ва ўчырошчы Сісенева, на правым беразе р. Бярозаўка, захавалася стараж. стаянка, за 0,2 км ад вёскі — стараж. могільнік (4 насыпы), што сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Вёска вядома з пач.

17 ст. У 1604 г. сёлы Гарадок і Варонкі аддадзены Старасельскаму касцёлу, у 1606 г. ў складзе Троіцкага фальварка Аршанскага павета, 20 валок зямлі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. ў Копыскай акрузе Магілёўскай губ. У 1794 г. сёлы Гарадок і Варонкі аб'ядналіся ў адну вёску з назвай Гарадок. Паводле перапісу 1897 г. ў Старасельскай вол. Аршанскага павета, 65 двароў, 414 жыхароў, школа граматы. На пач. 20 ст. 66 двароў, 448 жыхароў. Побач існаваў засценак, 1 двор, 5 жыхароў. У 1918 г. адкрыта школа (у 1925 г. 60 вучняў). З 20.8.1924 г. ў Старасельскім с/с Копыскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. ў Талачынскім, з 5.12.1931 г. ў Шклоўскім р-нах. У 1930 г. арганізаваны калгас «Пралетарскі», які ў 1940 г. аб'ядноўваў 45 гаспадарак, меў 263 га ворыўнай зямлі. З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 14 вяскоўцаў загінулі на франтах, 1 — у партыз. барацьбе. У 1991 г. 37 гаспадарак, 50 жыхароў, у складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Стараселле). У 1997 г. 20 гаспадарак, 29 жыхароў. У 2007 г. вёска далучана да ААТ «Александрыйскае». Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя.

**ГВАЛТОЎНІК** — вёска ў Старасельскім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Шклова, 62 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Хацькова—Шклоў. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2007).

Паводле перапісу 1897 г. засценак у Старасельскай вол. Аршанскага павета, 13 двароў, 93 жыхары. На пач. 20 ст. 34 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7. 1930). У 1930 г. арганізаваны калгас «1 Мая», які ў 1940 г. аб'ядноўваў 19 гаспадарак, меў 232 га ворыўнай зямлі. З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У магіле, што за 0,8 км на Пд ад вёскі, пахаваны 60 сав. ваеннапалонных і мірных жыхароў, закатаваных гітлераўцамі. У 1991 г. 17 гаспадарак, 24 жыхары, у складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Стараселле). У 1997 г. 9 гаспадарак, 16 жыхароў. У 2007 г. вёска далучана да ААТ «Александрыйскае». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, сядзібнага тыпу.

**ГЕРАСІМОЎШЧЫНА** — вёска ў Александрыйскім с/с, за 19 км на ПнЗ ад Шклова, 59 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Копысь на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пд, З і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Орша. 9 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). 4.4.1931 г. арганізаваны калгас «Колас». З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 23 двары, абрабавалі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1991 г. 30 гаспадарак, 43 жыхары, у складзе калгаса «Дняпроўскі» (цэнтр — в. Александрыя). У 1997 г. 22 гаспадаркі, 25 жыхароў. Працаваў магазін. У 2007 г. ў складзе ААТ «Александрыйскае». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя.

**ГОРКА** — былая вёска ў Старасельскім с/с, за 16 км на ПнЗ ад Шклова, 56 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На Пн, Пд і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Новае Брашчына і далей па шашы Шклоў—Круглае.



Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. 7 гаспадарак, 9 жыхароў, у складзе калгаса «Маяк» (цэнтр — в. Вялікае Уланава). У 1997 г. 2 гаспадаркі, 2 жыхары. Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі былі пастаўлены ўздоўж кароткай вуліцы шыротнай арыентацыі.

**ГРАМАКІ** — вёска ў Ардацкім с/с, за 42 км на ПдУ ад Шклова, 57 км ад Магілёва, 35 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Масток—Дрыбін. 19 гаспадарак, 26 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. сяльцо (5 двароў) у Магілёўскім павеце Магілёўскага намесніцтва, уладанне шляхціца. Жыхары валодалі 44 дзес. ворыва, 11 дзес. лесу. Праз вёску праходзіла дарога з Расны на Магілёў. Паводле перапісу 1897 г. ў Нічыпаравіцкай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 6 двароў, 43 жыхары. На пач. 20 ст. 9 двароў, 53 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1961 г. да яе далучана в. Гурковішча. У 1991 г. 39 гаспадарак, 69 жыхароў, у складзе саўгаса «Рабочы» (цэнтр — в. Ордаць). У 1997 г. 33 гаспадаркі, 52 жыхары. У 2007 г. ў складзе ААТ «Ардацкае». Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, якая на У раздвойваецца. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя.

**ДАБРЭЙКА** — вёска ў Каменналаўскім с/с, за 12 км на Пд ад Шклова, 28 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пн мяжуе з лесам. На У цячэ р. Дняпро. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Шклоў. 125 гаспадарак, 303 жыхары (2007).

Вёска вядома з пач. 17 ст. ў складзе Магілёўскага замка. Паводле інвентару 1614 г. ў ёй 10 валок зямлі. У 18 ст. існавалі 2 вёскі: Вялікая Дабрэйка і Малая Дабрэйка, у Высоцкім войтаўстве Шклоўскага графства. У 1715 г. ў Вялікай Дабрэйцы дзейнічалі млын, вінакурня, карчма. У 1-й пал. 18 ст. побач з ёю ўзнік фальварак. У 1771 г. ў Вялікай Дабрэйцы 26 двароў, 160 жыхароў, у Малой Дабрэйцы — 33 двары, 198 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. вёскі Вялікая Дабрэйка (33 двары, 132 жыхары, 2 млыны) і Малая Дабрэйка (32 двары, 225 жыхароў, 2 млыны) у складзе маёнтка Шклоў Магілёўскага павета. У канцы 18 ст. абедзве вёскі ў валоданні С.Г.Зорыча і С.Ф.Герасімава, разам налічвалі 75 гаспадарак, 467 жыхароў. У 1858 г. ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ. Частка жыхароў займалася нарыхтоўкай лясных матэрыялаў для драўляных вырабаў, а таксама вырабам ільняной і пяньковай пражы і тканіны, стальмашным і іншымі промысламі. У 1894 г. вяскоўцы разам з жыхарамі суседніх вёсак правялі высечку памешчыцкага лесу. Паводле перапісу 1897 г. дзейнічаў хлебазапасны магазін, побач існавалі заезны дом (1 двор, 7 жыхароў), лясная вартоўня (1 двор, 2 жыхары), млын і каля яго 2 двары, у якіх было 6 жыхароў. Працавала школа (нар. вучылішча), у якой у 1917 г. навучаліся 28 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі.

На пач. 20 ст. ў Малой Дабрэйцы 6 двароў, 36 жыхароў, у Вялікай Дабрэйцы 69 двароў, 451 жыхар, на хутары 1 двор, 3 жыхары, карчма. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені (у 1925 г. 51 вучань). Са жн. 1924 г. ў Каменналаўскім с/с Шклоўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У канцы 1920-х

г. вёскі Вялікая Дабрэйка і Малая Дабрэйка аб'ядналіся ў адну пад назвай Дабрэйкі. У жн. 1928 г. арганізаваны калгас «Прытулак» (пазней «Шлях сацыялізму»), у 1934 г. аб'ядноўваў 60 гаспадарак, абслугоўваўся Шклоўскай МТС. З 20.2. 1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл., 140 двароў, 697 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 26.6.1944 г. батальён 455-га стралк. палка 42-й стралк. дывізіі 69-га стралк. корпуса 49-й арміі 2-га Бел. фронту пад камандаваннем маёра У.К.Андрушчанкі першым фарсіраваў р. Дняпро за 0,8 км на У ад вёскі і на працягу 12 гадзін утрымліваў плацдарм, што спрыяла пераправе асн. сіл і поспеху наступальнай аперацыі. У.К.Андрушчанка і камандзір 42-й стралк. дывізіі ген.-маёр А.І.Сліц удастоены звання Героя Сав. Саюза. У 1965 г. на месцы пераправы пастаўлены абеліск. У 1991 г. вёска, 130 гаспадарак, 264 жыхары, цэнтр калгаса «Перамога», які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі і вырошчванні лёну. У 1990-я г. меў 3505 га с.-г. угоддзяў, у тым ліку 2592 га ворыўнай зямлі, 40 трактароў, 13 грузавых аўтамашын, 11 збожжаўборачных камбайнаў і інш. Працавалі дзіцячы сад, клуб, сталовая, магазін, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка. У 1997 г. 130 гаспадарак, 349 жыхароў. У 2007 г. ў складзе СВК «Вадвянскае». Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных папярочнымі вуліцамі. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя. Новыя вуліцы забудаваны тыпавымі адна- і двухкватэрнымі мураванымі дамамі. На ПнЗ гасп. сектар.



*У.К.Андрушчанка.*



*А.І.Сліц.*

**ДАНЬКАВІЧЫ** — вёска ў Рыжкавіцкім с/с, за 5 км на ПдУ ад Шклова, 35 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ р. Дняпро, на Пд — яе прыток р. Ульянка. Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Магілёў. 104 гаспадаркі, 295 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. У 1-й пал. 17 ст. тут быў фальварак, у 1771 г. вёска, 25 двароў, 126 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. згадваецца як в. Данковічы ў Магілёўскай акрузе. У 1785 г. 26 двароў, 178 жыхароў, у складзе маёнтка Шклоў Магілёўскага павета, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 30 двароў, 147 жыхароў, значная частка іх займалася вырабам ільняной і пяньковай пражы, тканіны, розных быт. рэчаў з лыка і кары. Паводле перапісу 1897 г. ў Шклоўскай вол. Магілёўскага павета, 36 двароў, 211 жыхароў. Дзейнічалі млын, хлебазапасны магазін.

На пач. 20 ст. 44 двары, 270 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1925 г. створана перасяленчае т-ва з 9 сямей для выезду на пастаяннае месца жыхарства ў Амурскую вобл. 4.11.1934 г. вяскоўцы (64 гаспадаркі) аб'ядналіся ў калгас «Усход», які меў 465 га зямлі. З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 65 двароў, 260 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. 91 гаспадарка, 242 жыхары, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Рыжкавічы). Дзейнічалі б-ка, клуб, стацыянарная кінаўстаноўка, фельч.-акушэрскі пункт. У 1997 г. 104 гаспадаркі, 217 жыхароў. Працаваў фельч.-акушэрскі пункт. З 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс». Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя. Паралельна да гэтай вуліцы на ПдЗ склалася новая вуліца, забудаваная мураванымі адна- і двухпавярховымі дамамі тыпу катэджаў. На З гасп. сектар.

**ДЗІЎНАВА** — вёска ў Ардацкім с/с, за 28 км на ПдУ ад Шклова, 64 км ад Магілёва, 30 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы



Санкт-Пецярбург—Адэса. 56 гаспадарак, 102 жыхары (2007).

Вядома з 1604 г. як с. Дзіўнае ў Шклоўскай вол. Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1771 г. 51 двор, 259 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. згадваецца як с. Дзіўнаў у Магілёўскай акрузе. У 1785 г. ў Магілёўскім павеце, 43 двары, 291 жыхар, уласнасць памешчыка. У 1858 г. ў Горацкім павеце, 32 двары, 164 жыхары. У 1880-я г. 45 двароў, 208 жыхароў, частка з іх займалася вырабам розных быт. рэчаў з лыка і кары, кравецкім промыслам. Паводле перапісу 1897 г. ў Нічыпаравіцкай вол. Горацкага павета, 63 двары, 392 жыхары, хлебазапасны магазін, піцейны дом. У школе (нар. вучылішча) у 1907 г. навучаліся 30 хлопчыкаў і 4 дзяўчынкі. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 68 вучняў. З 20.8.1924 г. вёска ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час абарончых баёў супраць гітлераўцаў сав. часці ў ліп. 1941 г. ў раёне Ордаць—Дзіўнава—Займішча пераходзілі ў контрнаступленне. У брацкай магіле ў вёсцы пахаваны 7 сав. воінаў, загінуўшыя пры абароне вёскі. На могілках пахаваны 2 сав. лётчыкі, якія загінулі 9.4.1944 г. ў паветр. баі. У 1991 г. 118 гаспадарак, 251 жыхар, у складзе саўгаса «Рабочы» (цэнтр — в. Ордаць). У 1997 г. 102 гаспадаркі, 167 жыхароў, дзейнічалі школа, клуб, стацыянарная кінаўстаноўка, магазін. У 2007 г. ў складзе ААТ «Ардацкае». Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ і перакрыжаванай 2 амаль прамалінейнымі вуліцамі. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя. На Пн гасп. сектар.

У в. Дзіўнава нарадзіўся А.Ф.Салапаеў (1964—83), які загінуў у Афганістане пры выкананні інтэрнац. доўга.

**ДЗЯЖКІ** — вёска ў Рыжкавіцкім с/с, за 3 км на З ад Шклова, 43 км ад Магілёва, 2 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Круглае. 7 гаспадарак, 14 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. 11 гаспадарак, 25 жыхароў, у складзе калгаса «Праўда» (цэнтр — в. Зароўцы). У 1997 г. 7 гаспадарак, 19 жыхароў. У 2007 г. вёска далучана да ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс». Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ. Забудова аднабаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя.



*А.Ф.Салапаеў.*

**ДУБРАЎКА** (да 17.7.1967 г. вёскі Дубраўка 1 і Дубраўка 2) — вёска ў Таўкачоўскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Шклова, 56 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пд мяжуе з лесам. На У меліярацыйны канал, злучаны з р. Вабіч (прыток Друці). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Чарнаручча. 25 гаспадарак, 34 жыхары (2007).

Вядома з пач. 17 ст. Паводле інвентару 1616 г. ў вёсцы 16 валок зямлі, жыхары плацілі чынш і мядовую дань. Згодна з інвентарам 1635 г. вёска ў валоданні Аршанскага касцёла. У 1695 г. 14 двароў, у 1771 г. 23 двары, 117 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. вёска ў Магілёўскай акрузе, у 1785 г. ў складзе маёнтка Шклоў Магілёўскага павета Магілёўскага намесніцтва, 29 двароў, 211 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1869 г. памешчык І.В.Рубаноўскі меў тут 1063 дзес. зямлі. Паводле перапісу ў Чарнаруцкай вол. Магілёўскага павета, 37 двароў, 241 жыхар, хлебазапасны магазін. На пач.




20 ст. 38 двароў, 277 жыхароў. 29.9.1923 г. створана меліярацыйнае т-ва. З 20.8.1924 г. вёска ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1930 г. арганізаваны калгас, працавала пач. школа. З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 50 вяскоўцаў. У 1991 г. 56 гаспадарак, 103 жыхары, у складзе калгаса «Рассвет» (цэнтр — в. Таўкачы). У 1997 г. 43 гаспадаркі, 65 жыхароў. Дзейнічаў магазін. У 2007 г. ў складзе ЗАТ «Светлае». Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДУБРАЎКА 1** — вёска ў Фашчаўскім с/с, за 21 км на ПдУ ад Шклова, 42 км ад Магілёва, 23 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 69 гаспадарак, 118 жыхароў (2007).

На паўн.-ўсх. ускраіне вёскі знаходзіцца гарадзішча Белая Гара, якое сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Вёска вядома з пач. 17 ст. У 1604 г. згадваецца як в. Дуброва ў Плешчыцкім войтаўстве Магілёўскага староства Аршанскага павета, дзярж. ўласнасць, 38 двароў, 16 валок зямлі, за якую сяляне плацілі чынш і мядовую даніну. У 1616 г. вёска ў валоданні Аршанскай калегіі езуітаў. У 1742 г. ў с. Дуброўка (яно ж Гарадзенка) дзейнічала карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў складзе маёнтка Хвашчаўка Магілёўскага павета, 30 двароў, 193 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. ў Нічыпаравіцкай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 58 двароў, 431 жыхар, млын, хлебазапасны магазін. Побач існаваў фальварак, 2 двары, 10 жыхароў.

На пач. 20 ст. вёска, 72 двары, 539 жыхароў, школа (адкрыта ў 1913). Вёска ўваходзіла ў Фашчаўскую вол. Горацкага павета Магілёўскай, з 26.4.1919 г. Гомельскай губерняў РСФСР. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, якую наведвалі дзеці з вёсак Дубраўка і Саськаўка, у 1925 г. ў ёй было 90 вучняў. У сак. 1919 г. створана с.-г. арцель (6 гаспадарак), у 1924 г. — меліярацыйнае т-ва. З 1924 г. вёска ў Фашчаўскім с/с Шклоўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У крас. 1930 г. арганізаваны калгас «Шлях сацыялізму», у які спачатку ўвайшла 31 гаспадарка (у 1934 г. 76 гаспадарак). З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Каля вёскі ў ліп. 1941 г. ішлі цяжкія абарончыя баі, у якіх загінула каля 200 сав. воінаў. У памяць аб іх на паўд.-ўсх. ускраіне 1.9.1983 г. пастаўлены абеліск. У баях за вызваленне вёскі праявілі мужнасць воіны 566-га стралк. палка 153-й стралк. дывізіі 49-й арміі 2-га Бел. фронту. Яфрэйтар І.І.Іваноў быў узнагароджаны ордэнам Славы 1-й ступені. 18 сав. воінаў, якія загінулі ў гэтых баях, пахаваны на вясковых могілках. У 1991 г. 125 гаспадарак, 269 жыхароў, у складзе саўгаса-эксперыментальнай базы «Спартак» (цэнтр — в. Фашчаўка). У 1997 г. 113 гаспадарак, 191 жыхар, магазін. У 2007 г. ў складзе РУСП «Эксперыментальная база «Спартак». Планіровачна складаецца з 2 амаль прамалінейных вуліц (адна працяглая, другая кароткая), арыентаваных мерыдыянальна і злучаных прамалінейнай вуліцай шыротнай арыентацыі. Забудова пераважна двухбаковая, драўлянымі сял. сядзібамі. На Пд гасп. сектар.

**ДУБРАЎКА 2** — былая вёска ў Фашчаўскім с/с, за 27 км на ПдУ ад Шклова, 36 км ад Магілёва, 29 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На Пн воз. Святое, з якога выцякае р. Арціслаўка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса.

Вёска вядома з 1604 г. як с. Дуброўнікі (31 двор) у Плешчыцкім войтаўстве Магілёўскага староства Аршанскага павета



Віцебскага ваяв. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. сяло ў Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. 29 двароў, 211 жыхароў, уласнасць памешчыка. На пач. 20 ст. сяло (277 жыхароў) у Нічыпаравіцкай вол. Горацкага павета Магілёўскай, з 26.4.1919 г. Гомельскай губерняў РСФСР. З жн. 1924 г. вёска ў Нічыпаравіцкім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі БССР, з 2.3.1931 г. ў Шклоўскім р-не. У 1930 г. арганізаваны калгас імя С.Лунцуцкага, які пазней атрымаў назву «Чырвоная зорка», з 1934 г. яго абслугоўвала Фашчаўская МТС. З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 39 двароў, 239 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1952 г. ў Фашчаўскім с/с. У 1991 г. 43 гаспадаркі, 72 жыхары, у складзе саўгаса-эксперыментальнай базы «Спартак» (цэнтр — в. Фашчаўка). У 1997 г. 37 гаспадарак, 51 жыхар. Працаваў магазін. Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі былі пастаўлены ўздоўж вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. На Пд знаходзіўся гасп. сектар.

**ДУБРОВА** — вёска ў Старасельскім с/с, за 14 км на З ад Шклова, 54 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На З цячэ р. Тросенка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Малая Лотва і далей па шашы Круглае—Шклоў. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2007).

Упершыню вёска згадваецца ў інвентары Магілёўскай эканоміі 1635 г., 29 валок зямлі, з якіх 15,75 валокі не апрацоўваліся. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. На пач. 20 ст. ў Старасельскай вол. Аршанскага павета, 13 двароў, 125 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 22 двары, 54 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 12 двароў. На франтах загінулі 11 вяскоўцаў. У 1991 г. 18 гаспадарак, 22 жыхары, у складзе калгаса «Маяк» (цэнтр — в. Вялікае Уланава). У 1997 г. 14 гаспадарак, 18 жыхароў. У 2007 г. вёска далучана да ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс». Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДЫМАВА** — вёска ў Старасельскім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Шклова, 62 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У мяжуе з лесам. На Пд цячэ ручай (прыток р. Бярозаўка). Транспартныя сувязі па шашы Хацькова—Шклоў. 6 гаспадарак, 6 жыхароў (2007).

Вядома з 1541 г. як сяло ў складзе маёнтка Дудаковічы, шляхецкая ўласнасць. У 1606 г. ўпамінаецца ў абмежаванні Старасельскага касцёла. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. сяло ў Копыскай акрузе Магілёўскай губ. У 1875 г. памешчык меў тут 795 дзес. зямлі і млын. Паводле перапісу 1897 г. ў Старасельскай вол. Аршанскага павета, 10 двароў, 59 жыхароў. Побач існаваў аднайменны фальварак, 3 двары, 35 жыхароў, дзейнічаў вадзяны млын. На пач. 20 ст. ў сяле 10 двароў, 65 жыхароў, у маёнтку 19 жыхароў. З 20.8. 1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1930-х г. жыхары ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 20 двароў, 95 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 20.6.1942 г. каля вёскі адбыўся бой паміж партызанамі і гітлераўскімі карнікамі. У чэрв. 1944 г. акупанты спалілі вёску, загубілі 2 жыхароў. У 1991 г. 23 гаспадаркі, 69 жыхароў, у складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Стараселле). Працавалі клуб, дом-інтэрнат. У 1997 г. 12 гаспадарак, 19 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Александрыйскае». Планіровачна складаецца з прамалінейн-





най вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, няшчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя.

**ЕЎДАКІМАВІЧЫ** — вёска ў Заходскім с/с, за 30 км на ПдУ ад Шклова, 30 км ад Магілёва, 27 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пд мяжуе з лесам. На Пн цячэ р. Арцілаўка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса, якая праходзіць праз вёску. 191 гаспадарка, 514 жыхароў (2007).



*М.В.Другакоў.*

Каля вёскі, на беразе ракі, знаходзіўся курганны могільнік эпохі Кіеўскай Русі, які налічваў 4 насыпы, што сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска вядома з 1560 г. як сяло ў Магілёўскай вол., дзярж. уласнасць. У 1604 г. ў Плешчыцкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета, аддадзена ў часовае валоданне Магілёўскаму касцёлу. У 1742 г. уласнасць Магілёўскай плябаніі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў складзе маёнтка Заходы Магілёўскага павета, 16 двароў, 194 жыхары, уласнасць Магілёўскага каталіцкага архіепіскапа. У канцы 18 ст. 20 двароў, 155 жыхароў, вадзяны млын. Сяляне 2 дні ў тыдзень адбывалі паншчыну і плацілі грашовы чынш. У 1810 г. ў Магілёўскім павеце, 31 двор, 166 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Нічыпаравіцкай вол. Горацкага павета, 44 двары, 297 жыхароў, млын, хлебазапасны магазін.

*Краявід каля аграгарадка Еўдакімавічы.*



На пач. 20 ст. 57 двароў, 238 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Заходскім с/с Лупалаўскага, з 2.3.1931 г. Шклоўскага р-наў. У снеж. 1930 г. арганізаваны калгас імя Молатава, які ў 1933 г. аб'ядноўваў 36 гаспадарак. З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў кастр. 1943 г. дашчэнту спалілі яе. На могілках пахаваны 30 сав. воінаў, якія ў чэрв.—ліп. 1944 г. памерлі ад ран у шпіталі, што размяшчаўся ў вёсцы. На франтах загінулі 59 вяскоўцаў. У 1991 г. 130 гаспадарак, 348 жыхароў, цэнтр калгаса імя Андрэева, які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі і вырошчванні тэхн. культур. У 1990-я г. меў 2325 га с.-г. угоддзяў, у тым ліку 1844 га ворыва, 37 трактароў, 9 збожжаўборачных камбайнаў, 9 грузавых аўтамашын і інш. У 1976 г. механізатару М.В.Другакову прысвоена званне Героя Сац. Працы. У 1990-я г. ў вёсцы працавалі пач. школа, клуб, магазін, аддз. сувязі. У 1997 г. 179 гаспадарак, 459 жыхароў. У 2007 г. ў складзе ЗАТ «Ніва». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой у цэнтры далучаецца з ПдУ кароткая прамалінейная вуліца і да зах. канца — прамалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі (участак шашы). Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя. На З ад шашы, паралельна да яе, новая вуліца, забудаваная муравanымі дамамі тыпу катэджаў. На Пн вытв. сектар.

**ЗАБОР'Е** — вёска ў Старасельскім с/с, за 21 км на ПнЗ ад Шклова, 61 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Копысь на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У мяжуе з лесам і цячэ ручай (прыток р. Бярозаўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Хацькова—Шклоў. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2007).



Вядома з 18 ст. У 1777 г. згадваецца як в. Забароўе ў Копыскай акрузе Магілёўскай губ. У 1844 г. ў Магілёўскім павеце, 44 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1858 г. вёска ў Горацкім павеце. У 1880 г. 12 двароў, 70 жыхароў, частка з іх займалася шавецкім промыслам. З 20.8.1924 г. ў Старасельскім с/с Копыскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7.1930). З 8.7.1931 г. ў Талачынскім, з 5.12.1931 г. ў Шклоўскім р-нах. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новы лад», які ў 1940 г. аб'ядноўваў 41 гаспадарку, меў 282 га зямлі. З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 11 вяскоўцаў. У 1991 г. 16 гаспадарак, 26 жыхароў, у складзе калгаса «Наперад» (цэнтр — в. Баркі 1). У 1997 г. 8 гаспадарак, 17 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Александрыйскае». Планіровачна складаецца з мерыдыянальна арыентаванай вуліцы, забудаванай няшчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАБРОДДЗЕ** — вёска ў Славенскім с/с, за 15 км на ПнУ ад Шклова, 50 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На ПнУ невял. возера. Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса, якая праходзіць праз вёску. 105 гаспадарак, 248 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. У 1652 г. сяло, 55 валок зямлі. У 1670 г. ў Гарадзецкім войтаўстве Копыскага графства Аршанскага павета, 58 двароў, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. сяло ў Копыскім павеце, 61 двор, 401 жыхар, уладанне памешчыка, які ў 1862 г. меў тут 2575 дзес. зямлі і заезны дом. Паводле перапісу 1897 г. ў Любініцкай вол. Горацкага павета, 80 двароў, 499 жыхароў, школа граматы, піцейны дом. Побач існавалі фальварак (4 двары, 36 жыхароў) і карчма (1 двор, 6 жыхароў). Дзейнічалі 2 вадзяныя млыны, крупадзёрка (1890), паравая машына (16 рабочых). На пач. 20 ст. 97 двароў, 312 жыхароў. У 1914 г. адкрыта земская школа. У пач. 1920-х г. на базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені (у 1925 г. 82 вучні). У 1920-я г. створана крэдытнае т-ва, дзейнічалі б-ка і гурткі па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых.

З 20.8.1924 г. вёска ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1930 г. арганізаваны калгас «Ударнік», пач. школа ператворана ў 7-гадовую, у 1938 г. — у сярэднюю, якая зрабіла першы выпуск у 1941 г. З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У 1939 г. 545 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 35 двароў. Пасля вайны адбудавана. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі ў скверы, пахаваны 40 сав. воінаў, загінуўшых у 1941 г. і ў чэрв. 1944 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 116 землякоў, на ўшанаванне памяці якіх каля будынка школы ў 1967 г. пастаўлены абеліск. У 1991 г. 167 гаспадарак, 348 жыхароў, у складзе калгаса імя Фрунзе (цэнтр — в. Любінічы). Дзейнічалі сярэдняя школа клуб, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі. У 1997 г. 154 гаспадаркі, 325 жыхароў. Працавалі аддз. сувязі, пач. школа. Засл. настаўнік БССР, былы партызан Вял. Айч. вайны В.К.Брыкін арганізаваў у школе Музей баявой славы. У 2007 г. ў складзе ЗАТ «Амкадор-Шклоў». Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, амаль паралельных паміж сабой вуліц мерыдыянальнай арыентацыі (адна з іх — участак шашы), перакрыжаваных працяглай прамалінейнай вуліцай шыротнай арыентацыі, да якой на У далучаецца з Пд кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя. Частку забудовы каля шашы складаюць аднапавярховыя мураваныя дамы тыпу катэджаў. На У ад шашы гасп. сектар.



*В.К.Брыкін.*

**ЗАВАРАТЫ** — вёска ў Заходскім с/с, за 36 км на ПдУ ад Шклова, 36 км ад Магілёва, 33 км ад чыг. ст. Лупалава на

лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 14 гаспадарак, 22 жыхары (2007).

Вёска вядома з 1604 г. як с. Заварот (25 двароў) у Даманскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета, дзярж. ўласнасць. Да сяла было прыпісана 20 валок зямлі, за карыстанне якой сяляне плацілі чынш і даніну. У 1742 г. 17 двароў, карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў складзе маёнтка Плешчыцы Магілёўскага павета, 24 двары, 162 жыхары, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Нічыпаравіцкай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 28 двароў, 210 жыхароў, хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. 355 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Нічыпаравіцкім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі, з 2.3.1931 г. ў Шклоўскім р-не. У 1934 г. арганізаваны калгас імя Будзённага. З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У 1639 г. 57 двароў, 315 жыхароў, пач. школа (69 вучняў). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. 42 гаспадаркі, 76 жыхароў, у складзе саўгаса-эксперыментальнай базы «Спартак» (цэнтр — в. Фашчаўка). У 1997 г. 27 гаспадарак, 80 жыхароў. У 2007 г. ў складзе РУСП «Эксперыментальная база «Спартак». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнУ на ПдЗ. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя.


*Г.М.Лабузной.*

**ЗАГОР'Е** — вёска ў Рыжкавіцкім с/с, за 7 км на Пд ад Шклова, 35 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ р. Ульянка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Магілёў. 47 гаспадарак, 74 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Шклоў Магілёўскага павета, 22 двары, 136 жыхароў, млын, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 23 двары, 156 жыхароў, частка якіх выраблялa розныя быт. рэчы з лыка і кары. Паводле перапісу 1897 г. ў Шклоўскай вол. Магілёўскага павета, 29 двароў, 183 жыхары, хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. 42 двары, 243 жыхары. У 1915 г. адкрыта земская школа. Дзейнічала парт. ячэйка, якую ўзначальваў адзін з арганізатараў сав. улады на Шклоўшчыне А.І.Спіцкі. У 1920 г. вяскоўцы адкрылі школу ў былым доме святара. З 20.8.1924 г. вёска ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). Працавалі хата-чытальня, гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1925 г. ў школе было 57 вучняў з вёсак Загор'е, Данькавічы, пасёлкаў Нароўе, Пралетарый, Шведаў Роў, Прасвет, Рэвалюцыя, Труд, Замляшша, Аўсеенкі і з бліжэйшых хутароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная ніва», які ў 1940 г. быў удзельнікам Усесаюзнай с.-г. выстаўкі. З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 8 двароў. Пасля вайны адбудавана. У брацкай магіле, што за 0,4 км на ПдЗ ад вёскі, пахаваны сав. воіны, якія загінулі ў баях супраць акупантаў. У 1991 г. 79 гаспадарак, 157 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Рыжкавічы), комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. У 1997 г. 61 гаспадарка, 102 жыхары. У 2007 г. вёска далучана да ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс». Планіровачна складаецца з прамалінейнай працяглай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя. На ПдУ гасп. сектар.

У в. Загор'е нарадзіўся ўдзельнік грамадз. і Вял. Айч. войнаў, засл. настаўнік БССР Г.М.Лабузноў (1898—1973).

**ЗАПОЛЛЕ** — вёска ў Славенскім с/с, за 14 км на ПнУ ад Шклова, 54 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе



і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 31 гаспадарка, 67 жыхароў (2007).

Вядома з 16 ст. У 1562 г. згадваецца як сяло ў Стайкаўскай вол., 40 валок зямлі. У 1670 г. ў Гарадзецкім войтаўстве Копыскага графства Аршанскага павета, 11 двароў, шляхецкая ўласнасць. У 1737 г. 7 двароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Копыскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 20 двароў, 127 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. ў Любініцкай вол. Горацкага павета, 40 двароў, 274 жыхары. На пач. 20 ст. 47 двароў, 320 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1930 г. арганізаваны калгас «Ударнік». З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У 1939 г. 460 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 11.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 20 двароў. Пасля вайны адбудавана. У 1991 г. 72 гаспадаркі, 138 жыхароў, у складзе калгаса імя Кірава (цэнтр — в. Вялікія Славені). У 1997 г. 54 гаспадаркі, 84 жыхары. Працаваў магазін. У 2007 г. ў складзе ЗАТ «Вялікія Славені». Планіровачна складаецца з працяглай, амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з Пд далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя. На У гасп. сектар.

Вёска — радзіма Героя Сац. Працы К.С.Макаравай, доктара гіст. навук, палітолага В.В.Шынкарова.

**ЗАРОЎЦЫ** — вёска ў Рыжкавіцкім с/с, за 6 км на ПнЗ ад Шклова, 46 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Круглае. 91 гаспадарка, 155 жыхароў (2007).

Вёска вядома з 17 ст. ў Барыскаўскім войтаўстве Шклоўскага графства, шляхецкая ўласнасць. У 1695 г. 17 двароў, у 1771 г. 41 двор, 256 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Копыскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 40 двароў, 274 жыхары, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Старасельскай вол. Аршанскага павета Магілёўскай губ., 66 двароў, 524 жыхары, школа граматы, хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. 77 двароў, 513 жыхароў, земская школа (1908). У пач. 1920-х г. на базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені (у 1925 г. 103 вучні).

З 20.8.1924 г. вёска ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). Дзейнічала б-ка, з 1926 г. — гурток па чытцы газет і часопісаў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Будзённага, які абслугоўвала Шклоўская МТС. З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1953 г. да яе далучана в. Прылепаўка, у 1967 г. — в. Калінава. У 1991 г. 142 гаспадаркі, 318 жыхароў, цэнтр калгаса «Праўда», які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі і вырошчванні лёну. У 1990-я г. меў 2628 с.-г. угоддзяў, у тым ліку 2052 га зямлі, 37 трактароў, 10 збожжаўборачных камбайнаў, 14 грузавых аўтамашын і інш. У вёсцы працавалі дзіцячы сад, пач. школа, Дом культуры, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, магазін, аддз. сувязі. У 1997 г. ў вёсцы 133 гаспадаркі, 238 жыхароў. У 2007 г. вёска далучана да ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс». Дзейнічалі сельскія б-ка, клуб. Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных, амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і злучаных завулкамі. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы пераважна драўляныя. На У гасп. сектар.



*К.С.Макарава.*



*В.В.Шынкароў.*

**ЗАСЦЕНКІ** — вёска ў Рыжкавіцкім с/с, за 4 км на З ад Шклова, 45 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Круглае. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Вёска засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім

р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1930-х г. жыхары ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. 9 гаспадарак, 11 жыхароў, у складзе калгаса «Праўда» (цэнтр — в. Зароўцы). У 1997 г. 9 гаспадарак, 10 жыхароў. У 2007 г. вёска далучана да ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс». Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі пастаўлены ўздоўж кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ.

**ЗАХОДЫ** — вёска, цэнтр Заходскага с/с, за 31 км на ПдУ ад Шклова, 30 км ад Магілёва, 27 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пд мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Арцislаўка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса, якая праходзіць праз вёску. 33 гаспадаркі, 61 жыхар (2007).

Сучасная вёска вядома з 1604 г. як с. Заход (47 двароў) у Плешчыцкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, дзярж. ўласнасць, у часовым валоданні Магілёўскага касцёла. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. цэнтр маёнтка ў Магілёўскім павеце, уласнасць Магілёўскага каталіцкага архіепіскапства, 20 двароў, 112 жыхароў, 2 вадзяныя млыны, касцёл, драўляны гаспадарскі дом, вінакурня, штогод (12 ліп.) адбываліся кірмашы. У 1848 г. цэнтр казённага маёнтка ў Магілёўскім павеце, 20 двароў, дзейнічала драўляная царква (пабудавана ў 1841). У 1858 г. ў Горацкім павеце, 75 рэвізскіх душ. У 1883 г. адкрыта школа. Паводле перапісу 1897 г. ў Нічыпаравіцкай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 37 двароў, 243 жыхары, 2 млыны, хлебазапасны магазін, піцейны дом, царк.-прыходская школа, царква. На пач. 20 ст. 44 гаспадаркі, 284 жыхары, вінная крама. Побач існаваў хутар, 1 двор, 8 жыхароў. У пач. 1920-х г. на базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені (у 1925 г. 41 вучань).


*Звездары з в. Заходы. 1904 г.*

З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі, з 2.3.1931 г. ў Шклоўскім р-не. У кастр. 1931 г. арганізаваны калгас «Іскра». Пач. школа пераўтворана ў 7-гадовую. З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. 73 гаспадаркі, 143 жыхары, у складзе калгаса імя Андрэева (цэнтр — в. Еўдакімавічы). Дзейнічалі дзіцячы сад, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, лясніцтва. У 1997 г. 59 гаспадарак, 120 жыхароў. У 2007 г. ў складзе ЗАТ «Ніва». Планіровачна складаецца з 2 вуліц (адна крывалінейная працяглая, другая прамалінейная кароткая — адрэзак шашы), арыентаваных мерыдыянальна і злучаных паміж сабою дарогай. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы пераважна драўляныя. Вуліца ўздоўж шашы забудавана драўлянымі і мураванымі будынкамі.

У складзе Заходскага с/с 13 вёсак.

**ЗАХОДЫ** — вёска ў Гарадзецкім с/с, за 8 км на У ад Шклова, 45 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На ПдЗ мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Капуснік (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па



мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 59 гаспадарак, 87 жыхароў (2007).

Вёска вядома з 1567 г. як сяло ў Магілёўскай вол. Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1604 г. ў Плешчыцкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі, 47 двароў, перададзена ў часовае валоданне Магілёўскаму касцёлу. У 1695 г. 32 двары, у 1771 г. 38 двароў, 141 жыхар, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Копыскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 49 двароў, 280 жыхароў, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Любініцкай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 48 двароў, 315 жыхароў. На пач. 20 ст. 67 двароў, 257 жыхароў.

З 20.8.1924 г. ў Гарадзецкім с/с Шклоўскага р-на. Дзейнічалі прац. школа 1-й ступені, школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1929 г. арганізаваны калгас, які ў маі 1931 г. атрымаў назву «Іскра», абслугоўвала Фашчаўская МТС. З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. ў ёй 99 двароў, 495 жыхароў, пач. школа. Да вёскі быў далучаны пас. Кацьвіна. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Каля вёскі ў ліп. 1941 г. трымалі абарону воіны 110-й дывізіі 61-га стралк. корпуса пад камандаваннем ген.-маёра Ф.А.Бакуніна. У 1991 г. 73 гаспадаркі, 145 жыхароў, у складзе саўгаса «Гарадзец» (цэнтр — в. Гарадзец). Дзейнічалі пач. школа, б-ка, Дом культуры са стацыянарнай кінаўстаноўкай, магазін, фельч.-акушэрскі пункт. У 1997 г. 89 гаспадарак, 160 жыхароў. У 2007 г. ў складзе с.-г. прыватнага УП «Акцыянерны ашчадны банк «Гарадзец», працавалі вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад—сярэдняя агульнаадукац. школа, Дом культуры, б-ка аграгарадка Еўдакімавічы, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі. Пяніровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ, да якой з Пд далучаецца крывалінейная вуліца (былы пас. Кацьвіна). Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы пераважна драўляныя. Частку забудовы складаюць мураваныя аднакватэрныя дамы. На ПдУ гасп. сектар.

**ЗАЦІШША** — вёска ў Таўкачоўскім с/с, за 23 км на ПдЗ ад Шклова, 32 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Круглае. 12 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

Паводле перапісу 1897 г. засценак у Таўпечыцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 9 двароў, 76 жыхароў. На пач. 20 ст. 14 двароў, 89 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1930-х г. жыхары ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. 31 гаспадарка, 50 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтр — в. Вялікія Лазіцы). У 1997 г. 20 гаспадарак, 32 жыхары. У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Гавяды-Агра». Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЗАШЧЫТА** — вёска ў Каменналаўскім с/с, за 10 км на Пд ад Шклова, 32 км



*Будынак вучэбна-педагагічнага комплексу ў в. Заходы.*

ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пн мяжуе з лесам. На У цячэ р. Дняпро. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Шклоў. 10 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Вёска вядома з 18 ст. З канца 18 ст. ў Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У сярэдзіне 19 ст. ў Магілёўскім павеце. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1930-х г. жыхары ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У 1939 г. ў ёй 53 двары, 264 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. ў наваколлі вёскі ішлі цяжкія баі пры фарсіраванні сав. войскамі р. Дняпро за расшырэнне плацдарма каля вёсак Дабрэйка і Зашчыта. З сак. 1960 г. ў Каменналаўскім с/с. У 1991 г. 18 гаспадарак, 27 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоны Кастрычнік» (цэнтр — в. Вялікая Камароўка). У 1997 г. 10 гаспадарак, 13 жыхароў. У 2007 г. ў складзе філіяла СВК «Газавік-Сіпакова» вытв. РУП «Магілёўаблгаз». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя.

**ЗЯМЦЫ** — вёска ў Рыжкавіцкім с/с, за 10 км на З ад Шклова, 50 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пн мяжуе з лесам. На У цячэ р. Серабранка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Чарнаручча. 30 гаспадарак, 48 жыхароў (2007).

Вёска вядома з 17 ст. ў Барыскаўскім войтаўстве Шклоўскага графства, шляхецкая ўласнасць. У 1635 г. згадваецца як с. Галубіна (яно ж Зямцы) у Чамаданаўскім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета, дзярж. ўласнасць. У 1695 г. ў вёсцы ніхто не жыў, у 1771 г. тут 4 двары, 30 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Магілёўскім павеце Магілёўскага намесніцтва, у складзе маёнтка Шклоў, 4 двары, 33 жыхары, уласнасць памешчыка, які меў тут у 1881 г. 175 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў Баранскай вол. Аршанскага павета, 10 двароў, 65 жыхароў. Побач існаваў аднайменны фальварак, 1 двор, 11 жыхароў. Дзейнічала парт. ячэйка, якая ўваходзіла ў Шклоўскі падп. райком РКП(б). З 20.8.1924 г. вёска ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1934 г. арганізаваны калгас «Чырвоны гарадок», які ў 1936 г. аб'ядноўваў 51 гаспадарку. Працавалі пач. школа, гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1940 г. ў вёсцы 61 двор, 360 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. 59 гаспадарак, 125 жыхароў, у складзе калгаса «Праўда» (цэнтр — в. Зароўцы). Дзейнічалі клуб, магазін. У 1997 г. 46 гаспадарак, 92 жыхары. У 2007 г. вёска далучана да ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс». Планіроўка V-падобная. Да плаўна выгнутай вуліцы блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі далучаецца з ПдУ кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы пераважна драўляныя. На У гасп. сектар.

**КАЛІНАЎКА** — вёска ў Старасельскім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Шклова, 54 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Хацькова, якая праходзіць праз вёску. 29 гаспадарак, 51 жыхар (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Копыскай акрузе Магілёўскай губ. У канцы 18 — 1-й пал. 19 ст. ўладанне графа Агінскага. Паводле перапісу 1897 г. ў Старасельскай вол. Аршанскага павета Магілёўскай губ., 17 двароў, 146 жыхароў. На пач. 20 ст. 18 двароў, 115 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да



26.7.1930). У 1930 г. арганізаваны калгас «Барацьба». З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. 45 гаспадарак, 85 жыхароў, у складзе калгаса імя Калініна (цэнтр — в. Тройца). У 1997 г. 39 гаспадарак, 84 жыхары. Працаваў магазін. Планіровачна складаецца з працяглай, плаўна выгнутай вуліцы (адрэзак шашы). Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя. На ПдЗ гасп. сектар.

**КАМАРОЎКА** — вёска ў Каменналаўскім с/с, за 13 км на Пд ад Шклова, 37 км ад Магілёва, 2 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Магілёў. 14 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. як в. Малая Камароўка. З 20.8.1924 г. ў Каменналаўскім с/с Шклоўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950-я г. да вёскі далучаны пас. Будзённага. У 1991 г. 19 гаспадарак, 43 жыхары, у складзе калгаса «Чырвоны Кастрычнік» (цэнтр — в. Вялікая Камароўка). У 1997 г. 17 гаспадарак, 33 жыхары. У 2007 г. ў складзе філіяла СВК «Газавік-Сіпакова» вытв. РУП «Магілёўаблгаз». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАМЕНКА** — вёска ў Славенскім с/с, за 15 км на ПнУ ад Шклова, 55 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Копысь на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У і Пд вёску агінае р. Каменка (прыток р. Чарніца). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 16 гаспадарак, 26 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Копыскай акрузе Магілёўскай губ. Упамінаецца ў 1783 г. як уладанне памешчыка, 14 двароў, 113 жыхароў. На пач. 20 ст. ў вёсцы 8 двароў, 93 жыхары, земская школа (1907). У 1918 г. на базе дарэвалюцыйнай адкрыта прац. школа 1-й ступені, для якой у 1921 г. вяскоўцы пабудавалі памяшканне. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1925 г. ў школе было 57 вучняў. У 1930-х г. жыхары ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. 54 гаспадаркі, 99 жыхароў, у складзе калгаса імя Кірава (цэнтр — в. Вялікія Славені). У 1997 г. 36 гаспадарак, 80 жыхароў. У 2007 г. ў складзе ЗАТ «Вялікія Славені». Планіровачна складаецца з 2 вуліц (адна прамалінейная, другая крывалінейная), арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных завулкамі. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя.

**КАМЕНКА** — вёска ў Старасельскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Шклова, 60 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пд мяжуе з лесам. На У цячэ р. Варопінка (прыток р. Бярозаўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Круглае. 23 гаспадаркі, 38 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. згадваецца як с. Камянец у Копыскай акрузе Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў Старасельскай вол. Аршанскага павета, 9 двароў, 69 жыхароў. Побач існавала аднайменнае ўрочышча (3 двары, 31 жыхар). На пач. 20 ст. ў вёсцы 8 двароў, 93 жыхары, ва ўрочышчы — 4 двары, 27 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1930-х г. жыхары ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. 39 гаспадарак, 80 жыхароў, у складзе

калгаса імя Калініна (цэнтр — в. Тройца). У 1997 г. 41 гаспадарка, 63 жыхары. Працаваў клуб. З 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс». Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, амаль паралельных паміж сабой вуліц. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя.

**КАМЕННЫЯ ЛАВЫ** — вёска, цэнтр Каменналаўскага с/с, за 15 км на Пд ад Шклова, 27 км ад Магілёва, 2 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пд і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Шклоў. 64 гаспадаркі, 128 жыхароў (2007).

Вёска вядома з 17 ст. У 1667 г. сяло ў Аршанскім павеце, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1780 г. 9 двароў, 83 жыхары, 741 дзес. зямлі, большая частка якой была занята лесам, належала шляхціцу. У вёсцы знаходзіліся драўляны аднапавярховы простай архітэктуры гаспадарскі дом, сажалка, вадзяны млын, вінакурня. Жыхары займаліся земляробствам і вырабам ільняной тканіны. У 1785 г. ў Магілёўскім павеце, 12 двароў, 72 жыхары. У 1858 г. 44 рэвізскія душы, школа граматы, хлебазапасны магазін. Памешчык меў тут у 1871 г. 181 дзес., а ў 1881 г. 362 дзес. зямлі. У 1880-я г. 18 двароў, 133 жыхары, частка з іх займалася шавецкім і кавальскім промысламі, вырабам розных быт. рэчаў з лыка і кары, нарыхтоўкай лясных матэрыялаў для вырабаў з дрэва. На пач. 20 ст. 44 двары, 280 жыхароў. У 1912 г. школа граматы ператворана ў земскую.

З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1925 г. ў вясковай школе займаліся 74 вучні, дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У вер. 1928 г. арганізаваны калгас «Новы шлях». Апрача жыхароў Каменных Лаваў у яго ўваходзілі сяляне з в. Бушлякі. У 1932 г. вёска атрымала электрасвятло. Пач. школа ператворана ў 7-гадовую. Ва ўмацаванні гаспадаркі дапамогу аказвала Шклоўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. 1.12. 1938 г. арганізаваны калгас імя Кірава. У канцы 1930-х г. пабудаваны клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, 7-гадовая школа ператворана ў сярэднюю, у якой у 1940 г. налічвалася 410 вучняў, 22 настаўнікі. У 1939 г. ў вёсцы 108 двароў, 411 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Знаходзілася ў зоне дзейнасці падп. парт.-камсамольскай арг-цыі, створанай з жыхароў вёсак Старавадвянскага і Каменналаўскага сельсаветаў. У 1944 г. акупанты спалілі 42 двары. На могілках пахаваны 28 воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі ў баях за вызваленне вёскі. У 1991 г. 130 гаспадарак, 261 жыхар, у складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Дабрэйка). Дзейнічалі дзіцячы сад, сярэдняя школа, клуб, б-ка, стацыянарная кінаўстаноўка, сталовая, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. У 1997 г. 99 гаспадарак, 232 жыхары. У 2007 г. ў складзе СВК «Вадвянскае». Працавалі школа, б-ка, клуб, урачэбная амбулаторыя. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц (адна працяглая, другая кароткая), арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і злучаных завулкам. Да больш працяглай на ПдУ далучаецца прамалінейная вуліца блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя. На Пд гасп. сектар.

У складзе Каменналаўскага с/с 25 вёсак і 2 пасёлкі.

**КАПЫСІЦА** — вёска ў Александрыйскім с/с, за 17 км на ПнЗ ад Шклова, 45 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Копысь на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Праз вёску цячэ р. Вілейка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Орша. 23 гаспадаркі, 38 жыхароў (2007).

Вядома з сярэдзіны 17 ст. як вёска ў Вышкаўскім войтаўстве Шклоўскага



графства, шляхецкая ўласнасць. У 1695 г. 22 двары, у 1771 г. 45 двароў, 255 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1783 г. ў Копыскім павеце Магілёўскай губ., 46 двароў, 253 жыхары, уласнасць С.Г.Зорыча. Паводле перапісу 1897 г. ў Старасельскай вол. Аршанскага павета, 72 двары, 476 жыхароў, хлебазапасны магазін. Побач існаваў аднайменны засценак, 10 двароў, 62 жыхары. На пач. 20 ст. 85 двароў, 587 жыхароў, школа (адкрыта ў 1902).

З 26.1.1919 г. ў Старасельскай вол. Аршанскага павета Гомельскай губ. РСФСР, з сак. 1924 г. ў складзе БССР, з 20.8.1924 г. ў Александрыйскім с/с Копыскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7. 1930). На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, потым адкрыты клуб, хата-чытальня. У 1925 г. ў вясковай школе займалася 75 вучняў, дзейнічалі драматычны і харавы гурткі. 2.1.1930 г. арганізаваны калгас «Перамога». З 8.7.1931 г. ў Шклоўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1939 г. ў вёсцы 120 двароў, 508 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 60 двароў, многіх жыхароў вывезлі на прымусовую працу ў Германію. У брацкай магіле на могілках пахаваны 18 сав. воінаў, што загінулі ў баях за вызваленне вёскі. У 1991 г. 73 гаспадаркі, 151 жыхар, у складзе калгаса імя Дзяржынскага (цэнтр — в. Вялікі Мяжнік). Дзейнічалі магазін, фельч.-акушэрскі пункт. У 1997 г. 59 гаспадарак, 94 жыхары. У 2007 г. вёска ў складзе да ААТ «Александрыйскае». Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, размежаваных ракой і злучаных завулкам з мостам цераз раку. Забудова двухбаковая, шчыльная драўлянымі сял. сядзібамі.

**КАРАСІ** — вёска ў Гарадзішчанскім с/с, за 34 км на У ад Шклова, 54 км ад Магілёва, 36 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Бася (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі праз вёску і далей па шашы Княжыцы—Горкі. 24 гаспадаркі, 34 жыхары (2007).

Вёска вядома з 17 ст. ў Шарсціслаўскім войтаўстве Шклоўскага графства, шляхецкая ўласнасць. У 1737 г. дзейнічала царква. У 1771 г. 24 двары, 171 жыхар. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Копыскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 29 двароў, 222 жыхары, уласнасць памешчыка. Частка вяскоўцаў займалася вырабам розных быт. рэчаў з лыка і кары. Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Горацкага павета, 48 двароў, 300 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. 57 двароў, 332 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1929 г. арганізаваны калгас «Новы шлях», які ў 1933 г. аб'ядноўваў 49 гаспадарак, у 1-й пал. 1941 г. — 73 гаспадаркі, меў 408 га раллі, 137 га лугоў, 42 кані, 45 кароў, 47 авечак. З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На вясковых могілках пахаваны сав. лётчык, які загінуў у ліп. 1941 г. ў паветр. баі. У 1991 г. 52 гаспадаркі, 104 жыхары, у складзе племгаспадаркі «Гарадзішча» (цэнтр — в. Гарадзішча). У 1997 г. 34 гаспадаркі, 62 жыхары. Працаваў магазін. У 2007 г. ў складзе ААТ «Новагарадзішчанскае». Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц (адна працяглая, другая кароткая), арыентаваных працяглая — мерыдыянальна, кароткая — з ПдЗ на ПнУ і злучаных на Пн. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя.

**КАРБАТОЎКА** — вёска ў Чарнаруцкім с/с, за 26 км на ПдЗ ад Шклова, 46 км ад Магілёва, 27 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На Пн і У меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Вабіч (прыток Друці). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і

далей па шашы Шклоў—Чарнаручча. 12 гаспадарак, 19 жыхароў (2007).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Чарнаруцкай вол. Магілёўскага павета, 5 двароў, 29 жыхароў. На пач. 20 ст. 6 двароў, 39 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Чарнаруцкай вол. Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, з 9.5.1923 г. ў Шклоўскай вол. таго ж павета. З 3.3.1924 г. ў складзе БССР, з 20.8.1924 г. ў Чарнаруцкім с/с Шклоўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7. 1930). 30.3.1930 г. вяскоўцы арганізавалі калгас «Трактар», які ў 1941 г. аб'ядноўваў 58 гаспадарак, меў 193 га раллі, 155 га лугоў, 33 кані, 68 кароў, 23 свінні, 54 авечкі, 10 пчаліных сем'яў. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 6 двароў. У 1991 г. 28 гаспадарак, 61 жыхар, у складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Тударава). У 1997 г. 112 гаспадарак, 220 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Палыкавіцкае». Працаваў магазін. Планіроўка Т-падобная. Да прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі далучаецца на Пн плаўна выгнутая вуліца. Забудова двухбаковая, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя.

**КАРЗУНЫ** — вёска ў Александрыйскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Шклова, 52 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ р. Бярозаўка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Хацькова. 13 гаспадарак, 25 жыхароў (2007).

На зах. ускраіне вёскі захавалася стараж. гарадзішча, якое сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай мінуўшчыне. Вёска вядома з сярэдзіны 17 ст., калі ўваходзіла ў Вышкаўскае войтаўства Шклоўскага графства, шляхецкая ўласнасць, дзейнічалі млын, сукнавальня (1643). У 1695 г. 6 двароў, у 1771 г. 15 двароў, 80 жыхароў. Побач існаваў фальварак у Копыскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 3 двары, 26 жыхароў, вадзяны млын. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. З 1861 г. ў Старасельскай вол. Аршанскага павета Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 31 двор, 203 жыхары, у засценку — 18 двароў, 100 жыхароў, хлебазапасны магазін, вадзяны млын, крупадзёрка, карчма. На пач. 20 ст. ў вёсцы 40 двароў, 190 жыхароў, у засценку — 13 двароў, 114 жыхароў. У 1917 г. была адкрыта школа, якая атрымала нацыяналізаваны будынак. З 26.4.1919 г. ў Старасельскай вол. Аршанскага павета Гомельскай, з 18.11.1920 г. Віцебскай губерняў. РСФСР.

З сак. 1924 г. ў складзе БССР. З 20.8.1924 г. ва Уланаўскім с/с Шклоўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1925 г. ў школе займаліся 63 вучні. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1939 г. 35 двароў, 170 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. 20 гаспадарак, 56 жыхароў, у складзе калгаса «Ударнік» (цэнтр — в. Слабодка). У 1997 г. 22 гаспадаркі, 31 жыхар. У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Александрыйскае». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ уздоўж берага ракі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КЛІМАВІЧЫ** — вёска ў Чарнаруцкім с/с, за 29 км на ПдЗ ад Шклова, 52 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ Чорны ручай (прыток р. Чарнаводка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Чарнаручча. 62 гаспадаркі, 117 жыхароў (2007).

Вёска вядома з 17 ст., калі ўваходзіла ў Чарнаруцкае войтаўства Шклоўскага графства, шляхецкая ўласнасць. У 1695 г. 17 двароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1783 г. ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ., 34 двары, 261 жыхар, уласнасць С.Г.Зорыча і С.Ф.Герасімава. У ліп. 1896 г.



вёска згарэла (29 двароў). Паводле перапісу 1897 г. 64 двары, 376 жыхароў, хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. 67 двароў, 302 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Чарнаруцкай вол. Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР.

З сак. 1924 г. ў складзе БССР, з 20.8.1924 г. ў Чарнаруцкім с/с Шклоўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). Дзейнічала меліярацыйнае т-ва, 28.4.1930 г. арганізаваны калгас «Вольная праца», у якім у 1941 г. было 108 гаспадарак, 463 га раллі, 280 га лугоў, 75 коней, 120 кароў, 58 свіней, 47 авечак, 13 пчаліных сем'яў. З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія абрабавалі вёску. У цэнтры вёскі, каля будынка клуба, у памяць аб 193 земляках, што загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе, у 1967 г. пастаўлены абеліск. У 1991 г. 93 гаспадаркі, 207 жыхароў, цэнтр калгаса імя Свярдлова, які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі і льнаводстве. У 1990-х г. меў 3406 га с.-г. угоддзяў, у тым ліку 2337 га ворыўнай зямлі, 31 трактар, 15 грузавых аўтамашын, 10 збожжаўборачных камбайнаў і інш. У вёсцы дзейнічалі дзіцячы сад, філіял Шклоўскай раённай б-кі, Палац культуры, стацыянарная кінаўстаноўка, гасцініца-інтэрнат, сталовая, магазін, аптэка, грамадская лазня, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 1997 г. ў вёсцы 84 гаспадаркі, 250 жыхароў, працавалі сельскі клуб, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. У 2007 г. ў складзе ЗАТ «Палыкавіцкае». Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц амаль мерыдыянальнай арыентацыі, якія на Пн злучаны кароткай прамалінейнай вуліцай. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя. На У гасп. сектар.

**КЛІН** — вёска ў Славенскім с/с, за 18 км на ПнУ ад Шклова, 57 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса, якая праходзіць праз вёску. 27 гаспадарак, 63 жыхары (2007).

Вёска вядома з 1909 г. як урочышча, якое ўваходзіла ў Маслакоўскую вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 4 двары, 17 жыхароў. З 20.8.1924 г. вёска ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. 42 гаспадаркі, 104 жыхары, у складзе калгаса імя Кірава (цэнтр — в. Вялікія Славені). У 1997 г. 16 гаспадарак, 29 жыхароў. У 2007 г. ў складзе ЗАТ «Вялікія Славені». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы (участак шашы) мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя. На У гасп. сектар.

**КЛІН** — вёска ў Старасельскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Шклова, 58 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Хацькова—Шклоў. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Вёска засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1930-х г. жыхары ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. 23 гаспадаркі, 39 жыхароў, у складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Стараселле). У 1997 г. 16 гаспадарак, 29 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Александрыйскае». Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з ПдУ далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.





**КНЯЖЫЦЫ** — вёска ў Гарадзецкім с/с, за 16 км на ПдУ ад Шклова, 44 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Каля вёскі пачынаецца і цячэ р. Капуснік (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса, якая праходзіць праз вёску. 51 гаспадарка, 100 жыхароў (2007).

За 0,6 км на ПнУ ад вёскі знаходзіцца гарадзішча ранняга жал. веку, якое сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Вёска вядома з 1604 г. як с. Княжыцк у Плешчыцкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. Да вёскі было прыпісана 38 валок зямлі. У 1612 г. каралём Сігізмундам III Вазай аддадзена Аршанскай езуіцкай калегіі, якой належала да 1820-х г. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У канцы 18 ст. сяло, 41 двор, 265 жыхароў, якія плацілі чынш. У 1864 г. адкрыта школа (нар. вучылішча). Паводле перапісу 1897 г. згадваецца як с. Княжычкі ў Любініцкай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 52 двары, 313 жыхароў, вінакурня (11 рабочых), карчма, царква. 20.11.1905 г. каля царквы адбыўся мітынг, пасля якога вяскоўцы разбурылі плаціну і млын памешчыка, а ў студз. 1906 г. спалілі 3 памешчыцкія пабудовы. На пач. 20 ст. 68 двароў, 415 жыхароў. У пач. 1920-х г. на базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені (у 1925 г. 121 вучань).

З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Шклоўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У маі 1930 г. пры сельсавеце створана ячэйка КП(б)Б, у 1931 г. ў вёсцы арганізаваны калгас «Новы шлях», які ў 1933 г. аб'ядноўваў 30 гаспадарак (абслугоўвала Фашчаўская МТС). З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1939 г. калгас быў удзельнікам Усесаюзнай с.-г. выстаўкі. У 1940 г. ў вёсцы 110 двароў, 523 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Каля вёскі ў ліп. 1941 г. трымалі абарону воіны 110-й дывізіі 61-га стралк. корпуса (камандзір ген.-маёр Ф.А.Бакунін). У брацкай магіле ў цэнтры вёскі пахаваны 175 сав. воінаў 113-га стралк. палка 32-й стралк. дывізіі 49-й арміі 2-га Бел. фронту, што загінулі пры вызваленні вёскі. З сак. 1960 г. ў Фашчаўскім, з 3.11.1965 г. ў Гарадзецкім сельсаветах. У 1991 г. 109 гаспадарак, 187 жыхароў, у складзе саўгаса «Гарадзец» (цэнтр — в. Гарадзец). Дзейнічалі 8-гадовая школа, б-ка, клуб, сталовая, магазін, фельч.-акушэрскі пункт. У 1997 г. 92 гаспадаркі, 157 жыхароў, сельская б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт. У 2007 г. ў складзе с.-г. прыватнага УП «Акцыянерны ашчадны банк «Гарадзец». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы (участак шашы) мерыдыянальнай арыентацыі з завулкамі. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы пераважна драўляныя. На У гасп. сектар.

**КРАСНАЯ ГОРКА** — вёска ў Чарнаруцкім с/с, за 23 км на З ад Шклова, 47 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Чарнаручча. 9 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Чарнаруцкім с/с Шклоўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1925 г. створана перасяленчае т-ва (7 сямей) па пераездзе на жыхарства на р. Енісей. 8.7.1934 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Горка». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1939 г. ў вёсцы было 120 жыхароў. У 1941 г. калгас аб'ядноўваў 26 гаспадарак, меў 126 га ворнай зямлі, 30 га лугоў, 30 коней, 26 кароў, 19 авечак. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 1 двор. У 1991 г. 24 гаспадаркі, 50 жыхароў, у складзе калгаса імя Свярдлова (цэнтр — в. Клімавічы). У 1997 г. 22 гаспадаркі, 49 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Палыкавіцкае». Планіровачна складаец-



ца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПнУ на ПдЗ і забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРАСНЫ ЛУЧ** — пасёлак у Каменналаўскім с/с, за 18 км на Пд ад Шклова, 33 км ад Магілёва, 1 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны. На Пд мяжуе з лесам, на У праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Шклоў. 33 гаспадаркі, 58 жыхароў (2007).

Засн. ў ліст. 1933 г., калі было скончана будаўніцтва Латвянскага цагельнага з-да. Уваходзіў у Старавадвянскі с/с. У 1937 г. 50 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Падпольшчыкі ў 1942 г. ўзарвалі на заводзе машыннае аддзяленне. Пасля вызвалення прадпрыемства было адноўлена. Указам Прэзідыума Вярх. Савета БССР ад 21.1.1969 г. пасёлак атрымаў назву «Чырвоны Прамень». Частка насельніцтва працавала ў калгасе «Зара» (цэнтр — в. Старая Вадва). Меліся магазін, грамадская лазня. У 1997 г. 55 гаспадарак, 125 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ТАА «Плодаагародніна». Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц, арыентаваных шыротна, перпендыкулярна да шашы і злучаных завулкам. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПнЗ — цагельны з-д.

**КРЫВЕЛЬ** — вёска ў Гарадзецкім с/с, за 10 км на ПдУ ад Шклова, 42 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ПдЗ цячэ р. Дзедва (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 47 гаспадарак, 91 жыхар (2007).

На З ад вёскі знаходзіцца гарадзішча ранняга жал. веку, якое сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Сучасная вёска вядома з 1604 г. як сяло ў Плешчыцкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. Да яе было прыпісана 38 валок зямлі. Кароль Сігізмунд III Ваза дараваў вёску Аршанскай езуіцкай калегіі, якой яна належала да 1820-х г. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У канцы 18 ст. вёска ў складзе маёнтка Хвашчаўка Магілёўскага павета Магілёўскага намесніцтва, 30 двароў, 253 жыхары, якія плацілі чынш, дзейнічала царква. У 1834 г. згадваецца с. Крывялёва ў Мсціслаўскім павеце, 34 двары, 157 жыхароў, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Любініцкай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 47 двароў, 327 жыхароў. На пач. 20 ст. 59 гаспадарак, 401 жыхар. У 1919 г. адкрыта 4-гадовая школа. З 20.8.1924 г. ў Княжыцкім с/с Шклоўскага р-на. У 1931 г. арганізаваны калгас «Звязда», які ў 1934 г. аб'ядноўваў 45 гаспадарак (абслугоўвала Фашчаўская МТС). З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 105 двароў, 605 жыхароў, далучаны пас. Валожына. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1941 г. каля вёскі трымалі абарону воіны 110-й стралк. дывізіі 61-га стралк. корпуса. З 22.10.1963 г. ў Гарадзецкім с/с. У 1991 г. 100 гаспадарак, 247 жыхароў, у складзе саўгаса «Гарадзец» (цэнтр — в. Гарадзец). Дзейнічалі пач. школа, б-ка, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, магазін. У 1997 г. 97 гаспадарак, 175 жыхароў. У 2007 г. ў складзе с.-г. прыватнага УП «Акцыянерны ашчадны банк «Гарадзец». Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова пераважна двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя. На Пн гасп. сектар.

У вёсцы нарадзіўся сав. кінаакцёр П.М.Алейнікаў (1914—65). Яго брат М.М.Шчасны быў старшынёй Падгайцаўскага с/с, актыўна ўдзельнічаў у калгасным будаўніцтве, забіты кулакамі ў снеж. 1932 г.



*П.М.Алейнікаў.*

**КУЧАРЫНА** — вёска ў Славенскім с/с, за 6 км на ПнУ ад Шклова, 46 км ад

Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пд цячэ р. Мар'янка (прыток р. Дняпро), на якой утворана вадасховішча. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 61 гаспадарка, 157 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. згадваецца як вёска ў Копыскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. ў Копыскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 9 двароў, 92 жыхары, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. 11 двароў, 72 жыхары. На пач. 20 ст. ў Любініцкай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 21 двор, 101 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1930 г. арганізаваны калгас імя Сталіна. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. 58 гаспадарак, 165 жыхароў, цэнтр калгаса «Запаветы Леніна», які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі і вырошчванні тэхн. культур. У 1990-я г. меў 1689 га с.-г. угоддзяў, у тым ліку 1206 га ворыўнай зямлі, 27 трактароў, 7 збожжаўборачных камбайнаў, 6 грузавых аўтамашын і інш. У вёсцы дзейнічалі дзіцячы сад, 8-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, медпункт, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 1997 г. 64 гаспадаркі, 170 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Амкадор-Шклоў». Працуюць школа, б-ка, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і злучаных завулкамі. Забудова двухбаковая, шчыльная, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Паўд. вуліца забудавана мураванымі жылымі дамамі тыпу катэджаў. На Пд вытв. сектар.

**ЛАДЫЖЫНА** — вёска ў Ардацкім с/с, за 32 км на ПдУ ад Шклова, 67 км ад Магілёва, 34 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны. На З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Даманы і Пудаўня і далей па шашы Масток—Дрыбін. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

Упершыню згадваецца ў 1742 г. як абруб Глінічаўскі (ён жа Ладыжынскі) у Даманаўскім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета, дзярж. уласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. вёска ў Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Плешчыцы Магілёўскага павета, 5 двароў, 21 жыхар, належала графу П.Завадоўскаму. Паводле перапісу 1897 г. існавалі вёскі Ладыжына 1 (2 двары, 21 жыхар) і Ладыжына 2 (3 двары, 27 жыхароў) у Нічыпаравіцкай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ. На пач. 20 ст. ў абедзвюх вёсках 6 двароў, 57 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1930-х г. вёскі аб'ядналіся, жыхары ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што за 0,5 км на З ад вёскі, ва ўрочышчы Чарапоўшчына, пахаваны сав. воіны, загінуўшыя ў 1941 і 1944 гг. у баях супраць гітлераўцаў. У 1991 г. 20 гаспадарак, 31 жыхар, у складзе саўгаса «Рабочы» (цэнтр — в. Ордаць). У 2007 г. ў складзе ААТ «Ардацкае». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЛАКУЦІ** — вёска ў Заходскім с/с, за 23 км на ПдУ ад Шклова, 39 км ад Магілёва, 25 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Рудзейка (прыток р. Арціслаўка). Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса, якая праходзіць праз вёску. 91 гаспадарка, 230 жыхароў (2007).

Упершыню ўпамінаецца ў 1643 г. як сяло ў Плешчыцкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета, дзярж. ўласнасць. У 1742 г. згадваецца як с. Лакуцёва (яно ж Дуброўка), 16 двароў, каля 20 валок зямлі, карчма. У 2-й пал. 18 ст. ў



валоданні графа П.Завадоўскага. Тады ў вёсцы быў 31 двор, 267 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў складзе маёнтка Плешчыцы, 35 двароў, 214 жыхароў. Пасля пракладкі ў 1845 г. шашы Віцебск—Магілёў у сяле размяшчалася паштовая станцыя (30 коней). Яе будынак, пабудаваны ў сярэдзіне 19 ст. па праекце 1843 г., з'яўляецца помнікам грамадз. архітэктуры. У 1880-я г. 41 двор, 184 жыхары. Апрача земляробства сяльчане займаліся рыбалоўствам, сплаўлялі плыты і ганялі баркі з соллю і зернем па Дняпры, а таксама перавозным і стальмашным промысламі, жанчыны выраблялі тканіну. Паводле перапісу 1897 г. ў Нічыпаравіцкай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 47 двароў, 329 жыхароў, хлебазапасны магазін, піцейны дом. На пач. 20 ст. ў вёсцы 52 двары, 356 жыхароў, вінная крама, школа. Паштовая станцыя ў 1909 г. была скасавана і застаўся 1 двор, 9 жыхароў. У час герм. акупацыі зах. часткі Шклоўшчыны ў 1918 г. вёска знаходзілася ў прыфрантавой паласе і ўваходзіла ў склад РСФСР. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені (у 1925 г. 85 вучняў).

З 20.8.1924 г. вёска ў Падгайцаўскім с/с Шклоўскага р-на БССР. Дзейнічала аддз. Шклоўскай паштова-тэлегр. канторы. У 1929 г. арганізаваны калгас «Барацьба». У ліку 25-тысячнікаў, накіраваных на працу ў вёску, быў супрацоўнік са шклоўскай папяровай ф-кі «Спартак» І.У.Смірноў, які стаў арганізатарам, а потым і першым старшынёй калгаса. Першапачаткова калгас аб'ядноўваў 12 гаспадарак з в. Лакуці, 2 гаспадаркі з в. Падгайцы і 3 — з в. Плешчыцы. У 1934 г. ў яго ўваходзілі 50 гаспадарак, абслугоўваўся Фашчаўскай МТС. У 1-ю пяцігодку пабудаваны будынак пач. школы, якая ў 1936 г. ператворана ў 7-гадовую. З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У 1939 г. 53 двары, 242 жыхары; калгас стаў удзельнікам Усесаюзнай с.-г. выстаўкі ў Маскве. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1941 г. каля вёскі трымалі абарону воіны 110-й стралк. дывізіі 61-га стралк. корпуса, якія вялі тут цяжкія баі. Акупанты ў ліп. 1941 г. спалілі 50 двароў, загубілі 2 жыхароў. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, каля шашы, пахаваны 7 воінаў 329-га стралк. палка 70-й стралк. дывізіі 33-й арміі, загінуўшых пры вызваленні вёскі. У 1968 г. на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе, пастаўлены абеліск. Пасля вайны адбудавана. 11.3.1960 г. Падгайцаўскі с/с скасаваны і вёска ўвайшла ў склад Заходскага с/с. У 1991 г. 92 гаспадаркі, 274 жыхары, цэнтр калгаса «50 гадоў Кастрычніка», які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі, вырошчванні тэхн. і збожжавых культур. У 1990-я г. меў 3193 га с.-г. угоддзяў, у тым ліку 2371 га ворнай зямлі, 37 трактароў, 9 збожжаўборачных камбайнаў, 9 грузавых аўтамашын і інш. У вёсцы дзейнічалі дзіцячы сад, 8-гадовая школа, б-ка, Дом культуры са стацыянарнай кінаўстаноўкай, сталовая, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, а таксама водаправод. У 1997 г. ў вёсцы 112 гаспадарак, 253 жыхары. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Ніва». Працавалі дзіцячы сад, б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Праект планіроўкі і забудовы вёскі рас-



*Фрагмент будынка паштовай станцыі ў в. Лакуці.*





працаваны ў 1981 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Галоўнай з'яўляецца прамалінейная вуліца (адрэзак шашы) мерыдыянальнай арыентацыі, да якой з У і З падыходзяць кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы пераважна драўляныя. На З вытв. сектар.

**ЛАТВА** — вёска ў Каменналаўскім с/с, за 16 км на Пд ад Шклова, 32 км ад Магілёва, 1 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Магілёў. 13 гаспадарак, 21 жыхар (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Копыскай акрузе Магілёўскай губерні. У 1785 г. ў складзе маёнтка Вадва Магілёўскага павета, 8 двароў, уласнасць памешчыка. У канцы 18 ст. 22 двары, 143 жыхары, належала С.Г.Зорычу. Захаваўся рапарт спраўніка ад 12.5.1861 г. аб пакаранні сялян Копыскага павета за адмаўленне ад выканання паншчыны. Лотва ў гэтым рапарце адзначана як вёска, адкуль «было сослано буйных крестьян в Сибирь и отдано без зачёта в солдаты... Проведено дознание. Выявлены главные зачинщики неповиновения — крестьяне Иван Захаров и Андрей Иванов... Они наказаны при всем сходе крестьян...». Памешчык меў у 1876 г. ў вёсках Лотва і Іазефора 1130 дзес. зямлі. На пач. 20 ст. ў вёсцы 37 двароў, 273 жыхары.

З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). Пачала дзейнічаць хата-чытальня. У лютым 1929 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», які першапачаткова аб'ядноўваў 20 гаспадарак (з 1934 г. ў зоне абслугоўвання Шклоўскай МТС). У 1933 г. запрацаваў цагельны з-д. У 1937 г. ў вёсцы 330 жыхароў, у калгасе дзейнічалі малочнатаварная і птушкагадоўчая фермы, пасека, былі праведзены электрычнасць, радыё, тэлефон, меўся клуб. Звеннявая калгаса М.І.Абрамовіч была ўдзельніцай Усесаюзнай с.-г. выстаўкі ў Маскве. З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 71 двор, пач. школа (у 1941 г. 77 дзяцей). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што ў скверы, пахаваны сав. воіны, якія загінулі ў баях за вызваленне вёскі. У 1946 г. створана Латвянская МТС, якая дзейнічала да сак. 1958 г. З сак. 1960 г. вёска ў Каменналаўскім с/с. У 1991 г. 47 гаспадарак, 79 жыхароў, у складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Старая Вадва). Дзейнічалі магазін, стацыянарная кінаўстаноўка, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 1997 г. 32 гаспадаркі, 62 жыхары. Працавала аддз. сувязі. У 2007 г. ў складзе ТАА «Плодаагародніна». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ пад вуглом да чыгункі. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя.



*На вясковым свяце ў в. Латва.*

**ЛЕШЧА** — былая вёска ў Славенскім с/с, за 16 км на ПнУ ад Шклова, 56 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса.



Вядома з 18 ст. У 1785 г. вёска, 18 двароў, 122 жыхары, млын, уласнасць памешчыка. У 1824 г. 16 двароў, 122 жыхары, уласнасць Магілёўскага касцёла. У 1880-я г. 30 двароў, 142 жыхары, частка з іх займалася вырабам розных быт. рэчаў з лыка і кары. Паводле перапісу 1897 г. ў Маслакоўскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 40 двароў, 265 жыхароў. На пач. 20 ст. ў вёсцы 39 двароў, 293 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1930-х г. жыхары ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. 12 гаспадарак, 16 жыхароў, у складзе калгаса імя Фрунзе (цэнтр — в. Любінічы). У 1997 г. 22 гаспадаркі, 39 жыхароў. Планіровачна складалася з плаўна выгнутай вуліцы шыротнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛІДЗІНА** — вёска ў Старасельскім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Шклова, 62 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Хацькова. 2 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Паводле перапісу 1897 г. засценак у Старасельскай вол. Аршанскага павета, 9 двароў, 70 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1930-х г. жыхары ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 22 двары, 135 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1944 г. спалілі вёску, загубілі 8 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1991 г. 7 гаспадарак, 11 жыхароў, у складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Стараселле). У 1997 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары. У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Александрыйскае». Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. будынкамі пастаўлены ўздоўж кароткай вуліцы блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі.

**ЛІТОЎСК** (да 17.7.1967 г. вёскі Літоўск 1 і Літоўск 2) — вёска ў Каменналаўскім с/с, за 8 км на Пд ад Шклова, 32 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пн цячэ р. Ульянка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Магілёў. 33 гаспадаркі, 84 жыхары (2007).

Вёска ўпершыню згадваецца ў сярэдзіне 17 ст. ў Высоцкім войтаўстве Шклоўскага графства. У 1695 г. ў ёй 7 двароў, у 1771 г. 16 двароў, 101 жыхар. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ўпамінаецца як в. Літоўка ў складзе маёнтка Шклоў Магілёўскага павета Магілёўскага намесніцтва, 18 двароў, 131 жыхар. У 2-й пал. 18 ст. в. Літоўская з'яўлялася сумесным уладаннем С.Г.Зорыча і С.Ф.Герасімава. Праз стагоддзе яна згадваецца як в. Літоўск у Магілёўскім павеце, мелася карчма. У 1880-я г. 25 двароў, 144 жыхары, частка насельніцтва займалася вырабам ільняной і пяньковай пражы і тканіны, шавецкім промыслам. Памешчык у 1881 г. меў тут 676 дзес. зямлі і карчму. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Шклоўскай вол. Магілёўскага павета, 34 двары, 198 жыхароў, хлебазапасны магазін. За вёскай было замацавана 676 дзес. зямлі. На пач. 20 ст. ў вёсцы 43 двары, 283 жыхары, вінная крама. З жн. 1924 г. ў Высокаўскім с/с. У вер. 1929 г. арганізаваны калгас, які ў 1934 г. аб'ядноўваў 13 гаспадарак і ўваходзіў у зону абслугоўвання Шклоўскай МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1939 г. 78 двароў, пач. школа, у якой у 1941 г. навучаліся 96 хлопчыкаў і дзяўчынак. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якую спалілі часткова. Пасля вайны адбудавана. З 1960 г., пасля скасавання Высокаўскага с/с, у Каменналаўскім с/с. У 1991 г. 44 гаспадаркі, 88 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоны Кастрычнік» (цэнтр — в. Вялікая Камароўка). У 1997 г. 40 гаспадарак, 131 жыхар. У 2007 г. ў складзе





філіяла СВК «Газавік-Сіпакова» вытв. РУП «Магілёўаблгаз». Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя. На ПдЗ гасп. сектар.

**ЛОПАВІЧЫ** — вёска ў Рыжкавіцкім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Шклова, 52 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пд мяжуе з лесам. На З цячэ р. Ульянка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Чарнаручча. 6 гаспадарак, 6 жыхароў (2007).

Вёска вядома з 17 ст. ў Высоцкім войтаўстве Шклоўскага графства, шляхецкая ўласнасць. У 1695 г. 16 двароў, у 1771 г. 29 двароў, 177 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. ў Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Шклоў Магілёўскага павета, 33 двары, 148 жыхароў, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Шклоўскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 21 двор, 155 жыхароў, хлебазапасны магазін. Побач існаваў аднайменны хутар, 2 двары, 8 жыхароў. На пач. 20 ст. 21 двор, 165 жыхароў, школа, у якой у 1907 навучаліся 26 хлопчыкаў і 10 дзяўчынак. Да 11.7.1919 г. ў Магілёўскай губ., потым у Магілёўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 9.5.1923 г. ў Шклоўскай вол. Магілёўскага павета. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1930 г. арганізаваны калгас імя Сталіна. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На могілках пахавана настаўніца Н.Ф.Хаўранкова — адважная разведчыца партыз. брыгады «Чэкіст», якая загінула ад рук гітлераўскіх карнікаў у вер. 1942 г. У 1991 г. 13 гаспадарак, 24 жыхары, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Рыжкавічы). У 1997 г. 10 гаспадарак, 18 жыхароў. З 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ. Забудова двухбаковая, драўляная, традыц., сядзібнага тыпу.



*Г.І.Вялічка.*

**ЛУТНА** — вёска ў Старасельскім с/с, за 14 км на З ад Шклова, 54 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Чарнаручча. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак, дзейнічала масларобная арцель. З 20.8.1924 г. вёска ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Камуна Молатава». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1953 г. да яе далучаны пас. Камуна. У 1991 г. 9 гаспадарак, 15 жыхароў, у складзе калгаса «Маяк» (цэнтр — в. Вялікае Уланава). У 1997 г. 6 гаспадарак, 8 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс». Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі пастаўлены ўздоўж кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ.

У в. Лутна нарадзіўся Герой Сав. Саюза Г.І.Вялічка (1922—99).

**ЛЫСАЯ ГАРА** — вёска ў Гарадзішчанскім с/с, за 19 км на ПдУ ад Шкло-

*Турысцка-экскурсійны комплекс Лысая гара каля аднайменнай вёскі.*







*Від на р. Дняпро з Лысай гары.*

ва, 49 км ад Магілёва, 21 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Княжыцы—Горкі. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. 6 гаспадарак, 7 жыхароў, у складзе калгаса «Юбілейны» (цэнтр — в. Акунёўка). У 1997 г. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў. У 2007 г. ў складзе ААТ «Новае Юбілейнае». Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі пастаўлены ўздоўж кароткай прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі.

**ЛЮБІНІЧЫ** — вёска ў Славенскім с/с, за 13 км на У ад Шклова, 53 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса, якая праходзіць паблізу вёскі. 154 гаспадаркі, 390 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 17 ст. У 1670 г. вёска (63 двары) у Гарадзецкім войтаўстве Копыскага графства Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1737 г. 43 двары, у 1759 г. пабудавана драўляная царква. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. с. Любіміч у Копыскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. ў Копыскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 58 двароў, 418 жыхароў. У вайну 1812 г. ў вёсцы 2 тыдні стаяў корпус французскага маршала Грушы. У

*Юныя спартсмены на тэрыторыі турысцка-экскурсійнага комплексу Лысая гара.*





*Уборка збожжа на палях раёна.*

1858 г. вёска ў Горацкім павеце, уласнасць памешчыка. У 1897 г. 88 двароў, 556 жыхароў, меліся школа (нар. вучылішча), хлебазапасны магазін, піцейны дом, царква. У школе ў 1889 г. навучаліся 44 хлопчыкі і дзяўчынка, у 1907 г. 36 хлопчыкаў і 5 дзяўчынак. На пач. 20 ст. 92 двары, 620 жыхароў, дзейнічалі млын і прыёмны пакой; працавала вінная крама. У ліп. 1918 г. пачаў дзейнічаць к-т беднаты. У 1920-я г. адкрыта хата-чытальня, у вясковай школе займаліся 94 вучні, створаны саўгас. З 1928 г. пачало дзейнічаць сыраробчае прадпрыемства. У ліст. 1929 г. арганізаваны калгас імя Фрунзе. На былой цэнтр. сядзібе саўгаса 1.11.1936 г. створана МТС (рэарганізавана 31.3.1957). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы дзейнічала падп. антыфаш. арг-цыя, якая ўзнікла на базе 5 падп. груп пры сустрэчы іх кіраўнікоў 14.1.1942 г. (сакратар — камандзір Чырв. Арміі І.Ф.Стукалаў). Падпольшчыкі праводзілі агітацыйна-прапагандысцкую работу сярод насельніцтва, распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, збіралі зброю, рыхтавалі людзей да партыз. барацьбы, разграмілі паліцэйскія ўчасткі ў вёсках Гарадзішча і Фашчаўка. Частка падпольшчыкаў пайшла ў партыз. атрад. І.Ф.Стукалаў загінуў у баі супраць гітлераўцаў зімой 1943 г. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны сав. воіны, якія загінулі ў 1941 г. На ўшанаванне памяці 65 вяскоўцаў, загінуўшых на франтах і ў партыз. барацьбе, у 1968 г. каля будынка праўлення калгаса пастаўлены абеліск. У 1972 г. 134 гаспадаркі, 465 жыхароў, пач. школа, Палац культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. У 1990 г. 155 гаспадарак, 365 жыхароў, у складзе калгаса імя Фрунзе — шматгаліновай гаспадаркі, якая спецыялізавалася на мясамалочнай жывёлагадоўлі і льнаводстве, мела 3941 га с.-г. угоддзяў, у т.л. 3201 га ворнай зямлі, 50 трактароў, 10 збожжаўборачных камбайнаў, 23 грузавыя аўтамашыны і інш. тэхніку. У 1997 г. 164 гаспадаркі, 461 жыхар, дзейнічалі майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, устаноўка па выпрацоўцы вітаміннай мукі, асфальтавы з-д, комплекс па адкорме свіней, лесапілка. Функцыянiравалі клуб, б-ка, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 2007 г. цэнтр ЗАТ «Амкадор-Шклоў». У вёсцы дзейнічалі комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1979 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных завулкамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі да-



мамі сядзібнага тыпу. На Пн — адміністрацыйна-грамадскі цэнтр. Тут узведзены грамадскія будынкі, пастаўлены бюст М.В.Фрунзе, жылую забудову складаюць тыпавыя індывідуальныя мураваныя дамы. На Пд гасп. сектар. У вёсцы размяшчаецца Музей прац. і баявой славы калгаса імя Фрунзе.

**ЛЯХАЎКА** — вёска ў Таўкачоўскім с/с, за 14 км на ПдЗ ад Шклова, 54 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Чарнаручча. 2 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 17 ст. як вёска ў Чарнаруцкім войтаўстве Шклоўскага графства, шляхецкая ўласнасць у ВКЛ. У 1771 г. 11 двароў, 61 жыхар. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. ў Магілёўскай акр. Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Шклоў Магілёўскага павета, 12 двароў, 84 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Чарнаруцкай вол. Магілёўскага павета, 8 двароў, 59 жыхароў. У аднайменным фальварку, які знаходзіўся непадалёку, 33 жыхары, меўся млын. У 1909 г. 9 двароў, 55 жыхароў, у фальварку 13 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас імя Варашылава. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 12 гаспадарак, 20 жыхароў, у складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Таўкачы). У 1997 г. 5 гаспадарак, 10 жыхароў. У 2007 г. ў складзе ЗАТ «Светлае». Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАІСЕЕНКІ** — вёска ў Гарадзішчанскім с/с, за 30 км на У ад Шклова, 50 км ад Магілёва, 32 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На З працякае р. Дзерна (прыток р. Бася). На ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Княжыцы—Горкі, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з сяр. 17 ст. як вёска ў Шклоўскім графстве, шляхецкая ўласнасць у ВКЛ. У 1695 г. 10 двароў, у 1771 г. 15 двароў, 91 жыхар. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Копыскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 16 двароў, 130 жыхароў, уласнасць памешчыка, які меў тут у 1871 г. 891 дзес. зямлі, карчму і млын. У 1930 г. арганізаваны калгас «Барацьба за сацыялізм». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. 10 гаспадарак, 14 жыхароў, у складзе племсаўгаса «Гарадзішча» (цэнтр — в. Гарадзішча), размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. У 1997 г. 7 гаспадарак, 11 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Новагарадзішчанскае». Планіровачна ўяўляе сабой кароткую вуліцу шыротнай арыентацыі з двухбаковай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**МАІСЕЕНКІ** — вёска ў Каменналаўскім с/с, за 14 км на ПдЗ ад Шклова, 30 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Чарнаручча. 11 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

У 1897 г. вёска Майсеенкі (яна ж Наваселле), 17 двароў, 158 жыхароў, у Шклоўскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ. Меўся хлебазапасны магазін. У 1909 г. 22 двары, 158 жыхароў. У 1930-я г. 186 жыхароў, арганізаваны калгас імя В.М.Молатава. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 41 гаспадарка, 65 жыхароў, у складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Старая Вадва). У 1997 г. 7 гаспадарак, 11 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ТАА «Плодаагародніна». Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і

забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**МАЛАЯ ЛОТВА** — вёска ў Старасельскім с/с, за 8 км на З ад Шклова, 48 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На З цячэ р. Тросенка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Круглае, якая праходзіць каля вёскі. 18 гаспадарак, 30 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990-я г. 37 гаспадарак, 72 жыхары, у складзе калгаса «Маяк» (цэнтр — в. Вялікае Уланава). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы, дзейнічалі пач. школа, магазін. У 1997 г. 31 гаспадарка, 48 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАЛОЕ ЗАМОШША** — вёска ў Александрыйскім с/с, за 22 км на Пн ад Шклова, 62 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Копысь на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ р. Машарня (прыток р. Вілейка). Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Орша, якая праходзіць паблізу вёскі. 26 гаспадарак, 37 жыхароў (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 18 ст. У 1897 г. вёска (8 двароў, 72 жыхары) у Баранскай вол. Аршанскага павета. У 1909 г. 11 двароў, 86 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Баранскай вол. Аршанскага павета Гомельскай, з 11.11.1920 г. Віцебскай губерняў РСФСР, з сак. 1924 г. ў складзе БССР, з 20.8.1924 г. ў Александрыйскім с/с Копыскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7. 1930). 8.3.1930 г. арганізаваны калгас «Серп і молат», з 8.7.1931 г. ў Шклоўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1939 г. 58 двароў, 244 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 3 двары, разрабавалі калгасную маёмасць. На вясковых могілках у брацкай магіле пахаваны 2 сав. лётчыкі, якія ў чэрв. 1944 г. загінулі ў паветраным баі. У 1990-я г. 63 гаспадаркі, 103 жыхары, у складзе калгаса «Дняпроўскі» (цэнтр — в. Александрыя). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы, дзейнічаў магазін. У 1997 г. 46 гаспадарак, 90 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Александрыйскае». Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц (адна працяглая, другая кароткая), арыентаваных з ПнЗ на ПнУ і злучаных завулкамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**МАЛОЕ ЗАРЭЧЧА** — былая вёска ў Гарадзецкім с/с, за 3 км на ПдУ ад Шклова, 37 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ПдУ мяжуе з лесам. На З цячэ р. Дняпро, у якую тут упадае р. Капуснік. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса.

На паўн.-ўсх. ускраіне вёскі знаходзіцца стараж. гарадзішча, якое сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай мінуўшчыне. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 19 ст. У 1897 г. былі вёскі Малое Зарэчча і Вялікае Зарэчча (Зарэчны Шклоў) у Любініцкай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ. З 20.8.1924 г. вёскі Малое Зарэчча і Вялікае Зарэчча мелі таксама назву Шклоў Зарэчны, цэнтр Зарэчна-Шклоўскага с/с Магілёўскай акругі. У 1929 г. арганізаваны калгас «Праэктар», у які першапачаткова ўвайшло 19 гаспадарак. Абслугоўвала калгас Шклоўская МТС. У 1933 г. вёска электрыфікавана. У 1940 г. 83 двары, 428 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Пасля скасавання ў 1954 г. Зарэчна-Шклоўскага с/с у Гарадзецкім с/с. У 1983 г. створаны Шклоўскі адкармачны



пункт (86 рабочых), які меў 187 коней, 450 галоў буйной рагатай жывёлы. У 1990-я г. 291 гаспадарка, 837 жыхароў, у складзе саўгаса «Гарадзец» (цэнтр — в. Гарадзец). Працавалі клуб, б-ка, магазін, дзіцячы сад, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, грамадская лазня. У 1997 г. ў вёсках Вялікае і Малое Зарэчча 93 гаспадаркі, 465 жыхароў. У вёсцы працавалі ААТ «Шклоўскі камбікормавы завод», прыватнае вытв. УП «Шклоўскі агракамбінат», ветэрынарна-санітарная ўстанова «Шклоўская раённая ветэрынарная станцыя». У 2007 г. ў складзе с.-г. прыватнага УП «Акцыянерны ашчадны банк «Гарадзец». 394 гаспадаркі, 1042 жыхары. Аснову планіровачнай структуры складае працяглая крывалінейная вуліца, арыентаваная з ПнЗ на ПнУ, да якой з У далучаюцца 2 дугападобныя вуліцы і ўтвараюць адвольную сетку кварталаў. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На У гасп. сектар. 13.6.2008 г. вёска ўвайшла ў склад г. Шклоў.

**МАЛОЕ УЛАНАВА** — вёска ў Старасельскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Шклова, 52 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пн і З мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Бярозаўка (прыток р. Дняпро). Трансп. сувязі па мясц. дарозе праз в. Вялікае Уланава і далей па шашы Шклоў—Круглае. 26 гаспадарак, 39 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 17 ст. як вёска Уланава 2 у Чырчынскім войтаўстве Шклоўскага графства Аршанскага павета Віцебскага ваяв., шляхецкая ўласнасць у ВКЛ. У 1695 г. 2 двары, у 1771 г. 7 двароў, 47 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. ў Копыскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. Ніжні Уланаў, 8 двароў, 71 жыхар, уласнасць памешчыка. У 1897 г. в. Уланава 2 Малое (14 двароў, 99 жыхароў) у Старасельскай вол. Аршанскага павета. У 1909 г. 24 двары, 182 жыхары. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 47 гаспадарак, 96 жыхароў, у складзе калгаса «Маяк» (цэнтр — в. Вялікае Уланава). У 1997 г. 39 гаспадарак, 68 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс». Дзейнічалі вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад—сярэдняя агульнаадукац. школа, Дом культуры, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, перасечанай ручаём і арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.






*Ураджай-2008 — будзем з хлебам!*

**МАЛОЕ ЧОРНАЕ** — вёска ў Рыжкавіцкім с/с, за 14 км на ПдЗ ад Шклова, 48 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пд размешчана возера, з якога выцякае р. Серабранка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Чарнаручча, якая праходзіць праз вёску. 59 гаспадарак, 135 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 17 ст. як вёска ў Чарнаруцкім войтаўстве Шклоўскага графства Аршанскага павета Віцебскага ваяв., шляхецкая ўласнасць у ВКЛ. У 1695 г. 47 двароў, у 1771 г. 21 двор, 132 жыхары. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Магілёўскім павеце, 27 двароў, 204 жыхары. У 1858 г. сяло, 71 рэвізская душа. У 1897 г. с. Чорнае Малое (38 двароў, 265 жыхароў) у Чарнаруцкай вол. Магілёўскага павета. У 1909 г. 35 двароў, 252 жыхары, меліся млын і казённая вінная крама. Дзейнічала школа, якую наведвалі дзеці з вёсак Малое Чорнае і Вялікае Чорнае. З 20.8.1924 г. ў Чарнянскім с/с Шклоўскага р-на Магілёўскай акругі. У 1934 г. арганізаваны калгас «Другая пяцігодка», які аб'яднаў 50 гаспадарак. У 1937 г. 276 жыхароў. З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 59 гаспадарак, 154 жыхары, у складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Вялікае Чорнае). Размяшчалася вытв. брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, працаваў магазін. У 1997 г. 72 гаспадаркі, 196 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс». Працавалі Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, б-ка, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пн гасп. сектар.

**МАЛЫ МІХАЙЛОЎ** — вёска ў Каменналаўскім с/с, за 19 км на Пд ад Шклова, 35 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На У і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Шклоў. 13 гаспадарак, 21 жыхар (2007).

Пачатак вёсцы паклаў пас. Новае Міхайлава (ён жа Багданаўка), які ў 1897 г. налічваў 3 двары, 23 жыхары і ўваходзіў у Таўпечыцкую вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 16 двароў, 81 жыхар, паблізу ў 2 маёнтках па 1 двары. У 1929 г. частка гаспадарак увайшла ў калгас «Праца». У 1939 г. 27 двароў, 139 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З першых дзён акупацыі была створана патрыят. група, якая пазней увайшла ў склад парт.-камсамольскай падп. арг-цыі, што дзейнічала на тэр. б. Старавадвянскага і Каменналаўскага сельсаветаў (кіраўнік С.Л.Шугалей). Падпольшчыкі збіралі зброю і перапраўлялі яе да партызан, ажыццяўлялі дыверсіі, распаўсюджвалі лістоўкі, збіралі разведдадзеныя. У 1990 г. 24 гаспадаркі, 43 жыхары, у складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Старая Вадва). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. У 1997 г. 19 гаспадарак, 32 жыхары. У 2007 г. вёска ў складзе ТАА «Плодаагародніна». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, якая на З раздвойваецца. Забудова аднабаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАЛЫ МЯЖНІК** — вёска ў Александрыйскім с/с, за 14 км на Пн ад Шклова, 54 км ад Магілёва, 2 км ад чыг. ст. Копысь на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ПнУ цячэ ручай (прыток р. Дняпро), на якім утворана невял. вадасховішча. Транспартныя сувязі па дарозе Шклоў—Орша, якая праходзіць паблізу вёскі. 15 гаспадарак, 20 жыхароў (2007).



У 1897 г. вёска Межнікі Малыя (10 двароў, 82 жыхары) у Старасельскай вол. Аршанскага павета. Меўся млын. У 1909 г. 12 двароў, 78 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Старасельскай вол. Аршанскага павета Гомельскай, з 18.11.1920 г. Віцебскай губ. РСФСР, з сак. 1924 г. ў складзе БССР, з 20.8.1924 г. ў Александрыйскім с/с Копыскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7. 1930), з 8.7.1931 г. Шклоўскага р-на. 2.3.1931 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна. У 1934 г. вёска электрыфікавана. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 7 двароў, разрабавалі калгасную маёмасць. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 96 сав. воінаў, якія загінулі пры яе вызваленні. На могілках пахаваны сав. лётчык, які загінуў у паветраным баі ў чэрв. 1944 г. У 1958 г. далучана в. Сярэдні Мяжнік, якая паводле рукапісных крыніц вядома з 1695 г. У пач. 1990 г. 47 гаспадарак, 87 жыхароў, у складзе калгаса імя Дзяржынскага (цэнтр — в. Вялікі Мяжнік). У 1997 г. 42 гаспадаркі, 62 жыхары. У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Александрыйскае». Дзейнічаў дзіцячы дом-інтэрнат. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой далучаюцца на Пд дугападобная, а на Пн прамалінейная вуліцы. Забудавана пераважна аднабакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАЛЫ СТАРЫ ШКЛОЎ** — вёска ў Рыжкавіцкім с/с, за 4 км на З ад Шклова, 44 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Круглае, якая праходзіць праз вёску. 62 гаспадаркі, 178 жыхароў (2007).

У 1880 г. вёска, 37 двароў, 213 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася сальмашным промыслам. З 1924 г. ў Рыжкавіцкім с/с Шклоўскага р-на. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан», які першапачаткова аб'ядноўваў 34 гаспадаркі. У 1931 г. вёска электрыфікавана. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 51 гаспадарка, 153 жыхары, цэнтр калгаса «Праўда», які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі і вырошчванні лёну, меў 2628 га с.-г. угоддзяў, у т.л. 2052 га ворнай зямлі, 38 трактароў, 14 грузавых аўтамашын, 9 збожжаўборачных камбайнаў і інш. тэхніку. Гаспадарка складалася з 2 вытв. участкаў і 9 жывёлагадоўчых ферм. У вёсцы Дом культуры, б-ка, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад-яслі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. У 1997 г. 70 гаспадарак, 190 жыхароў. У 2007 г. вёска з'яўлялася цэнтрам ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс», дзейнічаў фельч.-акушэрскі пункт. Праект планіроўкі і забудовы вёскі распрацаваны ін-там «Магілёўграмадзянпраект» у 1978 г. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Ад гэтай вуліцы адыходзіць на ПдЗ другая прамалінейная вуліца, якая забудавана мураванымі і драўлянымі грамадскімі будынкамі, а таксама мураванымі жылымі дамамі тыпу катэджаў. На ПдУ вытв. сектар.

**МАЛЫЯ АЎЧЫНЕНКІ** — вёска ў Рыжкавіцкім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Шклова, 52 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ПнЗ цячэ р. Серабранка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Чарнаручча, якая праходзіць праз вёску. 41 гаспадарка, 91 жыхар (2007).

За 0,2 км на У ад вёскі знаходзіцца курганны могільнік, які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. У 1897 г. в. Аўчыненкі (68 двароў, 478 жыхароў) у Шклоўскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ. Меліся школа граматы, 2 хлебазапасныя магазі-

ны, заезны дом. У 1909 г. 77 двароў, 555 жыхароў, непадалёку была сядзіба (1 двор, 3 жыхары). На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені. У сярэдзіне 1920-х г. в. Аўчыненкі падзелена на дзве: Малыя Аўчыненкі і Вялікія Аўчыненкі. З 1924 г. ў Чэрнеўскім с/с Шклоўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1934 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік», які першапачаткова аб'ядноўваў 36 гаспадарак. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 57 гаспадарак, 132 жыхары, у складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Вялікае Чорнае). Размяшчалася вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы. У 1997 г. 52 гаспадаркі, 132 жыхары. З 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс». Планіровачна складаецца з 3 кароткіх прамалінейных вуліц, якія пад прамым вуглом падыходзяць да шашы (дзве з ПнУ, адна з ПдЗ). Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. На Пн — гасп. сектар.

**МАЛЫЯ ЛАЗІЦЫ** — вёска ў Таўкачоўскім с/с, за 24 км на ПдЗ ад Шклова, 38 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Вабіч (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Чарнаручча. 46 гаспадарак, 90 жыхароў (2007).

Засн. як самастойная вёска ў выніку адгалінавання ад в. Лазіцы, якая ў 1785 г. налічвала 32 двары, 221 жыхара, была ў складзе маёнтка Галоўчын Магілёўскага павета Магілёўскага намесніцтва, з'яўлялася ўласнасцю памешчыка. У 1897 г. побач былі фальварак Лазіцы (1 двор, 9 жыхароў) і аднайменная карчма (1 двор, 11 жыхароў). Восенню 1899 г. вяскоўцы сумесна з сялянамі вёсак Вадва, Селішча, Таўпечыцы правялі высечку памешчыцкага лесу на пл. 500 дзес. У 1909 г. 70 двароў, 403 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная ніва». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 77 гаспадарак, 167 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтр — в. Вялікія Лазіцы). Размяшчалася вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы. У 1997 г. 69 гаспадарак, 123 жыхары. У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Гавяды-Агра». Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАЛЫЯ СЛАВЕНІ** — вёска, цэнтр Славенскага с/с, за 11 км на ПнУ ад Шклова, 51 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Чарніца). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 210 гаспадарак, 584 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. ў выніку падзелу в. Славені на дзве: Славені Вялікія і Славені Малыя. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «13-ы Кастрычнік», які ў 1935 г. атрымаў імя С.М.Кірава. Першым старшынёй калгаса быў удзельнік грамадз. вайны вясковы камуніст А.Ц.Прохараў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1941 г. ў вёсцы размяшчаўся камандны пункт 53-й стралк. дывізіі, якая займала паласу абароны Копысь—Шклоў і з 8 да 11.7.1941 г. мужна змагалася з пераўзыходзячымі сіламі гітлераўскіх войск. У брацкай магіле, што на могілках, пахаваны сав. воіны, якія загінулі пры вызваленні вёскі. У 1990 г. 219 гаспадарак, 744 жыхары, у складзе калгаса імя Кірава (цэнтр — в. Вялікія Славені). Размяшчаліся птушкагадоўчая ферма, лесапілка, вытв. брыгада, зернедрабілка, працаваў магазін, дзіцячы сад, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сталовая, аддз. сувязі. У 1997 г. 223 гаспадаркі, 765 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Вялікія Славені». Праект



планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1984 г. Бел. н.-д. і праектным ін-там па будаўніцтве ў вёсцы. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, да якой з З падыходзіць завулак. Забудавана традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На З размешчаны жывёлагадоўчы комплекс і іншыя гасп. пабудовы.

У Славенскі с/с уваходзяць 20 вёсак.

**МАЛЫЯ СЛІЖЫ** — вёска ў Гарадзішчанскім с/с, за 34 км на У ад Шклова, 60 км ад Магілёва, 36 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На З цячэ р. Аўчоса (прыток р. Бася). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Гарадзішча і далей па шашы Княжыцы—Горкі. 10 гаспадарак, 24 жыхары (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 18 ст. У 1777 г. в. Сліжжа Малое ў Копыскай акр. Магілёўскай губ. У канцы 18 — першай пал. 19 ст. ўласнасць графа Агінскага. Гаспадар маёнтка меў тут у 1859 г. 348 дзес. зямлі і млын. У 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 52 двары, 369 жыхароў, меўся хлебазапасны магазін. У аднайменным фальварку было 4 двары, 15 жыхароў, млын. У 1909 г. ў вёсцы 57 двароў, 476 жыхароў, у фальварку 1 двор, 2 жыхары. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня, у 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 56 двароў, 249 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У лют. 1944 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1961 г. далучана в. Кулажанка. У 1990 г. 33 гаспадаркі, 60 жыхароў, у складзе саўгаса «Юбілейны» (цэнтр — в. Акунёўка). У 1997 г. 24 гаспадаркі, 52 жыхары. У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Новае Юбілейнае». Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных завулкам. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАНЬКАВА** — вёска ў Александрыйскім с/с, за 16 км на ПнЗ ад Шклова, 56 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Копысь на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У мяжуе з лесам. Трансп. сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Хацькова. 10 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 17 ст. У 1667 г. маёнтак Манькаўшчызна ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. ВКЛ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. в. Манькаў у Копыскай акрузе Магілёўскай губ. У данясенні спраўніка ад 12.5.1861 г. губернатару адзначаецца, што сяляне Манькавіч адмовіліся працаваць на паншчыне. У 1897 г. фальварак (2 двары, 35 жыхароў) у Старасельскай вол. Аршанскага павета, а ў 1909 г. тут былі 2 маёнткі, 2 двары, 25 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Старасельскай вол. Аршанскага павета Гомельскай, з 18.11.1920 г. Віцебскай губерняў РСФСР, з сак. 1924 г. ў складзе БССР, з 20.8.1924 г. ў Александрыйскім с/с Копыскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7.1930), з 8.7.1931 г. Шклоўскага р-на. 3.2.1931 г. вяскоўцы разам з сялянамі в. Падкняжанне арганізавалі калгас «Новы шлях». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 21 гаспадарка, 39 жыхароў, у складзе калгаса імя Дзяржынскага (цэнтр — в. Вялікі Мяжнік). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, кармакухня, працаваў магазін. У 1997 г. 17 гаспадарак, 27 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Александрыйскае». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай аднабакова, шчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**МАХАВОЕ** — вёска ў Каменналаўскім с/с, за 13 км на Пд ад Шклова, 29 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пд мяжуе з лесам. Трансп. сувязі па шашы Шклоў—Магілёў, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 10 гаспадарак, 14 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. пасёлак у Высоцкім с/с, у 1934 г. 130 жыхароў. У ліст. 1934 г. арганізаваны калгас «17 гадоў Кастрычніка», які ў 1939 г. аб'ядноўваў 45 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 25 гаспадарак, 50 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоны Кастрычнік» (цэнтр — в. Камароўка). Размяшчаліся паляводчая брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы, працавалі клуб, грамадская лазня. У 1997 г. 19 двароў, 36 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе філіяла СВК «Газавік-Сіпакова» вытв. РУП «Магілёўаблгаз». Планіроўка Г-падобная. Да прамалінейнай вуліцы, арыентавнай з ПдЗ на ПнУ, далучаецца з ПнЗ другая прамалінейная вуліца. Забудавана шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАЦАВА** — вёска ў Старасельскім с/с, за 12 км на З ад Шклова, 52 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Круглае. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 17 ст. як вёска ў Чырчынскім войтаўстве ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У канцы 17 ст. не існавала. У 1897 г. засценак (17 двароў, 97 жыхароў) у Старасельскай вол. Аршанскага павета. У 1909 г. 8 двароў, 70 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 12 гаспадарак, 5 жыхароў, у складзе калгаса «Маяк» (цэнтр — в. Вялікае Уланава). У 1997 г. 8 гаспадарак, 12 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МЕРЧ** — вёска ў Таўкачоўскім с/с, за 24 км на ПдЗ ад Шклова, 36 км ад Магілёва, 26 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пд цячэ р. Васілеўка (прыток р. Вабіч). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Круглае. 19 гаспадарак, 22 жыхары (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 1743 г. як сяло ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. ВКЛ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. с. Мерча ў Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. 27 двароў, 145 жыхароў, у складзе маёнтка Галоўчын Магілёўскага павета Магілёўскай губ., уласнасць памешчыка. У 1858 г. ў Магілёўскім павеце, 91 рэвізская душа. У 1897 г. ў Таўпечыцкай вол. Магілёўскага павета, 65 двароў, 378 жыхароў, меліся школа граматы, хлебазапасны магазін, вінная крама. У 1909 г. 67 двароў, 398 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 39 гаспадарак, 53 жыхары, у складзе калгаса «Шлях камунізму» (цэнтр — в. Вялікія Лазіцы). Размяшчаліся вытв. брыгада, авечкагадоўчая ферма, магазін. У 1997 г. 39 гаспадарак, 53 жыхары. У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Гавяды-Агра». Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма засл. артыста Рэспублікі Беларусь, сляпога спевака І.У.Тамашэвіча; даследчыка і публіцыста, сааўтара кнігі «Аляксандр Лукашэнка — Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь» М.Р.Жыгоцкага.

**МІКАЛАЕЎКА** — вёска ў Заходскім с/с, за 26 км на ПдУ ад Шклова, 36 км ад Магілёва, 28 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 22 гаспадаркі, 34 жыхары (2007).



Вядома па пісьмовых крыніцах з 19 ст. У 1897 г. пасёлак (2 двары, 2 жыхары) у Нічыпаравіцкай вол. Горацкага павета. З 20.8.1924 г. ў Нічыпаравіцкім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ударнік». З 2.3.1931 г. ў Шклоўскім р-не. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990-я г. 54 гаспадаркі, 86 жыхароў, у складзе калгаса імя Андрэева (цэнтр — в. Еўдакімавічы). Размяшчаліся вытв. брыгада, свінагадоўчая ферма, працаваў магазін. У 1997 г. 39 гаспадарак, 64 жыхары. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Ніва». Планіроўка Г-падобная. Да працяглай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі далучаецца на Пн кароткая вуліца шыротнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі сядзібамі.

Радзіма бел. юрыста, чл.-кар. НАН Беларусі В.І.Шабайлава (нар. ў 1931).

**МІКАЛАЕЎКА 1** — вёска ў Каменналаўскім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Шклова, 28 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Чарнаруччa. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

У 1897 г. пасёлак (14 двароў, 86 жыхароў) у Шклоўскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 16 двароў, 86 жыхароў. Са жн. 1924 г. ў Высоцкім с/с. У вер. 1930 г. арганізаваны калгас «Працаўнік», які ў 1934 г. аб'ядноўваў 25 гаспадарак і ўваходзіў у зону абслугоўвання Шклоўскай МТС. У 1930-я г. дзейнічала тарфяная арцель «Вольная праца». У 1939 г. 61 двор, 233 жыхары, мелася пач. школа, у якой было больш за 60 вучняў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Пасля скасавання ў 1960 г. Высоцкага с/с у Каменналаўскім с/с. Да 1980 г. былі вёскі Мікалаеўка 1 і Мікалаеўка 2, якія ў 1980 г. зліліся ў адзін населены пункт. У 1990 г. 12 гаспадарак, 18 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоны Кастрычнік» (цэнтр — в. Вялікая Камароўка). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. У 1997 г. 9 гаспадарак, 15 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе філіяла СВК «Газавік-Сіпакова» вытв. РУП «Магілёўаблгаз». Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма ген.-лейт. Я.Ц.Марчанкі (1913—80), удзельніка абарончых баёў у Беларусі, на Смаленшчыне, пад Масквой, Варшаўска-Пазнанскай і Берлінскай аперацый.



*В.І.Шабайлаў.*

**МІКІЦІНІЧЫ** — вёска ў Славенскім с/с, за 12 км ад Шклова, 52 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Шклоў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Каменка (прыток р. Чарніца), на якой утвораны вадаём. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 50 гаспадарак, 78 жыхароў (2007).

У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца ў 1650 г., калі вёска была ў Чурылаўскай вол. Копыскага графства Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, належала шляхціцу. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. ў Копыскай акрузе Магілёўскай губ. У 1783 г. 46 двароў, 368 жыхароў. Гаспадар маёнтка меў тут у 1856 г. 1201 дзес. зямлі. У 1880 г. 62 двары, 302 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася бандарным і стальмашным промысламі, вырабам розных быт. рэчаў з лыка і кары. У 1897 г. ў Любініцкай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 81 двор, 501 жыхар. У 1905 г. ў вёсцы адбываліся хваляванні, аб чым даносіў нач. Магілёўскага жандарскага ўпраўлення ў дэпартамент паліцыі. У 1909 г. 91 двор, 629 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «1-я пяцігодка», у 1932 г. вёска электрыфікавана. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 97 гаспадарак, 189 жыхароў, у складзе калгаса імя

Кірава (цэнтр — в. Вялікія Славені). Дзейнічалі вытв. брыгада, зернедрабільня, меліся клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, пач. школа, магазін. У 1997 г. 85 гаспадарак, 147 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Вялікія Славені». Працавалі б-ка, клуб. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, якія злучаны завулкам, а на Пд прамалінейнай вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія мураваныя будынкі. На паўн. ускраіне гасп. сектар.

Радзіма рус. пісьменніка І.М.Шаўцова.

**НАВАСЕЛЛЕ** — вёска ў Заходскім с/с, за 20 км на ПдУ ад Шклова, 40 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны. На З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса, якая праходзіць паблізу вёскі. 13 гаспадарак, 22 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Падгайцаўскім, з 11.3.1960 г. ў Заходскі сельсаветах Шклоўскага р-на. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Сцяг». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 21 гаспадарка, 40 жыхароў, у складзе калгаса «50 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Лакуці). У 1997 г. 21 гаспадарка, 33 жыхары. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Ніва». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Гарадзішчанскім с/с, за 33 км на У ад Шклова, 61 км ад Магілёва, 35 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Княжыцы—Горкі, якая праходзіць каля вёскі. 52 гаспадаркі, 135 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 17 ст. У 1965 г. 36 двароў, у 1771 г. 41 двор, 286 жыхароў, у складзе ВКЛ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Копыскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 51 двор, 440 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1897 г. 72 двары, 481 жыхар, у Гарадзішчанскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., меліся хлебазапасны магазін, царк.-прыходская школа. У аднайменнай карчме, што знаходзілася побач, быў 1 двор, 4 жыхары. У 1900 г. для школы пабудавана памяшканне. У 1909 г. 83 двары, 587 жыхароў. У 1917 г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. быў 61 вучань. У ліп. 1928 г. арганізаваны калгас «Прамень Кастрычніка», які ў 1933 г. аб'ядноўваў 110 гаспадарак. У 1940 г. 26 двароў, 105 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы ў чэрв. 1944 г. спалілі 23 двары, загубілі 5 жыхароў, абрабавалі вёску (засталася адна карова і схаваныя ў лесе 24 кані). У 1990 г. 81 гаспадарка, 195 жыхароў, у складзе племяннай гаспадаркі «Гарадзішча» (цэнтр — в. Гарадзішча). Размяшчалася вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, устаноўка па вырабе вітаміннай мукі, меліся клуб, б-ка, 8-гадовая школа, магазін. У 1997 г. 82 гаспадаркі, 174 жыхары, працаваў сельскі клуб. У 2007 г. вёска з'яўлялася цэнтрам ААТ «Новагарадзішчанскае». Дзейнічала сярэдняя агульнаадукацыйная школа. Планіровачна складаецца з 2 амаль паралельных паміж сабой вуліц (адна плаўна выгнутая, другая прамалінейная) мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных завулкамі і забудаваных двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі. На Пн гасп. сектар.

**НІЗОЎЦЫ** — вёска ў Александрыйскім с/с, за 7 км на ПнЗ ад Шклова, 47 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пд цячэ р. Тросенка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па



мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Орша. 20 гаспадарак, 38 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1777 г. в. Паднізоўе, у Копыскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. 10 двароў, 63 жыхары, належала Шклоўскаму дамініканскаму кляштару езуітаў. У 1897 г. ў Старасельскай вол. Аршанскага павета, 18 двароў, 167 жыхароў. У 1909 г. 26 двароў, 189 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Старасельскай вол. Аршанскага павета Гомельскай, з 18.11.1920 г. Віцебскай губерняў РСФСР, з сак. 1924 г. ў складзе БССР, з 20.8.1924 г. ва Уланаўскім с/с Шклоўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7. 1930). У 1933 г. арганізаваны калгас імя Будзённага. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1939 г. ў вёсцы 252 жыхары. У 1941 г. 49 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 7 двароў, разрабавалі маёмасць. У 1991 г. 36 гаспадарак, 76 жыхароў, у складзе калгаса «Ударнік» (цэнтр — в. Слабодка). Размяшчалася вытв. брыгада, дзейнічаў клуб. У 1997 г. 34 гаспадаркі, 58 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Александрыйскае». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай амаль шыротна ўздоўж берага ракі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НІЧЫПАРАВІЧЫ** — вёска ў Фашчаўскім с/с, за 23 км на ПдУ ад Шклова, 36 км ад Магілёва, 25 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На Пд — воз. Святое і цячэ р. Арціслаўка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 30 гаспадарак, 55 жыхароў (2007).

За 0,4 км на Пд ад вёскі некалі знаходзіўся курганны могільнік (застаўся 1 курган), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай мінуўшчыне. У рукапісных крыніцах упершыню ўпамінаецца ў фрагментах інвентару 1560 г. як сяло ў Магілёўскай вол. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1580 г. перададзена памешчыку. У 1604 г. 42 двары ў Даманоўскім войтаўстве, прыпісана да Магілёўскага замка, а потым да Магілёўскай каралеўскай эканоміі. За вёскай было замацавана 40 валок ворнай зямлі. У 1635 г. 50 двароў, дзярж. ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. 56 двароў, 298 жыхароў, мелася пабудаваная з дрэва царква, у складзе маёнтка Плешчыцы Магілёўскага павета, уласнасць памешчыка. У канцы 18 ст. ў валоданні графа П.В.Завадоўскага. У 1839 г. пабудавана новая драўляная царква. У 1857 г. сяло, дзярж. маёмасць. Частка вяскоўцаў займалася вырабам розных быт. рэчаў з лыка і кары. У 1875 г. пачала дзейнічаць школа (нар. вучылішча), у якой у 1889 г. навучалася 28 хлопчыкаў і 4 дзяўчынкі, у 1907 г. — 81 хлопчык, 8 дзяўчынак. У канцы 19 ст. школа ператворана ў царк.-прыходскую. У 1880 г. дзейнічалі 2 царквы. У 1897 г. 37 двароў, 232 жыхары, цэнтр воласці Горацкага павета Магілёўскай губ. Непадалёку быў фальварак (1 двор, 10 жыхароў). У 1909 г. ў сяле 44 двары, 267 жыхароў, у фальварку — 2 двары, 22 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. цэнтр с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі, з 3.3.1931 г. Шклоўскага р-на. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якой у 1923 г. быў перададзены нацыяналізаваны будынак. У 1925 г. ў школе былі 94 вучні. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. У 1-ю пяцігодку пабудавана новае памяшканне для пач. школы, ператворанай потым у 7-гадовую. З 1928 г. дзейнічалі сыраробная майстэрня. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвонае Сормава», адкрыты ўрачэбна-амбулаторны ўчастак. Дзейнічала камсамольская ячэйка. З 1934 г. калгас абслугоўвала Фашчаўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. ў вёсцы 96 двароў, 674 жыхары, 7-гадовая школа ператворана ў сярэднюю (431 вучань, 20 настаўнікаў). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да

26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1952 г. ў Фашчаўскім с/с. У 1991 г. 71 гаспадарка, 134 жыхары, у складзе саўгаса — эксперыментальнай базы «Спартак» (цэнтр — в. Фашчаўка). Размяшчалася вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, зернедрабільня, працавалі магазін, клуб, б-ка, стацыянарная кінаўстаноўка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, 8-гадовая школа. У 1997 г. 64 гаспадаркі, 110 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе РУСП «Эксперыментальная база «Спартак». Працавалі фельч.-акушэрскі пункт, клуб, б-ка. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НОВАЕ БРАШЧЫНА** — вёска ў Старасельскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Шклова, 52 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На З цячэ р. Варопанка (прыток р. Бярозаўка). На З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Круглае—Шклоў, якая праходзіць каля вёскі. 32 гаспадаркі, 55 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 17 ст. як вёска ў Чырчынскім войтаўстве Шклоўскага графства ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1695 г. 6 двароў, у 1771 г. 22 двары, 138 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. в. Брашчын Новы, у Копыскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. ў Копыскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 29 двароў, 180 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1868 г. вяскоўцы за свой кошт адкрылі школу, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1897 г. ў Старасельскай вол. Аршанскага павета, 48 двароў, 329 жыхароў, меўся хлебазапасны магазін. У 1909 г. 50 двароў, 281 жыхар. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. былі 64 вучні, дзейнічала б-ка. У 1933 г. пач. школа пераўтворана ў 7-гадовую. Наведвалі школу дзеці з вёсак Новае Брашчына, Трылесіна, Гаршкова, Шахава, Калінка, Тройца, пасёлкаў Балота, Капысціна, хутароў Гаршкова, Калінка, Пушча. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Шклоўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У ліст. 1929 г. арганізаваны калгас «Барацьба», які ў 1940 г. аб'ядноўваў 45 гасп. Дзейнічаў ільнозавод. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 1954 г. ва Уланаўскім, а з 1963 г. ў Старасельскім с/с. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 8 двароў. Вызвалена 26.6.1944 г. У 1959 г. 7-гадовая школа пераўтворана ў 8-гадовую, а потым — у 10-гадовую. У 1973 г. працавалі лесапільня, камбінат быт. абслугоўвання, млын. Дзейнічалі сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі і ветэрынарны пункты, аддз. сувязі, магазін. У 1991 г. 57 гаспадарак, 152 жыхары, у складзе калгаса «Маяк» (цэнтр — в. Вялікае Уланава). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, працавалі сярэдняя школа, клуб, б-ка, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. У 1997 г. 46 гаспадарак, 106 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс». Дзейнічалі комплексны прыёмны пункт, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з 3 кароткіх, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных мясц. дарогай. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На У грамадскі цэнтр, на Пд гасп. сектар.

**НОВАЕ ВІЛЬЯНАВА** — вёска ў Ардацкім с/с, за 32 км на У ад Шклова, 60 км ад Магілёва, 34 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ р. Бася (прыток р. Проня), на У — яе прыток р. Лешня. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Княжыцы—Горкі. 13 гаспадарак, 22 жыхары (2007).



Засн. ў пач. 20 ст. У 1909 г. тут быў фальварак (1 двор, 1 жыхар), у Гарадзішчанскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 33 гаспадаркі, 55 жыхароў, у складзе саўгаса «Рабочы» (цэнтр — в. Ордаць). У 1997 г. 27 гаспадарак, 47 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Ардацкае». Планіроўка У-падобная. Да прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, далучаецца пад вуглом з ПдУ кароткая прамалінейная вуліца. Забудова драўляная, двухбаковая, сядзібнага тыпу.

**НОВАЕ ВЫСОКАЕ** — вёска ў Каменналаўскім с/с, за 12 км на Пд ад Шклова, 35 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Лотва і далей па шашы Магілёў—Шклоў. 12 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Паводле перапісу 1939 г. ў Высоцкім с/с, 23 двары, 161 жыхар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Пасля скасавання ў 1960 г. Высоцкага с/с вёска ўвайшла ў Каменналаўскі с/с. У 1990 г. 20 гаспадарак, 37 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоны Кастрычнік» (цэнтр — в. Вялікая Камароўка). У 1997 г. 17 гаспадарак, 23 жыхары. У 2007 г. вёска ў складзе філіяла СВК «Газавік-Сіпакова» вытв. РУП «Магілёўаблгаз». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НОВАЕ ЗАЙМІШЧА** — вёска ў Ардацкім с/с, за 40 км на ПдУ ад Шклова, 44 км ад Магілёва, 40 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Лешня (прыток р. Бася). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Княжыцы—Горкі. 17 гаспадарак, 27 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1930-я г. існавалі вёскі Новае Займішча і Старое Займішча. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёскі акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1941 г. ў час жорсткіх абарончых баёў супраць акупантаў сав. часці ў раёне Ордаць—Дзіўнава—Займішча пераходзілі ў контрнаступленне. У 1961 г. да вёсак далучана в. Казлякі. З 1967 г. яны аб'ядналіся ў в. Займішча. У 1991 г. ў в. Займішча 46 гаспадарак, 96 жыхароў, у складзе саўгаса «Рабочы» (цэнтр — в. Ордаць). У 1997 г. ў вёсках Новае Займішча і Старое Займішча 32 гаспадаркі, 50 жыхароў. З 1998 г. в. Новае Займішча. Працаваў магазін. У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Ардацкае». Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя.

**НОВАЯ ВАДВА** — вёска ў Каменналаўскім с/с, за 17 км на ПдЗ ад Шклова, 30 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Чарнаручча. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

У 1897 г. засценак (21 двор, 146 жыхароў) у Таўпечыцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ. У 1899 г. сяляне в. Новая Вадва з жыхарамі вёсак Старая Вадва, Селішча, Малыя Лазіцы, Таўпечыцы правялі высечку памешчыцкага лесу на пл. 500 дзес. У 1909 г. 23 двары, дзейнічаў млын. Непадалёку быў маёнтак (1 двор, 6 жыхароў). У 1928 г. адкрыта школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Варашылава, які з 1933 г. ўваходзіў у зону абслугоўвання Шклоўскай МТС. У 1939 г. 42 двары, 222 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г.





акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1960 г. ў Каменналаўскім с/с. У 1990 г. 13 гаспадарак, 24 жыхары, у складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Старая Вадва). У 1997 г. 3 гаспадаркі, 9 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ТАА «Плодаагародніна». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НОВАЯ ЛЕШЧА** — вёска ў Славенскім с/с, за 17 км на ПнУ ад Шклова, 57 км ад Магілёва, 19 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Заброддзе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 11 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з пач. 20 ст. У 1909 г. хутар (15 двароў, 43 жыхары) у Любініцкай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 36 гаспадарак, 55 жыхароў, у складзе калгаса імя Фрунзе (цэнтр — в. Любінічы). Размяшчаліся вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы. У 1997 г. 22 гаспадаркі, 34 жыхары. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Амкадор-Шклоў». Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НОВЫЯ АЎЧЫНЕНКІ** — вёска ў Рыжкавіцкім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Шклова, 55 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Чарнаручча. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 1924 г. ў Чэрнеўскім с/с Шклоўскага р-на Магілёўскай акругі. У 1931 г. арганізаваны калгас «Новыя Аўчыненкі», які аб'яднаў 32 гаспадаркі. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 16 гаспадарак, 23 жыхары, у складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Вялікае Чорнае). Размяшчалася вытв. брыгада. У 1997 г. 6 гаспадарак, 9 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на Пн далучаецца кароткая прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**НОВЫЯ КОМСІНІЧЫ** — вёска ў Каменналаўскім с/с, за 14 км на ПдЗ ад Шклова, 35 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Чарнаручча. 17 гаспадарак, 34 жыхары (2007).

У 1880 г. вёска ў Магілёўскім павеце. У 1897 г. в. Нова-Комсенічы (яна ж Юзэфава) налічвала 15 двароў, 75 жыхароў, у Таўпечыцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 23 двары, 164 жыхары. З жн. 1924 г. ў Старавадвянскім с/с Шклоўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У лют. 1931 г. арганізаваны калгас «Зара», у які ўвайшло 12 бядняцкіх гаспадарак. У 1934 г. ў калгасе 50 гаспадарак, дзейнічала Шклоўская МТС. У 1939 г. 61 двор, 300 жыхароў. Дзейнічала пач. школа, у якой у 1941 г. было 105 вучняў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі частку вёскі. У брацкай магіле, што на могілках, пахаваны 2 сав. воіны і 4 партызаны, якія загінулі ў баі за вызваленне вёскі. Пасля скасавання ў 1960 г. Старавадвянскага с/с у Каменналаўскім с/с. У 1967 г. далучаны вёскі Клімянкі, Латышчына. У 1991 г. 17 гаспадарак, 34 жыхары, у складзе калгаса



«Зара» (цэнтр — в. Старая Вадва). Размяшчалася вытв. брыгада, дзейнічаў клуб. У 1997 г. 29 гаспадарак, 49 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ТАА «Плодаагароднiна». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На У і З — адасобленыя ўчасткі забудовы.

**НОВЫЯ СЛІЖЫ** — вёска ў Гарадзішчанскім с/с, за 30 км на У ад Шклова, 60 км ад Магілёва, 32 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Бася (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Княжыцы—Горкі. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 17 ст. як вёска (4 двары) у Анікаўскім войтаўстве Копыскага графства Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1737 г. 12 двароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ўласнасць памешчыка. У 1897 г. 14 двароў, 93 жыхары. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 36 двароў, 193 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У лютым 1944 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 2 жыхароў. У 1990 г. 9 гаспадарак, 18 жыхароў, у складзе саўгаса «Юбілейны» (цэнтр — в. Акунёўка). У 1997 г. 6 гаспадарак, 12 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Новае Юбілейнае». Планіровачна ўяўляе прамалінейную вуліцу амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаваную двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма Героя Сац. Працы А.С.Каралёва.

**НОВЫЯ СТАЙКІ** — вёска ў Славенскім с/с, за 15 км на Пн ад Шклова, 55 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Дняпро, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 17 гаспадарак, 26 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1777 г. тут быў гаспадарскі дом, у Копыскай акрузе Магілёўскай губ. У 1858 г. вёска (58 рэвізскіх душ) у Горацкім павеце. У 1897 г. ў Любініцкай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 45 двароў, 302 жыхары. Меліся 2 млыны. У 1909 г. 43 двары, 340 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 21 двор. У 1991 г. 38 гаспадарак, 26 жыхароў, у складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Старыя Стайкі). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы, працаваў магазін. У 1997 г. 20 гаспадарак, 61 жыхар. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НОВЫЯ ЧАМАДАНЫ** — вёска ў Гарадзецкім с/с, за 12 км на У ад Шклова, 48 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны. На Пн невял. сажалка. Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса, якая праходзіць каля вёскі. 27 гаспадарак, 49 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Княжыцкім с/с. У 1930 г. арганізаваны калгас імя

*Світанак на Дняпры.*






Сталіна, у які спачатку ўвайшло 37 гаспадарак. Дзейнічала Фашчаўская МТС. У 1940 г. 64 двары, 340 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1960 г. ў Фашчаўскім, з 22.10.1963 г. ў Гарадзецкім с/с. У 1990 г. 51 гаспадарка, 125 жыхароў, у складзе саўгаса «Гарадзец» (цэнтр — в. Гарадзец). Размяшчаўся комплекс па адкорме буйной рагатай жывёлы. У 1997 г. 45 гаспадарак, 77 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе с.-г. прыватнага УП «Камерцыйны ашчадны банк «Гарадзец». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На У адасоблены невялікі ўчастак забудовы. На паўд.-ўсх. ускраіне гасп. сектар.

**ОРДАЦЬ** — вёска, цэнтр Ардацкага с/с, за 31 км на У ад Шклова, 57 км ад Магілёва, 33 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Бася (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Княжыцы—Горкі. 205 гаспадарак, 506 жыхароў (2007).

За 0,8 км на ПнУ ад вёскі, ва ўрочышчы Барок, на беразе р. Бася, знаходзяцца 6 стараж. курганоў, якія сведчаць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца ў 1604 г. як с. Вордаць у Шклоўскай вол. Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. в. Ардота ў Копыскай акрузе Магілёўскай губ. У 1857 г. в. Ордат (222 рэвізскія душы) у Чавускім павеце, уласнасць памешчыка. У 1889 г. адкрыта школа граматы, якая ў 1909 г. ператворана ў земскую. У 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 136 двароў, 882 жыхары. Меўся хлебазапасны магазін. Непадалёку была карчма (1 двор, 5 жыхароў). У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама. У час рэвалюцыі 1905—07 гг. у вёсцы і ваколіцах адбыліся сял. хваляванні. У 1909 г. 159 двароў, 1050 жыхароў. З 20.8.1924 г. да 21.10.1957 г. цэнтр сельсавета ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. У 1925 г. ў вясковай школе было 105 вучняў. У 1927 г. створана цагельная арцель (21 чал.). 30.12.1929 г. арганізаваны калгас імя Дзяржынскага, 15.2.1931 г. — калгас імя Сталіна. У 1930-я г. пач. школа ператворана ў 7-гадовую (13 настаўнікаў). З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 52 будынкі, клуб, школу, 3 жылыя дамы, загубілі 15 вяскоўцаў, 87



*Выпас буйной рагатай жывёлы ў ААТ «Ардацкае».*



вывезлі ў рабства. На ўшанаванне памяці 368 землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у 1968 г. каля могілак пастаўлены абеліск. З 15.1.1965 г. зноў цэнтр сельсавета. У 1973 г. цэнтр саўгаса «Рабочы». Дзейнічалі лесапільня, камбінат бытавога абслугоўвання, сярэдняя школа, клуб, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны. У 1990 г. 297 гаспадарак, 706 жыхароў. Саўгас «Рабочы» спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі, вырошчванні лёну, меў 5084 га с.-г. угоддзяў, у тым ліку 3751 га ворыва, 69 трактароў, 20 грузавых аўтамашын, 21 збожжаўборачны камбайн і інш. тэхніку. Гаспадарка складалася з 5 паляводчых брыгад, 6 жывёлагадоўчых ферм. У вёсцы размяшчаўся комплекс па адкорме свіней, ферма буйной рагатай жывёлы, майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, устаноўка па нарыхтоўцы вітаміннай мукі, лесапілка, працавалі сярэдняя школа, б-ка, Дом культуры, дзіцячыя яслі-сад, фельч.-акушэрскі пункт, грамадская лазня, аўтаматычная тэлеф. станцыя, сталовая, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін. У 1997 г. 281 гаспадарка, 682 жыхары. У 2000 г. 234 гаспадаркі, 610 жыхароў. У 2007 г. вёска — цэнтр ААТ «Ардацкае». Дзейнічалі комплексны прыёмны пункт, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ. Забудова двухбаковая, шчыльная, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. На ПдЗ вёска забудавана мураванымі тыпавымі адна- і двухпавярховымі індывідуальнымі і шматкватэрнымі дамамі. У гэтай частцы размешчаны адм.-грамадскі цэнтр. Побач знаходзіцца гасп. сектар. Частка гасп. будынкаў знаходзіцца на З вёскі.

Радзіма бел. пісьменніка А.С.Сербантовіча (1941—70); удзельніка барацьбы за сав. ўладу ў Беларусі Дз.К.Міронава (1895—1923); гісторыка Г.Л.Напрэева.

У склад Ардацкага с/с уваходзяць 10 населеных пунктаў.

**ПАДГАЙЦЫ** — вёска ў Заходскім с/с, за 25 км на ПдУ ад Шклова, 40 км ад Магілёва, 28 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пд і У цячэ р. Рудзейка (прыток р. Арціслаўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Лакуці і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 12 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1604 г. як сяло ў Плешчыцкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, якое мела 29 валок ворнай зямлі, было 44 двары, з'яўлялася дзярж. уласнасцю. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў складзе маёнтка Плешчыцы Магілёўскага павета Магілёўскага намесніцтва, 35 двароў, 221 жыхар, уласнасць памешчыка і Аршанскага езуіцкага касцёла. У 1858 г. 41 двор, 255 жыхароў. Сяльчане апрача землеробства займаліся рыбалоўствам, сплаўлялі па Дняпры плыты і баркі з соллю і зернем. Жанчыны выраблялі тканіну для сваіх патрэб і на продаж. Асабліва славілася вёска выдатнымі ганчарамі, якія ўпамінаюцца нават у спісах рамеснікаў дварцовых слабод Масквы. У 1897 г. ў Нічыпаравіцкай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 59 двароў, 332 жыхары. Меўся хлебазапасны магазін. У 1909 г. 59 двароў, 379 жыхароў. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Шклоўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1925 г. ў вясковай школе быў 31 вучань. У 1927 г. арганізавана арцель па вырабе цэглы, у якую ўваходзіла 17 вяскоўцаў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Шлях сацыялізму», які ў 1934 г. аб'ядноўваў 25 гаспадарак. Абслугоўвала калгас Фашчаўская МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. ў вёсцы 33 двары, 148 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1941 г. каля вёскі трымалі абарону воіны



*А.С.Сербантовіч.*



*Дз.К.Міронаў.*



*Г.Л.Напрэеў.*

110-й стралк. дывізіі 61-га стралк. корпуса пад камандаваннем ген.-маёра Ф.А. Бакуніна. 11.3.1960 г. Падгайцаўскі с/с скасаваны, вёска ўвайшла ў Заходскі с/с. У 1990 г. 34 гаспадаркі, 47 жыхароў, у складзе калгаса «50 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Лакуці). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. У 1997 г. 23 гаспадаркі, 39 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Ніва». Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, да якой на У далучаецца кароткая прамалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПАДКНЯЖАННЕ** — вёска ў Александрыйскім с/с, за 14 км на Пн ад Шклова, 44 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Копысь на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ ручай (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Орша, якая праходзіць паблізу вёскі. 23 гаспадаркі, 40 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст., калі вёска была ў Вышкаўскім войтаўстве Шклоўскага графства ВКЛ, з'яўлялася шляхецкай уласнасцю. У 1771 г. 18 двароў, 107 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. 23 двары, 175 жыхароў, уласнасць С.Г.Зорыча. У 1897 г. ў Старасельскай вол. Аршанскага павета, 43 двары, 303 жыхары. У 1907 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1909 г. 23 двары, 40 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Старасельскай вол. Аршанскага павета Гомельскай, з 18.11. 1920 г. Віцебскай губерняў РСФСР, з сак. 1924 г. ў складзе БССР, з 20.8.1924 г. ў Александрыйскім с/с Копыскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7.1930), з 8.7. 1931 г. Шклоўскага р-на. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. было 38, у 1925 г. 51 вучань. У лютым 1931 г. сяляне вёсак Падкняжанне і Манькава арганізавалі калгас «Новы шлях». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 50 двароў. Вызвалена 27.6.1944 г. войскамі 33-й арміі 2-га Бел. фронту. У 1990 г. 51 гаспадарка, 105 жыхароў, у складзе калгаса імя Дзяржынскага (цэнтр — в. Вялікі Мяжнік). Размяшчаліся паляводчая брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, працавалі магазін і грамадская лазня. У 1997 г. 44 гаспадаркі, 71 жыхар. У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Александрыйскае». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на Пн далучаецца кароткая прамалінейная вуліца шыротнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПАЛЫКАВІЧЫ** — вёска ў Чарнаруцкім с/с, за 22 км на З ад Шклова, 62 км ад Магілёва, 21 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На З — воз. Безыменнае. На ПнУ ад вёскі знаходзіцца найвышэйшы пункт раёна — 222,7 м. Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Круглае, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 16 гаспадарак, 19 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, вёска Палукавічы ў Копыскім павеце Магілёўскай губ. У 1783 г. 31 двор, 134 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Чарнаруцкай вол. Магілёўскага павета, 35 двароў, 253 жыхары. Меўся хлебазапасны магазін. У 1909 г. 38 двароў, 267 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Чарнаруцкай, з 9.5.1923 г. ў Шклоўскай валасцях Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, з 3.3.1924 г. ў складзе БССР, з 20.8.1924 г. ў Чарнаруцкім с/с Шклоўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.11.1930). Школу, якая дзейнічала ў вёсцы, наведвалі дзеці з в. Палыкавічы, пасёлкаў Кусток, Баброў і бліжэйшых хутароў. 30.2.1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Зорка». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1941 г. калгас аб'яд-



ноўваў 38 гаспадарак, меў 299 га ворыва, 100 га лугоў, 45 коней, 57 кароў, 25 свіней, 43 авечкі, 25 пчаліных сем'яў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 5 двароў, ад калгаснага статка засталося толькі 6 коней і 6 кароў. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 109 сав. воінаў, якія загінулі ў баях за вызваленне вёскі. У ліку пахаваных Герой Сав. Саюза П.М.Зюлькоў, які вызначыўся 27.6.1944 г. ў баі за в. Трылесіна. У крытычны момант бою ён закрыў сваім целам амбразуру нямецкага дзота. У 1990 г. 38 гаспадарак, 88 жыхароў, у складзе калгаса імя Свярдлова (цэнтр — в. Клімавічы). Размяшчаліся вытв. брыгада, свінагадоўчая ферма, працаваў магазін. У 1997 г. 27 гаспадарак, 47 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Палыкавіцкае». Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАНІЗОЎЕ** — былы пасёлак у Старасельскім с/с, за 9 км на ПнЗ ад Шклова, 49 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны. На ПнУ цячэ р. Тросенка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Круглае, якая праходзіць паблізу пасёлка.

Вядомы паводле пісьмовых крыніц з 17 ст. як пасёлак у Зуброўскім войтаўстве Шклоўскага графства ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1695 г. 5 двароў, у 1771 г. 14 двароў, 64 жыхары. Мелася вінакурня, дзейнічаў млын. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Копыскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 25 двароў, 195 жыхароў, уласнасць памешчыка. 5 мясц. памешчыкаў мелі тут у 1867 г. 468 дзес. зямлі. У 1909 г. ў Старасельскай вол. Аршанскага павета Магілёўскай губ., 5 двароў, 50 жыхароў. З 20.8.1924 г. ва Ульянаўскім с/с Шклоўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1930 г. пасялкоўцы разам з сялянамі в. Дуброва арганізавалі калгас імя Варашылава. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. калгас аб'ядноўваў 15 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 5 пасялкоўцаў загінулі на фронце. З 22.10. 1963 г. ў Старасельскім с/с. З 1973 г. ў складзе калгаса «Маяк» (цэнтр — в. Вялікае Уланава). Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі былі пастаўлены ўздоўж кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. З канца 1990-х г. не існуе.

**ПАПОЎКА** — вёска ў Старасельскім с/с, за 11 км на ПнЗ ад Шклова, 51 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Круглае, якая праходзіць паблізу вёскі. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 17 ст. як вёска ў Чырчынскім войтаўстве Шклоўскага графства ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1695 г. 3 двары, у 1771 г. 12 двароў, 69 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ўласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Старасельскай вол. Аршанскага павета, 3 двары, 35 жыхароў. У 1909 г. 2 двары, 26 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 8 гаспадарак, 13 жыхароў, у складзе калгаса «Маяк» (цэнтр — в. Вялікае Уланава). У 1997 г. 5 гаспадарак, 9 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс». Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. двaрамі пастаўлены ўздоўж кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ.

**ПАПОЎЦЫ** — вёска ў Рыжкавіцкім с/с, за 10 км на ПдЗ ад Шклова, 48 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны. На Пд мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Ульян-


*А.Е.Дарасевіч.*

ка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Чарнаручча. 14 гаспадарак, 19 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 17 ст. як вёска ў Высокаўскім войтаўстве Шклоўскага графства ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1695 г. 2 двары, у 1771 г. 10 двароў, 61 жыхар. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў складзе маёнтка Шклоў Магілёўскага павета Магілёўскага намесніцтва, 10 двароў, 86 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1858 г. ў Магілёўскім павеце, 72 рэвізскія душы. У 1897 г. ў Шклоўскай вол. Магілёўскага павета, 28 двароў, 186 жыхароў. Меўся хлебазапасны магазін. У 1907 г. ў вясковай школе навучалася 29 хлопчыкаў, 11 дзяўчынак. У 1909 г. 32 двары, 246 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 53 вучні. Наведвалі школу дзеці з вёсак Папоўцы, Ганцавічы і бліжэйшых хутароў. З 20.8. 1924 г. ў Высоцкім с/с Шклоўскага р-на. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная паляна», які аб'ядноўваў 61 гаспадарку. У 1937 г. 340 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 51 гаспадарка, 99 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Рыжкавічы). У 1997 г. 38 гаспадарак, 48 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных завулкам. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма доктара мед. навук, праф. А.Е.Дарасевіча (нар. ў 1946).

**ПАТАПАВА** — вёска ў Фашчаўскім с/с, за 25 км на ПдУ ад Шклова, 37 км ад Магілёва, 27 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Арцілаўка (прыток р. Дняпро), на ПдЗ — воз. Святое. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 35 гаспадарак, 42 жыхары (2007).

Упершыню ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах з 1604 г. як сяло ў Даманаўскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, налічвала 51 двор, з'яўлялася дзярж. ўласнасцю. Меліся 42 валокі ворнай зямлі, значную частку якой трымала шляхта. У 1635 г. 28 двароў, у 1700-я г. дзейнічала карчма. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. в. Патапаўка (54 двары, 248 жыхароў) у складзе маёнтка Плешчыцы Магілёўскага павета, уладанне графа Завадоўскага. У 1897 г. ў Нічыпаравіцкай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 43 двары, 345 жыхароў, меліся 2 хлебазапасныя магазіны, піцейны дом. У 1909 г. 48 двароў, 369 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Нічыпаравіцкай вол. Горацкага, з ліп. 1922 г. Магілёўскага паветаў Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Нічыпаравіцкім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі, з 2.3.1931 г. ў Шклоўскім р-не. У 1934 г. 7 гаспадарак аб'ядналіся ў калгас імя Блюхера, які абслугоўвала Фашчаўская МТС. У канцы 1930-х г. у вёсцы аселі перасяленцы з бліжэйшых хутароў, дзейнічаў малаказавод. З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 120 двароў, 491 жыхар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 45 двароў, гасп. пабудовы калгаса і малаказавод. Пасля вайны адбудавана. З 1952 г. ў Фашчаўскім с/с. У 1990 г. 35 гаспадарак, 42 жыхары, у складзе саўгаса — эксперыментальнай базы «Спартак» (цэнтр — в. Фашчаўка). Размяшчалася вытв. брыгада. У 1997 г. 76 гаспадарак, 105 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе РУСП «Эксперыментальная база «Спартак». Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, забудаваных двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі. На У гасп. сектар.



**ПЕРАКОП** — пасёлак у Таўкачоўскім с/с, за 22 км на ПдЗ ад Шклова, 36 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны. На ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Круглае. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 13 гаспадарак, 16 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях да камунізму» (цэнтр — в. Вялікія Лазіцы). У 1997 г. 8 гаспадарак, 8 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Гавяды-Агра». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі з завулкам. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПЛЕШЧЫЦЫ** — вёска ў Заходскім с/с, за 28 км на ПдУ ад Шклова, 35 км ад Магілёва, 30 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Праз вёску цячэ р. Рудзейка (прыток р. Арціслаўка). На З і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 113 гаспадарак, 203 жыхары (2007).

За 1 км на З ад вёскі размешчана гарадзішча ранняга жал. веку (мясц. назва Гарадок), за 2 км на ПдУ раней знаходзілася другое гарадзішча. Гэтыя помнікі археалогіі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у далёкай старажытнасці. У пісьмовых крыніцах вёска ўпершыню ўпамінаецца пад 1522 г., калі была ў складзе Магілёўскай вол. ВКЛ, з'яўлялася шляхецкай уласнасцю. У 1580 г. с. Плешчыцы ў Магілёўскай вол.-старостве Аршанскага павета Віцебскага ваяв., у пажыццёвым валоданні памешчыка. У 1604 г. цэнтр войтаўства Магілёўскага староства-эканоміі, дзярж. ўласнасць. У сяр. 17 ст. с. Плешчыцы (яно ж Левашковічы) налічвала 140 двароў, меліся царква і карчма. У 1742 г. 56 двароў, побач знаходзіўся фальварак, працавалі 2 вадзяныя млыны, сукнавальня, карчма. У 1752 г. пабудавана драўляная царква. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. цэнтр маёнтка і Плешчыцкага войтаўства, 116 двароў, 780 жыхароў, уласнасць царквы, меліся 2 вадзяныя млыны. Па 9-й рэвізіі (1850) 130 двароў, па 10-й (1857) 116 двароў, 681 жыхар. У 1880 г. 141 двор, 675 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася стальмашным промыслам. У канцы 1880 г. дзейнічала царк.-прыходская школа, у якой было 55 вучняў. Паводле перапісу 1897 г. ў Нічыпаравіцкай вол. Горацкага павета, 165 двароў, 1077 жыхароў, працаваў піцейны дом. У 1905 г. вяскоўцы збудавалі для школы памяшканне. У 1909 г. 176 двароў, 1209 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Падгайцаўскім с/с Шклоўскага р-на БССР. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 100 вучняў, дзейнічаў драматычны гурток. У чэрв. 1931 г. арганізаваны калгас «Новы быт» (у 1934 г. 47 гаспадарак), у лютым 1933 г. калгас «2-я пяцігодка» (у 1934 г. 45 гаспадарак), якія абслугоўваліся Фашчаўскай МТС. У 1940 г. 1650 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліпеня 1941 г.



*Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў у в. Плешчыцы.*

да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Каля вёскі ў 1941 г. вяла цяжкія абарончыя баі 110-я стралк. дывізія 61-га стралк. корпуса (камандзір ген.-маёр Ф.А.Бакунін). 26.6.1944 г. полк пад камандаваннем У.К.Андрушчанкі (удастоены звання Героя Сав. Саюза) першым фарсіраваў тут р. Дняпро. Асобны матарызаваны пантонна-маставы батальён (нададзена ганаровае найменне «Верхнедняпроўскі») на чале з А.У.Канарчыкам (прысвоена званне Героя Сав. Саюза) пад агнём праціўніка навёў каля вёскі пераправу цераз Дняпро і гэтым забяспечыў поспех нашым войскам. У брацкай магіле, што каля будынка школы, пахаваны 78 воінаў 44-га і 459-га стралк. палкоў 70-й стралк. дывізіі 33-й арміі, якія загінулі ў баях за вызваленне вёскі. У 1990 г. 216 гаспадарак, 444 жыхары, у складзе калгаса «50 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Лакуці). Размяшчаліся вытв. брыгада, 2 фермы па адкорме буйной рагатай жывёлы, працавалі фельч.-акушэрскі пункт, магазін, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, б-ка з фондам больш за 7900 кніг, 8-гадовая школа (23 настаўнікі), для якой у вер. 1974 г. ўзведзены новы будынак, а праз год тут створаны Ленінскі музей, куток баявой і прац. славы. У 1967 г. далучаны вёскі Ляды, Шкатаўка. У 1997 г. 177 гаспадарак, 344 жыхары. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Ніва». Планіровачна складаецца з 3 мерыдыянальнай арыентацыі вуліц — 2 працяглыя, прамалінейныя, амаль паралельныя паміж сабой на У ад ракі і 1 працяглая крывалінейная — на З ад ракі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі. На Пд і Пн гасп. сектар. Дзейнічае водаправод.

**ПРАСАЛЫ** — вёска ў Александрыйскім с/с, за 11 км на ПнЗ ад Шклова, 51 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пд цячэ р. Бярозаўка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Хацькава, якая праходзіць каля вёскі. 11 гаспадарак, 20 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ва Уланаўскім с/с Шклоўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1939 г. 32 двары, 195 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 8 двароў, разрабавалі калгасную маёмасць. У 1990 г. 26 гаспадарак, 53 жыхары, у складзе калгаса «Ударнік» (цэнтр — в. Слабодка). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. У 1997 г. 34 гаспадаркі, 58 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Александрыйскае». Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПРОНЦАЎКА** — вёска ў Славенскім с/с, за 16 км на ПнУ ад Шклова, 58 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пд цячэ р. Каменка (прыток р. Чарніца). Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса, якая праходзіць паблізу вёскі. 17 гаспадарак, 22 жыхары (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1777 г. вёска Прунцаўка ў Копыскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. ў Копыскім павеце, 24 двары, 158 жыхароў, уласнасць памешчыка, мелася царква. У 1897 г. ў Маслакоўскай вол. Горацкага павета, 28 двароў, 193 жыхары, у сядзібе непадалёку 4 двары, 10 жыхароў. У 1909 г. 29 двароў, 209 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што на могілках, пахаваны 20 воінаў 843-га стралк. палка 238-й стралк. дывізіі 50-й арміі 2-га Бел. фронту, якія загінулі ў баях за вызваленне вёскі. У 1990 г. 56 гаспадарак, 106 жыхароў, у складзе кал-



гаса імя Кірава (цэнтр — в. Вялікія Славені). Размешчаны вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, дзейнічаў клуб. У 1997 г. 39 гаспадарак, 61 жыхар. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Вялікія Славені». Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц мерыдыянальнай арыентацыі і прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, якая праходзіць на Пд вёскі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПРУДЫ** — вёска ў Заходскім с/с, за 22 км на ПдУ ад Шклова, 34 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Вёску перасякае р. Арціслаўка (прыток р. Дняпро). На У, Пд і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 19 гаспадарак, 32 жыхары (2007).

На Пн ад вёскі захавалася паселішча позняга этапу зарубінецкай культуры (6—9 ст.), на тэр. якога быў стараж. курганны могільнік. Гэтыя помнікі археалогіі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у далёкай мінуўшчыне. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст., калі былі вёскі Пруды (26 двароў, 123 жыхары) і Ніжнія Прудкі (13 двароў, 87 жыхароў) у Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ., меўся вадзяны млын, уласнасць памешчыка. У фальварку Церахаў Пруд (7 двароў, 64 жыхары) былі вадзяны млын і сукнавальня. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся вырабам тканіны на хатнія патрэбы і на продаж. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1808 г. ў Магілёўскім павеце, уласнасць царквы. У 1897 г. ў в. Ніжнія Пруды 34 двары, 238 жыхароў, 2 млыны, 2 хлебазапасныя магазіны, у в. Церахавы Пруды — 12 двароў, 87 жыхароў, хлебазапасны магазін. На хутары Церахавы Пруды працавалі млын і сукнавальня. У 1909 г. ў Ніжніх Прудах 34 двары, 246 жыхароў, у Церахавых Прудах 16 двароў, 125 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Заходскім с/с Лупалаўскага р-на. У снежні 1930 г. арганізаваны калгас «Бальшавік Дняпра», які першапачаткова аб'ядноўваў 39 гаспадарак. З 2.3.1931 г. ў Шклоўскім р-не. У 1940 г. 68 двароў, 256 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы ў вер. 1943 г. спалілі 68 двароў, загубілі 10 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1948 г. да вёскі далучаны пасёлкі Верхнія Пруды і Ніжнія Пруды. У 1990 г. 50 гаспадарак, 84 жыхары, у складзе калгаса імя Андрэева (цэнтр — в. Еўдакімавічы). Размяшчаліся паляводчая брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, працаваў магазін. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Ніва». Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай шыротна, уздоўж ракі. На З, на другім беразе ракі, адасоблены ўчастак забудовы — кароткая дугападобная вуліца (былы пас. Ніжнія Пруды). Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма Героя Сав. Саюза П.І.Ярмоленкі (1909—1984), які вызначыўся ў Вял. Айч. вайну пры фарсіраванні Дняпра на Пд ад Кіева.



*П.І.Ярмоленка.*

**ПУТНІКІ** — вёска ў Гарадзецкім с/с, за 7 км на У ад Шклова, 40 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ПдЗ мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Капуснік (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 49 гаспадарак, 91 жыхар (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 17 ст. як вёска ў Сасноўскім войтаўстве Шклоўскага графства ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1695 г. 9 двароў, у 1771 г. 25 двароў, 139 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. вёска ў Магілёўскай акрузе. У 1781 г. засн. суконная мануфактура (існавала да 1809), на якой працавалі прыгонныя (121 чал.). У 1785 г. 30 двароў, 199 жыхароў, у складзе маёнтка Шклоў Магілёўскага павета, належала С.Г.Зорычу і С.Ф.Герасімаву. У вёсцы быў

узведзены двухпавярховы драўляны гаспадарскі дом, дзейнічаў вадзяны млын. У 1858 г. 31 двор, 133 жыхары, уласнасць памешчыка. Частка вяскоўцаў займалася вырабам розных быт. рэчаў з лыка і кары. У 1897 г. ў Любініцкай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 42 двары, 282 жыхары. У аднайменным фальварку, што знаходзіўся побач, было 2 двары, 6 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 43 двары, 321 жыхар, у маёнтку 1 двор, 8 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Гарадзецкім с/с. Дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1930 г. арганізаваны калгас «2-я пяцігодка», які абслугоўвала Фашчаўская МТС. У 1940 г. 92 двары, 460 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 82 гаспадаркі, 182 жыхары, у складзе саўгаса «Гарадзец» (цэнтр — в. Гарадзец). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, працавалі магазін, клуб. У 1997 г. 72 гаспадаркі, 149 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе с.-г. прыватнага УП «Акцыянерны ашчадны банк «Гарадзец». Планіровачна складаецца з 2 плаўна выгнутых вуліц, арыентаваных шыротна, па абодва берагі ракі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На У гасп. сектар.

**ПЯСЧАНКА** — вёска ў Старасельскім с/с, за 13 км на З ад Шклова, 53 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Круглае—Шклоў, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 14 гаспадарак, 21 жыхар (2007).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 20 гаспадарак, 46 жыхароў, у складзе калгаса «Маяк» (цэнтр — в. Вялікае Уланава). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. У 1997 г. 22 гаспадаркі, 46 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РАГОЗНА** — вёска ў Чарнаруцкім с/с, за 22 км на З ад Шклова, 27 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На З цячэ р. Чарнаводка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Чарнаруччa. 16 гаспадарак, 31 жыхар (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1750 г. вёска (82 двары, 240 жыхароў) у складзе маёнтка Горкі Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, прыватнафеадальнае ўладанне. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. в. Рагозін у Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1783 г. ў Магілёўскім павеце, 20 двароў, 148 жыхароў. У 1858 г. 51 рэвізская душа, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 26 двароў, 181 жыхар. Частка вяскоўцаў займалася вырабам ільняной і пяньковай кудзелі і тканіны, а таксама вырабам посуду і іншых быт. рэчаў з дрэва, бандарным і кавальскім промысламі. У 1897 г. ў Чарнаруцкай вол. Магілёўскага павета, 31 двор, 209 жыхароў, меўся хлебазапасны магазін. Непадалёку была карчма (1 двор, 12 жыхароў). У 1909 г. 29 двароў, 194 жыхары. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 26.4.1919 г. ў Чарнаруцкай вол. Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, з 9.5.1923 г. ў Шклоўскай вол., з 3.3.1924 г. ў складзе БССР, з 20.8.1924 г. ў Чарнаруцкім с/с Шклоўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). 24.6.1934 г. арганізаваны калгас імя Леніна. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1941 г. ў калгасе было 57 гаспадарак, 271 га ворнай зямлі, 150 га лугоў, 48 коней, 70 кароў, 28 свіней, 46 авечак. У 1939 г. ў вёсцы 280 жыхароў. У 1940 г. 64 двары, 242 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы ў лют. 1944 г. спалілі 50 двароў, загубілі 4





*Кампазіцыя «Слава працаўнікам сяла» каля в. Рагозна.*

жыхароў, разрабавалі калгасную маёмасць. Ад калгаснага статка засталіся толькі 3 кані. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 31 гаспадарка, 79 жыхароў, у складзе калгаса імя Свярдлова (цэнтр — в. Клімавічы). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, працаваў магазін. У 1997 г. 29 гаспадарак, 56 жыхароў. У 2008 г. вёска ў складзе ЗАТ «Палыкавіцкае». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РАДЗІШЫНА** — вёска ў Ардацкім с/с, за 34 км на ПдУ ад Шклова, 62 км ад Магілёва, 36 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На З цячэ р. Лешня (прыток р. Бася). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ордаць і далей па шашы Княжыцы—Горкі. 23 гаспадаркі, 28 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з пач. 17 ст. У 1604 г. с. Радзішын у Шклоўскай вол. Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У сярэдзіне 17 ст. сяло ў Сасноўскім войтаўстве Шклоўскага графства, шляхецкая ўласнасць. У 1771 г. сёлы Вялікае Радзішына (17 двароў, 133 жыхары) і Малое Радзішына (12 двароў, 38 жыхароў). Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Копыскім павеце Магілёўскага намесніцтва. У 1858 г. ў Горацкім павеце Магілёўскай губ., уласнасць памешчыка. Побач быў маёнтак, гаспадар якога меў у 1868 г. 217,5 дзес. зямлі, у тым ліку 97 дзес. лесу, 83 дзес. ворыва, 20 дзес. сенакосу. У 1897 г. 1 населены пункт (32 двары, 215 жыхароў) у Гарадзішчанскай вол. Горацкага павета. Меліся школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 38 двароў, 292 жыхары. У 1917 г. на базе дарэв. была створана прац. школа 1-й ступені, у 1925 г. адкрыта хата-чытальня. 30.11.1930 г. арганізаваны калгас «Пяцігодка за чатыры гады». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 4 і вывезлі ў Германію 23 жыхароў, спалілі 9 калгасных будынкаў і школу. У 1990 г. 68 гаспадарак, 126 жыхароў, у складзе саўгаса «Рабочы» (цэнтр — в. Ордаць). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы, працавалі магазін, клуб, грамадская лазня. У 1997 г. 54 гаспадаркі, 80 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Ардацкае». Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай мерыдыянальна, уздоўж ракі і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**РАМШЫНА** — вёска ў Чарнаруцкім с/с, за 25 км на З ад Шклова, 62 км ад Магілёва, 27 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Праз вёску цячэ р. Альхоўка (прыток р. Чарнаводка). Транспартныя сувязі

па мясц. дарозе і далей па шашы Чарнаручча—Шклоў. 30 гаспадарак, 46 жыхароў (2007).

Упершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца ў 1743 г. як сяло ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. ВКЛ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. тут быў гаспадарскі дом. У «Эканамічных заўвагах да генеральнага межавання Магілёўскай губерні», якое праводзілася ў 1783—84 гг., адзначаецца, што сяльцо ўваходзіла ў склад маёнтка Шупень, налічвала 8 двароў, 56 жыхароў, з'яўлялася ўладаннем памешчыка, меліся 2 млыны. У 1858 г. сяло ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ., 38 рэвізскіх душ, уласнасць памешчыка, які меў у 1867 г. 442 дзес. зямлі і карчму. У 1897 г. с. Рамшын (яно ж Забалоцее) у Чарнаруцкай вол. Магілёўскага павета, 27 двароў, 181 жыхар, меліся школа граматы, хлебазапасны магазін. Непадалёку быў фальварак, 20 жыхароў. У 1909 г. ў сяле 23 двары, 188 жыхароў, у фальварку 1 двор, 7 жыхароў. У 1909 г. школа граматы ператворана ў земскую, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. З 26.4.1919 г. ў Чарнаруцкай, з 9.5.1923 г. ў Шклоўскай валасцях Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, з сак. 1924 г. ў складзе БССР, з 20.8.1924 г. ў Чарнаруцкім с/с Шклоўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 55 вучняў з вёсак Рамшына, Рагозна, пас. Рубеж і бліжэйшых хутароў. 30.3.1930 г. арганізаваны калгас «Новы лад». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1941 г. ў калгасе было 66 гаспадарак, 390 га ворыва, 140 га лугоў, 68 коней, 72 каровы, 23 свінні, 48 авечак, 6 пчаліных сем'яў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 40 двароў, разрабавалі калгасную маёмасць. Ад калгаснага статка засталіся толькі 2 кані. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 58 гаспадарак, 112 жыхароў, у складзе калгаса імя Свярдлова (цэнтр — в. Клімавічы). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, пач. школа, магазін. У 1997 г. 47 гаспадарак, 93 жыхары. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Палыкавіцкае». Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, забудаваных двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На У гасп. сектар.

**РЖАЎЦЫ** — вёска ў Славенскім с/с, за 4 км на Пн ад Шклова, 6 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Праз вёску цячэ р. Мар'янка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 70 гаспадарак, 117 жыхароў (2007).

За 1,3 км на Пн ад жывёлагадоўчай фермы размешчана стараж. гарадзішча (мясц. назва Званіца), якое сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай мінуўшчыне. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. У 1650 г. сяло (48 двароў) у Чурылаўскай вол. Копыскага графства Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1737 г. 41 двор. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Копыскім павеце, 63 двары, 442 жыхары, меўся млын, уласнасць памешчыка. У 1858 г. ў Горацкім павеце, 215 рэвізскіх душ, дзейнічала карчма. У 1897 г. 103 двары, 693 жыхары, у Любініцкай вол. Горацкага павета, меліся млын і школа граматы. У данясенні нач. Магілёўскага жандарскага ўпраўлення ў дэпартамент паліцыі паведамлялася аб хваляванні сяльчан у 1905 г. У 1909 г. 120 двароў, 792 жыхары. У 1923 г. адкрыта школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне, у 1925 г. было 95 вучняў з вёсак Ржаўцы і Кучарына. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 140 гаспадарак, 314 жыхароў, у складзе калгаса «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Кучарына). Размяшчалася свінагадоўчая ферма, працавалі



8-гадовая школа, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. У 1997 г. 106 гаспадарак, 224 жыхары. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Амкадор-Шклоў». Планіровачна складаецца з 2 працяглых крывалінейных вуліц, арыентаваных шыротна, уздоўж абодвух берагоў ракі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі. На Пн гасп. сектар.

**РУДЗІЦЫ** — вёска ў Ардацкім с/с, за 45 км на ПдУ ад Шклова, 58 км ад Магілёва, 36 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ р. Бася (прыток р. Проня), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ордаць і далей па шашы Масток—Дрыбін. 48 гаспадарак, 68 жыхароў (2007).

На паўдн. ускраіне вёскі знаходзіцца стараж. курган (мясц. назва Пусікаў курган), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай мінуўшчыне. Паводле рукапісных крыніц вядома з 1604 г. як сяло (36 двароў) у Чамаданаўскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, дзярж. ўласнасць, меўся млын на р. Бася. У 1616 г. сяляне апрацоўвалі 34 валокі зямлі, плацілі чынш, мядовую даніну, займаліся рыбнай лоўляй. У інвентары Магілёўскай каралеўскай эканоміі пад 1635 г. значыцца як сяло, 60 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1742 г. дзейнічалі крама і млын. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1897 г. 65 двароў, 459 жыхароў, у Чэрнеўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ. Мелася школа граматы. У 1909 г. 72 двары, 535 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Будзённага. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 107 гаспадарак, 204 жыхары, у складзе саўгаса «Рабочы» (цэнтр — в. Ордаць). Размяшчаліся паляводчая брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, дзейнічалі магазін, клуб, б-ка. У 1997 г. 87 гаспадарак, 150 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Ардацкае». Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, да якой з З далучаецца прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне гасп. сектар.

**РУДНЯ** — вёска ў Гарадзішчанскім с/с, за 23 км на У ад Шклова, 52 км ад Магілёва, 25 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ р. Аўчоса (прыток р. Бася). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Княжыцы—Горкі. 10 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 17 ст. як вёска ў Сасноўскім войтаўстве Шклоўскага графства ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1695 г. 14 двароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Копыскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 32 двары, 160 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 45 двароў, 282 жыхары. Меўся хлебазапасны магазін. У 1909 г. 48 двароў, 318 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Шлях Леніна». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 32 гаспадаркі, 65 жыхароў, у складзе саўгаса «Юбілейны» (цэнтр — в. Акунёўка). У 1997 г. 24 гаспадаркі, 46 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыента-

*У наваколлі в. Рудня.*



цыі, да якой з Пн і Пд далучаюцца пад прамым вуглом кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**РЫЖКАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Рыжкавіцкага с/с, за 2 км на Пд ад Шклова, 28 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ р. Дняпро, на Пн яго прыток — р. Серабранка. Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Магілёў, якая праходзіць праз вёску. 250 гаспадарак, 597 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 17 ст. У 1643 г. 20 двароў з Рыжкавіцкага прадмесця належала дамініканскаму касцёлу ў Шклове, астатнія былі ў валоданні памешчыка. У 1695 г. ў Шклоўскім графстве ВКЛ, 107 двароў, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. З 1773 г. сяло ў Шклоўскім павеце Магілёўскай губ. З 1877 г. працаваў цагельны з-д. Частка вяскоўцаў займалася пяньковым промыслам. У 1890 г. адкрыта школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1897 г. прадмесце мяст. Шклоў (82 двары, 447 жыхароў) у Шклоўскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ. Раз у год праводзіўся кірмаш. У 1909 г. 90 двароў, 450 жыхароў. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 70 вучняў. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Шклоўскага р-на Магілёўскай акругі. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. У ліст. 1929 г. 17 бядняцкіх гаспадарак арганізавалі калгас імя Леніна. За кароткі час у калгасе былі пабудаваны кузня, цагельны з-д, свінарнік, кароўнік. Абслугоўвала калгас Шклоўская МТС. У 1932 г. вёска электрыфікавана. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. калгас меў 2 малатарні, 2 жаткі-снопавязалкі, 3 ільноцерабілкі, грузавую аўтамашыну. Працавалі жывёлагадоўчая ферма, а таксама грамадская лазня, клуб, дзіцячыя яслі. У вёсцы дзейнічалі парт. і камсамольскія арг-цыі. Шырокавядомым на Магілёўшчыне стаў самадзейны хор, які ў 1939 г. выступаў у Маскве на Усесаюзнай с.-г. выстаўцы. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы разрабавалі ўсю калгасную маёмасць, спалілі 4 двары. У 1957—59 гг. выходзіла калгасная шматтыражка «Ленінец». У 1973 г. ў вёсцы працаваў млын, дзейнічалі пач. школа, клуб, б-ка, магазін. У 1990 г. 233 гаспадаркі, 688 жыхароў, цэнтр калгаса імя Леніна, які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі і вырошчванні тэхн. культур, меў 3219 га с.-г. угоддзяў, у тым ліку 2437 га ворнай зямлі, 49 трактароў, 13 збожжаўборачных камбайнаў, 21 грузавую аўтамашыну і іншую тэхніку. Гаспадарка складалася з 6 вытв. брыгад і 8 жывёлагадоўчых ферм. Калгас стаў ініцыятарам і першым у раёне ўкараніў паточна-цыклавы метад выкарыстання тэхнікі ў палявых работах. У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, ферма буйной рагатай жывёлы, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, б-ка, магазін. У 1997 г. 427 гаспадарак, 1122 жыхары. У 2001 г. 262 гаспадаркі, 607 жыхароў. Працавалі камбінат будаўнічых матэрыялаў і вырабаў, б-ка. У 2007 г. дзейнічалі б-ка, дзіцячы сад. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц з завулкамі, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Адм.-грамадскія будынкі сканцэнтраваны на Пн. Тут жа склалася і новая вуліца, якая забудоўваецца муравымі дамамі тыпу катэджаў і дамамі з кватэрамі ў 2 узроўнях. На ПдЗ гасп. сектар.

У склад Рыжкавіцкага с/с уваходзяць 29 населеных пунктаў. У канцы 1930-х г. на яго сучаснай тэр. былі вёскі Французаўка, Хадзевічы, 8-ы чыг. раз'езд, пас. Падбор'е, якія зараз не існуюць.

**РЭПАЛАВА** — вёска ў Рыжкавіцкім с/с, за 11 км на Пд ад Шклова, 30 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзго-



рысты. На З мяжуе з лесам, на У цячэ р. Дняпро. Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Магілёў, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 11 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

За 0,5 км на Пн ад вёскі, на 2-й надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра, размешчана стаянка каменнага веку, якая сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Сучасная вёска засн. ў 1920-я г. У 1930 г. арганізаваны калгас «Рэпалава». У 1937 г. 111 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 26.6.1944 г. перадавы атрад 153-й дывізіі 69-га стралк. корпуса 49-й арміі 2-га Бел. фронту вызваліў вёску. Вызначыўся ў баях за вёску малодшы сяржант І.Ячыкаў, які быў удастоены звання Героя Сав. Саюза. У 1990 г. 26 гаспадарак, 47 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Рыжкавічы). Размяшчаліся фермы свінагадоўчая і буйной рагатай жывёлы, вытв. брыгада. У 1997 г. 22 гаспадаркі, 34 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай шыротна і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**САВЕЛЕНКІ** — вёска ў Каменналаўскім с/с, за 10 км на Пд ад Шклова, 32 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ р. Ульянка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Чарнаручча. 41 гаспадарка, 61 жыхар (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 17 ст. як вёска ў Высоцкім войтаўстве Шклоўскага графства ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1695 г. 7 двароў, у 1771 г. 17 двароў, 99 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. вёска ў Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. 18 двароў, 132 жыхары, у складзе маёнтка Шклоў Магілёўскага павета, сумеснае валоданне С.Г.Зорыча і С.Ф.Герасімава. У наваколлі размяшчаліся багатыя паляўнічыя ўгоддзі, дзейнічаў вадзяны млын. Вяскоўцы займаліся земляробствам, працавалі на паншчыне і плацілі даніну. У 1880 г. 21 двор, 138 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася нарыхтоўкай лясных матэрыялаў для драўляных вырабаў. У 1897 г. ў Шклоўскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 32 двары, 188 жыхароў. Меліся хлебазапасны магазін і заезны дом. У 1908 г. адкрыта земская школа, для якой у 1915 г. пабудавана памяшканне. У 1909 г. 35 двароў, 233 жыхары. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 55 вучняў з вёсак Савейкі, Лапавічы, Мікалаеўка і бліжэйшых хутароў. З лютага да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 20.8.1924 г. ў Высоцкім с/с. У 1929 г. арганізаваны калгас імя Дзяржынскага, які ў 1934 г. налічваў 28 гаспадарак і ўваходзіў у зону абслугоўвання Шклоўскай МТС. У вёсцы працавала лесапільня, была праведзена электрычнасць, пачаў дзейнічаць Дом культуры. У 1939 г. 61 двор, 310 жыхароў. У пач. школе ў 1941 г. было 95 вучняў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі частку вёскі. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 60 гаспадарак, 130 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоны Кастрычнік» (цэнтр — в. Вялікая Камароўка). Размяшчаліся вытв. брыгада, фермы свінагадоўчая і буйной рагатай жывёлы, дзейнічаў клуб. У 1997 г. 52 гаспадаркі, 109 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе філіяла СВК «Газавік-Сіпакова» вытв. РУП «Магілёўаблгаз». Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і забудаваных двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі. На паўд.-зах. ускраіне гасп. сектар.

**САПРОНЬКІ** — вёска ў Славенскім с/с, за 9 км на ПнУ ад Шклова, 49 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пд цячэ р. Чарніца (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц.

дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 26 гаспадарак, 36 жыхароў (2007).

На паўд. ускраіне вёскі захавалася стараж. гарадзішча, якое сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай мінуўшчыне. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 17 ст. У 1650 г. 49 двароў, у Чурылаўскай вол. Копыскага графства Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1670 г. ў Гарадзецкім войтаўстве. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Копыскім пав. Магілёўскага намесніцтва, 35 двароў, 244 жыхары, уласнасць памешчыка, меўся млын. У 1858 г. 55 рэвізскіх душ. Частка вяскоўцаў займалася вырабам розных быт. рэчаў з лыка і кары. У 1897 г. ў Любініцкай вол. Горацкага павета, 32 двары, 297 жыхароў. У 1908 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1909 г. 37 двароў, 284 жыхары. У 1920-я г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якая размясцілася ў нацыяналізаваным памяшканні. У 1925 г. ў вясковай школе было 58 вучняў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны шлях». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 62 гаспадаркі, 106 жыхароў, у складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Старыя Стайкі). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы. У 1997 г. 46 гаспадарак, 67 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Амкадор-Шклоў». Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**САСНОЎКА 1** (да 1998 г. Малая Сасноўка) — вёска ў Славенскім с/с, за 3 км на У ад Шклова, 43 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 18 гаспадарак, 42 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны араты». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 20 гаспадарак, 60 жыхароў, у складзе калгаса «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Кучарына). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы. У 1997 г. 26 гаспадарак, 35 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Амкадор-Шклоў». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**САСНОЎКА 2** (да 1998 г. Сасноўка) — вёска ў Славенскім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Шклова, 62 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Шклоў. Рэльеф раўнінны. На У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 14 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 17 ст. У 1695 г. ў вёсцы былі збудаванні, але ніхто не жыў, уваходзіла ў Шклоўскае графства ВКЛ, з'яўлялася шляхецкай уласнасцю. У 1771 г. 7 двароў, 45 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. 53 жыхары, у Копыскім павеце Магілёўскага намесніцтва, уласнасць памешчыка, які меў тут у 1867 г. 1186 дзес. зямлі і карчму. У 1897 г. побач з вёскай былі фальварак (3 двары, 26 жыхароў) і сядзіба (3 двары, 27 жыхароў) у Маслакоўскай вол. Горацкага павета. У 1909 г. ў вёсцы 39 двароў, 285 жыхароў, ва ўрочышчы 1 двор, 9 жыхароў, у сядзібе 3 двары, 16 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 55 двароў, 223 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы ў ліп. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску, загубілі 10 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 41 гаспадарка, 70 жыхароў, у складзе калгаса імя Фрунзе (цэнтр — в. Любінічы). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы.



У 1997 г. 29 гаспадарак, 45 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Амкадор-Шклоў». Планіроўка Т-падобная. Складаецца з 2 вуліц, шыротнай і мерыдыянальнай арыентацыі.

**САСЬКАЎКА** — вёска ў Фашчаўскім с/с, за 24 км на ПдУ ад Шклова, 44 км ад Магілёва, 26 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На ПдУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 48 гаспадарак, 68 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1720 г. на сродкі вяскоўцаў адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У канцы 18 ст. в. Сасновічы, 29 двароў, 206 жыхароў, належала Аршанскай калегіі езуітаў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся перавозам па Дняпры вяленай рыбы і сплавам плытоў з мачтавым дрэвам, якое потым перавозілася па р. Дзвіна і далей да г. Рыга. У 1880 г. 22 двары, 137 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася вырабам розных быт. рэчаў з лыка і кары. У 1897 г. ў Нічыпаравіцкай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 39 двароў, 247 жыхароў. Меўся хлебазапасны магазін. У 1909 г. 39 двароў, 285 жыхароў. Уваходзіла ў Фашчаўскую вол. Горацкага павета Магілёўскай, з крас. 1919 г. Гомельскай губерняў РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Фашчаўскім с/с Шклоўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7. 1930). У 1919 г. адкрыта школа, у якой у 1925 г. быў 51 вучань. У 1927 г. частка вяскоўцаў увайшла ў с.-г. т-ва Фашчаўскага с/с. У маі 1928 г. 6 сямей аб'ядналіся ў калгас «Чырвоны араты». У 1930 г. ў калгас уступіла яшчэ 11 гаспадарак, а ў 1934 г. ён ужо аб'ядноўваў 32 гаспадаркі, дзейнічала камсамольская ячэйка. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. ў вёсцы было 270 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што на могілках, пахаваны 11 сав. воінаў 557-га стралк. палка 152-й стралк. дывізіі 43-й арміі, якія загінулі ў баі за вызваленне вёскі. У 1959 г. да вёскі далучана в. Пугачы. У 1990 г. 88 гаспадарак, 185 жыхароў, у складзе саўгаса — эксперыментальнай базы «Спартак» (цэнтр — в. Фашчаўка). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, зернедрабільня, працаваў магазін. У 2007 г. вёска ў складзе РУСП «Эксперыментальная база «Спартак». Планіровачна складаецца з 2 вуліц (адна працяглая, крывалінейная, другая кароткая, прамалінейная), арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. На У — адасоблены ўчастак забудовы (кароткая прамалінейная вуліца шыротнай арыентацыі, былая в. Пугачы). Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На З гасп. сектар.

Радзіма бел. пісьменніка Я.М.Крупенькі (1936—90), дэпутата Вярх. Савета Рэспублікі Беларусь Я.П.Мікалуцкага (1959—97).

**СВЯТЛОЎКА** — былы пасёлак у Фашчаўскім с/с, за 29 км на ПдУ ад Шклова, 40 км ад Магілёва, 30 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса.

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ударнік». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 5 гаспадарак, 5 жыхароў, у складзе саўгаса — эксперы-



*Я.М.Крупенька.*



*Я.П.Мікалуцкі.*

*Зімовішча на Дняпры.*



ментальнай базы «Спартак» (цэнтр — в. Фашчаўка). Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі былі пастаўлены ўздоўж кароткай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі.

**СЕЛІШЧА** — былая вёска ў Таўкачоўскім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Шклова, 43 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На Пн і Пд межавала з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Таўкачы і далей па шашы Шклоў—Чарнаручча.

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 19 ст. У 1897 г. вёска (22 двары, 136 жыхароў) у Таўпечыцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ. На аднайменным хутары, які знаходзіўся побач, 2 двары, 15 жыхароў. Восенню 1899 г. сяляне вёсак Селішча, Вадва, Малыя Лазіцы і Таўпечыцы правялі высечку памешчыцкага лесу на пл. ў 500 дзес. У 1909 г. ў вёсцы 29 двароў, 201 жыхар, у аднайменнай сядзібе 1 двор, 8 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 7 гаспадарак, 10 жыхароў, у складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Таўкачы). Традыц. драўляныя сял. сядзібы былі пастаўлены ўздоўж кароткай вуліцы шыротнай арыентацыі.

**СЕРЦІСЛАЎ** — вёска ў Гарадзішчанскім с/с, за 36 км на У ад Шклова, 64 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Пагодзіна на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ ручай (прыток р. Галубіна). Транспартныя сувязі па шашы Княжыцы—Горкі, якая праходзіць побач з вёскай. 11 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 17 ст. У 1-й пал. 17 ст. сяло з'яўлялася цэнтрам войтаўства ў Шклоўскім графстве Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ. Побач быў фальварак. У 1695 г. 16 двароў, у складзе маёнтка Шклоў Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1771 г. 30 двароў, 227 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. 32 двары, 283 жыхары. У 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 40 двароў, 276 жыхароў, меўся хлебазапасны магазін. У 1909 г. 47 двароў, 324 жыхары. Дзейнічала земская школа. У 1900-я г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 40 вучняў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 36 гаспадарак, 58 жыхароў, у складзе племянной гаспадаркі «Гарадзішча» (цэнтр — в. Гарадзішча). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, дзейнічалі магазін, клуб, грамадская лазня. У 1997 г. 32 гаспадаркі, 49 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Новагарадзішчанскае». Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СІНЯЎШЧЫНА** — былы пасёлак у Каменналаўскім с/с, за 16 км на ПдЗ ад Шклова, 35 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны. На ПнУ пачынаецца р. Ульянка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Чарнаручча.

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З сак. 1960 г. ў Каменналаўскім с/с. У 1990 г. 5 гаспадарак, 8 жыхароў. У 1990-я г. ў складзе калгаса «Чырвоны Кастрычнік» (цэнтр — в. Вялікая Камароўка). У 1997 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары. Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі былі пастаўлены ўздоўж кароткай, прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ.

**СІСЕНЕВА** — вёска ў Старасельскім с/с, за 17 км на ПнЗ ад Шклова, 57 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ПнУ мяжуе з лесам. На Пд цячэ



р. Бярозаўка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Хацькова. 10 гаспадарак, 14 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 17 ст. як вёска ў Вышкаўскім войтаўстве Шклоўскага графства ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1695 г. 1 двор, у 1771 г. 8 двароў, 42 жыхары. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 30 гаспадарак, 74 жыхары, у складзе калгаса імя Калініна (цэнтр — в. Тройца). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, была пач. школа. У 1997 г. 20 гаспадарак, 42 жыхары. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СКУБІЛАЎКА** — вёска ў Таўкачоўскім с/с, за 24 км на ПдЗ ад Шклова, 38 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Смятанічы і далей па шашы Шклоў—Чарнаручча. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 10 гаспадарак, 11 жыхароў, у складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Таўкачы). У 1997 г. 5 гаспадарак, 7 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Светлае». Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**СЛАБОДКА** — вёска ў Александрыйскім с/с, за 9 км на ПнЗ ад Шклова, 46 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У праходзіць чыгунка, на ПнЗ цячэ р. Бярозаўка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Орша, якая праходзіць праз вёску. 87 гаспадарак, 187 жыхароў (2007).

Упершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца ў сярэдзіне 17 ст. як вёска ў Вышкаўскім войтаўстве Шклоўскага графства Віцебскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1695 г. налічвала 18 двароў, у 1771 г. 21 двор, 116 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Копыскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. 22 двары, 194 жыхары, меліся драўляная царква, млын на р. Бярозаўка і пiларама, на якой штогод распілоўвалі да 150 тыс. сажняў рознага гатунку дошак. Належала С.Г.Зарычу. У 1897 г. ў Старасельскай вол. Аршан-



*Поле квітнеючага рапсу каля малочнага комплексу ў в. Слабодка ААТ «Александрыйскае».*

скага павета, 65 двароў, 428 жыхароў. Меліся 2 млыны, школа граматы, карчма, 2 царквы. У 1909 г. 68 двароў, 442 жыхары, дзейнічала царк.-прыходская школа. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1924 г. было 50 вучняў. З 26.4.1919 г. ў Старасельскай вол. Аршанскага павета Гомельскай, з 18.11.1920 г. Віцебскай губерняў РСФСР. У 1920-я г. былі адкрыты клуб, б-ка. З сак. 1924 г. ў складзе БССР, з 20.8.1924 г. ў Александрыйскім с/с Копыскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7.1930), з 8.7.1931 г. Шклоўскага р-на. 4.2.1931 г. арганізаваны калгас «Ударнік», які ўзначаліў чл. партыі з 1929 г. В.Я.Літвінаў. Ён быў дэлегатам II з'езда калгаснікаў Беларусі. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 3 двары, разрабавалі калгасную маёмасць. У 1973 г. цэнтр калгаса «Ударнік». Працавала лесапільня. Дзейнічалі пач. школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. У 1990-я г. 75 гаспадарак, 228 жыхароў, цэнтр калгаса «Ударнік», які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі і вырошчванні лёну, меў 2422 га с.-г. угоддзяў, у тым ліку 1791 га ворыва, 33 трактары, 11 грузавых аўтамашын, 11 збожжаўборачных камбайнаў і іншую тэхніку. Гаспадарка складалася з 4 паляводчых брыгад, 6 жывёлагадоўчых ферм. У вёсцы размяшчалася вытв. брыгада, майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, ферма буйной рагатай жывёлы, установка па прыгатаванні вітаміннай мукі, лесапілка, машынны двор, дзейнічалі пач. школа, Дом культуры, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, філіял Шклоўскай раённай б-кі, магазін, сталовая, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, стацыянарная кінаўстаноўка. У 1997 г. 72 гаспадаркі, 152 жыхары. У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Александрыйскае». Дзейнічаюць фельч.-акушэрскі пункт, клуб, б-ка. Праект планіроўкі і забудовы вёскі распрацаваны ў 1981 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ уздоўж ракі, да якой на Пн і з ПдУ далучаюцца 2 кароткія вуліцы. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, традыц. сял. сядзібамі. На Пн, каля перакрыжавання вуліц, адм.-грамадскі цэнтр, дзе ўзведзены аднапавярховыя мураваныя грамадскія будынкі. Сярод жылой забудовы аднакватэрныя і шматкватэрныя двухпавярховыя мураваныя дамы. На Пд гасп. сектар.


*Капліца на могілках у в. Слабодка.*

**СЛАБОДКА** — вёска ў Гарадзецкім с/с, за 16 км на ПдУ ад Шклова, 43 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны. На У мяжуе з лесам. Каля вёскі пачынаецца р. Капуснік (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса, якая праходзіць побач з вёскай. 44 гаспадаркі, 75 жыхароў (2007).

На ўсх. ускраіне вёскі, на вясковых могілках, знаходзіцца курганны могільнік эпохі Кіеўскай Русі (7 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай мінуўшчыне. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 18 ст. У 1777 г. ў Копыскай акрузе. Магілёўскай губ. У 1785 г. належала Аршанскаму езуіцкаму кляштару, 15 двароў, 92 жыхары. Сяляне плацілі чынш, займаліся земляробствам і пчалярствам. У 1897 г. ў Любініцкай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 36 двароў, 212 жыхароў. У 1898 г. адкрыта



школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1909 г. 43 двары, 276 жыхароў. У 1900-я г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 78 вучняў, мелася б-ка. З 20.8.1924 г. ў Княжыцкім с/с. У 1933 г. арганізаваны калгас імя Калініна, у які першапачаткова ўвайшлі 22 гаспадаркі. Абслугоўвала калгас Фашчаўская МТС. У 1939 г. ў вёску былі перавезены навакольныя хутары, адкрыты медпункт. У 1940 г. 94 двары, 478 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1941 г. каля вёскі трымалі абарону воіны 110-й стралк. дывізіі 61-га стралк. корпуса. У ліст. 1943 г. гітлераўцы расстралялі ў вёсцы 4 партызан (пахаваны на вясковых могілках). У брацкай магіле, што на могілках, пахаваны 20 сав. воінаў 843-га стралк. палка 238-й стралк. дывізіі 50-й арміі 2-га Бел. фронту, якія загінулі пры вызваленні вёскі. З 22.10.1963 г. ў Гарадзецкім с/с Шклоўскага р-на. У 1990 г. 81 гаспадарка, 159 жыхароў, у складзе саўгаса «Гарадзец» (цэнтр — в. Гарадзец). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, клуб, б-ка. У 1997 г. 72 гаспадаркі, 152 жыхары. У 2007 г. вёска ў складзе с.-г. прыватнага УП «Камерцыйны ашчадны банк «Гарадзец». Планіровачна складаецца з 2 размежаваных вуліц — усх. мае мерыдыянальную арыентацыю, зах. арыентавана з ПдУ на ПнЗ пад вуглом да шашы. Жылая забудова двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Паміж вуліцамі на Пн гасп. сектар.

**СЛІЖЫ** — вёска ў Гарадзішчанскім с/с, за 29 км на У ад Шклова, 56 км ад Магілёва, 31 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны. На ПдУ цячэ р. Аўчоса (прыток р. Бася). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Княжыцы—Горкі. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Упершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца пад 1651 г. як с. Новыя Сліжы ў ВКЛ, мела 14 валок ворнай зямлі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Копыскім павеце, уласнасць памешчыка, дзейнічалі царква і млын. У 1897 г. ў сяле 15 двароў, 96 жыхароў, у сядзібе 3 двары, 13 жыхароў. У пач. 20 ст. пабудавана мураваная царква, якая зараз з'яўляецца помнікам архітэктуры. У 1909 г. 14 двароў, 150 жыхароў, дзейнічала царк.-прыходская школа. У 1924 г. створаны аграпункт і с.-г. крэдытнае т-ва. З 1925 г. да 16.7.1954 г. цэнтр с/с. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоныя Сліжы». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.4.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1957 г. да вёскі далучаны пас. Першы Май. У 1990 г. 10 гаспадарак, 18 жыхароў, у складзе саўгаса «Юбілейны» (цэнтр — в. Акунёўка). У 1997 г. 6 гаспадарак, 10 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Новае Юбілейнае». Планіроўка Г-падобная. Дзве кароткія прамалінейныя вуліцы мерыдыянальнай і шыротнай арыентацыі забудаваны няшчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**СМАЛЬЯНЦЫ** — вёска ў Старасельскім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Шклова, 64 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Копысь на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пн мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Бярозаўка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Стараселле і далей па шашы Шклоў—Хацькова. 36 гаспадарак, 65 жыхароў (2007).

Упершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца пад 1606 г., у складзе ВКЛ, пры абмежаванні ўладанняў Старасельскага касцёла. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. в. Смальняны ў Копыскай акрузе Магілёўскай губ. У 1782 г. ўладанне князёў Агінскіх. У 1897 г. ў Старасельскай вол. Аршанскага павета, 45 двароў, 283 жыхары. Мелася вінная крама. Побач быў аднайменны хутар (1 двор, 3 жыхары). У 1909 г. 47 двароў, 259 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў кал-

гас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 75 гаспадарак, 169 жыхароў, у складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Стараселле). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, зернедрабілка, працавалі клуб, магазін. У 1997 г. 61 гаспадарка, 139 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Александрыйскае». Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, перасечанай ракой і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры гасп. сектар.

**СМЯТАНІЧЫ** — вёска ў Таўкачоўскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Шклова, 35 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны. На ПнУ мяжуе з лесам. Вёску перасякае меліярацыйны канал, злучаны з р. Вабіч (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Чарнаручча. 20 гаспадарак, 27 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 1573 г., калі вёска была падаравана Галоўчынскаму касцёлу. У 1743 г. сяло ў Аршанскім павеце. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. ў Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Галоўчын Магілёўскага павета, уласнасць памешчыка, 37 двароў, 230 жыхароў, меўся млын. У 1858 г. 96 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка, які ў 1840 г. меў у вёсках Смятанічы і Гавяды 1186 дзес. зямлі, 3 карчмы. У 1869 г. засн. ганчарна-кафлянае прадпрыемства, якое вырабляла кафлю, тэракотавыя вырабы (у 1913 было 50 рабочых). Частка вяскоўцаў займалася кавальскім промыслам. У 1897 г. ў Таўпечыцкай вол. Магілёўскага павета, 66 двароў, 356 жыхароў. Меліся кузня, школа граматы, 2 хлебазапасныя магазіны, заезны дом. У фальварку, які знаходзіўся непадалёку, было 23 жыхары. У 1904 г. адкрыта земская школа. У 1909 г. 70 двароў, 457 жыхароў, на аднайменным хутары 4 двары, 25 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якой у 1923 г. перададзены нацыяналізаваны будынак, у 1925 г. налічвалася 50 вучняў. 29.9.1923 г. створана меліярацыйнае т-ва «Зара», 26.7.1924 г. адбылася с.-г. выстаўка, якая прадэманстравала першыя дасягненні с.-г. вытв-сці. У 1930 г. арганізаваны калгас «Бедната». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1967 г. далучаны вёскі Засценак, Зялёная Рошча, Краснаярск, Падгорны. У 1990 г. 75 гаспадарак, 148 жыхароў, у складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Таўкачы). Размяшчалася вытв. брыгада, працавалі пач. школа, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. У 1997 г. 9 гаспадарак, 15 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Светлае». Планіровачна складаецца з працяглай дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПдУ. Забудова двухбаковая, няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**СТАНЦЫЯ КОПЫСЬ** — пасёлак у Александрыйскім с/с, за 15 км на Пн ад Шклова, 55 км ад Магілёва; чыг. станцыя на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Дняпро. Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Орша. 13 гаспадарак, 29 жыхароў (2007).

Пасёлак засн. як чыг. станцыя ў 1902 г., калі пачала дзейнічаць чыгунка Віцебск—Орша—Магілёў—Жлобін. З 20.8.1924 г. ў Александрыйскім с/с Копыскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7.1930), з 8.7. 1931 г. Шклоўскага р-на. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. пасёлак акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1991 г. 11 гаспадарак, 54 жыхары, у складзе калгаса «Дняпроўскі» (цэнтр — в. Александрыя). Працаваў магазін. У 2007 г. ў складзе ААТ «Александрыйскае». Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі.



Забудова пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СТАНЦЫЯ ЛАТВА** — пасёлак у Каменналаўскім с/с, за 17 км на Пд ад Шклова, 33 км ад Магілёва; чыг. станцыя на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Магілёў. 70 гаспадарак, 145 жыхароў (2007).

Пасёлак вядомы з канца 19 ст., калі пачалося будаўніцтва чыг. Санкт-Пецярбург—Адэса. Паводле перапісу 1897 г. ў ім 4 двары, 26 жыхароў. На пач. 20 ст. 4 двары, 41 жыхар. З жн. 1924 г. ў Старавадвянскім, з сак. 1960 г. ў Каменналаўскім сельсаветах. У 1925 г. пачало дзейнічаць садова-агародніцкае т-ва. У 1930 г. сумесна з жыхарамі в. Міхайлава арганізаваны калгас «Праца», а частка пасялкоўцаў увайшла ў другі калгас «Новае жыццё». У 1937 г. 155 жыхароў. З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 8.7.1941 г. да 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З першых дзён акупацыі актыўна дзейнічала падп. група (кіраўнік — удзельнік грамадз. вайны Ф.С.Грышчанкоў), члены якой праводзілі дыверсійную і агітацыйна-прапагандысцкую работу, збіралі разведвальныя звесткі. У канцы 1941 г. група ўвайшла ў падп. парт.-камсамольскую аргцыю Старавадвянскага і Каменналаўскага сельсаветаў. З мая 1943 г. кіраўніцтва ёю ажыццяўляла камандаванне партыз. атрада № 10 брыгады «Чэкіст». 13.6.1944 г. партызаны разграмілі паліцэйскі гарнізон, які размяшчаўся на цагельным з-дзе. У 1949 г. абсталяваны радыёвузел. У 1991 г. 99 гаспадарак, 224 жыхары, у складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Дабрэйка). Дзейнічалі пач. школа, амбулаторны ўчастак, аддзяленні ашчаднага банка і сувязі, 3 магазіны, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. У 2007 г. ў складзе СВК «Вадвянскае». Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, якая на Пд паварочвае на З і перасякаецца чыгункай. Забудова мураванымі і драўлянымі будынкамі.

**СТАРАСЕЛЛЕ** — вёска ў Славенскім с/с, за 7 км на ПнУ ад Шклова, 47 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Мар'янка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 100 гаспадарак, 204 жыхары (2007).

Упершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца ў 1650 г., калі вёска (34 двары) уваходзіла ў Чурылаўскую вол. Копыскага графства Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, з'яўлялася шляхецкай уласнасцю. У 1670 г. ў Гарадзецкім войтаўстве, 13 двароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Копыскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 33 двары, 244 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1864 г. адкрыта школа, для якой у 1894 г. пабудавана памяшканне. У 1880 г. 43 двары, 302 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася вырабам розных быт. рэчаў з лыка і кары. У 1897 г. ў Любініцкай вол. Горацкага павета, 59 двароў, 379 жыхароў. Меліся млын, піцейны дом. У 1909 г. 67 двароў, 481 жыхар. У 1919 г. на базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 142 вучні (з іх 35 піянераў). Восенню 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны ўдарнік», які хутка стаў адным з перадавых у раёне. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На ўшанаванне памяці 39 вяскоўцаў, якія загінулі на фронце, у 1967 г. пастаўлены абеліск. У 1990 г. 134 гаспадаркі, 365 жыхароў, у складзе калгаса імя Фрунзе (цэнтр — в. Любінічы). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, дзейнічалі клуб, б-ка, пач. школа, магазін. У 1997 г. 122 гаспадаркі, 216 жыхароў. У 2008 г. вёска ў складзе ЗАТ «Амкадор-Шклоў». Планіровачна складаецца з 2 плаўна выгнутых вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ, па абодва берагі ракі. Ад



*Ф.С.Грышчанкоў.*

пaўд. вуліцы адыходзяць на Пд 3 кароткія прамалінейныя вуліцы з завулкамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц., пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд. ускраіне гасп. сектар.


*К.А.Патапава.*

Радзіма Герояў Сац. Працы К.А.Патапавай, П.М.Сяркова.

**СТАРАСЕЛЛЕ** — вёска ў Старасельскім с/с, за 19 км на ПнЗ ад Шклова, 50 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Праз вёску цячэ р. Бярозаўка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Хацькова, якая праходзіць праз вёску. 167 гаспадарак, 371 жыхар (2007).

За 0,2 км на ПнЗ ад вёскі, на левым беразе р. Бярозаўка, пры ўпадзенні ў яе безназоўнай рэчкі, размешчана стараж. гарадзішча, якое сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай мінуўшчыне. Паводле рукапісных крыніц вёска вядома з 1557 г., калі тут пачалася валочная памера. У 1561 г. мястэчка, цэнтр маёнтка ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. ВКЛ, належала Сапегам. У 1604 г. ў рукапісных крыніцах упамінаецца ў сувязі з тым, што Л.Сапега перадаў Старасельскаму кляштару сёлы Веронікі і Гарадок, што за 3 вярсты ад Стараселля. У 1656 г. К.Сапега падараваў мястэчка сваёй пляменніцы Нерушэвіч, ад якой яно перайшло да пратэстанцкай царквы. У час руска-польскай вайны 1654—67 гг. разбурана. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Копыскай акрузе. У Айч. вайну 1812 г. М.І.Кутузаў 13.11 кватараваў тут. У 19 ст. ў Аршанскім павеце Магілёўскай губ. У 1827 г. 526 жыхароў, у Копыскім павеце, працавала смалакурна-шкіпінарнае прадпрыемства, дзейнічалі Троіцкая царква, царк.-прыходская школа, у якой у 1888 г. навучалася 39 хлопчыкаў і 10 дзяўчынак, у 1907 г. — 97 хлопчыкаў і 34 дзяўчынкі. У 1850 г. засн. смалакурня (13 рабочых). З 1868 г. ўладанне Л.Цітова. У 1880 г. 65 двароў, 464 жыхары, 2 крупадзёркі, вінакурны і цагельны з-ды, сукнавальня, 2 млыны. У 1886 г. мястэчка, цэнтр воласці Аршанскага павета, 22 двары, 242 жыхары, вал. і мяшчанскае праўленні. У 1897 г. 143 двары, 926 жыхароў, меліся вадзяны млын, 20 крам, багадзельня, карчма, 2 царквы, касцёл, малітоўная школа, 2 кірмашы на год. У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама, паштовае аддз., прыёмны пункт. У 1909 г. 88 двароў, 450 жыхароў. 25.10.1918 г. пасля адыходу герм. войск адразу была адноўлена Сав. ўлада, арганізаваны ваенна-рэв. к-т. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 18.11.1920 г. ў Віцебскай губернях РСФСР, з 3.3.1924 г. ў складзе БССР, з 20.8.1924 г. ў Копыскім р-не Аршанскай акругі (да 26.7.1930), з 8.7.1931 г. ў Талачынскім, з 5.12.1931 г. ў Шклоўскім р-нах. У 1929 г. арганізаваны калгасы «Бальшавік» і «Чырвонае поле», якія ў 1930 г. аб'ядналіся ў адну гаспадарку. У 1934 г. вёска атрымала электрычнае асвятленне. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. калгас меў 619 га ворнай зямлі, 64 га лугоў, 83 кані, 73 каровы, 56 свіней, 68 авечак. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. вёска акупіравана


*Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў у в. Стараселле.*



ням.-фаш. захопнікамі. За 2 км на ПнУ ад вёскі, каля лесу, пахаваны каля 200 ваеннапалонных і мірных жыхароў, якіх у 1942 г. расстралялі гітлераўцы. Ураджэнец вёскі Ф.М.Сядлецкі быў камісарам партыз. брыгады «Чэкіст», потым камандзірам 30-га партыз. атрада, загінуў 10.12.1943 г., пахаваны на вясковых могілках. Каля вёскі ў час яе вызвалення здзейсніў подзвіг наводчык самаходнай гарматы старшы сяржант У.А.Галаскокаў (нар. ў 1918), які, цяжка паранены, на падбітай самаходнай гарматнай установцы знішчыў шмат варожай тэхнікі і жывой сілы. За гэты подзвіг удастоены звання Героя Сав. Саюза. У цэнтры вёскі ў брацкай магіле пахаваны 110 сав. воінаў, якія загінулі пры вызваленні вёскі. На фронце і ў партыз. барацьбе загінуў 51 вясковец. У 1974 г. працавалі лесапільня, камбінат быт. абслугоўвання, сепаратарны пункт. Дзейнічалі сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, бальніца, ветэрынарны пункт, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны. У 1990 г. 200 гаспадарак, 443 жыхары, цэнтр калгаса «Бальшавік», які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі, вырошчванні тэхн. культур, меў 2718 с.-г. угоддзяў, у тым ліку 2258 га ворнай зямлі, 38 трактароў, 12 збожжаўборачных камбайнаў, 20 грузавых аўтамашын і іншую тэхніку. Гаспадарка складалася з 3 паляводчых брыгад і 5 жывёлагадоўчых ферм. У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, зернедрабільня, устаноўка па нарыхтоўцы вітаміннай мукі, лесапільня, працавалі Дом культуры, б-ка, сярэдняя школа, 2 магазіны, участковая бальніца, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сталовая, аддз. сувязі. У 1997 г. 209 гаспадарак, 501 жыхар. У 2002 г. 192 гаспадаркі, 478 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Александрыйскае». Працавалі вучэбна-пед. комплекс «Дзіцячы сад — сярэдняя агульнаадукац. школа», урачэбная амбулаторыя, аптэка, аддз. сувязі, магазіны, Дом культуры, комплексны прыёмны пункт, б-ка. Планіроўка вуліц блізкая да радыяльнай. Ад плошчы, размешчанай каля шашы, адыходзяць у розных напрамках 4 вуліцы. Паралельна і перпендыкулярна да шашы праходзяць на Пн і У яшчэ 2. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПнУ склаліся 3 новыя вуліцы, забудаваныя індывідуальнымі і двухкватэрнымі тыпавымі мураванымі дамамі. На Пд вытв. сектар.





*Свята апошняга званка ў Старасельскім вучэбна-педагагічным комплексе «Дзіцячы сад — сярэдняя агульнаадукацыйная школа». 2008 г.*



*Помнік землякам у в. Старая Вадва.*

Радзіма ген.-лейтэнанта, засл. работніка культуры РСФСР У.І.Філіпава, бел. гісторыка, доктара гіст. навук, праф., засл. работніка вышэйшай школы БССР І.С. Росмана.

**СТАРАЯ ВАДВА** — вёска ў Каменналаўскім с/с, за 22 км на ПдЗ ад Шклова, 27 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У пачынаецца р. Лахва (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Шклоў. 110 гаспадарак, 213 жыхароў (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 1561 г. як в. Вадва, шляхецкая ўласнасць у ВКЛ. У 1567 г. цэнтр маёнтка Аршанскага павета. У 1777 г. сяло ў Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. цэнтр маёнтка ў Магілёўскім павеце, 68 двароў, 334 жыхары, уласнасць памешчыка. Меліся мураваная царква, рэшткі якой зараз з'яўляюцца помнікам архітэктуры, драўляны гаспадарскі дом, 2 вадзяныя млыны, вінакурня. Памешчык меў тут у 1842 г. 1175 дзес. зямлі, у 1881 г. — 1000 дзес. У 1880 г. 41 двор, 288 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім і бандарным промысламі, вырабам посуду і іншых быт. рэчаў з дрэва, лыка і кары. У 1897 г. ў Таўпечыцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 60 двароў, 380 жыхароў. Дзейнічалі школа граматы, хлебазапасны магазін, заезны дом, царква, 2 разы ў год праводзіліся кірмашы. Меліся 2 фальваркі (2 двары, 25 жыхароў), адзін з якіх меў назву Вадва-Юзуфоўка. Непадалёку быў хутар (2 двары, 15 жыхароў). Восенню 1899 г. вяскоўцы ўдзельнічалі ў самавольнай высечцы памешчыкага лесу. У 1900 г. пачала дзейнічаць царк.-прыходская школа, для якой у тым жа годзе збудавана памяшканне. У 1909 г. 82 двары, 472 жыхары, адкрыта казённая вінная крама. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 83 вучні. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Шклоўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. У 1930 г. арганізаваны калгас, у які першапачаткова ўваходзілі 23 гаспадаркі. У 1930-я г. 4-гадовая школа ператворана ў 7-гадовую, у якой у 1941 г. было 328 вучняў, працавала 13 настаўнікаў. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1939 г. ў вёсцы налічвалася 93 двары, 385 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 8.7.1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ужо ў першыя дні акупацыі ў вёсцы была створана патрыят. група, якая



*Царква ў в. Старая Вадва. 18—19 ст.*



потым увайшла ў склад парт.-камсамольскай падп. арг-цыі, што дзейнічала ў Старавадвянскім і Каменналаўскім сельсаветах. На ўшанаванне памяці 192 землякоў, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у 1971 г. каля Дома культуры пастаўлены абеліск. У 1966 г. за поспехі ў развіцці льнаводства калгас быў удзельнікам выстаўкі дасягненняў нар. гаспадаркі СССР. У 1970 г. яму ўручана Ленінская юбілейная Ганаровая грамата ЦК КПБ, Прэзідыума Вярх. Савета БССР і Белсаўпрофа. З 1960 г. вёска ў Каменналаўскім с/с. У 1967 г. да вёскі далучана в. Лотва-Вадва. У 1974 г. працавалі лесапільня, млын, 8-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 2 магазіны. У 1990 г. цэнтр калгаса «Зара», які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі з развітым ільнаводствам, меў 3220 га с.-г. угоддзяў, у тым ліку 2758 ворыва, 39 трактароў, 13 збожжаўборачных камбайнаў, 14 грузавых аўтамашын і іншую тэхніку. Гаспадарка складалася з 5 вытв. брыгад, 8 жывёлагадоўчых ферм. У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, лесапілка, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, працавалі 8-гадовая школа, Дом культуры, дзіцячы сад-яслі, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, магазін. У 1997 г. 108 гаспадарак, 447 жыхароў. У 2001 г. 146 гаспадарак, 323 жыхары. У 2007 г. вёска — цэнтр ТАА «Плодаагародніна», сярэдняя агульнаадукац. школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з працяглай амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнУ на ПдЗ і перакрыжаванай на Пн 2 кароткімі прамалінейнымі вуліцамі. Жылая забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. На Пн на перакрыжаванні вуліц размешчаны грамадскі цэнтр. Тут жа паралельна да старой склалася новая вуліца, забудаваная індывідуальнымі тыпавымі мураванымі жылымі дамамі. На зах. ускраіне вытв. сектар.

**СТАРОЕ БРАШЧЫНА** — вёска ў Старасельскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Шклова, 52 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ ручай (прыток р. Бярозаўка), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Круглае, якая праходзіць каля вёскі. 14 гаспадарак, 25 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 17 ст. ў Чырчынскім войтаўстве Шклоўскага графства ВКЛ. У 1-й пал. 17 ст. тут быў фальварак, шляхецкая ўласнасць. У 1695 г. 9 двароў. У 1771 г. 14 двароў, 75 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У



*Догляд за пасевамі яравых культур.*

1785 г. ў Копыскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 16 двароў, 101 жыхар, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Старасельскай вол. Аршанскага павета, 10 двароў, 103 жыхары. У 1909 г. засценак Стара-Брашчына, 11 двароў, 105 жыхароў. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 29 гаспадарак, 25 жыхароў, у складзе калгаса «Маяк» (цэнтр — в. Вялікае Уланава). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. У 1997 г. 19 гаспадарак, 35 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс». Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СТАРОЕ ВЫСОКАЕ** — вёска ў Каменналаўскім с/с, за 11 км на Пд ад Шклова, 36 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У праходзіць чыгунка, праз вёску цячэ р. Ульянка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Шклоў. 19 гаспадарак, 24 жыхары (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 17 ст. У сярэдзіне 17 ст. цэнтр войтаўства ў Шклоўскім графстве ВКЛ. У 1771 г. 8 двароў, 16 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. 26 двароў, 166 жыхароў, у складзе маёнтка Шклоў Магілёўскага павета, уласнасць памешчыка. У канцы 18 ст. 8 двароў, 81 жыхар, сумеснае валоданне С.Г.Зорыча і С.Ф.Герасімава. У 1858 г. ў Магілёўскім павеце, 38 рэвізскіх душ, дзейнічала царк.-прыходская школа. У 1880 г. 15 двароў, 88 жыхароў, меліся карчма, вадзяны млын, царква. Частка вяскоўцаў займалася стальмашным промыслам. У 1897 г. ў Шклоўскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 24 двары, 160 жыхароў, хлебазапасны магазін. Непадалёку была сядзіба (1 двор, 6 жыхароў). У 1903 г. ў цэнтры вёскі пабудавана з цэглы царква — помнік архітэктуры з рысамі псеўдарускага стылю. У 1909 г. ў сяле 29 двароў, 185 жыхароў, у сядзібе — 2 двары, 5 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якую наведвалі дзеці з вёсак Высокае, Трэбушкі, Вял. Камароўка, Літоўск, Прыгоннікі, Зашчыта, Хвашчэўск. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Шклоўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У канцы 1928 г. арганізаваны калгас, пачалі дзейнічаць парт. і камсамольская ячэйкі. У 1933 г. адкрыта хата-чытальня, вёска электрыфікавана. У 1934 г. дзейнічалі калгасы «1 Мая» і імя Леніна, якія абслугоўвала Шклоўская МТС. У 1937 г. ў вёсцы 301 жыхар. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1939 г. існавалі вёскі Старое Высокае (36 двароў, 175 жыхароў) і Новае Высокае. 4-гадовая школа, якая размяшчалася ў Старым Высокім, была ператорана ў 7-гадовую (385 вучняў, 12 настаўнікаў). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што на вясковых могілках, пахаваны сав. воіны 44-га і 459-га стралк. палкоў 42-й Смаленскай стралк. дывізіі і 555-га стралк. палка 153-й стралк. дывізіі 49-й арміі 2-га Бел. фронту, якія загінулі ў баях за вызваленне вёскі. 27.6.1984 г. на сродкі, заробленыя вучнямі сярэдняй школы № 3 г. Іркуцк, якія вывучалі баявы шлях 42-й Смаленскай стралк. дывізіі, узведзены помнік сав. воінам, што загінулі ў баях за вызва-

*Дом культуры ў в. Старая Вадва.*





ленне Шклоўшчыны. У 1990 г. 31 гаспадарка, 52 жыхары, у складзе калгаса «Чырвоны Кастрычнік» (цэнтр — в. Вялікая Камароўка). Размяшчалася свінагадоўчая ферма, працавалі магазін, фельч.-акушэрскі пункт. У 1997 г. 29 гаспадарак, 53 жыхары. У 2007 г. вёска ў складзе філіяла СВК «Газавік-Сіпакова» вытв. УП «Магілёўаблгаз». Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ па абодва бакі ракі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**СТАРОЕ ЗАЙМІШЧА** — вёска ў Ардацкім с/с, за 38 км на ПдУ ад Шклова, 42 км ад Магілёва, 40 км ад чыг. ст. Цёмны Лес на лініі Орша—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Княжыцы—Горкі. 17 гаспадарак, 26 жыхароў (2007).

Вядома з сярэдзіны 17 ст. як вёска ў Сасноўскім войтаўстве Шклоўскага графства, шляхецкая ўласнасць. У 1771 г. 18 двароў, 109 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Магілёўскім павеце, уласнасць памешчыка, 18 двароў, 176 жыхароў. У канцы 18 ст. 22 двары, 181 жыхар, належала С.Г.Зорычу. У 1880-я г. 32 двары, 195 жыхароў, якія займаліся земляробствам, прадзеннем, ткацтвам, вырабам розных быт. рэчаў з лыка і кары. Паводле перапісу 1897 г. ў Нічыпаравіцкай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 47 двароў, 307 жыхароў, хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. 49 двароў, 369 жыхароў, земская школа. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. займалася 60 вучняў, дзейнічалі харавы і драматычны гурткі. З 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1930-я г. існавалі вёскі Новае Займішча і Старое Займішча. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёскі акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1941 г. ў час жорсткіх абарончых баёў супраць акупантаў сав. часці ў раёне Ордаць—Дзіўнава—Займішча пераходзілі ў контрнаступленне. У 1961 г. да вёсак далучана в. Казлякі. З 1967 г. яны аб'ядналіся ў в. Займішча. У 1991 г. ў в. Займішча 46 гаспадарак, 96 жыхароў, у складзе саўгаса «Рабочы» (цэнтр — в. Ордаць). У 1997 г. ў вёсках Новае Займішча і Старое Займішча 32 гаспадаркі, 50 жыхароў. З 1998 г. в. Старое Займішча. Працавалі пач. школа, магазін. У 2007 г. ў складзе ААТ «Ардацкае». Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Жылыя дамы драўляныя.

**СТАРЫЯ СТАЙКІ** — вёска ў Славенскім с/с, за 13 км на Пн ад Шклова, 53 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пн цячэ ручай (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 56 гаспадарак, 140 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 17 ст. як вёска ў Гарадзецкім войтаўстве Копыскага графства Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1670 г. 19 двароў, у 1673 г. меліся фальварак, млын, карчма, у 1737 г. 35 двароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Копыскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 33 двары, 247 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1910 г. адкрыта царк.-пры-



*Царква ў гонар святога Георгія Перамаганосца ў в. Старое Высокае.*

ходская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1917 г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 87 вучняў. У 1920 г. для школы пабудавана памяшканне. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1933 г. вёска электрыфікавана. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1974 г. вёска — цэнтр калгаса «1 Мая», працавалі пач. школа, клуб, б-ка, магазін. У 1990 г. 80 гаспадарак, 140 жыхароў, цэнтр калгаса «1 Мая», які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі і вырошчванні лёну, меў 1734 га с.-г. угоддзяў, у тым ліку 1374 га ворнай зямлі, 23 трактары, 11 грузавых аўтамашын, 7 збожжаўборачных камбайнаў. Гаспадарка складалася з 2 вытв. брыгад і 3 жывёлагадоўчых ферм. У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, працавалі клуб, б-ка, магазін, фельч.-акушэрскі пункт. У 1997 г. 80 гаспадарак, 191 жыхар. У 2007 г. вёска — цэнтр ЗАТ «Старыя Стайкі». Дзейнічалі фельч.-акушэрскі пункт, клуб, б-ка. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц шыротнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, паўн. вуліца — традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу, паўд. — мураванымі двухкватэрнымі дамамі. На Пд адм.-грамадскі цэнтр і гасп. сектар.



*Сяўба азімых на палях раёна.*

**СТАРЫЯ ЧАМАДАНЫ** (да 1998 г. Чамаданы) — вёска ў Фашчаўскім с/с, за 24 км на ПдУ ад Шклова, 50 км ад Магілёва, 26 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Праз вёску цячэ р. Чаёнка (прыток р. Бася), на якой утвораны вадаём. Транспартныя сувязі па шашы Княжыцы—Горкі, якая праходзіць каля вёскі. 88 гаспадарак, 165 жыхароў (2007).

Упершыню ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах з 1560 г. як сяло ў Магілёўскай вобл. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1580 г. ў Магілёўскай воласці-старостве Аршанскага павета Віцебскага ваяводства, аддадзена ў пажыццёвае валоданне памешчыку. У 1604 г. цэнтр войтаўства Магілёўскага староства-эканоміі, 69 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1612 г. да сяла было прыпісана 70 валок ворнай зямлі, аддадзена каралём Сігізмундам III Вазай Аршанскай езуіцкай калегіі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Копыскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 62 двары, 463 жыхары, меўся млын. Апрача земляробства сяльчане займаліся пчалярствам. У 1920-я г. дзярж. ўласнасць. Паводле 8-й рэвізіі (1824—36) 283 жыхары. Здавалася ў арэнду за 1676 руб. 72 кап. у год. У 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 126 двароў, 867 жыхароў. Меўся хлебазапасны магазін. У 1908 г. адкрыта земская школа. У 1909 г. 133 двары, 982 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Фашчаўскім с/с Шклоўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якая размясцілася ў нацыяналізаваным памяшканні, у 1925 г. было 122 вучні. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня, у 1927 г. створана с.-г. т-ва, у ліст. 1929 г. арганізаваны калгас «Першая пяцігодка», які ў 1933 г. аб'ядноваў 42 гаспадаркі. З 1934 г. калгас абслугоўвала Фашчаўская МТС. У камсамольскую ячэйку ў той час уваходзіла 12 юнакоў і дзяўчат. З 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. ў вёсцы 1195 жыхароў, пач. школа пераўтворана ў 7-га-



довую (177 вучняў, 13 настаўнікаў). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 15.7. 1941 г. гітлераўцы расстралялі і спалілі ў вёсцы больш за 400 сав. ваеннапалонных і мірных жыхароў. У 1990 г. 138 гаспадарак, 276 жыхароў, у складзе саўгаса — эксперыментальнай базы «Спартак» (цэнтр — в. Фашчаўка). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, зернедрабілка, працавалі магазін, клуб, стацыянарная кінаўстаноўка, пач. школа. У 1997 г. 126 гаспадарак, 225 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе РУСП «Эксперыментальная база «Спартак». Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі з завулкамі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На 3 гасп. сектар.

**СТУПЛЯНЫ** — вёска ў Чарнаруцкім с/с, за 28 км на ПдЗ ад Шклова, 42 км ад Магілёва, 30 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ПдЗ цячэ р. Вабіч (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Чарнаручча. 30 гаспадарак, 42 жыхары (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 17 ст. У 1695 г. ў Чарнаруцкім войтаўстве Шклоўскага графства ВКЛ, 12 двароў, шляхецкая ўласнасць. У 1771 г. 13 двароў, 82 жыхары. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. в. Стаўпляны ў Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1783 г. 14 двароў, 133 жыхары, уласнасць С.Г.Зорыча і С.Ф.Герасімава. У 1880 г. 36 двароў, 232 жыхары. Сяляне плацілі вял. выкупныя плацяжы за зямлю, выраблялі для сябе і на продаж ільняныя і скураныя вырабы і розныя быт. рэчы з лыка і кары. Дзейнічала царк.-прыходская школа. У 1897 г. 40 двароў, 256 жыхароў, у Чарнаруцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ. Меліся хлебазапасны магазін, вінная крама. У 1909 г. 44 двары, 297 жыхароў. На базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені, якую наведвалі дзеці з вёсак Ступляны, Бабічы, пасёлкаў Ступляны, Сасноўка і бліжэйшых хутароў. З 26.4.1919 г. ў Чарнаруцкай, з 9.5.1923 г. ў Шклоўскай валасцях Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР. 29.9.1923 г. створана меліярацыйнае т-ва. З 3.3.1924 г. ў складзе БССР, з 20.8.1924 г. ў Чарнаруцкім с/с Шклоўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.11.1930). У 1928 г. для школы пабудавана памяшканне. 11.7.1931 г. вяскоўцы арганізавалі калгас «Ленінскі шлях». З 20.8.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1941 г. калгас аб'ядноўваў 72 гаспадаркі, меў 202 га пашні, 178 га лугоў, 54 кані, 62 каровы, 28 свіней, 45 авечак, 7 пчаліных сем'яў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Дзейнічала парт.-камсамольская падп. група на чале з сав. афіцэрам І.В.Каныхіным. Падпольшчыкі збіралі зброю і боепрыпасы, вялі сярод насельніцтва растлумачальную работу. У студз. 1942 г. большасць чл. гэтай групы пайшла ў партыз. атрад № 3, які ўзначаліў І.В.Каныхін. У 1990 г. 60 гаспадарак, 133 жыхары, у складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Тударава). Размяшчаліся вытв. брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, дзейнічалі пач. школа, магазін, клуб. У 1997 г. 54 гаспадаркі, 96 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Палыкавіцкае». Планіровачна складаецца з крывалінейных, амаль паралельных паміж сабой вуліц блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забу-



*На ўездзе ў в. Старыя Чамаданы.*

давана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ТАЎКАЧЫ** — вёска, цэнтр Таўкачоўскага с/с, а 15 км на З ад Шклова, 38 км ад Магілёва, 2 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У — невялікае возера. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Чарнаручча. 46 гаспадарак, 100 жыхароў (2007).



*І.Ф.Несцераў.*

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 17 ст. як вёска ў Чарнаруцкім войтаўстве Шклоўскага графства ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1695 г. 19 двароў, у 1771 г. 30 двароў, 166 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. ў Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. 38 двароў, 296 жыхароў, у складзе маёнтка Шклоў Магілёўскага павета, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 42 двары, 288 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася вырабам розных быт. рэчаў з лыка і кары. У 1897 г. ў Чарнаруцкай вол. Магілёўскага павета, 54 двары, 394 жыхары. Меліся хлебазапасны магазін, заезны дом. У 1909 г. 58 двароў, 403 жыхары. У 1912 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, дзе навучаліся дзеці з вёсак Таўкачы, Дубраўка, Ліхачы, пас. Скубілаўка і бліжэйшых хутароў. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета. У 1924 г. адкрыты хата-чытальня і б-ка. У 1928 г. дзейнічала сыраробнае прадпрыемства. У студз. 1929 г. арганізаваны калгас. У 1933 г. вёска электрыфікавана. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 18 сав. воінаў 44-га і 445-га стралк. палкоў 42-й стралк. дывізіі 49-й арміі 2-га Бел. фронту, якія загінулі ў баях за вызваленне раёна. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 58 вяскоўцаў. У 1960 г. да вёскі далучаны пас. Дуброва. У 1990 г. 64 гаспадаркі, 134 жыхары, цэнтр калгаса «Світанне», які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі з развітым ільнаводствам, меў 4054 га с.-г. угоддзяў, у тым ліку 3063 га ворнай зямлі, 36 трактароў, 14 збожжаўборачных камбайнаў, 13 грузавых аўтамашын і іншую тэхніку. Гаспадарка складалася з 6 вытв. брыгад і 6 жывёлагадоўчых ферм. У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, зернедрабілка, ферма буйной рагатай жывёлы, працавалі клуб, б-ка, 8-гадовая школа, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, дзіцячы сад. У 1997 г. 57 гаспадарак, 160 жыхароў. У 2002 г. 52 гаспадаркі, 117 жыхароў, клуб. У 2007 г. вёска — цэнтр ЗАТ «Светлае». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПнУ на ПдЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі сял. сядзібамі. Сучасная мураваная забудова вядзецца пры ўездах у вёску. На паўн.-ўсх. ускраіне размешчаны грамадскія будынкі. На У гасп. сектар.

Радзіма Героя Сав. Саюза І.Ф.Несцерава (1904—1989), які вызначыўся ў Вял. Айч. вайну пры фарсіраванні р. Дунай у Венгрыі.

У склад Таўкачоўскага с/с уваходзяць 12 населеных пунктаў.

**ТРОІЦА** — вёска, цэнтр Старасельскага с/с, за 15 км на ПнЗ ад Шклова, 45 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На З і У мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Варопанка (прыток р. Бярозаўка), на якой утворана вадасховішча. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Хацькова. 40 гаспадарак, 82 жыхары (2007).

За 1 км на Пд ад вёскі захаваўся могільнік (42 насыпы), за 1,5 км на ПдУ — другі могільнік (4 насыпы), за 0,3 км на ПдЗ — трэці (51 насып), якія сведчаць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Паводле рукапісных крыніц вядома з 17 ст., калі яна была ў Чырчынскім войтаўстве Шклоўскага граф-



ства ВКЛ, з'яўлялася шляхецкай уласнасцю. У 1606 г. фальварак Траецкі аддадзены каралеўскім прывілеем Старасельскаму касцёлу Аршанскага павета «з гумном, пашняй, агародамі, з млыном і ставом на р. Бярозаўка і сёламі Гарадок і Варонкі». У 1695 г. ў вёсцы ніхто не жыў. У 1771 г. 32 двары, 176 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. вёска і гаспадарскі дом, у Копыскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. ў Магілёўскім павеце, 21 двор, 257 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Старасельскай вол. Аршанскага павета, 13 двароў, 87 жыхароў. Меліся млын і крупадзёрка. Побач быў засценак (1 двор, 15 жыхароў). У 1909 г. 20 двароў, 96 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай, з 18.11.1920 г. ў Віцебскай губернях РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Шклоўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны шлях», які ў 1940 г. аб'ядноўваў 39 гаспадарак, меў 271 га ворнай зямлі. З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 6 двароў, загубілі 4 жыхароў. На фронце загінулі 22, у партыз. барацьбе — 1 вясковец. У вёсцы на брацкай магіле 197 сав. воінаў устаноўлены помнік. З 22.11.1963 г. цэнтр Старасельскага с/с. У 1974 г. вёска — цэнтр калгаса імя Калініна, працавалі лесапільня, мех. майстэрня, пач. школа, клуб, б-ка, магазін. У 1990 г. 46 гаспадарак, 110 жыхароў. Калгас спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі і вырошчванні тэхн. культур, меў 2266 га с.-г. угоддзяў, у тым ліку 1945 га ворнай зямлі, 34 трактары, 8 збожжаўборачных камбайнаў, 12 грузавых аўтамашын і іншую тэхніку. Гаспадарка складалася з 2 брыгад і 6 жывёлагадоўчых ферм. У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, машынны двор, ферма буйной рагатай жывёлы, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, устаноўка па прыгатаванні вітамінңай мукі, зернедрабілка, лесапільня, працавалі пач. школа, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, б-ка, магазін, дзіцячы сад-яслі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі. У 1997 г. 53 гаспадаркі, 140 жыхароў. У 2002 г. 49 гаспадарак, 111 жыхароў, мелася пач. школа. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс». Працавалі фельч.-акушэрскі пункт, клуб, б-ка. Планіроўка Г-падобная. Гал. вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ уздоўж вадасховішча. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пн ад гал., паралельна да яе, праходзіць новая вуліца, якая забудоўваецца мураванымі дамамі тыпу катэджаў. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. На Пд, па другі бок вадасховішча, гасп. сектар.

Радзіма бел. паэта Алеся (Аляксандра Міхайлавіча) Жыгунова (нар. ў 1954).

У склад Старасельскага с/с уваходзіць 31 населены пункт.

**ТРОСЕНКА** — вёска ў Александрыйскім с/с, за 7 км на ПнЗ ад Шклова, 47 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пн мяжуе з лесам і цячэ р. Тросенка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Чарнаручча. 13 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ва Уланаўскім с/с Шклоўскага р-на Магілёўскай акругі

*У наваколлі в. Тройца.*



(да 26.7.1930). У 1930 г. арганізаваны калгас імя Калініна. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 27 гаспадарак, 52 жыхары, у складзе калгаса «Ударнік» (цэнтр — в. Слабодка). У 1997 г. 23 гаспадаркі, 36 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Александрыйскае». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ТРОСНА** — вёска ў Старасельскім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Шклова, 54 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ПдУ бярэ пачатак р. Тросенка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Чарнаручча. 20 гаспадарак, 28 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 1777 г. як вёска ў Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. в. Трасна (21 двор, 257 жыхароў) у Магілёўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1858 г. цэнтр маёнтка. Памешчык меў тут у 1866 г. 124 дзес. зямлі. У 1897 г. ў Старасельскай вол. Аршанскага павета, 21 двор, 149 жыхароў. Побач быў хутар Тросна (ён жа Мураванка), 3 двары, 10 жыхароў, дзейнічаў вадзяны млын. У 1909 г. ў вёсцы 22 двары, 172 жыхары, на хутары 1 двор, 2 жыхары. У гэтым жа годзе адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1919 г. створана парт. ячэйка. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 66 вучняў з вёсак Тросна, Дуброва, засценка Мацана і бліжэйшых хутароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Молатава. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 43 гаспадаркі, 83 жыхары, у складзе калгаса «Маяк» (цэнтр — в. Вялікае Уланава). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы, працаваў магазін. У 1997 г. 35 гаспадарак, 60 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

За 1,4 км на Пд ад вёскі знаходзіцца радовішча суглінкаў і глін (разведаныя запасы 413 тыс. м$^3$).

**ТРЫЛЕСІНА** — вёска ў Старасельскім с/с, за 20 км на З ад Шклова, 60 км ад Магілёва, 19 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Круглае, якая праходзіць паблізу вёскі. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 17 ст. як вёска ў Чырчынскім войтаўстве Шклоўскага графства ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1695 г. 10 двароў, у 1771 г. 13 двароў, 78 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. в. Трылесін у Копыскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. ў Копыскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 15 двароў, 78 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1897 г. 15 двароў, 109 жыхароў, у Старасельскай вол. Аршанскага павета. У 1909 г. 12 двароў, 118 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 20 двароў, 85 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы ў маі 1944 г. поўнасцю спалілі вёску, загубілі 29 жыхароў. У баі за вёску 27.6. 1944 г. вызначыўся камандзір узвода ўпраўлення батарэі мінамётнага палка лейтэнант П.М.Зюлькоў (1924—1944), які паўтарыў подзвіг А.Матросава, закрыў сваім целам амбразуру варожага дзота, удастоены звання Героя Сав. Саюза, пахаваны ў в. Палыкавічы. Каля брацкай магілы сав. воінаў яму ўстаноўлены помнік. У 1990 г. 8 гаспадарак, 15 жыхароў, у складзе калгаса «Маяк» (цэнтр — в. Вялікае Уланава). У 1997 г. 6 гаспадарак, 12 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс». Кароткая прамалінейная вуліца амаль шыротнай арыентацыі, забудавана двухбакова, ня-






*Помнік П.М.Зюлькову каля брацкай магілы савецкім воінам.*

шчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ТРЭБУШКІ** — вёска ў Каменналаўскім с/с, за 11 км на Пд ад Шклова, 37 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны. На З мяжуе з лесам, на У праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Магілёў. 10 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з сярэдзіны 17 ст. як в. Трыбухі ў Высокаўскім войтаўстве Шклоўскага графства ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1695 г. 8 двароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1780 г. ў Магілёўскім павеце, 10 двароў, 34 жыхары, сумеснае валоданне С.Г.Зорыча і С.Ф.Герасімава. У 1880 г. 36 двароў, 470 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася нарыхтоўкай лясных матэрыялаў для драўляных вырабаў. У 1897 г. ў Шклоўскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 18 двароў, 105 жыхароў. У 1909 г. 17 двароў, 111 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Высокаўскім с/с. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік», які ўваходзіў у зону абслугоўвання Шклоўскай МТС. У канцы 1935 г. калгас аб'ядноўваў 24 гаспадаркі. У 1939 г. ў вёсцы 28 двароў, 148 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1960 г. ў Каменналаўскім с/с. У 1990 г. 26 гаспадарак, 47 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоны Кастрычнік» (цэнтр — в. Вялікая Камароўка). Размяшчаліся фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая. У 1997 г. 21 гаспадарка, 44 жыхары. У 2007 г. вёска ў складзе філіяла СВК «Газавік-Сіпакова» вытв. РУП «Магілёўаблгаз». Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ТУДАРАВА** — вёска ў Чарнаруцкім с/с, за 23 км на ПдЗ ад Шклова, 55 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Вабіч (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Чарнаручча. 74 гаспадаркі, 160 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 17 ст. як вёска ў Чарнаруцкім войтаўстве Шклоўскага графства ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1695 г. 26 двароў, у 1771 г. 40 двароў, 336 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскім павеце Магілёўскай губ. У 1783 г. ў складзе маёнтка Шклоў, 43 двары, 341 жыхар, уласнасць С.Г.Зорыча і С.Ф.Герасімава. У 1858 г. 155 рэвізскіх душ. У 1890 г. адкрыта школа, для якой у 1919 г. пабудавана памяшканне. У 1897 г. 86 двароў, 572 жыхары, меліся хлебазапасны магазін і заезны дом. У 1909 г. ў Чарнаруцкай вол. Магілёўскага павета, 81 двор, 571 жыхар. З 26.4.1919 г. ў Чарнаруцкай, з 9.5.1923 г. ў Шклоўскай вол. Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, з 3.3.1924 г. ў складзе БССР, з 20.8.1924 г. ў Чарнаруцкім с/с Шклоўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). 29.9.1923 г. створана меліяра-

цыйнае т-ва «Культура». На базе дарэв. пачала дзейнічаць прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 63 вучні. Наведвалі школу дзеці з вёсак Тударава і Карбатоўка. У канцы 1920 — пач. 1930 г. дзейнічалі гурткі па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. 9.5.1930 г. арганізаваны калгас «Калектыўная праца». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1941 г. калгас аб'ядноўваў 124 гаспадаркі, меў 522 га ворнай зямлі, 335 га лугоў, 95 коней, 108 кароў, 50 свіней, 60 авечак, 15 пчаліных сем'яў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У в. Тударава і суседніх вёсках дзейнічала парт. камсамольская падп. група, якая ўзнікла ў жн. 1941 г. (кіраўнік камандзір Чырвонай Арміі І.В.Каныхін). У вер. 1941 г. група ўвайшла ў падп. арг-цыю «Патрыёт Радзімы». Падпольшчыкі збіралі зброю і боепрыпасы, вялі растлумачальную работу сярод насельніцтва. У студз. 1942 г. большасць чл. групы пайшла ў партыз. атрад № 40 (камандзір П.А.Красякоў) і № 3 (камандзір І.В.Каныхін). Вызвалена вёска сав. воінамі 70-й стралк. дывізіі 33-й арміі 2-га Бел. фронту. Каля будынка праўлення калгаса, у цэнтры вёскі, у 1968 г. пастаўлены абеліск у памяць аб 138 земляках, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. У 1974 г. вёска — цэнтр калгаса «Радзіма», працавалі лесапільня, мех. майстэрня, пач. школа, клуб, б-ка, магазін.



*Помнік землякам, загінуўшым у гады Вялікай Айчыннай вайны, у в. Фашчаўка.*

У 1990 г. 115 гаспадарак, 277 жыхароў. Калгас спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі і вырошчванні тэхн. культур, меў 2725 га с.-г. угоддзяў, у тым ліку 1361 га ворнай зямлі, 29 трактароў, 8 збожжаўборачных камбайнаў, 11 грузавых аўтамашын і іншую тэхніку. Складаўся з 3 паляводчых брыгад, 5 жывёлагадоўчых ферм. У вёсцы размяшчалася вытв. брыгада, машынны двор, пілярама, майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, зернедрабілка, працавалі пач. школа, клуб, філіял Шклоўскай раённай б-кі, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, стацыянарная кінаўстаноўка. У 1997 г. 112 гаспадарак, 280 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Палыкавіцкае». Працавала сельская б-ка. Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц амаль мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных у цэнтры чацвёртай. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На З, паралельна да асн., праходзіць новая вуліца, якая забудоўваецца сучаснымі муравапнымі дамамі тыпу катэджаў. Сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі. На Пн гасп. сектар.

**ФАШЧАЎКА** — вёска, цэнтр Фашчаўскага с/с, за 19 км на ПдУ ад Шклова, 43 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны. На ПдУ і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 274 гаспадаркі, 590 жыхароў (2007).

Упершыню ўпамінаецца (Хвашчаўка, Блеўкі) у пісьмовых крыніцах у пач. 17 ст. У 1612 г. ў ВКЛ, з'яўлялася фундушам караля Сігізмунда III Вазы Аршанскай езуіцкай калегіі. У 1660-я г. кн. Чартарыйскі заснаваў тут касцёл і місію езуітаў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Аршанскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. 35 двароў, 271 жыхар, цэнтр маёнтка Магілёўскага намесніцтва, меліся мураваны



касцёл, 2 млыны. Штогод у пач. ліп. адбываліся двухдзённыя кірмашы, на якія з'язджаліся з рознымі таварамі гандляры з Магілёва, Чавусаў, Шклова і сяляне з навакольных вёсак. Дзейнічала 28 крам. Ва ўладанні езуітаў была да пач. 1920-х г., а потым стала дзярж. уладаннем, здавалася ў арэнду. Па рэвізіі 1824—36 гг. у вёсцы 529 жыхароў. У 1848 г. с. Хвашчаўка (133 двары) у Магілёўскім павеце. У 1863 г. ў наваколлі з мэтай прадухілення хваляванняў была размешчана каманда жандараў. Памешчык у 1872 г. меў тут 1491,5 дзес. зямлі. У 1899 г. ў наёмным памяшканні (курная хата) была адкрыта 3-гадовая школа (нар. вучылішча), дзе ў першы год навучання займаліся 35 дзяцей з 7 навакольных вёсак. У 1907 г. ў школе навучаліся 83 хлопчыкі і 6 дзяўчынак. У 1907 г. 71 двор, 471 жыхар, меліся хлебазапасны магазін, піцейны дом, касцёл, 2 разы ў год праводзіліся кірмашы. Сяло ўваходзіла ў Нічыпаравіцкую вол. Горацкага павета Магілёўскай губ. У 1905 г. адкрыта вінная крама. У 1909 г. 85 двароў, 412 жыхароў. У пач. 1918 г. створаны вал. Савет сял. дэпутатаў. Пасля ням. акупацыі ў 1918 г. ў Фашчаўцы размяшчаўся кавалерыйскі полк Чырвонай Арміі, байцы якога аказалі вял. дапамогу ва ўмацаванні сав. улады і стварэнні ў 1919 г. прац. школы 1-й ступені (у 1922 г. навучалася 78 дзяцей). У 1925 г. школьная піянерская арг-цыя налічвала 30 вучняў. Дзейнічалі вячэрняя школа для дарослых, драматычны гурток. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Шклоўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). У 1925 г. адкрыта хата-чытальня. У маі 1926 г. створана кандыдацкая група КП(б)Б, якая ў лютым 1928 г. пераўтворана ў парт. ячэйку і восенню 1929 г. налічвала 8 чал. У 1927 г. створана с.-г. т-ва. У 1929 г. па ініцыятыве групы беднаты, падтрыманай шэфамі — рабочымі шклоўскай ф-кі «Спартак», у вёсцы адбыліся «дні калектывізацыі». У кастр. 1929 г. арганізаваны саўгас «Спартак», які ў 1931 г. аб'ядноўваў 93 гаспадаркі. У канцы 1920-х г. пачалі працаваць яслі. У 1932 г. пач. школаператворана ў 7-гадовую. У чэрв. 1934 г. арганізаваны яшчэ адзін калгас — «XVII партз'езд». Вясной таго ж года пачала працаваць Фашчаўская МТС, у якой у 1936 г. быў 41 трактар і шмат іншай тэхнікі. У сярэдзіне 1930-х г. сярод першых стаханаўцаў Магілёўшчыны быў малады камуніст, брыгадзір трактарнай брыгады гэтай МТС А.С.Суслаў. У 1936 г. 7-гадовая школаператворана ў сярэднюю, для яе пабудаваны двухпавярховы будынак. У 2-й пал. 1930-х г. адкрыты б-ка, медпункт, дзіцячы сад, паштовае агенцтва, хлебапякарня, сельмаг, пабудавана 5 двухкватэрных дамоў для рабочых МТС і супрацоўнікаў дзіцячага сада. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1939 г. ў вёсцы 801 жыхар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да





*Мемарыяльны крыж з картушам на месцы касцёла Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Фашчаўка.*

27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У хуткім часе пасля акупацыі ўзнікла камсамольска-маладзёжная падп. група. Гітлераўцы нанеслі значныя страты вёсцы. На ўшанаванне памяці 422 землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, устаноўлены помнік і мемарыяльная дошка. Узнаўляючы сваю работу летам 1944 г., МТС мела толькі 2 трактары, 1 аўтамашыну, 1 малатарню, атрыманыя з усх. раёнаў Беларусі. У 1958 г. на базе ліквідаванай Фашчаўскай МТС быў створаны саўгас «Спартак». У 1974 г. ў вёсцы лесапільня, млын, мех. і шавецкая майстэрні, лясніцтва, сярэдняя школа, клуб, б-ка, дзіцячы сад, бальніца, аптэка, ветэрынарны ўчастак, аддз. сувязі, 3 магазіны. У 1990 г. 216 гаспадарак, 657 жыхароў, цэнтр саўгаса-эксперыментальнай базы «Спартак», які спецыялізаваўся на мяса-малочнай жывёлагадоўлі, вырошчванні насеннай бульбы, меў 5763 га с.-г. угоддзяў, у тым ліку 4511 га ворыўнай зямлі, 44 трактары, 20 збожжаўборачных камбайнаў, 36 грузавых аўтамашын і іншую тэхніку. Гаспадарка складалася з 8 вытв. брыгад, 9 жывёлагадоўчых ферм. У 1997 г. ў вёсцы 309 гаспадарак, 692 жыхары, размяшчаліся вытв. брыгада, лесапільня, машынны двор, майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, зернедрабілка, ферма буйной рагатай жывёлы і комплекс па адкорме свіней, лясніцтва, працавалі 3 магазіны, клуб, дзіцячы сад-яслі, участковая бальніца, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, стацыянарная кінаўстаноўка, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, сярэдняя школа, б-ка, сталовая, аптэка, грамадская лазня. У 2002 г. 289 гаспадарак, 682 жыхары. У 2007 г. вёска — цэнтр РУСП «Эксперыментальная база «Спартак». Дзейнічалі сельская бальніца, аптэка, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт, вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад—сярэдняя агульнаадукац. школа, клуб, б-ка, магазіны. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1975 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Ад цэнтра, утворанага каля дарогі, разыходзяцца ў паўн., паўн.-ўсх., паўн.-зах., паўд.-зах. і паўд.-ўсх. напрамках крывалінейныя вуліцы з традыц., пераважна драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. На Пд будаўніцтва вядзецца сучаснымі мураванымі двухпавярховымі шматкватэрнымі і індывідуальнымі дамамі тыпу катэджаў са зблакіраванымі гасп. пабудовамі. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. Паміж вуліцамі на Пн гасп. сектар.

Радзіма засл. дзеяча культуры Беларусі, б. дырэктара Бел. акадэмічнага тэатра імя Я.Купалы (1968—79) І.Ф.Міхалюты (1919—2002), доктара фізіка-матэматычных навук, праф. Э.А.Сенакосава (нар. ў 1937), доктара эканам. навук, праф. А.А.Гадунова (нар. ў 1921).

У складзе Фашчаўскага с/с 7 вёсак.

**ХАДУЛЫ** — вёска ў Гарадзецкім с/с, за 5 км на У ад Шклова, 38 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пд мяжуе з лесам, цячэ р. Капуснік (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 32 гаспадаркі, 54 жыхары (2007).

Упершыню ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах пад 1560 г., калі с. Хадулаў было ў Магілёўскай вобл. ВКЛ, з'яўлялася дзярж. уласнасцю. У 1604 г. с. Хадулавічы ў Плешчыцкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., фундавана Аршанскаму касцёлу. У 1695 г. ў Шклоўскім графстве, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1785 г. ў Копыскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 17 двароў, 136 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Любоніцкай вол. Горацкага павета, 37 двароў, 248 жыхароў. У 1909 г. 56 двароў, 266 жыхароў. У 1929 г. адкрыта школа. У 1934 г. арганізаваны калгас «Перамога 2-й пяцігодкі», які абслугоўвала Любоніцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 64 гас-



падаркі, 54 жыхары, у складзе саўгаса «Гарадзец» (цэнтр — в. Гарадзец). У 1997 г. 56 гаспадарак, 93 жыхары. У 2007 г. вёска ў складзе с.-г. прыватнага УП «Акцыянерны ашчадны банк «Гарадзец». Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных завулкамі і забудаваных двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ХАЦЬКОВА** — вёска ў Старасельскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Шклова, 63 км ад Магілёва, 21 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Бярозаўка). Транспартныя сувязі па шашы Хацькова—Шклоў, якая пачынаецца каля вёскі. 18 гаспадарак, 24 жыхары (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 1541 г. як с. Ходкава, у складзе маёнтка Дудаковічы, шляхецкая ўласнасць ВКЛ. У 1667 г. сяло ў Аршанскім павеце. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. с. Хацкава ў Копыскай акрузе Магілёўскай губ. У 1797 г. уладанне Шклоўскага кляштара. У 1857 г. ў Магілёўскім павеце, дзярж. уласнасць. У 1897 г. ў Старасельскай вол. Аршанскага павета, 20 двароў, 138 жыхароў. Побач з вёскай, у засценку Пунчына, была адкрыта прац. школа 1-й ступені, якая размясцілася ў нацыяналізаваным будынку, у 1924 г. 25 вучняў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 56 двароў, 300 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 14 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1959 г. да вёскі далучана в. Пунчына. У 1990 г. 55 гаспадарак, 91 жыхар, у складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Стараселле). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, зернедрабілка, працаваў магазін. У 1997 г. 32 гаспадаркі, 58 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Александрыйскае». Планіровачна складаецца з 2 плаўна выгнутых вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ уздоўж ракі і забудаваных двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ХІЛЕЦ** — вёска ў Александрыйскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Шклова, 52 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пн цячэ р. Хільчанка (прыток р. Бярозаўка). Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Хацькова, якая праходзіць каля вёскі. 19 гаспадарак, 32 жыхары (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 17 ст. як вёска ў Вышкаўскім войтаўстве Віцебскага ваяв. У 1695 г. 10 двароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Копыскім павеце Магілёўскай губ. У 1783 г. 19 двароў, 128 жыхароў. У 1897 г. ў Старасельскай вол. Аршанскага павета, 43 двары, 206 жыхароў. У 1909 г. 39 двароў, 268 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Старасельскай вол. Аршанскага павета Гомельскай, з 18.11.1920 г. Віцебскай губерняў РСФСР, з сак. 1924 г. ў складзе БССР, з 20.8.1924 г. ў Александрыйскім с/с Копыскага р-на Аршанскай акругі (да 26.7.1930), з 8.7.1931 г. Шклоўскага р-на. 6.3.1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны штурм». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 39 гаспадарак, 86 жыхароў, у складзе калгаса «Ударнік» (цэнтр — в. Слабодка). Размяшчаліся вытв. брыгада, свінагадоўчая ферма. У 1997 г. 39 гаспадарак, 62 жыхары. У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Александрыйскае». Планіроўка Г-падобная. Больш працяглая вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ, да яе на Пн далучаецца перпендыкулярна кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ХОЦІМКА** — вёска ў Рыжкавіцкім с/с, за 7 км на З ад Шклова, 47 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пн, З і Пд мяжуе з лесам. На Пн цячэ р. Серабранка (прыток р. Дняп-





ро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вялікі Стары Шклоў і далей па шашы Шклоў—Круглае. 18 гаспадарак, 30 жыхароў (2007).

За 0,5 км на У ад вёскі, на левым беразе р. Серабранка, ва ўрочышчы Гарадок, знаходзіцца комплекс археал. помнікаў (гарадзішча, 4 селішчы, курганны могільнік) эпохі Кіеўскай Русі, вядомае пад назвай Стары Шклоў, якое сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Гарадзішча — пляцоўка памерам 70 × 60 м, з трох бакоў абмываецца р. Серабранка, з Пн і ПнУ прасочваюцца рэшткі вала выш. 1,8 м. Знойдзены ганчарная кераміка, шкляныя і жал. бранзалеты, іншыя жал. вырабы. На селішчах выяўлены кераміка стараж.-рус. часоў і 14—16 ст., фрагменты гаршковай кафлі, каменнае ядро, жал. нажы, бронзавая арнаментаваная накладка, шкляныя бранзалеты, манеты 16—17 ст. У курганным могільніку 3 насыпы вышынёй 1,5 м. Ва ўрочышчы Зезюлін Роў знойдзены каменны ідал 10 ст. (шклоўскі ідал). Мяркуюць, што тут было язычніцкае капішча. На думку даследчыкаў, помнікі каля Хоцімкі былі заселены ў эпоху Кіеўскай Русі. Цэнтрам, што аб'ядноўваў усе паселішчы, з'яўлялася гарадзішча, якое было феадальнай сядзібай ці пунктам збору даніны на дняпроўскім шляху. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. як вёска ў Барыскавіцкім войтаўстве Шклоўскага графства ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1695 г. ў вёсцы ніхто не жыў. З 1737 г. дзейнічала царква. У 1771 г. 10 двароў, 56 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. в. Хацімаўшчызна ў Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1897 г. ў Магілёўскім павеце, 14 двароў, 96 жыхароў, меўся хлебазапасны магазін. У 1909 г. 117 жыхароў. З жн. 1925 г. ў Рыжкавіцкім с/с Шклоўскага р-на Магілёўскай акругі. У снеж. 1929 г. арганізаваны калгас. З 15.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 40 гаспадарак, 76 жыхароў, у складзе калгаса «Праўда» (цэнтр — в. Зароўцы). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, працаваў клуб. У 1997 г. 22 гаспадаркі, 42 жыхары. У 2007 г. вёска ў складзе ЗАТ «Шклоўскі аграсервіс». Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.



*Шклоўскі ідал.*

**ЦАРКОВІШЧА** — вёска ў Гарадзішчанскім с/с, за 17 км на У ад Шклова, 46 км ад Магілёва, 19 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Аўчоса (прыток р. Бася). Транспартныя сувязі па шашы Княжыцы—Горкі, якая праходзіць паблізу ад вёскі. 24 гаспадаркі, 31 жыхар (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1785 г. 15 двароў, 64 жыхары, у Копыскім павеце Магілёўскага намесніцтва, уласнасць памешчыка. У 1795 г. 13 двароў, 87 жыхароў. Згодна з купчай 1853 г. ў вёсцы налічвалася 411 дзес. зямлі, з іх 336 дзес. лесу, 30 дзес. ворыва і 5 дзес. сенажаці. У 1897 г. в. Царковішча (яна ж Чудзенка) у Гарадзішчанскай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., налічвала 10 двароў, 63 жыхары. У 1909 г.



16 двароў, 96 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Калгаснік Беларусі». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 54 гаспадаркі, 95 жыхароў, у складзе саўгаса «Юбілейны» (цэнтр — в. Акунёўка). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, працавалі клуб, магазін. У 1997 г. 68 гаспадарак, 136 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ААТ «Новае Юбілейнае». Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, злучаных завулкамі і забудаваных двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

Радзіма Героя Сав. Саюза А.С.Мілюціна (1924—85), які вызначыўся ў Вял. Айч. вайну ў баях за Будапешт у снеж. 1944 — студз. 1945 г.

**ЦАРКОВІШЧА** — вёска ў Каменналаўскім с/с, за 19 км на Пд ад Шклова, 22 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пд мяжуе з лесам, на У цячэ р. Дняпро. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Шклоў, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 27 гаспадарак, 52 жыхары (2007).

За 0,5 км на Пд ад вёскі, на 2-й надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра, знаходзіцца стаянка эпохі мезаліту. За 1,5 км на ПдУ, на правым беразе Дняпра — гарадзішча эпохі Кіеўскай Русі. За 1 км на З, у пойме Дняпра — курганны могільнік (5 насыпаў), які належыць усх. славянам і датуецца 8 ст. н.э. Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 1777 г., калі яна ўваходзіла ў Копыскую акругу Магілёўскай губ. У 1785 г. сяльцо (20 двароў, 132 жыхары) у складзе маёнтка Барсукі Магілёўскага павета Магілёўскага намесніцтва, мелася царква. У 1857 г. ў Магілёўскім павеце, дзярж. уласнасць, было прыпісана 255 дзес. зямлі. У 1897 г. ў Палыкавіцкай вол. Магілёўскага павета, 36 двароў, 255 жыхароў, меліся школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 52 двары, 280 жыхароў. Непадалёку была сядзіба, 1 двор, 3 жыхары. У 1910 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. быў 61 вучань. З 20.8.1924 г. ў Каменналаўскім с/с Шклоўскага р-на. У 1926 г. створана садова-агародніцкае т-ва (6 гаспадарак). У студз. 1928 г. пачала дзейнічаць група беднаты, у якую ўвайшлі 54 вяскоўцы. У маі 1933 г. арганізаваны калгас «Шлях Саветаў», які ў 1934 г. аб'ядноўваў 49 гаспадарак і абслугоўваўся Шклоўскай МТС. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1939 г. 82 двары, 443 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 16 двароў. У 1990 г. 77 гаспадарак, 156 жыхароў, у складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Дабрэйка). Размяшчаліся вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы. У 1997 г. 68 гаспадарак, 136 жыхароў. У 2008 г. вёска ў складзе СВК «Вадвянскае». Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных у цэнтры шыротнай прамалінейнай вуліцай. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд гасп. сектар.



*А.С.Мілюцін.*

**ЦВЫРКАВА** — вёска ў Каменналаўскім с/с, за 20 км на Пд ад Шклова, 28 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Лотва на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны. На Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Шклоў. 40 гаспадарак, 70 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 17 ст. У 1669 г. ў ВКЛ, с. Цвіркаў, уласнасць Кіева-Пячэрскага манастыра. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. ў Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. с. Свіркава, 28 двароў, 176 жыхароў, у складзе маёнтка Барсукі, мелася царква. У 1857 г. ў Магілёўскім павеце, дзярж. ўласнасць. У 1880 г. 26 двароў, 142 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася нарых-

тоўкай лясных матэрыялаў для вырабаў з дрэва. У 1897 г. ў Таўпечыцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 30 двароў, 202 жыхары. Меліся кузня, школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 35 двароў, 227 жыхароў. У 1923 г. адкрыта школа, у якой у 1925 г. было 37, у 1941 г. — 70 вучняў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Сцяг». У 1935 г. для школы пабудавана новае памяшканне. У 1939 г. 84 двары, 497 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Восенню 1941 г. вяскоўцы ўбралі калгасны ўраджай, падзялілі яго, а 2 т збожжа пераправілі да партызан. Вёска знаходзілася ў зоне дзеяння парт.-камсамольскай падп. арг-цыі Старавадвянскага і Каменналаўскага сельсаветаў. У наваколлі дзейнічалі партызаны брыгады «Чэкіст». Гітлераўцы спалілі амаль палову вёскі. З 1960 г. ў Каменналаўскім с/с. У 1990 г. 90 гаспадарак, 178 жыхароў, у складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Старая Вадва). Размяшчаліся паляводчая брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, працавалі магазін і клуб. У 1997 г. 76 гаспадарак, 140 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе ТАА «Плодаагародніна». Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц амаль мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных завулкамі і забудаваных двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі. На ПдЗ гасп. сектар.

**ЦІШОЎКА** — былы пасёлак у Старасельскім с/с, за 16 км на ПнЗ ад Шклова, 56 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны. На З межаваў з лесам, на У працякала р. Варопанка (прыток р. Бярозаўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Новае Брашчына і далей па шашы Шклоў—Круглае.

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 6 двароў, 22 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі пасёлак, загубілі 2 жыхароў. Пасля вайны адбудаваны. Уваходзіў у склад калгаса «Маяк» (цэнтр — в. Вялікае Уланава). Традыц. сял. сядзібы былі пастаўлены з паўн. боку кароткай вуліцы шыротнай арыентацыі. У 1990 г. 2 гаспадаркі, 4 жыхары. З 1990-х г. не існуе.

**ЧАРАПЫ** — вёска ў Фашчаўскім с/с, за 31 км на ПдУ ад Шклова, 42 км ад Магілёва, 33 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны. На З пачынаецца р. Арціслаўка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 49 гаспадарак, 62 жыхары (2007).

У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца пад 1604 г. як сяло (50 двароў) у Даманоўскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1635 г. 66 двароў. У 1-й пал. 17 ст. да сяла было прыпісана 46 валок ворнай зямлі. Сяляне плацілі чынш. Пераважная частка зямлі знаходзілася ў мясц. шляхты. У 1785 г. ў складзе маёнтка Плешчыцы Магілёўскага павета Магілёўскага намесніцтва, 58 двароў, 358 жыхароў, уласнасць памешчыка. У канцы 18 ст. сяло ва ўладанні графа П.Завадоўскага, налічвала 40 двароў, 342 жыхары. У 1858 г. ў Магілёўскім павеце, 32 двары, 171 жыхар. У 1897 г. ў Нічыпаравіцкай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ. Меўся хлебазапасны магазін. У 1909 г. 46 двароў, 355 жыхароў. У 1911 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. З крас. 1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Нічыпаравіцкім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі, з 2.3.1931 г. ў Шклоўскім р-не. У 1934 г. арганізаваны калгас «Перамога». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1939 г. калгас аб'ядноўваў 78 гаспадарак. У 1940 г. 142 двары, 684 жыхары, дзейнічалі ветраны млын, сярэдняя школа (431 вучань, 20 настаўнікаў). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1952 г. ў Фашчаўскім с/с. У 1990 г. 85 гаспадарак, 179



жыхароў, у складзе саўгаса — эксперыментальнай базы «Спартак» (цэнтр — в. Фашчаўка). Размяшчаліся вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы, дзейнічалі пач. школа, клуб, магазін. У 1997 г. 78 гаспадарак, 128 жыхароў. У 2007 г. вёска ў складзе РУСП «Эксперыментальная база «Спартак». Планіровачна складаецца з 5 кароткіх прамалінейных вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных з Пд працяглай прамалінейнай вуліцай шыротнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд гасп. сектар.

Радзіма нар. артыста Беларусі В.П. Раінчыка (нар. ў 1950).

**ЧАРНАРУЧЧА** — вёска, цэнтр Чарнаруцкага с/с, за 21 км на З ад Шклова, 53 км ад Магілёва, 23 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Вёску перасякае Чорны ручай (прыток р. Чарнаводка). У цэнтры штучная сажалка. Транспартныя сувязі па шашы Шклоў—Чарнаручча, якая праходзіць праз вёску. 117 гаспадарак, 270 жыхароў (2007).

За 0,3 км на Пн ад вёскі, на марэнным узвышшы, захавалася стараж. гарадзішча. За 0,3 км на У ад будынка выканкома сельсавета захаваўся стараж. курганны могільнік. Гэтыя помнікі археалогіі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст., калі тут былі 2 пасяленні: Чарнаручча Старое і Чарнаручча Новае, цэнтр войтаўства Шклоўскага графства Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1695 г. ў Чарнаруччы Старым было 13 двароў, у Чарнаруччы Новым — 2 двары. У 1737 г. дзейнічала драўляная царква. У 1771 г. Чарнаручча Старое налічвала 23 двары, 144 жыхары, Чарнаручча Новае — 8 двароў, 44 жыхары. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, у Магілёўскім павеце Магілёўскай губ., меўся драўляны млын, належала С.Г.Зорычу і С.Ф.Герасімаву. З 1796 г. ў Беларускай губ. Магілёўскага намесніцтва, з 1801 г. ў Магілёўскай губ. Бел. генерал-губернатарства, з 1861 г. цэнтр воласці Магілёўскага павета Магілёўскай губ. У 1798 г. пабудавана новая драўляная царква. Сяляне па рэформе 1861 г. ўносілі вял. выкупныя плацяжы. Многія арандавалі зямлю ў памешчыка. У 1864 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1889 г. займаліся 32 хлопчыкі, у 1907 г. — 64 хлопчыкі і 10 дзяўчынак, утрымлівалася на сродкі вяскоўцаў. У 1897 г. збудавана школьнае памяшканне. У 1872 г. значная частка вясковых зямель (2020 дзес.), вадзяны млын, карчма, вял. сад належалі адстаўному ген.-лейтэнанту А.Ігнацыусу. З 1880 г. працавала бальніца. У 1886 г. дзейнічалі 2 царк.-прыходскія школы. У 1892 г. збудавана вінакурня (10 рабочых), дзе ў 1895 г. была пастаўлена паравая машына. У 1897 г. с. Чарнаручча (яно ж Навасёлкі), 40 двароў, 254 жыхары. Меліся лячэбніца (адкрыта не пазней 1880), магазін, заезны дом, 2 царквы. Непадалёку быў фальварак (64 жыхары, вінакурня, млын). У 1909 г. ў вёсцы 37 двароў, 246 жыхароў, у маёнтку — 27 жыхароў. Пад уплывам прапаганды салдат-франтавікоў у кастр. 1917 г. вяскоўцы разграмілі маёнтак, падзялілі паміж сабой памешчыцкую зямлю. У 1918 г. аднавіў сваю дзейнасць спажывецкі кааператыў, засн. ў 1915 г., у які ў 1924 г. ўваходзіла 1/3 жыхароў вёскі. З 26.4.1919 г. ў Магілёўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. 29.9.1923 г. створана меліярацыйнае т-ва «Прагрэс». У студз. 1924 г. арганізаваны парт. і камсамольская ячэйкі. З 3.3.1924 г. ў складзе БССР, з 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Шклоўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930). 14.10.1924 г. адбылася выстаўка дасягненняў сельскай гаспадаркі. На базе дарэв. была створана прац. школа 1-й ступені, якую наведвалі дзеці з вёсак Чарнаручча, Клімавічы, Чырвоная Горка, пас. Чысцік і бліжэйшых хутароў. Дзейнічалі клуб, хата-чытальня. 4.12.1924 г. створана садова-агародніцкае т-ва «Адраджэнне». У гэтым жа годзе пачало дзейнічаць меліярацыйнае т-ва. У 1925 г. 54 двары, 274 жыхары. З 1928 г. дзейнічала масларобнае прадпрыемства. 30.2.1930 г. арга-



*В.П.Раінчык.*





нізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік». Ворагі калгаснага ладу забілі ў 1932 г. першага старшыню калгаса Цодава. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1939 г. ў вёсцы 308 жыхароў. У 1941 г. калгас аб'ядноўваў 63 гаспадаркі, меў 393 га ворнай зямлі, 160 га лугоў, 54 кані, 63 каровы, 27 свіней, 58 авечак, 18 пчаліных сем'яў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 14 двароў. Вызвалена 27.6.1944 г. воінамі 70-й стралк. дывізіі 2-га Бел. фронту. Ад калгаснага статка ацалела толькі 11 коней. У 1974 г. працавалі лесапілка, 8-гадовая школа, клуб, б-ка, бальніца, ветэрынарны ўчастак, аддз. сувязі, 2 магазіны. У 1990 г. 102 гаспадаркі, 224 жыхары, у складзе калгаса імя Свярдлова (цэнтр — в. Клімавічы). Размяшчаліся вытв. брыгада, піларама, ферма буйной рагатай жывёлы, ветэрынарны ўчастак, філіял Шклоўскай раённай б-кі, бальніца, клуб, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, магазін, стацыянарная кінаўстаноўка, сярэдняя школа са спарт. комплексам. У 2003 г. 117 гаспадарак, 279 жыхароў. У 2007 г. ў складзе ЗАТ «Палыкавіцкае», вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад — сярэдняя агульнаадукац. школа, бальніца сястрынскага догляду, урачэбная амбулаторыя, аптэка, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1981 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачна складаецца з 2 амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ, злучаных пад прамым вуглом працяглай, плаўна выгнутай вуліцай. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На перакрыжаванні асн. вуліц утвораны культ.-быт. цэнтр. На У новая вуліца забудоўваецца сучаснымі мураванымі дамамі тыпу катэджаў. На З, за ракой, — адасоблены ўчастак забудовы і гасп. сектар.

У Чарнаруцкі с/с уваходзяць 11 вёсак.

**ЧЫРВОНАЕ** — былая вёска ў Рыжкавіцкім с/с, за 7 км на З ад Шклова, 47 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны. На З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Круглае.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. дзейнічаў млын. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990-я г. ў складзе калгаса «Праўда» (цэнтр — в. Зароўцы), 8 гаспадарак, 20 жыхароў. Планіровачна складалася з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЧЫРЧЫНА** — вёска ў Старасельскім с/с, за 16 км на ПнЗ ад Шклова, 56 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Шклоў на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На З і Пн цячэ р. Варопанка (прыток р. Бярозаўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Новае Брашчына і далей па шашы Шклоў—Круглае. 30 гаспадарак, 60 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 17 ст. як вёскі Стары Чырчын і Новы Чырчын, цэнтр войтаўства Шклоўскага графства Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1695 г. 3 двары, у 1771 г. 8 двароў, 47 жыхароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1777 г. с. Чырчын у Копыскай акрузе Магілёў-



*Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў у в. Чырчына.*

